## Ад укладальніка

*Другі выпускі «Дзённікаў і запісаў (1970–1978)» народнага паэта Беларусі ўвабраў у сябе няпоўнае дзесяцігоддзе 70-х XX стагоддзя. Гады неўпрыкмет пасталелай маладосці з яе гарачымі жаданнямі, прагай новых уражанняў і сустрэч, душэўных зрываў і напружанай творчай працы.*

*1971 год прынёс паэту найвялікшую страту — у іншы свет адышла мама, самы родны чалавек ў яго жыцці.*

*У гэты час былі напісаны значныя паэмы «Бяроза з лістам гаварыла...», прысвечаная памяці мамы, «Балада Брэсцкай крэпасці», «Смаргонская акадэмія»; выдадзены паэтычныя кнігі «Рум» (1974), «Свята пчалы: Выбранае» (1975), «Абсяг» (1978); альбом шаржаў і эпіграм «Няўрокам кажучы» (з М. Лісоўскім; 1971), зборнікі гумару «Журавінка» (1973) і «Прынамсі» (1977); кнігі выдатных перакладаў паэзіі Ф. Гарсія Лоркі «Блакітны звон Гранады» (1975) і С. Ясеніна «Выбранае» (з А. Куляшовым; 1976); тры кніжкі вершаў для дзяцей.*

*У 1976 годзе за паэму «Балада Брэсцкай крэпасці» паэт быў уганараваны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі, а за зборнік «Рум» і пераклад Ф. Гарсія Лоркі — Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.*

*У паэта склаліся паважлівыя сяброўскія адносіны і творчыя стасункі са старэйшынамі беларускай літаратуры А. Куляшовым, П. Броўкам, П. Панчанкам, А. Вялюгіным. Не адважуся пералічыць шматлікіх сяброў і блізкіх знаёмых яго пакалення не толькі ў Беларусі, але і ў многіх рэспубліках Савецкага Саюза — Літве, Латвіі, Украіне, Расіі.*

*У 1977 годзе паэт пабываў у адзінай, але вельмі змястоўнай замежнай паездцы ў Фінляндыю, Швецыю і Данію.*

*Нават беглы, няпоўны пералік паездзінаў па Беларусі і ўсёй бязмежнай краіне проста ўражвае і гучыць як своеасаблівая паэма: Ленінград (1971), Кіеў, Канеў (1973), Пенза, Тарханы, Ашхабад, Чарджоў, Генч, Хіва (1974), Вільнюс, Клін, Калінін, Вышні Валачок, Ноўгарад, Старая Руса, Краснаярск, Мінусінск, Дзіўнагорск, Баку, Ерэван (1975), Ташкент, Калінін, Таржок, Масква, Чэбаксары, Ядрын (1976), Алма-Ата, Калінінград, Балтыйск, Рыга, Нальчык, Чэгем (1977), Каўнас, Іжэўск, Глазаў, Растоў Вялікі, Яраслаўль, Карабіха, Херсон, Асканія-Нова, Скадоўск, Голая прыстань (1978)...*

*І за кожнай з гэтых паездак — безліч цікавых назіранняў, гістарычных звестак, новыя знаёмствы, вершы і пераклады будучых зборнікаў і публікацый.*

*Як і першы выпуск, кнігу дапоўнілі вершы, якія аўтар не ўключаў у свае зборнікі, сяброўскія эпіграмы, дарчыя вершаваныя надпісы на кнігах, а таксама асобныя вершы, прысвечаныя яму самому — паэту і сябру, фатаграфіі, малюнкі сяброў і новых знаёмцаў.*

*Дадатковыя запісы, якія маюць дакладную дату, пазначаны адной зорачкай, а запісы пад трыма зоркамі адносятся да канкрэтнага года, але размешчаны па месяцах больш адвольна. У квадратовых дужкаў — паясняльныя словы, а часам пытальнік, калі няма ўпэўненасці ў расшыфроўцы слова. Курсівам выдзелены падкрэсленыя аўтарам словы, назвы гарадоў і населеных пунктаў, якія наведаў паэт, занатаваныя рыфмы ці асобныя паэтычныя радкі.*

*Запісы ў рабочых штодзённіках і блакнотах захоўваюць у сабе самыя разнастайныя матэрыялы, якія паўней раскрываюць творчую асобу мастака, больш яскрава абмалёўваюць яго постаць, час, асяроддзе і абставіны асабістага жыцця.*

*Праца над новымі выпускамі дзённікаў працягваецца.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1970

*1 студзеня*

Дзень добры, 70!

Пачаўся Новы з доўгіх свят, у тым багата было іх і ў гэтым, відаць, будзе не меней.

Сустрэча ў «Мінску». Кіся[1] з маці прыходзілі. Ёлка ў СП. І нарэшце белая цішыня Каралішчавіч![2] У сталоўцы недараслі ўяўных класікаў. Перакормленыя, нахабныя. [...] Але затое мяккі, ціхі снег на ялінах. Ранішняя цнатлівасць заспанага, праўда, электрыфікаванага ляска. Чытаю «Саламіну», раблю на хапку такія-сякія польскія пераклады.

*4 студзеня*

Па дарозе на Сініло сустрэў старога паляўнічага. Пакрыўджаны жонкай. Пад старасць не ладзіцца жыццё. Не падабаецца эмансіпацыя. Закончыў міжнародным заключэннем — на свеце неціхоцце, а тут што ў сем'ях робіцца? Да жонкі хадзіў хахаль-п'яніца — *заліцька.*

Званіў Валі[3]. Прыйшлі-такі грошы з Масквы.

Абсечаныя яліны — поруч слупы. Электрыка. Адна яліна абнесена, і мармуровая плітачка: «Тут любіў адпачываць народны пісьменнік БССР Я. Колас[4]». Слупкі з ланцугамі. Яліна абсечана.

Якраз славутая знойдзена ўкраінцамі шахта[5].

---

[1] Журовіч Уладзімір, беларускі музыкант, кампазітар.

[2] Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў. Гл.: У лесе ёсць Дом творчасці // Журавінка. Мінск. 1973. С. 104.

[3] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), жонка Р. Барадуліна. Філолаг. У рабочым нататніку ёй прысвечаны верш; гл.: «На досвітку абрацы...» (28.09.76) // Абсяг. Мінск, 1978. С. 189.

[4] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928), віцэ-прэзідэнт АН БССР (з 1929). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[5] Наноў удакладненыя звесткі пра шурф шахты № 5, у які ў 1943 г. былі скінуты закатаваныя фашыстамі ўдзельнікі падпольнай камсамольскай арганізацыі «Маладая гвардыя» г. Краснадона (Украіна).

*5 студзеня*

Ножкамі да скрыжавання. У Мінску. Іван Цярэнцевіч[1] пожаловали. На працу. Дома Чыгірыні[2], Ваня. Ваня ў люлю. Правёў Чыгірыні. Дужа ён сябе любіць, цэніць і паважае. Рэдкі гэта дар.

Прыслалі з Масквы падкрапленне [ганарар].

*6 студзеня*

Маму[3] ў клініку. Васіль Зуй[4] прыехаў паглядзець на паўпрэда беларусаў у сталіцы ўсіх сталіц. Ваня [Бурсаў] зноў у люлю. Апоўдні знік. Вечарам каляда. З Зайцам[5] схадзілі ў «Мутнае вока»[6].

*7 студзеня*

Раніцай, як некалі дома, пражонка, бліны. Сапраўдны першы дзень Каляд. Мілы, амаль забыты ў паўсядзённай мітусні. Добра так, што мама за сталом. Праўда, не з печкі ўсё смакаццё едзе, а з газавай пліткі. Але ўсё роўна — свята.

Пазваніў Валодзю[7]. Каля «Космаса» хапілі таксі. Таксіст помніць добра дзядзьку Якуба [Коласа], свайго цёзку. Садзіць яму садок памагаў каля дома (цяпер музея).

Фама[8] пасля кожнай чарачкі ўсё больш і больш расчульваўся, аж пакуль у люлю не бухнуў. Вячэру прынёс яму, ледзь разбудзіў.

---

[1] Бурсаў Іван Цяренцьевіч (н. 1927), рускі паэт, перакладчык; ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыве ў Маскве. Гл.: Іван Бурсаў // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа] Радыё Свабода. 2004. С. 126.

[2] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік Рэспублікі Беларусь (1994). У 1965–1975 гг. рэдактар аддзела публіцыстыкі і нарыса час. «Полымя». З 1975 г. нам. старшыні, а ў 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

[3] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971).

[4] Зуёнак Васіль Васілевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1966–1972 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць», у 1972–1978 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка», у 1978–1982 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982). У рабочым нататніку яму прысвечаны верш, гл.: Возера ля небасхілу (1.09.76) // Абсяг. С. 248; На прыёме ў Славы (6.12.76) // Прынамсі. Мінск, 1977. С. 188.

[5] Заяц, Зайчык, Зая — хатняя мянушка жонкі.

[6] Так паміж сабой называлі кафэ Дома работнікаў мастацтва.

[7] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1984, пасмяротна). Гл.: І коскі з месца не зрушу!.. // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 178.

[8] Нейкі час У. Караткевічу дакучалі па тэлефоне званкамі былому гаспадару кватэры Фаме Фамічу, адсюль і мянушка.

Прыйшоў Язэп Ігнатавіч[1]. Доўгая размова. Як старая какетка, страшна задаволены, калі яму кажаш, што молада выглядае. Пахадзілі па лесе.

*** Плантатор Фóма из штата Оклахома.

* * *

Над чаркай мы не раз рыдалі,
Аж ля пупоў завіўся здор.
Мы рухнем шчыльнымі радамі
На родны вольны наш прастор.

*[60–70-я]*

*8 студзеня*

Сняданне праспалі. Фама [Караткевіч] пасля абеду зрабіў круіз вакол Апчака, да Сосен. Прыпёр гáры. Для мяне нават дастаў пляшку «Пліскі». Як бронзавы манумент, які толькі што ажыў, праходжваўся па сцяжынцы да сталовай — Ніл[2]. Выгляд такі, што не Кірыл і Мяфодзій[3] вынайшлі ўсё, а менавіта ён. На твары такая задаволенасць, душэўная радасць [...].

Канчаю перакладаць Абая Кунанбаева[4]. На двары такая ласкавая мяцеліца, проста не хочацца сядзець у пакоі. Гарыць ліхтар.

Мяккія цені падаюць ціха —
Белыя вырai соннага снегу.

У такой спаконвечнай, белай, мяккай цішы хочацца маўчаць, хочацца хоць трошкі адпачыць ад мітусні, ад штурхатні рэдакцый, выдавецтва, Саюза пісьменнікаў, які лепей і дакладней было б назваць сабакарняй ці як інакш. Нашы сакратары, якія білі сябе кулакамі ў грудзі, што ім баліць за некага, на справе аказаліся прагаладанымі парсюкамі. Дарваліся да карыта. Мешанкі многа. Еш да адвалу. Ядуць, ядуць, а тут маразок прыціснуў. Вушы да мешанкі прымёрзлі. Задыхаюцца — лыч не хочацца

---

[1] Семяжон Язэп (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч; 1914–1990), беларускі перакладчык. У 1961–1975 гг. выкладчык замежных моў у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна (далей БДУ).

[2] Гілевіч Ніл Сымонавіч (н. 1931), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. У 1960–1986 гг. супрацоўнік кафедры беларускай літаратуры БДУ. Народны паэт БССР (1991). Кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

[3] Кірыл (свецкае Канстанцін; каля 826 ці 827 — 869) і Мяфодзій (Методзій; каля 815 — 885), браты; славянскія асветнікі, стваральнікі славянскай азбукі, прапаведнікі хрысціянства. Першыя перакладчыкі богаслужбовых кніг з грэчаскай на славянскую мову.

[4] Абай Кунанбаеў (1845–1904), казахскі паэт-асветнік.

выцягваць, вушы выцягнуць — баляць. Праўда, сорамна пра свіней успамінаць у белы снег.

Такой парой заўсёды міжволі пераношуся ў задуху паўднёвых рэспублік.

Пяюць на сэрцы салаўі,
А ты ў шашлычным роздуму
Сядзі,
як раіў Наваі[1],
За хмельным кубкам роздуму.

*9 студзеня*

Засумаваў Фама [Караткевіч] па хаце ці па Валі[2]. Не дачакаўся машыны. Праводзіў яго да дарогі. Такі халодны свет, снег белай жарствой проста выпальвае сонцу вочы. Сонца халоднае.

Вечарам фукнула святло. Наколькі нават гэтая колішняя паляўнічая дача Наталевіча[3] звязана з так званым прагрэсам. Лямп няма. Ледзьледзь адну знайшлі. Успомнілася, як стаяць яны зараз, разам з ліхтарамі, нават у раённых цэнтрах, як непатрэбныя рэліквіі. Цемра.

* * *

Спакойны шэпат хвой.
Зацішлівы куток.
З вадою дажджавой
Ласіны капыток.

Прыходзілі ласі,
Пыталі ў лесніка:
— Ці з намі аддасі
Ты пагуляць сынка?

З ласямі пан ляснік
Не адпусціў сынка.
«Куды лясунчык знік?» —
Пытае асака…

*1970 (занатавана наноў 5 чэрвеня 1994)*

---

[1] Наваі (сапр. Алішэр Наваі Нізамаддзін Мір Алішэр; 1441–1501), узбекскі паэт, празаік, філосаф, вучоны, дзяржаўны дзеяч.

[2] Караткевіч (Нікіціна, урodж. Ваткевіч) Валянціна Браніславаўна (1934–1983), беларускі археолаг, гісторык. Жонка У. Караткевіча. У 1969–1983 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Кандыдат гістарычных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990, пасмяротна).

[3] Наталевіч Нічыпар Якаўлевіч (1900–1964), беларускі дзяржаўны дзеяч.

*23 студзеня*

Вылет з Мінску. У цемры маторы, імжа. Нібы прарываем блакаду. Прыпынак таксі. Зялёныя сузор'і агенчыкаў. «Выбаргская старана». Нібы кадры з фільма.

*[Ленінград.]* Пошукі гасцініцы. Ваенна-марская акадэмія. Нарэшце вайсковая гасцініца. Ноччу прыходзіць капітан. Выпіў. Размова пра дзвюх дзяўчат. За першы дзень (сам жахаецца) прасадзіў 40 рублёў. У глушы жыве. Надакучыла, як мядзведзю. Дамоў трэба прывезці каўбасы (недзе пад Калінінам). Грошы канчаюцца. Пазычыць у прыяцеля — каўбасы прывязе.

*24 студзеня*

Пошукі гасцініцы. На адной са сцен надпіс у напамінак аб 900-сутачнай блакадзе. «Товарищи, при артобстреле эта сторона наиболее опасна». Зімовы, суровы, велічны. З уласнай годнасцю. Александрыйскі стоўп халодны ад шэрані. На Неўскім. Фотадакументы. Кіраўнікі партыі. Партрэт І. В. Сталіна[1]. Пажылая жанчына падышла, гладзіць, гладзіць, потым цалуе. Мужчына робіць заўвагу. Спрэчка.

Выступленне на тэле. Сумнавата. Але нічога. Мы з Барысам[2] пад канец — лягчэй, ведаеш, у колькі хвілін укласціся. Пасля выступлення правадзілі дадому Аляксандра Пракоф'ева[3]. Жывая разваліна, труп. У водбліску неону — нос шызы з зялёным адценнем. Губа на жываце. Перадаваў некалькі разоў прывітанне Нілу [Гілевічу] і Дуні[4]. Перад пад'ездам заплакаў: «Не могу домой пригласить, жена больная...» Ніхто не прасіў запрашаць, навошта плакаць. На сцяне з аднаго боку шыльды памёршым класікам і з другога боку. У цэнтры вольнае месца — яго. Страшна, калі паэт перажыве сябе, свой час. Які Барыс Карнілаў[5] у параўнанні з ім малады!

Помнік Екацярыне[6]. Пад небасхілам спадніц імператрыцы ўсё прыдворнае сузор'е. У гэты небасхіл яны імкнуліся. Гэтага небасхілу хапіла, каб акрыць іх, іхнюю славу.

---

[1] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[2] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак. З 1980 г. жыве ў Францыі. Гл.: Як у п'янку, уцягваешся ў Парыж... // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 223.

[3] Пракоф'еў Аляксандр Андрэевіч (1900–1971), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Ленінскай прэміі (1961).

[4] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік. У 1970–1972 гг. адказны сакратар час. «Работніца і сялянка» , у 1975–1977 гг. гал. рэдактар час. «Вясёлка».

[5] Карнілаў Барыс Пятровіч (1907–1938), рускі паэт. Рэпрэсаваны.

[6] Кацярына II Аляксееўна (1729–1796), расійская імператрыца (з 1762). Помнік работы рускага скульптара Э. О. Мікешына (1835–1896).

Барыс пакрыўдзіўся за крытыку таго дурацкага афармлення Цэнтральнай плошчы ў 1969 годзе. «У *Вашай* рэспубліцы такога не будзе». А дзе ж Ваша рэспубліка? Тут нарадзіўся, тут ясі хлеб, тут няблага плацяць за не дужа арыгінальную канцэпцыю. Новае пакаленне, пакаленне беларускіх яўрэяў, гэта не Бядуля[1], не Грынблат[2], ім не трэба Радзімы, зямлі — інтэрнацыяналісты. Проста людзі для іх — арнаментальны матэрыял.

*25 студзеня*

Раніцай у нашым пакоі — 4 чалавекі. Адзін з Уладзівастока. Білетаў на Мінск няма. Авія — а вы як сабе хочаце. Цягнік праз суткі — і то 20 гадзін езданіны. Праходачка па Неўскаму. [...] Аэрапорт. Бедны Павел Сямёнавіч, з 5-ці да 10-ці пратарчэлі на аэравакзале — адклалі вылет. Цікавыя твары. Народы Поўначы. Вочы, як сонца, што за сопку хаваецца, твар, як сонца, такі твар, відаць, здорава глядзіцца на снезе. Шмат азербайджанцаў, грузін.

Прыйшоў у галаву дурацкі сюжэт. Азербайджанец хоча ў блакіраваны Ленінград правезці некалькі скрынак гранатаў. Ладага, абстрэл. Лёд трэскаецца, азербайджанец тоне. Плаваюць гранаты. Ён стараецца іх не ўпусціць. Ідзе на дно. Гадзін 7 пачакаўшы — не такое вар'яцтва ў галаву залезе!

Вячэраў (першы раз за ўсе дні) у Паўночнай Пальміры, у адміралцейскім рэстаране. Дзяўчаты-афіцыянткі ў матроскай форме. Раскормленыя зады, грудзі выпіраюць, як пераспелыя гарбузы.

Партовыя шхуны. Легенды аб самым гасцінным горадзе ў свеце — легенды. Мэтарша стаяла над галавой, каб хутчэй апраналіся. Нейкая курачка з капітан-лейтэнантам дужа правінцыяльна фліртавала.

У пакоі марыйскі мастак. Цікавыя факты пра свой народ расказваў. Раіў прачытаць кніжку пра нацыянальнага героя Акпарса[3] (Грозны[4] сказаў пра яго храбрасць: «Аки барс»). У першай бойцы Грозны пацярпеў ад марыйцаў. Эшпай — сын марыйскага кампазітара[5], прозвішча марыйскае. 500 тысяч марыйцаў, а сатырычны часопіс 50 тыс. экз. Няблага!

---

[1] Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941), беларускі пісьменнік.

[2] Грынблат Майсей Якаўлевіч (1905–1983), беларускі фальклараст, этнограф, гісторык. Супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986, пасмяротна).

[3] Акпарс — соценны князь горных марыйцаў, лідар прыхільнікаў добраахвотнага далучэння да Рускай дзяржавы (XVI ст.).

[4] Іван IV Васільевіч Грозны (1530–1584), вялікі князь «усяе Русі» (з 1533), першы рускі цар (з 1547).

[5] Эшпай Андрэй Якаўлевіч (н. 1925), расійскі кампазітар. Народны артыст РСФСР (1975).

Ён ездзіў па Поўначы. Ханты прадаюць рыбу па рублю за штуку. Велічыня не важна, любую рыбіну трэба было выцягваць. Значыць, і цана роўная, аднолькавая.

*26 студзеня*

Раніцай ён [Эшпай] мне падарыў нацыянальныя лапцікі. Я — кніжку для дачкі. Забораў не начаваў. Шчупак той у вадзе. Родны горад студэнцкіх год!

У жыцці, як у камандзіроўцы (ці наадварот). Спачатку таксі, усе ласкавыя, харошыя. Пасля капейкі. Пяшэчкам.

Шыльды. Спакой горада, які ведае сабе цану. Старыя з асанкай Анны Ахматавай[1]. Пушкінскім[2] чаканным радком тут гісторыя ўся прыкута. Прадаецца віно ў разліў. Аптэка. *Апурх Пецярбург.* «Інстытут абароны раслін» (абароны ад чалавека). Камісійны магазін. Барыс хацеў купіць старыя рамы. […]

Піўны бар. Даволі цікавая публіка. Паўночныя зноў твары. Антыкварны магазін. Рэшткі старога Піцера. Скупляюць усё азіяты, каўказцы, іншакраінцы.

Чалавек — гучыць горда. Самыя залатыя запасы — людзі. У магазіне «Beriozka» усё за золата. Золата ў імя золата. Дзе ж канцы тады знайсці?

Адзін мастак, Васіль (на цаліне доўга быў, зараз вярнуўся), папракае горад у яго кансерватыўнасці, у яго закасцянеласці. Відаць, у гэтым ёсць свая праўда. Кансерватызм вядзе да рэакцыйнасці, а ў дадатак пыха — Паўночная Пальміра. Укрощение стриптиза.

Трэба тэрмінова здаць у выдавецтва Абая Кунанбаева. Затрымліваюся. Трэба не падвесці Льва Салаўя![3]

Вячэра ў рэстаране «Каўказскі». Сумна. Болей адзін без Валі нікуды не паеду. Ці я скора памру, ці старэю, ці душа навандравалася — дадому цягне, да Валі, да маёй самай чыстай, як вясновая крынічка на Ушаччыне, да маёй добрай і разумнай. Як там мама? Хворую пакінуў — грып. Каб, не дай бог, вынікаў благіх не даў. І Чык[4] нездарова. Хутчэй да іх, да родных, да блізкіх.

---

[1] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.

[2] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.

[3] Салавей Леў Антонавіч (1925–1988), беларускі перакладчык, крытык. У 1968–1972 гг. заг. рэдакцыі перавыданняў і перакладаў выд-ва «Беларусь», у 1972–1983 гг. заг. рэдакцыі перакладной літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), дачка; мастачка. Чык, Лось, Лосік, Лосінька, Ласятка — яе хатнія мянушкі.

*27 студзеня*

Марыйскі Куінджы не начаваў. Барыс, відаць, не дазваніўся да курачкі, што пакінула яму запіску.

Вакзал. Дасталі нарэшце білеты. Ледзь наскублі. Барыс выпадкова сустрэў друга. Заўтра ў Маскву.

Да «Меднага конніка» Фальканэ[1]. А Бярозкін[2] на Канэ[3]. Біржа. Вячэра ў мастакоў. На англійскай парцаляне — скумбрыя, бульба. Дзень, калі вырвалася блакада. Выезд у ноч прарыву блакады.

*28 студзеня*

*Масква.* Бліёх[4].

Он устал от женщин и соборов,
Ленинград растаял в синеве.
Без гроша сидит Борис Заборов
С маленьким Шагалом[5] в голове.

*30 красавіка*

Львоў. Лучук[6]. *Катакомбы*. Студня (перадалі звесткі ў вядры). Загінуў партызан Іван Іванавіч Іваноў. Камандзір пакляўся: «Хто пасля вайны застанецца жывы — пахавайце пад сонцам»[7].

Ты павінен прайсці ўсе свае вуліцы, усе праспекты на планеце. Пабываць на заводах і фабрыках, калгасах і саўгасах. Таму ты бессмяротны, Уладзімір Ільіч Ленін![8]

*[Кіеў.]* Лаўра. Хто праходзіў у вароты — палова грахоў [адпускалася]. Рэшту — [адпусцяць] манахі. Язык да Кіева дапытае — слава Лаўры далёка ішла. Салаўі над Дняпром. Манахі прадавалі мошчы. І Х ст. мала [было мошчаў]. Рабілі самі — косці ўперамешку з пяском. І атрымліваліся мошчы.

---

[1] Фальканэ Эцьен Марыс (1716–1790), французскі скульптар. У 1766–1778 гг. працаваў у Расіі. Аўтар помніка Пятру І («Медны коннік»).

[2] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны. У 1970–1975 гг. літсупрацоўнік бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Гл.: А пісаць Грыша ўмее... // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 152.

[3] Канэ Юлія Міхайлаўна (н. 1931), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Жонка Р. Бярозкіна. З 1992 г. жыве ў Ізраілі.

[4] Бліёх Ігар Ільіч (н. 1934), рускі мастак; сябра Б. Заборава.

[5] Шагал Марк (1887–1985), беларускі і французскі мастак і графік. Ураджэнец Беларусі.

[6] Лучук Уладзімір Іванавіч (1934–1994), украінскі паэт, перакладчык (г. Львоў). Гл.: Паэма прызнання: Надпіс на кнізе [1973] // Рум. Мінск, 1974.

[7] Гл.: Адэскія катакомбы [1973] // Тамсама. С. 175.

[8] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі (бальшавікоў) і Савецкай дзяржавы.

Здзекваўся над сабой Іаан Шматпакутны. Не ўвесь за [абарваны сказ]. Тады сказалі, што не ўсе грахі Бог адпусціў. 12 грабяжоў [?] за 12 дзён. Галоўны храм. На каленях па ступенях. Дзямідаву грахі да 7-га калена [адпусцяцца] за пліты. Пліты гладкія, як мазалі. Метро XII стагоддзя[1].

Расказваў адзін друг у суседа на залатым вяселлі. Вызвалілі Закарпацце. Трэба, каб усе падпісалі анкету з падзякай вялікаму Сталіну за вызваленне. Паслалі ўсіх як агітатараў.

Заходзяць у хаты, так, значыць, і так. У адказ: «А мы не прасілі, каб нас вызвалялі».

Тады ротны і кажа: «У нядзелю ўсе пойдуць у царкву. Паставім кулямёты». Паставілі. Ён да бацюшкі: «Пакуль не падпішуць, не пусцім у царкву і кулямётамі дадзім». Хлопцы шчыплюць вішні. За кулямётамі. Падпісалі ўсе як адзін.

Гід у *Адэсе* сярод іншых славутасцей паказвае элеватар, буйнейшы ў Еўропе (Мікітава[2] пшаніца).

*** Пралог Г. Лоркі[3]. «Мы бежалі по тундре, по безлесым просторам»[4].

---

[1] Гл.: У Кіева-Пячорскай лаўры ([1972]) // Журавінка. С. 78.1

[2] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

[3] Гарсія Лорка Федэрыка (1898–1936), іспанскі паэт і драматург. Расстраляны франкістамі.

[4] Радок з вядомай рускай турэмнай песні «Па тундры», ці «Цягнік Варкута — Ленінград», пасьлясталінскай эпохі (на мелодыю блатной песні «Дачка пракурора») аўтарства рускага паэта Грыгорыя Шурміса (1925–2007).

## 1971

*21 студзеня*
*Ушачы.*

*Частушкі для Г. Цітовіча*[1]

*

Я дзяўчына з Салігорску,
Я кахаю па-шахцёрску.
Хай не думаецца Йвану —
Пад зямлёй яго дастану.

*

А мойго ні ў якім разе
Не падымеш на БелАЗе.
Каб у загс завезці нас,
Новы вынайдуць БелАЗ!

*

Нафту я пераганяю,
Любага пераганяю.
Як мяне не перагоніць,
Цешча з-за стала прагоніць!

*

Абуваю я машыны,
Па назе машыны шыны.
А для шэйка і для полькі
Па назе мне шпількі толькі!

*

Я лаўсан даю краіне,
Будзе ўсім на максі, міні.
І, салодкагубаму,
На кашулю любаму!

---

[1] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец, этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

*

Ці сурочыў сатана —
Пакахала летуна.
Я з крутым характарам —
Прывяжу да трактара.

*

Я працую на камвольным,
Нораў мой такі няўмольны:
І цалуе, і мілуе,
Хто жаніцца дакляруе.

*

Я да хуткасці прывыкла,
Скарга ёсць на матацыклы.
Робяць маладым абразу —
Трэба з люлькаю адразу.

*

Я гадзіннікі збіраю,
Інтэрнат — не хата з краю.
Вася ходзіць кожны раз,
Каб дакладны ведаць час.

*

Дзверы я зраблю з паперы,
Каб хадзілі кавалеры.
Бацька дома не начуе,
Маці глуха — не пачуе.

*

Жыта на палях сцяной,
Ды не вырас любы мой, —
На яго я хукаю
На азотнатукавым!

*

Многа ў краі ў нас багацця —
Аж па тры нявесты ў хаце.
І з-пад кожнае страхі
Выглядаюць жаніхі.

*

Штохвіліны, штогадзіны
То вяселлі, то радзіны.
Хто ідзе, вясёла скача,
Хто бярэ, яшчэ не плача.

* * *

Поўня быстры вецер абскакала,
Поўня расплываецца ў вадзе.
Поўня разбіваецца аб скалы,
Поўня цішу за сабой вядзе.
Галасы ў вятрыскаў агрубелі,
Разбіваюць хвалі па радах.
І маўчыць над сонным Кактэбелем
Згорблены, ссвілелы Карадаг.

*[1971]*

*** Назвы вёсак: Пальчыкі, Памялкова, Бугаі, Сітнікі, Ідата, Лежні, Кру́чча, Лажа́ні.

У «Смаргонскую акадэмію»:

1) «У сераду на Масленіцу пятух яйка знёс...»

2) «Ой пайду я з тугі-гора ўтаплюся...»

Калі выхаванцаў акадэміі вядуць лесам, то іграюць у дудкі, б’юць у бубны, каб не чулі шуму лесу. Варта пачуць, як шуміць лес, адразу ўся навука забываецца, і са свайго апекуна ўмомант можа зняць скальп.

«Запіскі дзела выпускніка акадэміі (падзагаловак). Літаратурны запіс Р. Барадуліна».

Мама расказвала: Пастроіў чалавек хату. Ноччу прыходзюць, як толькі пад поўнач, у парозі раскладаюць агонь, жарацъ, параць, гуляюць. Вымушаны быў [вярнуцца] у старую пуньку.

Ішоў скамарох з мядзведзем:

— Ці можна абначаваць?

— Можна.

— А дзе твая хата?

— Ды вунь новая, але бяда такая... — І расказаў пра ўсё скамароху....

Скамарох лёг спаць у новай хаце, мядзведзя прывязаў ў дзвярах. Пад поўнач — усё, як і было. Тады мядзведзь як папеставаў гасцей начных, — [яны] проздзверы. Чалавек назаўтра і пытаецца ў скамароха, што было. Той усё і расказаў.

Прайшоў час — ідзець у шляпе, з тростачкай:

— Ці тут жывець Цімошка? — (Так звалі гаспадара.)

Дзеці адказваюць:
— Тут.
— А ці дома яго кошка? — (Чарцям мядзведзь здаўся кошкай.)
— Дома, дома і сямёра кацянят прывяла!..
Па той дзень каб хто калі ноччу прыходзіў.

* * *

Дрыжаць прапелеры кляноў,
Туга прастор акрыла.
Лістам ляцець у вырай зноў,
У вырай жаўтакрылы.

Зіма снягі з свайго каўша
Пасыпле аблюцела.
Трымціць, як ліст, мая душа,
Яшчэ не абляцела.

Плыве задума ў галаве,
Плыве, пакуль прыстане.
Хай дрэва сцюжу пражыве —
Умаіцца лістамі.

*[1971]*

Фігурнае катанне глядзяць мама, суседкі, Арына[1] дрэмле, але каменціруе. Трахім дрэмле, а пасля: «Васька[2], так тваю так, дык гэта ж хвантазія! Ты паспрабуй без канькоў зробіць, а то з канькамі!»

У лазню
1) Эпізод, як мяне мама гнала ў лазню[3];
2) Стаўкі мясцовых збораў (Бюро паслуг):
Прышыць вешалку — 9 кап.
гузік — 3 кап.
Прасаваць верхнюю кашулю — 36 кап.
пінжак — 42 кап.
штаны — 62 кап.

Як малы ішоў з піянерскага лагера: шафёр падвёз недалёка. Праз тры вёскі трэба было ісці ноччу. Спачатку на дарозе дзікі. Лёг у роў. Абчакаў. У другой вёсцы пераянялі сабакі. Ускочыў у адчыненыя сенцы. Перачакаў.

---

[1] Янушкевіч Ірына (Арына) Цярэнцьеўна, сяброўка А. А. Барадулінай.
[2] Янушкевіч Васіль, сын І. Янушкевіч.
[3] Гл.: Лазня блакаднага года ([1974]) // Свята пчалы. Мінск, 1975. С. 302.

Падышоў да сваёй хаты. Захацелася сарваць слівіну. Маці не пазнала, за граблі ды па спіне: «Дзень ірваў і зараз! Паклічу Івана (бацьку), ён табе дасць!»

Сабака не пазнаў і за яго, пакуль пазнаў яго… Хлопец у другі клас [перайшоў].

У Абхазіі двух дам, чачу і анжыку [аджыку] я люблю[1].

Цепліцца на магіле свечка. Зяззюля лічыць некаму гады. Блакітныя стрэлкі стракоз. Угары рэактыўны гул. Чмялее луг.

Ілонка:

— Што я выйграю па латарэі?

— «Волгу».

— Толькі не «Волгу» — лепей веласіпед.

Ілонка гуляе з Валяй у літары:

— Жывёліна на «п».

— Пегас!

[1] Гл.: У гонар дзвюх абхазскіх дам (14.10.76, Каралішчавічы) // Прынамсі. С. 234.

## 1972

*9 ліпеня.*

*Віцебск.* Адступалі ад Сянно. Калі пайшлі КВ[1], на 3-м танку мост трэснуў, і больш не пайшоў. 12 нашых забітых салдат, кожнаму на вочы галінку бяроз [паклалі], перад Заходняй Дзвіной на беразе з Чашніцкай СШ (а было 73), асталося 6. Хвалі [неразб. 1] берагі, лета (толькі пачалася вайна, 41 год).

*** 37-05-59 Павел Філін. Скарынкін[2] 22-000-63. Юзэфу (палкоўніку) украінскія пераклады. 33-21-82 Радзівілаў. Салаўёў Альберт Емяльянавіч (урач) 33-38-49 (хата); Валчкевіч Аляксандр Лявонавіч 44-49-28 (хата).

*Старлыбіна — шыбіна.*

Малая Валоўшчына, аўтобус № 126 (драўляная аўтастанцыя) на Ракаў, на 36-м км сходзіць Цімошак[3].

Партызан успамінае: «Смерць сустракалі штодзень, аж яна надакучыла»[4]. «Хатынь» — альбом у Лейпцыгу друкаваўся.

Бяроза з лістам гаварыла...[5]

Самы кароткі дзень, самая доўгая ноч[6].

Буслянка, перасялілі і вераб'ёў, — жылплошча ў новым раёне.

*Паслябальнічная раніца*

Салодкі дым над дахам парусеў.
Старэюць пакрысе старыя сані.
Ступае смешна кошка па расе —
Як градуснікі медсястра,
страсае.

*[1972]*

---

[1] КВ — марка танка («Клім Варашылаў»).

[2] Скарынкін Уладзімір Максімавіч (н. 1939), беларускі паэт, перакладчык. У 1970–1982 гг. начальнік аварыйна-выратавальнай службы Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі.

[3] Цімошак, рэдактар выд-ва «Беларусь».

[4] Гл.: На сустрэчы партызан (9.12.72, Куршская каса, Ніда // Рум. С. 14.

[5] Гл.: Бяроза з лістам гаварыла... [Паэма] // Тамсама. С. 111.

[6] Гл.: «Прамень...» ([1972]) // Тамсама. С. 116.

*17 верасня*

*Максіму Танку[1] да 60-годдзя*
*ад выдавецтва «Мастацкая літаратура»*

«Пад мачтай» пількаўскай гонкай сасны
Плылі Вы ў свет на агледзены.
А «Нарач» крышыла зімовыя сны,
Радок, як курок, быў узведзены.
І Вы «На этапах» суровых гадоў
У заціш ніколі не збочылі.
«Здарова, таварышы…» — родных братоў
Віталі радкамі прарочымі.
Не шкадавалі ў змаганні сіл,
«Вастрыце зброю!» — Вы клікалі.
Прайшлі «Праз вогненны небасхіл»
Шляхамі, як свет, вялікімі.
Ваш кожны радок,
як «Глыток вады»
Паэзіі роднай, волаце!
І Вашым словам звінець назаўжды
«На камне, жалезе і золаце»!

*1 снежня*

Як засялялі ўшацкі Дом саветаў. Пры ўваходзе мыюць у тазіках ногі. Кабінеты, што ў каго, нават у стоража Філімонава крэсла-кравацць. З туалетамі туга. Забіваліся часта. У прамове старшыні райвыканкама: «Купіце туалетную паперу». Дзяжурства па туалетах па мужчынскім і жаночым. Не ведаюць інструкцыю. Туалеты не падпісаны. Коршун [зайшоў] у жаночы. «А што вы тут робіце?» — «А я не знаў». «Зрабіце ім на двары на 12 ачкоў».

Пасяджэнні ў актавай зале. Больш пра туалеты. «Пыл — вылічыць плошчу і падзяліць на колькасць жанчын» (прапанова старшыні).

*22 снежня*

В большие думы погружён,
Спит по-английски Семижон.

---

[1] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). У 1971–1990 гг. старшыня праўлення СП БССР. Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

*** Да партрэта Фамы [Караткевіча] у Каралішчавічах: снег — вуголле ля прысад, аблачынка з роту з брэхам у сабак, дубовую галінку нясе, як паліцу.

Як на першы зборнік, я глядзеў на Прыходзьку[1] пасля аперацыі.

*Споведзь М. Калачынскага*[2]

Мне бабром бы разрыдацца
Над шаўнёўскім[3] допісам.
Самы тоўсты я рэдактар
Тонкага часопіса.

*

Упершыню здзівіўшы Эладу,
Стаў грозны Зевес на калена:
Трагі-эпічнага целаскладу
Філімонава-Кобец[4] Алена.

*

Сцяжынка над ракой
Пад вербамі цнатлівымі.
Рацэ блішчэць луской
Крыўдлівымі адлівамі.
А маладой касе…

*[Куршская каса, Ніда]*

*

Згарэла восень датла,
Плыве маладая поўніца.

---

[1] Прыходзька Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1920–2006), беларускі паэт. У 1972–1979 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1985). Гл.: Перакананне Пятра Прыходзькі (1974) // Прынамсі. С. 183.

[2] Калачынскі Міхась (Міхаіл Іванавіч; 1917–1990), беларускі паэт. У 1960–1978 гг. гал. рэдактар час. «Беларусь». Заслужаны работнік культуры БССР (1974).

[3] Шаўня Анатоль Аляксандравіч (н. 1930), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1959–1981 гг. літсупрацоўнік, пасля рэдактар грамадска-палітычнага аддзела час. «Беларусь».

[4] Кобец-Філімонава Алена Рыгораўна (1932–2013, Масква), беларуская пісьменніца. Дачка беларускага празаіка, драматурга і кінасцэнарыста, які быў рэпрэсаваны, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР (1935) Рыгора Якаўлевіча Кобеца (сапр. Сандыга Міхаіл Мусіевіч: 1898–1990), якая шмат зрабіла ў справе вяртання добрага імя бацькі і аднаўлення яго літаратурнай спадчыны. У 1964–1966 гг. па сямейных абставінах жыла ў Грэцыі. У 1971–1972 гг. працавала на кінастудыі «Беларусьфільм».

У цішы вачніца дупла
Знямелым адчаем поўніцца.

*

Асфальт белакапыціць
Завея сівагрывая.
Таксі чырвонастрэшныя,
Як шапачкі чырвоныя.

15-гадовы хлопец прыняў роды ў дарозе. Кінуў калгас, бо празвалі «Акушор». «Не хацеў кідаць. А яны то дражняць, а калі не дражняць, смяюцца, як я іду».

Што з развагай станецца?
Грэх, арэх разлушчаны!
Сельскія настаўніцы
З Белавежскай пушчы.

Сельсавет у тым жа памяшканні, зашлюбіць.

Манастыр дзявочы на дэкрэтным адпачынку[1].

Адворня Сарочына, с/с Літвін, на Полацк, прыпынак Буракі.

Вушача: мэблевы магазін забіты, крэйдай [напісана]: «Магазин закрыт, все ушли на ..й».

Сяўбіт (сявалка); дурны як сяўбіт.

Пасля палучкі пакажу рубель.

Ты дурны, як да году аўчарка.

Шукае знаёмыя літары, а робіць выгляд, што чытае.

У 2-ім класе строга ў дзённіку: «Курыць як самастойны».

«Ты что, стихи мечешь?»

Як яшчэ не зрушыліся зоры, арыентуючыся па якіх, мы столькі ўсяго ўзарвалі?

З даверлівай ласкай снег,
Як з матчыных рук рушнік.

---

[1] Гл.: Што ні дзень — сандзень [1972] // Журавінка. С. 17.

## 1973

*1 студзеня*

Янус не двудушны, а двухаблічны. Уперад глядзіць, але і помніць, назад азіраецца. Ценькі веташок клёпкай ад піўной бочкі. На фоне барвянай зары плакатныя чубы фабрычных камiноў. След рэактыўны — стужачкай на маладажонніцкім таксі. І той, і той знікаюць.

Пачаў год з народных песень і загадак. Быў Кіся [Журовіч]. Быў у Кісі. Чакае папаўнення. З Ілонкай палілі бенгальскія агні. Халодныя-халодныя, як вершы С. І. Грахоўскага[1].

*Вытворчая замалёўка*

Галосяць завеі — зімы выхаванкі.
Рабочая раніца, планам задней!
На доле цэментным застылі балванкі,
За вершы Грахоўскага халадней…

*10 снежня 1972*

За вершы вытворчыя халадней…

*2 студзеня*

Рана ўскруціўся. Трэба на службу схадзіць.

*5 студзеня*

Дом друку. Віншаванне Вадалея[2], 50. Сябрына ў яго дома. Кісевых [Журовіча] бацькоў спазніўся праводзіць.

* * *

Я гумарэску ў «ЛіМ» занясу,
Чытай, рагачы, не тужы!
І будзе Джулі на каўбасу
І закусь у гаражы!

*1973*

[1] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. У 1960–1973 гг. літаратурны рэдактар час. «Вясёлка», у 1973–1974 гг. адказны сакратар Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1983).

[2] Ваданосаў Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–2006), беларускі пісьменнік. У 1972–1982 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1982). Джулі — любімая сучачка Ваданосава.

*6 студзеня*

Змрочная раніца, змрочны дзень. Холадна. Сёння Каляды. Мамы няма — няма Каляд. Толькі ў памяці: «Мароз, Мароз, хадзі да нас куццю есці! І ты, Пярун, не гразіся. І вы, дзядочкі, хадзіце і непамянёных вядзіце!..»

Тое-сёе зварылі. Паклікаў Мароз і Пярун і непамянёных. А днём у Генкі[1] калядаваў. Валодзя Лісіцын[2] пабег некуды. Харошыя новыя вершы прывёз з Джанкоя.

*12 студзеня*

Усе дні пераблыталіся. Слухаю вайсковую справу[3]. Разбіты час. Наіўныя фільмы. Усё не можам ад вядомага стандарту адкараскацца.

Валодзя [Лісіцын] паехаў. Трэба да ладу давесці ягоныя падборкі. Хлопец жыве далёка ад Беларусі. Беларуская душа. Нарадзіўся ў [нямецкім] канцлагеры. Бацька удмурт, а маці руская — беларуская душа.

*13 студзеня*

Раніцай аўтобус давёз да палігона. Стральба з аўтамата і пісталета. Шкада, што мала патронаў даюць.

Вечарам сустракаў з Валяй і В. С.[4] Новы [стары] год.

***Дэталь: кантралёры правяраюць ў тралейбусе білеты. Студэнт (курса 3-га) з дзяўчынай, лезе ў кішэню па талон. Кантралёрша:

— Без білета, плаці штраф.

— Я толькі зайшоў, адзін прыпынак еду.

Яна лап яго за плячо:

— Не адзін прыпынак — ты цёпленькі.

*14 студзеня*

Яшчэ адзін Новы год у новым годзе! Перакладаю Стэфана Паптонева[5] для «ЛіМа» і для тэле. Снег рана быў, але ён болей сімвалічны. Днём пачынае кісялец. У вакне комін, праўда, заводскі. Адліжна каркае варона, праўда, на галінцы тэлеантэны.

---

[1] Кляўко Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык. У 1973–1979 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя».

[2] Лісіцын Уладзімір Сяргеевіч (1944–1973), беларускі паэт. У 70-х гг. жыў у Джанкоі (Украіна), працаваў дырэктарам Палаца культуры, настаўнічаў. Гл.: Зялёны цягнік маленства (1973) // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987. С. 26; На радзіме — усё паэзія... (1990) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 82.

[3] Курсы ваеннай перападрыхтоўкі.

[4] Паваліхіна Вера Сцяпанаўна, калега В. М. Барадулінай па выд-ве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» («БелСЭ»).

[5] Паптонеў Стэфан Дзімаў (1928–2004), балгарскі пісьменнік, перакладчык.

Недалёка і незваротна далёка маміна Ушача.

На ноч падціскае марозікам. Парачка спяшаецца памалу дамоў. Два павадыры сабак хваляцца сваімі падапечнымі. Больш няма чым. Дом наш — вялікая псярня. Асабачэў век.

* * *

Жывуць у казках дзівакі
І поўняў медзякі чаканяць.
І сімвалічныя ваўкі
Чырвоных Шапачак чакаюць.
Насніў зайцоў калядны лог.
Ваўчыны шлях —
Па здраднай грудзе.
...Дамоў
У ліфце едзе дог —
У медалях сабачых грудзі...
(А людзі?)

Пасля балгарскай паэзіі захацелася паспрабаваць перакласці класіку, самую цяжкую, бо ўсім вядома яна.

Пакуль наш Семяжон перакладаў еўрапейскую класіку — усё ішло ціха. Стаў Някрасава[1], Гамзатава[2] з рускай, у кожнай рэцэнзіі — камянькі ў гарод прызнанага барда перакладу.

А можа, крыху будзе гучаць пушкінскі «Вязень». Глянуў у аднатомнік. Пераклад Глебкі[3], неблагі. Пасля вайны выдаваўся, тады Багдановіч[4] быў у загоне. Хіба нельга было даць ягоны пераклад?

Закрачаны крылы...[5]

*16 студзеня*

Пачынае круціць грып, не ведаю, які.

Быў запознена на 30-годдзі Калабка[6]. [...]

---

[1] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877]78), рускі паэт.

[2] Гамзатаў Расул Гамзатавіч (1923–2003), аварскі паэт, празаік і грамадскі дзеяч. Народны паэт Дагестанскай АССР (1959). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1980).

[3] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1957).

[4] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Гл.: Сакольнік (1971) // Рум. С. 42.

[5] Пераклад верша А. Пушкіна «Вязень» («Узник» [«Сижу за решёткой в темнице сырой...»]).

[6] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1966–1988 гг. літсупрацоўнік, ст. рэдактар аддзела, адказны сакратар час. «Бярозка».

Кансерватыўны я ў разуменні многага. Вайна. Усе жонкі саноўнікаў за малой выключнасцю былі ці ў немцаў, ці ў паліцэйскіх у пасцелях. Сялянкі, як і вёскі, самі кармілі сябе, ім адступаць не было куды. Вёска ашчадна расходуе (выдаткоўвае) грошы, адно не спяшаецца браць іх.

*26 студзеня*

Страшна склаліся дні. Бяссоніца. Працаваць не магу. [...] Мне трэба спакой. Дзе знайсці яго? [...]

Прыязджаў Лазар[1] з жонкай наконт кватэры, дабіваліся ў Віцебску. Што яму магу памагчы? Утопія. Нялоўкае становішча — нічым карысным быць не можаш для чалавека, з якім рос, з кім футбол ганяў. Здавалася б, жывеш у Мінску, друкуешся. А сам сёння абменьваў тэлефонную кніжку — сядзіць дура, адстаўнікова жонка, хоць перад ёй шапку здымай!

*27 студзеня*

Нарэшце выспаўся. Рады як ніколі. На вуліцы перададліжна.

А вецер, як гжэчны паляк,
Ласкавае шэпча: «Пшэпрашам...»
Завея ўдавее ў палях,
Падсцеле і нашым, і вашым.

*29 студзеня*

Пайшоў на працу. Усё ціха перад бурай. Трэба хоць паказвацца часцей. Сядзець няма дзе, а на воку ў начальства быць трэба.

Званіў Пятрусь Усцінавіч[2], падганяюць, фарсіруюць кнігу вершаў і перакладаў Хелемскага[3]. Усе класікі. Зрабіў ён для іх шмат. Але напісаць паўтары старонкі прадмову ўсім бракуе часу. Як у народнай частушцы: «Наелася буракоў, напілася квасу. Манілася хлопцу даць, недабрала часу...» Хай на іх сумленні будзе.

Нешта круцяць з «Днём паэзіі». Паперы, бачыш, няма. Лес пляжаць, паперы няма, хоць на начальніцкіх лысінах пнёў пішы эпітафіі тапару і оду электрапіле.

---

[1] Бляхман Лазар, аднакласнік.

[2] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). У 1967–1980 гг. гал. рэдактар выд-ва «БелСЭ». Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[3] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі паэт, празаік, перакладчык. Прысвечаны яму верш гл.: Перакладчыкі (3.11.73) // Свята пчалы. С. 324.

Хацеў у «Дзень паэзіі» зрабіць профілі колькіх чалавек накшталт:

У Дантэ[1] профіль быў Шаўні,
А падабенства больш — ані!

Кожны раз, калі падымаюся ў цёмны пад'езд да ліфта, вобраз: цісну ліфту як Паліфему вока ў чорнай пячэры цемры, і яно наліваецца крывёю, чырванее.

Сёння перабіраў паперы, шукаў адну рэч. Знайшоў даўні накід верша. Каб не забыцца, прыкладна данапісваю «Вакно»[2].

Цікавыя звароты чытаю на лістку: яму дармавей былі работнікі; як занездаравееш; няма шчасця — і ў грыбы не йдзі. Пра спрытнага хлопца: «Мёртвай сучцы ўцісне...»; з крыкам, з гікам; бяссмертнік мне далі (пашпарт); прынізісты маліннік, а маліны сядзяць як таўкачы; трэба з ночы, з дожджу ісці ў лес; глядзіць, што перапросу не будзіць; плоць (плотка, зборнае) з белай спіной; галава на паўлітра ўссаджана; паравы́ хлопец (жаніцца пара); вымыешся, вырашышся; яшчэ не стары — першую галаву на карку носіць.

Яшчэ накіды старых вершаў. Можа, калі радок для адштурхнення. Архіваў не вяду, усё губляецца — так лепей. Зараз рыфмаваць усе могуць. [...] Яшчэ і верш з летняга далёкага Гродна[3].

Можна какетлівыя радкі напісаць тыпу:

З таліяй асінаю
Ты дрыжыш асінаю.
Я з башкой дубоваю
Волю (нервы) выпрабоўваю.

[Паверх старонкі алоўкам:] Вуду плялі з конскага хваста, зараз капрон. Наконт Пегаса. Перакладчыкі — шпалаўкладчыкі на вялікай дарозе дружбы.

*** Паэт ідзе за рыфмай, як інкасатар за касай.

*Пятрусь Броўка*

У вока сцэліў час,
Не ў броўка:
Бракгаўза[4] замяняе Броўка.

---

[1] Дантэ Аліг'еры (1265–1321), італьянскі паэт, празаік, аўтар філасофскіх і палітычных трактатаў.

[2] Гл.: Акно (29.01.73) // Рум. С. 62.

[3] Гл.: «Дубоў плячыстых...» (29.01.73) // Тамсама. С. 88.

[4] Бракгаўз Ф. А. (1772–1823), заснавальнік нямецкай выдавецкай фірмы. З 1808 г. выдавала энцыклапедыю пад назвай «Бракгаўз».

*Язэп Семяжон*

Першаперакладчык паэмы
Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра»

Пераклад з латыні — рэч філасофская,
Для партрэтыстаў вякі — не заслона:
Хоць і невядомы профіль Гусоўскага[1],
Можна чаканіць яго з Семяжона!

*Уладзімір Калеснік*[2]

А філалогія — злая мегера:
Кандыдатам у Брэсце цесненька.
Толькі па профілю
ад Вальтэра[3]
Цяжка адрозніць Калесніка.

*Уладзімір Дубоўка*[4]

Асацыяцый гані чараду,
Дробязей вінцікі не давінчываючы:
Адзін цырульнік рабіў бараду
Дубоўку
і Леанарда да Вінчы[5].

[1] Гусоўскі Мікола (1470 [?]–1533 [?]), паэт, асветнік эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай усходнееўрапейскай школы, дзеяч славянскай культуры. Ураджэнец Беларусі. Гл.: Міколу Гусоўскаму (11.12.80) // Амплітуда смеласці. Мінск, 1983. С. 27.
[2] Калеснік Уладзімір Андрэевіч (1922–1994), беларускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1956–1994 гг. заг. кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна. Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980).
[3] Вальтэр (сапр. Аруэ Мары Франсуа; 1694–1778), французскі пісьменнік, філосаф, гісторык.
[4] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. З 1957 г. жыў у Маскве. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962). Гл.: О, Беларусь, мая шыпшына… // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 14; Уладзімер Дубоўка // Дуліна ад Барадуліна. С. 98.
[5] Леанарда да Вінчы (1452–1519), італьянскі мастак, скульптар, архітэктар, вучоны, інжынер.

*Анатоль Вялюгін*[1]

Падобен Вялюгін,
кінозаіконены,
То на Нараўчатава[2], то на Луконіна[3].
Ды слава, што думкі выкоўвае ў прозе,
Сенненскі[4] профіль зацвердзіць у бронзе.

* * *

Он славою не заиконен:
Как Сталинград,
Стоит Луконин.

*[1973]*

*Максім Лужанін*[5]

Час гоніць на бойню гадоў чараду,
І ў вечнасць партрэты ўмуроўвае.
Леў Мікалаевіч[6] збрыў бараду —
Лужанін задумаўся густаброва.

[Варыянты:]

Час гоніць з пашы гадоў чараду…

Калі — у аўторак ці сераду
З партрэтамі час абышоўся сурова?

---

[1] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1946 —1984 гг. з невялікімі перапынкамі працаваў рэдактарам аддзела паэзіі час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[2] Нараўчатаў Сяргей Сяргеевіч (1919–1981), рускі паэт, празаік, крытык. Герой Сацыялістычнай Працы (1979).

[3] Луконін Міхаіл Кузьміч (1918–1976), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949, 1973).

[4] А. Вялюгін нарадзіўся ў в. Машканы Сенненскага раёна Віцебскай вобл.

[5] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1965).

[6] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык, аўтар рэлігійна-філасофскіх і педагагічных твораў.

*Янка Сіпакоў*[1]

Разгледзець трэба ўсебакова
Мальера[2] й Янку Сіпакова.
На лірыка парык прымер —
І здзівіцца з сябе Мальер.

*Еўдакія Лось*

А меркаванні ёсць такія:
Двайнічка Ніке — Еўдакія.
Як адшукаюць профіль Ніке,
Наўрад ці падабенства знікне.

(Магчыма, падабенства ўзнікне…)

*Пятро Прыходзька*

Хоць профіль свой згубіў Пятро,
Нос, нібы ў Мерылін Манро[3].

* * *

Хоць праца гэтая цяжкая,
Прыходзька профіль свой шукае.
(Хай статую знайсці сумее:
Геракл маленькі душыць змея…)

*Аляксей Зарыцкі*[4]

За Баграціёна[5] пазіраваў Азгуру[6] ён,
Радкоў павольных заядлы рыцар.

---

[1] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1960–1973 гг. супрацоўнік час. «Вожык», у 1973–1989 гг. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Маладосць». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997).

[2] Мальер (сапр. Паклен Жан Батыст; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[3] Мірлан Мурло ў вымаўленні П. Прыходзькі (*заўв. Р. Барадуліна).* Манро Мэрылін (сапр. Мортансан Норма Джын; 1924–1962), амерыканская кінаактрыса.

[4] Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч (1911–1987), беларускаі паэт, празаік, перакладчык.

[5] Баграціён Пётр Іванавіч (1765–1812), расійскі генерал ад інфантэрыі. Герой Айчыннай вайны 1812 г.

[6] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестана (1960). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

Зірнеш на профіль — Баграціён,
Паслухаеш вершы — Зарыцкі!

*Авяр’ян Дзеружынскі*[1]

А скульптару трэба было б
Гліны памяць багата,
Бо ў Авяр’яна лоб
Па плошчы,
нібы ў Сакрата[2].

*Анатоль Грачанікаў*[3]

Дзе Анатоль Грачанікаў,
Дзе Гейне[4]?
Далёка ад Шарпілаўкі да Рэйна!

*Хведар Жычка*[5]

Дзе Берліёз[6],
Дзе Жычка Хведар?
Лёс падабенства многа ведаў...

*30 студзеня*

Заходзіў да Куляшова[7] забраць для анталогіі пераклады. Прачытаў «Варшаўскі шлях»[8]. Чаму шум-бор ўзгарэўся? Высокі мастацкі ўзровень,

---

[1] Дзеружынскі Авяр’ян Сафонавіч (1919–2002), беларускі паэт. У 1972–1981 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Сакрат (470/469–399 да н. э.), старажытнагрэчаскі філосаф.

[3] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. У 1971–1976 гг. нам. старшыні праўлення СП БССР. У 1976–1978 гг. гал. рэдактар час. «Вясёлка», у 1978–1982 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка». Нарадзіўся ў в. Шарпілаўка Гомельскай вобл. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984). Гл.: Анатоль Грачанікаў // Дуліна ад Барадуліна. С. 104.

[4] Гейне Гэнрых (сапр. імя Харры; 1797–1856, нямецкі паэт, публіцыст, крытык.

[5] Жычка Хведар Змітравіч (1927–2007), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1972–1976 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва», у 1976–1987 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя В. Незвала (Чэхаславакія, 1983).

[6] Берліёз Гектар (Эктар) Луі (1803–1869), французскі кампазітар, дырыжор.

[7] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1970). Гл.: Аркадзь Куляшоў // Дуліна ад Барадуліна. С. 78.

[8] Паэма А. Куляшова.

як сказаў бы П. Кавалёў[1]. Сталасць сталага майстра, вытанчанасць, ні гуку лішняга.

Цікава, праз колькі месяцаў перарабіў радок у перакладзе Ясеніна[2]. Было: «Не лупіў, не біў па галаве» (никогда не бил по голове) — «колькі жыў, не біў па галаве». Так дбаць пра радок можа сапраўдны майстра. Недарэмна Панчанка[3] у свой час сказаў, што з Куляшовым у нас па-сапраўднаму загучаў радок — кавана, чотка, дакладна. Настала сталасць радка.

Да 30 сакавіка трэба здаць пераклады Ясеніна — сваю рату ён зрабіў, а мая за мной. Спадабалася яму мая падборка ў «ЛіМе», а я баяўся — плявацца будуць. «Добра, што свежа, што не ведаеш наперад, што будзе», — нешта ў такім плане.

А ў паветры сінічкі куюць вясновую пагоду, лемяхі свае, што як крыло страказы.

Не позніцца і не раніцца —
Хапае яшчэ шарпаку,
З'інелабровая раніца —
Абранніца сакавіка.

*** Ясеніну косак ставіць не было часу. На гэта будуць даследчыкі.

[Без даты:] Куляшоў просіць па тэлефоне Твардоўскага[4] даслаць яму свае творы.

— Што, у цябе няма?

— На жаль, не…

— Дык, можа, у цябе й Пушкіна няма? — І кідае трубку.

*Аляксандр Твардоўскі*

Родны кожнаму з маленства
Блізкамоўны край смаленскі.
І любіў невыпадкова
Сам Твардоўскі Куляшова.
А Твардоўскага любілі
Нашы песні, нашы былі.

*[1978]*

[1] Кавалёў Павел Нічыпаравіч (1912–1995), беларускі празаік, нарысіст, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).

[2] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт, празаік, крытык.

[3] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[4] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961). Гл.: Адказ анкеце (11.11.75) // Абсяг. С. 24.

*31 студзеня*

Канец месяца. Не было снегу, у мяне — плёну ў працы.

Хадзіў вечарам глядзеў [к/ф] «Успамін аб будучым»[1].

Раніцай прахапіўся, узяўся за Ясеніна[2].

Згадаў, як расказвала маці. Пашылі боты ехаць у сваты старэйшаму. А малодшаму хацелася панасіць. Устаў раненька (ноч не спаў), абуў боты, залез у пуні ў сена і два дні сядзеў у ботах!

[Паверх старонак алоўкам:] З парашутнага шоўку [пашыла мама сабе кофтачку], гузікі, як маліны.

Дарогі маторамі загулі,
Пешаход — куды пруся я.
У раёны гоняць «Жыгулі»,
Як пасля вайны падласак з Прусіі.

*** Мама не ведала птушак, хоць сярод лесу вырасла. Не было часу калі ўслухацца. Сарока — пляткарка, кукушка — вешчавала, верабей — шэранькі, жаўранак, кнігаўка.

[Без даты.] Пасля вайны. Парашутны шоўк. Касыначкі з яго. Кофтачка ў мамы, і чырвоныя гузікі, як даспелыя маліны, дагэтуль самыя прыгожыя для мяне[3]. Шоўк шумеў, ён пах небам і трывогамі.

*1 лютага*

Прывет, Люты! З кожным годам ты мне больш сумны, расціш гады, як падатак прагрэсіўны. Адна ёсць свежая рыфма для цябе (ушацкая) — галута. Значыць, голае поле. «Восень галутай стаіць. Зіма сёлетняя галутай адстаіваецца. Гола будзе ў засеках». Гола і ў маіх шуфлядках. Не на дабро.

Цяплее. На рабоце ўсё добра. Анталогію аднеслі на год. Можна спакойна папрацаваць і на зарплату, і на сябе.

*2 лютага*

«Ні мальбы, ні крыўды, ні дакору...»[4]

*3 лютага*

Сяджу перакладаю. Званіў Аркадзю Аляксандравічу [Куляшову]. «Працую як чорны вол». Ён: «...пакуль як белы. Як чорны яшчэ папрацуеш».

---

[1] Навукова-папулярны кінафільм аўстрыйскага рэжысёра Харальда Райнлема па кнігах швейцарскага публіцыста і ўфолага Эрыха фон Дэнікена (1970).

[2] Чарнавы пераклад верша С. Ясеніна «У родным краі, не таю, Станіўся жыць...» («Устал я жить в родном краю...)

[3] Гл.: Парашутны шоўк (10.03.86) // Самота паломніцтва. Мінск, 1990. С. 65.

[4] Пераклад верша С. Ясеніна («Не жалею, не зову, не плачу...»).

З Васілём [Зуёнкам] каламбурылі:

Наш СП,
Как вся страна,
Получает ордена.
Правила ношенья:
«Мележа[1] на шэю»,
«Шамякина[2] в петлицу»,
А Гордицкий[3] наш годится
Лишь на ягодицу.

*Уладзіміру Караткевічу*

*

Казаў з трыбуны Уладзімір:
— Мой род, з асветнікаў,
Не вымер!
За буду
Храм лічыць я буду.
Стаяцьму у СП
За Буду!

*

Казаў з трыбуны Уладзімір:
— Мой род дасведчаны не вымер.
Храм — буда.
Твор твару — па пу́ду!
За Буду
Я ў СП пабуду!

*1973*

У спякоту валасоў маіх...[4]

---

[1] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). У 1971–1974 гг. нам. старшыні праўлення СП БССР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).
[2] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). З 1971 г. першы нам. старшыні, у 1976–1980 гг. першы сакратар праўлення СП БССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).
[3] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. Аўтар кніг дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра літаратуру, складальнік біяграфічных даведнікаў. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.
[4] Пераклад верша С. Ясеніна («Руки милой — пара лебедей...»).

*4 лютага*

Шукаю ключ да «Чорнага чалавека»[1]. Надзвычай спрасаваны радок, як порах, а збоку здаецца, што свабодны, ён свабодны сваёй унутранай магутнасцю, напружанасцю. Выключна па-польску і выключна адэкватна пераклаў Уладзіслаў Бранеўскі[2].

Сняжыць. Таксі, як заспаны кот, у дзве лапы працірае вочы.

*5 лютага*

Чытаў кранкі Паптонева ў «ЛіМе», я ў даўгу перад ім.

Прыязджаў Вадалей [Ваданосаў]. Званіў дамоў, недзе знікла Каця [кошка], яна апошняя гаспадыня ў хаце аставалася. Арына [Янушкевіч] і Марушка[3] думаюць, што гэтыя смаркачы [кватаранты] некуды звезлі. Шкада кошку. Мама заўсёды казала, што яна толькі гаварыць не ўмее.

Па тэле глядзеў запіс вечара Купалы[4] і Коласа ў Парыжы. Хоць паказвалі толькі прэзідыум (мала, відаць, было людзей), але ўсё роўна сімвалічна здорава. Гэта па лініі ЮНЕСКО.

Фільм пра радзіму Куляша [Куляшова]. Казаў, што на Вялюгіне праверыў сюжэт нейкай легенды, як на паўлаўскіх[5] сабаках.

*6 лютага*

Занёс у «Бярозку» падборку.

Пачаў перакладаць «Чорнага чалавека».

*7 лютага*

Нарэшце ў «Литературной газете» ашмоцце хаця далі ад паэмкі[6]. Нейкі юнацкі здымак.

Быў на праглядзе вялюгінскага фільма «Балада любові і мужнасці». Нарэшце пра партызанскую Ушаччыну загавораць на ўвесь голас. Страшныя дакументальныя кадры. За сэрца хапае. Маладыя камбрыгі, такія чыстыя, харошыя. Яшчэ. Ушацкая настаўніца выступае быццам бы па-руску. А вымаўленне ушацкае, словы ўшацкія. «Каля друк, дзе гарохвіну, маці забілі, а малое смокча ў мёртвай грудзі».

---

[1] Паэма С. Ясеніна.

[2] Бранеўскі Уладыслаў (1897–1962), польскі паэт, перакладчык.

[3] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[4] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[5] Паўлаў Іван Пятровіч (1849–1936), рускі фізіёлаг. Акадэмік Пецярбургскай АН (1907). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1904).

[6] Бородулин Р. Поэма признания / пер. Н. Кислика, Ф. Ефимова // Литературная газета.7 февр. 1973.

Уцякаюць абарваныя дзеці, бежанцы. У лахманах дзяцей садзяць у самалёт — на Вялікую зямлю адпраўляюць.

Крыжы на самалётах.

ПТР[1], як на буслянцы, прыстасаваны для знішчэння самалётаў. Нашы танкі. Партызаны, маладыя хлапчукі, шапка на вочы — з вінтоўкай. Вайна і блакада зноў да мяне пагрукалася.

*** У Гуціева[2] распытаць, як лістоўкі на папяровым змеі запускалі ў нямецкія гарнізоны[3].

* * *

Для партызанскіх успамінаў
Вайной народжаны Ханінаў[4].
Ягонай мала ў тым віны,
Што звоняць не па ім званы.

*8 лютага*

Артур[5] даў перакласці п'есу. Праводзіў Веру[6] ва Ушачы. Марушцы [Трафімавай] з Арынай [Янушкевіч] тое-сёе перадаў. Няма каму перадаць, хто рад бы быў усяму, хто не ўзважваў, не прыцэньваў гасцінец. Апусцелі для мяне Ушачы, нібы блакада яшчэ адна па іх прайшлася.

Заходзіў да Юрася[7] на радыё.

*** Кумка мая, сядзем, пагаворым аб людзях, а людцы аб нас даўно гавораць.

*9 лютага*

«ЛіМ» даў хараша Паптонева. У выдавецтве круціўся да абеду. Заходзіў Кулеш [Куляшоў]. Хвалюецца за Ясеніна. У інтэрв'ю паведаміў сакрэт. «Цяпер, — кажа, — адступаць няма куды».

---

[1] ПТР — супрацьтанкавае ружжо (противотанковое ружьё).

[2] Гуціеў Мікалай Цімафеевіч (1912–2006), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1968). У Вялікую Айчынную вайну ў партызанскім атрадзе; выканаў больш за 40 антыфашысцкіх плакатаў.

[3] Гл.: Папяровыя змеі [1973] // Рум. С. 12.

[4] Ханінаў Міхаіл Ванькаевіч (1919–1981), калмыцкі пісьменнік, перакладчык. У 1942–1944 гг. удзельнік партызанскага руху на Беларусі.

[5] Вольскі Артур Віталевіч (1924–2005), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1962–1978 гг. дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, у 1978–1981 гг. дырэктар Дома літаратара.

[6] Смолікава Вера Фёдараўна, дваюрадная сястра В. М. Барадулінай, працавала ва Ушачах па размеркаванню, некаторы час кватаравала ў хаце Барадуліных.

[7] Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933–2010), беларускі паэт. У 1961–1975 гг. супрацоўнік Беларускага радыё. З 1975 г. заг. аддзела прозы і паэзіі газ. «Літаратура і мастацтва». Гл.: Першы склад перад націскам // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 92.

Занёс у «ЛіМ» для «трасянкі» трохі пацярухі.

Трэба да панядзелка верш пра Ушаччыну, блакаду, да фота будучага комплексу[1].

*10 лютага*

З Генкам[2] пісалі, тэлефонапісалі:

З шамякінскіх падштанікаў
Выцыбваўся Грачанікаў,
А як дарваўся да руля,
На ўсіх глядзіць ён з-пад Брыля[3].

Нешта напісаў пра блакаду[4]. Цяжка. Гэта ж пад фота.

Заходзіў на новую кватэру Скарынкіна. Незразумелы падбор гасцей. А пасля — да Гены [Кляўко] (любага друга), пасядзелі, пагаманілі, хоць душу адвёў.

* * *

Верен он древнейшей музе,
Предводитель впопыхах.
Стал Гречаников в союзе
Богушевичем[5] в стихах!

---

[1] «Прарыў» (1974) — мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву нямецкай блакады партызанамі ў красавіку–маі 1944 г. (Ушацкі р-н Віцебскай вобл.) Скульптар А. Анікейчык, архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін. Анікейчык Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, выкладчык. Прафесар. Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974). Градаў Юрый Міхайлавіч (н. 1934), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970). Левін Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970), Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[2] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1972–1978 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць», у 1978–1990 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980). Прысвечаны яму верш гл.: «Што нам…» (9.12.72) // Рум. С. 17.

[3] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1982).

[4] Гл.: 1103-ці дзень вайны (10.02.73) // Рум. С. 11.

[5] Юрыем, былым намеснікам (*заўв. Р. Барадуліна).* Багушэвіч Юрый (Георгій Канстанцінавіч; 1917–1983), беларускі празаік, кінасцэнарыст. Прысвечаны яму верш гл.: Пасля сакавіцкай мяцеліцы ([1982]) // Амплітуда смеласці. С. 72.

*11 лютага*

З Зюкам[1] у Валодзі [Журовіча]. У Кісі [Журовіча] сын — 4800. Нейкая зайздрасць. У яго і ў самога дзень нараджэння.

[Паверх старонкі алоўкам:] Чаму шмат Іванаў і Мар’яў.

Зіма адстаяла галутай —
Пра леташні снег успамін.
Абнашчыўся снегам люты.
А ў друга радзіўся сын…

*12 лютага*

Пачаў перакладаць п’есу для ТЮГа. Прачакаў як дурань Вадалея [Ваданосава].

*13 лютага*

Сёння сігнал «Журавінкі»[2]! Выглядае знешне добра.

Да Генкі[3] прыехала маці. Сум прывезла мне па Ушачы. Да мяне ўжо ніхто не прыедзе, радасць з роднай стараны не прывязе. Ушацкую свежыну елі. Генка даў мне крыху зверабою заварваць чай.

*14 лютага*

Раніцай Броўка званіў наконт Хелемскага. Абяцаў памагчы Шкляру[4]. Для паэтаў маладзейшых, кажа, такіх падтрымліваць трэба. Жартаваў яму: перакладаюць народных, міжнародных, трэба ж і прыгарадных перакладаць.

*[5 сакавіка]*

Шмат дзён растраціў. Пасля свайго дня нараджэння захварэў. Хадзіў як сам не свой з Мядзведзем[5], з Хуч-рэжам[6].

---

[1] Скурко Іосіф Уладзіміравіч (1938–1989), беларускі паэт і перакладчык. У 1971–1974 гг. рэферэнт у Савеце Міністраў БССР, у 1974–1989 гг. палітычны аглядальнік, каментатар, заг. аддзела, нам. рэдактара літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

[2] Барадулін Р. Журавінка. Мінск, 1973.

[3] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (н. 1934), аднакласнік. Акцёр Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» (2007). У рабочым нататніку яму прысвечаны верш; гл.: Стары сад (1971) // Рум. С. 72.

[4] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі Расійскай Федэрацыі (1999).

[5] Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929–1973), беларускі паэт. У 1972–1973 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Хуч-рэж, мянушка суседа, рабочага, які гэтак вымаўляў рускую прыгаворку *хоть режь.*

Барсачанкі[1] умелі жыць
І на віду маячыць,
Каго, як трэба, ўмележыць,
А трэба — ушамячыць.

Сёння 5.ІІІ. За гэты час паспеў падвесці ўсіх амаль. Ледзь з жыццём у думках не развітаўся. Іду з Валяй, кажу, што грошы будуць там — там. А яна раптам: «Ты мне трэба жывы, а не пераводы!» Вясна і надзея.

*** Атрымаю зарплату, размяняю на медзякі і засыплю цябе грашыма[2].

*7 сакавіка*

На рабоце віншавалі нашых жанчын. Зайшоў на Валіну работу. Заходзілі вечарам на шклянку чаю Рэм[3], Валюшак[4], Акім[5].

*8 сакавіка*

Думаў, што не ўдасца павіншаваць Валю і Лану з днём вясны. Яшчэ жыву. На Камароўку. Кветкі. Каўказцы (самая модная рыфма). Ідуць дзве дзяўчынкі. Адна нясе нейкую засушаную каўказскую расфарбаваную траву. Нехта падарыў. А яна і кажа: «Як плясну зараз у морду гэтай *канюшынкай*!» (Вось табе і кажуць аб знікненні нацыянальных рыс, нацыянальнага характару. Як маці глядзела на свет, так і яна глядзіць на яго. Менавіта канюшынкай (надта ўжо нагадвалі гэтыя «кветкі» яе!).

Я, відаць, самы вялікі свінюк перад Валяй. Як яна перажывае за мяне! Як яна хоча здароўя мне! Страшна не бачыць яе больш, страшна! Цяпер многае ўбачыў, а ці давядзецца бачыць?! Судзі, Божа! На мне крыж. Маміна магіла недагледжана. Шмат прадстаўнікоў ад мастацтва, усе абяцаюць! Усе цягнуць. Звычайнае рабіць не хочацца, бо вымагае нялюбае мне местачковае пыхліўства. А арыгінальнае нешта зрабіць цяжка. Але ні сумленню свайму, нікому гэтага не скажаш.

---

[1] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1960–1976 гг. супрацоўнік аддзела прозы час. «Полымя», у 1976–1986 гг. сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа (1991).

[2] Гл.: Суцешыў [1972] // Журавінка. С. 61.

[3] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1965 г. ст. рэдактар, а ў 1976–1983 гг. заг. аддзела Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

[4] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[5] Акімушкін Вячаслаў Дзмітрыевіч (н. 1941), беларускі рэжысёр кіно і тэлебачання.

*11 сакавіка*

Хачу працаваць! Дрэнна з галавой. Хачу на Верасовачку[1] ва Ушачы. Там ужо ёсць першы жаўранак. Мая Радзіма, мая Віцебшчына. Я сын твой верны да скону!

Адно — Дзякуй табе, Зайчык, за ўсё, што было добрае! Злаваўся на цябе, не так ацэньваў. Але Ты была і астаешся ў жыцці маім! Калі пяском засыпаць будзеш — засыпай мяне Адзінага. Успамінай. Не так любіў Цябе, але *назаўсёды.* Дзякуй, што Ты была са мной. Калі выжыву — Твой! Ніколі ў думках не падумаў пра лепшую! АДЗІНАЯ!

*13 сакавіка*

Лічба нешчаслівая. На душы добра. Выходжу са свайго дрэннага настрою.

Едзем у *Магілёў.* Міша Герчык[2] — гід. Цудоўны хлопец. Баюся, я не аддзячу яму за яго паблажлівасць да мяне. А ён — проста цуда. Малайчына, што сын сваёй нацыі. Нацыі павінны паважаць адна адну, а не знішчаць. Вялікі завет Ільіча!

Зая — АДЗІНАЯ!

У мяне перадсмяротныя сутаргі. Баюся пакінуць гэты вечна «улыбчивый» для мяне свет. Божа, барані мяне ад гэтага!

Еду з Міхаілам Герчыкам выступаць у Магілёў — рад, што пабачу вясну. Міша — адменны хлопец. Такіх мала!

Многолик, многоглаз, многорук
И удачлив всегда на улов.
И пока на посту Майданюк[3],
Будь спокоен, град Могилёв!

*14 сакавіка*

Прыходзіў раніцай Сяргей Законнікаў[4]. Пабыў на працы. Заўтра рана паездка.

---

[1] Верасоўка — хутар, на якім нарадзіўся Рыгор Іванавіч.

[2] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), беларускі пісьменнік. У 1972–1992 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Прысвечаны яму верш гл.: Чалавек (1.03.77, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 141.

[3] Майданюк Уладзімір Фёдаравіч, у 1965–1975 гг. начальнік Упраўлення аховы грамадскага парадку Упраўлення выканкама Магілёўскага абласнога савета.

[4] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1972–1975 гг. сакратар Ушацкага райкама камсамола. З 1975 г. карэспандэнт, заг. аддзела газ. «Чырвоная змена», затым газ. «Звязда». У 1978 г. інструктар аддзела культуры ЦК КПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982).

*16 сакавіка*

Прыехаў з Магілёва.

Дни мои сочтены! [...] А Валю — люблю! [...]

Верш пачаў пісаць па дарозе:

У зімы традыцыйны склероз,
Хоць не чуваць вясновага граю.
Пальцы вытанчаных бяроз
На праталінах хораша граюць!

*17 сакавіка*

Быў на імянінах кніжкі Юзіка Скурко[1]. Хораша выдана. Як крытыка ацэніць? Хочацца, каб добра.

Калі гэта перадапошнія радкі — Валю люблю, люблю, кахаю! [...] Валя сама не свая.

Толькі дзякуй роднай мове, што хоць часова пабыў чалавекам. Хоць часова. Шкада, што моладзь не валодае мовай, шкада, што не ведаюць цану хлебу, а мова — хлеб нацыі.

Быў росна-ранішні, стаў восеньска-запознены.

Родная мова мая, апошнім мамантам быць не хачу! Гучы не толькі па радыё. Я ніколі не здраджваў табе, не здраджу, ты вечная, ты чыстая, як мая родная Віцебшчына.

Цяжка быць нацрэліквіяй на ўсялякіх урачыстасцях, толькі са сцэн гаварыць на мове сваёй. Народ не вінаваты, зямля не вінавата. Мова не патрэбная пры паступленні ў любую ўстанову. Школы без гэтай «тубыльной» мовы. Для каго пісаць? Для секцыі крытыкі СП? Нават у сваёй хаце не чуеш роднай мовы. Валя валодае. Дачка адносна. Каму-каму, а мне «и рубля не накопили строчки». Пакідаю сям'ю з нічым. «Сяброў» шмат. Яны мяне і ў магіле варочаць будуць.

А жыць хочацца. Вясной пахне. Недзе над Салатопкай ва Ушачах жаўранак з-пад мяжы выскачыў у неба. Хай звініць! Толькі б апошні раз пачуць яго. Не магу пісаць. Калі надыдзе яснасць? Прашу цябе, Яснасць, прыйдзі. Шмат даўгоў перад памяццю, перад мовай маёй, перад зямлёй роднай. Я не зрабіў слоўніка Ушаччыны, хаця ён гатовы ва ўсіх маіх запісных кніжках. Даруй мне, зямля родная, дзякуй табе за шчасце хоць трошкі пабыць чалавекам.

Інтрыгі СП, хай, яны будуць. Зневажалі як маглі. Хай сядзяць на пасадах, хай цешацца. Я не хадок туды.

Як жыць хочацца!

Падымі мяне, сіла мовы!

---

[1] Скурко І. Бацькоўскі парог. Мінск, 1973.

Беларусь мая,
не абруселы,
Як і быў я,
такі і ёсць,
Толькі ў росах тваіх
абраселы,
Ад касці тваёй косць!

Былі б толькі паэты беларускія пасля! Хай кожны крок іх сонца пацалуе.

Валодзя Журовіч, вядзі хораша нашу народную песню. Мне заўсёды было раздольна ў тваёй цеснай хаце.

Дачушка мая Лана, хай табе будзе светла!

Валя, будуць бахары, мяне не будзе. Я кахаў цябе, любіў цябе пяшчотна…

У мяне шмат працы. Не магу працаваць. Жах! Жах! Жах! Даруй мне, родная літаратура. Прыйшоў да цябе чаляднікам і гэтага высокага звання не заслужыў! Даруй, Беларусь, мне цяжка. Дай сілы мне, родная зямля! Валя, даруй за ўсё — ты мая АДЗІНАЯ!

Для анкеты сэрца — люблю Пімена Панчанку. Мне ўзнагарод не далі — хай сабе даюць. У тэрарыум — СП — «не вхож». Любыя хлопцы, дзяліце між сабой славу. Яна не вечная! Дзякуй СП за знявагу, за вылучэнне. Круціце дзіркі на пінжаках — для лаўрэацкіх. Дзякуй СП за знявагу, якая была 4 разы. Сыцейце, таўсцейце! Пімену Панчанку ўладзілі вясёлае жыццё. А ён — ПАЭТ! Жывіце…

Лёс мяне звязваў мала з Васілём Быкавым[1] — можа любая нацыя ганарыцца такім. Дзякуй, Васіль, што бачыў цябе, што чуў цябе, — за ўсё дзякуй, паклон мой зямляцкі. Калі не будзе мяне, дарагі Васіль, толькі бясхмарнасці табе! Васіль, пісем табе не пісаў, не шукаў сустрэч з табой. Любіў, чытаў, ганарыўся знаёмствам з табой. Даруй, Васіль, за ўсё. Васіль дарагі, люблю цябе! Я надзеі падаваў, але не апраўдаў іх.

Мова родная, даруй мне, бо часта дрэнна выкарыстоўваў цябе. Пасля маці маёй — толькі перад роднай мовай у даўгу лічу сябе. Ушацкая мова, даруй. Не зрабіў, што мог.

Супакойцеся, мае «сябры», вам прастора! Не гаварыце нада мной гучных слоў.

---

[1] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). У 1972–1978 гг. сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР. З 1978 г. жыў у Мінску. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986). Прысвечаны яму верш гл.: «Мы на агонь глядзім…» (29.07.77) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 191.

Валя, Зайчык, толькі люба мая, хоць ты спіш... Люблю Заю!

*19 сакавіка*

Хадзіў з Заем на «Іграка». Не шанцуе на фільм. Хочацца нечага лёгкага. «Ігрок» неблагі.

*22 сакавіка*

Хаджу на працу. Учара далі мне пуцёўку ў Каралішчавічы на два тыдні. Хачу адпачыць, адысці ад усіх хвароб сваіх.

А вясна ідзе, міліцыянер на скрыжаванні, на пераходах дае аўтографы за 30 кап.

Ніл Гілевіч, кажуць, лютуе з прычыны выхаду «Журавінкі». Бачыце, абразіў высакароддзе, узрослае на азаддзі літаратуры. Разварушыў я трошкі тэрарыум — СП. Зажраліся, няма два «с» (сораму, сумлення). Агалцелая гайня.

*23 сакавіка*

Ноч страшная. Дужа хочацца пісаць. Яснасць мазгоў і страх перад ноччу.

Быў у Вадалея [Ваданосава]. Купіў кнігу Шкляры [Шклярэўскага] «Воля». Харошая, па-шкляраўску. Люблю яго як гада. «Паэт» — слова гучыць як выдых у марознай стыні. Як выдых гучыць ягонае кожнае слова. Дзякуй яму, ён пераклаў, ён прагаварыў, ён сказаў за мяне мае вершы па-руску. Дзякуй, Шкляра.

Харошая бяседа была з Валодзем Паўлавым[1]. Чалавек з адкрытай душой. Застаўся тым самым Валодзем, што быў і ў студэнцкія гады. Валодзя, поспехаў табе, толькі поспехаў!

Ланачка ўчора веснавую чвэрць скончыла па беларускай мове — 4, па літаратуры — 5. Апошняе пакаленне.

Некалі для Рыгора Раманавіча Шырмы[2] пісаў [перакладаў] шапэнаўскую[3] «Тугу» (словы [Міцкевіча[4]]). Зараз яны мне суладны:

Сівер ідзе, стыне Млечны Шлях.
Лета панеслі ў вырай журавы.

---

[1] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1972–1985 гг. заг. рэдакцыі паэзіі, потым збору твораў і выбраных твораў выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Шырма Рыгор Раманавіч (1892–1978), беларускі харавы дырыжор і фалькларыст. Народны артыст БССР (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977). Гл.: Зорка Шырмы (1982) // Парастак радка, галінка верша. С. 143.

[3] Шапэн Фрыдэрык (1810–1849), польскі кампазітар і піяніст.

[4] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху. Ураджэнец Беларусі.

Гнёзды самотна чарнеюць.
Лістабой адзвінеў — сумна ў гаях,
Глуха ў палях.
Стомлена ўздыхае пошум баравы,
А нядаўна неба жаўранкі будзілі,
Цвілі касачы ў вясны на плячы,
Росы п'ючы.
Зноў будзе май, зноў зорам спець,
Зноў будзе гай ад лісця малады.
Мой жаўранак зазвініць.
Сонцу вясны — юным прамянець.
Лістабой развеяў светлыя гады.
Вочы касачамі ціха адсінелі,
Мару дарма, лёс мой — зіма!

Ідзе вясна. Сонечна хутка будзе.

Хмарастой прапалены:
Промень — весналот,
Сонца пасміхаецца, цеплыня на твары.
З чорнымі праталінамі
Снежна-белы кот,
Як вясна,
Ступаў па тратуары!..

Радкі ідуць самі, а я ж павінен іх неяк арганізаваць, даць пэўнае заданне, каб не проста блазнавалі, а нешта рабілі.

Богу хвала, добра ў мяне з усім!

Помнік маме, ён мне не дае спакою, у сне баюся прысніць яе, бо вінны перад ёй. Зноў-ткі сябры. Памру — толькі пад той сасной побач з мамай. Адкуль прыйшоў, туды й пайду. Хай у СП вырашаюць, дзе каму. Мне там зямлі хопіць.

Мне хапіла надзей, мне хапіла абраз. Хай дзеляць уяўныя класікі месца пад сонцам (іх больш цікавяць ашчадкніжкі), а там — усе роўныя будзем. Класікі (хто захапіў пасаду ў СП, той можа перакладчыкаў вазіць па Беларусі, даваць ім званне заслужанага дзеяча культуры БССР, дзяржаўныя фонды не збяднеюць). «Класікі» падпісвалі пры лысым Мікіце [Хрушчове] закон аб добраахвотным вывучэнні роднай мовы. Сёння глядзеў білеты для выпускнікоў. Жах! Іх, нікчэмнейшых, г. зн. так званых знаных, толькі цікавяць тыражы-гаражы (грошы). У калмыкаў ці дзе яшчэ званне народных паэтаў далі перакладчыкам. Ці не настаў час і ў нас?

Мова родная, ты ўцалееш! Не столькі вякоў душылі цябе. Праз жалезабетон вялікадзяржаўнага шавінізму крынічна праб'ешся, пра сябе на-

помніш, пра сябе заявіш, як на Страшным судзе. Хто цябе вырачэцца, хай ад таго жыццё адрачэцца! Мова родная, пачуў цябе адзін раз упершыню, сканаю з апошнім словам тваім на перасмяглых ад нематы вуснах. Табой клянуцца многія, модна стала! А я не ўяўляю сябе без цябе, без твайго гучання, без таго, што цябе няма. Табе ў вяках заставацца, самая славянская, самая чыстая, самая безумоўная! Толькі гучы, мова родная, толькі гучы, не засурыся, як тая крынічанька ў песні.

*24 сакавіка*

З раніцы на рынак. Маленькі хлапчук у цяжкіх, крыху вялікаватых ботах. Шапка-аблавушка. Паліто на плячы прапалена. Лапікла акуратнае. Ідзе ў сталоўку. Далёкае і не забытае ніколі маленства маё. Ці даўно ты тупала ў такіх ботах, у такой фуфайцы?

Быў у Юзіка Хаўратовіча[1] на імянінах жонкі. Цудоўная сям'я. Ён сам цудоўны чалавек. Даўно не было так хораша на бяседах. Як стары дурань танчыў.

*** У цябе на шыш-мыш ідзе на фінці-мінці.

*25 сакавіка*

Прыехаў у Каралішчавічы.

*26 сакавіка*

Быў на дзве гадзіны ў Мінску. Званіў Зайчыку. Нечага пакрыўдзілася. Нарэшце ціха, нарэшце добра. Няма толькі Валі, голаса яе не чуваць. А лес супакойвае.

*27 сакавіка*

Цудоўная веснавая раніца. Прыехаў князь Лакербай[2]. Піша сцэнарый. Колькі ў ім энергіі. Проста зайздросна.

*28 сакавіка*

Падрыхтаваў некалькі вершаў для «Работніцы і сялянкі». Здаў Галіне Васілеўскай[3], яна тут адпачывае.

---

[1] Хаўратовіч Іосіф Пятровіч (н. 1929), беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1966). З 1967 г. супрацоўнік, у 1975–1996 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі («БелЭ»). Заслужаны дзеяч культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Лакербай Юрый Астамуравіч, рускі і асецінскі паэт, кінадраматург, сцэнарыст (г. Масква).

[3] Васілеўская Галіна Ануфрыеўна (н. 1927), беларуская пісьменніца. У 1959–1977 гг. рэдактар аддзела час. «Работніца і сялянка», з 1977 г. рэдактар аддзела нарыса час. «Полымя».

Хадзіў на прагулкі. Дабіў такі наш СП Сцяпана Гаўрусёва[1]. Харошай душы чалавек, харошы паэт. У поўным адчаі. Праўда, кажа, што вельмі хараша ў нас любяць выступаць над магіламі.

*29 сакавіка*

Патроху пісаў. Сазваніўся з Валяй, каб Ілонку на суботу-нядзелю прывезла. Прыехаў Хведаровіч[2]. З ім хаця цікава пагаварыць. Перакладаў Ясеніна.

*30 сакавіка*

Раніца як па разнарадцы для класікаў. Даўно такой добрай вясной не быў у лесе.

З'ездзілі з Лакербаем за Ілонкай і за Валяй. […]

*31 сакавіка*

З Ланачкай — радасць, надзея мая, з Валенькай хадзілі. Вясну слухалі. Апошні шпак я, апошнюю вясну не хочацца абвяшчаць. Хай будзе Валя, хай будзе такая, якую люблю яе, якую прагну яе.

Хачу жыць. Сам сабе ўнушыў я, пэўна, кволасць.

У мяне шмат ворагаў (тыпу Ніла Гілевіча, які паўсюль паспявае ў СП — бяздарная арганізацыя па захопу кускоў з барскага стала), але сяброў больш.

Мова мая, матчына мова, разам пойдзем (ты мяне праводзіш), а табе жыць, жыць, жыць!

*1 красавіка*

Сапраўды, першае красавіка. Лёг днём трошкі падрамаць. Прачнуўся — ні Валі, ні Ланы, нікога. Каб хоць запіску пакінулі. Усе паехалі. Учора было шумна і тлумна. Сёння ціха.

*** Да Ланы:

— Хто ў вас піянерважатая?

— Студэнтка, якая не паступіла ў інстытут.

*2 красавіка*

Дробненькі дожджык дый накрапае за вакном. Дзяцел друкуе зводку аб стане здароўя дрэў. Хараша і ціха.

---

[1] Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1987).

[2] Хведаровіч Мікола (Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982), беларускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтву «Артысіуз» (1981).

*8 красавіка*

Рэшта дзён праляцела ў пераездах у Мінск.

Гжэчны паляк Стэфановіч[1] і тут хоча пагрэць рукі. Хораша акультурыць хоча лес. Значыць, прадаець будаўнічы, а пакіне хлам'ё.

У лесе зараз пыхлівы Ніл [Гілевіч]. Ездзіў сёння па сок для Ланы. Па дарозе ўсе прысады валасацікі знявечылі. Яшчэ гэтая бяздарная песня пра бярозавы сок!

[...] Міша Пушкароў[2] расказваў: у выцяжным вентылятары опернага [тэатра] (ён быў сапсаваны) звілі гняздо галубы. Яйкі. Галубка сядзела. Пасля электрыкі адрамантавалі. Толькі пер'е ляцела. Галуб сядзіць на акне апурхлы. Глядзіць на вентылятар. Даюць крошкі, абыякава есць — усё яму абыякава...

*14 красавіка*

Здароўе за гэтыя дні папавілася. Хадзіў на працу.

Люблю адну Заю. Добрая яна ў мяне.

Напісаў сёння верш, Пімену Панчанку прысвяціў:

Пад князем
Стэп капыціў рыса́к.
Ла́йцы
Даверылі пекла ракеты.
Полк Ігара-князя
Не заяц-русак
Славіў
На зайздрасць свету.
...Касмапраходцам —
Зямля ў руках.
Што рук вярбовых
Развілле?
Ім бранзавець
У касмічных вяках,
Загнаных векам
У мыле.
Хай іншыя правяць
На зорках імшу
Па самалюбству
Сваіх эпалетаў.
Да мыла
Не заганяйце,

[1] Стэфановіч Пятро (Пётр Францавіч; (1922–2006), беларускі перакладчык. У 1969–1979 гг. інжынер Беларускага аддзялення Літфонду СССР.

[2] Пушкароў Міхаіл, беларускі оперны спявак.

Прашу,
Коней,
Сабак,
Паэтаў!..

*R. B.*

Хай будзе так, хай будзе неахайна.

Толькі магіла мамы мяне турбуе. Хай усё будзе, як было!

Зялёная вясна мая! Не будзі апошняя! Толькі, мова мая, жыві! Як у нас кінулі лепшага паэта Пімена Панчанку. Жах! Ён рабіў усё для роднага слова. Хай высокія зоры ўпадуць на песні яго! Наўрад. Занадта чэсны і просталінейны ў сваіх меркаваннях. Паэт!

Прыйшоў да мяне Рыжык. Вока падбілі. Аднак ласку адчувае.

Каб толькі мая Валя была ў настроі. Ад яе ўсё залежыць. Дзённік гэты не хачу нікому ў рукі каб аддаваўся. Валя — адзіная мая, любая мая, не было ў мяне нікога! А яна нешта думае. А я люблю яе АДНУ!

*15 мая*

Выпісаўся з бальніцы. Атруціўся грыбамі. Пратрымалі, як добры каньяк. На май па Закарпаццю. Сёння званю Куляшову, кажа, што Пімену [Панчанку] народнага далі. Нарэшце! Напісаў вітанне.

У бальніцы перакладаў Ясеніна. У палаце 10 чалавек — умовы надзвычай спрыяльныя для творчасці.

*Пімену Панчанку з добрай нагоды*

У сэрцы народным
народны даўно,
Былі Вы прапісаны стала.
А як з афіцыйным сэрцам?
Яно
Адстала,
Ды ўсё ж навярстала!
А сёлета ранняя баразна.
Вясна змыла крыгі-інтрыгі.
У шчодрае лета вядзе Вас вясна.
Хай будзе ўмалот на кнігі!

*16 мая*

Паехалі з Генадзем Якаўлевічам [Кляўко] па Мінску. Зайшлі ў парк Чалюскінцаў. Замёрз як цуцык. Чакаў Адмірала[1] да паўдня, так і не пазваніў.

---

[1] Мянушка А. Вялюгіна; суадносна ў Р. Барадуліна была мянушка Боцман, але яна не прыжылася.

Перакладаю Ясеніна. Часу мала, трэба на ўсю выкладку. Рыцарскі турнір. Адступаць няма куды.

*17 мая*

Зайшоў раніцай Чэрня[1]. Хадзілі да Зюка [Скурко]. На рабоце ўсё добра. Заходзіў у выдавецтва Мішэль Стралец[2]. Выглядзіць хораша. Разумнейшая галава. Відаць, хутка выйдзе на перадавую. А то рознае гадаўё ў прозе галаву падняло. Яны і падмёткі ягонай не варты. Закончу пераклады Ясеніна — да першага да яго на суд.

Заходзілі з Шахам[3] да Кісі [Журовіча]. Пакутуе з кватэрай. Зачараванае кола атрымалася.

Прыйшоў дамоў — званок. «Будзеце гаварыць з Уладзімірам Елісеевічам…[4]» Дзякуй яму, пацікавіўся, як з гранітам на помнік маме. Заўтра пайду зноў у гарсавет. На другую гадавіну смерці не ўдалося паставіць помнік. З'ездзіць не мог — ляжаў у бальніцы. 10 чэрвеня трэба ўсё зрабіць. Дзень нараджэння мамы.

Да лета трэба закончыць і кнігу Гарсія Лоркі. Цягну, бо не хачу перакладаць халоднымі рукамі. Паэт вялікі, па-беларуску будзе гаварыць упершыню. Не дай бог абразіць яго і родную беларускую мову.

*18 мая*

Быў на працы — усё ціха. Хомчанка[5] цікава расказваў пра судовую практыку. Пра расстрэл. Як памяняліся ў слынны год крымінальнік і калгаснік. Пра сакратарку, якую цяжарную [ад начальніка] расстралялі.

Адмірал [Вялюгін] дома сядзіць. Даў мне заданне для ліпеньскага нумара «Полымя».

Хадзіў на прэм'еру з Зайцам «Вясёлы тракт». Нічога. Генка Гарбук з татуіроўкай на жываце.

---

[1] Чэрня Хведар Мікалаевіч (1939–1983), беларускі паэт. У 1972 —1983 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1986, пасмяротна). Прысвечаны яму верш гл.: «Гады прывыклі…» (23.11.75, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 51.

[3] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі празаік, перакладчык. З 1972 г. нам. галоўнага рэдактара, а ў 1976–1982 гг. заг. рэдакцыі збору твораў і выбраных твораў выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1979). Прысвечаны яму верш гл.: Дабрыня (6.11.78, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 123.

[4] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944), дзяржаўны дзеяч. З 1962 г. першы нам. старшыні Савета Міністраў БССР, з 1974 г. нам. старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1943).

[5] Хомчанка Васіль Фёдаравіч (1919–1992), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны. У 1972–1985 гг. заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура». Прысвечаны яму верш гл.: Тост на круглым юбілеі (26.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 84.

Званіў памочнік Ул. Елісеевіча [Лабанка]. З гранітам, відаць, усё уладзіцца. Хаця б!

*19 мая*

Згадалася ціхая маміна песня з самай раніцы. Бо мяшчанская пашляціна з радыё маладзёжных перадач, як варацакі з п'яніцы-абжоры, так і вывяргаюцца. А песня харошая. І склад думкі, і інструментоўка, і скупая, лаканічная вобразнасць:

А чый галуб
Ляціць на дуб,
А мой — на бярозу.
Чые мужы п'юць-гуляюць,
А мой — у дарозе.
А калі ён у дарозе —
! Пашчась яго, Божа,
А калі ён у каршомцы —
Забі яго, Божа!
А калі ж ён у дарозе,
Пашчась пірагамі;
А калі ж ён у карчомцы —
Забі перунамі!

Мама пяяла «каршомцы» (недзе далёка — у каршэнь). А якая рыфма: пірагамі — перунамі! Помню, мама тлумачыла мне словы: *Аблітня́* — аблітая. Раней не было купляных. Здзелаюць з драціны, абліюць волавам, і яна блішчыць, аблітаіць. Шчуку б'юць кукай, а послі аблітнёй — *аблітнюють рыбу.*

*Заходнік* — рыбалоўная прылада.

Шашаль так точаць, што адны *ашаколы* астаюцца.

*Крутадушнік* — гэта лгун, круціць душой.

Баламут — не баламут, а *беламут* — белае муціць, беламуціць.

Пра вайну ўспамінала: «У Збораўні сістра Кухарэнкава. Сына на вачах расстрэліваюць. Накінуў кажух на галаву. Матка к яму. «Мама, атыйдзіся, я жывый». А послі яшчэ раз прастрачылі пулямётам. Склалі там усю дзярэўню…»

…Часала б я касу
Па валасу
Ды сядзела б я ціха…
…Ні дня, ні гадзіны
Няма спагадзі'ны…

Кавалкамі песень, словамі ўсё ўсплывае ў памяці: «Міліцанер забраў дудкі (самагонку гналі), а маліц узяў ды *адкраў* іх».

Заграбай, матулька,
Жар, жар.
Будзе табе дачушкі
Жаль, жаль.

*20 мая*

Раніцой зайшоў Саша[1] з нейкім сябрам з міністэрства. Сябра сімпатычны чалавек у гадах. Саша пачаў заводзіцца — ледзь угаварыў дадому ехаць. З Давідаўнай[2], Іванам Цярэнцевічам [Бурсавым] і з Валяй пахадзілі па горадзе, паабедалі ў бяздарнай «Нарачы». Чытаў успаміны пра II з'езд РСДРП. Позна лёг.

*21 мая*

Раненька ласкава сустрэў мяне Бутылін. Даў пісьмо за подпісам Уладзіміра Елісеевіча [Лабанка]. З 9-ці да 12-ці прастаяў перад дзвярмі нам. старшыні гарвыканкама, нейкім Шкрэбневым (недаскробак, які атлумеў ад мітуслівай сваёй пасады. Бюракратычная праслойка чыноўнікаў, як праслойка мяса ў беконе, абкладзена салам самаздаволенасці). Нарэшце! «Табе рабіць няма чаго. Усё зроблена». Калі? Хто мне паведамляў? Праз два дні на Альшэўскага[3] выбіраць помнік. Самога зарыюць, пакуль што вырвеш, няшчасны кавалак граніту!

Быў на працы. Ноччу пісаў нешта для «Полымя». Цяжка. Каб хаця потым чырванець не давялося!

*22 мая*

Запісаўся на радыё — некалькі новых вершаў для радыёчасопіса «Паэзія». Добрыя радыёхлопцы: Юрась [Свірка], Валя[4], Казік[5]. Хораша з імі! Душой адпачываеш.

Дакончыў першы том двухтомніка Адмірала [Вялюгіна].

---

[1] Пушкін Яўген, журналіст (былы аршанскі вучань У. Караткевіча); Саша — мянушка.

[2] Немагай Галіна Давыдаўна, знаёмая; спартсменка.

[3] На вул. Альшэўскага знаходзіцца Камбінат рытуальных паслуг.

[4] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1973–1975 гг. ст. рэдактар, у 1975–1980 гг. гал. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996).

[5] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1968–1979 гг. ст. рэдактар на Беларускім радыё. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989). Прысвечаны яму верш гл.: Ну, землякі (11.01.74) // Прынамсі. С. 262.

Заходзілі да Вані [Бурсава] ў нумар «Спадарожніка». «Птичек» па калідоры — галава кружыцца. Успомнілася:

Хоть сильна, как смерть, любовь,
Но сильней привычка.
Ваня, веточку готовь —
Прилетает «птичка»!

Няхай не гнецца галінка, хай птушачкі прылятаюць да Івана Цярэнцевіча! Неспакойнай яму ночы!

*23 мая*

Званіў Навіцкі Мікола[1]. Выступаць трэба ў ін'язе перад студэнткамі з Германіі. Званіў Ваню [Бурсаву] ў нумар. Жартавалі: «Ён быў літаратар з вялікай дарогі…»

Выступаў добра Зарыцкі, Дорскі[2] здзяцінеў і пачаў чытаць свае вершы 41 года. Штук дзесяць студэнтак з ГДР і адзін нямчук без рукі.

Здаў на дублікаты[3] Вялюгіна. Усю ноч працаваў.

*24 мая*

Гадзінку задрамаў. Перадрукаваў. Да Вялюгіна ў «Полымя». Многа і дужа добра паправіў. Назваў «Брусель — Лондан. У тумане сонца (1903)»[4]. Будзе адкрываць «Полымя».

У «Беларусі» просяць перакласці Маякоўскага[5], што не перакладалася на беларускую мову.

Друкую слова «сямнаццаць», столькі «ц», бо доўга цмокаеш, як успомніш гэтыя гады.

*25 мая*

Нарэшце, здаецца, уладзілася ўсё з гранітам.

Трапіў на выстаўку з калекцыі Хаммера[6]. Шмат цікавага. Было тлумна. Спяшаліся. Заўтра раніцай трэба схадзіць і перагледзець.

---

[1] Навіцкі Мікола (Мікалай Паўлавіч; н. 1936), беларускі перакладчык, літаратурны крытык, паэт. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. У 1963–1976 гг. працаваў у Мінскім педагагічным інстытуце замежных моў.

[2] Дорскі Сямён Львовіч (1920–1992), беларускі перакладчык. У 1962–1983 гг. дацэнт кафедры лексікалогіі (пазней стылістыкі) англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Кандыдат філалагічных навук.

[3] Тэхнічная падрыхтоўка рукапісу да друку.

[4] Гл.: Барадулін Р. Рум. С. 166.

[5] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

[6] Хаммер Арманд (1898–1990), амерыканскі прадпрымальнік, вядомы калекцыянер.

*26 мая*

Званіў Генка Бураўкін. Едзе на Алтай. Паехаў бы сам, ды часу не маю. Пра Толю [Грачанікава]:

Ля церухі
Піў брагу з чайнікаў,
Віно Малдовы
Ліў з чаноў,
Шэф камсамолачак,
Г[рачанікаў],
Дапяў такі да літчыноў.

Частушка куды-небудзь:

Хрумсткія качанікі,
Качаны,
Выб'юся ў начальнікі,
Сняцца мне чыны.

Хадзілі з Зайцам на польскую выстаўку. Парфума, шмоткі ёсць. Прамысловасць — бедната. Тылько гонор польскі. Нейкія худыя манекеншчыцы.

Ваня [Бурсаў] паехаў у Маскву. Будзе Лошадзь [Бурсаў] адлежвацца, адвалакардзіньвацца.

*27 мая*

Перакладаў Ясеніна. Пахадзіў па Мінску. Халадзіна страшная. Як зазімак усё роўна.

Заходзілі з Зайчыкам да Калабка. Здаровыя сталі і ён, і Кошка[1].

*28 мая*

Званіў у аддзел, дакладней, сектар друку. Наконт камандзіроўкі ў Брэсцкую крэпасць. Іхняя ідэя. Мне падабаецца. Думаю, што адолею паэму на такую, блізкую мне, тэму.

Нарэшце граніт куплены. Чэкі ў кішэні. Зараз толькі вывезці і паставіць помнік мамулечцы маёй любай, зязюлечцы баравой маёй. Дзякуй Уладзіміру Елісеевічу [Лабанку] за памяць, за помач! Учора, дарэчы, купілі ягоную кніжку «Партизаны принимают бой».

*29 мая*

[…] А ў мяне няма шчырага чалавека. Няма тых крамак, дзе купляюць мамак.

---

[1] Калабок і Кошка — сяброўскія мянушкі Міколы і Алены Чарняўскіх.

Быў на тэлефільме. Трэба напісаць песню (Шабан[1] сцэнарый і пастаноўку робіць па ранніх апавяданнях Якуба Коласа).

Забягаўся да радыёглухачоў. Дзядусь Юрась [Свірка] кругленькі, як малады месячык.

У выдавецтве Хомчанка заварыў кашу з вялюгінскім зборнікам. Усё, відаць, уладкуецца. З пракурорскімі[2] замашкамі ды рэдакцыяй перавыданняў кіраваць.

Не магу [не] ўспомніць мамінага ўшацкага:

Жылі дзед з бабай,
Елі хлеб (з папай[3]),
Елі кашу з аўсом,
Забіў дзед бабу каўшом.

Сустрэў Куляшова ў дырэктара:

— Як з Ясеніным?

— Устаю і кладуся з Ясеніным.

— Дык што, ты і з жонкай не спіш?

Быў вечарам з Шабаном у Вагнера[4]. Генрых цікавы чалавек, віртуозная ігра, тонкае адчуванне музыкі. Мала ў нас у Беларусі адукаваных кампазітараў.

*30 мая*

Званіў Мысліўцу[5]. Учора ён з дачкой хадзіў у звярынец на Ванеева (каля Івана Іванавіча[6]).

Звяроў на Ванеева
душыць зло.
Звярам на Ванеева
цесненька.

---

[1] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык. У 1965–1976 гг. рэжысёр студыі Беларускага тэлебачання, у 1976–1980 гг. заг. літаратурнай часткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

[2] В. Хомчанка скончыў Ваенна-юрыдычную акадэмію.

[3] Хлеб з хлебам (*заўв. Р. Барадуліна)*.

[4] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988).

[5] Мыслівец Валянцін Цімафеевіч (1937–1993), беларускі празаік, нарысіст. У 1967–1976 гг. рэдактар на Беларускім радыё, у 1976–1980 гг. гал. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

[6] Калеснік Іван Іванавіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык. У 1972–1979 гг. рэдактар рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Іван Калесьнік // Дуліна ад Барадуліна. С. 92.

Вольнае месца
адно
было —
І тое
занята
Калеснікам!

(Лесвічкай пад Маякоўскага.)

Хадзіў да Ігара[1]. Абяцае памагчы паставіць маме помнік. Барэльеф яшчэ ў яго не гатовы. Паўбяды. Галоўнае пакуль што — паставіць граніт. Тэкст выб’е нейкі ягоны знаёмы скульптар. Прафесійна. Добры шрыфт падбярэ.

Быў у ЦК. Трэба напісаць невялікую рэч пра [Брэсцкую] крэпасць. Тэма ўдзячная. У сярэдзіне чэрвеня паеду ў Брэст. СП дасць камандзіроўку.

*31 мая*

Здуру пайшоў раніцай, каб ехаць у атамны рэактар. Выходзіць, пятага.

Быў у Ткачова[2]. Паэму [«Брэсцкая крэпасць»] ставяць у план 74 года. Прыціснуты да сценкі. Адступаць няма куды. Хоць бы атрымалася, каб не было сорамна…

Занёс у «Беларусь» тры вершы Маякоўскага. Для злосці перакладаў — зараз душой буду святкаваць, перакладаючы Сяргея Аляксандравіча [Ясеніна].

Вечарам хадзіў з Ланай і Зайцам у ТЮГ. «Новыя прыгоды Карлсана»[3]. Артур [Вольскі] даў мне быў перакласці. Вясёлая, цікавая рэч. Міністэрства культуры забаранілі. Ханжы! Харошая ігра акцёраў. Папрацавалі і рэжысёр, і мастак. Нашы галовы безгаловыя прывыклі, каб дзяцей манкай з лыжачкі.

*1 чэрвеня*

З раніцы да Князя [Краўчанкі]. Уладжваў усё, каб 10-га (мамін дзень нараджэння) паставіць ва Ушачах на магільніку помнік. Барэльеф пасля. Яшчэ Ігар недарабіў.

---

[1] Краўчанка Ігар Уладзіміравіч (н. 1926), беларускі скульптар.

[2] Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918–1979), беларускі пісьменнік. У 1972–1979 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] П’еса М. Мікаэлян і С. Пракоф’евай па аповесці А. Ліндгрэн у перакладзе Р. Барадуліна. Ліндгрэм Астрыд Анна Эмілія (1907–2002), шведская пісьменніца.

*2 чэрвеня*

Рана ў Маладзечна. Кніжны базар. Выступалі перад настаўнікамі роднай мовы і літаратуры вобласці. Шкада, што часу было мала. Так арганізавалі. Пасля ў палітэхнікуме. Ледзь жывы дамоў вярнуўся. Як сноп — у ложак.

*3 чэрвеня*

З Ласём і Зайцам (хатні звярынец) пайшлі ў афіцыйны звярынец. Духата. Цесната. Бедныя жывёлы. У гэтыя малагабарытныя жалезныя пеклы — адміністрацыю б. Многім цікава, наколькі яны пайшлі ўперад за малпу. Невядома, што думае малпа, калі на бязглуздых разявак глядзіць. Баюся, што кепска пра двухногіх думае.

*4 чэрвеня*

З Князем [Краўчанкам] дамаўляліся наконт машыны, каб завезці помнік ва Ушачы.

На працы не пыльна, але дужа тлумна.

*5 чэрвеня*

Ездзілі ў інстытут Сцяпанава[1] і знаёміліся з «планарам». Цікавыя рэчы і лазер, і ўсялякія дакладныя прыборы. Дакладныя навукі думаюць, многа родзяць. Гэта не наша секцыя крытыкі, якая скубе цытаты і думкі, як на запушчаных лехах моркву зніцелую.

Начаваў у Дзімы Моркаўкі[2]. Дамовіўся, каб у двары паляжаў граніт, пакуль высякуць тэкст хлопцы.

Пахавальнае бюро.

Праца. «Полымя». Майстэрні скульптурныя, Князь [Краўчанка]. На нагах увесь дзень.

*6 чэрвеня*

Зноў стары маршрут. Ілонку на гадзінку звадзіў у Батанічны сад. [...] Няма анікога свайго, анікога роднага. Ніхто не паспачувае. [...]

Мне зараз хочацца шмат працаваць (наколькі здароўя хопіць), трэба нейкая спелая восень на душы, восень шумналістая, багатая. А выходзіць — усё галутай замаразкавай адаб’е.

---

[1] Інстытут фізікі імя Б. І. Сцяпанава АН БССР.

[2] Моркаўка Дзмітрый Аркадзевіч, беларускі журналіст. Сын паэта А. Моркаўкі. Прысвечаны яму верш гл: «Зоркі-выкрасанкі...» (15.08.74) // Свята пчалы. С. 339.

*9 чэрвеня*

Пасля ўсёй калатні, крутні выехалі ва *Ушачы.* Дзякуй Лакербаю, завёз на сваёй не зусім наладжанай машыне. Ілонку пабаяўся ўзяць. Яна, бедненькая, дужа хацела. Граніт паехаў на грузавой з мастацкага вучылішча.

Ушачу цяпер так перарабілі, вядома, бязглузда, што ледзь да маёй хаты выехалі. Смутны вечар. Смутная хата. Смутны крыж на недагледжанай і беднай магілцы. Як на маім сэрцы крыж гэты.

*10 чэрвеня*

Паставілі граніт. Добра глядзіцца. Зараз трэба дробязь — агароджа і барыльеф — Князь [Краўчанка] зробіць. Хоць трохі маміна магілка налюджана. Пасадзіла Валя скачкí. Арына [Янушкевіч] аж заплакала — маме такія некалі дужа падабаліся на нейчай магіле. Трохі пасядзелі: маміны сяброўкі, Бялевуш[1], Васіль [Янушкевіч]. Дзякуй Князю! [Краўчанку].

*11 чэрвеня*

Самалёт. «Трамвайны рэйс» — да Глыбокага некалькі чалавек стаяла.

На працу. Закруцілася чортава кола. Атракцыён вар'яцкага побыту!

*12 чэрвеня*

Прыязджаюць Нагнібеда[2] і Сцепанюк[3] наконт украінскай анталогіі. Заўтра рана сустракаць.

*13 чэрвеня*

Вялюгін пераблытаў час прыезду цягніка. Шаноўныя госці стаялі без нумара да 7.30 з 5-ці. Нагнібедзе ўручылі заслужанага (знак якасці). Заходзілі з Міколам Львовічам [Нагнібедам] да Куляша [Куляшова]. Нешта кіраўнічкі з СП каменем на шыі ягонай. Замінаюць выхаду ягонага пяцітомніка. Настрой у Аркадзя народнага кепскі. «Калі б пачаў кепска пісаць, тады б супакоіліся. Не дае ім спакою, што яшчэ пішу...» Прыраслі ў СП да крэсел. Адзін шляхцюк А. К[улакоўскі[4]] чаго варты.

---

[1] Бялевуш Афанасій Васілевіч, сусед.

[2] Нагнібеда Мікола Львовіч (1911–1985), украінскі паэт, перакладчык, нарысіст. Заслужаны работнік культуры БССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1970). Разам з Б. Сцепанюком укладальнікі анталогіі «Украінская савецкая паэзія: У 2-х т.» (Мінск, 1975).

[3] Сцепанюк Барыслаў Паўлавіч (н. 1923), украінскі паэт, перакладчык. Заслужаны работнік культуры Кіргізскай ССР (1975), Чувашскай АССР (1979), УССР (1983).

[4] Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч (1913–1986), беларускі празаік. У 1965–1976 гг. нам. адказнага сакратара, адказны сакратар праўлення СП БССР, у 1977–1986 гг. дырэктар

*14 чэрвеня*

Бегаў, круціўся з гасцямі. Сумна цвярозаму слухаць вясёлыя размовы за чаркай. Асабліва калі ўсе хады думак наперад ведаеш!

Вячэра на шостым паверсе[1].

Татур[2] у нумар да іх прывёў даму з Брэсцкага пед'інстытута. Грудзі, як два Курганы славы.

*15 чэрвеня*

Адлёт. Барыслава [Сцепанюка] звадзіў да помніка Янкі Купалы. Хораша глядзіцца вялікі Беларус у зялёным пошуме ліп.

Нагнібеда хітры старац. Трымае усіх далей ад нашай паэзіі. Блізкая аналогія да сабакі на сене.

*16 чэрвеня*

Раблю патроху сілуэты для «Дня паэзіі» (74). Па тэлефоне з Вялюгіным напісалі:

Яшчэ не згаслы кратар
Штурмуючы ў пасцелі,
Загінуў гжэчны Татур
На Брэсцкай цыцадэлі…

Хадзіў вячэрнім моракам да Купалы.

Дамоў прагнаў дождж.

*17 чэрвеня*

З раніцы — Ясенін. «Сабачы сын»[3]. Гляджу свой «Рум». Прыйшлі нейкія радкі:

Калі паэт не да спадобы,
Калі на ўсіх ён не падобны,
Як не уходаеш адразу,
Як позна ўжо зусім забыць, —
Знявагай можна
І абразай
І ўрэшце —
Славаю забіць!

---

Літаратурнага музея Янкі Купалы. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986, пасмяротна).

[1] Рэстаран гасцініцы «Мінск».

[2] Татур Мікола (Мікалай Ігнатавіч; 1919–2001), беларускі перакладчык. У 1970–1979 гг. дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

[3] Верш С. Ясеніна («Сукин сын»).

*18 чэрвеня*

Ланачка паехала з цешчай[1] у Гадзічава, гэта на Гомельшчыне.

*19 чэрвеня*

Збіраюся ў *Кіеў.* Ад выдавецтва. Змок як цюцька пад халодным дажджом. Глядзеў з Зайчыкам бяздарны фільм нашай кінастудыі «Хроніка ночы». Ідыёты!

*20 чэрвеня*

Білет у кішэні. Здалі другі том Вялюгіна[2]. З Зайчыкам неблагі дэтэктыў французскі з удзелам Габэна[3] глядзелі.

Перакладаў Лорку.

*21 чэрвеня*

За вакном — амаль Лондан. Імжака. Халадзіна.

*** У тралейбусе маладзіца дастае і распраўляе змяты талончык: «Пакуль сабралася ехаць — знасіўся».

*26 чэрвеня*

Прыляцеў з Кіева. Сустракалі холадна. Выстаўку нашай кнігі дорогі друзі зрабілі ў катушку новага магазіна, на задворках.

Быў у Лаўры. Ва Уладзімірскім саборы паставіў свечкі за ўсю сваю радню (жахліва падумаць — за ўсю!)

Быў з Паўлавым і Жычкам у *Каневе.* Самастойнай калонай на параплаве «Ракета». Мясціна велічная. Сапраўды, Вялікі Тарас[4] як гаспадар Украіну родную аглядае. Мала давялося быць на цудоўнай, мілай сэрцу зямлі яму жывому. Лёс усіх вялікіх паэтаў.

Сімвалічны абламаны крыж, што яшчэ раней стаяў на магіле. Магіла сціплая далей: «Тут похований Іван Ядловський, який доглядав могилу Т. Г. Шевченка з 1883 по 1933 рік». Пад соснамі. Цэлая паэма!

У музеі, велічным і ўрачыстым, разам з тым журлівым сваімі экспанатамі, цікавае фота: Паўло Паповіч[5] спявае разам з Канеўскім народным хорам «Реве та стогне…» (1964 г.). Здорава. З космасу — на радзіму. Родныя словы!

---

[1] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005).

[2] Вялюгін А. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1973.

[3] Габэн Жан (сапр. Манкаржэ Жан Алексіс; 1904–1976), французскі акцёр тэатра і кіно.

[4] Шаўчэнка Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[5] Паповіч Павел Раманавіч (1930–2009), лётчык-касманаўт СССР. Генерал-маёр авіяцыі (1976). Кандыдат тэхнічных навук (1977). Герой Савецкага Саюза (1962, 1974). Гл.: Паклон да зор (4.05.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 92.

Дняпро непаўторны па сваёй прыгажосці. Па-харошаму зайздросна. Да Украіны як нельга лепей стасуецца эпітэт «чудова»! Едзеш, ляціш, плывеш, ідзеш — дзе ж яна, Украіна? А ёй канца няма, краю няма. Яна ніколі не можа надакучыць, бо непаўторная, бо кожную хвіліну розная. Такая сніцца будзе і ў Канадзе, і ў Сахары, такая і ў касмічныя сны пагрукаецца ў зоралёт, у ракету.

*27 чэрвеня*

Присутствие. Нікога няма. Усе як сабакі ў спёку паразбягаліся ў цянёк віна-піўных будак.

*1 ліпеня*

Задуха. Пячэ. Ездзілі ў *Нясвіж* на базар. Невялікі. Хадзіў, дзе дзюдзі ў вязніцах сядзяць, ляжаць, пішчаць, рохкаюць.

Добрая мова ў дзядзькоў і цётак. Купіў кошык для бульбы. Аснова — рэбры з ляшчыны, а рэшта з нейкай хіміі. Дружба.

*** Перабягаем з Ілонкай вуліцу не там, дзе трэба. За намі ўслед ляціць свісток. Ілонка смяецца: «Татка, свісток міліцыянерыць». І мне ўяўляецца свісток у міліцэйскай форме, з пагонамі.

Маці:

— Ілона, схадзі купі цукар. Які табе даць рубель — металічны ці папяровы?

— Металічны загарні ў папяровы.

*2 ліпеня*

На працы даў Леў Антонавіч [Салавей] некалькі італьянцаў перакласці, трэба, каб Шаўня памог усе адценні слоў знайсці.

Глядзеў з Зайчыкам «Казіны рог». Балгарскі фільм. Секс у натуральных умовах XVII стагоддзя і звычаі. Тэксту мала — ён даецца цітрамі. У нейкай ступені зварот да нямога кіно на сучасным этапе. Гукі натуральныя. Тры разы кавалачкамі гучыць калыханка. І здорава атрымліваецца!

*3 ліпеня*

Наконт Паптонева ў выдвецтва «Беларусь». Нічога не выходзіць. Шкада Рэма [Нікіфаровіча].

Да Генкі [Кляўко]. У тэрарыум заходзіў. Вартаўнік Кулакоўскі — абмылак праціўнай, пыхлівай, бяздарнай шляхты. Шанцуе на кіраўнікоў. Грачанікаў строіць з сябе нявінную бандаршу публічнага дома, які СП называецца. Гадзюшнік!

*6 ліпеня*

Зрабіў падраўкоўнікі для Уолтэра Мэя[1]. Відаць, позна. Няхай тыя стараюцца, што ў чарзе стаяць каля СП. Там Вярцінскі[2] венчыкі раздае.

*7 ліпеня*

*Вязынка*[3]. Купалава свята паэзіі сталі проста называць святам паэзіі. Выступалі на прыслонку. Смаліла невераемна. Анатоль Сцяпанавіч [Вялюгін] з Наталі[4]. Братунь[5] павінен быць са Львова. Прыедзе пазней.

Паэзіі тытаны
Сумуюць нездарма:
Вялюгін забрытаны,
А Братуня няма.

Маэстра Грынчык[6] з Любай[7] прыехаў з Гомеля. Адась з Марыяй, з малым спадчыннікам[8].

*8 ліпеня*

Раніцай сустракаў Андрэя Вазнясенскага[9]. Стомлены, пасівелы. Добрым славянскім спакоем і нейкай першароднасцю вее ад самага ультрасучаснага паэта. Ёсць сарцавіна. Паехаў адразу з Віктарам Жакам[10] у нейкую вёску Скрундзі на Казлоўшчыне. Гэта за Слонімам.

Вадзіў з Валяй Расціслава Братуня ў Музей Вялікай Айчыннай, у Батанічны, да Грынчыкаў. Вечарам паказвалі па тэле святкаванне ў Вязын-

---

[1] Мэй Уолтэр (1912–2006), англійскі паэт і перакладчык (г. Масква).

[2] Вярцінскі Анатоль Ілліч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. У 1967–1975 гг. літкансультант, у 1975–1982 гг. адказны сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Гл.: Вязынка ([1973]) // Рум. С. 43.

[4] Кедалава Наталля Канстанцінаўна, жонка А. Вялюгіна.

[5] Братунь Расціслаў Андрэевіч (1927–1995), украінскі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч.

[6] Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1970–1980 гг. заг. кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977).

[7] Грынчык Любоў Мікалаеўна, жонка М. Грынчыка. Прысвечаны ёй верш гл.: Гітара (18.01.67) // Лінія перамены дат. Мінск, 1969. С. 60.

[8] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі пісьменнік, вучоны-філолаг. У 1962–1981 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1987), прафесар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980). Марыя Карлаўна, жонка; Яраслаў, сын (н. 1969), будучы дызайнер паліграфічнай прадукцыі.

[9] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду Расійскай Федэрацыі (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[10] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук. Сябар А. Вазнясенскага.

цы. Мяне выразалі (ці барада, ці верш чытаў «Мая мова»[1]). Тут руку прыклаў і бездар Тармола[2].

*9 ліпеня*

У Зайца дзень нараджэння. Закончыўся не зусім пажадана. Пасварыліся.

*10 ліпеня*

Адлёт Расціслава ў Львоў. Праца. Крутня, мітусня.

*11 ліпеня*

Здаю свой «Рум». Пагранічнікі ўзнагародзілі знакам «Выдатнік пагранвойск» II ступені. Можа, восенню граніцу пабачу.

У СП збіраліся віцябляне — налета 1000[-годдзе] Віцебска. Шмат слоў, а толк які?

*19 ліпеня*

Кручуся ўсе дні. Дабіваю свой «Рум». Выступаў па тэле.

Пераклаў некалькі вершаў Маякоўскага.

Сёння ў клубе Дзяржынскага вечар да 80-годдзя Маякоўскага. Чытаў па-беларуску «Баязліўца». Навастрыў лыжы на Брэст.

*** «Паэзію не чытаюць, паэзію не купляюць…» Чаму ж тады прабіты том Маякоўскага? Палкоўнікі ў Чылі першага забілі Пабла Нэруду[3].

*20 ліпеня*

Пасля гадзіны ночы прыйшоў Саша (Пушкін). Ледзь уклаў. Прынёс з сабой альманах «Таёжныя далі» выдавецтва «Мысль» 72 г. Выключнае каляровае фота бурага мядзведзя.

Гром перасмяглы
Нашча
Злуецца на дзень прапашчы:
Хмары
Зноў не ўзялі з азёр ясака.
З пабурэлай расколіны

[1] Барадатых непажадана было дапускаць да тэлеэкрана.

[2] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст. Працаваў ст. рэдактарам, заг. літаратурна-мастацкага аддзела, гал. рэдактарам літаратурна-драматычных праграм, каментатарам па літаратуры і мастацтву Беларускага тэлебачання. У 1977–1980 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі мастацкіх фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм».

[3] Нэруда Пабла (сапр. Рэйес Басуальта Нефталі Рыкарда; 1904–1973), чылійскі паэт, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1953), Нобелеўскай прэміі (1971).

Мядзведжай пашчы
Вырваўся вадаспад языка…

*25 ліпеня*

* * *

А кашчавая гоніць пракос,
Маці кнігаўкай жаль дасноўвае.

Кнігаўкай з дарагіх лугавін
Прыляцела тугу дасноўваць.
Не заднее паглядам сын
У жалобнай рамцы сасновай.

Нарадзіла сына яна,
Песню сынаву нарадзіла.
Аўдавіла матулю вайна,
Песню сынаву смерць аўдавіла.

Чым паможа ўдава ўдаве.
Доля доліла сум удавіны.
Маці сына не перажыве.
Песні жыць за яе й за сына.[1]

*Брэст*

*** Яшчэ шукаюць ордэны герояў. Спазняюцца.

*Суцэле лістам і толькі камуністам клён даланісты.*

Абвогнены твар крэпасці, аглушаны стогнамі. У Мухаўцы адбіваецца крывавым зарывам абвогнены воблік Холмскіх варот (паканапачаны твар). Забрынелыя равы колеру маскхалатаў.

*Брэст.* Пагранічнік. Таможеннік засяроджаны кантрабанду шукае, як новую рыфму паэт. Рэйкі, як лініі лёсу, на тваёй далані хірамант-час няхай варожыць. Дыхалі натужна саставы, перагружаныя трывогай.

Асцярожна кожную балючую цагліну абстукваюць муляры (зноў узводзяць крэпасць памяці, крэпасць пашаны). На якім жа растворы сцены трымаліся? З якога цеста абаронцы Брэста? Хай археолагі скальпелямі рыюцца ў прабітым чэрапе тваіх скляпенняў, крэпасць.

Невядомы па спісах ваенкаматаў, а Радзіме яны вядомы.

---

[1] Верш прысвечаны сябру Сымону Блатуну (1937–1970), як і накід «Доля доліла смутак асін, Б’ецца маці…» (у блакноце), напісаныя ў Брэсце ў гэты дзень. Надрукаваны верш яго памяці гл.: «А можа, нешта перабблытана?..» (7.08.73, Кактэбель) // Свята пчалы. С. 320. Пазнака пад вершам «Брэст» — адзінае сведчанне наведвання Р. Барадуліным крэпасці ў ліпені 1973 г. перад напісаннем паэмы «Балада Брэсцкай крэпасці» (Мінск, 1975. На беларускай і рускай мовах. Пер. Г. Куранёва. Здадзена ў набор 16.05.74).

Пяціпалая зорка, тваёй даланёй планета захіналася ад жаху, табой бласлаўляла сыноў на бітву за Радзіму. Цяпер даланю пяціпалай зоркі крэпасць прыклала да ілба, прыгадвае: «Паўстань, краіна родная!»

Стыне абвогнены твар крэпасці, і толькі зімавейнай дзятлінкай студзіць далоні памяць. Дзікі голуб стогне — крык адчаю, водгулле забыцця. Крумкачовым крылом чорны граніт пліт, і больш за ўсё: «Невядомы». Як чорныя некралогі, надмагільныя пліты.

Берасцейская зямля. У XIII ст. Брэст — прыстань і вароты ў літ[вінскія] і рускія землі.

Бастыён — крапасное ці палявое ваеннае ўмацаванне пяцівугольнай формы. Бронзавая дошка і шкатулка з манетамі (закладзены пры заснаванні).

Кулявыя прастрэлы зор. Б'ецца чырвоны гальштук Вечнага агню.

Трэба вада дзецям, параненым, кулямётам. Кулямётныя, потым ордэнскія стужкі. Многім не доліла было прачнуцца. Да патрона апошняга і да апошняга чалавека. Калі ў параненага цэлыя рукі — начыняў патронамі кулямётныя стужкі. Ёсць хоць вока адно — сачыць ворага. «Не пераявязку рабіце, дайце лепей патронаў!» Узбек крычыць: «Мая камуніст, мая ні з месца!..» Кіжаватаў развітаўся з маці, з дзецьмі і жонкай (пасля іх расстралялі).

Вывернулі кішэні, [сабралі] пыл ад махоркі, скруцілі цыгарку, з рук у рукі па кругу.

Крэпасць нагадвала вялізарную каменаломню. Прачнуцца ў палоне, расплюшчыць вочы, бачыць, як гаснуць у небе зоркі. Трава… палон…

У Брэсце 45-я нямецкая пяхотная дывізія (сфарміраваная на радзіме фюрэра) размясціла тры вялікія могільнікі. Пастар 45-ай дывізіі Рудольф Гшопф «Мой шлях з 45-ай пяхотнай дывізіяй». Загад: «Дзейнічаць няшчадна і бессардэчна, *не расстрэльваць, а вешаць*… пасылаць у лагер для ваеннапалонных усіх валацужных асоб мужчынскага полу ад 16 да 60 год, усіх немясцовых жыхароў, уключна і жанчын, за якіх бургамістр не ручаецца сваім жыццём».

Ноч. На небе зоры гарацЬ, ад іх нават свецяцца камяні. Як светлякі, трасіравалі кулі. Шаблоўскі ранены і кантужаны. 22-га — нядзеля, дужа цвіла белая акацыя. Нарадзіла сына — імя [дала] ў гонар бацькі. Колькі зорачак з пілотак, столькі на рахунку галоў у фашыста.

Чакалі Бухенвальд і іншыя канцлагеры — Заксенхаўзен, Хаммельсбург. Адрасы таварышаў сціралі з памяці лагеры смерці і франтавыя дарогі. Не пазнавалі адзін аднаго, не ведалі, якое чысло.

Лейтэнант з пісталетам. За ім палюе хіжак-знішчальнік.

Здабылі старую ватоўку, вышчалыкнулі з яе вату і заткнулі вушы.

*1 жніўня*

Канец ліпеня на нагах, на тралейбусе, на таксі.

Прыехаў Андрэй Вазнясенскі. Выступаў у СП. Крыху незвычайна было спачатку. Мікрафон, відаць, не патрэбен быў для такой залы. Крыху было выкрыкваў, а пасля стала добра слухаць. Чытаць ён умее. Давярае слухачу, прымушае яго ісці за ім. Пасля была вячэра ў Каламінскіх[1]. Сумна. Нейкім […] салончыкам патыхнула. Андрэй стомлены быў, стараўся быць уважлівым.

*2 жніўня*

З Жакам ездзілі ў *Волчкавічы*, дакладней, на вадасховішча. Да Андрэя [Вазнясенскага] прыехала нейкая Наташа. Дужа мілая. У аркестры недзе ў Маскве. Дужа выразныя вочы.

У нумары вячэра кароткая. Андрэй Макаёнак[2] тамадоўнічаў, нагаварыў мне воз прыемных фраз. Сказаў, што мне, як надзеі, трэба узваліць на спіну цяжкі воз адказнасці, цягнуць лямку. Пінжак навырост даў. Цікава выказваўся наконт працы. Чым больш часу працуеш над рэччу, тым меней поту, тым лепей яна атрымліваецца.

Андрэй Вазнясенскі — адкрыты нерв паэзіі. Перафразуючы ягоныя ж словы — вялікі прыгонны Вялікай рускай мовы, той мовы, якая не ведае шавінізму, пагарды да другіх моў, мовы шчырага рускага сэрца.

Нешта ад селяніна ёсць у Андрэя, даверліва-стомленыя вочы, як летнія азёры: цёплыя, загадкавыя, поўныя дабраты. Прачытаў яму, была просьба шчырая, «Маю мову», «Матылька», кавалак «Панны Варшавы». Падабалася яму гукавы пераліў слоў, вобразная сістэма. Цмокаў над рыфмай «Варшава — вырашала». Прызнаўся, што баяўся слухаць мае вершы, каб не расчаравацца ў тым, што чуў пра мяне і пра вершы мае. Але сказаў, што знаёмства непасрэднае адбылося. Праспяваў яму некалькі маміных песень[3]. Прачуліўся.

Паехалі з Наташай і Жакам на Свіцязь.

*3 жніўня*

Бегаў і таксаваў як учадзелы. Так-сяк, тое-сёе, гэта самае ўтрое. Праводзіць у аэрапорт прыйшоў Пушкін. Няхай не Аляксандр Сяргеевіч, але ж Пушкін [Яўген] праводзіў у Кактэбель — трэба апраўдаць высокі давер.

---

[1] Каламінскі Якаў Львовіч (н. 1934), беларускі вучоны-псіхолаг. Доктар псіхалагічных навук (1981), прафесар (1982). Дзейны член Акадэміі адукацыі РБ.

[2] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). У 1966–1978 гг. гал. рэдактар час. «Неман». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1974). Гл.: Андрэй Макаёнак // Дуліна ад Барадуліна. С. 64.

[3] Гл.: Андрэй Вазнясенскі // Тамсама. С. 116.

*Сімферопаль!*

Адразу ж дамовіўся з таксістам, дужа сімпатычным хлопцам, які і кропелькі падабраў Юркі Голуба[1] (вочы, профіль, рухавасць). Проста прыемна было ехаць. Па дарозе везлі, як у нас сена, вялізныя прычэпы шалфею, пах незвычайна прыемны і ласкава-рэзкі, як брытва, рэзаў праз ледзь адчыненае шкло. Цвет ягоны нагадвае верас. Сарамяжліва цвіце.

Расказваў і паказваў па дарозе татарскія паселішчы. Як радкі вершаў гучаць: Карачы-базар, Карачоль, Таплы (*даплыў імглы*). Рэчку чамусьці з Карасу зрабілі галавацяпы Вялікая Карасёўка.

Салы́ (аўторак). Адзін татарын трымаў карчму. Абвясціў, што ў аўторак кожны частуецца бясплатна. Людзі збіраліся, а ён ў гэты час ехаў у Феадосію. Ён ці змікіціў, ці схвядосіў, а на самай справе аб'ягорыў[2].

Адна гара ў перакладзе абазначае — доўгая спіна.

Праязджалі былы жаночы манастыр. Манастырскі сад абсаджаны густа таполямі, як настаяцельніцы таполі стаяць, не пускаюць у сад прыгажосці плоцкія радасці.

Здорава сказаў: дома вінаград збіраюць, нібы дояць.

*[Кактэбель.]* Толькі прыехалі — Артур Вольскі з жонкай і сынам. Яны раней прыехалі. Далі нам нейкі свінушнічак. Няблага. Але магло быць усё лепей. Ішлі ў сталоўку на вячэру, і раптам нечакана — мора. Заліў збіраўся нанач. Лагодны. Дождж. А ў Мінску проста спёка.

*** Рыюць каменчыкі пад указаннем экскурсавода, як каты зямлю на патрэбу. Мора шліфуе камень, як радкі. Мокрыя цікавыя. Высахнуць — шэрыя.

На базары. Дабрадушная есць персікі:

— Як паеду на базар, папраўляюся на тры кілаграмы.

— А я, наадварот, худзею, — ([кажа] злая, заядлая).

*8 жніўня*

* * *

Хоць скарыліся тэхніцы  
Вышыня і прастор,  
Спіць хамут пад павеццю,  
Калёсы — пад плотам, —  
Пераводзяць  
На конскія сілы матор,

[1] Голуб Юрка (Юрый Уладзіміравіч; н. 1947), беларускі паэт. У 1970–1978 гг. рэдактар Гродзенскай студыі тэлебачання, у 1978–1979 гг. заг. аддзела культуры абласной газ. «Гродненская правда».

[2] Гл.: Салы (22.08.73) // Свята пчалы. С. 313.

Вышыню вымяраюць
Птушыным палётам.

*Кактэбель*

*18 жніўня*

* * *

Між двух паглядаў
Адна прамая.
Абразе
Сутаржыцца каржава.
Душа
Залежнасці не прымае,
Бо суверэнная,
Як дзяржава.

Мне б зоры знебіць
Тугой гаркавай,
Каб ты пачула
Мальбу адчаю.

Я — лебедзь белы
Над чорнай кавай;
Кальцуй даверам,
Бо адзічаю!..

*Кактэбель*

*26 жніўня*
*Ілонцы расказваю:
— Тут, у куточку на падваконніку начаваў матылёк.
— Чаму ты не сказаў яму «добрай раніцы»?[1]

* * *

Хай бродзіць твой радок, Зуёнак,
Шаленствам вінаградных гронак!

*[1973]*

* * *

Унізе аблокі —
Сувалкамі воўны,

[1] Гл.: Ранішняя размова (26.08.73, Кактэбель) // Ці пазяхае бегемот? Мінск, 1981. С. 37.

Бусліны клёкат,
Радзіны, войны…

Спакою валокі,
Прыгорблены спіны.
Плывуць аблокі,
Плывуць успаміны.

Ды страх хіжавокі
Са сховішчаў выбег:
Клубяцца аблокі
Ці атамны выбух?

Стараешся — марна! —
Маўчанне слупа мець.
Уверсе бясхмар'я
Халодная памяць.

*[1973]*

*5 снежня*

Апошні месяц года. Пасля Кактэбеля было ўсяго — і хвароба, і яшчэ адно расстанне — памёр Уладзіслаў Нядзведскі[1].

А вайна даўгі спаганяе:
Паміраюць бары і паэты.
…Не на звонкіх саракагоддзях —
На шчымліва-глухіх сарачынах.

Амаль тыдзень ляжаў у моргу. Неспазнаны, бачыце. Збіла машына, аўтаінспекцыя зрабіла нейкае заключэнне. У кішэні было пасведчанне аб інваліднасці. У СП не знайшлося месца хоць на гадзіну пакласці. «ЛіМ» даў без партрэта, некралог без прозвішчаў — «Група таварышаў» (як у анекдоце пра зайчыка і ваўка). Пакідаюць месца для розных Кулакоўскіх… Што ж, Барыс Пастарнак[2] памёр членам Літфонда.

У СП барацьба за партфелі. Мележ быццам ідзе з сакратароў (усё ўзяў, што мог даць саюз. Цікавая штука. Мележ — цудоўны пісьменнік. Але калі не быў ля кармушкі, не заўважалі). На яго месца рвуцца ўсе з ашчэранымі пашчамі і, пакуль што, падцятымі хвастамі — потым распушаць іх, каб так-сяк сляды замятаць! Рвецца дужа палешучок Барысе [Сачанка]. […]

---

[1] Гл.: Паэзія дарог і сустрэч (1979) // Парастак радка, галінка верша. С. 61.

[2] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

*28 снежня*

*Анатолю Вялюгіну*

Ліўнямі, вятрамі абсцябаныя,
Муражэюць па вясне лугі.
З Новым годам, Анатоль Сцяпанавіч,
З новым паўстагоддзем, дарагі.
Хай жа песні маладымі паннамі
Просяцца к Вам на начлег даўгі,
Будзяць з Вамі рання берагі.
З Новым годам, Анатоль Сцяпанавіч,
З новым збораў твораў, дарагі.

[З варыянтамі.]

*31 снежня*

*Алесю Савіцкаму*[1]

І зімавей сіваброва аціх,
І снег паспеў паплавам пакланіцца.
Гілі пазванчэлі ў галлі,
а па іх
Сумуюць полацкія пляніцы.

*[Снежань]*

*Віктару Жаку*

Ты нарадзіўся ў Новым годзе,
Не па-дэканску ўзнёслы Жак.
Балюй спакойна на выгодзе —
Далёка пенсія й ляжак!

*Васілю Быкаву*

Мы, усе твае сябры, Васіль,
Перад паважным паўстагоддзем
Павагі неба распагодзім —
Вяршыні новыя асіль!
Вайны трывогі адгулі,
Старым не давяраеш мінам.

---

[1] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. У 1969–1973 гг. заг. сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Ганаровы грамадзянін г. Полацка (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

Як з-пад Ушачы,
тры гілі
Гараць трывожным успамінам.

[На паштоўцы з гілямі.]

*Васілю Зуёнку*

Быў чулым мужам, добрым татам,
Паэтам адмысловым,
А зараз стаў ты кандыдатам, —
Найсамы — адным словам…
Жадаю, каб у Новым годзе
Ты быў, мой верны друг, ого дзе!

*Генадзю Бураўкіну*

У Новым годзе, дарагі Генадзь,
Жадаю сэрцы юныя кранаць.
Пакуль яшчэ пустыя п’едэсталы,
Вядзі рашучы бой, як воін сталы!

* * *

Друг мой любы, Рэм Нікіфаровіч,
З адзінаццаці і да сямі
П’ем «Пад шпілем»[1] за тваё здароўе,
За здароўе ўсей тваей сям’і!
Потым, як сказаў мудрэц Ракітны[2],
Зірк ялопім на экран блакітны.
А як будзе ўсё з цаной у згодзе,
Мы пахмелімся у новым годзе!

*Артуру Вольскаму*

Гадуйся, любы, на выгодзе,
Ні ў чым, Артур, не ведай мелі.
Каб лёс не ўцёк — тужы́ ласо.
Як напамін аб Кактэбелі
Табе я шлю у навагоддзе
Партрэт самога Пікасо![3]

---

[1] «Пад шпілем» — кафэ «Вясна».

[2] Ракітны Мікола (сапр. Новікаў Мікалай Іванавіч; 1920–2000), беларускі пісьменнік. У 1967–1980 гг. рэдактар аддзела літаратуры і мастацтва час. «Беларусь».

[3] Пікасо Пабла (сапр. імя Руіс; 1881–1973, французскі мастак, графік, скульптар, кераміст іспанскага паходжання. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Міра (1950), Міжнароднай Ленінскай прэміі (1962).

*На радыё*

Шаноўныя эфіратворцы,
Мае найшчырыя сябры,
Не чырванейце на планёрцы,
Нібыта гэты снегіры.
Няхай Залескі сам залее,
Не трэба мерыць многа міль, —
І горлы ёсць, і ёсць балеі,
І «Тэатральнае», і «Шпіль».

*Міколе і Лене Чарняўскім*

Дарагія калабкі,
Тоўсціце сабе бакі,
Як дзве птушачкі жывіце,
Ды сука не абламіце!

*Івану Чыгрынаву*

Іване, што шавак пагрозы,
Ты лінію не крыві, —
Як апраўданне ўсей нашай прозы
Тваё «Апраўданне крыві»!

*Алегу Салтуку*[1]

Звіні ў паэтычным стане,
Крыніц ушацкіх чысціня.
Няхай высокім поўднем стане
«Пачатак дня»!

[Аўтограф верша П. Панчанкі:]

*Рыгору Барадуліну*

З нас многія прагнуць разумнага,
Сапраўднага і чалавечага.
А восень, цяжкая і сумная,
Шпурляе ліствой пакамечанай.

З нас многія прагнуць праўдзівасці,
Звычайнай людской натуральнасці.

[1] Салтук Алег Уладзіміравіч (1946–2015), беларускі паэт і празаік. У 1969–1973 гг. адказны сакратар ушацкай раённай газ. «Патрыёт», у 1974–1979 гг. уласны карэспандэнт абласной газ. «Віцебскі рабочы». Лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча, прэміі «Залаты купідон» (2011). Салтук А. Пачатак дня. Мінск, 1974. Прысвечаны яму верш гл.: Прыпар ([1972]) // Журавінка. С. 81.

Для радасці мы нарадзіліся,
А гора ізноў паўтараецца.

І знікнуць адразу дарадчыкі,
І ластаўкі пырхнуць у Крым.
У радасці — звонкая складчына,
У горы — самотна гарым…

Хлусня да хапугі прыцерлася,
Зрадніўся ён моцна з рублём.
Бязлітасным смехам хацелася б
Такога прабіць.
Ці праб'ём?

А можа, пытанне замажам?
Дадзім адпачыць і радку.
Далей ад кулацкіх замашак —
Па першым нясмелым лядку.

А верш адпачынку не просіць,
Імкнецца да лепшых людзей.
Хай ластаўкі зноўку прыносяць
У дзюбах драбочкі надзей.

*[1973]* *Пімен Панчанка*

## 1974

*27 студзеня*

Перад Калядамі прыязджала Марушка [Трафімава]. Прывезла свежаніны. Запахла ў хаце ўшацкім духам. На ўбоіны не ездзіць мне дамоў.

Працаваў шмат, до завроцэння гловы. Які толк выйшаў з гэтага — паглядзім!

Дзённік трэба пісаць, як і вершы, калі пішацца. Доўга не вёў. Сёння запахла вясной — адлежыцьць, на рынку быў. Здалося, што сініца заціўкала. Раніцу пачаў услаўленнем «сяброў».

[…]

*30 студзеня*

*Якаву Хелемскаму*

Хай у Вас,
Шаноўны Аляксандравіч,
Узлятаюць жаўрукі з рукі,
Хай бунтуе ў вершах дух масандраўскі,
Вінаградалозняцца радкі.
У Кызыле з малака авечага
Моцная, як дзесяць год назад,
Арака, і ў параўнанні з вечнасцю
Шэсцьдзесят — яшчэ дзіцячы сад!

*Адаму Мальдзісу*

У Польшчы ён — паляк,
Літовец у Літве,
Найбеларус у Беларусі.
Ён чуе ў слове смак,
А колькі ў ім жыве
Людзей, —
                злічыць я не бяруся!
А муза шэпча: «Не аддам! —
Для дам ён мае кус не чэрствы.
У акадэміі Адам —
Энцыклапедыя братэрства».

*[Студзень]*

*1 лютага*

Кожную раніцу рэдагуем украінскую анталогію. Без Вялюгіна рады б не далі. Кожны раз проста ашаламляе: такое вока, такая хватка, такі вопыт! Нешта падчас ёсць ад гіпноза, здаецца[1].

Неяк разгаварыліся пра рыфмы, у мяне, кажа, ёсць сшытак спецыяльна заведзены. Даўно думаю, што час салаўя ад гаёў да зямлі спускаць. *Салаўі — пугаўі*. Я, вядома, падражніўся, што ўкраду рыфму.

Сёння на прыпынку тралейбуса купіў пучок вярбовых галінак з коцікамі.

Думаю, не так абы
На пачатку лютага
Смела коцікі вярбы
Кіпцікі расплюталі.
Колькі светлай харашбы,
Варажбы…

*3 лютага*

Насіў Куляшову карэктуру «Кнігі зямлі» Кайсына Куліева[2] (пераклад ягоны). Сумнавата-самотны сядзіць без двух дзён юбіляр[3]. На стале спіс, падпісвае запрашэнні на банкет. «У сорак год добра юбілеі адзначаць, — жартуе, — сілы яшчэ ёсць».

Выдавецтва нешта хоча перахітрыць з дагаворам. Адзін з лепшых нацыянальных паэтаў, а не дужа заможна жыве. Як вязень — кнігі, праца, праца, кнігі.

У наш час робіцца подзвігам быць нацыянальным паэтам, у век так званага сцірання. Толькі зямля нацыі — не школьная дошка, нацыя — не крамзоліны крэйдай, якія лёгка сціраюцца. Нацыя жыве ў паэтах, мова столькі вякоў у песнях трымалася, у прыказках і пагаворках. Рака, якая збірае рачулкі і ручаіны, набываючы фатальна змываючую сілу, урэшце, сама раствараецца вадой гэтых ручаінак і рачулак.

Цікавая дэталь. Зайшоў сын Куляшова, піжончык сярэдняй рукі.

— З якога года?

— З 1946 г. Я ў такім узросце на фронце быў. Дарэчы, «Сцяг брыгады» напісаў.

*** Вычытваю Кайсына Куліева Куляшова і машынапіс (ягоны) — *усьмешка.* Стары правапіс, нечым кранае. Зноў — *подзьвіг.* Шкада правіць. Правільнае вымаўленне адлюстроўвае гэты значок.

[1] Гл.: Анатоль Вялюгін // Дуліна ад Барадуліна. С. 110.

[2] Куліеў Кайсын (1917–1985), балкарскі паэт, празаік. Народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974). Гл.: «Няма народаў малых…» (11.05.74) // Свята пчалы. С. 288.

[3] Гл.: Акраверш з нагоды (3.02.74) // Прынамсі. С. 223.

*10 лютага*

Адгрымеў вечар Аркадзя Аляксандравіча [Куляшова]. Узнагародзілі як і Твардоўскага (за Твардоўскага, відаць) Чырвоным Працоўным Сцягам[1]. Давід Кугульцінаў[2] не сунімаўся на вечары і банкеце — быў яўна незадаволены прыніжэннем такога паэта.

Якаў Хелемскі застаўся задаволены, як адзначыла яго юбілей наша прэса. Па даручэнні Аркадзя Аляксандравіча падымаў на банкеце тост за Якава Аляксандравіча. Экспромт цераз стол кідаў:

Нібы косы лівень
Па веснавой зямлі,
Прыйшоў Кайсын Кулieў —
Дык за няго налі!

У адказ крычаў: «Брат мой, друг мой, прыязджай на Каўказ!»

Расул Гамзатаў напісаў мне пару слоў на сваім «Дагестане». Проста паднёс яму зборнік — хай на ўспамін будзе.

Наогул, Беларусь, як некалі Сібір, пачынаюць абжываць сваёй дружбай і Вазнясенскі[3], і Еўтушэнка[4], і Гамзатаў, і Кулieў.

*11 лютага*

Панядзелак пачаўся працоўна. Служба. Адмірал [Вялюгін]. Лася вадзілі з Зайчыкам у музшколу.

Чытаў адзін зборнік. Вясёлыя думкі прыходзяць. Той рэдактар. Той намеснік. Чахарда. Некалі, помню, Сабаленка[5] быў намеснікам «ЛіМа». Якой фігурай здаваўся нам пасля ўніверсітэта. На радасці падпісаў свой зборнік яму, ягонай жонцы і, здаецца, дачцы. Усё шчыра было. Але навошта ў адзін дом столькі кніжачак аднолькавых. Зараз бачу Рамана Карпавіча — лагодны пенсіянер пасля інфаркту.

Кім па пасадзе быў пры жыцці Янка Купала? Каму гэта цікава? Ён быў Янкам Купалам. Пасля смерці ён астаўся Янкам Купалам, вялікім паэтам, вялікім славянскім паэтам!

---

[1] Ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга.

[2] Кугульцінаў Давід Нікіціч (1922–2006), калмыцкі паэт. Народны паэт Калмыцкай АССР (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976).

[3] Гл.: Андрэю Вазнясенскаму (18.02.74) // Свята пчалы. С. 329.

[4] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (н. 1933), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2009). Тройчы намінаваўся на Нобелеўску прэмію.

[5] Сабаленка Раман Карпавіч (1907–1975), беларускі пісьменнік.

*12 лютага*

Сустракаліся з маладым вучоным з Узбекістана. Цікавая тэма ягонай будучай кандыдацкай — узаемасувязі беларускай і ўзбекскай літаратур. Завёў у Музей Янкі Купалы. Здзівіла яго сціпласць нашага вялікага Беларуса. «Не тое што нашы акадэмікі!» Зайшлі ў апошнюю залу. Там падарункі ад рэспублік. Адразу, толькі ўваходзілі, угледзеў узбекскую вазу. «Наша!»

Давёў да саюза. Як несхлямяжа сядзіць на ім еўрапейскі пакрой. Як благі пераклад. Наогул, пераклад не з арыгінала ці хаця б з парадкоўніка, а з мовы-пасрэдніка, — тое самае, што ў разводдзе адпіхвацца шастом не ад берага, а ад крыгі (хай і дужа вялікай!) — няма адчування грунту.

Быў у рэдакцыі. Зайшлі з Вярхоўнага Савета Піліп Сямёнавіч Пестрак[1] і Анатоль Вялюгін. У аднаго ў карабку і ў пажылым партфелі ордэн «Дружбы народаў», у другога ў карабку — «Знак Пашаны». Ордэн на сцяг рэспублікі і на грудзі цудоўнага, легендарнага чалавека і харошага пісьменніка добра стасуецца!

Пестрак, недабачачы, глядзіць свой верш у анталогіі па-ўкраінску, а чытае па-беларуску — добра помніць, бо ў турме пісаўся, кожны радок адшліфаваны. «Паэзіі».

Анатоль Сцяпанавіч цікава прапанаваў перакласці на беларускую мову «не было ни гроша и вдруг алтын» — «не было ні гроша і раптам шастак». Здаецца, здорава.

Цікавая рэч. З кожным годам, дакладней, днём, чым далей мама аддаляецца, больш успамінаецца, больш прыходзяць на памяць яе выразы, яе словы. Расказвала. Кабета крыўдуе на нявестку: «Яна мяне гладка ад печы адпаса́жыла». (Мама смяецца: «Хай бы мяне хто адпасажыў, а то надаела спіну гнуць. Паляжала б на печы…») Слова «адпрэчыць» — літаратурнага паходжання. Адпасажыць (даць пасаг, аддзяліць) — хораша, мякка, вобразна.

Ці згадваецца папеўка аднаго музыкі:

> Цераз рэчку жэрдачка,
> На тым баку сэрдачка.
> Клічу, клічу — ня чуець,
> Ніхай з богам начуець!

Гэта пад скрыпачку пяялася…

Цікава, пра ўсведамленне нацыянальнай годнасці. Абедаем. Расулу [Гамзатаву] кажу, што ён выдаўся ў нас у серыі «Паэзія народаў СССР»

---

[1] Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 20–30-х гг. дзеяч КПЗБ, неаднаразова сядзеў у турмах Заходняй Беларусі (Польшча). Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964).

у неблагой кампаніі: Някрасаў, Гамзатаў, Куліеў, Ясенін. Мыркнуў пад нос: «Адзін іхні, адзін наш. Добра, можна лічыць». У гэты час жанчына прынесла падпісаць паштоўку на памяць, з падзякай за песню «Жураўлі». І прафсаюзны білет раскрыты, каб прозвішча не перапытваць Расулу. Нешта ў гэтым даверлівае ёсць…

*14 лютага*

Многа спраў, многа перакладаў трэба рабіць по долгу службы. Але разгарнуў Пушкіна, перагледзеў беларускія пераклады ў аднатомніку — большасць зроблена гэтай кучай (у беларускім сэнсе) магутнай адной левай. Літараедства, ахламоністасць, не дух, а літару перадаюць, апранаюць изящную славеснасць у нацшарачок, тым самым прыніжаюць веліч Пушкіна і магчымасці нашай гнуткай, мяккай, мілагучнай мовы.

Паспрабаваў сам, дакладней, адважыўся, перакласці Аляксандра Сяргеевіча з вопыту дасягненняў сучаснай версіфікацыі беларускай.

Паэт! Не даражы прыхільнасцю народнай…![1]

Не ведаю, што атрымалася. Хай адлежыцца…

*15 лютага*

У Юхноўскага[2] на свежаніне быў — дзікі япрук (у адносінах да дзікага лепей гучыць — япрук).

*** У лазні (у прымыльніку) узважваюць на вагах. Стары глядзіць на маладога мужчыну: «Ён яшчэ малады, у яго яшчэ сіла важыць».

*16 лютага*

Чамусьці сама лезе ў галаву ўшацкая частушка:

Ашалела галава,
Ашалелі ногі.
А каб гэтай галаве
Прычапілі рогі.

Адлега з'ела снег. Пахне вясной. На рынку купіў сыр. Кабета: «Каб бабе — не дала б цалафану, а мужчыну…» Цалафан побач з прадвечным сырам. Няма той вымытай бялюткай анучкі!

У Ілонкі спытаў, хто такі шорнік. «Хто шорты шые». Нічога сабе адказ!

Перакладаць класіку. А гэта трэба рабіць, каб засведчыць свету трываладзейнасць мовы нашай, мовы, карані якой да белаты вымыты рэкамі славяншчыны, рэкамі часу, кожны гук якой галькаю, быццам на

[1] Пераклад верша А. Пушкіна («Поэту»).
[2] Юхноўскі Міхаіл Ан., знаёмы (жылі побач на Рэспубліканскай вуліцы).

губах акіяна, вывераны вятрамі часу, вятрамі, што няўмольныя да малюпаценькай фальшывінкі.

1917 год — год нараджэння афіцыйнага роднага слова. Як гэта мала ў параўнані з вечнасцю! За такі кароткі абмежак мова паказала, што трывалая яна і жыццядайная. Не будзе мяне, не будзе і майго паўтарэння, а яна выжыве. Задужа доўга таўклі!

Некаторыя вершы А. С. Пушкіна перакладаю пасля Глебкі. Доль мне, Божа, каб пасля мяне перакладалі, — тады будзе вядома, што мова развіваецца, журчыць, як Крывуха ў Задаброцці. Хай ідуць пакаленні за пакаленнямі! Беларусамоўныя пакаленні!

«Буря мглою небо кроет» — для каго перакладаю? Для ўласнага самазаспакаення, для таго, каб даказаць, што наша мова можа ўзняць любыя пласты.

*** Ноччу па снезе нервовымі пальцамі барабаніць адліга. Раніцай марозік. Белыя коцікі. Заінелыя вейкі бяроз. Бярозы глядзяць праз заінелыя вейкі. Глядзяць на яліны. Яны — зялёныя, ажно дымяцца (*да марца*). Нязвыкла скрыпіць сарока. Цінькае сініца. Каташкі вярбовыя завярбоўваюць.

*19 лютага*

Учора паклалі Ілонку ў бальніцу. Сумна ёй, гаратніцы, будзе. Эпідэмія грыпу, не пускаюць бацькоў на спатканне.

Устаў раніцай разбіты. Усю ноч то у жар, то ў холад кідала. Як некалі будзіла мама, ласкава дражнячы: «Рыгор, цягні багор — тачыла плывець…» Ніхто так не разбудзіць, ніхто не пажалее.

*** Ілонка кажа: «Па гарызанталі — рамень, па вертыкалі — зашпільваць паліто».

*20 лютага*

Хадзілі з Зайцам у бальніцу. Насілі таго-сяго Ласю. Быў у Анатоля Сцяпанавіча [Вялюгіна]. Ухваліў тры пераклады Пушкіна. «Зімовы вечар» не лёг, сам адразу прызнаў і прызнаўся. Атрымалася «Зімовая раніца». Званіў сёння Віктару Шрамякову[1], каб працаваў, а не сядзеў у «Каменнай кветцы» [рэстаране].

У нашы гады нам, хто не імкнуўся да пасад, хто іх не меў і мець не будзе, — толькі на свае вочы, мазгі, рукі спадзявацца след. Пасада — асенняя крыга: растала, калі не ўмееш плаваць, глытай бурбалкі. У мастацтве так.

Вечарам быў на імянінах (55 год) у маладзіцы з Валінай работы. Ольга Іванаўна Верамейчык. Харошай душы чалавек, прыроджаная мінча-

[1] Шрамякоў Віктар Рыгоравіч (н. 1930), беларускі мастак.

нка, цяжкое жыццё. А колькі весялосці (так весяліцца толькі той, каму штодзень цяжка і дужа не весела), колькі дабраты ў вачах. Падымае чарчыну, рукі, што кожны дзень чысцяць бульбу, мыюць, цыруюць дома, на працы правяць дурацкія артыкулы, а вочы — нешта ад старых беларускіх абразоў. Вось яна родная наша інтэлігенцыя, рукі нашых матуль, у вачах дабрата нашых матуль і набытая ведамі акрыленая ўзнёсласць.

*24 лютага*

Мне сёння 39. Радавацца няма чаму. Учора быў у Сяргея Панізніка[1]. Дзякуй яму, тры песні ўшацкіх пяяла мама.

*9 красавіка*

На рагу гасцініцы «Мінск» дзеўчынятка з пралескамі. Пад вечар холадна, сонца перайшло. Бяру пралескі — пакрэплая ручка мурзатая.

* * *

Завеі няма калі
плакаць над жорнамі,
Што меліва лёгкае
налілося цяжарам.
Ці белая котка
з праталкамі чорнымі,
Ці гэта панна Вясна
праходжваецца тратуарам?

*1974 (занатавана наноў 5 чэрвеня 1994)*

*19 красавіка*

* * *

Пакуль Шамякін мыкаў, пыкаў,
Заваяваў Еўропу Быкаў.
Ты, крытык, зубы не тачы,
А то палічаць чытачы!

*30 красавіка*

Бягу вечарам да Вялюгіна з перакладамі ўкраінскай анталогіі. Каля кафэ «Вясна» (перад закрыццём якраз) міліцыянер з рацыяй: «Прышлі-

[1] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА ВМФ (1967) быў ваенным журналістам (па 1975). У 1976 г. працаваў фельчарам траўмабрыгады на станцыі «Хуткай дапамогі» ў Мінску. У 1977–1978 гг. стыльрэдактар у газ. «Вячэрні Мінск». С. Панізнік запісаў голас Акуліны Андрэеўны Барадулінай на магнітафон. У рабочым нататніку яму прысвечаны верш; гл.: «Курлы-курлы...» (14.08.73) // Свята пчалы. С. 308.

це машыну к «Вясне». Ёсць груз…» Заходжу ў кафэ — сядзяць хлопцы нармальна, цэдзяць піва. Выходжу — паміж двайнымі дзвярмі — спіць, седзячы, дзядзька, — вось ён «груз».

*1 мая*

Хутка! — толькі можна сказаць пра час.

Хадзіў з Зайцам і Ланачкай у госці да Шрамякова. Да яго маці прыехала. Назвала сваё імя, па бацьку — не запомніў.

Цяжка запамінаю…[1]

*2 мая*

Хадзіў да Вялюгіна. Дабіваем і ўсё дабіць не можам анталогію.

Перакладаў трох італьянцаў. Цікавая гімнастыка, толькі Шаўнюк [Шаўня] такія парадкоўнікі зрабіў — хай жыве сто год і два разы па столькі рачкуе! Ні арыгінала пад рукой, ні слоўніка, ні Шаўнюка.

*3 мая*

Італьянцы, украінцы. Толькі ў магазін прыхваткам бегаю. Нешта накшталт дажджу сабіралася. Дужа зелянець ўсё пачало…

*4 мая*

Без чвэрткі пяць прахапіўся ад шоргату і шуму. Гэта мой вожык Гарбучок (падарыў Гарбук, бо ў самога ўсю кватэру загадзіў) залез у эмаляваны таз, а вылезці не можа. Нахіліў, доўга не асмельваўся вылазіць, нарэшце вылез. Праз хвілін колькі тупат, фырканне, шоргат. Лезе назад у таз, таз слізкі, да паловы перахіліцца — падае, злуецца, пабяжыць на кухню, нешта ўгрызе і зноў хоча залезці ў таз. Для дзіцячага празаіка — цэлая серыя апавяданняў, асабліва для чыстых урбаністаў.

*11 мая*

Самы смутны дзень. Тры гады ўжо роўна, як няма зязюлькі маёй баравой, няма зязюлькі маёй шэрай. Над ёй ужо кукуе недзе, над сном яе вечным, вяшчуха шэрая, іншым зычыць гады.

Памірае маці — нейкая суровая сталасць прыходзіць, няўмольная сталасць. Застаешся сам-насам з суровым жыццём. Няма ўжо звароту ў маленства, бесклапотнасць. Жыве маці — паедзеш дадому — на нейкі час хоць вернешся ў праведную раніцу жыцця свайго. Запяе табе зноў калыханка:

---

[1] Гл.: «Цяжка запамінаю…» (1.05.74) // Свята пчалы. С. 293 (II). У кнізе верш пазначаны датай канчыны Акуліны Андрэеўны Барадулінай–11 мая.

Лю-лі, лю-лі, лю-лі,
Пашоў кот у дулі.
Памарозіў лапкі —
Ускочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Сталі лапкі сохнуць,
Трэба катку здохнуць.
Будзем лазню тапіць,
Катку лапкі парыць,
Катку лапкі парыць,
Катку хвосцік правіць…

Змоўкла калыханка…

*18 мая*

* * *

Хоць ты бязлітасны, атамны век,
Ды так не дапусціш жыццё апошліць,
Каб па бязлюднай зямлі
нёс чалавек
Голас свой,
як вугалёк апошні…

*24 мая*

* * *

Чаму ты далёка…
Хоць дзякуй журбе,
Журбе, што, як верная чаіца,
Гадамі
з надзеяй ляціць
да цябе…
…Гадамі
самотна
вяртаецца…

*27 мая*

* * *

Як над Вязынкай,
поўня савее.
Зноў да цішы
душа прыпала.

Бронзаваму,
цёпла ў завею
На роднай зямлі
Купалу...

*12 чэрвеня*

*[Ушаччына.]* Комплекс «Прарыў» [імёны землякоў]: Аўдошка, Дзямешка, Бурак, Дук, Жарнасек, Косых, Крывёнак, Лёля Лукашонак, Апёнак, Бурак, Жаўранак, Карабань, Кабяк, Роўба, Смаргун, Якута, Ярмош[1].

*** У Рубяжэвічах на дзвярах касцёла: «Ціха! Бог блізка!»[2]

*15 чэрвеня*

*Генадзю Кляўко*

Клопаты па гаспадарцы асецілі,
І радкі прадаю з малатка я
Ад Асейкі
да Асеціі, —
Амплітуда мая такая!

*18 чэрвеня*

*Ивану Бурсову*

Не хочу ни наград, ни званий,
И не низших, ни Высших курсов,
Только б звал меня другом Ваня,
Тот, который, конечно, Бурсов!

*Алесь Рыбак[3] на свяце паэзіі*
*ў Мікалаеўшчыне*

Прытрымайце на шворках сабак —
На радзіму прыехаў Рыбак.

* * *

У празаікаў проста карыда:
Хоць на росах лірычных дубей.
Просяць: «Дай!»

---

[1] Гл.: Пліты (1974–17.01.75, з прысвячэннем А. Анікейчыку, аўтару мемарыяльнага комплексу «Прарыў» каля ўшацкае в. Пліна) // Абсяг. С. 39.

[2] Гл.: «У зажураным садзе...» (21.07.74) // Свята пчалы. С. 295.

[3] Рыбак Алесь (Аляксандр Пятровіч; н. 1934), беларускі пісьменнік. З 1972 г. нам. адказнага сакратара праўлення СП БССР, у 1978–1995 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

ДАЙлідовіч[1], ДАЙліда[2],
Толькі Ліда адна — Арабей[3]!

*Чэрвень*

*5 ліпеня*

*Пенза.* [Святкаванне 160-годдзя з дня нараджэння М. Ю. Лермантава[4].]

Хорошая акустика в стране взаимоуважения и взаимодоверия — в нашем союзе сердец. Как никогда и нигде звучит в нашей стране голос истинно пророческой поэзии Михаила Юрьевича.

Русская культура, русская поэзия в частности, не нуждается в каких бы там ни было посредниках, — полная уважения и доверия к другим народам, она наполняет сердца народов вечным огнём правды и нравственной чистоты. Это не случайно, ведь полпредами её, лучшими представителями её проникновенного слова были такие гиганты, как Пушкин и Лермонтов, Некрасов и Твардовский.

С особым чувством трепета и волнения ступил я на священную русскую землю — родину великого поэта славянского мира, Михаила Юрьевича.

В год славной даты 160-летия со дня рождения мятежного гения мне особенно приятно передать вам, землякам Лермонтова, вам, русские люди, чьё мужество и геройство знает и чтит весь мир, привет и низкий поклон от белорусской земли, которая знает цену мужеству и геройству, которая любит родниково-чистое слово Михаила Юрьевича Лермонтова.

Книги Лермонтова не залёживаются у нас ни на полках библиотек, ни на прилавках магазинов.

Голос Михаила Юрьевича вот уже более века звучит в Белоруссии. Неоднократно он издавался в переводе на белорусский язык, лучшие поэты нашего народа считали за высокую честь передать звучание стиха Михаила Юрьевича на родном языке. Буквально недавно вышла и сразу стала библиографической редкостью книга избранной лирики Михаила Лермонтова в переводе народного поэта Белоруссии Аркадя Кулешова — чародея слова белорусского.

---

[1] Далідовіч Генрых Вацлававіч (н. 1946), беларускі пісьменнік. З 1971 г. завуч Шабыньскай СШ, у 1973–1979 гг. супрацоўнік аддзела прозы час. «Полымя».

[2] Дайліда Віктар Браніслававіч (1930–2006), беларускі пісьменнік. У 1973–1982 гг. нам. дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

[3] Арабей Лідзія Львоўна (1925–2015), беларускі празаік, крытык, літаратуразнавец. У 1967–1974 гг. літсупрацоўнік час. «Полымя». Кандыдат філалагічных навук.

[4] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік.

Позволю себе дерзость прочесть стихотворение Михаила Юрьевича, навеянное этими славными местами, в своём переводе.

Бялее ветразь у расстанні…[1]

*5 ліпеня, Пенза*

*7 ліпеня*

*Тарханы.* «Асцярожна, людзі!» [таблічка] на аўтобусе.

Прыгоннік самы вялікі — столькі душ, уладу [меў] над душою народа. Адпусціў на волю некалькі прыгонных, ад маці што засталіся. Над душой народа. Добраахвотны прыгонны.

Калі хвалюецца, калі жаўцее ніва…[2]

*Пенза*

*9 ліпеня*

У захмар'і, нібы ў начоўках, пена, каб выкупаць зямлю, змыць з яе ўвесь бруд.

*

Прямота — начало всех начал.
Каркает напрасно в злобе вóронь!
Ты чеканным словом доказал —
Неискореним славянский корень!

*Лауреату, другу и брату.*

*

Квас, словно стих, начинает пениться,
Братину квасу на посошок.
Пусть кукарекает славу Пензе
Трезвый всегда «Золотой петушок»![3]

*

Ничего не будет переперчено,
Дрязги, передрязги — нипочём,

[1] Пераклад верша М. Лермантава («Белет парус одинокий…»).
[2] Пераклад верша М. Лермантава («Когда волнуется желтеющая нива…»).
[3] Назва пензенскага рэстарана.

Если во главе товарищ Верченко[1],
Если с нами едет Горбачёв[2].

*

Мы будем вкрадчивы и тихи́,
Нам подхалим Пожвалин знаком.
И если мы не напишем о Пензе стихи,
Значит, мы недостаточно любим обком!

*15 жніўня*

*Мяснік*

Распранае жонку,
Як свяжуе тушу.

*18 жніўня*

* * *

На славу я не дужа галы,
Абы не знік шчымлівы боль,
Што не забыў мяне Чмыхала[3],
Атлант Сібіры Анатоль!

*24 жніўня*

* * *

Таемна змушанае «мгу»
У трубку тэлефона,
У ім «хачу» і «не магу»
Змагаюцца ўтрапёна.

Дарэмна змушане «мгу» —
Гаворація вочы, губы.
Ды ім не выказаць тугу,
Бо побач ён, нялюбы.

Крычу: хоць «мгу» —
Развагу страць,
Як на таргу
І страх,
І страсць…

---

[1] Верчанка Юрый Мікалаевіч (1930–1994), першы сакратар праўлення СП СССР (да 1991).
[2] Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921–1981), рускі празаік, перакладчык.
[3] Чмыхала Анатолій Іванавіч (1924–2013), рускі паэт. Ганаровы грамадзянін г. Краснаярска. Гл.: Паэма прызнання: Галінка палыну (22.07.72 // Рум. С. 152.

*25 жніўня*

*Віцебск*. У аўтобус уваходзяць, вадзіцель на малога: «Як білет з местам, трэба роўна [плаціць]». Маці: «Клумкі апанавалі».

*** [Аўтограф Г. Бураўкіна]:

У Рыгора «Рум».
                    За ёй
Што яшчэ чакае?
Хай чытач не румзае,
А цябе чытае.

*Генадзь*

У музеі. Фота палонных немцаў. Упершыню гляджу адносна спакойна, разглядаю твары. Дваякае пачуццё[1].

Сосны на краі кар'ера, як партызанскія ўдовы над свежавырытай магілай. Ліпа. Паліцай застрэліў бусліху. Ліпа згарэла. Нібы і зараз тушыць падгарэла-закапцелымі крыламі бусел пажар[2].

Камяні са дна Дзвіны. Дровы. Адно і тое палена разоў дзесяць за дзень [прадаваў]. Згадзіўся вопыт у час вайны. У Польшчы прадавалі адзін і той жа хамут на хутарах.

Мухі ля рота, падкаўнерык. Танцы, а тут печ, карова, жаць-палоць.

Званы Віцебшчыны сумавалі,
Дзвіны бунтаваліся хвалі,
Віны груз цяжкі адчувалі
Яны — ўсе сіроты без Валі…

Твае козы ў золаце (прымаўка в. Кімія).

«А дзед бабу разуваў…» (у «Смаргонскую акадэмію»).

Чомбар датлеў, дацвітае маркоўнік…

Дай глядзець на іх звычайнымі вачыма.

*30 жніўня*

* * *

Навошта пытаць,
                    нарадзіўся дзе.
Не трэба з пашпарта выпіска.
Упэўнена йдзе,
Не гнецца ў бядзе, —

---

[1] Гл.: «У ранішнюю цішыню…» (6.05.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 38.
[2] Гл.: Балада з падпаленымі крыламі (5.12.74) // Тамсама. С. 36.

Значыць,
са слыннага Віцебска!

*Мішу Рыўкіну*[1]

Он Клио увенчан,
Чтоб славу беречь,
Он Сливкин — для женщин,
Отрывкин — для встреч.
Плюёт на афишу
Он, кум королю,
Я Ривкина Мишу
Как друга люблю!

*[Жнівень]*

*** *Ворагаў нажываць — нажаваць.*
У цемры верасовай бярозы, як сарокі.
І ў вераб'я сэрца ёсць[2].
Сабаку сніцца хлеб.
Крытыка жне сярпамі пытальнікаў.

*14 верасня*

*Куды спяшацца?*

Вы пры жыцці ўжо ў вечнасці даўно,
Фігура, як ні глянь здалёк і зблізку.
Навошта сам спяшаеце адно
Сваю ж замемуарыць перапіску?[3]

*Каралішчавічы*

*16 верасня*

*Раніца*

Таропка ступае восеньская раса,
Саскоквае са страхі на страху.
Сасне шкада іголку
жоўтую абтрасаць,

---

[1] Рыўкін Міхаіл Іонавіч (1907–1993, Пскоў), беларускі і рускі скрыпач, дырыжор, педагог. Заслужаны дзеяч культуры Расіі (1992). У даваенны час працаваў у Белдзяржфілармоніі, прымаў удзел у стварэнні першага аркестра беларускіх народных інструментаў, у 1946–1953 гг. дырыжор беларускага Дзяржаўнага народнага аркестра.
[2] Гл.: «Ёсць душа і ў вераб'я» (6.07.02) // Ксты. Мінск , 2005. Выд. 1. С. 363.
[3] Н. Г. друкаваў сваю перапіску з балгарамі (*заўв. Р. Барадуліна).* Гл. варыянт: Куды спяшацца // Мудрэц са ступаю. Мінск, 1988. С. 150.

Туман накладвае лапік
на летнюю апранаху.

*Каралішчавічы*

*20 верасня*

*Дзяцел*

Сама яна ў голаў лезе —
Усмешка пра неблагія намеры:
Слуп атрухлелы на ўзлессі
Узяўся вылечыць доктар шэры.

*Каралішчавічы*

*Не згіне племя!*

Хоць мыслішка тлее квола,
Лоб на ўвесь экран відзён:
Усміхаецца Тармола —
Хведаровіч нашых дзён!

*Каралішчавічы*

* * *

Не осеннее настроение —
В каждом сердце сегодня май!
С золотым юбилеем, Туркмения —
Коронованный солнцем край![1]

*[Верасень]*

*30 верасня*

*Масква.* Раніца. Масква. Іван Цярэнцевіч [Бурсаў], самы родны мне чалавек у сталіцы ўсіх сталіц. Гарбачоў, СП. Ад’езд у Дамадзедава. У самалёце, набралі вышыню, параўноўваю правільнасць запісаў туркменскіх слоў з маім першым туркменскім другам Атаджанам[2]. Атаджан (бацька + душа), бацька загінуў, ягоная душа вярнулася.

Прайшоўся па самалёту — адчуванне бязважкасці. Як бог, адседзеў ногі на троне.

Салам; саг бол — спасибо; хош горду́к — рады бачыць; й шк — каханне; абад — шчасце, удача; ягдай ничик? — как ваше здоровье? Бар —

---

[1] Г.: Дзень добры, Туркменія! (20.09.74) // Абсяг. С. 100.
[2] Магчыма, Аннабердыеў Атаджан, туркменскі паэт.

(поклічна, загадна) — ідзі! прэч! Йок — так; ягшы́ — добра! Мукалдес — святое месца.

70% Туркменіі — Каракумы (350 тыс. кв. км). Та́кы(ъ)р — нізіны пустыя, шчыльны пясок, як асфальт; шор — саланчакі. Адрогі Парапаміза — Бадхыз і Карабіль. Сарыкамышская ўпадзіна (44,7 м). Край ясных дзён (у годзе). Йылак — пясчаная асака; янда́к — вярблюджая калючка; гулабы — гатунак дыні; рысалс — статут рамеснікаў; кумушчы, зергэр — срэбных спраў майстры; чарва — качэўнік; чомур — земляроб; ат — скакун; ябвы — рабочы конь (ехаў на ябе); гуйы (ы — скранана) — студня (як глыбокі ўскрык радасці); чатма́ — хліпкі будан; чопан (пастух); чолу́к (памочнік); суўчы (трэці памагаты падымаў ваду).

Ратаваліся ад нападаў усе і ўсім — нажніцы для стрыжкі авечак прывязваліся на кій. Краснабай. Аламан — рабаўнічы набег; суў — доля вады; как — вадазборная яма; сушаная дыня. Пір, ішан, казы — вышэйшае духавенства; я́шулы — стары, старэйшына; хун — кроўная помста. Дарада́н — сетка для лоўлі птушак; ител-гуш — паляванне з сокалам. Птушка сядзіць на правай руцэ. За дрэсіраваную–2–3 бараны.

У пастухі ішлі маладыя людзі з надзеяй зарабіць сродкі на выплату калыму. Адрабляць калым — працаваць часам колькі год у доме цесця. Дэгірмен — жорны, а камяні — хараз, кеш-кеш; сокы — ступа драўляная; арабі — чорныя смушкі, сорт барана; сур — залацістыя; шыразі́ — срабрыста-шэрая; гово (гоўво) — скураное вядро, якім чарэпаюць ваду са студні; арвана — аднагорбы вярблюд; бугра — двухгорбы; таймун, ек мердем — дубіцы; Өй, гара-Өй — юрта; тэръм — касцяк, драўляная рашотка, ніжняя частка остава юрты; га́нат — «крыло»; урган — вяроўка, што ўтрымлівае юрту; салланча́к — зыбка ў юрце падвешаная; будынкі гаспадарчыя: атха́на, сейісха́на — для коней, сейс — той, хто выхоўвае каня для скачкі; малха́на — авечкі; саманхана — сена; мыхманхана — будынак для гасцей; дон — строчаны халат; балак — штаны з хуткім крокам; чэкмен — халат; екта́й — летні халат без падкладкі, адзін слой; ичме́к, поссуп [?] — дублёнкі; гушак — кушак, асаблівы прыгожы гушак павінна была прыгатаваць нявеста; чокоа́й з цялячай скуры, выраблены як замша абутак з вострым загібам угору; ча́рык — як рускія поршни; тах'я́ — цюбецейка; цельпе́к — бараняя шапка паверх тах'я; се́лле — белая чалма; бӨрик накшталт паранджы; дачдан — драўляны амулет.

Калі нападалі, трэба ведаць імя сябрука, калі чатыры, то яшчэ тры браты, а так адзін — бі!

Ахвяра позірку, ахвяра паэзіі.

[Запісана чужой рукой:] Гурбанназар Эзизов[1], Италмаз Нуриев[2].

---

[1] Эзізаў Гурбанназар (1940–1975), туркменскі паэт.

[2] Нурыеў Італмаз (н. 1937), туркменскі паэт.

І сабака не бярэ (праснак).

Усю вопратку маленькіх дзяцей шылі швамі паверх і не падшывалі, каб, па павер'і, не пазбавіць маці магчымасці мець яшчэ дзяцей.

Валасы на скронях у хлопчыкаў — гулпак. Адзін сын ці ўлюбёнец падчас насіў гулпак да самай жаніцьбы, а ў йомутаў да нараджэння дзіцяці.

Большая ка́ра хівінскімі ханамі ў XVIII–XIX стст. для непакорных прымянялася — забарона карыстацца базарам, дзе маглі купіць зерне. Чθрек, нан — хлеб; петы́р нан — праснакі пякуць, калі няма кіслі, калі раптоўныя госці, спешны выезд; яг (jah) — масла; гаты́к — (кіслае малако) прастакваша, кадык ходзіць; чал — халодны напітак з вярблюджага малака; агаран, ак — вяршынкі з вярблюджага малака; гурт — сыр; гаймак — вяршынкі; чорва, гайнатма — мясныя супы; говурма (тушонка, ці што?), говуда́к — смажаніна; палоў — плоў; шара — ледзь падсмажанае мяса; кебап — шашлык; чай чорба — чай з говурмой; чΘк чай — зялёны; гара чай — чорны (восенню і зімой); кашык, чемче — лыжка; сача́к, дестерха́н — сурветка для абеда, засцілаюць на падлозе, загортваюць чурэк; тавак — міса (посуд).

Па Карану [можна мець] чатыры жонкі наступным чынам:

1) жонка — для бацькоў;

2) па каханню — для душы;

3) каб адной удавой меней;

4) каб адной сіратой меней.

*[Ашхабад.]* Прылёт. Ангары. Вырысы ранняга вечара на фоне гор. Па радыё запрашаюць удзельнікаў нарады іхтыёлагаў.

Мяккая [пропуск] душнаватага вечара. Звонкі строкат цыкад. Гартаннае радыё. Музыка — здаецца, звініць ад спёкі паўдзён. Авадзень.

Луконін беспадобна расказвае розныя гісторыі. У Парыжы:

— Вось бы ў Маскву адну (прастытутку ў час блядаходу).

— З голаду памрэ ў нас.

— Чаму?

— Заляцацца пачнуць.

Урын[1] (шызік са стажам) — ні пад якімі катаваннямі не выдаець думкі — няма!

Павел Антакольскі[2] і Маякоўскі. Адзін раз чытаў як аб'яднанец свае вершы. Маякоўскі нічога не сказаў. Другі раз у Парыжы [сустрэў]:

---

[1] Урын Віктар Аркадзьевіч (1924–2004, ЗША), рускі паэт.

[2] Антакольскі Павел Грыгор'евіч (1896–1978), рускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1946).

— Улад., Улад., Улад., Ул., Ул.!
— І тут ад вас праходу няма.

У рэстаране нейкія разанскія мадонны, як на старых прызбах, спяваюць.

*1 кастрычніка*
З раніцы ў СП. Адтуль у ЦК. Сакратар расказваў пра рэспубліку. Калым ёсць. Змагаюцца. У мячэць мала ходзяць — няма калі. Не пускаюць камсамольцы.
— У нас былі Ціханаў[1], Лугаўской[2], прыехаць не змаглі. Не турбавалі старых.
Луконін:
— І не маглі многія, бо памёрлі.

Унікальная будзе бібліятэка. Помнік Леніну[3]. Знайшоў ленінградскі вучоны [Назараў] сакрэт [вырабу смальты] і сам знік (30-я гады), і зноў сакрэт. Помнік з гармат і маленькага помніка аднаго з Аляксандраў[4].
Помнік [Леніну, узведзены] у 1927 годзе — чатыры асноўныя народнасці. Чатыры сцяны[5] — чатыры розныя ўзоры арнаментальных сцен.

Рынак. Аксакалы нейкія зялёны тытунь прадаюць. Шапкі касматыя цікавыя. Зяляніна. Шарлупкі яек вісяць на абярынцы, і ўказана цана, бо ў такую гарачыню могуць [у яйках] завесціся кураняты.
Універмаг. Для Ілонкі з нацыянальных касцюмаў нічога няма. Купіў запаскі (з дому не ўзяў), думаў туркменскія — кіеўскія! Малайцы землячкі Тараса[6]. Бюст яго стаіць. З голай галавой пад сонцам бунтар стаіць.

---

[1] Ціханаў Мікалай Сямёнавіч (1896–1979), рускі паэт, празаік, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Азербайджана (1974). Народны паэт Узбекістана (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1966). Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1957), Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1949, 1952), Ленінскай прэміі (1970).
[2] Лугаўской Уладзімір Аляксандравіч ( 1901–1957), рускі паэт.
[3] Помнік Леніну ў Ашхабадзе (1927). Аўтар Карэлін Андрэй Андрэевіч (1866–1928), рускі скульптар; Назараў Н. І., хімік-мазаічыст.
[4] Аляксандр ІІ (1818–1881), расійскі імператар (з 1855). У цараванне Аляксандра ІІ завяршылася далучэнне большай часткі Сярэдняй Азіі (1865–1881) да Расійскай Імперыі.
[5] Скульптура ўзвышаецца над невялікім будынкам Музея Леніна.
[6] Помнік-бюст Тараса Шаўчэнкі (1972) скульптара М. Лысенкі. Лысенка Міхаіл Грыгор’евіч (1906–1972), украінскі скульптар. Народны мастак СССР (1963). Гл.: Ля помніка Т. Р. Шаўчэнку ў Ашхабадзе (11.74–11.02.75) // Абсяг. С. 94.

Трэба даць віншавальную фотатэлеграму Межэлайцісу[1] і Танку з Ашхабада ў сувязі з Героямі[2].

*Эдуардасу Межэлайцісу*

Салам прыміце шчыры.
Гучаць Вам у вяках —
Паўпрэд літоўскай ліры
На ўсіх мацерыках.

*Максіму Танку*

Вядзіце рэй,
Ладзьбуйце рой,
Паэт-змагар,
Паэт-герой.
Хай верш штодня:
«Ку-га, ку-га»,
Хай чэзне звадак мітульга,
Хай абмінае Вас туга,
Шаноўнейшы Максім-ага.
Паклон ад каракумскіх зор
Вам шчыра шле туркмен Рыгор.

Выступленне ў Доме палітасветы. Віктар Урын — унікум. Маскоўская школа прыдуркаў літаратурных. Здорава чытаў Фазіль Іскандэр[3].

Мова туркменская з вялікім (каля 90 %) слоўнікавым запасам турэцкім. Адсюль у свой час беглі туркі і [...] азербайджанцы. Фазіль [прывёў] цікавую прыказку турэцкую. Рыба кажа: «Многае б я хацела сказаць, ды баюся захлынуцца».

Луконін расказваў пра Міхаіла Святлова[4]. Добрая рыфма пра салдата ў час вайны: «Убегу ли я».

Вячэра ў дварэ дома аднаго паэта. Чал — калі па-сучаснаму — вярблюджы кефір. Смачная штука, але пачаў баяцца. Недзе, зноў-такі расказваў Луконін, грузінская дэлегацыя абпілася ішачым малаком. Усім дрэнна назаўтра. Адзін кажа: «Мне нішто!» Карло Каладзе[5]: «Нічога дзіўнага, гэта ж для цябе матчына малако...»

---

[1] Межэлайціс Эдуардас (1919–1997), літоўскі паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Народны паэт ЛітССР (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1962).

[2] Званне Героя Сацыялістычнай Працы.

[3] Іскандэр Фазіль Абдулавіч (н. 1929), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1999), Дзяржаўнай прэміі РФ (1994, 2014), прэміі Урада РФ (2011).

[4] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

[5] Каладзе Карло (1904–1988), грузінскі паэт і драматург.

...Смачная ежа з бульбай і маладой казляцінкай. Крыху заглушаюць голас машыны час ад часу. Поўня крыху штучна выглядае, бо электралямпы тушаць яе. Народную песню пяюць — шмат качэўнай тугі. Віноград на стале. Вінаград гронкамі запыленымі звісае над галавой, зводдаль, як запыленая старая дэкарацыя, забыты рэквізіт (так для мяне).

Гучыць Сяргей Ясенін па-туркменску («Не ходить, не мять кустов багряных...»), памер не слепа трымаецца арыгінала, а малюнак ясенінскі. Гэта што тычыць перакладу, пытання пра пераклад.

Тут жа на сябрыне маладыя паэты чытаюць вершы (яны толькі прыняты ў саюз). Сябрына быццам з гэтае нагоды.

Цікавая прымаўка: той хаце, дзе ты з'еў пястачку хатняй солі, ты вінен 1000 раз сказаць «добры дзень».

Дарэчы, цікавейшы помнік Тарасу Шаўчэнку. Пакутнік голай галавой пад сонцам, туга, гнеў, амаль адчай. Магутны па экспрэсіі.

*Міхаіл Святлоў*

Няма такіх дасціпных слоў,
Такіх усмешак у задуме,
Якія б Міхаіл Святлоў
Не выгледзеў, не ўчуў у тлуме.
Былі і Мінск, і Полацк рады
Паслухаць аўтара «Гранады».

*[1978]*

*2 кастрычніка*

Адкрытае кафэ. Смажацца шашлыкі. У вадзе в. а.[1] лебедзяў — белыя гусі.

Вылет у *Чарджоў* (старажытнейшы горад на Шоўкавым шляху, 4 рэчышчы, караванныя пераваалы). Ляцім. Зірнуў уніз, здалося — хмары, плямы бялеюць. Аж гэта Каракум. Яго Чорная Светласць.

Расказ Ікара[2] пра цесця, які загадаў пісару паслаць жонцы пахавальную.

У гасцініцы адразу разанская мадонна пачала бубнець, каб выціралі ногі. Каля акенца адміністратара партрэт Юзіка [Сталіна]. Ультрасучасна, як значок з «Ну, пачакай!».

Прыём у абкоме. Сакратар паведамляе, што ўсе на бавоўне. «Вид на урожай» — навучылі і яго. Газ у мільярдах вылічваецца. Таксама сера. У асноўным на імпарт [памылкова: на экспарт]. Адкрытая здабыча. Вы-

---

[1] В. а. — выконваючы абавязкі.

[2] Пасеўеў Ікар Расціслававіч, туркменскі пісьменнік, журналіст, уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па ТССР.

халашчваюць, а мне здалося выхаладжваюць. Суперфасфатны завод. Лёгкая [прамысловасць] — шаўковы камбінат, шарсцяная, прадзільная фабрыка, харчовая. У асноўным — сельскагаспадарчая вобласць. Бавоўна. Каракуль; на сёння план па бавоўне — 43%. 70 % машынамі ўбіраецца бавоўна.

Злавіў сябе на думцы, што даўно ведаю твар сакратара абкома. Акімушкін выліты!

Саладковы корань ва ўсе краіны свету [прадаецца]. Ніксан[1] адразу пытаўся наконт яго. Прадаем за мяжу за бесцань. Японія робіць звыш 14-ці гатункаў нічым нязмыўных фарбаў.

Каракум — чорны пясок, не ў сэнсе колеру. Цёмна ад яго, цёмная туга, краіна цемры.

Нацыянальны склад. Паўднёвы ўсход [прыкладна] 500 000 [тыс.] насельніцтва, зямельныя рэсурсы абмежаваныя. Туркмены, узбекі, рускія, украінцы, буйна 32 нацыянальнасці, а так 82 (французы, іспанцы).

Птушкасаўгас. Па дарозе белыя вослікі. Халмакі бавоўны падбіраюць (як у нас па Калінінскай вуліцы лён).

Парторг жанчына. «Прыезджая ці тутэйшая?» — пытае Таурын[2]. «Як сказаць. З 1959 года, з дня заснаванн саўгаса, Аляксандра Іллінічна Мельнік (а была Графава) са Шклоўчыны»[3]. Падносяць засценліва дзяўчаткі кветкі, ружа крыху пераспела, ранішняй золкасцю пахнуць кветкі. Харошыя дзеткі, чарнявыя дзяўчаткі. Расце будучы калым. Малы зусім поўзае пад скамейкай у залі. Першы выступае Байрам[4]. Уважліва слухаюць, хочацца чуць сваю мову, мову спрадвечную для зямлі гэтай.

Таурын засяроджана-даверліва выступае. Дзякуе за давер (не ведалі, што за людзі, а сустрэлі кветкамі). Не даходзіць, як бы на прэзідыумным пасяджэнні выступае.

Фазіль [Іскандэр прачытаў] верш пра дзяцей, пытаю: як сляпень будзе па-туркменску? — бокеле́к. Чытаў «Сляпня», сеў, а Таурын: «Наступны раз гавары ўсё-ткі не таджыкі», — а я думаў, чаму такое ажыўленне.

Усе дзяўчаткі [імёны] пачынаюцца з гуль — кветка, а пасля ўдакладненне.

Рускія грубыя бабы апусціліся, абазіяціліся, а думаюць, што нясуць нешта сваё ў культуры. Зайшлі ў гасцініцу: «Выцірайце ногі!» На тэлеграфе вучыла, як пісаць тэлеграму. Падыходжу да рэстарана, услед: «Галаўныя ўборы трэба здымаць».

---

[1] Ніксан Рычард Мілхаўз (1913–1994), прэзідэнт ЗША.

[2] Таурын Франц Мікалаевіч (1911–1994), рускі празаік.

[3] Гл.: Зямлячка (16–25.11.74) // Абсяг. С. 102.

[4] Джутдыеў Байрам (н. 1937), туркменскі паэт і празаік. Гл.: Запрашэнне ў Беларусь (14.10.74, Ашхабад) // Тамсама. С. 108.

За сталом гаспадары, прараб азербайджанец, лезгін (бацька саматужнік, і сын ведае выключна туркменскую мову).

*3 кастрычніка*

Прачынаюся ад холаду. Цёмна. Льецца вада. Ну, думаю, мінскае надвор'е, добра, што плашч усё-ткі ўзяў. А вышла, што гэта Таурын мыецца, вада з крана з умывальніка цурчыць.

На рынак на бялявенькім восліку на двухколцы нейкую паклажу цягнуць. Цыбулю (дужа белая, як часнок) падтрахваюць у рашотах, як у нас маладую бульбу, каб ачысціць збольшага.

На плошчы насупраць ГУМа, думаў, чакаюць аўтобуса. Стэнд, дзе расклейвае новыя дадзеныя за ўчарашні дзень, на колькі раёны выконваюць план. Вялікая зацікаўленасць. І аксакалы, і маладыя. Накшталт як у нас футбол.

Фандзеранцаў Герасім, гвардыі палкоўнік у адстаўцы, былы камандзір 294-га кавалерыйскага палка 8-га кавалерыйскага корпуса 112-й Башкірскай кавалерыйскай дывізіі, ён накіроўваў Атаева[1] Наклыча на ўзяцце вышыні 79-9.

По арыках горлаў горлінак
Туркоча ранішняя цішыня.[2]

Гіцлі ловяць сабачак такіх мілых, на дроце вядуць. Кідаюць у нейкі бак на машыне. З вінтоўкай. Палкай. У юнакоў азіяцеюць вочы. Жахлівае відовішча. Вытокі хунвэйбінства. Сёння сабак — заўтра людзей. Азія — страшная рэч.

Таурын успамінае пра Твардоўскага: «Как говорят у нас белорусов: пережили лето горячее, переживём и [г..но собачее]».

Вослік вязе двухколку — арабу́.

У рэдакцыі газеты. Добра ведаюць Фазіля [Іскандэра]. Таварыш з Пензы — бацька ваяваў у Беларусі.

Даугуль Роберт Андрэевіч. Саятскі дзяржпітомнік. Дзед пасварыўся з баронам, на два гады карчму [зачыніў ?].

На магілы не ходзяць — дрэнныя прыкметы. Абгароджана тычкамі з белымі рызманамі, каб хутчэй сціраліся магілы.

Дыня каррыкыз — старая дзева, да мая месяца зморшчаная.

Грабянчук кустоў, селінь пустыні, як вялізны кавыль ці модныя грывы перафарбаваных модніц, вярблюджая калючка зялёная рунее.

Армянская царква, у час вайны бежанцы.

---

[1] Атаеў Наклыч (1912–1943), Герой Савецкага Саюза і Туркменіі.
[2] Гл.: Перасмяглыя радкі (30.11.74) // Прынамсі. С. 247.

Оссуарий — скляпок — захаванне костак нябожчыка ў Сярэдняй Азіі ў часы вогнепаклонніцтва. Сцяг бухарскага эміра — паўмесяц, зорка-пяцікутка, пяцярня, на далані зорка.

Галіны, як у кустоўніка, а выгляд, як у дрэва. 50–70 год, узрост [вызначаецца] па колькасці бакавых галін. Лісты рэдуцыраваныя.

Брынза смачная. Дым непаўторнага паху.

Па дарозе на калгас «Масква». Па дарозе, нібы звозяць зляжалы вясновы снег, бавоўна. Машыны, нагружаныя бавоўнай. Пагрузчыкі грузяць бавоўну.

*** Хурман (не моршчыся, гурман), што любіць 100% баваўняную сарочку.

Старшыня за тэлефонам, адну руку для прывітання, другая занята трубкай. Адно слова часцей за ўсё — «план».

Калі выбіраць: старую, але дзяўчыну, крывую, але дарагую.

Абал у цемры — вербы (тал), лейлісач (плакучая вярба, косы дзяўчыны).

1700 га пад бавоўнай, 5630 тон (абавязацельства), марацць [сабраць] 6000 тон, з га 31 цэнтнер, 75 % машыны [убіраюць]. Аралі двух’ярусным плугам. Увесь час перабіваюць тэлефонныя званкі.

Першы раз сваімі сіламі сеялі (ніхто не памагаў). Меней стаіш — болей прэміі, паломка — за кошт механізатара. 50 тыс. на прэміі. Індывідуальнае спаборніцтва. З пятага класа [выходзяць на збор бавоўны] і студэнты. Улічваючы здольнасці, ім нормы адпаведныя. Апрацоўка бавоўны супадае з выхадам шаўкапрада. 4 капейкі за 1 кг. [Трэба сабраць] 60 кг. Апрача таго, прэміі.

Гадзіннікі звяраюць па крыку ішакоў.

Спіс гераінь. Овлякулы Ішанкуліеў (башлык [старшыня]), настаўнік былы, жонка дырэктар школы, 13 дзяцей. Калі б па радыё аб’явілі, каму машыну, хоць зараз 300 чалавек [купілі б] (хоць чорную «Волгу» за 10 тыс.). Сярэдняя заплата 170 р., механізатары — 250 р.

Вітаюць зноў піянеры. У зале студэнты, чарнявыя, усе амаль у белых рубчатых шапках, шапкі не здымаюць. Дзяўчаты ў цыганістых хусцінках, рот прыкрываюць амаль увесь час.

Пытаюся, як [будзе] журавіна. Ягад няма. Можа, падыдзе бурч (перац). Да таго горкі перац, як азадак павука.

Цікава, што ўсе туркмены студэнты на ўборку прыехалі. Славяне не могуць, відаць, убіраць.

Чытаем вершы. Пасля старшыня чытае зводкі па абласцях, як радкі верша, параўноўвае з іншымі рэспублікамі.

*4 кастрычніка*

Іылгын — як ядленец цвіце; кандым — калючнік, як будова [неразб. 1] ; янда́к — вярблюджая калючка. Цвіце ласкава чарот, йылак — як свінуха, стэпавы палын, евшан — палыном пахне.

Медрэсэ па дарозе, як чатыры шкарлупкі ад яек (4 класы). Двор хана з фарфоравай гліны, селінь [неразб. 1] груба. На тэлеграфных слупах совы дрэмлюць. З асфальта тушканчык, задраўшы хвост, як ласка.

А́рмос! — Бог в помощь, не стамляйцеся; ба́р бол! — узаемна, будзь заўсёды; дерек — як таполевы гай (накшталт бярозы).

Бегмурат косе зрабіў студню, і студня яго імя, сімвалічны перавал.

Калгас імя Калініна. У калгасным клубе мастацкая галерэя малхан — лепшых людзей. Кіраўнікі раёна. Старшыня «Калініна» — Хемра Худайназараў. 6000 чалавек у калгасе. На тахце чай, бараняе вока, вуха. З пустых слоў не зварыш плоў.

Ігдэ (джыды) — лох срабрысты, знешне, як шыпшыннік, з белай халоднай марай. Сіваваронкі, як вісюлькі з бірузы, на правадах, хоць збірай у каралі стэпу. Спыненыя барханы. Калгас імя Махтумкулі (раб божы). «Дазволь дажджу ісці». Харма́н (прыёмны пункт бавоўны), жоўты цвет цыбулі, як бульба ў мяхах.

Хала́ч (бядняк) — былы райцэнтр; дара́к (цяжкі грэбень для ўбрання). Далікатней за ружу, трывалей за камень кілім — паэзія туркменскіх жанчын, уток (кілімны камбінат). «І тчэ, забыўшыся, рука...» [М. Багдановіч]. Фазіль [Іскандэр] кажа: «Тут, на кілімавым камбінаце, байрам для вачэй».

Вырываю мяккае полымя белае… Раптоўна цемра, няма прысмеркаў. Саксаулавы гай малады, як ракушачкі ўнутры на лісце ці як хвошч.

Поціск рук цвёрды ў дзяўчат.

Уязджаем у гасцініцу калгаса ордэна Леніна. Калгас «Камунізм», рафіку цяжка ехаць, вымямі вінаград чапляецца. Уся гасцініца ў кілімах. Койкі, на двух пакой.

У Ашхабадзе і скрозь няўлоўны прысмак саксаула, які паляць. Калі ехалі каля спыненых барханаў, прысмак палыну і пяску, кветкі таксама пахнуць палыном, пяском.

*Керкі’* [горад, з 1925 г. райцэнтр Чарджоўскай вобл.]. Цыкады не моўкнуць. 500 тон кокана ў год — першае месца ў рэспубліцы. Мяса, малако, яйкі, воўна. 34 625 штук каракулевых авечак. За 60 тыс. тон бавоўны. 1954 год — пачатак туркменскага канала. Адзін тольк інжынер туркмен.

У 1942 годзе, калі немцы пад Сталінградам пракладвалі на карце трасу будучага Каракумскага канала. Ён па слядах былых паселішч. Галоўны інжынер вёз праект, у лахманах, ад яго шарахаліся, што злодзей, а ён

баяўся, бо клад неацэнны. У 1912 годзе амерыканцы даследавалі і сказалі, што немагчыма [пабудаваць]. [Чужой рукой:] Лауреат Ленинской премии Караш Николаевич Иомудский[1], директор Института геологии АН ТССР. Яшчэ дзеда. Цар стаў хросным бацькам усіх сыноў старшыны прыкаспійскіх туркмен.

Мыліся два разы — у дзень нараджэння і ў дзень смерці.

Тэлебачанне. З Ташкента [трансляцыя], бо няма сваей вышкі.

Летні клуб (эстрада) калгаса «Камунізм» (адзін з трох ордэна Леніна калгас, старшыня 40 год на адным месцы, Герой [Сацыялістычнай] Працы). На сцэне ансамбль, электрагітары (песні [спяваюць] страшэнна ўрачыста, шчыра).

Краіна белага золата, чорнага золата, а правільна — край сонца і шчырых людзей. Праблема выкарыстання сонечнай энергіі — дзеці. Пяе туркменка, гарыць вопратка. І ў славянскай крыві забытай ранай Азія зашчыміць.

*** Спяваюць дзяўчаткі, як яшчаркі стэпавай смуглы твар, юркія вочы (у іх коннікі скачуць**)**. Пальцы звязаны ў салістак і харыстак — Яе Светласць бавоўна.

У так званай гасцініцы лозунг часу: дабіцца 40 вярблюджанятак ад 100 вярблюдзіц (раз на два гады ў вярблюдзіц прыплод).

[Чужой рукой:] Аннали (Антон) Бердыев[2]. Байрам Джутдиев **—** редактор сатирического журнала «Токмак» («Колотушка»). Бердыназар Худайназаров[3] — лауреат Госпремии ТССР им. Махтумкули, поэт, прозаик.

*5 кастрычніка*

Раніцай трохі расы ёсць. Крамяна. У драцяной загарадзі джайраны. З вялікімі (адносна) рагамі — бацька, з маленькімі (як у чорціка) сынок, мама і дачушка. Ножкі — такімі, точанымі, не варта часта дакранацца да зямлі, вочы вялікія, спалоханая дабрыня і затоены сум (17–18 м скачок джайрана), хоць кветкай [кармі], хоць малаком замест вады [паі], учуе кліч пустыні — уцячэ.

Пра пераліванне чаю ў піалу [калі заварваюць, чужой рукой]: первый раз (биринзи гезек) — лай, второй (икингуа гезек) — май, третий (учунгун гезек) — чай.

---

[1] Іамудскі Караш Мікалаевіч (н. 1907), туркменскі гідрагеолаг, адзін з аўтараў праекта Каракумскага канала. Лаўрэат Ленінскай прэміі СССР (1965).

[2] Бердыеў Анналы (Гара Еллы; н. 1932) , туркменскі паэт, перакладчык.

[3] Худайназараў Бердыназар (1927–2001), туркменскі паэт, празаік, драматург. Народны пісьменнік ТССР (1984).

Махрамаў Джумагулы — башлык [старшыня] калгаса «Камунізм», Герой [Сацыялістычнай] Працы, 40 год старшынёй. [За] барацьбу прыз — казла. Калгаснік — член ЦК. Галерэя: ветэраны і маці-гераіні, па 12–13 дзяцей. Завушніца ў нос жанчыны.

Падмурак будучага Дома культуры на 1200 мест. Помнік загінуўшым [у гады Вялікай Айчыннай вайны], 190–200 загінулі з аднаго калгаса.

Маўзалей Астана-Баба[1] XV–XVI стст. За адну ноч узведзены арабамі. Галубы, як душы, у купелі зябнуць. Ахвяры, як хусткі.

Канал, навіслі з аднаго боку барханы. Як зарослыя крыху піраміды. Улік ружы вятроў. Вада даражэй за алмаз. Головное (збудаванне) башсака́, адсюль пачынаўся канал. Ікар [Пасеўеў] прапанаваў назваць кнігу нарысаў «На катары [кацеры] па Каракумах». Слупы на барханах, нібы шаўковую нітку разматваю на рукаяткі, як некалі мама за кроснамі.

Славяне вясной прыязджаюць, бачаць тут абрэзаныя [галіны] для шаўкапрадаў, пасля кажуць, што ў Туркменіі дрэвы растуць уверх каранямі.

Афганская граніца. Дувал адмяжоўвае. Глінабітная дазорная вежа, як у сярэднявеччы. У «газіку» трысняговая завея. Хвасты трыснягу хвастаюць па тварах. Джунглі. Барсавыя ўлюбёныя мясціны. Старшы лейтэнант расказвае, што афганец не паверыў (госцем быў), што пяць мяхоў мукі [у гаспадара дома]. Кляўся, радня ягоная, на партбілеце. У Кіркі зноў убачыў муку. Стаў прасіцца, ці можна да нас. 6 жонак, 2 прыбытковыя месцы. Рахунак ў банку. «Забяру апошнюю жонку і да вас». У афганскай арміі адна форма на 6 год (служаць 2 гады).

*** Багацце вызначаецца не кілімамі і баранамі, не грашыма, а гасцямі, чым болей у цябе гасцей бывае, тым багацей ты. Тому дому, дзе ты паспытаў хатняй солі, вінен сказаць 100 «дзякуй». Колькі ж тысяч раз трэба сказаць «дзякуй» за такую гасціннасць!

Па каналу, як па Дняпры, валок векавы сум барханаў. Вада смяецца белазубай усмешкай хваль. Вясёлкі ў Каракумах. Слупы. Правады, тоўстыя ад пылу, а ўнізе — вада.

Па дарогах едзем — увесь час аб'езд з асфальта — яе светласць бавоўна прымушае.

Радуйцеся, паглядзім на тым свеце, — афганцы кажуць. Сава самая мудрая, бо запыталі: каго болей — жывых ці мёртвых? — [мёртвых] (бо жывыя імі стануць); мужчын ці жанчын? — жанчын (жанчыны і тыя мужчыны, што іх слухаюць); якая кветка самая прыгожая? — бавоўна, бо і жывога апране, і мёртвага ў саван. Вяшчуе бяду, калі закрычыць вечарам — нехта памрэ. Песня:

[1] Маўзалей Астана-Баба, помнік туркменскай сярэдневяковай усходняй архітэктуры XI–XII стст. каля г. Атамурад Лебабскай вобл.

Грудзі, як нар (гранат),
Бровы, як персік,
Вейкі — стрэлы,
Вочы — джайран.

Цюрколаг з Беларусі Пацулеўскі[1]. Крэпасць старая ў [г. п.] Керкіча́х, легенда і старыя сцвярджаюць, што быў пераход пад Амудар’ёй да Керкі. Перапраўляўся, карыстаўся гэтым пераходам Аляксандр Македонскі[2].

Прыхалі ў Чарджоў каля 12 ночы, рэчы нашы перанеслі ў іншы нумар. Там — з Індыі нехта будзе.

*6 кастрычніка*

Гасціннасць і шчодрасць стала́, а дакладней — прага жывата да экзотыкі сваё зрабілі, — толькі бесалол і чай. Свет белы не міл. Якраз супала, што нічога нельга есці — рамазан. Адзін дзень, пакуль што, як прававерны, як шчыры мусульманін. Алаху, відаць, надакучыла глядзець на абжорства нашай дэлегацыі. Першая ахвяра Таурын, другая — я. Фазіль [Іскандэр] малайцом.

Пяскі каракумскія наскрозь мяне прашаравалі. У сваіх шурпатых даланях пераціраюць вякі. Рытм пустыні.

Цень пралятае па стыні,
Перапаленай ад спякоты,
Дыханне ўсмяглай пустыні.

*7 кастрычніка*

Прыйшлі праводзіць да гасцініцы сябры — валацугі-сабакі.

Ляцім — унізе васпаватая пустыня.

Задрамаў. Будзяць, не той нумар далі. «Тут венгры…»

Нараджаюць, седзячы, у пясок. «Спрэчка мужа і жонкі, як сляпы дождж вясной» (прыказка) [эпіграф да верша. Далей парадкоўнік верша «Дождж вясновы снегам стаў…» Б. Худайназарава.]

Пад балконам нашага «люкса» штук 15 авечак. Іх заганяе, аб’язджае на веласіпедзе хлапчук.

Звоняць у гасцініцу: «Иэта аткуда?» (Так прынята гаварыць па тэлефоне ў Туркменіі, г. зн.: «Куды я трапіў, хто гэта?»)

Сустрэў у *Ташаузе* Міхася Карпеку[3]. Шанцуе ж! Дужа спітая морда.

Цікава, што на калючку прышчэпліваюць дыню.

---

[1] Дакладней, Пацалуеўскі Аляксандр Пятровіч (1894–1948), вучоны-цюрколаг. Заслужаны дзеяч навукі ТССР (1943).

[2] Аляксандр Македонскі (356–323 да н. э.), цар Македоніі з 336 г., заваёўнік многіх зямель.

[3] Карпека Міхась, беларускі журналіст.

*8 кастрычніка*

Выезд. *Генч* (стары Генч). Па дарозе аднагорбыя вярблюды. Скубе калючку (а, відаць, скубаць яе нельга). Цюбецейку (шапку касматую) на спіне прымацаваў накшталт самбрэра, каб з галавы не зляцела, пакуль есць. Саксаулавы гай аж дыміцца ад сухаты. Халмакі камышу на дрэвах. Як пажоўклы снег пасля жоўтай завеі. А бабіна лета па-туркменску — жоўценькае лета[1].

Вярблюд пасвіцца спутаны, як конь, каб не ўцёк. (Расказ Бердыназара [Худайназарава], як ён пайшоў шукаць свайго вярблюда.) Вярблюды, ішакі, пад'язджаем да Ургенча, мінарэт, як комін завода. Лінія высокага напружання. Юзмарат (стотысячны) нарадзіўся ў красавіку (як стотысячны прабег машынкі бацькавай).

Куня-Ургенч — сталіца паўночнага Харэзма ў X в. Меў сваю Акадэмію навук, Авіцэнна[2], туркі, аўтар алгебры. Мангольскае нашэсце знішчыла горад. Адноўлены. Зноў знішчыў Цімур[3].

18,5 тон (тры калгаса, калі ехала брыгада СП), 96 тысяч тон — летась, сёлета–100 тыс. тон. Сярэднямесячная 156 руб. зарплата калгасніка. Зерне 10% туркменскага. Іамудская парода [верхавых коней], першае месца ў рэспубліцы.

Загадка [чужой рукой]: семь баранов и один ягнёнок спасут от девяноста бед (шуба). 7 шкур на футра, ягнёнка на атарочку, 3 месяцы зіма.

Прыехалі [ва] Ургенч, па тэлефоне пазванілі: у Ташаузе дождж ідзе… «Як агню, баімся дажджу» (бо бавоўну цяжка збіраць).

У бога тысяча імён, і адно з іх [чужой рукой] Тан$_1$ры ялкасын! (Да благословит тебя Аллах!)

Куня-Генч (ад аднаго імя Каспія). Калгас «Кызыл-Юлдус», помнік воінам-ураджэнцам. Шмат імён. На сцэне ў жаркім шоўку бахшы на тары (з ім адзін з бубнам) спявае песні пра Харэзм. Вядучы аб'яўляе ў мікрафон, перадае салістцы, яна таксама спявае на вушка мікрафону. Суправаджаюць 2 тары, бубен, акардыён. Шаўковыя кашулі ў хлопцаў пашыты касавароткай, нацыянальны арнамент у буйныя кветкі-квадраты.

Дзеткі басяком бегаюць па вуліцы. Падносяць кветкі, дужа маленькія, саромеюцца і баяцца.

---

[1] Гл.: Вечарэе… [1977] // Абсяг. С. 101.

[2] Ібн Сіна (лацінізаванае Авіцэнна; каля 980–1037), вучоны, філосаф, урач. Жыў у Сярэдняй Азіі і Іране.

[3] Цімур (Тамерлан; 1336–1405), сярэднеазіяцкі дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, эмір з 1379 г., стваральнік дзяржавы са сталіцай у Самаркандзе.

Берды Кербабаеў[1] любіў расказваць: выехалі два туркмены, доўга ехалі, праз тры дні паказаўся мінарэт Куня-Ургенча. «Мінарэт Куня-Ургенча». — «Балбатун, без цябе бачу, што мінарэт».

Выступала настаўніца рускай літаратуры, між іншым, сказала, што верш «Салют сорак пятага»[2] быў змешчаны ў настаўніцкай газеце да 30-годдзя вызвалення Беларусі.

Агузы. Як раздзяліліся, хто дзе сядзеў на бяседзе: на белай кашме галава белага барана, у каго сын; чорная кашма і галава чорнага барана, у каго не было дзяцей; чырвоная, у каго дачка. Белыя бараны, чорныя бараны. Імя сыну не давалі, пакуль не праявіў сябе. Без імя — Атсыз бугачхан (быка за [рогі возьме]), карыда свая ў агузаў. Бой бараноў, бой пеўняў — цяпер.

[Парадкоўнік верша] «Дзяўчатак (белая дзяўчына) гэтых прастораў падобны на матылькоў...» Зрабілі з Байрамам [Джутдыевым] некалькі парадкоўнікаў. Сціпла заўважыў: «Можа, дома паглядзіш, а не, дык — выкінеш». Неяк сорамна стала, што, сапраўды, бывае, пакуль госцяць — абяцаюць перакладаць, а пасля забываюцца.

*9 кастрычніка*

Раніца, вобразна кажучы (М. С. Хрушчоў), золкая. Крычыць ішак. Значыць, 7 раніцы. Здаецца, ён з глыбокай студні цягне вядро з вадой, круціць перасохлы вочап.

Кажу Бердыназару [Худайназараву]: добра, што халадок, а ён: а для бавоўнаробаў? Мне стала сорамна за такі турысцкі падыход да справы.

Па радыё спачатку паведамленні па-туркменску; толькі пахта́ [бавоўна] план, пасля па-руску, пасля раённыя паведамленні; усе паведамленні: імёны калгаснікаў і словы «план», «працэнт», «пахта». 1-шы сакратар райкома Кувват Ураев (Куня-Ургенч).

Цімур паказваў зад сваім военачальнікам: «Бачыце, усё забрала сядло».

Мінарэт [будаваўся] з мэтай: 1) назіраць ворага; 2) крычалі «азат...»; 3) віноўнікаў [скідвалі] зверху ўніз, няверных (мужоў ці жонак). Цяпер бы тых, хто надпісы робіць, спусціць зверху ўніз. 1200 тысяч жыхароў. Вароты горада. Караван-сарай, тут жа мытніца. Зараз ад Беларусі іду. Куня-Ургенч мільённым горадам быў. Текашан — адміністратар ЗМЛ, шэй-шэрэх — духоўнае званне. Сістэма адзінаначалія.

---

[1] Кербабаеў Берды (1894–1974), туркменскі пісьменнік. Народны пісьменнік ТССР (1967). Герой Сацыялістычнай Працы (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1951).
[2] Гл.: «Які ж ён быў зыркі...» (25.05.74) // Свята пчалы. С. 286.

Правобраз жалезабетону (дрэва — перакрыцце і вапна). Драбінынасілкі стаяць над магілай ([трэба] пахаваць да зары ранішняй ці вячаровай).

Акадэмія (40 вучоных). Калі напалі манголы, малілі бога, каб перавярнулася. Бог пачуў, перавярнулася АН, і зараз чуваць галасы (беларускія легенды пра затанулыя гарады). «У нас зараз жывыя, а галасоў не чуваць».

Косці былога горада (Харэзма) не хочуць стаць зямлёй, з якой яны былі сценамі і збанамі, керамікай і цэглай. Увесь абсяг — друз, чарапкі, хрумсцяць пад падэшвамі, нешта шэпчуць[3]. Яшчарка настолькі [зліваецца] з зямлёй, што як цень без ценю, уся запыленая. Стэпавы вецер асвяжаў. Туркмен і самога Алаха не прызнаваў, толькі чэсць і воля — галоўная рыса.

Ленінскі раён (Ак-Цюбе). 10 тыс. кв. км., 40 тыс. чалавек, 17 нацыянальнасцяў; рыс, бавоўна. 400 кв. м у год кілімаў ручной работы (у асноўным за мяжу).

Байрам [Джутдыеў], калі знаёміў, некалькі разоў падкрэсліў, што «мой друг». (Фазіль [Іскандэр] не вытрымаў: «А мы хто?» Так званыя старэйшыя браты).

33 Героя [Сацыялістычнай] Працы, 1 — двойчы Герой Соцтруда, старшыня. Расказваў адзін паэт, што ў час вайны з запальнічкай. Дзед падышоў: «Адкуль, з замяжы?» — «Наша вытворчасць». — «Калі наша, значыць, пераможам». Зямля аж звініць, выбілі рэхакапытна конніцы. На спіне выступае сон у стэпа.

Каб ятрыла плоць пагляд,
Забараняе азат.

Такія ўзоры ку́пала, такімі цікавымі лініямі лёсу, жыццёвымі дарогамі арнамент. І купал здаецца піялой, якую перакуліў Алах, задыхнуўшыся ад захаплення, выдыхаючы «ханум»[4].

Калгас імя Тэльмана, ордэна Леніна. Хто займаецца нумізматыкай, павінен ехаць сюды і на грудзях калгасных аксакалаў вучыць.

Старшыня. Двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Эрсарыеў[5] Оразгельды, з дня заснавання [калгаса], з 30-га года старшыня, 43 гады. 210–220 руб. заработная плата, 2630 руб. у год [атрымліваюць] калгаснікі.

[3] Гл.: Тут быў Харэзм… (30.09–1.12.74) // Абсяг. С. 105.

[4] Гл.: Піяла (13.07.75, Гагра) // Тамсама. С. 98.

[5] Эрсарыеў Оразгельды (1900–1978), старшыня калгаса імя Тэльмана. Герой Сацыялістычнай Працы (1947, 1957).

Бароды — тэльпек аксакалаў, то як абкладзеныя воўнай, то кузлакамі, то рэдкія, як сухі саксаул[1].

Пачаў з 4-х га, зараз 1650 га. «Якую тэхніку [прымянялі]?» — «Маламала», — усміхаецца.

Тройчы трапляў у рукі басмачоў, бо спачуваў рускім. Басмачы абяцалі ў выпадку пераходу на іх бок — [зрабіць] аксакалам аднаго аула. Басмачы сядзелі, пілі чай, абяцалі — ехалі далей. Трэба ж было жыць. «У беларускага госця ураза». — «Няхай п'е. Грэх на сябе бяру».

Жонку ўкраў, калі ёй было 15 год. (Тады старшынёй сельсавета быў мула.) Прыехаў намеснік старшыні Савета Міністраў: «Судзіць трэба, ён няпоўнагадовую ўзяў!» Жонка ўваходзіць перапалоханая, бо не зразумела, у чым справа.

Соль везлі, суправаджала 35 чалавек і бярданка (6 патронаў). Засталіся двое па патрэбе. Адзін прызнаўся. Соль — долу. Іх забралі ўсіх. Замест солі — кажуркі саксаула.

Чырвонапалачнікі. Басмачы. Следапыты. Па слядах шлях (след назад), а то начальнік міліцыі хацеў яго знішчыць, быццам башлык [старшыня] з басмачамі. Ён паведаміў, што і да чаго, замест роспісу прыклаў водціск пальца.

*** У старшыні (старэйшага брата) забілі басмачы. Стрэл у спіну. Падаспелі чырвонаармейцы, а ён мёртвы, а рукі ў муцэ, як [быццам] мясіў у місцы.

Прывёз з Куня-Ургенча мяшочак з казінай шкуркі мукі (на даляглядзе ўбачылі басмачы хмару — ехалі чырвонаармейцы). «Гэта ты сказаў, што мы тут?»

Цераз плечы перавязалі галінкі йалгака, быццам вінтоўкі. Па патрэбе асталіся тут, і правалілася ўсё.

І пачынае дзённік пісаць
Для поўнага тома
Поўнага збору твораў...

*10 кастрычніка*

Як бярозка, а пераспелы хамлак (снег), у час вайны націралі цела, [выглядала] як праказа, каб не [ісці] на вайну.

*Йыланлы* (райцэнтр). 20 тыс. кв. км. Горкая вада, авечка і каза памірае. Ваду правяраюць вадой (бо яна танней за авечку). «П'е, п'е, тры крокі пройдзе і ме-е-е! Капцы!» Авечкі на перагонах, але прыходзіцца прывозіць ваду. Буйнарагаты статак у стойлавым утрыманні. Тут калым меней.

---

[1] Гл.: Бароды аксакалаў (28–29.11.74) // Прынамсі. С. 52.

Аб’яднанне «Сельгастэхніка» (дырэктар Клыч Дурдыеў). Назва раёна ад слова «змей». Днём як змей. А ноччу — юнак. Дзяўчына — перы́ (фея); йылан — змей; хілал — дзяўчына.

Калгас «Правда», пры ўваходзе ўсе старшыні калгасаў, якія былі да ўзбуйнення. Далей мастак намаляваў Герояў Сацыялістычнай Працы, хто за чаем, хто ў еўрапейскім касцюме. Башлык тлумачыць: толькі 10 партрэтаў, адзін трохі мыш пагрыз, і паказвае на рукаво сваё. Герой Сацпрацы і маці-гераіня (10 дзяцей) Огульджан Матджанава.

Юрта — мікранебасхіл; рожкі джайрана, на іх магазынныя лямпы, ачаг гарыць круглыя суткі практычна, бо шмат дзяцей, чай, яда, хлеб у прысаку. Зверху відаць ноччу зоры. Кілім, што на дзвярах адхінаюць, кілім таксама па-туркменску[1].

*Мадам вярблюдзіца, дазволь крыху прылюдзіцца і сфатаграфавацца.*

Калгас «Масква», Сапыш Чаркезаў, башлык, каля 30-ці год. Дом адпачынку калгасніка, 2-мясцовыя люксы. Прыязджаюць дамоў — і душы, і ручнікі (прапаганда сангігіены).

На верандзе пчолы, на зіму ўжо пастаўлены. Самы лепшы мёд з вярблюджай калючкі (Авіцэнна). Ад 100 бед — ратунак — лісце абрыкосаў. Гарыць, як асіна наша.

Алах ішаку абяцаў 50 год [жыцця] (слухаць гаспадара, есці адны калючкі, мерзнуць увесь час), і ішак адмовіўся; і абяцаў добрую морду, вушы, капыты, — адмовіўся. Замест гэтага — «шланг», уручча нападоймішча. Убачыў [ішак сябе] у люстра і зарагатаў. Ішак самы няўдзячны.

Ёсць звычай хаваць галаву каня[2]. Коні йдуць, калі хаваюць гаспадара, павадамі мятуць дол і плачуць.

Раптоўная хмурынка — град, дождж спорны, зямля, як некалі на цаліне, падошвы па паўпуду.

Клуб калгасны на 1000 месцаў. Калгасная гасцініца, прайшоў дождж. Бердыназар [Худайназараў] кажа, што клясці будуць нас калгаснікі, што дождж (нават горш — град) з сабой прывезлі. Вечарэе. Бутэбродзістая зямля. Пад вечар свежавата. Хоць тэленавіны будуць перадаваць, што тэмпература па Туркменіі 25–27° вышэй нуля. Днём, асабліва ў машыне, і ўсіх сорак.

Смачна рыкаюць каровы. Абрыкалі ўшацкія і Гілёні, і Лысоні.

*11 кастрычніка*

*Ташаузскі раён***.** РК[3]. Спрадвеку ўсё рабілася талакой: хату будаваць, тост [?], хаваць.

---

[1] Гл.: Юрта (24.11.74) // Абсяг. С. 103.

[2] Гл.: Хаваюць галаву каня... (25.11.74) // Тамсама. С. 107.

[3] РК — раённы камітэт.

Помнік 162-м землякам (калгаснікам), Вечны агонь, і ў сярэдзіне плошча для вады, як сімвал жыцця, працяг жыцця, 15 га плошча.

У Туркменіі ёсць пасада намеснік старшыні калгаса па культуры. Узбек прыйшоў да казаха ў госці. З'еў барана — чакае, з'еў цяля — чакае. Ідуць дні, што рабіць? Пайшоў да аксакала. Купі 3 кг рысу, 2 кг мяса, некалькі марковінак. Звары яму плоў, з'есць, падзякуе і пойдзе. Так і атрымалася.

Калгас імя Леніна, старшыня Орунбаеў Копел быў у Мінску, падабаўся помнік Хатынь, запомніў забойства Кубэ[1]. Копел (памнажайся, хай множыцца; быў першы сын, каб яшчэ былі — пажаданне).

Да сарака год усе грахі запісваюцца на пяску, пасля 40 — на камені. «Сустрэнемся ў млыне» (не скора, бо малоць не было часу).

*12 кастрычніка*

Свежая раўніна. Нагадвае нашу. Таурын паказаў мне: веташок стаіць, як чаўнок, як плошка, што дагарае, бо ўжо настае дзень.

Плоў вечарам еў рукой — цікава.

Ідуць школьнікі ў школу. Варон не відаць, нешта сваё лічаць.

Пахлаван Махмуд (1247–1326) і хан [неразб. 1]. Бакавыя дзверы, калі не было дзяцей, нібыта Алах, а там са «шлангам», выскоквалі ў поцемкі, бо стары муж, і біў, калі не было малых.

Дыня на вока, а не на вагу. Лудзяць срэбра.

Па дарогах, як маленькія, чырвоным абцягнутыя урначкі для галасавання, для [збору] халмачкоў бавоўны.

«За што каня навязаць?» — «За язык» ( [значыць,] нічога няма).

Адлятаем з Ташауза. Шафёру хачу зрабіць нешта прыемнае. Даю значок «Хатынь». Усміхаецца: «Жена?» — «Не», — тлумачу: вёска ў Беларусі і г. д. А выходзіць, па-ўзбекску «хатынь» — жонка. Юнак гэты ўзбек.

У *Хіве* цікавы музей, чаканка па метале, разьба па дрэве, мармуры, гіпсе. Кніжкі цікавыя. Скруткі — узоры каліграфіі, падстаўка для кніг карна-тахта.

*Тахта*. Раён славуты героямі і пісьменнікамі. Гурбанмэммет сердар (хан). Спачату жонку прымусіў, штоб яна сказала, што ён хан. Можна быць ханам скрозь, а ў жонкі — не.

Ляцім — унізе барханы. Яшчэ вышэй хмары. Анналі [Бердыеў] паказвае — во колькі бавоўны. Нябесны хурман.

Ледзь уладкаваліся ў гасцініцу. Далі люкс на траіх: каўказскі эгацэнтрык і, відаць, «а вы ў наш садзік не хадзіце» — Фазіль [Іскандэр], Францага [Таурын], я. Вечарам прайшоў з Ікарам [Пасеўевым] па горадзе. Азі-

[1] Кубэ Рыхард Паўль Вільгельм (1887–1943), кіраўнік нямецкай цывільнай акупацыйнай адміністрацыі ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну.

яцкі горад. Адразу цёмна, нікога на вуліцах. Зайшлі ў «Гулістан» — рэстаран (1959 г., на падлозе парога дата выкладзена). Падлога цэментовая, на столі — вінаград спее. Адна козачка са срэбнымі зубамі з цяжкасцю цягае азадак, і з ёй з вялікім вымем, — танцуюць, завабліваюць.

З нумара далі Мінск. Так чуваць, быццам у адным пакоі. Зайчык з Ласём — чэхаславацкі цырк, ці што, пайшлі глядзець.

*13 кастрычніка*

Раніцай разбудзіў званок з АТС, упэўніваліся, хто званіў. Чакаю зноў Мінск. Там недзе самы сон. У вакне цёмна-шэрыя горы, над імі, з іх — хмары, нібы ўзмыленыя воды багатаілістай ракі. Краявід нагадвае акварэлі Тараса Рыгоравіча [Шаўчэнкі].

Стракаты ўсходні азіяцкі базар. Шкаф — з узорамі. Калышацца кілім пераспела-густых фарбаў. Чырвоны колер, калі дзяўчына. Кабета — цямнейшы. Прадаецца вярблюдзіха з маленькім–1300 руб. Падвескі, срэбра.

Зайшлі да брата Байрама [Джутдыева]. Пад шыфернай павеццю вярблюдзіца (чаму не было вярблюджонка? Трапіла пад машыну. Ножку патрушчыла. Наклалі шыну. Ці рэзаць, ці не? Малако ў мамы вярблюдзіхі перагарэла). Побач расчынены гараж. «Масквіч».

Музей. Кілім = 200 кв. м.

У кафэ абедаем з узбекам з Нукуса (у гандлі працуе), дужа падабаліся ў вайну ўкраінкі і беларускі, рускія — культурныя.

Ахмед Гурбаннепесов[1].

Аксакал з унукам на матацыкле да АЗС. Белая барада, чорны тэльпек. Запраўляе са шланга матацыкл, папраўляе бараду і вядзе з аўтавадапою свайго «ішака».

Двор. Вярблюд. Для хлеба печ. У вярблюдзіцы на шыі палачка (ад уроцы). Калі вярблюд на адным месцы доўга [стаіць] — ацякаюць ногі. Трэба хадзіць.

Теке — казёл-самец (адсюль, відаць, і тэкінец, аснова нацыі. Гордае племя).

Ахмед [Гурбаннепесаў] ехаў. Стаіць [жанчына] каля раддома. А гэта ягоная жонка з сынком.

Хакей ля помніка Махтумкулі[2] на вуліцы калгаса. Дзеці б'юць шайбу.

Малыя дзеткі —
Малыя бедкі.

---

[1] Гурбаннепесаў Ахмет, туркменскі паэт, празаік.

[2] Махтумкулі (каля 1733–1780-я), туркменскі паэт-мысліцель, пачынальнік туркменскай літаратуры.

Пабольшалі дзеткі —
Бяда ў адведкі…

*[Лістапад]*

Чапады (святочны чӨрэк, у дадзеным выпадку — нарадзіўся сын у Ахмета [Гурбаннепесава]). Святочны каравай. Прыйшлі малыя. Хто на што вучыцца? 1 вір, 2 ікі, 3 уч. [Чужой рукой:] Бир — один, ики — два, уч — три, дорт — четыре, бэш — пять, алты — шесть, еда — семь, секи́з — восемь, докуз — девять, он — десять. Гучанне ветра ў гэтых лічбах.

«Па-туркменску Бердыназар Худайназаров у дзесяць раз лепей гучыць, чым Пушкін па-туркменску» (Байрам [Джутдыеў] пра пераклады рускай класікі на туркменскую мову). Туркменскія паэты яшчэ могуць [пісаць], як іхнія жонкі пякуць хлеб (бліжэй да зямлі). У нас ужо гучыць як атрыбут.

У Ахмета сын. Выбар імя. Сыходзяцца суседкі, раяцца, выбіраюць імя. Ахмет чытае баладу пра мумію. Прыйшоў сусед, далёкі ад паэзіі, напаўляжыць на кашме, смаліць цыгарку, слухае.

Перац марынаваны глынуў, хоць пажарныя каманды выклікай з усяго раёна.

Толькі нядаўна купіў столік і крэсла, раней лежачы пісаў. Кніжная паліца — знаёмыя мне два тамы Броўкі, Іван Тарба[1], Кнут Гамсун[2].

Верш, калі б не вайна, маленства не сядзела б не глядзела, як другія ядуць. Бацька загінуў на вайне. Жадаю новых сынкоў і кніжку. «Вось з кніжкай цяжэй», — заўважае Байрам [Джутдыеў] па-гаспадарску. Каля 80 курэй, камбікорм, ліст вінаграда ядуць. У суседзяў побач стог яндак для вярблюдаў. Літаратарам трэба ўсё рабіць, мала кніг, слоўнікаў, запісу фальклору, а бахшы выступаюць нават на радыё.

Выязджаем на дрындулеце, праводзіць у дарогу вялізны сабака. Другі сядзіць у амаль чалавечай позе, нібы са злосцю выцягвае стрэмку адтуль, дзе хвост пачатак бярэ.

Званіў у Мінск. Зайчык незадаволены: не прывязу фісташак. Клёва [Кляўко; …]. Надакучылі ягоныя асеціны. Не дзіва, што тут у нейкім раёне выкладчык фізкультуры вёў замежную мову і выкладаў асецінскую.

*14 кастрычніка*

Апошні дзень у Туркменіі. Шкада шчыра, што ўсё канчаецца, толькі пачало ўсё рабіцца зразумелым.

Выступленне на тэле. Пераблытаў раней задуманую праграму, раптам — «беларус!». Нічога.

---

[1] Тарба Іван Канстанцінавіч (1921–1994), абхазскі пісьменнік.

[2] Гамсун Кнут (сапр. Педэрсен; 1859–1952), нарвежскі пісьменнік.

Мурашка бежит по спине (Байрам [Джутдыеў] звоніць).

Пахадзіў па магазінах, хацеў Чыку цюбецеечку купіць, няма. Перад адкрыццём «Дзіцячага свету» з абеду многа людзей, у асноўным маладыя мамы і вось-вось мамы і многа раз мамы.

Вечар у тэатры імя Пушкіна. Беспадобна чытае Луконін. Далікатная аголеная даверлівасць.

Падыходзіць вастраносенькі маладзенькі на вуліцы. Чысцюткая беларуская мова. Васіль Ткачоў[1]. Учора шукаў ён мяне. Шкада. Ужо двое дзяцей. Трэці[2], відаць, маленькі выйдзе ў нашым выдавецтве.

*15 кастрычніка*

Ад’езд. Адлёт. Яшчэ пад уражаннем, як чытае Луконін вершы.

Бархан самазаглыблены ў сябе, як той паэт з каўказкім каларытам. *Атрымаеш шчаўбана. Бачыў на чаўне чабана. На бархане човен, пяску повен, адпачывае*[3].

Інтэрв’ю з Феліні[4] ў кнізе артыкулаў. « Усялякі мастацкі твор — споведзь. Калі таго, хто яе выслухвае, яна хвалюе ці абурае, — гэта сведчанне яе шчырасці, і ў такім выпадку мы можам сказаць, што яна неабходна».

Пасля 12-ці ў Ашхабадзе, 22.00 Масквы. Пагода, ход уборкі, спачатку ідуць Прыбалтыка, Расія, затым Закаўказзе, апошняя, як самы далёкі пункт, Туркменія.

*16 кастрычніка*

9 з хвосцікам*. Масква.* Гарбачоў. Лакербая [Лакербай]. Рыта [Бурсава]. СП. Аэрафлот. Прыйшлося бедным дыням рабіць стрыптыз. Бо праходзіць такі дагляд, як некалі дапрызыўнікі. Неўзабаве будуць распранаць да трусоў. Пачулася дзяўчыне, што я матам лаюся. Ледзь адкараскаўся.

*3 лістапада*

Колькі ўжо месяцаў пранеслася. Семдзесят чацвёрты ўручыў мне адзінаццаты праязны. За гэты час крыху паездзіў. На свяце лермантаўскай паэзіі — у Пензе. У Туркменіі паўмесяца. Каму ў выдавецтве свярбіць у адным месцы, не ведаю. Пасля кожнай паездкі абавязкова пачынаюць цягаць з тлумачальнымі.

---

[1] Ткачоў Васіль Юр’евіч (н. 1948), беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст. У 1973–1978 гг. служыў у Туркменіі ваенным карэспандэнтам.

[2] Зборнік апавяданняў для дзяцей «Хітры Данік» (Мінск, 1975).

[3] Гл.: Човен на бархане (25.11.74) // Прынамсі. С. 46.

[4] Фелліні Федэрыка (1920–1993), італьянскі сцэнарыст і кінарэжысёр.

Учора прыехаў Іван Цярэнцевіч [Бурсаў] з Рытачкай Морквінкай [Маркаўнай] сваёй.

Дождж, як бы напісаў філосаф з Палесся Б. Сачанка, — як з вядра. Дарэчы, чытаю ягоную, з даволу сказаць, аповесць у дзясятым [нумары] «Маладосці». Адчуванне, нібы табе жабу пасадзілі за каршэнь ці яшчэ страшней — у тое месца, якое звычайна ў мастакоў на палотнах фігавым (хаця і фіговым) лістком ахоўваюць. Хадзіць па кватэрах нябожчыкаў варушыць іхнюю бялізну з добрымі нібыта намерамі. Палешукі ёсць палешукі. Думкі на ўзроўні хойніцкай раённай газеты ўздымных пяцідзесятых. Трудился в поте лица своего, ці лепей, відаць, в лице поца своего. Сяргей Аляксандравіч [Ясенін] даўно заўважыў: «Каждый труд благослови удачи».

І так на сэрца нейкі камень цісне. Сапраўды, як у Галактыёна Табідзе[1]. Рыбіна рыбіне кажа пасунуцца. У адказ тая пытае, а куды? На адной жа патэльні смажаць іх.

Абрыдзеў СП. Анатоль Грачанікаў, высуванэц-чыгуначнік, настолькі абнахабеў, што няшчасны зборнічак мой для дзяцей, што меркавалі выдаць эстонцы, перакрэсліў і за сваім подпісам паслаў ксіву ў Эстонію, што трэба выдаць Івана Пятровіча [Шамякіна] і яго, як самага высокага паэта Беларусі. Дробязная фігура з высокім ростам. Ударнікі ў літаратуры практыкуюцца хіба толькі ў немцаў-дэмакратаў.

З усіх, відаць, падарожжаў маіх, адносна недалёкіх, запомнілася своеасаблівая Туркменія. Усе дні абсалютна чыстая галава. Шмат уражанняў. Не ўсё быў час узважыць. Азія па-свойму палярна цікавіць еўрапейца (па месцы нараджэння). Паколькі ў нас недзе ў пушчах крыві цячэ бруйком азіяцінка, цікава, вечарамі асабліва, адчуць шчымліва-няўлоўны пах саксаульнага дымку, спачатку незразумелую гартаннасць гукаў.

Барханы. Пустэльнасць. Калючы яндак. Неяк больш разумееш усю неабдымнасць, спаконвечнасць зямнога існавання. Імгненную часовасць сваю на гэтай зямлі. Драбнеюць усе, здавалася б, самыя буйныя трагедыі. Фатальная загадкавасць прыроды, вечнасці патаемна прыжмурыла вока. Ёй-то, бачыш, усё зразумела, а табе нічога, як ні пніся, як ні старайся.

Рэшткі роспісаў сцен, кавалачкі пісьменства. Менавіта арабская вязь лепей за ўсё перадае векавую выветранасць, выпетранасць імгненняў чалавечага жыцця, яго наіўнасці і яго ўсё-ткі магутнасці, дзёрзкасці яго. Чалавек, як бы яго ні нішчылі, ні прыніжалі, не тая запыленая, нібыта

---

[1] Табідзе Галакціён Васільевіч (1892–1959), грузінскі паэт. Народны паэт ГССР (1933). Акадэмік АН Грузіі (1944).

непрыкметны цень ад пылу, яшчарка мейданлара — неперакладаемае, фактычна, слова, і роўнядзь, і бязмеж, і поле.

На нядоўга выпускае забыццё чалавека. Экскурсія для каго больш цікавая, для каго — менш. Для каго больш доўгая, для каго — карацейшая. А ў выніку — вечны спакой. Колькі б ні стараўся чалавек захапіць, колькі б ні тужыўся — мыльныя, хаця і прыгожыя, шары. Толькі нешта духоўнае і можа астацца, нейкім чынам аматэрыяленае, заземленае, запыненае.

Азія. Крыху зразумела робіцца таямнічасць раскопак, знаходак, што называецца, вочная стаўка з мінулымі вякамі. Толькі пыл і тлен, тлен і пыл, наноў паўтораны, каб зноў стаць пылам і тленам.

Трэба крыху падправіць, каб можна было друкаваць, ушацкую хрэсьбінную:

Дзякуй тому х[уюш]кý,
Што нам зробіў пірушкý.

Можа, так:

Дзякуй тому няўседу,
Што зрабіў нам бяседу.
І ў ручачкі не хукаў,
Малаточкам не грукаў…

Нешта трэба, проста неабходна напісаць пра Ушаччыну, пра тое, што ў мяне асталося ад мамы ў памяці і ў такіх-сякіх запісах. Тут павінны будуць быць і вершы, і проза, і прыбабунькі, і матэрыялы ўшацкага слоўніка. І ўсё гэта павінна чытацца, каб не наганяла сон салодкі…

Пачаць, відаць, давядзецца з вядомага ўшацкага:

— Ці там воўк?

— А няго ж … заяц!

— Ці ён панёс?

— А няго ж… табе прынёс!

Увесь характар, і туман, і лес, некалі так усё некранута было.

*5 лістапада*

Здаў нарэшце сваё «выдранае»[1] (сапраўды, у многіх выпадках выдзяраў старонкі і рабіў расклейку). Калі пачаў друкаваць змест, многае захацелася перапісаць. Перамагло пачуццё адсутнасці часу, яно крыху прытупіла рупнасць. Няма часу. Калі ён будзе? Куды так ашалела ляцім?

[1] Падрыхтоўка рукапіса зборніка выбраных вершаў «Свята пчалы» (Мінск, 1975).

* * *

Павучынка бабінага лета —
Лямпачкі завейнай валасок,
Загадзя вядомага лібрэта
Загадзя вядомы адрасок.

Лёсткі прэч зайцамі пагайсалі,
Адзінота сунецца саўма.
Прыгажосць балюча пагасае
І пра гэта ведае сама.

*6 лістапада*

Адправіў у Гродна Валю з Ланачкай. Паездзіў па горадзе.

*7 лістапада*

Рупары глушаць, здаецца, што яны ў вушы ўстаўлены.

Прыйшоў Юхноўскі. Быў лішні білет. Каля трыбуны пастаяў разам з домработніцамі начальнікаў, паглядзеў ваенны парад. Стрыманы. Тэхніка сімвалічна паказана. Што й казаць, моцныя мы — усім вядома!

Пазваніў Пімену Панчанку, ён мне не даў дужа расплысціся ў віншаваннях. «Калі не станеш геніяльным, усім кагалам адлупцуем. Я не стаў, дык то ж ты павінен стаць!»

Павіншаваў фотатэлеграмай Васіля Быкава з прэміяй[1]. Добра, што яму далі.

Паслаў фотатэлеграму Кайсыну Куліеву:

Точна стиха чеканного стрела.
Законная хвала не терпит зла.
И Беларусь — зелёная скала —
Светла улыбкай горного орла!

[Варыянт па-беларуску:]

Пратне радка чаканнага страла,
Законная хвала не любіць зла.
І Беларусь — зялёная скала —
Святлее ўсмешкай горнага арла.[2]

---

[1] В. Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР за аповесці «Абяліск» і «Дажыць да світання».

[2] Канчатковы варыянт гл.: Кайсыну Куліеву (1974) // Прынамсі. С. 225.

*29 лістапада*

* * *

Стаў для сусветных скарбаў цесны кублік.
У песень шчодры бацька пасажоны.
Ззяй, горды ордэн на сцягах рэспублік
І на грудзях Язэпа Семяжона![1]

*30 лістапада*

*Міхасю Лынькову*[2]

Літаратурны блакіт праз гады
Палётамі густа зарэйшаны.
Урэзаны ў вечнасць глыбока сляды
Народнага слова старэйшыны.

*3 снежня*

*Генадзю Аўсяннікаву*[3]*,*
*Генадзю Гарбуку*

Два Гені — і,
Круціце твіст:
І Геня-чмут,
І Геня-ёрнік.
Адзін народны
як артыст,
Другі народны
як вытворнік...[4]

*7–9 снежня*
*Ушачы*. Марушка [Трафімава].

Тут колісь ад эмоцый
Канаў шляхоцкі сеймік.
Хапала хэнці й моцы,
Цяпер хапае семак.

---

[1] Магчыма, у сувязі з узнагароджаннем ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
[2] Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899–1975), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Народны пісьменнік БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1953). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1968).
[3] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), акцёр Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991). Гл.: Генадзь Аўсяньнікаў // Дуліна ад Барадуліна. С. 142.
[4] Варыянт верша гл.: Прынамсі. С. 293.

*16 снежня*

* * *

Ахвярнасць ледзяша…
Рашучасць раздарожжа.
Датуль жыве душа,
Пакуль здзіўляцца можа.

Ці:

Рашучасць…
Ахвярнасць…
Пакуль…
Датуль…

*Dubulti*

*23 снежня*
*Dubulti.* [Скончана паэма «Смаргонская акадэмія».]

*29 снежня*
Ні хвіліны продыху не было і не відаць. Некалі мама казала: «Дрэнна, калі работа па табе верх паняла!» Хвасты, хвасты, хвасты. Як той жанглёрскі фокус: колькі ні цягні — цягнецца, цягнецца, цягнецца.

Нарэшце Гарсія Лорку закончыў перакладаць[1]. Колькі часу цягнулася. Але не хацеў дый не меў права перакладаць з халодным носам. Упершыню гучаць будзе вялікі іспанец на мове мамы маёй, на роднай беларускай. Што важнае, многія рэчы наогул па-славянску ўпершыню загучалі. Дзякуй Карласу Шэрману![2]

Зараз ужо дзесяць дзён як у Дубултах. Закончыў сваю шматпакутную «Смаргонскую акадэмію». Пісалася да забытых дрыжык і стрыманага крыку радасці ў грудзях у большасці выпадкаў.

Мора за вакном. Райнісаўскія[3] сосны. Яны не такія, як мае, ушацкія. Столькі вятроў, і кожны на свой бок схіліць хоча, і кожны кудлачыць, вырваць стараецца. Не задрэмлеш — будзеш шумець ды як мацней трымацца за родны грунт, на які злоснае да пены мора шчэрыцца.

---

[1] Гарсія Лорка Ф. Блакітны звон Гранады. Мінск, 1975. Пер. Р. Барадуліна.

[2] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1964–1980 гг. працаваў у Фундаментальнай бібліятэцы імя Я. Коласа АН БССР, з 1977 г. заг. рэдакцыйна-выдавецкага сектара. Зрабіў парадкоўнікі Ф. Гарсія Лоркі.

[3] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940).

Вучу латышскую мову па самадапаможніку, налягаю на граматыку. Чытаю адразу і «Лірычныя эцюды» Межэлайціса, і Ісікаву Такубоку[1] і перачытваю «За далью даль», «Из лирики этих лет»[2]. Перакладаю Ясеніна, прыцэльваюся да Марыса Чаклайса[3], смакую лірыку старажытнага Егіпта, вычытваю слова за словам усё цікавае з прыказак, прымавак і загадак (Яўген Рапановіч[4] складальнік): прыкідваю, якія менавіта ўшацкія мне трэба падкрэсліваць у сваім будучым (а веру ў гэта) эсэ пра Ушаччыну.

Заўтра ў Мінск на Новы год!

* * *

Урагана, трывогі ўскалых
Электронны не ўловіць слых.
Праз стагоддзі пачуць не змогуць
Думку ліха прыбораў ламачыны.
Як дакладнейшы ў свеце сейсмограф —
Сэрца матчына.

*[Снежань]*

*Карласу Шэрману*

Усё дакладна, спраўна, ў тэрмін
Перакладзе і зробіць Шэрман.
Дапамагчы ён можа Лорку
З палешуком пачаць гаворку,
Пра немаўлят на Кубе дбае —
Каб чулі калыханку Бая.
І быў барбудас Карлас рады
Наблізіць Бесядзь да Гранады.

*[Снежань]*

*31 снежня*

Забраць пропуск у ДК! Узяць з сабой у Dubulti 1) Ясеніна, «Ланжумо»[5], туркменскую нізку, мёд, піжамы, ручнік, Булата[6] зборнік.

---

[1] Ісікава Такубоку (сапр. імя Хадзімэ; 1886–1912), японскі паэт, празаік, крытык, публіцыст.
[2] Паэма і вершы А. Твардоўскага.
[3] Чаклайс Марыс (1940–2003), латышскі паэт.
[4] Рапановіч Яўген Нічыпаравіч (1929 —1987), беларускі мовазнавец, фалькларыст. У 1971–1979 гг. гал. рэдактар выд-ва «Народная асвета».
[5] Паэма А. Вазнясенскага.
[6] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

Злосць, што лёд да цяпла жыве. «Шутила зрелость, пела юность» (А. Твардоўскі).

* * *

Звонкія крыгі і аблачыны,
Разлінееныя ліўнем лагчыны,
Роўнядзь змоўклая, снегавая,
Што ўсе сакрэты вясне хавае,
Былі старонкамі,
Іх запаўняў я
радкамі таропкімі.

*1974*

*Якаву Хелемскаму*
*(Паштоўка са снегірамі)*

Ніколі нас, звада, не сні, гары.
Мы стог сардэчнай супольнасці вершым.
І з Беларусі тры снегіры,
Нібы тры зоркі над новым вершам.

*[1974]*

* * *

Чакае — хоць кладзіся плазам —
Экрана роднае радно.
Калі б узрост іх скласці разам,
Сто год
Вялюгіну й кіно.
А муза косіцца раўніва,
Што патыражныя кусы.
Здаўна баялася траў ніва —
Дзе рыфмавостры сык касы?
Гракі-рэжысёры
У вырай зляцелі,
Уключаны зоры
Над кінаарцеллю.
І з элегічным затоеным сумам
Журботныя шэпчуцца вершы-задумы:
«Не думай, паэце, нібыта мы
Змясціцца змаглі ў два ашчадных тамы…»

* * *

Нарэзаў з «Бярозкі» дубцоў бярэма я
На ўсякі выпадак — ад крытыкі.
Ды тут — Камсамольская прэмія —
У сталасць шляхі адкрытыя.
«Бярозка» пляскае ў ладкі старонак:
«Які ж мой надзейны рэдактар Зуёнак!»[1]

* * *

У славы апахалы кволыя,
Рашучасць — радасці «Выток»[2].
Бураўкін эпахальна ў «Полымі»
Узнёсла гартаваў радок.
А як рэдактар
на выгодзе,
Паменей нюхай сургучу.
Адданым ты і ў новым годзе
І гледачу, і чытачу!

*Міхасю Калачынскаму*

Стралковая рота,
Даўно ты ў запасе.
Гарцуе без цугляў
Пегас на папасе.
І дбае цяпер
Аб тамоў кубатуры
Паэце —
Заслужаны (асмужаны) дзеяч культуры.[3]

*Валянціну Мысліўцу*

Хто ломіць венікаў бярэма,
Хто ніжа скварку на лаўца,
Рабочая,
Крутая тэма
Сама ідзе на Мысліўца.
З «Рабочымі людзьмі»[4],
але дзьмі!

*[1974]*

---

[1] З нагоды прысуджэння прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Гл.: Паэты (13–14.08.74) // Абсяг. С. 65.

[2] Бураўкін Г. Выток. Мінск, 1974.

[3] З нагоды надання звання заслужанага дзеяча культуры БССР.

[4] Нарыс В. Мысліўца (1973). Канчатковы варыянт гл.: Што каму // Прынамсі. С. 261.

## 1975

*1 студзеня*

Да Жака не трапілі. Анатоль Сцяпанавіч [Вялюгін] ухваліў «Смаргонскую акадэмію».

*2 студзеня*

Дзякуй Адаму [Мальдзісу] — так тлумачыў, што спазніўся на «Чайку». Дзякуй Юрку — даеду такі!

*3 студзеня*

Пагода ранняй позняй восені. Званіў дамоў, Ілонка хварэе. Прыйшло:

> Да яго даходзіць доўга,
> Як да Эстоніі цягнік.

*4 студзеня*

Крышыць-ломіць усяго. Палтаран[1] паехала ў Мінск. Ніткі, гузікі, Ласю — тапатункі. Зноў засеў за «Смаргонскую».

*5 студзеня*

Званіў дамоў. Лось хворы. Не шанцуе. Затое залішне даглядальніц!

[к/ф] «Напад на тайную паліцыю». Зазімкавае мора. Свіргоча праклятыя вецер ці чайкі раздзіраюць душу. Невыносна і ноч усю, пад раніцу, і ўжо днём! Хай па прыкладу Адысея. Але дзе ж воск?

*6 студзеня*

Міністр тэле. «Советская Латвия». Харошыя людзі. Званіў Зайцу. Лось хворы. Чытаю Кабіра[2] і Саган[3].

*7 студзеня*

Зайчыку званіў. Глядзеў «Жыў-быў паліцэйскі». Доўга думалі з морам, як з зімой быць.

---

[1] Палтаран (Лепеская) Вера Сямёнаўна (1919–1989), беларуская пісьменніца. У 1973–1988 гг. заг. рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага (1970).

[2] Кабір (каля 1440–1518), індыйскі паэт.

[3] Саган Франсуаза (сапр. Куарэ; 1935–2004), французская пісьменніца і драматург.

*[1] Узыход года — студзень. Хутка ляціць. Хутка дамоў. Трэба працаваць, і так хочацца проста чытаць, чытаць, чытаць. Колькі жыву — не маю магчымасці гэтай. Затое даражэйшым свята робіцца для мяне. Свята запойнага чытання, свята катарсісу, свята нейкага чыстага палёту думкі, суперажывання, адкінуўшы ўсе набытыя навыкі і навукі пра сюжэт і фабулу, пра выяўленчыя сродкі. Добра проста быць першародна-даверлівым да аўтара, сачыць за ягонай думкай, паслухмяна ісці за ім.

*8 студзеня*

Прыехаў Віктар Ліўземніек[2]. Дрэнь ягоныя справы. (Торт ад доктара.) І Сяргей [Панізнік] кепскай думкі. Зноў з марам.

*9 студзеня*

З раніцы ў белы змрок. Добры белы ткач так мякка тчэ гэты змрок.

«Он любил только деньги, которые бросал на ветер».

*10 студзеня*

Vita Vīksna. Тэлебачанне 14.00, Zasulauks tirgus[3].

*12 студзеня*

Да Мінска з боем білет у апошнюю секунду [набыў]. Пасля Ф. Саган — аповесць Яўгена Радкевіча[4] (Кабанчыка).

Параіць Ул. Паўлаву зборнік у «Бібліятэцы паэзіі» планавы.

*13 студзеня*

Карэктура прыйшла разам са мной. Трэба тэрмінова Лорку здаць.

*15 студзеня*

Зубы! Жах.

---

[1] Далей пашыраныя, але не рэгулярныя дзённікавыя запісы 1975 г. далучаны да штодзённых рабочых запісаў «Кішэннага календара» і пазначаны адной зоркай.

[2] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; н. 1936), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. Гл.: «Удары перуна…» (1966) // Неруш. Мінск, 1966. С. 59.

[3] Рынак у раёне Засулаўкс у Рызе.

[4] Радкевіч Яўген Рыгоравіч (1937–1999), беларускі пісьменнік. З 1974 г. выкладчык, у 1978–1994 гг. заг. кафедры тэлебачання і радыёвяшчання журфака БДУ. Кандыдат гістарычных навук (1974). Доктар філалагічных навук (1988), прафесар (1989).

*16 студзеня*

Лася да ўрача везці! Трэба, відаць, рабіць аперацыю.

*17 студзеня*

Нехта козлікаў выкідвае. Ледзь Лорку не перанеслі.

*18 студзеня*

Не йдзе Германаў[1]. Туга. Не мой стыль.

*19 студзеня*

Да Вялюгіна. (Аддаць В. Куляшовай[2] кніжкі для тэлеперадачы.)

Раніцай да Вялюгіна, аддаць пераклады С. Паптонева.

*20 студзеня*

13.00 — да зубнога! Сустрэча са А. Звонакам[3]. Сустрэча з А. Вярцінскім.

*21 студзеня*

10.00 — Валянцін Антонавіч [Лукша], тэлебачанне, да Рэма [Нікіфаравіча] і да Александровіча[4].

* * *

У «тэлевізары» саліст
і абаронца міру,
Стаў Валя Лукша-афарыст
Вяшчальнікам эфіру.

*1975*

---

[1] Германаў Андрэй Дзімітраў (1932–1981), балгарскі паэт і перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Балгарыі (1977).

[2] Куляшова Валянціна Аркадзеўна (н. 1936), беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Дачка А. Куляшова. У 1971–1978 гг. ст. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, у 1978–1979 гг. заг. вытворчага аддзела Рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтва.

[3] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Смяяўся, язык прыкусіўшы... // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 136.

[4] Хутчэй, Александровіч Радаслаў Андрэевіч, сын А. І. Александровіча, які звяртаўся ў выдавецтва з просьбай надрукаваць вершы ці пераклады бацькі. Александровіч Андрэй Іванавіч (1906 —1963), беларускі пісьменнік. Член-карэспандэнт АН БССР (1936). Быў двойчы рэпрэсаваны (1938–1947; 1949–1955).

*22 студзеня*
Праца.
Вялюгіну знайсці Б. Алійніка[1].

*23 студзеня*
Валі Куляшовай кнігі. Лучанок[2], «Л[ітаратура] і М[астацтва]», [час.] «Беларусь», [час.] «Работніца і сялянка». Зубны ўрач (14.00). Забраць у СП бандэроль П. Броўкі.

*24 студзеня*
Выдавецтва. Забраць «Дзень паэзіі-75».

*25 студзеня*
Базар. 17.00 — дзень нараджэння ў жонкі Данілы[3], Коласавага сына.

*26 студзеня*
Да Вялюгіна занесці балгар.
Не быкоў на закланне ў ахвяру, а паэтаў аддаюць.

*27 студзеня*
9 раніцы да 11-ці ў Адама Мальдзіса. Выдавецтва. Тэлебачанне.
25-29-41 Хадасевіч.

*28 студзеня*
Зубы. Русецкі[4]. Зуёнак.
Кінастудыя (французскі фільм).

---

[1] Алейнік Барыс Ільіч (н. 1935), украінскі паэт, публіцыст. Акадэмік АН Украіны (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1983), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (1994). Герой Украіны (2005).
[2] Лучанок Ігар Міхайлавіч (н. 1938), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Прысвечаны яму верш гл.: Ігару Лучанку (1973) // Прынамсі. С. 238.
[3] Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996), беларускі дзеяч культуры, вучоны-хімік. Сын Я. Коласа. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). У 1957–1980 гг. дырэктар Музея Якуба Коласа.
[4] Русецкі Аляксей Сцяпанавіч (сапр. Бурдзялёў; 1912–2000), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983).

*29 студзеня*

Выдавецтва. Радыё. Зуёнак. Оперны тэатр, «Ціль Уленшпігель»[1]. [Гас.] «Мінск» ([пакой] 640). Конанаў[2].

*30 студзеня*

9.30 — забраць Валі [Куляшовай] здымкі. 10 раніцы Шабан. 12.30 — зубы. Радаслаў [Александровіч] (забраць бацькаў верш) у «Полымя» да Кірэенкі[3].

*31 студзеня*

Лазня. Зубы. Сустрэча ў «Полымі».

*1 лютага*

Камароўка. «Пагоня» 16.10. Германаў.

*2 лютага*

Верш забраць для «Дня паэзіі» ў Вярцінскага, Бураўкіна, Зуёнка. Здаць Лучука ў панядзелак.

Калі спяшаешся ў начальнікі, не абувай слізкага абутку.

*3 лютага*

14.00 — зубы. Праца — падпісаць Г. Пашкова[4], пазваніць Грачанікаву.

*Вось і хутка маіх сорак! Задужа багата для мяне як для паэта. Замала як для жыхара пад вечнымі зорамі. А ўжо адчуваю — іду з гары! Не такой і высокай была гара, болей коўзкай, чымся крутой.

Пайшла мама — знікла нешта дужа важнае для мяне. Ужо не будзе болей таго, хто хацеў табе толькі дабра так безахвярна, так даверліва...

---

[1] Балет (1974), музыка Я. Глебава, лібрэта і харэаграфія А. Дадзішкіліані. Глебаў Яўген Аляксандравіч (1929–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1983). Народны артыст БССР (1973). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970). Дадзішкіліані Атар Міхайлавіч (н. 1923), рэжысёр-пастаноўчык, балетмайстар. У 1964–1974 гг. гал. балетмайстар і гал. рэжысёр (1971–1976) Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета РБ. Заслужаны артыст РСФСР (1961). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1970).

[2] Конанаў Пётр Ільіч, гал. рэдактар тэлеінфармацыі АПН (г. Масква).

[3] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. У 1972–1986 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1972).

[4] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт і публіцыст. У 1972–1979 гг. заг. рэдакцыі, адказны сакратар час. «Полымя». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998). Пашкоў Г. Кляновік. Мінск, 1975.

Скончылася, гаворачы палітэканамічнымі тэрмінамі, натуральная гаспадарка адносін, націскае закон прамысловасці, закон рынку.

*4 лютага*

14.00 — зубы. Праца. Дом друку. Карлас [Шэрман] (аддаць праверыць пераклад П. Нэруды).

*Усе вакол, як хто можа, караскаюцца, каб уссесціся на крэсла, каб неяк уплываць — каб не адплываў ласейшы кавалак! СП — тэрарыум. Зборышча сексуальных маньякаў і славалюбых шызікаў. Нават макалёк[1] (менавіта з маленькай літары!) меціць, каб свой адкормлены азадачак усторкнуць на кіруючы ўслончык. Дробненькі літаратурны маклерчык, так і зырыць, каб сцягнуць дзе ці радок, ці загаловак, ці вобразік. (Лепей за ўсё гэта ў мёртвых рабіць. Хоць, здаецца, так і называецца кража ў доме нябожчыка — халтура.) [...] І ўсе робяць выгляд, што яны — рыцары роднай паэзіі, роднага слова. А калі б уволю даць хоць брагі славы, праз вушы пацячэ, так нажлукцяцца!

Не дзіва, што чытач астывае. Падагрэтую на электраплітцы пустой амбіцыі полівачку ніхто не будзе абялёдваць да скрыпу за вушамі.

*5 лютага*

Лучука — Зуёнку. 19.00 — Палац спорту ( [гарэлка] «Роял Найтс»).

*6 лютага*

14.00 — зубы. 16.00 — Алег Антонавіч[2], філфак (стары корпус). Выступленне — завочнікі. Аркадзю Куляшову — дзень нараджэння (перадаць малдаўскую кніжку і паштоўку).

*Зайшоў павіншаваць Аркадзя Куляшова з днём нараджэння. Жартуе, што я другі віншавальнік пасля сувораўцаў, якія стала віншуюць яго. Неўзабаве пазваніў таропкі званок — паштальён прынёс тэлеграму ад бацькоў. Усміхаецца: «Дарагі сынок...» А сынку ўжо — 60, сёння 61. З гадамі ўжо, кажа, і сорамна пісаць вершы неяк. Гэтая паэма — апошнія вершы. Даверліва прапанаваў мне прачытаць адзін раздзел, зачыніў у сваім

---

[1] Макаль Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 1932–1996), беларускі паэт, драматург, перакладчык. У 1966–1975 гг. пам. галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы ТЮГа, у 1975–1978 гг. літкансультант СП БССР. У 1978–1980 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1984).

[2] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык беларускай літаратуры БДУ. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1990). Прысвечаны яму верш гл.: Алегу Лойку (28.11.76) // Прынамсі. С. 242.

кабінеце, паўключаў святло. Насцярожана ўзяўся, а раптам гэта нецікава, як многія рэчы на гістарычную тэму. Гэта ж пра Кастуся Каліноўскага[1]. Прыйдзецца нешта мямліць. А гэта ж не абы хто, а Аркадзь Куляшоў!

Не ведаю, ці будзе на такім узроўні да канца, а пакуль што —надзвычай здорава. Манера куляшоўская, толькі на нейкім іншым узроўні, новая форма. Кожная карціна як бы высвечана знутры сваім стоеным святлом думкі, таленту, пачуцця!

Да многіх у яго ўзросце хадзіць боязна — нейкія бытавізна-пісьменніцкія крыўды, успаміны на ўзроўні ілба ў напаўпальца. А Аркадзь Аляксандравіч — цікавейшы гутарковец, увесь думка, увесь самааналіз, увесь неспакой: творчы, творчы. На час адклаў паэму. Трэба нейкі спачын, каб не было правільна халастых старонак.

Стрымана, каб тактоўна было, выказаў я сваю думку. «Ну, калі такі наватарскі паэт хваліць…» У гэтых словах і зычлівая іронія, і нейкая еднасць неспакою.

*Аркадзь Куляшоў*

У класіку як куля йшоў
І славай быў прызнаны рана,
Прамераў шлях да акіяна
Ад «Грознай пушчы» Куляшоў.
І Пушкін, Лермантаў, Лангфела[2]
Па-беларуску мовяць смела.

*[1978]*

* * *

Жыццё кароткае — і пражыві як след,
Багацце нажывеш ці мазалі.
Не ўзяць з сабой нічога ў стылы свет,
Падумай, што пакінеш на зямлі…[3]

*7 лютага*

10 раніцы, зала Бюро ЦК ЛКСМБ (грамата). 14.00 — Лісічонак з Ушач (з вершамі). 15.00 — радыё.

*Дуднік[4], дарагі, сумбурна-даверліва-наіўны, але Паэт. Едзе з Дубултаў. Гол як сакол. Памог як мог, нават болей магчымасцей.

---

[1] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін; 1838–1864), лідэр беларускага нацыянальнага вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

[2] Лангфелла Генры Водсварт (1807–1882), амерыканскі паэт, вучоны-філолаг, перакладчык.

[3] Гл. канчатковы варыянт: «Жыццё пражыўшы на зямлі, сусед…» [1977] // Абсяг. С. 166.

[4] Дуднік Пётр Маркавіч (1941–1984), малдаўскі паэт, празаік, сцэнарыст.

Зайшоў Мішэль Стральцоў. Што б ні казалі пра яго, што б ні тварыў ён у палоне Бахуса, вялікі запас трываласці душэўнай чысціні ў яго. Багацей ён за тых аднагодкаў, каго і дамоў, і з дому персанальная адвозіць. Пайшоў у халодны халасцяцкі пакойчык. Жонка (другая) нарадзіла дачушку, зараз у сваёй маці, а ён адзін. Дзякуй, што зайшоў, асветліў хату «лучом лицейских светлых дней…».

*8 лютага*

Сяргей Панізнік 13–14.00. Пётру Руднік. 17.00 — Андрэй Вазнясенскі [гас.] «Мінск» [пакой] 257.

*9 лютага*

10–11.00 — зубы. У Жака ўзяць Андрэя Вазнясенскага новы зборнік.

Джазмэн. Отечество и одиночество. Отчество.

*10 лютага*

14.00 — зубы. Забраць хвасты «Дня паэзіі», Вялюгіну «Анталогію» [у] «Полымя». У Лужаніна[1] ўзяць вершы.

*11 лютага*

12.00 — Аўрамчык[2] «Дзень паэзіі» (напомніць наконт рускай паэтэсы), праверыць вершы [на] А. Вялюгіне. 19.00 — Г. Вагнер (кв. 31). Па 19.00 будзе шабас. У Кісі [Журовіча] — дзень нараджэння.

*12 лютага*

14.00 — зубы. У «ЛіМ» (урэзку і вершы Круку[3] — «Азчыргыз»).

*13 лютага*

11.00 — Ніна Кукіна[4] (вершы), у «ЛіМ» урэзку. 13–15.00 — Аўрамчыку аддаць рэшту «Дня паэзіі». 15.00 — землячок (!). Г. Вагнеру — песню.

*14 лютага*

14.00 — зубы! «Полымя». Выдавецтва.

---

[1] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1965).

[2] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; н. 1920), беларускі паэт. У 1953–1980 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Маладосць». Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964).

[3] Крук Уладзімір Андрэевіч (1929–1991), беларускі фотамайстар. Супрацоўнічаў з большасцю беларускіх друкаваных выданняў і выдавецтваў.

[4] Кукіна Ніна Іванаўна (1941–2011), беларуская паэтэса.

*15 лютага*
Рана — лазня. Лагойск. СП 17.00. Вялюгін.

*16 лютага*
Сяргей Панізнік. Здаць білет на Маскву.
Цопам-лопам (на хаду; дзядзька з-пад Маладзечна).

*17 лютага*
Праца. Грачанікаву наконт паездкі.

*18 лютага*
11.00 — Ул. Някляеў[1]. Здаць хвасты «Дня паэзіі».

*19 лютага*
15.00 — выдавецтва. Вялюгін. Шкляру [Шклярэўскаму] (ці выпісалі грошы). Зубы.

*20 лютага*
15.00 — зубы. Яфім Якаўлевіч, завулак К.Чорнага, 4 — 46. Навум[2], праца.

*21 лютага*
10.30 — тэлестудыя.

* * *

Каб не збіцца са следу суседу,
Вечнадайнай заняты сяўбой,
Людзі — зорная памяць Сусвету —
Шлях наступнікам значаць сабой…

*22 лютага*
11 раніцы сустрэча з Петрусём Усцінавічам [Броўкам] (дома).
*** [Без даты:] Заходжу да Петруся Усцінавіча, разуваюся ў прыхожай.
— Навошта разуваешся?
— Як у храм заходжу.

---

[1] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст. У 1972–1975 гг. літсупрацоўнік рэдакцыі газ. «Знамя юности», у 1975–1978 гг. рэдактар бюлетэня «Тэатральны», у 1978–1987 гг. ст. рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).
[2] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

— Гэта толькі ў мусульманскім храме разуваюцца. А ў царкве шапку здымаюць.

*23 лютага*

17.00 — Валя Коўтун[1]. Тэле Еўдакія Уладзіміраўна Мацюш 66-45-65. [Паверх] 9 — [пакой] 6.

Малады паэт захоплены, як каханак. А муза — вопытная, бачыла не першага. Пасміхаецца.

*24 лютага*

Мне — 40 (!?) Не піць! Ананку[2] знайсці. На працы з хлопцамі [адзначыць].

*25 лютага*

Зубы 15.00. У бухгалтэрыю. Пачаставаць.

*27 лютага*

[27 лют. — 3 сак. Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў на тэму «Бессмяротны подзвіг народа ў Вялікай Айчынна вайне і савецкая літаратура».] Оперны тэатр. Эмін[3].

*28 лютага*

10.00 — Давід Кугульцінаў. Вечарам Шкляру [Шклярэўскага] сустрэць.

*1 сакавіка*

8.30 — ад'езд на *Віцебск. Орша.* Віцебск. Тэатр Я. Коласа.

*2 сакавіка*

*п. Шуміліна*. Дамарацкі[4]. *Полацк. Наваполацк*. Клуб нафтавікоў. *Ушачы.* Шчыміць нешта глыбокае. Трывога і крыўда, што няма мамы, як бы непатрэбным стала самае першае слова. *Лепель.*

---

[1] Коўтун Валянціна Міхайлаўна (сапр. Новік; 1946–2011), беларуская паэтэса, празаік, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1979). У 1970–1976 гг. літкансультант «Сельскай газеты», у 1976–1979 гг. рэдактар аддзела крытыкі і літаратуразнаўства час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1986).

[2] Ананка Станіслаў Міхайлавіч (1939–1979), беларускі фотакарэспандэнт; працаваў у газ. «Чырвоная змена», «Знамя юности».

[3] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор'евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

[4] Дамарацкі Эдуард М., беларускі журналіст.

*3 сакавіка*

У гадзіну — Мінск. Праца. Шах [Шахавец]. Трактарны завод. Прыём у «Журавінцы» [кафэ].

*4 сакавіка*

Абдушабар[1]. Кінастудыя, «Балада мужнасці і любові», фільм пра Магілёў.

*5 сакавіка*

Праца. Здача Кугульцінава. Да Навума (аддаць таджыкскую нізку і «Блакаду» ўзяць). Даведацца зубы.

*6 сакавіка*

10 раніцы Звонак. Кірава, 51, кв 25. 11 раніцы «Украінская анталогія».

*7 сакавіка*

Тэле. 14.00 — урачысты сход. Чытаць верш. 16.00 — зубы. 20.00 — Г. Вагнер.

*8 сакавіка*

Падагнаць хвасты.

*9 сакавіка*

Пасля абеду — да Сяргея [Панізніка]!

Як начытаўшыся Саган, каты канаюць: фэр дэ мур[2].

*10 сакавіка*

Зубы 15.00. Праца. Вялюгін, Звонак. У «Маладосць» анкету.

*11 сакавіка*

Праца, здаць Давыда [Кугульцінава]. 16.00 — тракт[3] вечара Танка. 19.00 — вечар Танка[4].

*12 сакавіка*

8.20 — Ваня [Бурсаў прыязджае]. Здаць Кугульцінава. 16.00 — зубы.

---

[1] Магчыма, Абдужаббараў Абдугаффор, таджыкскі пісьменнік. Народны пісьменнік Таджыкістана.

[2] Гл.: Вясновы настрой (16.09.75, Каралішчавічы) // Прынамсі. С. 151.

[3] Тракт (сувязі) — тэхнічны тэрмін пры запісе на тэлебачанні.

[4] Гл.: Ваенных год абойма: Максім Танк (19.01.75) // Прынамсі. С. 232.

*13 сакавіка*

Навум [Кіслік] — на машынку. Рэм [Нікіфаровіч], СП (Бернотску). 15.00 — філармонія.

*14 сакавіка*

«Вясёлка» — казкі Вані [Бурсава]. 22.18 — Ваня ў Маскву.

*15 сакавіка*

За бульбай. Да Сяргея [Панізніка]. 17.00 — зубы!

*16 сакавіка*

З Зайчыкам у ЦУМ. 17.00 — зубы!

*17 сакавіка*

Lazdynaj[1] (арэшнік — *адзінай)*. 14.00 — зубы! 18.00 — Пятровіч.

*18 сакавіка*

6.35 — выезд у *Вільнюс*, сустрэча з Альгісам[2].

*19 сакавіка*

Агляд горада. 15.10 — СП Літвы (Карчаўскас[3], Стралкунас[4]). 19.00 — урачысты вечар. Зюк [Селга — Закіс[5]].

Палымяная готыка касцёла св. Анны. «Вітаем вас!»

*20 сакавіка*

Сакрэт кладкі. 11.00 — агляд горада[6]. 18.30 — ад’езд на вечар.

Вільнюс закладзены на кветках.

*NB*. Калі кецілі белую кашулю (хто на колькі радкоў).

У св. касцёле Пятра і Паўла — [глядзеў] другімі вачыма, нейкі меншы, цьмянейшы. У крыжы атрыбуты паганства — вуж, сонца.

***Ранняя вясна. Вільнюс. Таксі, як стаеннікі ў яблыках шашак (павялічаныя ў Вільні). Вузкая вулка — адна на дваіх.

---

[1] Лаздзінай — раён Вільнюса.

[2] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966). Прысвечаны яму верш гл.: Альгімантасу Балтакісу (5.04.75) // Абсяг. С. 133.

[3] Карчаўскас Мікалас Антано, літоўскі паэт. Гл.: Аўкштайтыя ([1977]) // Абсяг. С. 111.

[4] Стрэлкунас Йонас Коста (н. 1930), літоўскі паэт. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва Літоўскай Рэспублікі (1996).

[5] Селга Гунар (сапр. Закіс), латышскі паэт.

[6] Гл.: Вільнюс у вясновых галасах (03.75) // Прынамсі. С. 155.

«Jūra pērle» рэстаран. Танцы з жыватамі, тонкія дамы. Кактус, як вушы старога кавалера ў валасах. Падкова на шчыце. Колькі падкоў на Беларусі ад заваёўнікаў. *К абеду — кабету.*

Белымі грудкамі ластаўкі
Рэчку высвечваюць да дна[1].

*21 сакавіка*

Рошкіскас [*г. Рокішкіс].* Ушаччынай пахне хлеб з кменам. Катлеты — смак хатніх кілбас. 19.00 — вечар у школе.

*22 сакавіка*

Kupišvis *[г. Купішкіс]* (агні на вадзе). Касцёл. Свядасай [*г. Сведасай*] (агонь). Шяпка.

*23 сакавіка*

Касцёл св. Матуса. Абялей (прыгонная ў вадзе [?]). Зарасай[2].

*24 сакавіка*

Марац, у кажусе, ласіна пахне дымам, ядлоўцам. Шяпка, адзін сабака. *Йодуне.* Завод «каровак». Завод сельгасмаш. Хутарок. Фінская лазня. «Ці будзеш пісаць пра Літву?» — «Буду». Св. Юргіс.

*Жаўрук балюе — былую.*

*25 сакавіка*

Птушкаферма. [Закрэслены ранейшы запіс: Мой вечар у «Мутным воку» (Алена Ігнатаўна).]

*26 сакавіка*

Роюс — рай. [г.] *Ігналіна.*

*27 сакавіка*

*Вільнюс.* (Танк — малайчына, выслужнік). Балтакісу — зборны веласіпедзік.

[Адрасы:] Ванда Йонаўна Місевічэне[3], [час.] «Культура збарай», 1970, № 11. Мікелявічус Эдмундас Францавіч. Матузявічус[4].

---

[1] Гл.: Паэма прызнання: Свята пчалы ([1971]) // Рум. С. 158.
[2] Гл.: Зарасай ([1977]) // Абсяг. С. 112.
[3] Місевічэне Ванда-Пранцішка Йона, літоўскі фалькларыст, этнамузыколаг.
[4] Матузявічус Эўгеніюс (1917–1994), літоўскі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны дзеяч мастацтва ЛітССР (1977).

*28 сакавіка*
Галоўпаштамт. (11 раніцы).
15.00 — Вярхоўны Савет ЛітССР.

*Альгімантасу Балтакісу*

Бой Бахусу аль гимн даст
Дух Балтики — Альгимантас.

*Вільнюс*

*29 сакавіка*
8.30 — аўтобус. 9.45 — адʼезд.

*30 сакавіка*
14.30 — мульцікі з Ласём. Жак (наконт вечара).
Экспазіцыя да эпітафіі затытулаванаму паэту[1].

*31 сакавіка*
14.00 — Віктар Жак (білеты). Кашыцкі[2]. Праца. Сігнал. Званіць Бурсаву і Шкляру [Шклярэўскаму].

*1 красавіка*
10 раніцы Марцалеў[3]. Мой вечар у «Мутным воку»! 10.30 — у Броўкі быць. Вялюгін.

*2 красавіка*
15.00 — секцыя [паэзіі ў СП]. 19.00 — Князь [Краўчанка].

*3 красавіка*
Праца. 14.00 — Карлас [Шэрман]. На секцыі Карлас пра іспанскую анталогію.

*4 красавіка*
9.00 — праца. Званіць Шкляру [Шклярэўскаму], Бурсаву.

---

[1] Гл.: Экспазіцыя да эпітафіі паэту, які ўсё прагне новых тытулаў ([1977]) // Прынамсі. С. 166.
[2] Кашыцкі Эдуард, аднакашнік; урач.
[3] Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч (1925–2003), беларускі гісторык культуры. У 1965–1976 гг. заг. аддзела культуры ЦК КПБ, у 1976–1994 гг. дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар гістарычных навук (1972), прафесар (1992). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

*5 красавіка*

8.00 — лазня. Па бярозавік з Ценителем[1] [жаночага цела] (17–18.00).

*6 красавіка*

Раніца — Князь [Краўчанка]. 14–15.00 — Карлас [Шэрман] (абед).

*Частушка пра космас*

З любым Васем на раллі
Мы за ноч сталкуемся,
А пасля, як караблі
Ў космасе, стыкуемся…

Машкоў[2] 39-56-56.

*7 красавіка*

Навум Кіслік (узяць «Блакаду»). «Вячэрні Мінск», Фомчанка[3]. Дазваніцца да Князя [Краўчанкі].

*Анатолю Клышку*
*з нагоды ўзнагароды серабром*[4]

Сагнаў я рыфмаў крышку
Не залатым пяром.
Шаноўнейшаму Клышку
З нагоды ўзнагароды,
Пакуль што серабром.
Хто дбаў пра доктарскі навар,
Пра порцыі з ікрою,
А ты на доктарскі «Буквар»
Маракаваў,
Прагнення сквар
Тушыў вадой сырою.
Адчуў ты мовы моц і боль,
Па роднай плакаць — рана.

---

[1] Мянушка В. Шрамякова.

[2] Машкоў Уладзімір Георгіевіч (1938–2000), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1972–1980 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Фомчанка Алег Сямёнавіч (н. 1932), беларускі журналіст, супрацоўнік газ. «Вячэрні Мінск».

[4] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. У 1971–1981 гг. заг. лабараторыі навучання грамаце аддзела навучання літаратуры Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994). За «Буквар» быў узнагароджаны Сярэбраным медалём ВДНГ СССР (1975) і Залатым медалём Міжнароднай Лейпцыгскай ярмаркі (1977).

Дарадца, дружа Анатоль,
Табе мая пашана.

*8 красавіка*

19.00 — філфак, ІІ курс (выступленне). Зуёнку аддаць вершы Броўкі. Наконт Лечкамісіі.

*9 красавіка*

Рэму [Нікіфаровічу] «Блакаду». 16.00 29-20-73 ([нумар] 473 гас. «Мінск») П. Конанаў. 15.00 — СП. Пасяджэнне прэзідыума. Сучасная песня (праблема). Фомчанку кніжку.

*Алегу Фомчанку*

Услаў, Алег, вясновых воч свячэнне!
Ты не зважай ніколі на чыны.
Няхай табе не толькі « Мінск вячэрні»,
А падуладны будзе й Мінск начны!

*10 красавіка*

СП — камандзіроўка (разлічыцца). Вялюгін. 21.30 — Чыгрынаў (па тэле). Марозаў[1] В. М. 22-48-66 (862). Купіць Ілонцы французскі слоўнік (!).

*11 красавіка*

10.00 — «Чаравічкі» [маг. «Абутак»] (Валі боты). 11.00 — Лечкамісія (узяць білет). 17.00 — [гас.] «Мінск» (Конанаў).

*12 красавіка*

Пімену Панчанку прачытаць верш[2]. Да Юхноўскага — лекі [?]. 17.30 — вечар з Лужаніным.

*13 красавіка*

10.00 — Рэм [Нікіфаровіч] (аддаць лекі). 11.00 — Хатынь (з немцамі). 18.00 — Мастацкі музей (Рэрых[3]).

---

[1] Марозаў Вячаслаў Мікалаевіч (н. 1929), беларускі пісьменнік. Да 1989 г. уласны карэспандэнт газ. «Пионерская правда» па Беларусі. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).

[2] Гл.: «Хлеб з соллю еш…» (12.04.75) // Абсяг. С. 76. Верш прысвечаны П. Панчанку.

[3] Рэрых (Рёрых) Мікалай Канстанцінавіч (1874–1947), рускі жывапісец і тэатральны мастак, мысліцель, археолаг, пісьменнік, ініцыятар руху ў абарону помнікаў культуры. Разам з Е. Рэрых сцвярджаў Вучэнне жывой Этыкі. Акадэмік Пецярбургскай АМ (1909). З 20-х гадоў ХХ ст. жыў у Індыі.

*14 красавіка*

12.00 — Някляеву званіць 27-16-47. Сазваніцца з Конанавым. У «ЛіМ» Бур'яну[1], Жычку. Забраць у Навума [Кісліка] пераклад.

*15 красавіка*

Лекі Шаху [Шахаўцу] і Васі [Зуёнку]. З Пушкіным кватэру паглядзець ягоную. З Мядзведзем [Пушкаровым] у ГУМ (веласіпед).

*16 красавіка*

9 раніцы Някляеў. Званіць Шэрману, Якаву Абрамавічу[2], Рэму [Нікіфаровічу] на тэле.

*17 красавіка*

8.30 — Ала[3]. 15.00 — на радыё наконт Г. Лоркі, свае вершы. 12.00 — здача Андрэя Германава. 19.00 — сустрэча з Конанавым. Жак наконт аўды.

*18 красавіка*

10.30 — Шахавец (літоўцы). 15.00 — Політэхнічны інстытут. 19.30 — праводзіць немцаў.

*19 красавіка*

Суботнік. Дазваніцца да Бурсава.

*20 красавіка*

8.0 — ад'езд на *Ушачу.*

Ног тваіх жураўліны клін
Адплываў удаль.

*21 красавіка*

13.00 — Музей Айчыннай вайны. (Рэм [Нікіфаровіч] і на аўторак перанесена). Сёмуха[4] прынясе Гётэ[5]. Праца.

---

[1] Бур'ян Барыс Іванавіч (1924–2009), беларускі пісьменнік, тэатральны і літаратурны крытык, сцэнарыст. У 1967–1985 гг. заг. аддзела тэатра, музыкі і кіно ў рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва».

[2] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт. Яму прысвечаны верш гл.: «Продкі ані мае, ні тvae…» (26.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 63.

[3] Стральцова (Смурага) Ала Іванаўна, машыністка выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (н. 1936), беларускі перакладчык. У 1972–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Пераклаў трагедыю І.-В. Гётэ «Фаўст» (Мінск, 1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992).

[5] Гётэ Іаган Вольфганг фон (1749–1832), нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец.

*22 красавіка*

13.30 — Музей Айчыннай [вайны]. Марухін[1]. 16.00 — секцыя паэзіі. Хімчыстка.

*23 красавіка*

У ГУМ (веласіпед). У «Бярозку» пра Броўку. З хімчысткі плашч забраць.

*24 красавіка*

11.00 — запіс на радыё. У ГУМ па гузікі. Пра Танка па Германаву. 17.00 — радыё.

Генадзь [Бураўкін] (занесці вершы). 22.00 — Гук Антось (вершы прынясе свае).

*25 красавіка*

9.00 — да Яшы [Серпера] па лекі. 11–12.00 — Карлас Шэрман. 14.00 — выдавецтва (падпісаць Ю. Гаўрука[2]).

*26 красавіка*

8.00 — лазня. 14.00 — Палац спорту, [канцэрт] «Мелодыі сяброў-75».

*27 красавіка*

16.30 — да Броўкі (карэктура). На Галоўпаштамт — тэлеграму М. В. [Гарбачову]. [Накід верша «Закінь календары…»[3]]

*28 красавіка*

10–11.00 — Мікалай Дант [?] да Ілоны (быць дома). 11.00 — да Яшы [Серпера]. 14.00 — праца. 17.30 — глядзець тэлеперадачу.

*29 красавіка*

10.00 — да Генрыха Вагнера. 18.00 — Дом кіно (вечар).

*30 красавіка*

Праца, здаць карэктуры асецін, Броўку. 17.30 — да Аркадзя Куляшова.

---

[1] Марухін Юрый Аляксандравіч (1938–2001), беларускі кінааператар, рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974).

[2] Гаўрук Юрка (Юрый Паўлавіч; 1905–1979), беларускі перакладчык, паэт. Быў рэпрэсаваны. Гаўрук Ю. Агні ў прасторах. Мінск, 1975.

[3] Гл.: «Закінь календары…» (27.04 — 4.05.75) // Абсяг. С. 79.

*1 мая*

У Чыгірыні [Чыгрынава] пропуск.

На ўласнай песні пад небам трымаецца жаўрук[1].

*Учора заходзіў да Аркадзя Аляксандравіча [Куляшова]. Дачытаў па машынапісу заканчэнне паэмы пра Кастуся Каліноўскага. Ён мне тады казаў ходы, павароты, боязна было, што нецікава, давядзецца чытаць вядомае. Аж — не. Сапраўдная паэзія — яна нешта няўлоўнае. Нейкія вядзьмарскія штукі ёсць. Здавалася б, усе механізмы ведаеш, а кранае, калі сапраўдная. Кулеш хвор. Кажа, сябе перакройваць варта, пасад нейкіх (накшталт Танка) дабівацца. Дагэтуль гарбом усё зарабляў, трэба і да канца цягнуць.

Па дарозе сустрэлі (з Вялюгіным былі ў Куляша) Калачынскага[2]. Сапсеў канчаткова, дробязны, хцівы да славы, труп. Вось табе і ўзрост. Калі Кулеш увесь час жыве паэзіяй, духоўна жыве — ён цікавейшы чалавек. А гэты цікавіцца пасадамі, дачным гародзікам, нейкімі плёткамі.

Таго-сяго павіншаваў па тэлефоне. Сягоння чысты чэцвер. Мама, бывала, ранькам да сонца будзіла. Халодная вада з бегуна-ручая, яечка свянцонае чырвона світае ў зябкай вадзе. Каляны ручнічок. Усё стала фальклорам. Месяц май траўнем зваўся, відаць, для мяне ён так і павінен называцца. Травою палоняцца магілы маіх самых крэўных. У маі, у блакадзе, — бацька. Май забраў маму. Сумныя асацыяцыі. У маі памёр мой сябра маладых гадоў Сымон Блатун[3].

*2 мая*

8.00 — з Жакам у лес.

*3 мая*

12.00 — з Ласём у кіно.

18.00 — да Вагнера ў Лечкамісію.

*4 мая*

10.00 — да Аркадзя Куляшова. 18.00 — Дом кіно. Вечар Вейняровіча[4]. [Верш Ф. Цютчава[5] «Последний катаклизм».]

---

[1] Гл.: «Ані чакай парук, зарук…» (19.10.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 185.

[2] Несвядомая апіска, маецца на ўвазе А. Кулакоўскі, да якога Р. Барадулін ставіўся адмоўна, а не М. Калачынскі, з якім быў у самых добрых сяброўскіх адносінах.

[3] Блатун Сымон Ціханавіч (1937–1970), беларускі паэт.

[4] Вейняровіч Іосіф Навумавіч (1909–1998), беларускі кінааператар, рэжысёр. Народны артыст БССР (1973). У 1946–1990 гг. рэжысёр-аператар кінастудыі «Беларусьфільм».

[5] Цютчаў Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт.

*5 мая*

Да Бураўкіна кнігі. «Неман» — фота. 12.00 — Міша Стральцоў. 14.00 — выдавецтва. Да Антоненкі, Някляеў. (17.00) Куляшу [Куляшову], Броўку — звон!

*6 мая*

11–12.00 — Рэм [Нікіфаровіч] на працы. Дублікаты да Куляша [Куляшова]. «Маладосць», «Бярозка». 21.00 — да Куляшова.

*7 мая*

Аэрапорт. «ЛіМ». А другой палове да П. Броўкі. 17–20.00 — Лечкамісія, пакой № 17. 19.15, 19.30 — Дзень паэзіі ў філармоніі.

*8 мая*

10.00 — Някляеў, Валодзе дадому (кніга) звон. Выдавецтва Петрусю Усцінавічу [Броўку]. 17.00 — звон Яшу [Серперу] 66-36-49.

*9 мая*

11.00 — паглядзець ветэранаў парад на праспекце. 18.00 — да Вагнера ў Лечкамісію.

*10 мая*

18.30 — вечар паэзіі ў філармоніі.

*11 мая*

11.00 — Някляеў (умова). 16.00 — Някляеў дома (зборнік).

Безабаронна знікаюць лясы —
Даверу зялёнага рэзервацыі[1].

*Адгрымелі салюты Перамогі. Хадзіў 9-га глядзець ветэранаў. Мала каларытных засталося. Многа дублікатаў-герояў. Гэта ўжо нецікава.

10-га вечар паэзіі ў філармоніі. Мала слухачоў, многа на сцэне паэтсычоў, нейкая адасобленасць, эгацэнтрычнасць, непрыязнасць. Павукі ў слоіку, дый годзе.

*Калыханка жалобы*

У зямлі сырой
Спі, мой сын-герой.
З вечнай нематы

[1] Гл.: «Гатова ад веснавой красы...» (24.09.75, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 56.

Зоркай свеціш ты,
Адзіны.

Часу лістабой
Кружыць над табой.
Помніць люты бой
Горды подзвіг твой —
Арліны.

Ад балючых ран
Пасівеў туман.
Неба над табой
Вечнаю журбой
Айчыны.

*[Красавік — май]*

Сёння сумны май. Яшчэ адна гадавіна смерці мамы. Час для яе спыніўся, для мяне ідзе адлік сумных год, набліжэнне да яе год, набліжаецца год сустрэчы ў небыцці... Не выпадае быць сягоння ва Ушачах. Паеду пасля. Неяк трэба дагледзець магілку. І блізка 200 км, і далёка яшчэ пры нашым тэмпе побыту.

*12 мая*

Праца — украінская анталогія. 21.00 — закончыць зборнік Някляева.

*13 мая*

Быць у Маскве. 8.40 — адлёт у *Маскву. Клін, Калінін*. Калінінскае суворaўскае вучылішча. Дзядуля Крылоў[1].

*14 мая*

*Вышні Валачок*. Канал. Знак ад бічавы.

[Аўтограф Яфрэмава:]

То не день понапрасну прогулен,
То не счастья исчерпан лимит,
То непьющий Рыгор Бородулин
Пред початой бутылкой сидит.

*Торжок, 14 мая 1975 г.* *Ефремоў*[2]

[1] Крылоў Іван Андрэевіч (1769; магч. 1766 ці 1768–1844), рускі байкапісец, драматург, журналіст.

[2] Магчыма, Яфрэмаў Юрый Аркадьевіч (1921–1999), рускі паэт (г. Яраслаўль).

Вышні Валачок (волакам цягнулі бурлакі), горад бурлакоў у былы час, хаты вокнамі на каналы.

Як правільна*: Ўвешні ці Вышні Валачок, усе вішні валячок. Канал-канава праз злучок.* Каменаломня слова.

*** Літаратурнаму дзеячу, паэту, вершы замінаюць у дасягненні вяршынь улады, як танцору гланды.

*15 мая*

*Ноўгарад. ...ні перадыху — і мову-парадзіху.*

***Белыя цэрквы, квецень кіпіць. Кабель за сучкай гоніцца з абарваным ашыйнікам, як мадэрным гальштукам. Язык таксама на даўжыню гэтых гальштукаў.

Адміністрацыя ў такіх гарадах у гасцініцах думае, што ўсе турысты ехалі, каб паглядзець іх.

Крэмль. Зубчаткі ў выглядзе ластаўчынага хваста. Берасцяныя граматы. Мошенник, кто изготовлял мошну (кошелёк).

*Адчай, спадзейлівы заклён.*

«Бысть тишина все лето» — наўгародскі першы летапіс[1]. «Поклон от Семена от Миха к Сидору. Как станешь продавать, и ты дай нам 4 ржи на полтину, как людям начнешь давать, а грамота к тебе с моим детиною».

Увоз наўгародскага вечавага звона ў Маскву, канец XV в. Івашка шваль адчыніў вароты шведам.

«Мы только *частки* великой спайки одной трудящейся семьи»[2].

У музеі бюст Талстога, немцы замест мішэні трэніраваліся.

Фрэска XI ст., надпіс «Алена», праз напластаванне вякоў і бруду[3]. «Со стены этих глаз журьба»[4].

*16 мая*

*Старая Руса*, *Палá,* мёртвая вёска *Туганава* (паром). Не ў казцы пра Кашчэя.

От сибирских сквозняков
Дунул в Питер Фоняков[5],

---

[1] Гл.: «Бяросту год...» (6.10.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 116.

[2] «Мы только гайки...» — песня-гімн з рэпертуару савецкага агітацыйнага тэатра «Синяя блуза» (20-я–33). Музыка народнага артыста РСФСР (1980) Сігізмунда Абрамавіча Каца (1908–1984).

[3] Гл.: Сустрэча з Аленай у наўгародскай Сафіі (7.09.75, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 171.

[4] Радкі з верша О. Мандэльштама «Средь народного шума и спеха...». Мандэльштам Осіп Эмільевіч (1891–1938), рускі паэт. Рэпрэсаваны.

[5] Фанякоў Ілья Алегавіч (1935–2011), рускі пісьменнік, спецкарэспандэнт «Литературной газеты».

А во граде Питере
Сладко чаепитие.

[Аўтограф І. Фанякова:]

Процинандален, пронапареулен,
Прочачен, проконьячен
Бородулин!

*16 мая 1975* *Илья Фоняков*

***Старая Руса. Ільмень.

*На книгу жалоб официантка не обжала б!*

Вечны агонь. Піянеры, каравул. Хто згарэў.

«Тихо: тучу ведут под уздцы!» (Осіп Мандэльштам.)

Старшыня сельсавета: рукі карэлыя, чорныя, парэпаныя. Толькі з агарода. Хлеб-соль. Ручнік трэба назад, бо ў адной бабкі ўзялі, а зараз вышываных не знойдзеш. Пахне ўладна крапівой, забыццём і жалем. Туганава было тут. Салавей хваліцца салаўіхай да прыцоквання. Кацёл-судавік надтрэснуты. Калі глядзіш за парадкам ў суседзяў, дома лавэр, як звычай.

Наконт Ясеніна: настолькі рускія сучасныя пісьменнікі адарваныя ад свайго чытача, што, здаецца, яны даўно не былі ў звычайнай хаце недзе ў глыбінцы Расіі. Пішуць для ўсесаюзнага чытача, а не ведаюць, хто ён, чытач і тэлеслухач гэты неканкрэтны.

А Ясенін настолькі яшчэ сучасны для рускага чытача, што і для чытача, што вырасце праз год 50 — ён будзе свой паэт, для таго чытача, які нават кіне гэтыя плятні, дзе жоўтая крапіва, і пойдзе ў горад, і там ён зноў успомніць Ясеніна.

Дужа даверыў душу чытачу Ясенін. Ляцелі ў яе і камяні, але затое і многія душы суладна адгукаліся і будуць адгукацца. А што да розных карчомных аўтарытэтаў, дык гэта так — прынада. Гэта проста ўпакоўка.

Гэтае ж стараецца рабіць і Яўген [Еўтушэнка], і Андрэй [Вазнясенскі]. *Шаргунок — шаркунок.*

абшар, ганок,
тугою баравою
Валдайскі шаргунок
Напамінаў пра волю.[1]

*17 мая*

Старая Руса, *Вялікія Лукі.* Масква. Білет у СП.

[1] Гл.: Балада зімовага жаўранка (30.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 152.

*18 мая*

11.07 — Унукава. Мінск! *Іскры́ны — Скарыны.*

***У каменны век на тэрыторыі Беларусі існавалі шахты. Адарвені крэйды, цэмянтоўня, кайло — аленевыя рогі. Сарцавіна выпалена, дупло. Беларусь. Матчына хата — ластаўка[1]. Прабор бяроз[2].

*19 мая*

Праца, да Вялюгіна, да Куляшова, «ЛіМ» (артыкул). СП (забраць ліст). Пасля 18.00 будзе званіць Куляшоў.

*20 мая*

12.00 — да Васіля [Зуёнка] ў «Бярозку». 14.00 — да Броўкі дамоў (кніга). 18.00 — юдаш (фота).

20.00 — Някляеў.

*21 мая*

Рана — Ілоне кветкі купіць. 9.00 — званіць Бураўкіну. Праца (карэктура анталогіі).

11.00 — забраць Валі касцюм.

*22 мая*

7.00 — Музей Вялікай Айчыннай вайны. Забраць на працы карэктуру — Вялюгіну.

Хімчыстка.

*23 мая*

Калектарная, 10. 12.00 — «Вясёлка» (верш). «Голас Радзімы». Забраць канец украінскай анталогіі.

Чаравікі.

*24 мая*

З Віктарам [Шрамяковым] на Мінскае мора. Да Вялюгіна (занесці канец анталогіі), да Куляшова.

*25 мая*

11.00 — да Куляшова («Хуткасць»[3]).

---

[1] Гл.: «Ластаўка — хата матчына...» (19.11.75, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 85.

[2] Гл.: «Дарога на Ўшачу праз поле, праз бор...» (31.05.75, Грабеньчык) // Тамсама. С. 164.

[3] Куляшоў А. Хуткасць. Мінск, 1976.

*26 мая*

Някляева — Колю[1] на афармленне. Украінскі слоўнік — Міхальчуку[2]. Вершы Астрэйкі[3] — Кляўко.

16.00 — Івану Іванавічу [Калесніку] (22-11-53).

*27 мая*

9–9.30 раніцы з Максімам Лужанінам. Іўе. 2-52-03 Анна Уладзіміраўна, 2-51-24 Яўген Фёдаравіч. Горад без вады, чай.

*28 мая*

*в. Эйгерды*, *Чарнэлі* (аў) ас, (вечар у школе), падонначак прапаганды па-руску з Лужаніным, шавінізм скрозь.

*** Сельсавет Чарнэлі. Выступае настаўніца: «Ваша перакладніцкая дзейнасць…»

Бацька прыехаў. Сын у цешчы. «Дзе татка?» Сын паказвае, седзячы на руках у бацькі, на фотакартку.

Чалавечая нага не ступала ў лесе, бо на руках ідуць п'яныя[4].

Трава расце і дождж ідзе. Вёска Жураўцы (жураўлікі).

Узяўся за гуж, не кажы, што не муж!

*29 мая*

*г. Іўе.* Школа (выступленне). Нёман, пахне смалой, пахне чабор, цвіце[5]. Сыплецца пясок, як гадзіннік, цячэ. Мячэць.

[Адрасы:] Сафронава Вольга Цярэнцеўна (Беларускі кабінет, нават вершы мае ёсць). Гродзенская вобл. Іўеўскі р-н, п]а Юрацішкі–2, Чарнельская СШ. Галавач Яўгенія Міхайлаўна. Кніжкі Пімен [Панчанка], Броўка, Мележ. «Крывёю сэрца»[6] (Аўрамчыка папрасіць).

*30 мая*

Праца. 12.00 — да Князя [Краўчанкі]. «ЛіМ» да Крука (фота Германава). Званіць Шэрману.

---

[1] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік. У 1973–1981 гг. мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Акрасанет (18.06.78) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 105.

[2] Міхальчук Сяргей Апанасавіч (1925–1995), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1972–1980 гг. загадчык рэдакцыі дзіцячай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

[3] Астрэйка Анатоль (сапр. Акім Пятровіч; 1911–1978), беларускі паэт, перакладчык.

[4] Гл.: Выезд на прыроду (19.11.75, Каралішчавічы) // Прынамсі. С. 67.

[5] Гл.: Паўдзён (29–30.05.75) // Абсяг. С. 167; Іўе перад навальніцай (23.12.76, Каралішчавічы) // Прынамсі. С. 135.

[6] Зборнік вершаў загінуўшых паэтаў (Мінск, 1967).

Найвысочайший гость,
Мой друг Убайд Раджаб[1],
Ты строен, словно тросль,
Могуч, как дирижабль.

*31 мая*

Князю [Краўчанку] надпісы на помніку. Мастацкая выстаўка 14.00 — к]т «Партызан». Дзіма Моркаўка.

*Надпіс на помніку*

Вы з намі,
Вы не ў вечнай немаце,
Бяссмерцем Вашым
Неўміручы людзі.
Пакуль ідуць дажджы,
Трава расце, —
Удзячная зямля
Вас помніць будзе!

*1975*

в. Грабеньчык[2]. Марцовы гвалт выпускнікоў будзіць летняе ранне[3].

*1 чэрвеня*

Да Князя [Краўчанкі].

Некалі хацеў напісаць вясёлы верш з канцоўкай:

Вясёлы, як гіцаль,
Што грошы прапіў
За злоўленага сабаку.

*[1966]*

Пасля Чарджоў (пабачыў азіяцкі дух) не магу болей.

*2 чэрвеня*

Марціновічу[4] — паэму Куляшова. Князю [Краўчанку] да 2-х тэкст у вучылішча. На працу. 3 гадзіны пленум СП. *Быць!* (Рукапалажэнне Івана [Чыгрынава].)

[1] Раджаб Убайд (сапр. Раджабаў Убайдулло; н. 1941), таджыкскі акцёр, паэт. Народны артыст Таджыкістана (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (1998).

[2] Гл.: «Дарога на Ушачу…» (31.05.75, Грабеньчык) // Абсяг. С. 164.

[3] Гл.: «Бунтуйце, як каньякі…» (24.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 92.

[4] Марціновіч Аркадзь Нічыпаравіч (1920–2013), беларускі празаік, паэт. У 1974–1981 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

*** [Без даты:] (Выступленне на пленуме пісьменнікаў БССР па пытаннях марксізму-ленінізму. У прызідыуме Машэраў[1]). Пестрак: «Марксізм-ленінізм, гэта не тое што выпіць дзве пляшкі каньяку й цёпла пагутарыць…» А Бялевіч[2] махнуў рукой і ледзь не зляцеў з трыбуны.

*Піліп Пестрак*

Шчырэў і думкай, і плачом
Пястрак на паэтычных лядах,
Сустрэўшыся на барыкадах,
Не расставаўся з чытачом.
Была ў Піліпа Пестрака
На ўдачу шчодрая рука.

*[1978]*

*3 чэрвеня*

З Бураўкіным да Зуёнка. У СП да Макаля. Да Ніла Гілевіча (наконт «Ланжумо»).

*4 чэрвеня*

Рэм [Нікіфаровіч] (пра Броўку). У Дом друку да Калабка [Чарняўскага]. СП (аддаць «Ланжумо»). Вечарам да Вялюгіна (Ясенін).

*5 чэрвеня*

[Закрэслена: Брэст 10 раніцы цягнік.] 12.30 — з Жакам ля Галоўпаштамта. 14.00 — заліўка мора. Да Князя [Краўчанкі] наконт Ушач.

*6 чэрвеня*

8.30 — каля Князя [Краўчанкі] (цэмент), да Князя ў вучылішча. 11.00 — да Шрамякова (майстэрня). Сазваніцца з Рэмам [Нікіфаровічам], з Крукам, з Броўкам. Адправіць Заю ва Ушачы.

*7 чэрвеня*

7.45 — каля дома Броўкі ад'езд ва *Ушачы*[3]*. Пышна Малая, Дольцы, Пуцілкавічы, Вялікія Дольцы,* Ушачы, РДК[4].

*** Райцэнтр. Растуць таленты і белы жарабок на выпасе.

---

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1965–1980 гг. Першы сакратар ЦК КПБ. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978).

[2] Бялевіч Антон Пятровіч (1914–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык.

[3] Гл.: На Ушаччыну! (7.06.75) // Абсяг. С. 73.

[4] РДК — Раённы Дом культуры.

Вёсачка 15 двароў і тры крыніцы, на тры двары крыніца. Толькі крынічную ваду пілі ў вёсцы. Махае рукой: «Бывай, Пятрусь».

*8 чэрвеня*

На Вечалле, Ваўчэнскае возера, курс на Мінск, [рэстаран] «Партызанскі бор».

*** Галодны магільнік у Лепелі. Возера Прошы.

[Адрас:] Ушацкі раён, в. Вялікія Дольцы, Лапіцкай Марыі Рыгораўне (даслаць фота і кнігі).

*9 чэрвеня*

Праца. Здаць Някляева[1]. 15.00 — да Броўкі (забраць том ІІ).

*10 чэрвеня*

Здаць Салаўцова[2]. 14.00 — у Броўкі (дагавор).

*11 чэрвеня*

Макаль здае славакаў. 22-46-27 (наконт Генадзя Бубнава[3] ў СП). Знайсці верш у «ЛіМ». 15.00 — Броўка будзе ў выдавецтве.

*12 чэрвеня*

Раніцай дацыраваць «Хуткасць». Купіць асеннія чаравікі. Тэатр камедыі «Фізікі»[4]. 19.30. Да Сяргея [Панізніка] з'ездзіць паглядзець зборнік Хвалея[5].

*13 чэрвеня*

11 раніцы дзеці пра Броўку (радыё). Дазваніцца да Сержа Панізніка, да Бурсава. 18.00 — у «Кастрычніку» [к/ф] «Другая ісціна».

*14 чэрвеня*

9 раніцы — тэле (запіс). 10.00 — выбарчы ўчастак. 14.00 — ад'езд ва Ушачы. Забраць чаравікі з рамонту.

---

[1] Някляеў У. Адкрыццё. Мінск, 1976.

[2] Салаўцоў Мікалай Іванавіч, беларускі паэт (г. Чавусы).

[3] Бубнаў Генадзь Фёдаравіч (н. 1945), рускі паэт, перакладчык. У 1974–1975 гг. ст. рэдактар літаратурнай рэдакцыі Беларускага радыё. У 1975–1977 гг. літсупрацоўнік, у 1977–1984 гг. рэдактар аддзела крытыкі і бібліяграфіі час. «Неман».

[4] Спектакль па п'есе Ф. Дзюррэнматта. Дзюррэнматт Фрыдрых (1921–1990), швейцарскі празаік, драматург.

[5] Хвалей Яўген Іванавіч (н. 1947), беларускі пісьменнік. У 1976–1985 гг. працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні.

*15 чэрвеня*

*[Ушачы.]* 8 раніцы па гравій з Пятром[1], кніжны магазін, універмаг, Вечалле. 14.00 — [Ф. Ф.] Багдановіч[2] прыйдзе. 16.00 — на Мінск.

Асфальт пераходзіць пешака кнігаўка, кнігаўчанятка. Зганяць кароў з асфальту — «аксыля!»[3].

Адсылаю кніжкі на нашай пошце. Паштарка ветліва: «Вы сваю брашурку рассылаеце?»

***На плоце зялёным ля школы накрэслена крэйдай: «Ура! Вясна!» Лета буяе, а заклік яшчэ знаткі.

*16 чэрвеня*

Здаць Аркадзя Куляшова. Да Вадалея [Ваданосава] па грыбы. Пазваніць, што Зай хворы. 22.34 — на Маскву ([цягніком] «Беларусь»).

*17 чэрвеня*

*Масква* — на Краснаярск. «Молодая гвардия», СП. Ваня [Бурсаў]. Дамадзедава. 23.00 — самалёт. Бунт лётчыка.

*18 чэрвеня*

*Краснаярск.* Чмыхала. Гарком. Дом тэхнічных вед — выступленне.

* 8 ВНУ, 90 бібліятэк. 20–22 тыс. у год прырост. Зараз звыш 800 тысяч. Задача, каб у 78 — 79 гадах поўнасцю знесці аварыйнае жыллё. Новы аэрапорт — звыш 100 млн рублёў .

І раптам з-пад крыла
Чаканы Енісей!
                    сіней.

[Малюнкі Ілоны.]

*19 чэрвеня*

5 раніцы (па мясцоваму), пад'ём, самалёт. *Шушанскае.* Мемарыял. Жураўліная горка. Будан. Пярова возера. 18.00 — выступленне ў бібліятэцы.

*Два разы ў дзень адзначацца [ссыльным]. Энгберг[4], пуцілаўскі рабочы, пярсцёнкі з медзякоў зрабіў [Леніну і Крупскай[5] для вянчання].

---

[1] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

[2] Багдановіч Фадзей Францавіч, настаўнік беларускай мовы.

[3] Гл.: «Пераходзяць цяляты асфальт пацямне...» (12.07.75, Гагры) // Абсяг. С. 127.

[4] Энгберг Оскар Аляксандравіч, ссыльны пуцілаўскі рабочы.

[5] Крупская (Ульянава) Надзея Канстанцінаўна (1869–1939), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, педагог. Жонка У. І. Леніна. Ганаровы акадэмік АН СССР (1931), доктар педагагічных навук (1936).

Кветкі Крупская ўпершыню ў краі саджала. Кветнік. Прыходзілі суседкі і бралі кветкі.

Латыш Кудум. Пимокат[1], валёнкі катáў. Мінька, улюбёнец Леніна і Крупскай. Ваўначоска. Кабак абавязкова аднапавярховы, з выхадам на двор, з нізкім ганкам.

Астрог. Высокая зыгарадзь з бёрнаў. Халодная, як лазенькі, нешта чыста сібірскае, ярмакоўскае[2].

Ластаўкі, як ленінскія неадасланыя лісты.

Пярова возера. Шмат пер’я качак і асака. Пярэсты бярэзнік, хвойкі. Мармур 20-ці адценняў. Будан. Вуголле (ад гэтых вугалькоў пажар сусветны). Закон тайгі. Бярозкі перапялёсыя, як пер’е. Хмаркі выбухаў ружжа.

Жураўліная горка. Нават Ленін радок вершам напісаў. Відаць адгор’е Саян, ціша лясная. Пясчаная горка. Відаць Шушанскае, Енісей.

*20 чэрвеня*

Выезд. Апазненне. *Мінусінск.* Фабрыка**.** Кызыкуль [возера].

Противоперчаточная фабрика.

У стэпе мачты высакавольтных слупоў,
Як прывідныя рэбры бесцялесных зданяў.

«Дайце нанач камсамолку». «Вы не перадумалі» (пра [гарэлку] «Белавежскую»).

Высвечаныя сосны пад Мінусінскам, як на Ушаччыне.

Буду мінусам, а ты мінусіначкай[3]. Вецер хакае.

Коні ўброд ідуць, хвасты какетліва кабылы падціскаюць.

*21 чэрвеня*

Тубá [рака]. Паром. Калгас «Саянскі». [*г.*] *Краснатуранск* (гара Тура). Клуб. Вячэра на ўзмор’і.

* Паром праз раку Туба. Саўгас «Саянскі». Піёны [півоні] «марьи коренья». Даліна «мар’іных карэнняў». 250 кветак адначасова. Пікулькі. Алюмініевы палын. У даліне «мар’іных карэнняў» венерыны чаравічкі (мудушкі), ірысы, душніцы, жураўліннік. Вучоны кажа: «Той можа лічыць сябе шчаслівым, хто знайшоў венерын чаравічак (башмачок)». Яшчарка ў падтэкст знікае.

У Саляных Слупах — калі казлу не давалі курыць, вушы пухлі.

---

[1] Пімы (сібірскае) — валёнкі.

[2] Ярмак Цімафеевіч (?–1585), казачы атаман. Паходам каля 1581 г. пачаў асваенне Сібіры Расійскай дзяржавай.

[3] Гл.: Мінусіначка (25.09.75, Каралішчавічы) // Прынамсі. С. 149.

Краснатуранск. РК. 25 цэнтнераў — «Чаму такі ўраджай?» — «У нас навальніца была на полі...» Трэба дождж.

Многа сёл год нараджэння месца — на дне. Нібыта з Ноева каўчэга пасля патопу.

Краснатуранск — адразу чырвоным, савецкім [назвалі], на злосць белякам Краснаярска.

[Адрас:] Краснатуранск, Красноярский край. РК КПСС или Крестьянская, 4, кв. 1. Крушельницкий Валерий Михайлович (Украінская анталогія).

*22 чэрвеня*

Краснаярскае мора — рэпетыцыя патопа. *Дзіўнагорск.* Агляд горада. На пляжы адэсіткі, як вёслы, сушаць ногі.

Елене Восіпаўне[1] — джынсы (48–45), берэтка 57 (шэрая, чорная).

*Ад'езд з Краснатуранска.

Вечнасць на плітах
Сонцам засвечана.
Вёсак залітых
Плёнка засвечана.

Мы — негатывы вечнасці.

Ляду карчэўем
Хочацца выплысці.
Мора знячэўна
Выпліхне сціпласці.

*Бераг абрынецца — Дабрыніча.* Бераг абрываецца, бярозы, як косці нябожчыкаў. Лесу хмурынкі. І далікатнымі складкамі мозака складкі гор, могільнікі трунамі. Метэарыт, што везлі сяляне з сяла Мядзведзева, вянцы зрубаў, як тварэнне велічы, вянец Тварца.

Скала, як дзеці на попцы, з горкі спаўзла ў мора. *Адно святлее след, асновы скал падмыла*. Як чорныя чайкі, хакаскі. Каўчэг Ноеў — патоп захаплення.

Анатолий свет Чмыхало
Выходил на палубу.
Всех от Гриши[2] укачало,
Хоть закрыл черпало бы!

---

[1] Марозава Алена Восіпаўна, загадчык аддзела гісторыі выд-ва «БелСЭ», калега В. М. Барадулінай.

[2] Г. И. Люшнин (*заўв. Р. Барадуліна*). Люшнін Грыгорый Іванавіч (н. 1921), рускі паэт (г. Масква).

*

Слабеющему члену стойло
Всегда устроит Алла Стройло![1]

*

Да здравствует Чмыхало —
Могильщик капитала!

*

Вадим Ковда[2]:

Я — воробей московских литпомоек,
О воробьях баллады я строчу,
Но слава несговорчивой кумою
Мне вместо пива выдаёт мочу…

*

Из всех сибирских сорняков
Живучий самый — Сартаков![3]

Хакасачкі, чорныя чайкі, спяваюць пра Ахча́сы (белы стэп). Чорны кавыль валасоў.

Стары рачнік тлумачыць у рупар, дзе плывем. Ніжнія зубы жалезныя. Толькі гузікі гавораць, што гэта форменка на ім. Заікаецца, баіцца рупара, ціскае на гук. Пацее сам, і, здаецца, рупар пацее. «Рукатворнае мора, як гавораць у народзе», — хаця ж сам ён народ. Журналісцкі прыёмчык заразіў і яго.

Бярэзнік, як белыя прывіды, бяскроўныя, мёртвыя, да пояса ў вадзе, да горла. Застылі глыбы, як здзіўленыя імгненні, пячоры першабытных людзей. *Нібы раса, Біруса.*

Тайгі зялёная імгла
Адрогі бурыя акрыла.

*23 чэрвеня*

10.00 — на *Дзіўнагорск.* Плаціна, завод НВА [нізкавольтавай апаратуры], агляд горада.

---

[1] Стройла Ала Іванаўна, руская паэтэса (г. Масква).
[2] Коўда Вадзім Віктаравіч, рускі паэт (г. Масква).
[3] Сартакоў Сяргей Венядзіктавіч (1908–2005), празаік, драматург. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1970).

*Рака Базáіха, што каймуе Енісей. Рака Мáна. Гара Манах. Скіт быў. Зараз у скіце мастакі. Двухпавярховы, з бёрнаў. Заспанае рыла алкаголіка мастака з акна — сучасны манах. Пайшоў бы ў мніхі, ды думкі ліхі.

Другі сакратар райкома партыі выступае і ўвесь час цытуе вершы. На трыбуне светлавое табло. «Время истекло». Заканчваецца час — сігнал, гэта здорава. Гарыць табло!

Сам ўезд на тэрыторыю ГРЭС, як мадэлі атамаў, трасфарматары. Уваходзім, нібы ў ядро вялікага атама.

За трыбунай, за сталом. Металічныя ўмацаванні для сцягоў пераходных, 4 запоўнены, пятае месца яшчэ пустуе.

Чуваць напружаны гул. *Пульс — пульт.* Можна праверыць пульс эпохі. Каб твой пульс супаў.

802 млн рублёў каштавала станцыя ўся. 97 рублёў кошт 1 кілавата ўстаноўленай энергіі. Каэфіцыент гатоўнасці 0,92–0,96. Колькасць людзей на 1 кілават энергіі 0,0028 — нуль цэлых 28 тысячных.

14 кварталаў запар сцяг ЦК[1] і ВЦСПС[2] калектыву . Над брамай юбілейны знак.

*Чэраве — яшчэ раве.*

Высвечвае ток сэнс слоў, плюс электрыфікацыя ўсёй краіны. Адсюль ідуць на павышэнне на Нурэк, Тактагул. Начальнік цэха тут — зараз галоўны інжынер Саяна-Шушанскай [ГЭС]. Сярэдні ўзрост 26 год. 630 чалавек чыста прамысловы персанал. Гаворыць інжынер: «Зойдзем у цела плаціны». Вадзяная турбіна, такіх 12. Адразу холадам цягне, а ток — горача. Столь, як металічныя соты. Машынны зал, унізе — турбінны зал. Цэнтральны пульт упраўлення. Выключная чысціня, вентылятар, ружы на століку, акварэлька з профілем плаціны.

Па 8 гадзін кругласутачна 13 чалавек [абслугоўваюць]. Кім Мікалай Пятровіч (з Ташкента). Перапад 100 м. Перад тым, як зайсці ў цела плаціны, у чэрава, стаім у пазусе ГЭС.

Не сказаць, што ў бога за пазухай,
Стаім у ГЭС у пазусе.

Вада [намаляваны рамы], як у жалобе. Уверсе беразачок. Уваходзім у чэрава, 90 м ніжэй вады, адразу ў сцюжу. Тоўшча 6 м, лабірынты падзем’я з левага берага да правага. Бетон фільтруе, таму сцёкі ёсць.

Партрэт Леніна. Кароткае слова «ЛЕНИНУ». Далей: «Красноярская ГЭС имени 50-летия СССР, первая на Енисее мощностью 6 миллионов киловатт».

---

[1] Пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПСС.

[2] Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесійных Саюзаў.

На плаціне. Недзе ўнізе віхрыцца вада з турбін, зеленавата-белахалодная. Некалькі віхроў на галаве Енісея — шчаслівы. Уверсе Енісей, падпёрты плацінай, — стаў морам.

Міліцыянер расказвае, што мала здарэнняў. «Сократить колесо происшествий, колесо аварий».

Завод нізкавольтнай апаратуры. «Рабочий, не скрывай брак, скрытый брак преследуется по закону».

[Малюнак, подпіс: Дивногорский скит. Шепелевич Евгений Александрович. Набережная, 17 — 49. 29-19 дом, 26-92 скит.]

Дзед пайшоў на парубкі і засек панскага мядзведзя, з Магілёўскай губерні, з трыма сябрамі ўцёк у тайгу. Бацьку вывез адтуль і рашыў [стаць] юрыстам, каб ведаць законы.

Што некалі паказвалі на праектах — зараз ступень. Ступенькі ўверх вядуць. У майстэрні хамуты, дачка Натаха, сядзіба старавера. Яна (дачка) фон намалявала, а бацька дачушку. Кавыльна-ўзвеяныя валасы. Кедр пад вакном спяваў некалькі раз, хаця кедр спявае толькі раз ў жыцці. У вакно кедр, як хвасты распушаныя вавёрак. Апілкавая лавушка. На крутых паваротах плюс яму і мінус мне.

Сума суму, меншай стань!
Сум адмінусуецца.
Плюс на мінус плюс дае?
Мінус з мінусіначкай.
Мінус дваццаць ад маіх
Сарака разважлівых.
Мінусам я стаць хачу
Толькі з мінусіначкай.

*24 чэрвеня*

9.00 — ад’езд на Слупы. Скалы Слон, Пер’і. Конкурс па скалалажанні, па спевах, вечар у ДК, банкет.

*Здаецца, сойка перакрыўляе нажніцы, якімі ў горадзе падразаюць, стрыгуць газоны.

4 кв. км першапачаткова. Чырвоны сіаніт. Скала Львіная брама. Леў, морду на лапу [паклаў], закамянела грыва. Шкурадзёр. Ірыс (касацік), пікульнік. Дамбы трымае.

Скала. Слова «Свабода» 1904–1905 гг. Напісаў адзін студэнт. Жандары пачалі сціраць, да слова падыходзілі, адзін жандараў двух падвёў, сам уцёк, а яны 10 дзён не маглі злезці.

Камень на камені — нібы Тварэц гуляў, у хаткі складаў.

Жывы куток. Малады сабачаня круціць хвастом, нібы яму толькі што часова пазычылі. Мядзведзь Міха Тайгіш. Самка глушца — капылуха. Арол-магільнік, часта сядзіць на магільных курганах у стэпах.

[Краснаярск. Выступленне на банкеце:] Дорогие краснояры и красноярыни! Историки корень города вашего ищут в красном яре. А мне кажется, что земля ваша, Красноярье, потому и называется так, что красен край золотыми людьми.

Большое спасибо Вам, шчыры беларускі дзякуй за гостеприимство, за доброту, за ласку Вашу. Поклон Вам низкий от земли Бреста и Хатыни, древнего Полоцка и молодого Солигорска.

[Малюнкі Андрэя Кучаева[1] «Дума о Бородулине» і «Она стирает в Енисее».]

Евгений Алек. Кучко, пасля мінскага БПІ, інжынер-будаўнік, будаваў Дзіўнагорск, вул. Данілы Сердзіча ў Мінску. Вас. Ів. (?) Голубеў узначальвае ЖБВ, малады, дух Дзіўнагорска стваралі. Мікалай Зайцаў брыгадзірам на будаўніцтве, з саянскай вёскі Малінаўкі, [жыхары] з Магілёўскай губерні (дзе беларускі говар захаваўся), а брат Ягор, брыгадзір слесараў аўтагаспадаркі, патануў у моры. Якое сам будаваў. Зараз Мікалай у Мінусінску і таксама брыгадзір будаўнікоў, многія гарады, школы [будаваў].

*Вякі, як шэрыя ваўкі.*

Чалавек у космасе, як немаўля ў паўзунках. Чым можа скараць яго? Перавагай? Ведамі? Вопытам? Хіба што даверам, непасрэднасцю, цікаўнасцю.

[Абяцанне паслаць кнігі:] Добреля Анатолий Андреевич (г. Краснаярск); Евсеенко Николай Васильевич ([родам з Белай Дубровы] г. Мінусінск, Райком КПСС); Карпиченко Александр Иванович (настаўнік літаратуры; Манскі р-н, п. Шалінскае, СШ); Паршукова Нина Семёновна (Манскі р-н, п. Арэшнае, СШ); Белкин Владлен Николаевич (г. Дзіўнагорск); Родионов Сергей Кириллович (г. Краснаярск, Крайком КПСС).

[Адрасы:] Дробот[2] Галина Васильевна (г. Масква); Немченко[3] Гарий Леонтьевич (г. Краснадар); Ханаков[4] Владимир Иванович (г. Пскоў); Егоров Анатолий Н. (г. Масква); Догадаев[5] Владимир Павлович (г. Іванава); Березинский[6] Виталий Константинович (г. Адэса); Жарова[7] Лариса Анатольевна (г. Москва).

---

[1] Кучаеў Андрэй Леанідавіч (1939–2009), рускі празаік, драматург, сцэнарыст.

[2] Дробат Галіна Васільеўна (1917–2009), рускі празаік, журналіст.

[3] Немчанка Гарый Леонцьевіч (н. 1936), рускі празаік, перакладчык, публіцыст.

[4] Ханакоў Уладзімір Іванавіч, рускі акцёр.

[5] Дагадаеў Уладзімір Паўлавіч (н. 1926), рускі паэт.

[6] Бярэзінскі Віталій Канстанцінавіч (н. 1937), украінскі паэт.

[7] Жарава Ларыса Анатольеўна, кансультант па пытаннях літаратуры Усесаюзнага Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП СССР.

*25 чэрвеня*

6.10 (маскоўскі час) — адлёт на *Маскву.* Броўку тэлеграму [з днём нараджэння], ад'езд у Мінск, [цягнік] «Беларусь» 22.27.

* Раніцай па асфальце зацокалі капыты. У фарбаванай будачцы, відаць, хлеб павёз дзядзька. Збруя ў каня ў яблыках чаканкі. Ушачы адразу згадаліся. Здаецца, з-за гары едзе: «Хлеб!» А чарга пачынае хвалявацца, напіраць. Ляціш з ганка.

Рэгістрацыя. За мнагажэнства не судзяць, колькі хочаш разоў рэгіструйся з вышынёй. У самалёце ногі ад седні млеюць, ідзеш, як бог, які заседзеўся ў сваім захмарным троне. Пасля сняданку сусед за табой засоўвае ў крэсла паднос, нібы прымярае табе анёльскае крыло. Авіяцыя!

Праязджаю Талачын, там прах Лявона[1], па кожных кутках. Няўжо астранаўты палятуць каля Зямлі некалі, як каля суцэльнага магільніка?

*26 чэрвеня*

Звон Вялюгіну. На працы — прывітанне П. Броўку. Зайчыку купіць французскія духі.

*27 чэрвеня*

10.30 — Хв. Чэрня (зборнік[2] ягоны). Да Вялюгіна. Да Мар'і Міхайлаўны.

*28 чэрвеня*

22.55 — [к/ф] «Пярсцёнак княгіні Анны».

*29 чэрвеня*

Аваціка Ісаакяна[3] А. Вялюгіну.

*Тэрмінова:* У зборнік «Небо твоих очей»[4]: 1) Хелемскага, Додзіка[5], Шарапава[6], Бубнава;

2) вершы пра Краснаярскі край для зборніка Ан.Чмыхалу.

*30 чэрвеня*

Ваня [Бурсаў прыязджае] «Беларуссю», вагон № 13, Хелемскі № 8, СВ. 12.20 — Кайсын Куліеў, 21.30 — Убайд Раджаб.

---

[1] Баразна Лявон Цімафеевіч (1929–1972), беларускі мастак дэкаратыўнага і побытавага мастацтва. Гл.: Ускруціўся ні свет ні зара // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 175.

[2] Чэрня Х. Ваколіца. Мінск, 1976.

[3] Ісаакян Аветык Саакавіч (1875–1957), армянскі паэт. Акадэмік АН АрмССР (1943). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[4] Бородулин Р. Небо твоих очей. М.: Молодая гвардия, 1976.

[5] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст. У 1961–1994 гг. супрацоўнік Віцебскага абласнога тэлебачання.

[6] Шарапаў А., рускі перакладчык.

*1 ліпеня*

9.00 — да Вані [Бурсава]. 14.00 — у Клёвы [Кляўко] забраць карэктуру. 17.00 — у СП забраць пуцёўкі. 19.00 — вечар Броўкі (Оперны [тэатр]).

*** [Выступленне на вечарыне П. Броўкі:] Сёння надзвычай прыемна і дужа адказна адчуваць сябе ўшацкім мальцам. Ад шчырага сэрца хочацца выказаць словы ўдзякі і захаплення славутаму земляку і старэйшыне нашай роднай беларускай паэзіі.

Дарагі Пятрусь Усцінавіч, у час нядаўняй паездкі бачыў я, як помніце вы партызанскую Ушаччыну і любіце яе — калыску вашай узнёслай песні, як ведаюць вас і любяць землякі.

Хораша сустракаеце свой юбілей, Пятрусь Усцінавіч, шчодрасць душы і таленту далі багаты плён. У Пуцілкавічах Вы прыгадалі — на 15 хат было 5 крыніц, як цяпер вылічваюць — на тры хаты па крыніцы, а сёння чысціні крыніцы Вашай паэзіі стае на кожную душу шчырую, якая любіць узнёслае, крынічна-чыстае беларускае слова.

*2 ліпеня*

Падпісаць асецін. 10.00 — да Вані [Бурсава]. У ЦК (забраць кніжку). Да Калабка [Чарняўскага]. 16.00 — банкет Петруся Усцінавіча ў «Журавінцы».

***Увага: не кранайце класікаў — могуць зазвінець.

*Асцярожна: класікі!*

Клопат славы ласенькі —
Чорны хлеб не есць.
Разумеюць класікі:
Час — капрызны цесць.

Вершамі ці прозаю
Б’юць у вечнасць след.
Забяспечыць бронзаю
Потым гарсавет.

Сочыць славы пасеку
Прагнасці мядзведзь.
Не кранайце класікаў —
Могуць зазвінець!
(Могуць загрымець.)

*24 красавіка 1976, Караліѕчавічы*

*3 ліпеня*

9.30 — забраць у ЦК кніжку (у паставога). 10.00 — да Навума [Кісліка] з перакладамі (па дарозе да Мар'і Міхайлаўны). 22.34 — праводзіць Убайда [Раджаба]. З Хелемскім пераслаць фота для зборніка.

Не з каляровых слайд
Твой край арліны знаю.
Табе, мой друг Убайд,
Любоў мая скразная!

*1975*

*4 ліпеня*

Ад'езд Вані [Бурсава] на Маскву. Зняць пытанні карэктараў з «Хуткасці» [Куляшова]. З Бубнавым сустрэцца наконт білетаў са Скарынкіным. Да Мар'і Міхайлаўны, да Навума [Кісліка], забраць [неразб. 1].

*5 ліпеня*

Да Мар'і Міхайлаўны. Перагледзець «Паэму пра 36»[1]. Пасля 22.00 — будзе Законнікаў з жонкай.

*6 ліпеня*

Да Мар'і Міхайлаўны.12.00 — Свята паэзіі ў Вязынцы.

Бахарь (стараславянскае — краснобай, сказочник).

[Адрас:] вул. Важа Пшавела, д. 157, Ілья Іванавіч Манжавідзе.

*7 ліпеня*

Валаводзіцца са Стулпанам[2]. Да Мар'і Міхайлаўны. Дазваніцца да Бярозкіна наконт прадмовы, заяву на адпачынак, Сёмуха.

*Ераніму Стулпану*

Да будет славен мудрый Ероним,
Из рук бессмертия не уроним.

*1975*

*8 ліпеня*

Да Мар'і Міхайлаўны. 10.00 — з Васілём Жуковічам[3]. 15.00 — з Рэмам [Нікіфаровічам] (на тэле). Да Татура (запіску ўзяць).

---

[1] Паэма С. Ясеніна.

[2] Стулпан Еранім (1931–1981), латышскі паэт, нарысіст.

[3] Жуковіч Васіль Аляксеевіч (н. 1940), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1973–1980 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*9 ліпеня*

Да Мар'і Міхайлаўны, да Навума [Кісліка]. 11.00 — з Васілём Жуковічам. 14.00 — з Васілём Сёмухам. Сазваніцца з Бярозкіным, аддаць 2-гі экз. Ясеніна.

*10 ліпеня*

Да Калабка [Чарняўскага], аддаць.

5.59 — самалёт, *Гагра,* блуканні ў пошуках кануркі. Шашлыкі. Цёця Соня.

*11 ліпеня*

Пляж. Гаспадар сабаку купаў. Бадзянне па горадзе. Базар, універмаг, спазненне ў кіно, гадзіна розніцы.

*12 ліпеня*

Ранішні аўтобус. Нарэшце ў Доме творчасці пакой 34. Цікавы паэт з Казані. Зайчыку бранзалет срэбраны.

Чарлі[1] па тэле.

*13 ліпеня*

Ціхае ранішняе мора, чым далей да поўдня — адчуванне, што цябе, як бялізну, кіпяцяць. Купіць піялу, кіпяцільнік.

Як гарады пад час вайны,
Здаюцца тут пакоі.

На ўзбярэжжы тваім камяні
Лёгкім пухам бялеюць, Абхазія.
І напятыя рукі арлоў...

* На *Сочы.* Чорны якар. Ціс. Егіпет, грабніцы. Букет магноліі для цешчы. Лісток гінкго. Мушмула ад нырак (3 лісты на шклянку). Сочы. *І кіпарыс, як боскі перст. Ганчарнае кола — планета*[2].

*14 ліпеня*

Рынак. Прыйшлі нарэшце пуцёўкі. [к/ф] «Зануда». Кругавых[3] з сям'ёй прыехаў.

Каўказская незалежнасць.

---

[1] Чаплін Чарлі (Чарльз Спэнсер; 1889–1977), амерыканскі рэжысёр, акцёр, сцэнарыст.

[2] Гл.: «Нам перадаць імкнецца час...» (29.08.76) // Абсяг. С. 7.

[3]Кругавых Мікалай Пятровіч (1926–1994), беларускі пісьменнік. У 1973–1976 гг. член сцэнарнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», у 1976–1979 гг. кансультант СП БССР.

*15 ліпеня*

Рынак. Прадае часнок, яблыкі, як жанглёр, уедлівы. Пачынае штарміць. [к/ф] «Кліч продкаў» (21.00).

*16 ліпеня*

Заказаць білеты на (дамоў). Паслаць лісты (справы). Прадумаць пра Шушанскае для дзіцячай [кніжкі].

* * *

Падумаць не мог, што так
Цябе паўтарыць магчыма
Спякотаю і вачыма,
Сябе ашукаў няўзнак.
Магчыма, вачмі, спякотай,
Ды толькі не той, што ўпотай
Шаптала адно: «Дзівак…»

*17 ліпеня*

10.00 — ад'езд *Сухумі.* Ласю падаруначак купіць (маністы), Зайчыку спаднічку чырвоную.

*18 ліпеня*

Ланачцы — 13 год (чортаў тузін). 10.00 — ад'езд на *Сочы.* Сад. Выпадковы. Выйграў у француза. *Курапаткі* на [нерзб. 1]. Ветразі. Марожанае. [Малюнак Ілоны і надпіс] (Ласю — 13 год!).

*19 ліпеня*

Дурацкая спёка. Выплаўляюцца мазгі. Тэорыя Энгельса[1] правільная.

*20 ліпеня*

Немагчыма дыхаць, жыць і думаць пра што-небудзь. Можна дайсці да продкаў хвастатых.

«Паспрабуйце надуць славай парася — абавязкова лопне» (Я. Гашак[2]).

*21 ліпеня*

10.00 — *Піцунда*[3]. 21.00 — [к/ф] «Рамантычныя часы». Білеты на самалёт. [3 малюнкі Ілоны:] «Мыс Піцунда».

---

[1] Падобна, «тэарэтык камунізму» зблытаны з «тэарэтыкам дарвінізму», які лічыў, папросту кажучы, што чалавек паходзіць ад малпы. Энгельс Фрыдрых (1820–1895), нямецкі філосаф, адзін з тэарэтыкаў камунізму. Дарвін Чарльз Роберт (1809–1882), англійскі прыродазнавец.

[2] Гашэк Яраслаў (1883–1923), чэшскі пісьменнік.

[3] Гл.: Ля сосен Піцунды (21–28.07.75, Гагра) // Абсяг. С. 122.

*22 ліпеня*

Патроху рухаецца Андрэй [пераклад твораў Вазнясенскага]. Узяўся за «Майстроў»[1].

*23 ліпеня*

Дурацкі фільм азіяцкі.

*24 ліпеня*

*Гуда+Ута* (імя пад вадой). 15.00 — ад’езд на экскурсію. *Новы Афон.* Манастыр. Алея кіпарысавая грэшнікаў. Пячоры застылы першабытны пах.

*1840 г. У Нікіцкі батанічны сад[2]. Дарога звілістая, пад назвай «Абдымі мяне, потым я цябе».

Кожны грэшны манах садзіў кіпарыс. Колькі манахаў, столькі кіпарысаў — алея. Застылы першабытны жах. Нязбытна першабытны. Застылы лівень, зоры прыбіў вадападу. Лівень перараззала святло. Нібы хто горы прыбіваў, і цвікамі вострымі боль сцякае. А знізу мора цягнецца ў гору недасяжнасці.

*25 ліпеня*

10.00 — ад’езд на возера Рыцу. Блакітнае возера. Як зліваюцца рэкі, але кожная свой колер нясе.

* Рыца. Бзыб і Геча зліваюцца, але захоўваюць свой колер. Рака Юпшара часткова пад зямлёй ідзе. Крываліссе [?]. Геча, Юпшара.

Строгія адрогі
Тут ва ўсёй красе.
Паварот дарогі —
Абдымі сусе
да.
Штэпсель у разетку.
Да канца пуцёўкі
Абдымі суседку.

Гатуй сняданне,
Сястрыца Рыца.
Браты ад жаху
Акамянелі.

[Чужой рукой:] Горы: Агепста, Ацетук, Пшегишхва. [Малюнкі Ілоны.]

---

[1] Паэма А. Вазнясенскага.
[2] Нікіцкі батанічны сад заснаваны ў 1812 г. Х. Х. Стэвенам у былым п. Нікіта (п. Батанічнае).

* * *

Тонкія,
Як алаўкі ў пенале
(Бачым іх на малюнках хіба),
Вокны пасцілкамі запіналі,
Ад скокаў дрыжэла шыба.
Да нас, падуросткаў,
Не мелі жалю.
Нас не пускалі
У клуб на танцы,
Дакладнай рыфмай
Нас абражалі,
Горшай, чым
*Танцы і падшыванцы.*

Мы бачылі
Не самалёты-кілімы,
Панюхалі порах,
У гільзах каторы.
Для аднакласніц
Былі мы
Не кавалеры
І не танцоры…

Васіль Арынчык і я Кулінчык[1].

*Смутак — абутак.*

Аўрамчык перакладае «А помнишь, Алёша», рыфмуе *Смаленшчыны* — (русские женщины) — *глечыкі.* Другі пласт мовы, з палескай афарбоўкай.

А калі *жанчыны ссмуглеўшыя*?

*** [Без даты:] М. Аўрамчык. Рыфма *ЦК — уцякаць*. Спалохаўся й замяніў.

*26 ліпеня*

Каўказскі азіятызм, каказія (выдумваю тэрміны). Тэлеграма ад Вялюгіна.

---

[1] Падаецца, здагадка, што Рыгор Іванавіч «намацваў» сабе псеўданім (выводны ад імя маці) для гумарыстычных вершаў, мае пад сабой грунт. Восіп *Кулішчын* — гл.: Дзённікі і запісы. Вып. I. 1951–1969. Мінск, 2014. С. 262 (26 лютага). Васіль Арынчык — сын Арыны (Янушкевіч), і Кулінчык — сын Куліны.

*27 ліпеня*

11.00 — (у госці да Аяна[1], пакой № 52 (прыморскі корпус). 18.00 — [к/ф] «Бобі» (індыйскія слёзы).

От верху и, мол, до́низу
Я предана Малдонису[2].

Крэўная помста.

*28 ліпеня*

Дамовіцца з Аянам [Нысаналінам], каб прыслаў свае вершы, ласікі. Падагнаць пра Шушанскае. Запасы цукру і чаю папоўніць.

*29 ліпеня*

Мора пасля дажджу. Размова з Аяпанам [Нысаналінам] (6 «к»). Эпас казахскі Ахматава бралася перакладаць. Ліст Бурсава і Дробат.

*30 ліпеня*

Закончыць чарнавіковае [?] паэмку. Паслаць ліст Салтуку (каб пісаў вершы!).

А то парой звонкапалозай,
Не дачакаўшыся шпакоў,
Пяро я аскаромлю прозай,
Як хітрамудры Сіпакоў.

*31 ліпеня*

Зрабіць для «Прынамсі» (і «ЛіМа») СП як федэрацыя футбола. У магазін па чай. Шашлыкі з Зайчыкам. 21.00 — [к/ф] «Кацька — папяровы ранет».

*1 жніўня*

Дзень добры, жнівень! У магазіне купіць такія-сякія сувенірчыкі таму-сяму (Вялюгіну!). 21.00 — марская прагулянка.

*2 жніўня*

Ад Вані [Бурсава] ліст. Адказаць. Падбіваць патроху бабкі. 21.00 — [к/ф] «Другая ісціна».

---

[1] Нысаналін Аян (сапр. Сейтхан Бердзімухаммедулы; н. 1942), казахскі празаік, паэт, перакладчык, літаратуразнавец.

[2] Малдоніс Альфонсас (1929–2007), літоўскі паэт, перакладчык. Народны паэт ЛітССР (1984). Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1965, 1979).

*3 жніўня*

Патроху сабрацца. Радзіор хваліць «Белую вежу» [?] ў посудзе. Рынак. Нунівермаг. Закончыў пра Шушанскае!

Дзень добры, жнівень!
Умалот
І сёлета мой не багаты.
І з кожным годам
Меней год,
Далей парог жаданай хаты.

*4 жніўня*

Васілю-саракавіку — падарунак. На базар. Аднесці Аяну [Нысаналіну] бутэльку. Заказаць на раніцу таксі.

*5 жніўня*

9.08 — *Адлер* — самалёт. Пазнаёміўся з адным з Нальчыка. Дзень добры, Мінск! Горы карэктур!

*6 жніўня*

На працу. Забраць карэктуру Броўкі. На вакзал (на Ушачу). Сустрэцца з Віктарам [Шрамяковым].

*7 жніўня*

Узяць білеты на Ушачу (Ласю і цешчы). Сазваніцца з Броўкам.

*8 жніўня*

Падпісаць Броўку. На кінастудыю — атрымаць нейкія грошы.

*9 жніўня*

Вечар — ад'езд на *Ушачу*. Дачытаць Ласёву настаўніцу [вершы].

*Вучням з Высокай Гары*

Жаданнем я гару,
Высокім адпаведна, —
Высокую Гару
У добры час наведаць.
Упэўненых звідна
Прыветна сустракае
Гара жыцця,
Яна
Высокая, крутая.
Світання ўладары,

Ганіце прэч самоту.
Жадаю Вам, сябры
З Высокае Гары, —
Высокага палёту!

* * *

А ці ў сабе,
Ці на сабе
І дом,
І мжу
Насіць мне,
Як смаўжу.

*10 жніўня*

На магільнік. Наконт агароджы. Пецьку [Трафімава] пачаставаць.

*Знайсці пераклады:* 1) Хелемскага (пра Купалу); 2) Навума («Раённыя аэрадромы»); 3) Шклярэўскага (пра бароды; «Чалом, Енісей»).

*11 жніўня*

На магільнік. Да Арыны [Янушкевіч]. У госці да Гарбукоў[1].

*12 жніўня*

Ад’езд у Мінск. На працу. Да Калабка [Чарняўскага]. Да Пушка [Пушкарова]. На Уфу.

*13 жніўня*

Да Мядзведзя [Пушкарова]. На працу. Да Васіля [Зуёнка]. 15.30–16.00 — да Броўкі (дамоў). Да Калабка [Чарняўскага].

*14 жніўня*

На радыё — запіс. Да Жычкі («ЛіМ»). Аддаць рэгістраваць славянскую анталогію.

*** Калі *ветерок* перакласці *вятрок*?

*15 жніўня*

Да Зуёнка. 12.00 — Броўку пазваніць, якім годам заканчываць другі том. 13.00 — пахаванне Хадкевіча[2].

Сазваніцца з Броўкам.

---

[1] Да бацькоў Г. Гарбука.

[2] Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912–1975), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

*16 жніўня*

Раніцай да Вагнера. Для Зайца алахол з аптэкі, рамонак. 21.00 — [к/ф] «Трэці наступ» (Югаславія).

*17 жніўня*

Да Моркаўкі ў госці. Закончыць перадрук для «Маладосці», для радыё.

*18 жніўня*

Паглядзець, ці ў плане Сяргей *Дарахвей* (паправіць). На працу. У «Маладосць» верш. Сустрэча з Куляшовым. Білеты на самалёт. Васіль Сёмуха.

*19 жніўня*

На радыё. Наконт павелічэння аб'ёма С. Ясеніна. У «ЛіМ».

* Ніяк не магу знайсці добрую рыфму для ясенінскай Русі. Аюсь — самая дакладная, але палітычна небяспечная.

*20 жніўня*

10.00 — Васіль Жуковіч. 11.00 — радыё (запіс). Васіль Сёмуха («Руки милой»[1]). 32-45-04 Віктар Герасімавіч [Жак]. Здаць Лорку ў друк.

*21 жніўня*

11.00 — запіс на радыё па Свіркавай і Лукшавай рэдакцыях. Зайсці ў «ЛіМ» (наконт Лоркі). 22.35 — nach Moskau.

*22 жніўня*

[*Масква*.] У «Литгазету». Да Бяляева[2].

Не пожелай жены Беляева,
Ни рифмы,
Ни кобеля его!

*23 жніўня*

На дачу да Івана [Бурсава]. Вожык, вавёрка, вераб'і.

*24 жніўня*

З раніцы да вечара за машынкай. Ад'езд у Маскву!

*25 жніўня*

«Молодая гвардия». Пазваніць Вазнясенскаму. На Мінск!

---

[1] Верш С. Ясеніна («Руки милой — пара лебедей...»).
[2] Бяляеў Міхаіл Аляксандравіч (н. 1931), рускі паэт, празаік.

*26 жніўня*

На працу. Бухгалтэрыя.

*27 жніўня*

9–10.00 — Васіль Жуковіч. Пытанні зняць з Сёмухам (Ясенін). «ЛіМ» — Паптонева. «Полымя» (карэктура Ісаакяна).

28 жніўня

Бураўкіну дзень нараджэння! Званок ад Броўкі чакаць, запіс на радыё (дзіцячы). 19.00 — будзе дома Юра Багданаў![1]

*29 жніўня*

На працу. У «Маладосць» (Аўрамчык). «Бярозка» (Васіль [Зуёнак]). Пазваніць Салтуку.

*30 жніўня*

10 раніцы — Законнікаў. Лазня (знайсці Шрамякова). Зіна Міклашэўская[2] наконт Галі — Карласу [Шэрману].

*** [Без даты:] Дзядзька Яша. Да яго хадзілі піць. Падаў заяву ў Ізраіль. Пераблыталі Р кірылічны з P лацінкай. Затрымаўся. У кватэры ўсё прадаў. Заходзілі выпіць. У пустой кватэры баяліся гаварыць. Скрозь магнітафоны [праслушка].

*31 жніўня*

Сазваніцца з Вагнерам, каб Казінін[3] чытаў тэкст! 14.40 — [к/ф] «Чалавек-аркестр». 20.00 — у Генрыха Вагнера.

*1 верасня*

Да Вагнера. Да Навума [Кісліка], да Броўкі. У Літфонд (да Валі).

*Паэту-акадэміку*
*(падборка ў «Полымя», № 9, 75)*

Дужа добры Бай Максім,
Памяркоўненькі,
Мала часу меў зусім
І таму шпурляў усім

---

[1] Багданаў Юрый Міхайлавіч (н. 1944), беларускі паэт, крытык. У 1974–1975 гг. супрацоўнік Дзяржаўнага камітэта БССР па кінематаграфіі, у 1975–1988 гг. нам., начальнік аддзела пракату фільмаў Дзяржкіно БССР.

[2] Міклашэўская Зінаіда, дачка маткі хроснай Рыгора Іванавіча Міклашэўскай Філіцыі Антонаўны, Галіна — унучка.

[3] Дакладней, Казіцкі Міхаіл Антонавіч, беларускі акцёр.

Парадкоўнікі.
Перакладчык не засне,
Ці шпурляць ці не?
Едзе з рэзгінамі Бай.
Малады,
Пра рыфму дбай!

Праўка для друку:

Бай пражыў багата зім.

*2 верасня*

10.00 — да Вагнера. Дзіцячую, Ясеніна, дагавор з дзецьмі. 17.00 — Сяргей прыедзе.

*3 верасня*

Каралішчавічы. З'ездзіць у Мінск, забраць рукапісы на працы.

*4 верасня*

Добра прачынацца ў халадку! Адабраць для «ЛіМа» Сяргея Ясеніна.

* * *

Глушэе начэй жуда,
Прыгорбіліся адхоны.
У атаме жалуда
Стаіўся сусвет зялёны.

*5 верасня*

З Чэсем[1] у Мінск. «ЛіМ», «Вясёлка», «Голас Радзімы».

*** [Без даты.] Беларускае ЧК, размяняй Адамчыка.

*6 верасня*

Закончыць Савося Авося[2] для «ЛіМа», падагнаць Ясеніна.

*7 верасня*

У Мінску ўзяць: 1) сцёрку для машынкі; 2) сіні аловак; 3) па дублю[3]. Знайсці рэцэнзію Ваданосава на Баразну.

---

[1] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. У 1969–1977 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць», у 1977–1980 гг. гал. рэдактар сцэнарнай майстэрні пры кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[2] Псеўданім, пад якім Р. Барадулін друкаваў гумарыстычныя вершы.

[3] Пячатка «дубл.» [дублікат], для тэхнічнага афармлення рукапісу.

*8 верасня*

У Літфондзе Чэсеў [Адамчыкаў] пакой папрасіць (№3). З Сяргеем у Мінск. Праца (сустрэцца з Броўкам, з Андрэем Вазнясенскім). «ЛіМ», «Полымя». («Трубіць алень»[1] — сігнал).

*9 верасня*

Дабіць праўкі, перакласці Навума [Кісліка] для «ЛіМа».

*10 верасня*

14.00 — з Васілём Сёмухам (аддаць С. Ясеніна, А. Вазнясенскага — прадмоўка).

*11верасня*

Аддаць з Чэсем [Адамчыкам] для Максіма Танка пераклад Нэруды[2]. Дашліфаваць пераклады Андрэя Вазнясенскага.

*12 верасня*

Узяць Вялюгіну Саган. У лазню. 19.00 — выступленне ў політэхнічным з Андрэем Вазнясенскім.

*Рыгору Семашкевічу*[3]
*(у дзень 30-годдзя)*

Рыгорам будзь і не рыгоршай
Назло Гнілевічам, Прыгоршчам.
Будзь на выдаткі — найвыдатным,
І — на зарплату — кандыдатным.
Няхай і ў дзевяноста год
Вясталак сніцца карагод!

* * *

Долу хіленне,
Небу маленне.
Бор працяло —
Ад ствала да ствала.
Кветкай,
Здранцвелай ад захаплення,
Шышка сасновая расцвіла.

---

[1] Трубіць алень: Паэзія паўднёваасецінскіх паэтаў. Мінск, 1975. Пер. Г. Кляўко.

[2] Нэруда П. Крыві бунтоўнай кроплі. Мінск, 1976.

[3] Семашкевіч Рыгор Міхайлавіч (1945–1982), беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец. У 1970–1982 гг. выкладчык беларускай літаратуры філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1970), дацэнт.

*13 верасня*

Падагнаць хвасты на працы. 17.30 выступленне ў гандлёвым тэхнікуме.

* * *

Пад хмарамі сосен смугі мітульніца,
І восень свой круг паўтарыла.
І вырай ігліцы зрудзела імгліцца —
На дол ападае раскрыла.

*14 верасня*

Раніцай 8.30 (Жак). Дабіць II том Броўкі. Пазваніць Фаме [Караткевічу].

«Белы мароз» — Улашчык[1] казаў, [што] на яго радзіме [так называецца] восеньская шэрань, іней. «Белы мароз на страсе».

*Бацянік — батанік.*

*15 верасня*

Да Навума Кісліка. Да Зуёнка зайсці. 19.00 — Палац прафсаюзаў, з Андрэем [Вазнясенскім] вечар.

*16 верасня*

Пазваніць Яфімаву[2]. Сазваніцца з Панізнікам, з Броўкам, з Макалёк [Макалём]. Пазваніць Лучанку.

*17 верасня*

У Мінск, падпісаць у друк Германава[3]. Заверыць даручэнне Валі.

*18 верасня*

Перадаць Макалю запіску, сазваніцца з ім. Закончыць перадрук «Смаргонскай акадэміі». Дапісаць раздзельчык «Кірмаш на Рэйне».

*19 верасня*

Дабіў-такі (пальцамі на машынцы) — «Смаргонскую»!

*20 верасня*

У Мінск. На пошту. Звон Зуёнку. Трэба думаць пра білеты на Баку.

---

[1] Улашчык Мікалай Мікалаевіч (1906–1986), беларускі гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар. Доктар гістарычных навук (1964). Быў рэпрэсаваны.

[2] Яфімаў Фёдар Архіпавіч (н. 1933), беларускі паэт, перакладчык, крытык.

[3] Германаў А. Касцёр на вяршыні. Мінск, 1975.

*Слых бессоння*

адскуголіў,
Ідзе, абыякавы да ўсяго,
Гадзіннік,
Бясшумны, як алкаголік.

*[Верасень]*

*21 верасня*

Паўкніжкі Ігара Севяраніна[1] хапіў. Майстар. Рускай паэзіі шанцуе, вялікі выбар.

Мне жанчыны ў гадах
падабаюцца меней —
Пачынаю старэць.

*** «Аристократ мысли» (И. Северянин).

*22 верасня*

Адаслаць Фікрэту[2] вершы. Сёмуху — Вазнясенскага Андрэя. Германава аддаць на раздрукоўку. Наконт Коўтун. 12.00 — Лучанок (званок і быць!). У Броўкі падборку для «Полымя».

*23 верасня*

12.00 — пахаванне Міхася Ціханавіча Лынькова. Да Куляша [Куляшова] з афармленнем.

*24 верасня*

Чаравікі ў рамонт. На працы здаць у набор II том Броўкі. На Каралішчавічы.

Ледзь кволы золак тух — яна
Усмешкай дзень трымала,
Міс Радасць
Залатухіна[3],
Каторая Тамара!

*Каралішчавічы*

---

[1] Севяранін Ігар (сапр. Лотараў Ігар Васільевіч; 1887–1941), рускі паэт, перакладчык.

[2] Гаджа Фікрэт (сапр. Гаджаеў Фікрэт Гоюш аглы; н. 1935), азербайджанскі паэт і празаік. Народны паэт Азербайджана.

[3] Залатухіна Тамара Фёдараўна, руская перакладчыца, супрацоўніца «Литературной газеты».

*25 верасня*

Уступ да Андрэя Вазнясенскага. У «ЛіМ» звон (наконт Ясеніна). 17.00 — ад'езд на *Лагойск*. *Аддаць доўг Лужаніну!*

Доўга трымаецца
Белы мароз на страсе.
Давідна шастацца мне
З рэчкай Мінусінкаю.
Белым туманом махне,
Як яна касынкаю.

*[Верасень]*

*26 верасня*

З Жорам Коласам[1] на Мінск. Заехаць да Валі ў «БелСЭ».

*Генадзю Бураўкіну*

Дык будзем сэрцамі прамыя,
Плячо ў плячо — крутая кроў.
Свіння знявагі не разрые
Нас, крывічоў.
Сафіі макаўкі святыя
Нас бласлаўлялі
Як сяброў.

*27 верасня*

Базар. Давесці да канца вершы свае.

*28 верасня*

З Сяргеем [Панізнікам] у Каралішчавічы. Да Сяргея.

*29 верасня*

Да Броўкі (наконт ад'езду ў Маскву). З Макалём (давесці да ладу славакаў).

*Алесю Камароўскаму*[2]
*(на выхад першай кнігі)*

Не бяры без пальчатак —
Апячэ кладунец.

---

[1] Колас Георгій Данілавіч (1929–1994), беларускі крытык, публіцыст, кінадраматург.

[2] Камароўскі Алесь ( Аляксандр Адамавіч; н. 1947), беларускі паэт. У 1973–1976 гг. навук. супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа. У 1976–1979 гг. заг. аддзела Рэспубліканскага праўлення аматараў кнігі БССР. Камароўскі А. Пачатак. Мінск, 1975.

Інтрыгуе «Пачатак»,
Раз з запасам канец.

*[Верасень]*

*30 верасня*

Да лятучкі здаць славакаў. Адлёт на Баку! Ноч. *Баку*. Ветры гатэля.

* Прылёт. Разрэзаны гранат вечаровага Баку. Ружы па дарозе. Ільяс Тапдыг[1]. Нумар на скразняках. Ільяс паказвае, што гранат, як дом з пакоямі і падвалам.

*1 кастрычніка*

*Ранішні забыты добра і добра запомнены Баку. Морвакзал. Праспект Нафтавікоў. Чайхана. Паходы па ГУМах. Пад дажджом вечаровым горадам «Раўшан». *Тофік выжлукціў штофік.*

*2 кастрычнік*

* Пошукі снядання. Кошачкін[2]. Ля помніка 26-ці бакінскім камісарам. Урачыстае пасяджэнне. Ціханаў у прэзідыуме, як негатыў, сівы. Самае скупое на свеце жыццё. Кожную хвілю адбірае ўсё назад.

Малы спявае, цягне голасам, аж галава ківаецца, здаецца, трымаецца на канаце мелодыі над прорвай.

Муслім Магамаеў[3] страціў голас. За фано «Вдоль по Питерской» з апошніх сіл. Больш, як актор. Страшна вось так і ў паэзіі страціць голас. Вярнуўся на Радзіму без голасу. А некалі тут меў яго.

Дзяжурныя па паверху між сабой: «Рахманінаў[4] — гэта былы кампазітар».

*3 кастрычніка*

*Садзілі дрэвы. Хочаш трапіць у гісторыю — трапіш у (уляцеў у яму з вадой і пяском). М. Шагінян[5] дрэўца садзіла асабліва старанна. Зямля па ёй верх ужо бярэ, а яна стараецца. Зямля яшчэ змагаецца з зямлёй. Але ўжо зямля над ёй гаспадыня (не над духам яе!).

---

[1] Тапдыг Ільяс (сапр. Тапдыгаў Ільяс Орудж аглы; н. 1934), азербайджанскі паэт.

[2] Кошачкін Сяргей Пятровіч (1924–2000), крытык, літаратуразнавец; ясенінавед. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны работнік культуры РСФСР.

[3] Магамаеў Муслім Магаметавіч (1942–2008), рускі і азербайджанскі оперны і эстрадны спявак, кампазітар, акцёр і грамадскі дзеяч. Заслужаны артыст АзССР (1964). Народны артыст СССР (1973). Народны артыст Азербайджана.

[4] Рахманінаў Сяргей Васільевіч (1873–1943), рускі кампазітар, піяніст, дырыжор.

[5] Шагінян Марыэтта Сяргееўна (1888–1982), руская пісьменніца. Герой Сацыялістычнай Працы (1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Ленінскай прэміі (1972).

«Один из честнейших поэтов мира», — Назым Хікмет[1] пра Сяргея Ясеніна.

Выступленне ў школе. Мангол выступае. Перакладчыца блытаецца.

[Адрасы:] Аббас[2] Абдулла (г. Баку); Зевина Ч. (г. Баку, рэдакцыя газеты «Література та містецтва»); Исмаилзаде[3] Иса (г. Баку); школа № 190 (г. Баку).

*4 кастрычніка*

* Васіль рана выехаў. З Сяргеем — ружанец па горадзе. Сазваніўся з Мінскам. Забыўся быў, што сёння выхадны. Валіна праца не адказвала.

Ад'езд. У цягнік грузяць «Moskowska», а мне нельга! Думаю, навошта? Ці будзе чай? Як усё змянілася!

Здаецца, Грэбнеў[4] Вагіфа[5] перакладаў: «Беднасць, што няма *мотала* (сыр, які захоўваецца ў кіндзюках некалькі год)» пераклаў, што нават сала няма. І гэта ў мусульман. Прыказка: гліна бядуе па камені.

*5 кастрычніка*

У словах ток высокага напружання. Паэты-высакавольтнікі. Наступаю на ногі сосен, хачу пазнаёміцца. Сцежка-паломніца.

Уздоўж граніцы па рацэ Аракс. Арарат, як этыкеткі каньяку. Высокія белыя вяршыні, як бутафорныя. Нібы алах са снегу ляпіў ці з белых хмар.

На той бок пасяленні, а тут вялікі каменны магільнік, як пальцы, што адвальваюцца. Людзей няма навокал. Дрот мяжы. Аракс цячэ, як і цёк, не ведае, што стаў мяжой. Бялеюць вяршыні гор, як настылыя свёрлы алмазныя, пратурыўшы цвердзь зямную, дабіраюцца да неба.

* * *

Лесуна
Я назваў бы хросным,
Толькі б сцежка вяла,
Як бяссонніца.
Наступаю на ногі соснам,
Бо хачу пазнаёміцца…

*15 мая 1976*

---

[1] Хікмет Назым Ран (1902–1963), турэцкі паэт, празаік, сцэнарыст, драматург і грамадскі дзеяч. Пачынальнік турэцкай рэвалюцыйнай паэзіі.

[2] Аббас Абдулла (н. 1940), азербайджанскі крытык, перакладчык.

[3] Ісмаілзадэ Іса (сапр. Ісмаілаў Іса Мустафа аглы; 1941–1997), азербайджанскі паэт, перакладчык, публіцыст.

[4] Грэбнеў Навум Ісаевіч (сапр. Рашбах; 1921–1988), рускі паэт, перакладчык.

[5] Вагіф Молла Панах (каля 1717–1797), азербайджанскі паэт і дзяржаўны дзеяч.

*6 кастрычніка*

20.01 — вячэра ў «Караван-сараі».

* У гасцях, як па этапу прагналі 15 гадзін туды (4 гадзіны на парашу), 15 назад.

Баку! Хаш. Ранішні хаш. Галава маладога бараньскі. Хлопчык прадае гарачы яшчэ чурэк з тандыра. Як сонца дымкае бярэш. Пах. Цеплыня хлеба, радасць шчырасці, працы. Цеплыня. Гарачыня!

У АН Азербайджана. Душна. Дакладчык чытае сабе, чытачы спакойна шумяць.

Цікава, што ў арнаменце Азербайджана адлюстравана будова крышталю.

[Адрасы:] Жанна (г. Масква); Плаўнік[1] Абрам Львовіч (г. Баку); Короткевич Лев Александрович (г. Баку, Нефтяные Камни, партком НГДУ им. XXII съезда КПСС).

*7 кастрычніка*

* Паром. *Нафтавыя Камяні* самыя дарагія ў пярсцёнку Каспія. Парк. На сямі караблях аснова пасёлка. Караблі і зараз, як атланты, трымаюць на спінах цяжар зямных клопатаў. Нясуць марскую службу, верныя мору і зямлі. На Нафтавых Камянях не пыльная работа — няма пылу ніколі. Толькі ў пакоях лішняя мэбля можа стварыць пыл мяшчанства.

Вячэра ў чайхане. Танец. Мужчыны — нешта ад птушак у рухах, у паставах. Жанчыны з усведамленнем годнасці.

[Адрасы:] Мамед-заде[2] Сиявуш (г. Баку); [без імя] (Rīga).

*8 кастрычніка*

* Палац шырваншахаў.

Дарызо[3] чытае верш і, як кот, закапывае пачатак добрага верша. Чытае вершы Міхаіл Луконін. У ружы спадае вейка. Закаханы і малады. Чысты, як ранішні снег.

Юван Шэсталаў[4] чытае, як шаман (па-мансі і па-франсі). Шагінян: «Запаілі чалавека». Калі нацыянальныя паэты ўзнімаюць сваю паэзію, то многія рускія апускаюць з вяршыні.

Вячэра ў рэстаране «Дружба».

---

[1] Плаўнік Абрам Львовіч (1916–1979), рускі паэт; ураджэнец Беларусі.

[2] Мамед-задэ Сіявуш Імран аглы (н. 1935), азербайджанскі паэт, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджана.

[3] Дарызо Мікалай Канстанцінавіч (1923–2011), рускі паэт, драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1981).

[4] Шэсталаў Юван Мікалаевіч (1937–2011), мансійскі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1978, 1981).

*9 кастрычніка*

*Апошні дзень. Віеру[1] і Дамяну[2]. Размова з Віталем Кароцічам[3]. Зразумела, чаму такая кніга ў Вані [Бурсава].

Выстаўка птушак на беразе мора. У касе круціцца магнітафон, які імітуе шматгалоссе і першароднасць. Белыя лебедзі, нібы забыліся зняць абутак супрацьатамнай абароны.

*Душой адтаць у чайхане. Ад руж Баку і дружбаку. Выгінае рыб на шкарпэткі імпэткі, па грашах пра шах, чувакі ў чувяках, мастакі, толькі без пасад.* Хто каго: аркестр ці яны, ці *дакапаюць слухачоў — з'едачоў, заглынальнікаў бараніны. Заклінальнікаў, эстрадзіцца — здрадзіцца.*

[Адрасы:] Рзаев А. Р. (г. Баку, пр. Разина. Гр. С.Х.Ч.Н.С. Салют); Пенбек[4] Вадим Ибрагимович (г. Баку. Ждём Вас!); «Мэр города — привет от Елисеенко Юрию (Иринке и Володе), передать лично Лукьянову» (г. Баку РК КП Азербайджана).

*10 кастрычніка*

9.25 — на Мінск. Табло t +18. Праводзілі з райкома. *Харкаў.* Доўгі ўкраінскі маршрут. Вітанне!

19.00 — СП. Вечар Сяргея Ясеніна.

* Святлана Русакова (кніжку [паслаць] — чытала верш у школе № 55).

Нібыта алах разламаў, палова зерня ў небе, палова Баку начнога. *Разламаны гранат Баку, зоры ўнізе і зоры — доле[5]. Крылле — скрылёк аралі. Аржаны — шар зямны.*

*11 кастрычніка*

10.00 — звоніць Бальчэўская[6]. 14.00 — быць ў Ігара Лучанка.

*12 кастрычніка*

12.00 — да Валі Куляшовай (данесці Вазнясенскага). Пазваніць Пашкову, Клёве [Кляўко].

---

[1] Віеру Грыгорэ Паўлавіч (1935–2009), малдаўскі паэт.

[2] Даміан Лівіу Сцяпанавіч (1935–1986), малдаўскі паэт, эсэіст, перакладчык.

[3] Кароціч Віталій Аляксеевіч (н. 1936), украінскі пісьменнік. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1972), Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[4] Пенбек Вадзім Ібрагімавіч (н. 1926; караім). Заслужаны інжынер Азербайджана.

[5] Гл.: «Ты ў маленькім сваім кулачку...» ([1977]) // Абсяг. С. 99.

[6] Бальчэўская Галіна Фёдараўна (1945–2005), беларуская актрыса. З 1972 г. актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Заслужаная артыстка Беларусі (1999). Прысвечаны ёй верш гл.: Журба вясла (24.07.76, Кактэбель) // Абсяг. С. 52.

З Броўкам: 1) Камандзіроўкі Кучынскаму[1] і Лучанку; 2) каб Жычка адпусціў Крука; 3) наконт Салановіча[2] (Валю [Тарасу] тры [верша на пераклад?]).

*13 кастрычніка*

Канчаткова здаць «Хуткасць» Аркадзя Куляшова. На радыё (Казік [Камейша], Генадзь, Валя [Куляшова]). Забегчы ў «Маладосць» вычытаць карэктуру.

*14 кастрычніка*

Дагавор з Сёмухам. Званіць Валі Куляшовай. Вялюгіну — падборку Броўкі. Званіць Вазнясенскаму. 19.00 — Георгі Вылчаў[3].

*15 кастрычніка*

10.00 — да Вазнясенскага (уступ для «Даляглядаў»[4]). 12.00 — да Броўкі наконт фота. 13.00 — карміць Ланся. Андрэя праводзіць.

*16 кастрычніка*

На працу (з Бярозкіным), даваць два пераклады С. Ясеніна.

*17 кастрычніка*

Раніцай з Броўкам. На працы давесці канцы са славакамі. Сазваніцца з Панчанкам.

*18 кастрычніка*

7.30 — каля «БелСЭ» (у грыбы).

* * *

Як жа не пажаўцець з адчаю —
Ног бярозкам не вырваць з глею.
Сычае сцюжа,
І жах сычае.

---

[1] Кучынскі Валерый Аляксандравіч (н. 1947), беларускі спявак. У 1973–1976 гг. у Белдзяржфілармоніі, у1976–1979 гг. саліст Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972).

[2] Салановіч Яўгеній Міхайлавіч (н. 1933), рускі перакладчык з італьянскай мовы. Камандор ордэна Звязды італьянскай салідарнасці. Лаўрэат расійскай прэміі «Майстар», Дзяржаўнай прэміі Італіі.

[3] Вылчэў Георгій Дзімітраў (н. 1926), балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, даследчык беларускай літаратуры. Гл.: Георгі Вылчаў // Дуліна ад Барадуліна. С. 108.

[4] «Даляглялы» — штогоднік замежнай літаратуры (выданне выд-ва «Мастацкая літаратура». Гал. рэдактар А. Вярцінскі, укладальнік А. Гардзіцкі).

Млечны Шлях варання
Вуглее…

*19 кастрычніка*

У цырульню. Ад’езд у Маскву (да Валі Куляшовай, забраць Пімена [Панчанку]). У другі [нумар] «Полымя» артыкул Петруся Броўкі. Здаць хоць рэшту гумарыстычнай кнігі[1].

*20 кастрычніка*

*[Масква.]* Гасцініца «Масква». Да Броўкі, у СП (забраць запрашэнні). 19.00 — Калонная зала — вечар.

*Ивану Бурсову*

Изощрившись в русском мате
В белорусской стороне,
Едет Ваня на «Фиате» —
Фиолетовом коне.

*21 кастрычніка*

Да Шкляры [Шклярэўскага]. 15.00 — прыём у СП. 20.10 — ад’езд на Мінск.

*22 кастрычніка*

Сазваніцца з працай, передрукаваць свае вершы для «Полымя».

23 кастрычніка

Да Вялюгіна. Вялюгіну: «Камуністы»[2], «Рэха ў граніце»[3], артыкул П. Броўкі.

*Леаніду Ленчу[4] з нагоды ордэна*

Чытач, не перад чынам кленч —
Асвойвай радасці загоны.
Няхай жыве маэстра Ленч,
Чырванасцяжны смех ягоны.

*24 кастрычніка*

Ул. Паўлаў — 40 год. На радыё. Карласу [Шэрману] — 41 год.

---

[1] Барадулін Р. Прынамсі. Мінск, 1977.
[2] Верш П. Броўкі.
[3] Рэха ў граніце. Мінск, 1975. Зборнік вершаў, прысвечаных Брэсцкай крэпасці.
[4] Ленч Леанід (Папоў-Ленч Леанід Сяргеевіч (1905–1991), рускі празаік, драматург. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*25 кастрычніка*

Сазваніцца з Куляшовай. 11.00 — сустрэча з Рэмам [Нікіфаровічам] у яго на працы.

*26 кастрычніка*

Раніцай чакаць званка Грынчыка. Напісаць ліст Салтуку. Куляшовай наконт Ігара Шкляры [Шклярэўскага] (вечар у філармоніі).

*27 кастрычніка*

На працы (канчаткова здаць славакаў). Сазваніцца з кватэрай Броўкі.

*28 кастрычніка*

У «Бярозку» да Васіля [Зуёнка] (аддаць доўг). Купіць «Поведение животных».

*29 кастрычніка*

Ян Гушча[1] 292-462 [гас. «Мінск»].

*30 кастрычніка*

11.00 — абмеркаванне серыі «Песню бярыце ў дарогу».

*31 кастрычніка*

10 раніцы (тэле Валя [Куляшова]). Аднесці ў рамонт гадзіннікі. [Гас. «Мінск»] 29-23-46 Юры Якаўлеў[2]. Анатацыю А. Дзеружынскаму. 18.00 — «Знамя юности».

*1 лістапада*

З Віктарам [Шрамяковым] на мора. 12.00 — да Юрыя Якаўлева. Ілонцы — на ножкі (спорт.).

*2 лістапада*

У *Нясвіж*, у *Мір* (з Віктарам [Шрамяковым]). Дзіма Моркаўка (унтайкі Зайчыку).

*3 лістапада*

10.45 — звон Вагнеру, Мар'і Міхайлаўне 32-07-35.

Ананку — 36 год. Звон Васілю [Зуёнку].

---

[1] Гушча Ян (1917–1986), польскі пісьменнік, перакладчык.

[2] Якаўлеў (Хаўкін) Юрый Якаўлевіч, рускі празаік, паэт, сцэнарыст (г. Масква).

*4 лістапада*

Звон Вялюгіну. Сазваніцца з Гродневым[1] (наконт Белавуса[2]). 18.00 — прыйдзе Белавус з вершамі.

*5 лістапада*

12–13.00 — на радыё. Купіць падпіску. Паслаць Марыі Рыгораўне [Трафімавай] на свята. Эміль Наско[3] 15.00.

*6 лістапада*

Сазваніцца з радыё. Занесці ў «ЛіМ» вершы. Ёсць сігнал «Свята пчалы»[4]!

*7 лістапада*

18.00 — да Веры Сцяпанаўны [Паваліхінай] (дзень нараджэння). Пімену [Панчанку], Куляшу [Куляшову], Чыгрынаву — звоны.

*8 лістапада*

Паклікаць Хуча [Хуч-рэжа]. Сазваніцца з Мядзведзем [Пушкаровым]. 15.00 — у Пучынскага[5].

*9 лістапада*

Рынак. У ашчадную [касу]. Да Рэма [Нікіфаровіча]. 18.00 — Пятровіч. Ілончына настаўніца. У «Смаргонскую [акадэмію]» 2 — дзе ўстаўкі, падумаць.

*10 лістапада*

Вольга Аляксандраўна Лемеш, Лечкамісія 29-82-68, ІІ змена. Да Мар’і Міхайлаўны, 3-ці ўчастак. На радыё. Да Вярбы[6]. Адзначыць з мастакамі сігнал. К/ф «Жыць, каб жыць» (Палац спорту) 19.00.

*11 лістапада*

Вершы азербайджанцаў для Хв. Жычкі. Хвосцік да Куляша [Куляшова]. Здаць Петруся Броўку ІІІ том. Зайчыку — грошы. Белавус.

---

[1] Гроднеў Мікола (Мікалай Пятровіч; 1929–2011), беларускі пісьменнік. У 1968–1984 гг. рэдактар аддзела нарысаў час. «Беларусь».

[2] Белавус Анатоль Мікалаевіч (н. 1928), беларускі паэт.

[3] Наско Эміль Вікенцьевіч (н. 1944), беларускі кампазітар.

[4] Барадулін Р. Свята пчалы: Выбранае. Мінск, 1975.

[5] Пучынскі Юзаф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.

[6] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса. У 1972–1977 гг. супрацоўніца рэдакцыі газ. «Літаратура і мастацтва».

*12 лістапада*

Запіс на радыё. Аддаць вершы ў «Дзень паэзіі — 76». 13.00 — Казінін [Казіцкі]. 16.00 — пасяджэнне секцыі паэзіі. Бураўкіну — Лорку.

*13 лістапада*

Дадрукаваць і аднесці ў «Дзень паэзіі» (Савось Авось). Звон Чыгірыні [Чыгрынаву] і Шрамякову. Сазваніцца з Белавусам (фота).

* * *

Не так, каб вузка,
Не так, каб шырака,
Каля акадэміі
Бегла лірыка,
Перабягала вучоны масток,
Сустрэла Марыну Барсток[1],
Ля кніжнага ларочка
Сустрэўся Мікола Арочка[2].

*14 лістапада*

Перадаць рэкамендацыю Генадзю Бубнаву (у СП). 8.00 — у лазню з Віктарам [Шрамяковым]. 13.10 — школа № 55, вул. Надзеждзінская, прыпынак «Лясная». Рынальда Пятроўна[3]. 17.00 — Лечкамісія (пакой № 17).

*15 лістапада*

12.00 — [дак. к/ф] «У Баку дзьмуць вятры».

16.00 — школа № 55 (Рынальда Пятроўна).

*16 лістапада*

Рынак. Дачытаць Бальмонта[4] «Край Озириса». Спроба рэкламы [час. «Бярозка»]: «Стой, не прыпальвай...» (у зборнік).

У Колі ўзяць Бальмонта.

---

[1] Барсток Марына (сапр. Марыя Мікітаўна; 1916–1994), беларускі крытык і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук. У 1959–1978 гг. навук., ст. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

[2] Арочка Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1930–2013), беларускі паэт, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1981). У 1966–1999 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ.

[3] Бабіцкая Р. П., настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Ёй прысвечаны шматлікія вершы 1975–1976 гг.

[4] Бальмонт Канстанцін Дзмітрыевіч (1867–1942), рускі паэт, перакладчык.

*

Стой! Не прыпальвай папяроску,
Ты сыну выпісаў «Бярозку»?!

*

Для ўсіх і ў горадзе, і ў вёсцы
Ёсць шмат цікавага ў «Бярозцы».

*

Паэму, верш, аповесць, допіс
Заўжды змяшчае наш часопіс.

*

Дарэмна траціць час навошта? —
Спяшайце выпісаць — на пошту!

*1961*

*17 лістапада*

«Вясёлцы» — вершы. 10.30 — на радыё для дзяцей (пару фраз). Дублікаты Белавуса[1]. Сазваніцца з Бурсавым і Элькіным[2]. Валі ў дарогу «Белавежскую».

*18 лістапада*

Казіміру [Камейшу] — вершы і гумар. Бярозкіну — баладу. Аэрапорт. Валя й «Мінводы». Літфонд. Каралішчавічы.

*19 лістапада*

З Бурсавым [рукапісам] у Мінск. Дом. На працы.

*20 лістапада*

У Мінск. Выкупіць экземпляры «Свята пчалы». Па «Беларусь». У «Вясёлку». Рэму Ткачуку[3], каб запланавалі Блатуна[4] на 77 г.

Сустрэча з Вамі,
Дачка Пятрова,
За ночку Пятрову

---

[1] Белавус А. Радасць. Мінск, 1976.

[2] Элькін Веніямін Абрамавіч, рэдактар выд-ва «Художественная литература» (г. Масква).

[3] Ткачук Рэм Аляксандравіч, першы нам. старшыні Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.

[4] Блатун С. Чысціня. Мінск, 1979.

Была карацейшай.
Мне доля лепшая
Крутаброва
Яшчэ ўсміхнецца —
Свой сум прыцешу…
Прашу ласкава,
Амаль рыдальна, —
У сне ўсміхніцеся мне,
Рынальда…

*21 лістапада*

Выбраць для «Дня паэзіі» вершы Яўгеніі[1]. Раздзелы да «Смаргонскай акадэміі». Антыбайкі[2].

*Ивану Терентьевичу Бурсову*
*во дни написания Бамского цикла*

В глухой могилёвской
Лесной стороне,
Известной своими дубами и лбами,
Как будто Петра Фальконе
На коне,
Я Бурсова вижу
На БАМе.

*Каралішчавічы*

*22 лістапада*

Сабраць дзіцячыя вершы. Антыбайкі. Звон ад Вялюгіна. Заказ.

* * *

Мне Пушкін[3] з раніцы званіў
І запрашаў на паляванне,
Пакуль мне крытыкі мае
Яшчэ ў душу не наплявалі.

*Лістапад*

---

[1] Мальчэўская Яўгенія Еўдакімаўна (1949–2008), беларуская паэтэса. У 1969–1978 гг. супрацоўніца рэдакцыі аб'яднанай газ. «Камуніст» і чашніцкай раённай газ. «Чырвоная змена» Віцебскай вобл. З 1978 г. настаўніца Раваніцкай СШ Чэрвеньскага раёна.

[2] Назва раздзела зборніка Р. Барадуліна «Прынамсі» (Мінск, 1977).

[3] Яўген Пушкін — віцяблянін родам, празаік (*заўв. Р. Барадуліна).*

*23 лістапада*

Перакласці казку Вані [Бурсава], заказ Вялюгіна. Дублікаты да «Маці мая, Славенія»[1]. Дзіцячыя вершы дома забраць — падрыхтаваць Ваню. Пазваніць жонцы Навуменкі[2] (вечар гістфака). *Рэму Ткачуку* — кнігу падпісаць!

*24 лістапада*

Анатацыі. Да Вялюгіна вершы — Пецеў [Броўкаў] і свой. Дамоў трохі грошай. Пазваніць Нілу [Гілевічу] наконт аб'ёму.

*25 лістапада*

«Смаргонскую [акадэмію]» давесці да машынадруку. Карэктуру ў «Полымя». 20.00 — выступленне ў інъязе.

*26 лістапада*

Купіць білет у Ерэван. Пленум. На працы. З Нілам [Гілевічам] наконт славакаў. У «Дзень паэзіі» Мальчэўскую.

* * *

Шаноўнейшая Еўдакія![3]
Стараліся ў дзве барады,
У лесе, ў снег і ў халады
Радкі надумалі такія.
Нам хвалявання не ўтаіць.
Тут казка ёсць: «Чаму стаіць
У гэтым маладым пытанні
Аўтарытэту больш у Вані».
А я пісаў пра вярблюда́,
Пра камара —
Што найпрасцей,
Бо, адпаведна, й барада
Ў мяне намнога карацей…

*Каралішчавічы*

---

[1] Маці мая, Славенія: Выбраныя старонкі славенскай паэзіі. Мінск, 1978. Пер. Н. Гілевіча.
[2] Навуменка Ядвіга Паўлаўна (1929–2000), беларускі гісторык. Дацэнт кафедры дасавецкага перыяду гісторыі гістфака БДУ. Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. У 1973–1982 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар. Акадэмік АН БССР (1980). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973).
[3] Пяршай Еўдакія Антонаўна, рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*27 лістапада*

Паглядзець вершы з Юрмалы, «У вянок Мацею Бурачку»[1]. Звон Вялюгіну. Алега Салтука для «Дня паэзіі».

*Міхайлу Маскаленку*[2]

Хай б'юцца зоркі,
Нібы коркі,
У неба нашага запалу.
Хай нашчыць шчасцем
Голас Лоркі
Зямлю Тараса і Купалы.

*[Лістапад]*

*28 ліcтпада*

Карэктуру «Полымя». Залатухіна, № 355, [гас.] «Мінск». 11.00 — Яшу [Серперу] звон (пярсцёнак). 13.40 — у Рэма [Нікіфаровіча] на тэле. 14.00 — у «Полымя» карэктуру.

Ад'езд у Каралішчавічы.

*Падзяка за ўсмешку*

Галінка маладой вясны,
Табе за ўсмешку дзякуй, Галя.
Імчыцца час — цягнік скразны,
Няўмольна аддаляе далі,
Дзе з невычэрпнае казны
Юнацтва срэбрам коціць хвалі,
Што паплавок надзей гайдае
Ад сінізны да сівізны.
І вырай цешылі пазны.
Табе за ўсмешку дзякуй, Галя[3].

*Лістапад*

*29 лістапада*

Выезд у Мінск. Сустрэча Рыты [Бурсавай]. На Надзеждзінскую вуліцу. Зборны час. 0.30 — званіць Семяжону.

---

[1] Гл.: У вянок Мацею Бурачку (27.11.75, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 48.

[2] Маскаленка Міхаіл Ніканавіч (1948–2006), украінскі перакладчык, гісторык і тэарэтык перакладу.

[3] Верш, магчыма, прысвечаны аднакурсніцы Галіне Раманчыкавай.

*Ваню Бурсаву*
*(падпісваючы «Свята пчалы»)*

Раздзьмухвай свой дымар, пчаляр.
Вуллі не нашы ў класіцы
Гулі.
Мой першы экземпляр
Табе на ўзгад
Аб пасецы.
*P. S.*
Хай доўга ў доўгай барадзе
Пчала юрлівасці гудзе.

*1975*

*** [Без даты:] Кулеш [Куляшоў] баяўся падпісаць завочна кнігу Рыне [Бабіцкай як «незнаёмаму чалавеку»].

*30 лістапада*

2.20 — на Ерэван! Арарат заснежаны. З-пад брыва ілюмінатара зара азірае. Дзень добры, Арменія!

*1 снежня*

*[Ерэван.]* Ліст Зайчыку. 11 (мясцовы час) — у СП Арменіі. Пасяджэнне пленума. На абед да Геворга Эміна. Ул. Сакалоў[1].

***Арарат паказваецца не ўсім. У начертании *Ерэван [*літары], як рожкі аленя. Калі паміраюць мовы, вусцішна на зямлі. Дрэвы яшчэ зелянеюць, не ведаюць, што грунтовыя воды ўнізе, ключы...

У сына дысертацыя «Дзяржаўныя межы ў космасе».

Ад чытача [у падарунак] расце і пладаносіць лімон, адно яшчэ — [правесці] каньякапровад... *Крамяныя армянкі. Гаворка — Геворга. Духа, Амін, Эмін. Стронга з Севана для гасцей накіравана. Пустамент.*

*2 снежня*

11.00 — СП. З пустога ў парожняе. Выключны фільм Г. Эміна пра Арменію.

***На плячах сельскай гаспадаркі андарак у палоску меж быльнягових.

*3 снежня*

10.00 (мясцовы час) — ад'езд па святых мясцінах Арменіі. 19.00 (мясцовы час) — прыём у СП. 20.00 — вечар, калгас Урыцкага [неразб. 1].

---

[1] Сакалоў Уладзімір Мікалаевіч (1928–1997), рускі паэт.

*Звартноц*[1] 641 год н. э., разбурылі арабы. Барэльеф дойліда Аганэса, захаваўся і надпіс імя. Зарылі зямлёй і зрабілі курганом. Гліняны прас, 7 в., награвалі і прасавалі. Разьба па камені. Вінаград. Кляймо майстра (пяцікутная зорка) — знак якасці VII ст.

Азалія Бадзюгіна[2].

*Эчміядзін*[3] 301–303 гг. Частка Ноева каўчэга, аскелепак IV в., футляр. «Екацярына» кавалак.

Сардарабадская бітва[4] 1918 г. у губернях. Пяць арлоў, як надмагільныя помнікі. *Храм душы — гладышы.*

Ды не збязлюдзь, не запусці
Уласны храм душы,
Жывое вызнай у жыцці.

[Адрас:] Рижиношвили[5] Ушанги Ильич (г. Тбилиси, Главная редакционная коллегия по делам художественных переводов и литературного взаимодействия ГССР).

*4 снежня*

На пошту — лісты. 12.00 — СП (камандзіроўку [адзначыць]). Да Эміна. 21.15 — аўтобус. 22.26 — адлёт на Маскву.

*5 снежня*

Дамадзедава, Беларускі вакзал, Унукава. Да Івана Цярэнцевіча [Бурсава]. 19.53 — на Мінск. Звон Зуёнку.

*6 снежня*

Звон Калабку [Чарняўскаму], да Калабка. Знайсці тэл. Rin [у Бабіцкай].

*7 снежня*

11.00 — «Навальніца». 11.00 — будзе званіць Аўрамчык.

12.00 — 36-18-14 (Андрэеўская, 9 — 86 [Liw.[6]]).

---

[1] Звартноц, храм, найвыдатнейшы помнік ранняга армянскага дойлідства (641– 661), разбураны заваёўнікамі ў VIII ст. Гл.: Звартноц (21.01.77) // Абсяг. С. 87.

[2] Бадзюгіна Азалія Ісмагілаўна, татарская паэтэса, перакладчыца.

[3] г. Эчміядзін, гістарычны цэнтр армянскай апостальскай царквы. У Эчміядзіне знаходзіцца манастыр з рэзідэнцыяй каталікоса.

[4] Сардарапацкая бітва пад час Першай сусветнай вайны 21–28 мая 1918 г. паміж армянскімі і турэцкім войскамі ў раёне ст. Сардарапат (Сарбарабад; с. Армавір Акцямберанскага р-на АрмССР), якая спыніла канчатковае вынішчэнне армянскага насельніцтва.

[5] Рыжынашвілі Ушангі Ільіч (н. 1940), грузінскі паэт і празаік; грузінскі, расійскі і амерыканскі выдавец. Доктар філалогіі (ЗША).

[6] Ліваносава, урач.

*8 снежня*

На працу. 15.00 — да Броўкі (выпіскі з прэмій). Якаву Абрамавічу [Серперу].

*9 снежня*

На працу. Рэму [Нікіфаровічу] — Германаву. Пісьмо Мірдзе Абале[1] на Галоўпаштамт. Чэрвенскі рынак Яшу [Серперу]!

*10 снежня*

Крывіцкага[2] падтрымаць!

11.00 — [маг.] «Аметыст», забраць гадзіннік. 13.00 — у «Неман» да Бубнава. Да Навума [Кісліка].

*11 снежня*

На радыё Казіку [Камейшу] вершы і сваю кніжку. 10.00 — сустрэча з Яшам [Серперам].

14.30 — Вярхоўны Савет (зала пасяджэнняў).

*12 снежня*

Гелене Брызовай[3] — кніжку! Ядвізе Паўлаўне [Навуменка] 22-40-47 (11 раніцы). 13.30 — у «Бярозцы» (песню аддаць, Васю [Зуёнку] — кнігу, Генадзю [Бураўкіну]). 14.00 — ноты (чакаць!). 14.30 — славакі ў СП. 20.20 — ад'езд славакаў.

*13 снежня*

8.00 — у лазню з Віктарам [Шрамяковым]. 11.00 — «Аметыст» з Яшам [Серперам], забраць гадзіннік.

20.21 — на вакзал (сустрэча Заі).

*14 снежня*

На рынак. Звон Якаву Абрамавічу [Серперу]. Узяць білеты на Ленінград.

32-14-74 Таццяна Станіславаўна Вяжэвіч (маг. № 16 «Аметыст») ад Сульскага Эдуарда.

---

[1] Абала Мірдза (1923–2007), латышскі літаратуразнавец, беларусавед. Доктар філалагічных навук (1956). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі ЛатвССР (1986).

[2] Крывіцкі Аляксандр Антонавіч (н. 1927), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1959). З 1952 г. у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

[3] Дакладней, Крыжанава-Брындзава Гелена (н. 1922), славацкая пісьменніца, перакладчыца.

*15 снежня*

З 9-ці да 13-ці — чакаць Шэверава[1]. На працу — Салаўю на подпіс славенцаў.

Паслаць «Свята пчалы» Залатухінай. Валя дастане «Анталогію сучаснай амерыканскай паэзіі».

*16 снежня*

Звон Броўку. 10.00 — з Яшам [Серперам] у ювелірны. Да Вялюгіна («Полымя» і Саган), кніжкі — Хелемскаму.

*17 снежня*

На працу. Звон Вялюгіну. 13 гадзін — галоўны педінстытут, прарэктар па вучэбнай рабоце Лазарук[2]. З Рэмам [Нікіфаровічам] наконт Германавай.

*18 снежня*

Для «Суровай вымовы»[3] подпісы ад рукі. 11.30 — ТЮГ (прэм'ера Шабана).

12.00 — рэдкалегія «Бярозкі». Для «Дня паэзіі» — Салтук, Папковіч[4], Зялёнка[5], свой гумар.

*19 снежня*

8.00 — аналіз крыві, [каб.] № 13. На радыё — гумар. У Дом друку. У «Маладосць» — верш (№ 2), фота ў Валянціна Ждановіча[6]. 16.00 — на працы сход.

*20 снежня*

Да 10-ці чакаць званка Мядзведзя [Пушкарова] (штаны). Прыезд Петрака [Трафімава]. Віктар Шрамякоў.

Пашукаць будзільнік.

---

[1] Шэвераў Аляксандр Калістратавіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Беларусь».

[2] Лазарук Міхась (Міхаіл Арсеньевіч; 1926–2000), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1971–1978 гг. прарэктар Мінскага педінстытута імя М. Горкага. У 1978–1990 гг. дырэктар Навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства народнай адукацыі БССР. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар. Акадэмік АПН СССР. (1982). Акадэмік НАНБ (1995).

[3] Барадулін Р. Суровая вымова. Мінск, 1976.

[4] Папковіч Уладзімір Антонавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1973–1982 гг. выкладчык нямецкай і англійскай моваў Віцебскага індустрыяльнага тэхнікума.

[5] Магчыма, Зялёнка Іван Францавіч, шафёр П. Броўкі.

[6] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

*21 снежня*

№ 5. Да Вялюгіна.

Дазваніцца наконт малога (хірургія твару).

Да Шымука[1] ўступ у кніжачку гумару.

*22 снежня*

Наконт 3-яй клінікі хірургія твару. 9.40— у Ліва [Ліваносавай]. 3-я клініка.

Кветкі, к/т «Кастрычнік».

Майстру званіць 32-51-17, Яўген Уладзіміравіч (кравец), Куйбышава, 101 — 80.

*23 снежня*

На працу. Зняцце пытанняў з тэхрэдам.

13.30 — гістфак (выступленне). Да майстра.

*24 снежня*

7.40 — на Ленінград! № 5. Да Зайчыка звон.

*Ленінград*! Звон Мамаевым[2].

Да радні.

*25 снежня*

19.00 — вечар Бюро прапаганды, 192187, Воінава, 18, тэл. 72-63-01. Ленінградскі Дом літаратара. Вечар (75-годдзе А. Пракоф'ева; выслаць білет).

*26 снежня*

СП (разлік па камандзіроўцы) 10.30 — Пушкінскі Дом. 21.24 — самалёт на Мінск.

*27 снежня*

!

---

[1] Шымук Віктар (сапр. Вікенцій Мікалаевіч; 1933–1998), беларускі паэт, нарысіст. У 1974–1977 гг. адказны сакратар газ. «Літаратура і мастацтва», з 1977 г. нам. галоўнага рэдактара Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання на Беларускім радыё.

[2] Мамаева Валянціна, родзічка па бацьку.

*29 снежня*

36-66-43 Нінэль Якаўлеўна Касьянава[1]. Вершы Міхлеева[2] (Даўгань[3]). У «Вячэрнім Мінску» праверыць інтэрв'ю. 12.00 — Юрэвіч[4] (кнігі з аўтографам).

*30 снежня*

Запіс на тэле пра Туркменію.

*** «Азам паэзіі ўсе мы без асаблівых высілак навучаемся ў іншых паэтаў і па кананічных падручніках. Куды цяжэй загаварыць уласным голасам, у рытме ўласнага сэрца» (Э. Межэлайціс «Лірычныя эцюды»).

Лямпа-вісюха, вясковая вечарынка. Зіма. Яшчэ кажухі, не дублёнкі. Студня. Воўк уцякае, і падземнага царства брама.

* * *

Мяне ніхто не разумее.
Чытаю верш, ды хоць заплач,
Здаўбнела кожны мой слухач,
Здаецца, ціха бранзавее.
Пагляд пытае маразлова:
«А гэта што яшчэ за мова?»

*(Жахлівы сон)*

* * *

Люблю Барыса Бур'яна!
Астатняе ўсё — трын-трава!
Вядомасць — даўняя мана.
І слава — сонная сава
Настырна рвецца да стырна…

*1975*

* * *

Вячыстай славы сурмачу,
Радзімы абаронцу —

---

[1] Касьянава Нінэль Якаўлеўна, супрацоўнік карэспандэнцкага пункта Цэнтральнага тэлебачання і радыё.

[2] Міхлееў Дзмітрый Ніканоравіч (н. 1942), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, паэт.

[3] Даўгань Уладзімір Пятровіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч (1916–2005), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. У 1974–1979 гг. палітычны аглядальнік Беларускага тэлебачання; рэдактар аддзела, член рэдкалегіі час. «Коммунист Белоруссии».

Паклон Алесю Махначу[1],
Нясхімніку,
Нязломцу…

*1975*

*Ліст Анналі Бердыеву*

Зноў чаю душнага налі
У піялу маладзічка,
Надзейны дружа Анналі —
Маўклівы чарадзей радка.

*1975*

* * *

Ушами хлопая,
Огромным чем-то ма́ша,
Он шёл в бессмертие,
  в XX бурный век,
Муж Нижниковой[2],
  Савченко[3] Аркаша,
Большой физической культуры человек.

*1975*

*Вірынеі Жыжэнка*[4]

Клінком дамаскім варанею,
Тужу, як порах без патрона.
Ці рыфмай сцежыць Вірынею,
Каб усміхнулася Пятроўна?
А карацей — і ў вір, і ў вырай
Заўсёды я гатоў за Вірай!
У сэрцы, бы ў хавіры, днее —
Світае воблік Вірынеі.

*1975*

---

[1] Махнач Аляксандр Іванавіч (1922–2001), беларускі драматург, празаік, публіцыст. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).
[2] Ніжнікава Тамара Мікалаеўна (н. 1925), беларуская спявачка. Народная артыстка СССР (1964).
[3] Саўчанка Аркадзь Маркавіч (1936–2004), беларускі спявак. Народны артыст БССР (1976). Народны артыст СССР (1985). З 1960 г. саліст Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балет Беларусі.
[4] Жыжэнка Вірынея Пятроўна (1927–2013), заг. рэдакцыяй мастацкага афармлення выд-ва «Мастацкая літаратура».

* * *

У Беларускім кніжным моры
Хвалюецца паводка слоў:
Няхай жыве М. Р. Казлоў!

*1975*

*** [Аўтограф І. Калесніка:]

*Р. Барадуліну*
*з нагоды выдання кнігі «Свята пчалы»*

А Барадуліну не трэба пахвалы —
Ён працаваў не меней ад пчалы.
Такое ўсё ж не кожнаму даецца.
Я веру: мёд у сотах застаецца.

*31 снежня 1975* *Іван Калеснік*

## 1976

*1 студзеня*

Дзень добры, 76-ты! 12.00 — R[yna Бабіцкая].

Але за пытанне прабач.
А што мне за лёс прынёс ты,
Ты голуб ці чорны крумкач?

*Дзень добры, 1976! Высакосны. Год Дракона. Мне ты нясеш сорак першы за плечы. Але рад вітаць цябе, рад жыць. З кожным годам мацней за жыццё пачынаю хапацца. Мала застаецца. Нічога не зроблена. Добрая ўшацкая прыказка: маю надзею — прадам сучку ў нядзелю. Таксама і я.

Што было ў 75-м? Па гарла працы. Бегатні, мітусні. Нешта намагаўся зрабіць, некага дагнаць. Аднолькава, што сябе маладога. Цяпер, пасля саракоў, нібы ў таксі сядзіш, а таксометр няўмольна адбівае кожную секунду. Як ручай праз пальцы, цячэ час.

*2 студзеня*

Да Кошкі [Чарняўскай]. Да Куляшова (занесці карэктуру С. Ясеніна).

*3 студзеня*

Званіць Пушкіну (машына Ушачы). 18.00 — да Чыгірыні [Чыгрынава] (наконт працы S.[?]).

4 студзеня

La vida es la espacio el movimiento[1] — Пабла Нэруда.

Даведацца ў Міхальчука наконт Валі Куляшовай (пераклады).

*5 студзеня*

На працу. У СП (да Чыгрынава). Сазваніцца з Куляшовым. У Дом друку. Звон Сяргею [Панізніку].

*6 студзеня*

Пасля 12-ці чакаць званка Галіны Бальчэўскай.

---

[1] Жыццё — гэта прастора ў руху (*ісп.*).

*7 студзеня*
Ад’езд на *Ушачы*.

*8 студзеня*
*Полацк.*

*9 студзеня*
Галалёд. Сум. *Ушача.* Пазваніць Зайчыку.

*10 студзеня*
Ад’езд на снежныя ўспаміны[1]. Да Бялевуша.

*11 студзеня*
Ад’ез на Мінск.

*12 студзеня*
Выдавецтва. Лечкамісія.

*13 студзеня*
СП. Клініка. Лечкамісія.

*14 студзеня*
10.00 — Лечкамісія.

*15 студзеня*
Дазваніцца да Яшы [Серпера] (лекі).

*16 студзеня*
Аднесці на машынку перадрук.

*17 студзеня*
Да Навума [Кісліка].

*18 студзеня*
Да Навума [Кісліка] (пераклады, кніжкі для Элькіна і Марчанкі[2]).

*19 студзеня*
Сазваніцца з Адміралам [Вялюгіным]. Зборы ў дарогу.

---

[1] Гл.: Нагаданая ідылія (10.01.76, Ушачы) // Абсяг. С. 224.
[2] Марчанка (Мураўёва) Ала Максімаўна (н. 1932), рускі крытык, літаратуразнавец.

А Вялюгін сам не свой, ходзіць заварожаны
З асетровай галавой — замарожанай!

*20 студзеня*

[Рукой Вялюгіна [?]:] Трэ ехаць у Магілёўскія Горкі, аўтобусам, у Акадэмію сельскагаспадарчых навук, на вечар. И там [неразб. 1].

*21 студзеня*

9.00 — выезд у *Леніна*. 14.00 — выступленне ў сельгасакадэміі. 20.00 — курс на Мінск.

*22 студзеня*

Да Пімена Емяльянавіча [Панчанкі].

*23 студзеня*

Падпісаць карэктуры А. Куляшова, П. Броўкі.

*25 студзеня*

Да Навума [Кісліка] (прыкінуць змест), дазваніцца да Вані [Бурсава].

*26 студзеня*

На працу. Ваню [Бурсаву] Каралішчавічы. У СП (Фёдару Янкоўскаму[1] — кніжку).

*27 студзеня*

Пазваніць Ваню [Бурсаву].

*29 студзеня*

*Ігару Шклярэўскаму*
*(падпісваючы «Свята пчалы»)*

Радасці слёзы зрасілі
След твой і кожны крок.
Залатая блешня Расіі,
Плацінавы кручок!

*30 студзеня*

14.00 — Дом РСДРП (запіс).

---

[1] Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч (1918–1989), беларускі мовазнавец, пісьменнік, заснавальнік беларускай фразеалогіі. У 1956–1982 гг. заг. кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972).

*31студзеня*
Круіз.

Попытка не пытка,
Спроба не хвароба.

*1 лютага*
На Камароўку. Да Дзімы [Моркаўкі].
*** — Пачом лук?
— У мяне не лук, у мяне цыбуля, я не стралок.

*2 лютага*
Дзіма Моркаўка — 47 год.

*3 лютага*
У СП. Клініка. Узяць пуцёўку, бюлетэнь.
*** *Прыборы* СП — пісьменнікі *пры Боры* Сачанку.

*4 лютага*
Дазваніцца да Пушкіна. У Каралішчавічы.

*5 лютага*
У Мінск. 17.45 — запіс на тэле.

*6 лютага*
Каралішчавічы. Руская кніжка[1]. Звон Навуму [Кісліку], Дракахрусту[2].

* * *

Як пагоды,
Чакаю нагоды
Мець дазвол
Тваіх рук-нелюдзімак
На небасхіле ласкавай згоды
Адкрываць сузор'і радзімак…

* * *

Сышла б недаверу імгла,
Зайшліся б абразы ў адчаі,
Каб ты на сябе магла
Зірнуць маімі вачамі…

---

[1] Бородулин Р. Небо твоих очей. М.: «Молодая гвардия», 1976.
[2] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

*7 лютага*

У Мінск па Зайца.

*8 лютага*

Дазваніцца да Сёмухі. Перадаць на машынку перадрук для рускай кніжкі.

* * *

Засняганы стыне дол
З векавымі перажыткамі.
Дахі белыя наўкол —
Неправеранымі сшыткамі.

Не праверыш — далібог,
Нічагусенькі не станецца.
Спі, мой строгі педагог,
Летуценніца настаўніца.

Да цябе прашуся зноў —
Хай благое забываецца! —
У першы клас вясновых сноў,
Дзе надзеі ўсе збываюцца.

Ты за просьбу не віні,
Можа, ўсё былое здаўніцца.
Зоркі ў цьмянай вышыні
У Сусвеце,
Бы ў настаўніцкай.

Хто праверыць сшыткі зім
З планамі, з факультатывамі?
З тлумным клопатам сваім
Ціхай ласкай
Днееш ты ўва мне…[1]

*18 студзеня — 8 лютага*

*9 лютага*

Узяць зборнік Андрэя [Вазнясенскага] (зверка). Да Куляша [Куляшова]. Сазваніцца з Сёмухам. Звон Дракахрусту.

[1] Пазней верш, пад назвай «Маладая просьба», быў падрыхтаваны для «Настаўніцкай газеты» з праўкаю аднаго радка («Спі, рашучы педагог»), але ў зборніках не друкаваўся.

*10 лютага*

На працу. Звон Яфімаву. Знайсці Віктара Шрамякова. У Каралішчавічы.

*11 лютага*

Да Ярохіна[1]. Федзю [Яфімаву] аддаць вершы на пераклад. Забраць [пераклады] у Дракахруста. Кісю [Журовіча] — дзень нараджэння. Да Навума [Кісліка] (узяць пераклады).

*12 лютага*

Да Дракахруста. Да Валі[2] (аддаць на машынку рэшту рускай кніжкі).

*13 лютага*

На працу. 10.00 — сустрэча з Някляевым. Аддаць карэктуру Куляшову. Купіць «Свята пчалы» на Каралішчавічы.

*14 лютага*

Сазваніцца з Зайцам. Да хворых. Звон Татуру (Гродна).

* * *

Адрываемся ад Зямлі
Самалётамі і ракетамі,
Клопатамі надзённымі
І сумятнёй пустой.
Раптам зрачэцца Зямля,
Што без ласкі
Зімуе і летуе?
Зоры
Наўрад ці возьмуць
Нас да сябе на пастой…

*15 лютага*

У Мінск. У Каралішчавічы. Ад’езд на Мінск.

*16 лютага*

7 раніцы. Ад’езд ад СП — *Воранава*. 15.00 — *Жырмуны* (выступленне). 19.00 — *Радунь* (выступленне). Знайсці латышоў для «Даляглядаў».

[Малюнкі В. Быкава з подпісамі: 1) Мы ў літаратуры; 2) Праект помніка літаратару; 3) Наш светапогляд; 4) Роздум пасля прамовы ў Жырмунах. 16 лют. 76; 5) Грышкава шапка 1966 года. Гл.: Дажыць да зялё-

[1] Ярохін Раман Аляксеевіч, рэдактар выд-ва «Беларусь».
[2] Міхайлоўская Валянціна Аляксандраўна, машыністка выд-ва «БелСЭ».

най травы…: Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960–2000). Львів: «ВолЯ», 2008.

*17 лютага*

*[г.] Ліда*, гарком. 14.30 — школа № 8 (лакафарбавы завод). 17.00 — Дом афіцэраў. [Малюнак В. Быкава: Ранішні звон. *17.ІІ. Ліда*. Гл.: Дажыць да зялёнай травы…]

З ласкавым сэрцам горад Ліда,
Рачулка ціхая Лідзейка.
Ды працінае сэрца дзіда —
Ледзь…

*

Хай радасць светла залачае
У Вашых сэрцах маладых,
Мае харошыя лідчане,
Ад вашых воч займае дых.

*18 лютага*

РК. Шклозавод «Неман». 17.00 — *Голдава.* Сазваніцца з Мінскам.

* * *

Дзяцей Васіль Зуёнак
Вясёлымі радкамі
Працяў да селязёнак —
Льюць слёзы раўчукамі.

*Генадзю Бураўкіну*

І члену Бюро
ЦК камсамола
Чартом пад рабро
Казыча вясёла.
Зайздроснік,
Не ладзь
Угнацца за Генам.
Старайся, Генадзь.
Член
Мусіць быць членам!

*Ліда*

*** Шклозавод «Неман». Дацкі кілішак 18 гр. (нам ён катэгарычна не падыходзіць). Сяргей Лук’янавіч Кірзюк (дырэктар).

[Малюнкі В. Быкава: 1) Электронны метад пахмелкі; 2) Мы на шклозаводзе «Неман». Гл.: Дажыць да зялёнай травы…]

*19 лютага*

Ад’езд з Ліды. 11–12.00 — Мік. Дзмітравіч. *Шчучын. Стрыбаўка* (школа). Рэмзавод. Мураванская царква.

[Малюнак В. Быкава: У Шчучыне. Гл.: Дажыць да зялёнай травы…]

*** Курапаткі на асфальце.

У Шчучыне абоза-калёсны завод (адзіны ў рэспубліцы). Сельсавет Вялікае Мажэйкава, жэнь-шэнь.

Па дарозе на Шчучын такія дубы — на любую пасаду стаў. Укараняцца — не скранеш, з месца не зрушыш. Скры́баўцы (рэчка Лебяда). Караблі мадэліруюць. Усе мараць вывесці караблі. Лебяда ўцякае ў Нёман.

*20 лютага*

Выезд у *Гродна*. Абком. Педінстытут. Заключны вечар. Рэстаран «Беласток».

*Васілю Зуёнку,*
*падпісваючы Ф. Г. Лорку*

Для дарагога Васіля
Па даручэню Федэрыка
Цягну я
до,
рэ,
фа,
сі,
ля.
Я твой
Ад шэпта
І да рыка!

*Шчучын*

*Васілю Быкаву,*
*падпісваючы Ф. Г. Лорку*

Арыйцу,
Еўрапейцу Васілю,
Таму, каторы
Найславуты Быкаў,
Іспанскай лірай
Сэрца звесялю.

*P. S.*
Даводзь
Шамячыстую тлю
Да цікаў!

*Шчучын*

*Ані Пархімовіч*
*(падпісваючы «Свята пчалы»)*

Хай у славянскім акіяне
І твой узрушаны радок,
Твой беларускі, шчыры,
Аня,
Струмком упарта-чэсным стане,
Як Нёмна ранішні глыток.

*1976*

*21 лютага*
Прыезд у Мінск. 19.00 — да Таісы Антонаўны.

*22 лютага*
16.30 — каля дома Броўкі. На Паліграфкамбінат.

*23 лютага*
На працу. У Дом друку. Валігу [?] купіць. У Каралішчавічы.

*24 лютага*
Сумны дзень — 41! У Каралішчавічы. З Каралішчавіч.

*** Навіна ў рот, здароўе ў жывот, мядзведжая сіла, зайцаў хвост (і тры разы лыжкай па ілбе). Багаты ці будзе, а жанаты будзе.

Дамы абраслі металічным інеем антэн.

Спаў трывожна, як анёл з запасным крылом.

*25 лютага*
Крук, Ананка, Пушкін, Блахин [В.].

* * *

Як туфелек з нагі,
Мяне ты можаш скінуць.
Маўчаць са мной снягі.
Хаджу як схімнік.

З кім мне пагутарыць?
Хіба
З зялёнакроным шумам.
Сасновая журба —
Дарадца сцішным думам.

Ля месяца кругі —
Бяссонніцы сінеча.

А туфелек другі
Былы напомніць нечым…

*26 лютага*

Навуму [Кісліку] знайсці «шапку» [урэзку]. Пазваніць Ананку. Сазваніцца з Элькіным.

І трошкі не мані:
Мана — такая манна,
З якой сядун хлусні
Расце зусім рахмана.

*27 лютага*

Звон Зайчыку на працу! Міхайлоўская (перадрук). Закончыць пераклад Пабла Нэруды.

*Міколу Грынчыку*
*(падпісваючы «Свята пчалы»)*

Мо камяком мой першы блінчык,
Такі даволі тоўсты,
Ды за цябе, маэстра Грынчык,
Мае маленні, тосты!

*Каралішчавічы*

*28 лютага*

У Мінск!

*1 сакавіка*

Да Міхайлоўскай. Да Яфімава (забраць пераклады). Чакаць Рэма [Нікіфаровіча] з Канеўскім[1].

*2 сакавіка*

Да Навума [Кісліка] (каб вычытаць).

---

[1] Магчыма, Канеўскі Аляксандр Сямёнавіч (н. 1933), рускі пісьменнік, сцэнарыст.

*3 сакавіка*

Сазваніцца з Вялюгіным. Падпісаць у друк «Хуткасць». На працы (пазваніць Нілу [Гілевічу] і Вярцінскаму). Стралец [Стральцоў]. Крупенька[1].

*4 сакавіка*

10–11.00 — Міхлееў. Абмеркаванне Гучка[2].

*5 сакавіка*

Падарункі нашым дзяўчаткам. «Вайну і мір» (прынесці Рыне). 19.00 — парк Чалюскінцаў. 69-94-94.

*6 сакавіка*

На Камароўку. Да Гарбука (маці ягоная прыехала).

*** На Камароўцы. Раніца. Дзябёлая кабета распачынае мех бульбы. Жонка былога начальніка, выцвілая, як вясной бульба:

— Адкуль бульба?

— Смалёўская.

— Адкуль?

— Са Смалёўскага раёну.

— Адкуль?!

— Са Смалявіч!

Да Замкавай гары спускаецца дама. Сабака з ашыйнікам уперадзе. Адчуўшы волю, аж заліваецца на кожнага сустрэчнага. «Ну, хоць табе з усімі здаровацца!»

*7 сакавіка*

Зайчыку кветкі.

Развага, выручай,
Як сцежка баравая.
Адчай,
Нібы ручай,
Пяшчота не стрымае, —
Праб'ецца з-пад лам'я
Ракой раскалыханай,
Як жончына імя
Ў абдымках у каханай…

---

[1] Крупенька Яўген Міхайлавіч (1936–1990), беларускі паэт. У 1970–1990 гг. супрацоўнік газ. «Чырвоная змена».

[2] Гучок Яўген Сяргеевіч (н. 1940), беларускі паэт; рэдактар выд-ва «Народная асвета».

*

Раптоўная туга
Пятлю зацягне туга,
Згусцее, як куга
Збалочанага луга.
Праб'ецца з-пад лам'я…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*** Ад шчасця не хапае слоў, — гаворыць жонка.

* * *

Быць вабнай — тонкае мастацтва,
Злы груз для трапяткіх плячэй.
Вы лёгка ўмееце вітацца.
Развітвацца — яшчэ лягчэй.

Хай будзе Ваш спакой цалюткі,
Яго разменьваць вам дарма
На нейкі гнеў,
На нейкі смутак, —
Не любіць весялосць ярма.

Спатканне —
Як адна зацяжка.
Успыхвае цыгарка ледзь.
Развітвацца Вам лёгка,
Цяжка
Сустрэчы радасць зразумець.

*1–8 сакавіка*

*9 сакавіка*
У паліклініку. 9.00 — Блахін (падборку для «Рабочей юности»[1]).

*10 сакавіка*
Грып!

*11 сакавіка*
8.00 — выезд у *Віцебск.* «КІМ»[2].
*** 7.IX.1931 г. — пачатак дзейнасці [фабрыкі] «КІМ». Гады выпуск 71 млн руб. 15 % мужчын, а астатнія — жанчыны. 6,5 тыс. чалавек. 570

[1] Агаворка — газ. «Рабочая смена».
[2] Панчошна-трыкатажнае аб'яднанне «КІМ».

камуністаў. 360 — ІТР[1]. Палац спорту з плавальным басейнам. 1,5 тыс. дашкольнікаў. ГПТВ[2] — 700 чалавек. Піянерскі лагер свой, 1,5 тыс. дзяцей адпачывае. Інтэрнат — 570 месцаў.

[Чужой рукой:] Витебск, областной краеведческий музей, отдел соцстроительства. [Прислать] фото, сборник с автографом, автобиографию, грамоты, какие-нибудь документы (может быть, фотокопии документов); г. Витебск, ул. Лазо, 14, кв. 33, Гладштейн Анна Марковна, Салитан Майя.

*12 сакавіка*

Тэлебачанне. Мединстытут. *Сураж.*

*13 сакавіка*

Да Скапы[3]. У *Шуміліна* да Дамарацкага. *Полацк.* Да бацькоў Генадзя [Бураўкіна[4]].

*** Сельсавет *Мішневічы,* і вёска так. Сакратар парткома Кіслякоў Велары [?] Іванавіч. Чарнышоў — [быў] барабаншчыкам, музыкам, сынам палка, ён пісаў песні дывізіі. Пётр Канстанцінавіч Чарнышоў, 1929 г., в. Замосце Мішневічскага с]с Сіроцінскага раёна. Да 26 ліпеня 1945 г. ваяваў. У Маскве РВ[5]. Бацька на фронце, да вайны ў Віцебску, маці ў Казьяны. У бацькі была скрыпка і цымбалы. 348-мы полк 51-й дывізіі. Ноччу лучынку запалілі, «Лявоніха» і «Крыжачок» на цымбалах. Петушком звалі на той час.

Помнік стаіць, а ён ходзіць, жыве, слава жыве. Слава, яна жывая, мёртвае славы няма.

Трыпціх крыжа,
Трыпціх жагнанняў,
Трыпціх растайных трох дарог,
Трыпціх апошніх трох жаданняў,
Трыпціх — калыска,
кут,
парог.[6]

*1976*

---

[1] ІТР — інжынерна-тэхнічныя работнікі.

[2] ГПТВ — гарадское прафесійна-тэхнічнае вучылішча.

[3] Скапа Уладзімір Рыгоравіч, беларускі журналіст. У 80-х гг. супрацоўнік газ. «Віцебскі рабочы».

[4] Прысвечаны верш Г. Бураўкіну гл.: Прыцягненне Віцебскай зямлі (28.03.76, Вільнюс) // Абсяг. С. 15.

[5] РВ — разведвальны ўзвод.

[6] Гл.: Трыпціх (1976 — 6.06.82) // Амплітуда смеласці. С. 47.

*14 сакавіка*
На *Ушачы.* На Мінск.

*15 сакавіка*
Праца. Сазваніцца з Броўкам, з Куляшовым. 14.00 — выезд у *Нясвіж.*

*16 сакавіка*
У *Нясвіж* на здымкі.

*17 сакавіка*
11.00 — запіс на тэле ва Іфя [?].

*18 сакавіка*
Здаць у набор «Фаўста».

*19 сакавіка*
У «Маладосць».

*20 сакавіка*
Раніцай прыязджае Андрэй Вазнясенскі. У Купалаўскім вечар Кандрата Крапівы[1].

*21 сакавіка*
18.00 — [кафэ] «Журавінка». Банкет у Крапівы. Паэторыя Андрэя Вазнясенскага.

*Экспромт на банкеце Кандрата Крапівы*

Хоць рой тасцёраў будзе віцца
І ліцца ў келіхі ракой, —
Захоўвайце, шаноўны віцэ,
Акадэмічны неспакой.

*Тамадзе Андрэю Макаёнку*

Да д’ябла дактыль і харэй.
Чыны, пасады пойдуць тленам.
Хай у вяках жыве Андрэй —

[1] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Віцэ-прэзідэнт АН БССР (з 1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).Гл.: Кандрат Крапіва // Дуліна ад Барадуліна. С. 80.

Рэдактар мяккі
з цвёрдым членам!

*Кафэ «Журавінка»*

*22 сакавіка*
22-54-16 Панамароў[1] 12 гадзін. 17.00 — Някляеў.

* * *

Натура цвёрдая ў Някляева —
Паэт пра славу ані клявае.
І першае дзіцё
Ў Валодзі — «Адкрыццё»!

*23 сакавіка*
18.00 — дома. У *Волму.*

*25 сакавіка*
15.00 — Пятро Валкавец[2].

*26 сакавіка*
На *Смаргонь*, Вільнюс. «Святая прастата»[3].

*27 сакавіка*
*Вільнюс!* Балтакіс, Йонас [Стрэлкунас].

*28 сакавіка*
Вільнюс. Еўгеніус [Матузявічус].

Любоў не даюць на вынас,
Як піва ў гастраноме.
Дзядуля вясёлы Вільнюс
З профілем вастраносым[4].

Каплічкаю
… калі зноў каго.
Таблічкаю

---

[1] Панамароў Валянцін Георгіевіч (н. 1923), беларускі пісьменнік. У 1974–1976 гг. уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Беларусі.

[2] Валкавец Пётр, беларускі мастак-карыкатурыст.

[3] П’еса А. Макаёнка.

[4] Гл.: Араты гісторыі (24.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 102. Верш прысвечаны Э. Матузявічусу.

На касцёле:
«Вуліца Каліноўскага»[1].

*29 сакавіка*

Ад'езд на Мінск.

*30 сакавіка*

10.30 — ЦК ЛКСМБ (прэмія[2]). 17.00 — тракт ДК Трактарнага [завода]. 19.00 — вечар.

*31 сакавіка*

Пасля абеду да Князя [Краўчанкі] на Някрасава.

*** Дэталі! 18 год. Ваду ў дзядзькі з добрым тварам [бярэ]. Палена цягнуць, рэдка хто паможа. 37. А як вырасла (праз шчыліну бачыў).

«Я схаваюся пад стол, а ты мяне шукай!»

Ушацкая частушка:

Я сваю саперніцу
Завяду на мельніцу,
Няхай перамелецца —
Характар пераменіцца...

* * *

Каб падсуседзіць Буало[3],
І Буйла робіцца Буйло[4].

*1976*

*1 красавіка*

12 дня — Саюз кампазітараў (Г. Вагнер[5]).

*2 красавіка*

На працу. Сустрэча з Сёмухам.

3 красавіка

На рынак. 19.00 — вечар на філфаку.

---

[1] Гл.: 1863 (25.03.76, Вільнюс) // Абсяг. С. 47.

[2] Уручэнне Р. Барадуліну прэміі Ленінскага камсамола Беларусі за паэму «Балада Брэсцкай крэпасці».

[3] Буало Нікала (Буало-Дэпрэо; 1636–1711), французскі паэт.

[4] Буйло Канстанцыя (Калечыц Канстанцыя Антонаўна; 1893–1986), беларуская паэтэса.

[5] Гл.: Генрыху Вагнеру (03.76) // Прынамсі. С. 240.

*4 красавіка*

На Мінскае мора.

*5 красавіка*

Праца. [Маг.] «Крышталь». Дом друку. Званкі Генадзю [Бураўкіну]. Звон Броўку. СП. Пуцёўку ў Каралішчавічы.

*6 красавіка*

Курбека[1]. У касу аэрапорта (білет на Ташкент). 10.00 — Фундаментальная бібліятэка [АН] (Карлас [Шэрман]).

*7 красавіка*

На працу. Да Васіля Зуёнка. Забраць БелСЭ.

*8 красавіка*

9.00 — да Якава Абрамавіча [Серпера] (у наргас Валодзе). Сазваніцца з Лукшам. 15.00 — к/т «Перамога» — «Люстра»[2]. Да Тацяны Кузьмінічны[3]. Сустрэцца з Карласам [Шэрманам], (Жакам), забраць штаны.

*9 красавіка*

Да Зуёнка ў «Бярозку». 14.00 — аўтобус у Каралішчавічы. Паабедаць Ілонку. Сазваніцца з Віктарам [Шрамяковым] (паехаць у Каралішчавічы).

*** Эпоха культу прадаўцоў мясных аддзелаў. Кумпякі з прылаўкаў на вітрыны.

*11 красавіка*

Дадзеныя пра ўзбекаў-герояў.

*12 красавіка*

На радыё Лукшу падборку для Масквы. Лісу[4] — [перадаць] вершы Забалоцкай[5].

---

[1] Курбека Іван Сцяпанавіч (1934–2009), беларускі паэт-сатырык, літаратуразнавец. З 1964 г. супрацоўнік Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

[2] Фільм рускага рэжысёра А. А. Таркоўскага.

[3] Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна, кансультант па арганізацыйнай рабоце СП БССР.

[4] Ліс Арсень Сяргеевіч (н. 1934), беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. З 1962 г. у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986). Прысвечаны яму верш гл.: Споведзь калосса (27.11.79) // Вечалле. С. 73.

[5] Забалоцкая Людміла (Саламаха Людміла Васілеўна; н. 1949), беларуская паэтэса. У 1974–1984 гг. навук. рэдактар выд-ва «БелСЭ».

*13 красавіка*

На працу. Да Шаха [Шахаўца]. 19.45 — на Ташкент.

* Чабан Шырак завёў ворагаў у цэнтр Каракумаў, на 7 сутак харчу. Вушы і нос адрэзалі свае ж сябры.

Вам рад такі
Сказаць «Здароў!»,
Мае радкі,
Радкі з дарог.

*

Шаноўнейшы аксакал,
Кавыльнабароды стэп,
Не хопіць азёр-лекал,
Не хопіць капіркі неб,
Каб твой акрэсліць абрыс,
Тваю перадаць дабрыню.
Я гай алоўкаў абрыз,
Ад смутку сябе бараню.

*14 красавіка*

*Ташкент*, гасцініца «Узбекістан». [VII з’езд пісьменнікаў Узбекістана.]

З сіваватай барадой
На паўстаўкі аксакала.

*** Горлінкі пераліваюць у гулкія гарлачыкі цішыню.

Дзяўчаткі рыхляць клумбы пад кветкі (славянкі) і нешта з усмешкай кажуць пра калым.

Усходняя прыказка: перш чым дом пабудаваць, выберы суседа.

*15 красавіка*

10.00 (мясцовы час) — зала пасяджэнняў ЦК Узбекістана. Выступілі Назармат[1] [і інш.].

Першы дождж.

*16 красавіка*

10.00 — СП Узбекістана. Наконт білета назад. Сяргей Пратасевіч, Барыс Пак[2].

---

[1] Назармат (Ігамназараў Назармат; (1917–2009), узбекскі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Узбекістана.

[2] Пак Барыс Сенсуевіч (н. 1932), рускі паэт, празаік, перакладчык, грамадскі дзеяч.

*17 красавіка*
Садзіць дрэвы. Алайскі рынак. Да Абідава[1]. На самалёт! Барыс Пак.
*** Чалавек стараецца датуль, пакуль не зложыць капытоў.
*Грак — фрак.*

*18 красавіка*
Мінск! Вялікдзень польскі.

*19 красавіка*
8.00 — на працу! Ліст у Эстонію. Звон Бурсаву.

*20 красавіка*
«Падпісныя выданні». Бялізна. Хімчыстка. Каралішчавічы.

*

Обвиняют в измене
Мельпомену, однако,
Нравится Мельпомене
Кальман[2] и Семеняко[3].

*

Хоць і мае густ адменны,
Цяжка вытрымаць атаку.
Спадабала Мельпамена
Кальмана і Семяняку...[4]

*21 красавіка*
Каралішчавічы. Шпачыны клопат. Звон у Мінск.
***[Аўтограф В. Тараса:]

Наяву, в бреду ли —
Но со мной всегда
Гришка Бородулин —
Радость и беда!

*21.IV.76 г. Королищевичи*
*Валентин Тарас,*

---

[1] Абідаў Західжан (1923–1996), узбекскі паэт, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Узбекістана.
[2] Кальман Імрэ (Эмерых; 1882–1953), венгерскі кампазітар.
[3] Семяняка Юрый Уладзіміравіч (1925–1990), беларускі кампазітар. Народны артыст БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).
[4] Канчатковы варыянт гл.: Прынамсі. С. 241.

*Лясная школа.* На пяску [пісалі] табліцу множання, на шпалерах. Старэйшыя былі сувязнымі, у разведку [хадзілі] ў свае сёлы. Калі няма на ўроку — значыць, на заданні. Займаліся па 12–16 гадзін у суткі, каб нагнаць. А то ў лесе, як ваўчаняткі [раслі]. Развучвалі песні, самі пісалі, складалі.

Кароткім сном я пераб'юся
Пад зорамі у халады,
Са стога выскачу, смяюся —
Няголены і малады.

*Ан. Вялюгін*

*Храскаю — гразкаю.*

Со мной была добра —
Ложилась спать нагою
И выключала бра
Упитанной ногою...

*22 красавіка*

У Мінск. Здаць Шпорту[1]. Узяць для Тáраса вершы ў Каралішчавічы.

*23 красавіка*

Сазваніцца з Зайцам, з Рэмам [Нікіфаровічам], з Калачом [Калачынскім].

*24 красавіка*

У Мінск. Да Навума [Кісліка] з вершамі. Марушцы [Трафімавай] лекі (Яшы [Серпера]).

*26 красавіка*

Радыё — на запіс. 15.00 — пасяджэнне сувязі Афрыкі і Азіі.

*28 красавіка*

12.00 — СП. Ад'езд у *Талачын.*

За Калачынскім мы гатовы
У шлях
І на любы пачын.
Спагадай мудраю Цітова
Сустрэў нас стольны Талачын.
Налета зноўку дружна рушым

---

[1] Шпорта Яраслаў Ігнатавіч (1922–1956), украінскі паэт.

Не толькі данішчаць харчы,
Не аталачваць рыфмай грушы,
А талачынцам памагчы.

*29 красавіка*

На Мінск. 15.00 — пленум праўлення СП. У Каралішчавічы.

*30 красавіка*

У Мінск. Арыгіналы Андрэя [Вазнясенскага]. Вясна! Шрамякоў — афішу!

С работай Шрамяков знаком —
С утра работает.
На ком?

*1976*

*1 мая*

Звон Вялюгіну (паэму). У Мінск.

*2 мая*

З Веянам[1] разабрацца для «Даляглядаў».

*3 мая*

Івану Цярэнцевічу [Бурсаву]. У Мінск на працу. Вялюгіну звон. Зайцу зарплату. 14.00 — да Броўкі. Дазваніцца Артуру [Вольскаму]. Літфонд. У Каралішчавічы.

*4 мая*

Дазваніцца да Артура [Вольскага], да Васіля [Зуёнка], да Віктара [Шрамякова]. Закончыць украінскі верш. Звон Катранжы[2].

Сказала Муза, мисс Литва:
— Посторонись-ка, литплотва!
Я сверху вся, мол, донизу
Принадлежу Малдонису!

*Каралішчавічы*

* * *

Я дзверцы без прабуду
Ды спагаду шчырую

---

[1] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; н. 1927), латышскі паэт, празаік.
[2] Катранжы Людміла, знаёмая Г. Гарбука.

Не забуду век
І Люду
Не раскатранжырую.

*5 мая*

Дагавор — у Эстонію. Вершы — у Туркменію! Ал. Жолдаку[1]. 11.00 — у Гроднікава[2] прагляд. У «ЛіМ» — украінскія вершы (свае). Сазваніцца з «Полымем».

*6 мая*

Звон Віктару [Шрамякову] (рэклама). 20 год (Рыгор Арцёмавіч Шаўчэнка[3]) працы на Паліграфкамбінаце (віншаванне). Паперы для машынкі.

*7 мая*

У «Бярозку». У «Маладосць». Чыгрынаву наконт Салтука на з'езд. У хімчыстку (забраць). Вершы ў «Маладосць», «Беларусь», у «Бярозку».

*9 мая*

! У Рэма [Нікіфаровіча спытаць] — чаму Бальчэўскай недаплацілі. Бурсаў — [нумар гас. «Мінск»] 518. Элькін — [нумар] 327. Шчадрына[4] — [нумар] 627, 29-24-67. Кокаш — [нумар] 519. Сустрэць Івана Цярэнцевіча. Знайсці вершы для Лучука.

*10 мая*

19.30 — педінстытут.

*11 мая*

[VII] З'езд СП БССР.

*12 мая*

Паглядзець [к/ф] «Арлан Белае Пяро».

*13 мая*

[Пакой №] 322, фота.

---

[1] Жолдак Алесь (Аляксей Іванавіч; 1918–2000), украінскі паэт, перакладчык. Прысвечаны яму верш гл.: З данінаю ўдзякі (4.05.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 95.

[2] Гроднікаў Васіль Пятровіч (1938–2005), беларускі журналіст.

[3] Шаўчэнка Рыгор Арцёмавіч, дырэктар Паліграфкамбіната.

[4] Шчадрына Валянціна Ніканораўна (1927–2008), руская перакладчыца. Ураджэнка Беларусі. У 1968–1987 гг. кансультант па беларускай літаратуры ў сакратарыяце СП СССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1977).

*14 мая*

16.00 — Канеўскі, кінастудыя.

*15 мая*

Мяркуецца Туркменія.

*16 мая*

* * *

Теперь хотя бы не язви,
Неясностью тоска лечила.
Слепая логика любви
Нас безрассудности учила.

В стакане пролитом твоём
Глаза отчаянья кричали.
Мы пили радостно вдвоём
За диалектику печали…

*17 мая*

З Кісем [Журовічам]. На працу. У «Бярозку», у «Маладосць», у «Савецкую Беларусь». 15.00 — запіс на тэле. 16.00 — запіс на кінастудыі.

*18 мая*

Здаць у друк «Явар». Аддаць Вольскаму на пераклад. 21.30 — тэле «Літаратурная Беларусь». Аддаць Міколу Сама[1] ў «ЛіМ».

*19 мая*

Да Вялюгіна. Ліст Міколу Саму. На працу. У Каралішчавічы. Харкоў[2].

*20 мая*

Міністэрства культуры (25-62-61). Узяць Балтакіса!

*21 мая*

Памёр [Ф. Ф.] Багдановіч — тэлеграму. 15.00 — кінастудыя, Канеўскі. Да Раеўскага[3] (забраць Шэкспіра[4]). У ГУМ — паперу. У Каралішчавічы.

---

[1] Сом Мікалай Данілавіч (1935–2013), украінскі паэт.

[2] Харкоў Пётр Андрэевіч (1922–1983), рускі празаік, драматург, кінасцэнарыст. У 1966–1983 гг. член рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

[3] Раеўскі Валерый Мікалаевіч (1939–2011 ), беларускі рэжысёр, педагог. З 1973 г. гал. рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). Народны артыст РБ (1995). Прафесар (1996).

[4] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург і паэт.

*22 мая*

Пазваніць Вялюгіну, Віктару [Шрамякову], Зайчыку. Закончыць Балтакіса. Верш памяці Фадзея Францавіча [Багдановіча[1]].

*23 мая*

* * *

І двор, і дом забуду,
Паверх і тэлефон.
Але, нібы з упуду,
Яшчэ я доўга буду
Імя крычаць праз сон…

*Каралішчавічы*

*** *Праз цень прарвуся на прасцень.*

*24 мая*

Вершы Забалоцкай. Да Пеці [Броўкі] (14.00 — верш для Вялюгіна і наконт Бачылы[2]). 19.00 — хлопцы-школьнікі з вершамі.

* * *

Сур'ёзны даследчык
    камарыных укусікаў,
Магілёўскі намеснік гумару —
    Усікаў[3].

*25 мая*

Перакласці ў «ЛіМ» Юшчанку[4]. 19.00 — вечар у філармоніі[5].

*Альгісу Балтакісу*

Мы на «Б» з табою оба,
Значит, мы — друзья до гроба.

---

[1] Гл.: Таму, хто верасні дарыў… (22.05.76) // Абсяг. С. 59.

[2] Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918–1983), беларускі паэт, лібрэтыст, перакладчык. У 1972–1978 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967).

[3] Усікаў Якуб (сапр. Якаў Кірылавіч; 1919–1995), беларускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук.

[4] Юшчанка Алекса (Аляксей Якаўлевіч; 1917–2008), украінскі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[5] Дэкада ўкраінскай культуры ў Беларусі.

*P. S.*
После, видно, мы с тобою
Не пойдём уж к водопою.

*Каралішчавічы*

* * *

Я гэты шукаў сказ:
Любі нас,
Шаноўны таварыш Жукаўскас[1],
Найлюбы Альбінас.

*Каралішчавічы*

* * *

Как тебе в поездах мыкалось,
Дорогой Карчаускас Миколас?

*[Май]*

*Анатолю Сакольскаму*[2]

Да існай ісціны дужа блізенька,
Ды вочы сляпіць мітусні траста,
З жахлівай павагай гляджу на фізікаў,
Нібыта паганец той на Хрыста…

*Каралішчавічы*

*26 мая*

Выезд у *Гомель*, у *Ветку* (*даведкі з Веткі — сведкі*).

*** Адчувае сябе задужа добра, як негр у Саюзе.

[Адрас:] г. Харьков, ул. Гаршина, № 3, кв. 11. Артемюк Саша. Так просто приехать и позвонить! С уважением, *Саша*.

*27 мая*

*Карма*. Камарва.

* 30 % — інвалідаў, 30 % — вучняў.

Палкага кохання жриця,
А за що вона держиться?

---

[1] Жукаўскас Альбінас (1912–1987), літоўскі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

[2] Сакольскі Анатоль Аляксеевіч, фізік, дацэнт фізмата БДУ.

Зрозумело все само,
Що держиться за Шамо[1].

*28 мая*

*[Гомель.]* Гомельскі ўніверсітэт. На кацеры па Сажы.

*** Люблю цябе, як маладая крапіва маладыя ногі.

Бусел, як Ікар, над хатай.

*29 мая*

У *Рэчыцу*. Урачысты вечар.

*Яшчэ баляць траншэі, равы не зараслі.*

* [Чужой рукой:] Лауреат республіканського конкурсу читців-гумористів 1976 року, артист полтавського театру ім. М. В. Гоголя. Майстер гумору. Артист комедійно-характерних і драматичних ролей. Грає у виставах Квитка-Основ'яненко[2] «Сватання на Гончарівці» — Сцецко; О. Коломієць[3] «Кравцов» — Мишко; Карім[4] «В ніч місячного затемнення» — Дівана; В. Котляр «Чиста криниця» — лейтенант милиции Дрозд; Мокайонок «Трибунал» — Володя і інш.

Читає твори гумористів О. Ковіньки[5], О. Вишні[6], В. Івановича[7], Ю. Троць, С. Гриценка[8], С. Воскрекасенка[9], Карасьоваї[10], Ревзіна, білоруських поетів Г. Бородуліна, М. Танка, білоруський нар. гумор. Нагороджений грамотами Мінського, Ленінградського, Московського, Харківського, Ростовського на Дону, Палтавького обласних управлінь культури та обкомів партіі, значком Міністерства культури СРСР та ВЦСПС «Відмінник культурного шефства».

[Аўтограф назваў вершаў С. Йовэнка[11]:]

---

[1] Шамо Ігар Навумавіч (1925–1982), украінскі кампазітар. Народны артыст УССР (1975). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Украіны (1972), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1976).

[2] Квітка-Аснаўяненка Грыгорый Фёдаравіч (сапр. Квітка; 1778–1843), украінскі пісьменнік.

[3] Каламіец Аляксей Фядотавіч (1919–1994), украінскі драматург. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1970), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі, Дзяржаўнай прэміі СССР (1980).

[4] Карым Мустай (сапр. Карымаў Мустафа Сафіч; (1919–2005), башкірскі паэт і драматург. Народны паэт Башкірскай АССР (1963). Герой Сацыялістычнай Працы (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1972), Ленінскай прэміі (1984).

[5] Кавінька Аляксандр Іванавіч (1900–1985), украінскі празаік-гумарыст.

[6] Вішня Астап (сапр. Губенка Павел Міхайлавіч; 1889–1956), украінскі пісьменнік.

[7] Івановіч Уладзімір Іеранімавіч (1905–1985 ), украінскі паэт-гумарыст, празаік.

[8] Грыцэнка Сцяпан Платонавіч (1906–1979), украінскі паэт-гумарыст.

[9] Васкрэкасенка Сяргей Іларыёнавіч (1929–2003), украінскі паэт.

[10] Магчыма, Карасёва Вера Яўгеньеўна (1905–1983), дзіцячы пісьменнік, пісала па-руску.

[11] Йовэнка Святлана Андрэеўна (н. 1945), украінская паэтэса.

1. Київ мого дитинства.
2. Проходить молодість.
3. Чоловікам не заздрила ніколи. (або) Материнство (із збірки).
4. Міст через осінь.
5. Елегія летючої зірки.
6. Я так тебе люблю.
7. Сонет («Печальний зміст...»).
8. Жінка и пост.

[Аўтографы вершаў С. Йовэнка «Міст через осінь», «Печальний зміст душевних порожнеч...», «Елегия летючої зірки», «Щаслива тим уже, що ти живеш...», «Жінка і пост», «Ви любите поезию?..», «Дві жінки. Дві сльозини. Дві змії...».]

Калі б Марыля[1] стала жонкай Міцкевіча ці Беатрычэ[2] (бо як прытча). Ніхто не ведае жонак паэтаў, ведаюць толькі жорсткіх (няўмольных) каханак, і пакаленні ўздыхаюць (Наталі[3]).

Не захмарыць нас туман,
Не паваліць брага —
З намі слынны атаман,
Атаман Збанага![4]

*30 мая*

*Брагін*. На радзіме Сымона [Блатуна].

Святлане [Блатун] паслаць «Песні Дзвіны» Т. Хадкевіча!

*Кіму Цесакову*[5]

Не да характэрыстык!
Вымовы — пад замком!

---

[1] Верашчака Марыя (у замуж. Путкамер; 1799–1863), у якую быў закаханы малады А. Міцкевіч. Гл.: Ахвярынкі: Каб сталі жонкамі Лаура ці Марыля?.. (16.01.2001) // Халодная памяць вады. Мінск. 2010. С. 476.

[2] Беатрычэ Партэнарэ, каханне да яе Дантэ Алег’еры пранёс праз усё жыццё.

[3] Пушкіна Наталля Мікалаеўна (1812–1863), жонка А. С. Пушкіна.

[4] Збанацкі Юрый (Грыгорый Аліферавіч; 1913]14–1994), украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Заслужаны дзеяч культуры Чувашскай АССР. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1959), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1970), Літаратурнай прэміі імя Лесі Украінкі (1975), прэміі імя М. Сеспеля (Чувашскай АССР). Прысвечаны яму верш гл.: Збанацкі шлях (29.05.76, Гомель) // Абсяг. С. 91.

[5] Цесакоў Кім Дзмітрыевіч (н. 1936), беларускі кампазітар, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1998).

Пёр Кім да танцурыстак
З магутным цесаком!

*Брагін*

Сын беларускае зямлі[1]. Для «Прынамсі».

* * *

Прозвішчаў не мяняюць,
Не мігрыруюць,
Не мяняюць веры
Паганцы альбо славяне
Навекі,
Як іх не спрамляюць, —
Кружляюць, пятляюць
І выгінаюцца рэкі.
Ім астабрыдлі
Да стрыечнай матары
Набрыдні-міліяратары.

*31 мая*

*** Певень — шматстаночнік.

*Хойнікі.* У чарзе здаем бандэролі:

— Што вы тут кучу-малу наладзілі?

— Што вы на сяло? Сяло пражыве без горада. З лёну сарочку — яшчэ здаравей, лячэбней, з гліны міску зробіць і бульбіну зварыць.

*1 чэрвеня*

*г. Лоеў.* Абрывістастромы райцэнтр. 0.26 — на Мінск. (Бучма[2], ролі вучаць).

*Казіміру Камейшу*

За дэкаду грыфель сцёр
Родны брат траіх сясцёр.

*Лоеў*

За гарою зайчыкі трубяць.
Чаму ж мяне дзеўкі не любяць?

---

[1] Гл.: Генадзю Іванавічу Цітовічу ([1970]) // Прынамсі. С. 239.

[2] Магчыма, прыпомнены Бучма Амўросій Максіміліянавіч (1891–1957), украінскі акцёр. Народны артыст СССР (1944). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1949).

*** Байструкі Фурцавай[1] — самадзейныя артысты.

Па горла нанач у ваду — і ружа маладзее.

Дзьмухаўцы — пенсіянеры з лёгкімі галовамі.

Белападолыя бярозкі.

*Калі б наноў ён выплыў, Ноеў каўчэг — Лоеў — ад качэрг.*

*[*Аўтографы вершаў С. Йовэнка «Людина дереву сказала «Ти»...», «І ти, березовий високий гаю...», «Елегія осінньої стежки» і Т. Каламіец[2] «Казка».]

*2 чэрвеня*

Мінск! Прыём у «Юбілейным» [рэстаране].

* * *

Як трапіць у атару
Слухмяных бараноў,
Атару, дзе Ратару[3]
Няўмольным чабаном?!

*3 чэрвеня*

45-34-40 Яраслаў[4]. 14 —15.00 — на радыё з Анісенкам[5]. 16.00 — нарада ў СП (наконт з'езда).

* Мінск. Аэрапорт. І трап, нібыта пастамент, што помнік свой шукае. Рэгістрацыя шлюбу з небам. І таму прахадзіць праверку, ці не ляжаць у кішэнях драбяза звад і зайздрасці (тады звоніць).

У самалёце размова:

— Рука свярбіць левая.

— Рублі засталіся, дык і будзеш队 пералічваць ды яшчэ драбязу.

*4 чэрвеня*

*[Масква.]* Ноч кашмараў у аэрапорце Унукава. Ад'езд на *Калінін.* Інтурыст «Тверь». Аляксандр Еўдакімавіч.

---

[1] Фурцава Кацярына Аляксееўна (1910–1974), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. З 1960 г. міністр культуры СССР.

[2] Каламіец Тамара Апанасаўна (н. 1935), украінская паэтэса.

[3] Ратару Сафія Міхайлаўна (Ратару-Еўдакіменка; н. 1947), эстрадная спявачка. Народная артыстка УССР (1976). Народная артыстка МССР (1985) Народная артыстка СССР (1988). Герой Украіны (2002). Народная артыстка Расіі (2013).

[4] Еўдакімаў Яраслаў Аляксандравіч (н. 1946), беларускі спявак. Заслужаны артыст БССР (1980). Заслужаны артыст РФ (2005).

[5] Анісенка Валерый Данілавіч ( н. 1944 ), беларускі акцёр, рэжысёр. У 1969–1977 гг. працаваў у Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

*Масква. Кашмар з таксі. Ванеў [Бурсава] дом. Вочкі ў дзвярах, як попы, выстаўленыя ўрачу.

Сей перавод на х.. на кой
Какая б…. ему всучила?
Под вещей бурсовской рукой
Как Пушкин зазвучал Бачило…

*г. Калінін.* Пушкінскае кальцо на зрэзе славянскага дрэва.
У рыштаваннях [дом], як незакончаныя буслянкі.

И в мирный день, и на войне
Всегда Хонинов на коне!

*5 чэрвеня*
*[г.] Таржок.* Вечар у клубе. [На гербе горада] 6 галубоў — шэсць дарог, 3 залатых, 3 — срэбных.
* «Град сей славен будет во всех градах русских, и взыдут руки его на плеща врага его» (з летапісу).
Вечавая плошча. Пушкін па табелю аб рангах — на праезд толькі трох коней [адпускаць], шаргунок.
Чужыя магілы. Але помніце свае. Можаце [помніць] і Керн[1], і самадзяржаўцаў, а свае ўтравелыя. Мокражвіры каркат варон на могілках.

АПН пришлёт мне фото,
Как, своей супруге верн,
Я стою, держась за что-то,
На могиле Анны Керн.

Пад Таржком. Дом паляўнічага. «Производил выстрел только на убойную дистанцию».

Дум сибирских воевода,
Леонид Решетников[2],
Выводил на чисту воду
Стукачей, мошенников.

*6 чэрвеня*
*Бярнова.* Адкрыццё музея. Маліннікі. Парнас. Вір.
* *Пра Пушкіна.* Спачатку паэт падымае годнасць нацыі, свайго народа, а пасля нацыя аддзячна падымае свайго паэта, які не даў ёй згубіцца,

[1] Керн Анна Пятроўна (уродж. Палтарацкая; 1800–1879), знаёмая і адно з захапленняў А. Пушкіна.
[2] Рашэтнікаў Леанід Васільевіч (1920–1990), рускі паэт, празаік, нарысіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1979).

застацца збезаблічанай. Паэт — канкрэтны воблік нацыі, талант нацыі, якім надзяляе яе вечнасць.

[Аўтограф У. Кастрова[1]:]

Вспомни пушкинский бугор,
Дорогой мой друг Рыгор,
Но не исключай из сферы
Также и бугра Венеры!

*Припев:*

Как у нашего Мирона…
…Как у нашего Олега.

*Вл. Костров*

*

Пад пушкінскай сасной
Паненка-сялянка —
Яблыня цвіце.

*Бярнова. Да бервяна*

*7 чэрвеня*

*Старыца* — вотчына Івана Грознага. Адлёт у Мінск.

*Старыцкі Успенскі мужчынскі манастыр. Лёс удзельных князёў. «Гвалтоўнай смерцю» — перанесці на міжнацыянальныя [адносіны].

Закаханы архар. Калі ён закахаўся, на ягоных рагах расцвіў эдэльвейс. Каралі з рагоў мула. Цвярскія казлы, боты з казлінай шкуры.

Шлях з парога твайго да світання. Чхае, як сіфон.

*8 чэрвеня*

**Масква.* Як маладыя агуркі, таксі ў світанкавай расе.

Мінск! Сабака на пляцоўцы. У Камітэт па друку. Карэктура Ясеніна.

[Адрас:] Карпов Александр Александрович (г. Масква; прыслаць С. Ясеніна).

*9 чэрвеня*

На працу! 11.00 — да Рыбака.

---

[1] Кастроў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), рускі паэт. Лаўрэат прэміі «Залатое цяля» (1987), прэміі імя А. Твардоўскага (1998), прэміі імя І. Буніна (2000), «Вялікай літаратурнай прэміі Расіі» СП РФ (2002), прэміі Ураду РФ (2006), Літаратурнай Бунінскай прэміі (2010, 2014), Міжнароднай Лермантаўскай прэміі (2012).

*10 чэрвеня*

12–15.00 — (Бубнаў. Вершы).

* * *

Рабіце добрае маўкліва,
Бярыце прыклад з ярыны.
Маўкліва ліўня прагне ніва,
Грымяць звычайна перуны.

*12 чэрвеня*

Якунін[1] на дзень нараджэння.

*13 чэрвеня*

У музычную школу.

Падагнаць паперы.

*14 чэрвеня*

У музычную школу.

*15 чэрвеня*

Матэль. Дождж. Кіно.

***На адлегласці да зор і стрэлу жанчына.

Чалавек здалёку прыгожы.

*16 чэрвеня*

Узяць Валю на рэцэнзію. 12.00 — Камароўскі (Дом абутку). У Каралішчавічы.

*Пімену Панчанку*
*(падпісваючы «Блакітны звон Гранады»)*

Пад нашых класікаў трэба падпоркі.
Вы шатамі шчырай пашаны ушачаны.
Гранду Панчанку ад гранда Лоркі
Паклон прыносіць малец з Ушаччыны.

*17 чэрвеня*

Каб Сцепанюк прыехаў 10–11 ліпеня. У «ЛіМ», Рэму [Нікіфаравічу] верш. У СП. Забраць білеты.

[1] Якунін Уладзімір М., навук. рэдактар рэдакцыі ілюстрацыі і картаграфіі «БелСЭ».

*18 чэрвеня*

У СП (забраць білеты). Міколу Чырыку[1] (верш, гумар).

Сігнал Ясеніна![2]

*19 чэрвеня*

Забраць Ілонку. На Маскву. Купіць «Небо твоих очей». Даведацца (наконт Кактэбеля).

*Казіміру Камейшу*
*(падпісваючы «Небо твоих очей»)*

Усіх тваіх прыхільніц, Казік,
Не ўмесціць ніякі «уазік»,
І найтрывалейшы крымплен
Не спутае тваіх кален.

*20 чэрвеня*

[*Масква.* VI з'езд пісьменнікаў СССР.]

12 [паверх] — [нумар] 529 (Альгіс [Балтакіс]) 298-40-29 (прарок). Убайд [Раджаб, паверх] 8 — [нумар] 295. Андрэй 1. Зах[одні корпус], [паверх] 12 — 517. 298-40-17. Выстаўка Канёнкава[3], Пластава[4] (дояць карову). […] Светлана Йовенко на [паверсе] 6 — [пакой] 78.

* Масква. Пташнікаў[5] 298-28-66. 298-07-86. Нейкі мангол стукаецца ў дзверы, пераблытаў нумар. І раптам: «Bardzo przepraszam…» Умеюць палякі сваю мову насаджаць. Яшчэ ўспамінаецца, як у Варшаве негр шлёпаў тоўстымі губамі: «Proszę panią…»

Барыслаў [Сцепанюк, паверх] 10 — [пакой] 052, Заходні корпус.

* * *

Ригору — Світлана

Мовчать мої слова, — скажу я Вам.
Це правда.

---

[1] Чырык Мікола (Мікалай Максімавіч; 1936–2005), дыктар беларускага радыё, паэт. Заслужаны артыст РБ.

[2] Ясенін С. Выбранае. Мінск, 1976. Пер. А. Куляшова і Р. Барадуліна.

[3] Канёнкаў Сяргей Цімафеевіч (1874–1971), рускі скульптар. Народны мастак СССР (1958). Дзейны член АМ СССР (1954). Герой Сацыялістычнай Працы (1964). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

[4] Пластаў Аркадзій Аляксандравіч (1893–1972), рускі мастак. Народны мастак СССР (1962). Дзейны член АМ СССР (1947). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Ленінскай прэміі (1966).

[5] Пташнікаў Іван Мікалаевіч (н. 1932), беларускі пісьменнік. У 1962–1995 гг. рэдактар аддзела прозы час. «Полымя». Заслужаны работнік культуры БССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1978).

Але в серця дивнім русі
Прогляне чисте небо Білорусі
І білокора стежка ожива.

Там пісня виростає і живе
Над вогнищем
поміж темнавих сосен,
і коло вироста щедроголосе
і соловейко
нас сябрами зве.

Мовчать слова…
Я тихо відійду
Від гурту.
Вы даруйте, калі ласка.
Мовчать слова.
Та це хіба поразка,
Коли сама себе не віднайду?!

Відтанула. На радість чи біду…
Мені байдужа згода рідних літер.
Бо красень-гай — поет і композитор —
Навчає слухать землю молоду.

Туди піду,
де наплива туман,
як сон пливе
на лісову колиску…
Там зачекалася мене берізка,
Якій не знати,
що то є — обман.

Мовчать мої слова, —
скажу я Вам…
Летюча зірка
(тут говорать «знічка»),
Не промини,
торкнись мене,
сестричко!..
І промовляй…
поки мовчать слова.

*Травень–червень, 76 р.* *С. Йовенко*

*21 чэрвеня*

10.00 — Вялікі Крамлёўскі палац. Пачатак з'езда. Знайсці Гарбачова. У СП (камандзіроўка [адзначыць] ).

[Арыгіналы вершаў С. Йовэнка:] «І доку подиху мого й снаги…», «Не може бути…», «Размова з фотокарткою 1945 року», «На захист пізньої любові Гете»].

*22 чэрвеня*

9.00 — у СП да Гарбачова. 10.00 — гасцініца «Юность». Чакаць Ваню [Бурсава]. Пазваніць у Мінск.

* * *

Без лішніх эмоцый
Я выгукну словы:
Хай славіцца Боцу[1] —
Гаспадар Малдовы!

*Масква*

*23 чэрвеня*

Ускладанне вянкоў. Пасяджэнне (Гільен[2], Рыцас[3]). З Элькіным. Кошачкіну — Ясеніна.

[Адрас:] Гарий Немченко 251-04-10 (г. Масква). Шэранькім козлікам у бабкі. Братан[4] Мікола Іванавіч (г. Херсон), Москва, «Россия», Восточное крыло, 3-й этаж, комната 269. 298-40-29 Альгис [Балтакіс, паверх] 12 — [пакой] 529. Драч[5] Іван (г. Кіеў).

[Аўтограф М. Братана] «Коломийка».

[Малюнак: «*23 июня 76 г.* Рыгор. МР» [?].

*24 чэрвеня*

Звон Валі. Запіс на тэле. Да Вані [Бурсава] на вячэру.

---

[1] Боцу Павел Пятровіч (1933–1987), малдаўскі паэт, крытык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі МССР (1974).

[2] Гільен Нікалас (Баціста; 1902–1989), кубінскі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1954).

[3] Рыцас Янніс (1909–**19**90), грэчаскі паэт. Быў рэпрэсаваны ў гады праўлення «чорных палкоўнікаў» (1967–1971). Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1977).

[4] Братан Мікола Іванавіч (1935–2010), украінскі паэт.

[5] Драч Іван Фёдаравіч (н. 1936), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006). Прысвечаны яму верш гл.: Літоўскі ўспамін (17.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 185: Тарасачолы Драч (1979) // Парастак радка, галінка верша. С. 68.

* * *

Мудрость тебе отдала ключи
И ключи арыков.
Хвала тебе, Абдулла,
Поэт солнцекровный Арипов![1]

*Член прэзідыума СП*

Як мог гарадзіў агарод,
Прэтэнзій не мае да бога:
Пасад ён і ўзнагарод
Набраў такі для некралога.

*Масква*

[Малюнак В. Быкава:] *24.VI.76.* Каментарый В. Быкава.

*25 чэрвеня*
22.27 — на Мінск!

* * *

Убайд Раджаб —
Мой друг и брат,
Всегда тебе,
Как солнцу, рад.

* На выстаўцы Пластава: «Дзівак, не мог сабе новы мальберт купіць, зараз многа, а то скнара — са старым».

Альберта Маравіа[2] студэнты спыталі, у чым розніца між вершам і раманам. Верш кароткі, раман доўгі, у вершы паэт пра сябе, у рамане — пра іншых. Раман можна перакласці, а верш — нельга. Флабер[3] адкрыў паўсядзённасць, паўсядзённая негатыўнасць, адкрыццё падсвядомага — Дастаеўскі[4]. Фрэйд[5] — чалавечую душу ў арэпу [?], яно (падсвядомае *я*). Кафка[6] — унутранае жыццё, рэалізм Кафкі. Чалавек, у першую чаргу яго адносіны з самім сабой, а пасля — з грамадствам.

---

[1] Арыпаў Абдулла (н. 1941), узбекскі паэт і грамадскі дзеяч. Герой Узбекістана (1998).
[2] Маравіа Альберта (сапр. Пінкерле; 1907–1990), італьянсі пісьменнік.
[3] Флабер Гюстаў (1821–1880), французскі пісьменнік.
[4] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, публіцыст, крытык.
[5] Фрэйд Зігмунд (1856–1930), аўстрыйскі ўрач-псіхіатр і псіхолаг.
[6] Кафка Франц (1883–1924), аўстрыйскі пісьменнік.

[Аўтограф І. Фанякова:]

То не внучек любимый бабулин
Ловит бабочек пёстрым сачком,
То непьющий Рыгор Бородулин
Соблазняет меня коньячком!

*25 июня 1976 г.* *Илья Фоняков*
*Москва, Кремль, Георгиевский зал*

У Маскве. З'езд. У Георгіеўскім зале прыём. Якраз дзень нараджэння Пятра Усцінавіча [Броўкі]. Віншую. Віншуюць усе. Пытаюся, ці думалі, што дзень нараджэння будзеце адзначаць па-царску? Выходзім. Ля Лобнага месца. З усіх цароў [Броўку] больш даспадобы Пётра. Цытуе запіску Меншыкаву[1]: «Пришли Катьку[2], страшно еть хочется».

— Я думаў, Вы (пакаленне Вашае) толькі лістоўкі і Кароткі курс [ведалі]...[3]

— І гэта ведаем, — загадкава-вясёла ўсміхаецца распагоджана.

— А ці не правільней было б Юстынавіч?

— Сапраўды, бацька быў Юстын, але як запісалі ў пашпарце, дык і не было калі перарабляць.

*26 чэрвеня*
Да сяброў з візітамі.

*27 чэрвеня*
Да Адмірала [Вялюгіна].

*28 чэрвеня*
На службу. У СП (бухгалтэрыя).
Літфонд.

*29 чэрвеня*
Да Артура [Вольскага]. Утрэсці справу з Пракоф'евым.

*30 чэрвеня*
Здаць Астрэйку.

---

[1] Меншыкаў Аляксандр Данілавіч (1673–1729), паплечнік расійскага імператара Пятра I, святлейшы князь (1707), генералісімус (1727).

[2] Будучая Кацярына I Аляксееўна (Скаўронская Марта, 1684–1727), расійская імператрыца (з 1725; другая жонка Пятра I).

[3] Гл.: Пятрусь Броўка // Дуліна ад Барадуліна. С. 132.

*1 ліпеня*

У Літфонд, у СП. 14.00 — БДУ, аўд. № 352. Адміралу [Вялюгіну] джынсы.

*** Напрымяраўся сукенак, калі мама шыла, сам быў даўгалыгі.

*2 ліпеня*

У СП. На вакзал. У выдавецтва. 18.30 — адкрыццё Дзён літаратуры (чытаць верш).

*3 ліпеня*

На рынак. На Галоўпаштамт (ліст Чмыхалу).

Таких друзей на свете мало.
Назло врагам и дуракам
Греми, как Енисей, Чмыхало,
Чтоб жарко — всем материкам!

*4 ліпеня*

10.00 — ля дома Святлейшага [Броўкі], курс на *Вязынку.*

*5 ліпеня*

На радыё–2 старонкі пра Цётку[1]. 12.00 — Дом друку, да Фамы [Караткевіча]. У СП (наконт Зайца). 20.40 — слухаць Маскву.

*6 ліпеня*

На радыё — Ваню [Бурсава] і зарубеж. У «ЛіМ», у «Полымя». З Куксо[2] (наконт гумару).

*7 ліпеня*

Раздаць Сцепанюка [на пераклады]. Шчадрына, [гас.] «Мінск», № 469. Карэктуру Панчанкі (!)[3].

* * *

На русскую рифму прихрамывая,
Не употребляя ни грамма,
Всегда говорю про Храмова[4] я,
Как пьяный на паперти храма.

---

[1] Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876–1916), беларуская паэтэса. Прысвечаны ёй верш гл.: Цётцы (у стогадовы юбілей) (18.05.76, Каралішчавічы) // Абсяг. С. 50.

[2] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік.

[3] Панчанка П. Крык сойкі. 1976. Гл.: І словам сцверджу… (1977) // Парастак радка, галінка верша. С. 35.

[4] Храмаў Яўгеній Львовіч (сапр. Абельман; 1932–2001), рускі паэт, перакладчык.

*Ул. Лучуку*

Каму арлінае гняздоўе,
Каму — нара.
Няхай вядзе наказ нас доўга
Каменяра!

*Віктару Тэлеукэ*[1]

Как аукнется,
Так радио — и —
Телеукнется.

*8 ліпеня*

Бурсаву — рахунак. 10.00 — да Антона Бялевіча. Чырыку Міколу — вершы. 14.30 — педінстытут (новы корпус, 4 паверх, 408 — дэкан). Напісаць пісьмо А. Веяну (для Валодзі [Караткевіча]).

* * *

Так не дорог ніхто,
Як ты,
Беларусі сваяк —
Пухаты[2].

*Два Міхаілы Аляксандравічы*

Хороша судьбы улыбка:
Тёзки
Шолохов[3] и Скрипка[4].

*9 ліпеня*

На працу — зрабіць для Някляева. Звон Вялюгіну. 13.05 — вылет на Сімферопаль.

*Сімферопаль! Кактэбель!*

*Сёння ўжо дзявятае. Паўтары гадзіны на новы дзень. Еду ў Кактэбель. Вязу Ілонку. Абяцаў некалі. Мне агорк палыном поўдзень. Гэта ўжо

---

[1] Тэлеукэ Віктар Гаўрылавіч (1933–2002), малдаўскі паэт, празаік, перакладчык, публіцыст.

[2] Пухаеў Аляксандр Спірыдонавіч (1926–2014), асецінскі пісьменнік, перакладчык. Складальнік і адзін з перакладчыкаў на асецінскую мову «Маленькай анталогіі беларускай паэзіі» (1976).

[3] Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905–1984), рускі празаік, публіцыст і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960).

[4] Скрыпка Міхась (Міхаіл Аляксандравіч; 1907–1991), беларускі паэт-гумарыст, перакладчык, драматург.

мода веку. Куды ўсе, туды і цябе віратокам пахаплівасці штурхае. Нейкая раздвоенасць, разладжанасць. Неспакой на душы. Неўзабаве і апошні будзе мой запіс у гэтым дзённіку. Нанова жыццё не пачнеш. Давіваецца вяровачка часу, да якой, нібы той бычок, прывязаны я. Выган выяўней меней становіцца. Штогод зняверваюся. Радасць — цепышкамі. Маланкай высветліць прагал жыцця, і зноў — імжака і туман. Сумна жыць цвярозаму, а піць нельга — смерць яўная. [Малюнкі Ілоны «Рытмы».]

*10 ліпеня*

Прывет, мора, сцюдзёнаватае. У магазіны. Пачаць перакладаць Чаклайса. Уладзімір Варно[1].

***Урокі рускай мовы: ты сказала «да світанне». До свиданья.

*11 ліпеня*

Сон — у мора! Імант Зіедоніс[2]. Рынак. Ліст Каламіец.

*12 ліпеня*

Ранішняе мора. Рынак. Накінуць планы перакладаў (разабрацца ў паперах).

* * *

Кожны дзень устаю я
З нагі не тае.
Балючэй напаміны за кпіны.
Мне цябе не стае.
Мне цябе не стае!
Сам сябе я вініць павінны.

Варажу я —
Было не было! —
На святло.
Варажба —
Харашба маладая.
Ты — палёгка,
Палонка,
Жаданае тхло.
Я гадамі маўчу пад ільдамі.

---

[1] Варно Уладзімір Аляксандравіч (1922–1978), рускі паэт, празаік (г. Петрапаўлаўск-Камчацкі). Ураджэнец Мінска.

[2] Зіедоніс Імант (1933–2013), латышскі паэт і празаік. Народны паэт ЛатвССР (1977). Прысвечаны яму верш гл.: Накід партрэта Іманта Зіедоніса (24–25.08.78, Ялта) // Маўчанне перуна. Мінск, 1986. С. 125.

Несуцешнасць няўмольна,
Як дзень настае.
А надзея нічэе,
Начэе.
Ты ці чуеш мяне?
Мне цябе не стае!
Што магу пракрычаць
Яшчэ я?!

*13 ліпеня*
На вечаровыя ўзгоркі (схілы). «Фабіян»[1].

*Шаршэналы Абдылдаеву*

Шар земной совершенен ли?
Но круглый он,
в самом деле,
Мы встречаемся, Шаршеналы[2],
В Ереване и в Коктебеле.
Да будет не против старик Кара-Даг,
Чтоб встретились мы
в родных городах.

*14 ліпеня*
З агуткам [Ілонай]. У бібліятэку. Вечаровыя схілы.
Ушацкая частушка:

Як учора, дык і гутанькі,
А сягоння — нічагутанькі.
Як учора, дык за ручку вядзець,
А сягоння, дык не хочаць глядзець.

*15 ліпеня*
Да Люгашачай бухты. 9.15 — па Маскве сябе слухалі. 9.30 — у *Феадосію*. 20.45 — дзве серыі «Вінёў[3] — ...»

Как можно сохранять силенки
И удлиннять кино Пеленки?

*** Ілонка: «Ён быў настолькі грэблівы (гідлівы), што не мог узяць сябе ў рукі».

---

[1] Раман Э. Кестнера. Кестнер Эрых (1899–1974), нямецкі пісьменнік.
[2] Абдылдаеў Шаршэналы (н. 1937), кіргізскі празаік, перакладчык.
[3] Магчыма, фільм з удзелам французскай кінаактрысы Катрын Дэнёў.

*16 ліпеня*

Ліст у «Вясёлку», Валодзю Някляеву. Душ. 20.45 — [к/ф] «Золата скіфскіх курганаў»[1].

*** У Кактэбелі на стэндзе «Іх шукае міліцыя»: «Адшукваецца малады чалавек ва ўзросце 25–30 год, рост 175–180, шатэн, знаёміцца з жанчынамі, абкрадвае іх. Прыкметы: малапрыкметны даўгі шрам над левым брывом, радзімая пляма пад левым саском. Прадстаўляецца афіцэрам ВМС».

*17 ліпеня*

Знаёмства з опусам Барыслава [Сцепанюка]. 14.30 — да Шаршэналы [Абдылдаева]. 20.45 — [к/ф] «Фанфан-цюльпан».

Ой, дюдюшеньки-дюдю,
Ой, дюдю-дюдюши.
Лану хоть сади в бадью,
Чтоб помыла уши!

*(напярэдадні 14-годдзя)*

*** [Малюнак Ілоны: «Фір [дзве] лапачкі. *Кактэбель, 17.VII.76. Лана*».]

*18 ліпеня*

Дзень нараджэння Ланы (14 [год]). У «Феадосію». Ліст Бурсаву. 20.45 — [к/ф] «Дзяўчаты пад сонцам».

*** У Кактэбелі аб'яўляюць: «Згубіўся хлопчык Косця Якавец, 5 год, сінія трусікі ў палосачку, яго чакае бабуля ў марфлоце». Праз паўгадзіны: «Косця Якавец знайшоўся, згубілася бабуля. Бабуля Косці, ідзіце дадому. Косця знаходзіцца дома».

[Малюнкі Ілоны: «Гномы», «Рэстаран», «Ручаёк натхнення». «Пад фікусам». *18.VII.76 г. Феадосія. Рэстаран «Феадосія»*.]

*19 ліпеня*

На пошту. На схілы. «Над прорваю ў жыце»[2]. 20.45 — [к/ф] «Чалавек з Лондана».

*Прысвячэнне перад нізкай «Табе»*[3]

Не чакаў,
Покуль дзень імжу прадзяўбе,

---

[1] Гл.: «Абрабаваныя курганы…» (16.07.76, Кактэбель) // Абсяг. С. 83.

[2] Раман Дж. Д. Сэлінджэра. Сэлінджэр Джэром Дэйвід (1919–2010), амерыканскі пісьменнік.

[3] Першапачатковая назва раздзела «Ветах смутку» зборніка «Абсяг».

У ноч
Ад сушы спакою адчаліў.
У светлай журбе
Я пісаў пра цябе
Штодзённік надзей і адчаю…

*20 ліпеня*

Верш для «Вясёлкі». Масліны.

20.45 — [к/ф] «Чалавек-аркестр».

[Малюнак Ілоны: «Не штурхайся». *20.VII.76. Living Кактэбель*.]

*21 ліпеня*

У «бібліятэчку»[1] — верш пра Коласа. Білеты на Мінск, на «Рафік». 20.45 — [к/ф] «Прывет, артыст!»

*** Вершы трэба пісаць натуральна, як дыхаць. Але дыханне, як гавораць у спорце, павінна быць добра пастаўленае, адтрэніраванае да канца.

*

Расплавленной мысли отцу —
Ермаку Тимофеевичу Мыслицу,
Базаревича и Камейшера для
Эта открытка из Коктебля.

*

Хоць маленькі тарарамчык,
Як не тарарам,
Закаці, святы Аўрамчык,
Юным аўтарам!
«Маладосць» — трыбуна юных…

* * *

Белая яблоня грома
Крону раскинет ветвистую,
Миг станет миром огромным…
Стоит выстоять.
Выстою!

*Мілаван Данойліч*[2]

---

[1] Барадулін Р. Белая яблыня грому: Выбраныя старонкі лірыкі. 1954–1978. Мінск, 1979. Серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі».

[2] Данойліч Мілаван (н. 1937), сербскі паэт і празаік.

*22 ліпеня*

«Кроквы вышэй, цесляры!»[1] 20.45 — [к/ф] «Вясна сумнага кахання».

* * *

Сэрцы адданыя вераю грэючы,
Ён крутаверцаў карае сурова.
Шчасця і плёну жадаю Юрэвічу,
Шчыраму рыцару роднага слова.

* * *

Добра, што фотакарткі мне
Ты не дала,
Таму я
З рознай табою
Ва ўяве, у сне
Радасць дзялю, сумую.
То абыходжу злосць стараной,
То я пяшчоту помню.
Быць у выгнанні
з табой адной
Не перашкодзіць ніхто мне.

* * *

Злітуйся,
У мінулым часе словы
Не пішы мне —
Не вярэдзь адчаю! —
Словы, што хаваць мяне гатовы.
Я жывы.
Туга мая жывая.
У мінулым крыўда дажывае.
Радасць не зважае на старое.
Пройдзе ростань,
Хмара дажджавая, —
З'ясніцца блакіт
Твайго настрою!

*23 ліпеня*

7.30 — на *Севастопаль.*

*** Могільнік караблёў у зялёнай вадзе затокі. «Прашу агонь на сябе!» Крывёй напісанае пісьмо марака. Тэкст пасля [выбілі] на граніце. Толькі крывёй напісанае варта пераносіць на граніт.

[1] Аповесць Дж. Д. Сэленджэра.

«Всем начальникам частей я запрещаю бить отбой, барабанщики должны забыть этот бой». *В. Корнилов*[1]*. 15 сентября 1854 г.*

Помнік «Затопленным караблям» [1905] (эстонскі скульптар Адамс[2]), арол трымае якар і ланцугі. Чайка жывая спакойна спачывае на крыле арла.

Сківаца акулы, як капкан. *Ці з начынкай часначынкай ці пярчынкай.*

*24 ліпеня*

Таня Карласава[3] замуж выходзіць — віншаванне. Да шаўца — Лосіку тапы адрамантаваць.

*Літнастаўнік*

Н. Г.

Ад лаўраў уяўных набычыўшы шыю,
Паходкаю мэтра ступае паэт.
І праўда — вучыліся ўсе маладыя
На творах яго,
Як пісаць ім не след!

*** Будзеш сядзець узад барадой [Ілона].

Ірве, як гараджанін кветкі ў лузе, стараецца — усе.

Падатак з кожнага дыму даўні. Колькі трэба ўзяць, што ўся мая Беларусь дымам спаленая?

*25 ліпеня*

«Бліскавічная балада»[4]. Ліст! [Ад Бабіцкай]. На пошту. 20.45 — [к/ф] «Белы башлык».

Мяне ў сцюдзёнай старане
Каўказ твой цеплынёй кране.
Злірычнею ў паглядзе я,
Згадаю ледзь цябе,
Рэне,
Шаноўнейшы Каландзія[5].

---

[1] Карнілаў Уладзімір Аляксандравіч (1806–1854), рускі адмірал. З 1851 г. фактычны камандуючы Чарнаморскім флотам. У Крымскую вайну кіраваў падрыхтоўкай абароны Севастопаля.

[2] Дакладней, Адамсан Амандус Генрых (1855–1929), эстонскі скульптар.

[3] Падчарка К. Шэрмана.

[4] Першапачатковая назва верша; гл.: Сівая балада (25.07.76, Кактэбель) // Абсяг. С. 12.

[5] Каландзія Рэне Уладзіміравіч, абхазскі паэт і перакладчык (брат абхазскага паэта і драматурга Гено Каландзія).

*26 ліпеня*

У бібліятэку. Лісты Дудніку, Залатухінай. Бабкену Карапецяну[1] кнігу.

*Бабкену Карапецяну*
*(падпісваючы «Небо твоих очей»)*

Не будь к наивным мыслям строг.
Всему свой жребий дан.
Послушай лепет этих строк,
Варпет Карапетян.

*Альгімантасу Балтакісу*

Гатоў пайсці ў атаку за
Балтакіса,
Літоўскай музы караля.
Перадаю прывет яму.
Прасолены, абветраны —
Ад Кактэбля!

*27 ліпеня*

Павіншаваць Юрыя Якаўлева з дзядулем. 20.30 — [к/ф] «Калі надыходзіць верасень».

*28 ліпеня*

Закончыць верш Эміну[2]. Краснаярскую нізку падагнаць. На пошту! 20.45 — [к/ф] «Паўторны шлюб».

*29 ліпеня*

Даць тэлеграму. А. Мюржэ[3] «Сцэны з жыцця багемы». 20.30 — [к/ф] «Дзень дэльфіна».

*30 ліпеня*

Енісейскую нізку падагнаць[4].

*31 ліпеня*

Тэлеграма! Пошта. Паказаць Лане маладзічок. Для Вялюгіна *хрызаліт.*

---

[1] Карапецян Бабкен Карапетавіч, армянскі паэт, празаік.

[2] Гл.: Слова ў застоллі Геворга Эміна (27–28.07.76, Кактэбель) // Прынамсі. С. 227.

[3] Мюржэ Анры (1822–1861), французскі пісьменнік.

[4] Гл. прысвечаную А. Чмыхалу нізку: Енісейскія сустрэчы (28–30.07.76, Кактэбель) // Абсяг. С. 117.

*1 жніўня*

Броўку — Бурсаву 50 год. Вітаю, жнівень!

10.00 — на пляжы з Сямёнам Букчыным[1]. 17.00 — у Доме Валошына[2] (палын). 19.00 — з Імантам Зіедонісам. 20.00 — [к/ф] «Як украсці мільён».

* * *

Навошта казаць — раней?
Пазней бы — не дай ты, божа!
Цяпер, недавер, курганей,
Палынься на раздарожжы.

Раней бы — не зразумеў,
Пазней — развялі б пуцявіны.
Хай лашчыць мяне твой гнеў,
Катуе пагляд правінны.

Гулі ў бліскавічным галлі
Вятры ўсе з маёй мальбою.
Гады без цябе былі
Чаканнем хвіліны з табою.

*** З палыновым вянком, як Валошын. На масцы Пушкіна вянок з сухіх траў. Свякроў Неферціці[3].

*2 жніўня*

15.00 — за барсуковым тлушчам. 16.50 — у Доме Валошына.

* * *

Я гадзіннік спыняў,
Што паказваў час ростані мне,
Я спыняў самалёт,
Што за хмарай схаваць
Маю меўся надзею.
Шар зямны запыню,
Як цябе ад мяне
Аддаляць ён пачне,

---

[1] Букчын Сямён (Самуіл Уладзіміравіч; н. 1941), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У 1969–1985 гг. адказны сакратар час. «Весці АН БССР». Кандыдат філалагічных навук.

[2] Валошын Максіміліян Аляксандравіч (сапр. Кірыенка-Валошын; 1877–1932), рускі паэт, літаратурны крытык, перакладчык.

[3] Неферціці, егіпецкая царыца (кан. XV — пач. XIV стст. да н. э.).

І пакуль цябе не даганю,
Не спынюся нідзе я!

* * *

От бессилия осатанев,
Как бы критика ни громыхала,
Он не праведный
                    правдинский гнев —
Прав во всём
               по-сибирски
                              Чмыхало!

*3 жніўня*

На *Сімферопаль!* На Мінск!

З Салтуком сазваніцца.

[Малюнак Ілоны: «Як бог праіграў чорту недры зямлі». *3 жніўня, Кактэбель*.]

*Сланечнік, нібы зорнае неба — на дзень адпачыць — апала — сланечнік-станічнік. Прывадніцца — правадніца.*

*** [Без даты.] *Актыўны адпачынак.* Па прафсаюзнай пуцёўцы прыехалі адпачываць. Гулялі ўвесь час у прэферанс. Ад'язджаючы, нарэшце адфіранілі вакно: «Бач ты, а тут мора ёсць!..»

*4 жніўня*

Па білеты на Ушачу. 9.00 — звон ад Салтука. 11.00 — у выдавецтва «Абсяг»[1]. 17.40 — на Ушачы Лася.

*5 жніўня*

Бяспаламу[2] — вершы (снежань). Трапіць у Глыбокае. Вялікія гонкі.

*6 жніўня*

*[г. Глыбокае.]* Пятніца — dies Veneris (лат.) — дзень Венеры. Да Алега [Салтука].

*7 жніўня*

*с. Беразвечча.* Крыж самалёта.

*** Нас, паганцаў, над возерам жагнаў самалёт.

---

[1] Барадулін Р. Абсяг. Мінск, 1978.

[2] Бяспалы Змітро (Дзмітрый Аляксандравіч; 1934–1999), беларускі пісьменнік. У 1972–1977 гг. адказны сакратар інфармацыйна-метадычнага бюлетэня «Родная прырода», у 1977–1994 гг. (пасля рэарганізацыі ў часопіс) яго гал. рэдактар.

*8 жніўня*

Царква.

9 жніўня

На *Ушачы.* На магільнік. Да Гарбука.

*** Прадаецца зруб, хата. Забіваюцца вокны.

Пайшоў на рыбу… З тых часоў, калі многа было. Пайшоў на мядзведзя, на маманта, а зараз хіба — рыбачыць, на рыбалку, у ягады, у грыбы…

*Рукавамі — друкавалі. На пятак, на, пі так! Напітак.*

Не фарш і сала,
А Варш і Сава.

[Малюнак Ілоны: «Рэстаран». *Ушачы, 9.VIII.76.*]

*10 жніўня*

8.30 — на Мінск. У выдавецтва.

*11 жніўня*

На працу. Пахаванне Мележа[1].

*12 жніўня*

Навуму [Кісліку] — «Росы на камені». Да Куляшова. Зрабіць памылкі друку да «Хуткасці». Тэлеграму Міколу Сому.

*13 жніўня*

39-59-17 Шматаў[2] 9–10 раніцы. 9.00 — на суботнік у Дом кнігі. У «ЛіМ» — занесці падборку. У «Беларусь», у «Полымя», у СП (гасцініцу Ваню [Бурсаву]).

*14 жніўня*

Звон у Глыбокае. Перарабіць верш пра Карловіча[3]. У хімчыстку.

*15 жніўня*

Звон у Глыбокае. Літоўскія пераклады. Сустрэць Ваню [Бурсава], уладкаваць у гасцініцы.

[1] Гл.: Яго прысутнасць (1981) // Парастак радка, галінка верша. С. 103.

[2] Шматаў Віктар Фёдаравіч ( 1936–2006), беларускі мастацтвазнавец, мастак. З 1966 г. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар мастацтвазнаўства (1990).

[3] Карловіч Мечыслаў (1876–1909), польскі кампазітар, скрыпач, дырыжор. Гл.: Даліна кампазітара (14.08.76; з эпіграфам: «Слухаючы абвал, ад абвалу загінуў у Татрах…») // Абсяг. С. 97.

*16 жніўня*

11.00 — да Броўкі ў «БелСЭ». Кірэенку лісты Шпорты і верш. На працу. Да Вані [Бурсава]. Мальдзісу верш пра Карловіча. Дудніку звон.

*** [Аўтограф І. Бурсава:]

Слышен крик, слышен писк
Над духовной мощею:
— Убери свой обелиск,
Ваня с бородищею.

*И. Бурсов*
*(Писали вдвоем с Рыгором)*

*17 жніўня*

На працу. У СП. Звон Грачанікаву.

*18 жніўня*

Ванеў [Бурсава] рукапіс. Умову зрабіць Ваню. У Каралішчавічы.

[Аўтограф А. Вялюгіна:]

*Івану Бурсаву*

Каб яснела ўваччу
Рыфмачу-барадачу,
Я здароўем заплачу,
А пасля… заплачу.

*Анатоль Вялюгін*
*18 жніўня 1976, Каралішчавічы*

*[1] Пятрусь Броўка: «Дзе будзе верш «Па дарозе — Масква»? Трэба папраўка з Хелемскім, бо населены пункт не ў такім парадку, трэба ўнесці. Шаўчэнка ([дырэктар] Паліграфкамбінат) стараецца [неразб. 4]. У Вяліkіх Дольцах маёнтак, у Малых Дольцах сельсавет, дзе я працаваў. У Пуцілкавічах на скрыжаванні, дзе пахаваны партызаны. У В. Дольцах царква, а перабежкамі — касцёл.

Бачыў старую, сукенка, футболка; футболка, гэта дачка дала, а старая нешта будзе прыпасаць. Адна з бляшанкай, а там на попе па-англійску. Лепей бы на ручку, адно слова: «Попа».

Мне б міліцэйскі свісток, у лесе [неразб. 1] браканьеры, Жабіцкі [міліцэйскі чын] знаёмы, даў бы.

---

[1] Дадатковыя запісы (з іншага нататніка) дакладна пазначаны *«18* і *19 жніўня 1976 г., на Ушачы»*, хаця з запісамі асноўнага рабочага штодзённіка быццам бы не зусім супадаюць. Падобна, што некаторыя запісы ў штодзённіку Рыгор Іванавіч рабіў наперад.

Бегамля. Пайшлі на Лепель. Відук — мак-самасейка.

Бурсаў быў [?]. Возера [Вечалле] і плыў; і з Чарвяковым[1] купаўся. Ваклавова, тут латышы, [атрад] імя Дуброўскага. Мосар, сельсавет быў, тут латышы таксама былі.

Кадр. РК (24 год), хата Гарбука. Тэхнічным сакратаром быў 3 месяца. Ягораў. Перапісчыкам у ваенкама [валасным камісарыяце]. 12 сельсаветаў, і 12 раз трэба перапісаць загад адзін і той жа.

[Мянушкі:] Мясушка; Стаўбун Пілюта (дровы недзе піліў). А малую жанчыну [называлі] Кузурка. Шапялявага звалі Шчамель.

Малы ў валачобныя хадзілі. Адным па-беларуску [пяялі]: «Устань, гаспадар, паглядзі на дзяцей…» А ўжо палякам-католікам па-польску. Быў дзядзька Міхалка, пасля вайны на адно вока сляпы. Перад Вялікаднем рэпетыцыя, за месяц, лепш, чым у тэатры: «Механошу цяжкая доля, насыпце калошу, а падхопнічку…»

Пятрусь Броўка ў В. Дольцах.

М. Дольцы. Дом пана Сушынскага, быў старшыня сельсавета, жыў гады 3. Я ўспамінаў добрым словам.

Кадр з аднагодкамі. Антунова — штаб Дуброўскага і Лабанка ў страхагента. Броўка ўскладае ў помніка кветкі, пяе певень.

Пётр Усцінавіч на кладках, тут пачынаецца Ушачка, пасля Ушача, а затым у Дзвіну. Недалёка пачынаецца Бярэзіна.

Хрысціў [дзядзька], яго называў татка Юлік, на Пятра хрысцілі, я і рад, што Пётр — гэта камень, і я як камень, хоць і бываю мяккі.

Наш пажыццёвы дэпутат. За ўсіх ушацкіх.

Кароль Карл Іванавіч шпіёна да вайны забіў з ружжа, в. Гумнішчына (Квяцінскі). Той, што на магіле з Броўкам сустракаўся; шпіён спаў. Былі кантрабандысты Карабані, Шылькі.

Дзед Талаш [2] да Панамарэнкі[3]: чаго Петрыка не бярэ?

Пётр Усцінавіч. Вечарам забягае ў гасцініцу: «І няблага ўсё. Заўтра раніцай у Мінск».

*Ушачы.* Марыя Рыгораўна [Трафімава]: «Не раўнуй чалавека да чалавека».

Ізруб устаўлен усярэдзіну, і зверху накат, а на ім лес. Лес гэтат абрушыўся.

---

[1] Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч (1892–1937), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Рэпрэсаваны.

[2] Талаш Васіль Ісакавіч (1844–1946), народны герой. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую вайну і Вялікую Айчынную вайну.

[3] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны і дзеяч. У 1938–1947 гг. 1-шы сакратар ЦК КП(б) Беларусі, адначасова з 1941 г. начальнік Штаба партызанскага руху. З 1944 г. старшыня СНК, СМ БССР.

Пятро Аляксандравіч Трафімаў (1924 года) быў разведчыкам брыгады імя Панамарэнкі: «Калі самалёты спазняліся, узлёту няма, на Задобрыцу заганялі, закідвалі галінкамі. Як гараць бочкі, рэйкі свярлілі і на Камен.

Карл [немец] ляжаў між мёртвых, боты трэба, ды яшчэ з падкоўкамі. За ногі, а ён жывы, так і палілі [?].

Баба далоў, а партызаны забілі Бондала.

Грабеньчык [вёска]. Гэта ж як былі на рацэ, пайшла баба з Кавалеўшчыны ў Жывалаку. Сустрэла партызан, яе вярнулі: «Мы сёння на Ушачу наступаць [будзем]. Партызанка ўзяла грэбень. Прынясла малако здаваць па грабяню.

Зямлянка ў іголках, жыло два атрада брыгады Уткіна ([брыгады] імя Панамарэнкі). Зернясховішча. У 1944 годзе сакавік — красавік рукамі пясок [выграбалі] і насілі ў Даўгі Дземенец. Шуфель, лапата, з дошак насілкі і насілі на гары.

На ямах, дзе збожжа [хавалі], карэнні — бяроза, ялінкі, асінкі пальцы пераплялі. Увесь партызанскі запас хлеба з партызанкі кр]?], а ў зямлю зруб, з дошак засек».

Іван Міклашэўскі: «Пры ахове штаба не хацелі браць — малы. Вінтоўка да самай падлогі прыкладам білася — вялікая.

Двух немцаў, унцер-афіцэраў, Карла і Ота, у дровы пастроілі, пазаганялі і прымусілі паліць (сарвалі пагоны).

Немцам везлі бульбу здаваць, а партызаны рассыпалі — гэта і сабіраў».

Ад’язджаем. Марыя Рыгораўна, Пятро. З радыё І. [?] Кудраўцаў чытае верш новы Броўкі «Майстэрства».

У кожнага ў вачах
І акіян…

«Цяпер хай хоць хату прап’ець, я разумная буду. Была адна, адбіла мужа, жонка назад [вярнула]».

*19 жніўня*

Да Зарыцкага — зрабіць праўкі, карэктура «Фаўста». Ад’езд на Ушачы.

* [П. Броўка:] «А ўжо абышоў вуліцу, дзе жыў (яна цяпер Кастрычніцкая)». Развітваемся: «А якая ж мама Куліна ў Рыгора была. Найсапраўдная беларуска!» — пра маю маму.

*20 жніўня*

Вёска *Ціханяты.* Вылет!

*21 жніўня*

[к/ф] «Табар знікае ў неба».

* Званю Броўку, што слухаў ягоныя вершы па радыё. «Артысты стараліся, але трэба ім мову вучыць, замест *ногі прэлі — ногі пралі*. Яны, праўда, не ведаюць, як гэта ногі прэюць, але ж трэба вучыць мову і ведаць».

*22 жніўня*

6.45 — на *Ушачы.* На Вечалле. Комплекс «Прарыў»[1].

*Петраку [Трафімаву] расказваю пра дарогу на Пуцілкавічы, што пыл, што разбітая. «Там Броўка жыве. Бачыў я ўсё, ведаю, там Вечалле, там Лабанок стаяў».

Паблытаў выдумку і быль,
Каб мець вагу з паклажай лёгкай,
Самааховец,
Занослівы варшаўскі лёкай.

Іржэ ў палях камбайн, адчуўшы сілу,
Іржэўе коле шыю небасхілу.
калоўся
калоссе

Камсорг сабраў камсорак
І танцаваў «сем сорак».

*23 жніўня*

На Мінск. Праўкі «Фаўста». Да Куляшова. Віктару [Шрамякову] звон.

*24 жніўня*

Да Шрамякова.

*** Аб'ява на слупе: «Маем лішняе грудное малако. Тэл., вул. Заслаўская, р-н Юбілейнага рынка».

Дон (рака) Жуан. Аўтограф ракі Ушачы.

Пакуль мы спешым час,
Шукаем вечных ісцін,
Чакаюць хата нас
І двор, запалы лісцем.

*25 жніўня.*

Ваню [Бурсаву] — вершы. «Рум» — Вольскаму. 10.00 — чакаць аўтарыцу. У бухгалтэрыі Ваню. Бярозкін, Вялюгін.

---

[1] Гл.: «Бацькаўшчына...» (21.08.76) // Абсяг. С. 16.

*26 жніўня*

9.00 — чакаць званка Адмірала [Вялюгіна]. 10–11.00 — звон Пімену [Панчанку]. У Каралішчавічы (Вялюгін). Да краўца.

*27 жніўня*

Адпраўка Вані [Бурсава] (сыну Бурсаву Віцю білет) 45-38-03.

28 жніўня

На Галоўпаштамт тэлеграму Бураўкіну, кніжкі Шкляру [Шклярэўскаму], Урнову[1]. У Ленінку[2] («Паэты Ленінграда»).

*29 жніўня*

10.00 — чакаць званка Шаўні. Ва Ушачы. Забраць Laся. Звон Зуёнку.

Мне мулка на тваім плячы,
Ад слоў ласкавых мулка.

Каханне выдумалі лірыкі,
А людзі дбаюць,
Каб прадоўжыць род.

Каханне смужыць вочы,
Смяжыць рот.

*30 жніўня*

На працу! На шосты [паверх, рэстаран гас. «Мінск»] з Герчыкам.

*Эжэну Курто[3]*

Хоть лысоват, душой не сед:
Ещё подай наседку!
Эжен Курто
Стал дважды дед
Пока… за пятилетку.

*Не асаецца аса, а кусаецца — куса[4].*

*31 жніўня*

У музычную школу. У Ленінку.

---

[1] Урноў Міхаіл Васільевіч (1909–1993), рускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.
[2] Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна.
[3] Курто Яўген Іванавіч (1924–1993), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1972–1987 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».
[4] Гл.: Ці аса, ці куса? ([1976]) // Ці пазяхае бегемот? С. 25.

*

Чмель кусаецца?
Ды не.
Дык вазьмі яго тады —
Вунь усеўся на акне.

*1 верасня*

Праца. Ленінка. Да Вялюгіна ў Лечкамісію. Да Навума [Кісліка] (пераклады ўзяць), да Зуёнка.

*2 верасня*

Праца. Аддаць літоўцаў, падлічыць [памер кнігі] Пракоф'ева. Ілонцы — нотныя сшыткі.

*3 верасня*

Пазваніць Белавусаву.

*4 верасня*

*На рынку*

Рэдзьку вы ўзялі ў суседкі,
Да канца адбудзьце рату,
А ў мяне купіце кветкі —
Восень прынясіце ў хату.

Налюбкі тавар адменны,
І хвальба без перабою,
Тут пагляды, як бязмены,
Зважаць вас з вагой любою.

Рынак,
Як стары прыскрынак,
Перапоўнен да адказу.
Ад іскрынак,
Ад хітрынак
Анямееш без адказу.

*6 верасня*

*[Чувашыя.]* Абком партыі. Кінафільмы пра Чувашыю. Адкрыццё Дзён [літаратуры]. Урачыстае [пасяджэнне].

*г. Чэбаксары.* Густа [насельніцтва] на кв. км. Прамысловасць — машынабудаванне, дрэваапрацоўка — раней галоўная. Зараз сыравіны мала, пад лесам $^{1}/_{3}$, а спелага лесу амаль не застаецца. У вайну [праца-

валі] 33 леспрамгасы, і лес фактычна знік. Хмель — традыцыйная галіна сельскай гаспадаркі. 60% — агульнарасійскага хмелю. Бульба.

Чувашскі дзяржаўны ўніверсітэт, 8 факультэтаў (інжынераў і ўрачоў). Тэатр перапоўнены заўсёды. СП — 80 чалавек.

Першыя агрэгаты Чэбаксарскай ГЭС — трэба ўвесці ў строй.

Лозунг гаркаўчан: «Ни одного непьющего рядом!»

Адной нагой у калысцы, другой — у баразне.

Сто тысяч слоў, сто тысяч песень, сто тысяч узораў.

[Аўтограф чужой рукой:] Синец белэн ат урлап була!

Ат — лошадка,
Бурек — шапка,
Голова — баш,
Камень — таш.

*[?]*

* * *

Ваятелем — отцом Адамом
Недоваян,
Достался чебоксарским дамам
Друг Давоян[1].

* * *

— А чуваш, а чуваш,
Як на мне ты адчуваш?
— Любая чувашка,
А табе не важка?

*7 верасня*

*г. Ядрын.* Хмель. Літаратурны вечар у клубе (бітком напханым).

*** *Ядрын*. Старэйшы горад Чувашыі. У 1590 г. заснаваны. Умацаванні пры Иване Грозном, лілі ядры. Рака Сура, была для царскага стала сцерлядзь, спіртзавод (бровар).

Кепская пагода. Давялося да сярпа за дапамогай звярнуцца. На паклон да сярпа. Тут у раёне працаваў Волкаў[2], які сябраваў з Талстым Львом Мікалаевічам.

Вучань Гастэла[3], герой СССР.

---

[1] Даваян Размік Нікагосавіч (н. 1940), армянскі паэт і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі АрмССР (1985).

[2] Волкаў Канстанцін Васільевіч (1871–1938), чувашскі доктар.

[3] Гастэла Мікалай Францавіч (1907–1941), беларускі лётчык. Герой Савецкага Саюза (1941).

Ад гаманы, ад тлуматы
Імчыш на ўсіх парах.
А хто,
Падчас падумай ты,
Твой прышануе прах?
…нематы пліты,
Абсягаў новых праг.
Твой прышануе прах.

Ат урлап була. Хай у нашых злыдняў, дружа, ссохнуць языкі.

*8 верасня*

Чувашскі ўніверсітэт. Сэрца ў колбе Хузангая[1]. Вечар. Канцэрт выкладчыкаў у застоллі.

* У медінстытуце заспіртавана сэрца П. Хузангая.

*Николаю Степановичу*

Он за столом — беседушкин,
В поездках — непоседушкин,
Во всех делах — всеведушкин,
Великий, мудрый Дедушкин![2]

*Штрыхі да Якава Ухсая*[3]

*Мудрая восень*

«Многія сталі параходамі, бібліятэкамі, сябры. Ваеннага часу Купала. Цяжка было даставаць спірт. Як паэт апошняга часу нецікавы.

Наконт перакладаў. Шануй сілы, пакуль ёсць — не трать на пераклады.

Мне беларус цікавы як беларус, Шуртакоў[4] як сяргач (мядзведзі вучоныя). Рускія пераклады такія: калі ты дробнабуржуазны, то ў перакладзе — пралетарскі.

Балет. З аднаго боку парык і лапці. Піянеры ў вас шалапуты, і разбойнікі падабаюцца. Танцы — разгул. Народ цнатлівей.

---

[1] Хузангай Педэр (Пётр Пятровіч; 1907–1970), чувашскі паэт. Народны паэт Чувашскай АССР (1950).

[2] Дзедушкін Мікалай Сцяпанавіч (1915–1995), чувашскі літаратуразнавец, крытык.

[3] Ухсай Якаў Гаўрылавіч (сапр. Нікіфараў; 1911–1986), чувашскі паэт. Народны паэт Чувашскай АССР (1950). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1972). Прысвечаны яму верш гл.: Мудрая восень (8.09.76, Чэбаксары) // Абсяг. С. 114.

[4] Шуртакоў Сямён Іванавіч (1918–2014), рускі празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1987).

Не будуць мяне чытаць у тралейбусе. Не хачу для ўсіх, праца над словам, над мовай. Высокая ацэнка Кузьмы Чорнага[1]. Быкаў (палохае, а я не баюся) перавыпрацоўвае жылу, не працуе над мовай. Броўка ў лік не бярэцца як паэт. Лужанін ніколі розумам не вызначаўся.

Ашукваем народ і сябе. Народ галадаў, а мы за хлуслівую пісаніну атрымлівалі грошы. Агняцвет[2] — непаразуменне. Заводы добра, усё добра — песня. Маральная сіла народа — аснова. Яна падняла на вышыню Андрыяна[3] і Надзю Паўлаву[4], а не ракеты.

Адкуль падабенства ў песнях беларусаў і чувашоў? У арміі служылі чувашы ў Беларусі. Узоры чувашскія (Ясенін «Ключи Марии»), агароджа Летняга саду і чувашскі арнамент (Пётр Ягораў[5] — чуваш. Дзіцячае ўспрыманне моцнае).

Наконт кіно: навошта Вялюгіну яўрэйская прафесія? Трэба пільнавацца свайго. Чым Лужанін займаецца? Усім. Казаў, што татарын. Значыць, дробным гандлем. За поясам носяць такі тавар розны.

Раней пісалі ў шынках. Зараз — на партсходах розных.

Паэта няма, калі няма ворагаў.

Калі будаваўся Пецярбург, голад на Чувашыі — замест хлеба елі гліну.

Многія ўзляталі і падалі, а я цвёрда на зямлі трымаюся, хоць і поўзам п'яны. Хаця б да ўзроўню даха Саветаў узнеслася нашае мастацтва, а не на касмічны ўзровень.

Паэтам кватэры не трэба даваць. Раней пісаў у лазні — і лепей, чым зараз. Трэба стварыць свой свет, ідэал — і жыць у ім. Перакладаць тое, што выпрабавана на нашай зямлі. Перакладаць так, як паважаюць свайго бацьку, сваё сэрца».

*Споведзь слову*

Адвеецца лухты палова,
І зерне сэнсу возьме клёк.
Апора віратоку
Слова —
Незатуханы вугалёк.

---

[1] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900–1944), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

[2] Агняцвет Эдзі (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; 1913–2000), беларуская паэтэса і перакладчыца.

[3] Нікалаеў Андрыян Грыгор'евіч (1929–2004), лётчык-касманаўт СССР, генерал-маёр авіяцыі (1970). Герой Савецкага Саюза (1962, 1970). Ураджэнец Чувашыі.

[4] Паўлава Надзея Васільеўна (н. 1956), расійская артыстка балета. Народная артыстка Чувашскай АССР (1980). Народная артыстка СССР (1984).

[5] Ягораў Пётр Ягоравіч (1731–1789), рускі архітэктар, адзін з аўтараў агароджы Летняя саду ў Пецярбургу.

Цябе раздзьмухне часу подых,
Ускалыхне адчаю ўздых.
Табе ачахла ў стылых одах,
Гары на вуснах маладых

Так, як і продак твой калісьці,
Стой, Слова, цвёрда па вясне
Адной нагою — у калысцы,
Другой — у дымкай баразне.[1]

*9 верасня*

Волга. Параход «Сеспель»[2]. Адплываў «М. Гастэла». Дом адпачынку «Куўшынава».

*Юрию Айдашу[3]*

Союз прекрасен наш!
С дороги, хмурый!
Да здравствует Айдаш,
Который Юрий!

*** Волга. Параход «М. Гастэла».

Гітара — магнітафоннае іга. Не татара-мангольскае, а гітара-магнітафоннае іга.

*10 верасня*

Закрыццё дзён.

Трактарны завод.

*Раісе Сарбі[4]*

О молодости не скорби,
Увидев Раису Сарби.
Удачи желай Сарби
В поэзии и любви.

---

[1] Першы варыянт верша; гл.: Чувашскаму слову (30.08, Ялта — 30.12.78) // Маўчанне перуна. С. 126.

[2] Сеспель Мішшы (сапр. Кузьмін Міхаіл Кузьміч; 1899–1922), чувашскі паэт.

[3] Айдаш Юрый (сапр. Грыгор’еў Юрый Грыгор’евіч; 1938–2014), чувашскі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Чувашскай Рэспублікі (1996). Лаўрэат прэміі камсамола Чувашыі імя М. Сеспеля (1980), Дзяржаўнай прэміі Чувашскай Рэспублікі імя К. В. Іванова (1991).

[4] Сарбі Раіса (н. 1950), чувашская пісьменніца. Заслужаны работнік культуры ЧР (2000).

*Льву Гаврилову*[1]

Просились в сердце на постой
Лев Николаевич Гаврилов,
Лев Николаевич Толстой.

*Михаилу Юхме*[2]

Да будут от тебя, Юхма,
Все девы мира без ума.
Да не скудеют закрома
Твоих стихов,
мой друг Юхма.

Чэбаксарскі завод прамысловых трактараў пачаў будавацца ў 1972 годзе. 37 тон вага, 333 конскіх сілы. Адзін амерыканскі спецыяліст [атрымлівае] 200 долараў у суткі.

[Аўтограф парадкоўніка верша Флора Васільева[3] «Когда женщина возле тебя…»Аўтограф П. Градава[4]:]

Сидим мы на виду у всех,
Сидим спиною мы друг к дружке,
И между нами, как на грех,
Нет «бородулинской» подушки.

*П. Градов*

*11 верасня*
Сустрэча ў бібліятэцы. Ад'езд. «Абыякавыя» Маравіа.
[Аўтограф П. Градава:]

*Талантливому Григорию!*

Тут стихи читал недаром
Бородулин с бородой —
Раскурили в Чебоксарах
Все подушки до одной.

*П. Градов*

[1] Гаўрылаў Леў Мікалаевіч, рускі паэт.
[2] Юхма Мішшы (сапр. Ільін Міхаіл Мікалаевіч (н. 1936), чувашскі празаік, паэт, драматург, гісторык. Народны пісьменнік Чувашыі (1993). Ганаровы акадэмік НАНіМ ЧР.
[3] Васільеў Флор Іванавіч (1934–1978), удмуртскі паэт. Лаўрэат прэміі камсамола Удмуртыі (1967), Дзяржаўнай прэміі УдмАССР (1978, пасмяротна).
[4] Градаў Пётр Міхайлавіч (сапр. Кутман; 1925–2003), рускі драматург, паэт, перакладчык, акцёр. Заслужаны работнік культуры ЧР.

[Аўтограф Р. Даваяна на рускай і армянскай мовах:]

Мой дорогой Рыгор!
Я, посланец высоких гор,
Тебя целую, обнимаю
И в апреле, и в мае.

*Твой бедный брат —*
*Размик Давоян*

Васіль Ала́гер[1] (успаміны пра Янку Купалу). Першае пытанне: «Ці ёсць гарэлка?»

[Малюнак Л. Гаўрылава «Я люблю тебя, т. Бородулин Рыгор. *11.09.76*».]

[Адрасы:] Мерескин Адвард (Эдвард) Ефимович (г. Ново-Чебоксарск); Помазнева Валя (г. Москва); Мальцев Геннадий Степанович[2] (г. Чебоксары); Васильев Фрол (г. Ижевск); Гаврилов Лев Николаевич (г. Ленинград).

*12 верасня*

*Масква.* Вані [Бурсава] няма.

*** Сабака ва Унукаве на асфальце вераснёўскім соладка спіць, а ў сне бяжыць. Тут муха. Ловіць. Не сон, а канкрэтная страва.

Шчадзіце галасы людзей і птушак,
Без іх знямела стане на зямлі.

Запамінайце іхнія імёны,
Не пакідайце гэта на пасля,
Для іх жа,
Імі шар зямны зялёны,
Планета пеўнамоўная
Зямля.

Напамінаюць зорам вершаліны
Пра карані тугія і камлі,
Змяіны мудры яд
І мёд пчаліны…

*13 верасня*

Мінск! Звон Васю [Зуёнку]. У «Беларусі» ўзяць падшыўку. Сазваніцца з Лукшам!

---

[1] Алагер Васілій (сапр. Осіпаў Васілій Осіпавіч; 1906–1988), чувашскі празаік, драматург. Заслужаны работнік культуры ЧАССР (1981).

[2] Кенеш Мучы (сапр. Мальцаў Генадзій Сцяпанавіч; 1929–1991), чувашскі празаік, паэт.

*14 верасня*

У «Бярозку», у «Маладосць». Пазваніць Трыхманенку[1] (наконт Васіля Ткачова). Пазваніць у клініку, Навуму [Кісліку] (ці ёсць пераклады).

*15 верасня*

На працу. Пазваніць у Маладзёжную [рэдакцыю] тэле. Алесю Разанаву[2] (Стралкунас).

*16 верасня*

Прадмову да Бурсава. 14.00 — да Броўкі (дадому), забраць апошнія вершы ў кнігу. У Літфонд (купіць пуцёўку ў Каралішчавічы).

*17 верасня*

Каралішчавічы! У Мінск (праца, звон Лукшу). Узяць (чаравікі, мёд, украінска-рускі слоўнік, капірку).

*18 верасня*

14.00 — тэлестудыя (размова з Някляевым). Літоўцы. Пераклады.

*19 верасня*

Т. Хрусцялеўскі[3], Здзіслаў Нядзеля[4] для «ЛіМа». Дазваніцца да Мальдзіса.

*20 верасня*

Чорны блакнот. На радыё — запіс на Маскву. 11.30 — з Мальдзісам у выдавецтве. 14.00 — Інстытут культуры, выступаць (з Замскім[5]). Здаць дзіцячы зборнік, літоўцаў, 2 вершы Хрусцялеўскага.

*21 верасня*

Паправіць Хрусцялеўскага, закончыць Канановіча[6]. Сазваніцца з Мальдзісам (незразумелыя словы ў палякаў).

---

[1] Трыхманенка Віктар Фёдаравіч (1923–1998), беларускі празаік. У 1974–1979 гг. рэдактар газ. «Во славу Родины».

[2] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1974–1986 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1990).

[3] Хрусцялеўскі Тадэвуш (1920–2005), польскі паэт, перакладчык.

[4] Нядзеля Здзіслаў (1931–1996), польскі выкладчык. Доктар габілітаваны, прафесар Ягелонскага ўніверсітэта. Ураджэнец Беларусі.

[5] Замскі Міхаіл Майсеевіч. У 80-х гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[6] Канановіч Мацей Юзаф (1912–1986), польскі пісьменнік, перакладчык. Канановіч М. Імёны любові. Мінск, 1976.

*22 верасня*

На працу! «Свята пчалы» — Карласу [Шэрману]. Пазваніць Бярозкіну (перакласці некалькі радкоў Межэлайціса). На Васю [на машыне Зуёнка] — у лес.

*23 верасня*

Сазваніцца з Мінскам. Перадрукаваць палякаў (звон Жычку), перадаць Пашков. передрук для «Прынамсі».

*24 верасня*

Сазваніцца з радыё (запіс). У Мінск. (Герчыку берэт, чорны блакнот, рэшткі гумару, лірыку перадрукаваную — Вялюгіну).

*25 верасня*

У Мінск (на пошту). Узяць пачак паперы. Пазваніць Бяспаламу.

*26 верасня*

Пераклады М. Ціханава. Перадрукаваць падборку для «Полымя».

*Алесю Бачылу*

Паэт перад пенсіяй,
Ды, як гарэзнік,
Ён кліча чытачак
У «Белы бярэзнік».
Ківаюць насмешніцы —
Бабіна лета…
І зноў сумнаватае
Будзе лібрэта!

*Караліішчавічы*

*27 верасня*

Звон у Мінск (бухгалтэрыя). Калача [Калачынскага] (2 частку) і капірку. У Мінск! Дадому. Сазваніцца з Асіпенкам[1].

*Віктару Кірэйчыку*

Забудзь падтэкст — тут чай ды беф.
Азон — гарні хоць лапатаю.

[1] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1976–1980 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1981). Гл.: Алесь Асіпенка // Дуліна ад Барадуліна. С. 146.

І трэніруе мудры шэф
З адлегласці — па тэлепатыі…

*Каралішчавічы*

*28 верасня*

Ланачка захварэла — званіць. Наконт працягу пуцёўкі. 21.10 — «Chłopi».

* * *

У вяснушках жаўталісту сцежка.
Сунуцца здалёку халады.
Ходзяць па імхах вявёркі пешкі,
Дзе прастылі нерушаў сляды.

Дзе мядзведзь для пэўнай мэты
Меты
На ствалах пакінуў — зараслі.
Рыжыя хвастатыя каметы
Сцеляцца па сцішанай зямлі.

*Каралішчавічы*

*29 верасня*

Алесю Разанаву — Стралкунаса. Емяльянава[1] (рукапіс) — сустрэцца. Грачанікаву — выбранае![2]

*30 верасня*

Падправіць «Смаргонскую акадэмію». Дакончыць пераклады М. Ціханава.

Чый лоб цвярдзей? Як мора падагрэць? Белая варона. Лірычны стрэс, ці Закаханы гумар. На літаратурным фронце без Мельпамен. Мама, не чытай! — раздзелы ў гумар [зб. «Прынамсі»].

*1 кастрычніка*

У Мінск (зарплата). Адвезці лісток Асіпенку. Мікалая Ціханава перадрукаваць.

*2 кастрычніка*

Свой гумар, перадрук.

---

[1] Емяльянаў Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; 1952–2005), беларускі паэт. У 1977–1983 гг. супрацоўнік газ. «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі».

[2] Грачанікаў А. Калі далёка ты…: Выбраная лірыка. Мінск, 1979.

*3 кастрычніка*

Дзень настаўніка! Павіншаваць Вялюгіна. Друкаваў «Прынамсі». Дазваніцца да Мінска.

*4 кастрычніка*

У Мінск. Дадаць верш Бурсава ў зборнік. Сазваніцца з Зуёнкам, ці прыехаў Навум [Кіслік]?

*5 кастрычніка*

Даць на другую карэктуру Астрэйку. У бухгалтэрыю. Да Зайца. Сазваніцца з Шабаном. У [час.] «Беларусь» (да Калача [Калачынскага]).

*6 кастрычніка*

З Санем (наконт бюлетэня). З Емяльянавым (рукапіс). Забраць экземпляры. Да Калача [Калачынскага], у «Бярозку».

7 кастрычніка

У выдавецтва — перанесці радоўку на капусту, дахаты, пазваніць Мальдзісу ў Каралішчавічы.

*8 кастрычніка*

Артыкул пра «Крык сойкі»[1]. Слоўнік Ластоўскага[2]. Верш пра карчму[3].

*9 кастрычніка*

З Асіпенкам у Мінск. Забраць у Навума [Кісліка] пераклад. Пазваніць Калабку [Чарняўскаму] (рэцэнзія).

*10 кастрычніка*

Даводзіць да ладу «Прынамсі».

*11 кастрычніка*

18.20 — Адміралава [Вялюгінава] ласачка па тэле. 40 год на сцэне Мікола Шышко. Дазваніцца ў Мінск. Шлег[4].

---

[1] Панчанка П. Крык сойкі. Мінск, 1976.

[2] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. Ластоўскі Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык і літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Рэпрэсаваны.

[3] Гл.: Вясёлая карчма (8.10.76, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 242.

[4] Шлег Алесь (Аляксандр Карпавіч; 1936–1998), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. У 1975–1977 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура», карэспандэнт газ. «Літаратура і мастацтва» (1977–1978) і «Чырвоная змена» (1978–1979).

*12 кастрычніка*

Фота Шлегу. Звон Забораву і Элькіну. Здаць Коўтун рэцэнзію. Сазваніцца з Калачом [Калачынскім]. Генадзю Бубнаву звон.

*13 кастрычніка*

Сазваніцца з Элькіным! Герчыку — анатацыю. Навуму [Кісліку] — верш. На працу! (А. Емяльянаў). На радыё (рэцэнзію). Забраць верш. Забраць у Зуёнка вершы Вялюгіну. З Бубнавым сустрэцца! Казіку [Камейшу] — краўца.

*14 кастрычніка*

Бубнаву, каб падрыхтаваў да пятніцы пераклады. Вершы ў Тáраса («Урок»). Верш Салтука (у «Полымя»).

*15 кастрычніка*

*Патыражныя!* План — [на] Бурсава заключэнне [напісаць]. *На радыё* (3 стар. пра Панчанку).

Казіку [Камейшу] краўца. Забраць рускія вершы.

*16 кастрычніка*

32-18-09 Зося.

*17 кастрычніка*

12.15 — перадача. Прыезд Вані [Бурсава].

*18 кастрычніка*

11.00 — прыедзе Васіль [Зуёнак] у выдавецтва ў Ванем [Бурсавым]. Да Пімена [Панчанкі]. З Васілём назад у лес.

*19 кастрычніка*

Вірынеі Пятроўне [Жыжэнка] 4 фота СЖ[1] [№ 51088]. 19.30 — у СП БССР. Перад міліцыяй.

*20 кастрычніка*

Міхлееў — заключэнне, падборку ў «Знамя юности». 10.00 — да Броўкі (3-]ці том]). Броўка будзе ў СП. Балакрон[2]. 11.30 — дома (фота «Знамя юности»).

---

[1] СЖ — Саюз журналістаў.

[2] Балакрон — матэрыял на вокладку тома П. Броўкі.

*21 кастрычніка*

Сазваніцца з Бубнавым. Прачытаць вершы М. Мятліцкага[1]. Адабраць для «Полымя» Дашкевіча[2].

*22 кастрычніка*

Ад'езд у Мінск. Бубнаў. Да Зуёнка (руская кніжка[3]). Звон Элькіну. Цэнтральная клініка. «Неман».

*23 кастрычніка*

10.00 — Алесь Емяльянаў. Выступленне ў школе 13.30. Да Кошкі [Чарняўскай], (Лосіка ням-ням). Да Гарбушы [Гарбука], прагуляць Мядзведзя [Пушкарова].

*Эдуарду Савіцкаму[4]*

Час не прыпыніць бег
І не раскрые карт,
Часцей у першы снег,
У свой забыты смех
Вяртайся, Эдуард!

*

Яшчэ далёка касавіца!
Самотны сум — табе не кум.
І над чалом тваім, Савіцкі,
Яшчэ чакання пчолам віцца
І поўніць соты мудрых дум!
Дазнаўся ж не з гісторыі,
Што жыць на свеце — здорава!

*24 кастрычніка*

9–10.00 — Стрыжак[5] (вершы). 16.50 — тэлеперадача з Масквы (вершы Рыгора Барадуліна).

Паўлаву 24.Х. — 41 год.

---

[1] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. Студэнт філфака БДУ.

[2] Дашкевіч Вячаслаў Іосіфавіч (н. 1941), беларускі паэт і перакладчык. У 1971–1976 гг. заг. аддзела час. «Родная прырода», у 1977–1980 гг. ст. рэдактар Саюза журналістаў БССР.

[3] Бородулин Р. Небо твоих очей. М., 1976.

[4] Савіцкі Эдуард Міхайлавіч (н. 1935), беларускі гісторык-архівіст. З 1977 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Доктар гістарычных навук (1992), прафесар (1997).

[5] Стрыжак Віктар Іванавіч (1955–1995), беларускі паэт. Прысвечаны яму верш гл.: Віктару Стрыжаку (12.12.76) // Прынамсі. С. 245.

*25 кастрычніка*

Мазго[1], Стрыжак. У Лечкамісію (Вольга Алякс.). У выдавецтва. Ілонку ў музычную школу. На радыё.

*26 кастрычніка*

У «ЛіМ» — артыкульчык наконт Генкі [Кляўко] (выбранае). 10.00 — Вольскі (у выдавецтве).

Алесь Емяльянаў, Міхась Стрыгалёў[2]. Да Рэма [Нікіфаровіча], карэктура ў «Полымі».

*27 кастрычніка*

Якуніну фота, у «Дзень паэзіі» — вершы, Стрыгалёў, Емяльянаў.

*28 кастрычніка*

*Уладзіміру Якуніну*

Усе чорнабародыя —
Душой высакародныя!
Але адна чарней за ночы,
За неспатольны сум жаночы,
Як чорнахмарая бяда —
Якунінская барада!

*

Цаляй толькі ў лузу,
Куляй на выгодзе,
І жонку, як музу,
Абходжвай, Валодзя!

*29 кастрычніка*

З Калачынскім (сустрэча). Дзень камсамола. Клуб СП (выступіць трэба).

*30 кастрычніка*

Элькіну паслаць вершы.

*31 кастрычніка*

За білетамі.

---

[1] Мазго Уладзімір Мінавіч (н. 1959), беларускі паэт. Студэнт філфака БДУ.

[2] Стрыгалёў Міхась (Міхаіл Лаўрэнцьевіч; 1938–2006), беларускі паэт, перакладчык. Да 1978 г. жыў у Расіі.

*1 лістапада*

На працу — падпісаць Пракоф’ева[1]. 18.30 — Тэатральны інстытут. Выступленне. Каламіец — вершы.

*2 лістапада*

На працу. Будзільнік. Ласю — чорцікаў.

*3 лістапада*

8.00 — Лечкамісія. Дракахрусту рукапіс Казла [Шлега]. 12.00 — на тэлестудыю. 16.00 — Алесь Емяльянаў. Забраць білеты на Гродна.

*4 лістапада*

R]yna Бабіцкая, павіншаваць з днём нараджэння]. Да Вялюгіна ў «Полымя». Забраць «Смаргонскую акадэмію» (14.00). 20.30 — ад’езд на Гродна (правесці). Дазваніцца да Залатухінай, Элькіну.

*5 лістапада*

На працу. У [час.] «Бярозку». Дазваніцца да Якуніна. Шрамякову звон.

*6 лістапада*

8– 9.00 — Мазго і Віктар Стрыжак. 10.00 — да П. Броўкі. Да Заборава (звон). Броўка наконт фота. Залатухінай — кнігі. Да Кошкі [Чарняўскай].

*7 лістапада*

Чакаць Якуніна.

*8 лістапада*

Да Вялюгіна (паэму). Да Шрамякова. 39-48-07 Вера Сцяпанаўна [Паваліхіна, павіншаваць з днём нараджэння].

*9 лістапада*

На працу. Да Калачынскага. Да Заборава.

*10 лістапада*

Да Калачынскага. На працу. Звон Шкляру [Шклярэўскаму]. Звон Ананку.

[1] Пракоф’еў А. Святло над светам. Мінск, 1976.

*11 лістапада*

Звон Ананку. 9–10.00 — Рэм [Нікіфаровіч]. Вялюгіну «Дзень паэзіі». 13.00 — да зубкаў (Надзея Фёдараўна, стаматолаг). У «Полымя» (карэктуру забраць).

*12 лістапада*

Стрыжак, Емяльянаў. Дракахрусту — паэму.

*13 лістапада*

10.00 — да Надзеі Фёдараўны 33-35-37. 13.00 — ля ўвахода ў цырк (Валодзя).

*14 лістапада*

Дакончыць «Прынамсі». Сцепанюк — урэзку на радыё.

*15 лістапада*

На радыё — Ціханава і літоўцаў. 13.00 — да Надзеі Фёдараўны. На працу. Звон Круку.

*16 лістапада*

У рэдакцыю «Бярозкі» (узяць нумары з паэмай Броўкі). Дашкевіч (рукапіс).

*17 лістапада*

Сход Саюза журналістаў. Яшу [Серперу] — александрыйскі ліст. У выдавецтва (зарплата). У пашпартны стол. 13.00 — да Надзеі Фёдараўны. У ЦУМ (купіць стужку). 19.30 — танцы Кеніі (АДА[1]).

*18 лістапада*

На працу. Здаць Емяльянава[2] з Міколам Казловым. 19.45 — Ілону на музыку.

*19 лістапада*

10.00 — Ул. Елісееў (дома). 16.00 — пра Алега Салтука ў СП. Здаць К. Ільюшчыца[3].

---

[1] Акружны Дом афіцэраў.

[2] Емяльянаў А. Ранак поўніцца жыццём. Мінск, 1977.

[3] Ільюшчыц Канстанцін Мікалаевіч (н. 1947), беларускі паэт. У 1968–1992 гг. на ваеннай службе.

* * *

Не лічы сіваваронак,
Помніш: Будрыса сыны
Ехалі ў Літву па жонак,
Ты ж па рогі, як ляны!

*20 лістапада*

Да Зуёнка. Волаха, 9, корп. 2, 40. Звон Семашкевічу, Някляеву. 20.00 — Палац спорту. Спявак Неман[1].

*Коласаўцам[2] у юбілей*

А час густое любіць сітца...
Вам, дружбакі і землякі,
На роднай мове каласіцца
Жадаю доўгія вякі!

*21 лістапада*

11 гадзін, Кірава, 1, кв. 71. Рая. Да Зуёнка — рукапіс «Прынамсі» занесці.

*22 лістапада*

На працу. 14.00 — прынясе рукапіс Люба Турбіна[3]. У «Бярозку» (Васіль [Зуёнак], Вера [Сапега, сакратар]). 21.00 — Ілону на музыку.

*23 лістапада*

Да Заборава. Звон Круку (адабраць фота Броўкі). 11.00 — да Раі. У Веры [Сапега] забраць передрук. 16.00 — да Броўкі (5 том і фота адабраць). Звон Элькіну.

*А. Анікейчыку[4],*
*аўтару помніка Я. Купалу*
*ў Ароў-парку (ЗША, 1973)*

Праз Свіслач да Ароў-парка
Шлях караціла Слава шпарка,
Усіх юрыла, як хакей.

---

[1] Неман Чэслаў (сапр. Выджыцкі Чэслаў Юліуш; 1939–2004), польскі рок-музыкант, спявак, кампазітар. Ураджэнец Беларусі.

[2] Віцебскі Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа створаны ў 1926 г.

[3] Турбіна Любоў Мікалаеўна (н. 1942), руская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1964–1984 гг. інжынер, аспірант, навук. супрацоўнік Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР. Кандыдат біялагічных навук.

[4] Гл.: Анатоль Анікейчык // Дуліна ад Барадуліна. С. 150.

І, поўны юнага запалу,
Здаецца, выгукне Купала:
— О’кей! Маэстра Анікей!

*24 лістапада*

Аддаць Федзю[1] «Прынамсі». На передрук змест Петруся [Броўкі]. 15.00 — прыёмная камісія (засядаць). Да Калабка [Чарняўскага].

25 лістапада

9–10.00 — званок з Кіева. Дзм. Паўлычку[2] — зборнік. Па білет на Маскву. На працу. У «Полымя» (карэктуру).

*26 лістапада*

Сцепанюк — вакзал. Якаў Абрамавіч [Серпер]. [Пакой] 657 — Найдэн[3]. Шаху [Шахаўцу] — 60 год. 19.00 — балгары — СП.

*27 лістапада*

10–12.00 — за пашпартам (пакой № 9). 10–11.00 — да Броўкі (фота). 19.30 — «Званы Віцебска»[4] (АДА). У кнігарню на Каліноўскага.

*28 лістапада*

Да Сцепанюка (пра маці баладу). У «Мінск» ([пакой] 539) — да Барыслава [Сцепанюка]. Пазваніць Забораву.

*29 лістапада*

Наконт рэкламы (Якуніну). Аддаць карэктуру ў «Полымя». На працу. Карчаўскасу — кніжкі. Дракахрусту — паэму (Ірыне[5]). Артуру [Вольскаму] — «Ветрык, вей!»[6]

*30 лістапада*

Дайліда (плакат). Здаць 4 том П. Броўкі. Звон Навуму [Кісліку] («Книга друзей»). Казіку [Камейшу] наконт Стрыжака.

Найдэн Вылчаў 29-24-62 ([гас.] «Мінск»).

---

[1] Чэрня Х. М., рэдактар зборніка Р. Барадуліна «Прынамсі».

[2] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васілевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык, палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1961), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[3] Вылчэў Найдэн (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (2000).

[4] Спектакль па п’есе У. Караткевіча Віцебскага тэатра імя Я. Коласа.

[5] Ідэльчык (Сляповіч) Ірына Якаўлеўна, у 1974–1981 гг. мал. рэдактар рэдакцыі паэзіі выдва «Мастацкая літаратура».

[6] Райніс Я. Ветрык, вей! Мінск: «Беларусь». 1965. Пер. Р. Барадуліна.

* * *

Не храбрость — упрямство берёт города,
И слава не ходит в невинных кузинах.
Так неподвижно [?] прозаик всегда,
Как книги Б. Саченко в магазинах.

*1 снежня*

Звон Якуніну, Карласу [Шэрману], Элькіну. Дзень якасці. Яфімаву, Кісліку (пераклады). Ласю — гарнітурчык. 19.20 — [к/ф] «Асы ў небе» (Кіеў).

*2 снежня*

10–11.00 — Забораву (звон). Міхайлоўская (перадрук). Дайліда (Якуніну за плакат). Сарока (пахаванне). Боцу — зборнік. 17–19.00 — Лечкамісія.

*3 снежня*

14.00 — філфак (верш Цётку?). 17.00 — артапед Ілоне. На сход.

*4 снежня*

Здаць білет Nach Moskau!

*5 снежня*

Дабіць «Рось па камені бяжыць»[1].

*6 снежня*

У Макаля (Папковіча ўзяць). Карласу [Шэрману] заказаць 2 стар. пра Пабла Нэруду для «Бярозкі». 17.30 — артапед Ілоне.

*7 снежня*

15.20 — Лечкамісія. Радыё (Казюленька [Камейша]) 16–17.00. Да Карласа [Шэрмана], да Міхайлоўскай. Да Навума [Кісліка]. Яфімаву — звон.

*Карласу Шэрману*

Ты цёзка танка грознага
(Не тога — з кабінета!)
Суровіш мужнай прозаю
Ласкавы дар паэта.

---

[1] Пераклад Р. Барадуліна паэмы Б. Сцепанюка.

А спрэчка за цябе йдзе між
Двума мацерыкамі.
А ты не акадэмееш —
Сваімі ўсё рукамі!

Ты снішся летуценніцам
Ад Мазыра да Кубы.
Хай слава не зацэніцца,
Не ялавее — целіцца
Твая, барбудас любы!

*8 снежня*

Вершы Турбіной. «Рось па камені бяжыць».

*9 снежня*

У «Вожык» — вершы. «Рось па камені бяжыць» — здаць. З Паўлавым («Прынамсі»).

22.10 — «Сіняя бухта» (тэле). 17–20.00 — (Лечкамісія). У СП. Забраць вершы Папковіча.

*Міхаілу Геллеру*[1]

Если б Вам, товарищ Геллер,
В зад вмонтировать пропеллер,
Что бы Вы тогда пропели,
Дорогой товарищ Геллер?!

*Віталіку Лукіну*

Науки, как шестого океана,
Промерена умами глубина
От Лукиана —
До Лукина!

*10 снежня*

9 раніцы Ілону да зубнога, кабінет № 5. Папковіч (у Каралішчавічах). Хрусцялеўскага — Салаўю. У «ЛіМ» — артыкульчык. У Салаўя (венграў[2] [на пераклад]).

*11 снежня*

11 раніцы Ананка (быць дома!).

На Камароўку (шкло).

---

[1] Геллер Міхаіл Львовіч,беларускі дзіцячы паэт, журналіст. Жыве ў Ізраілі.

[2] Сучасная венгерская паэзія. Мінск, 1977.

*12 снежня*

Жолдаку — «Неруш»[1]. На Камароўку — шкло. Беліжэнка![2] Звон Вялюгіну, Клёве [Кляўко].

*13 снежня*

У «Народную асвету» (Курбека). Да Валі Лукшы («Лета круглы год»[3]). Бухгалтэрыя СП, Літфонд. 15.00 — Турбіна (у выдавецтве). Галі звон (наконт Шаха [Шахаўца]). Ілонка (кручкі і аплічкі).

*14 снежня*

14.00 — прымерка Кошку [у Чарняўскай] штонікаў. Хелемскі (бухгалтэрыя). На радыё (пра маладых). Звон Навуму.

*15 снежня*

5 том Броўкі (Крук — фота). 11.00 — Някляеў. Міхайлоўская (рукапіс Любы [Турбіной]).

*16 снежня*

12 гадзін у Юрася Свіркі (гумар), перадрук вершаў («Абсяг»). 18.00 — Інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. 17.20.

*17 снежня*

Пленум — Папковіч. Пленум (11 раніцы). Турбіна. Паслаць Сцепанюку паэму. Бухгалтэрыя (зарплата). Да Міхайлоўскай.

*18 снежня*

На Камароўку! Дамовіцца з рэнтгенам. Звон Вялюгіну, Чыгрынаву. У лес!

*19 снежня*

Дабіць Беліжэнку! Звон у Мінск.

* * *

Паэт,
Адно запомні:
Ссылае пажыццёва

---

[1] Барадулін Р. Неруш. Мінск, 1966.

[2] Беляжэнка Барыс Паўлавіч (сапр. Беліжэнка; н. 1937), беларускі пісьменнік. У 1975–1980 гг. заг. сектара друку, тэлебачання і радыё Віцебскага абкама КПБ . Лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча.

[3] Лукша В. Лета — круглы год. Мінск, 1978.

Ў свае каменаломні
Уладай права слова.

Хай небасхіл ухмарыць,
Хай нават сонца дрэмле, —
Ты мусіш камянярыць,
Здабыць пяшчоту з крэмня.

Не ў сілу,
Што салому
Здаўна ламаць гатова,
Павер сабе самому
І сам світай ад слова!

*18 мая 1975 —19 снежня 1976,*
*Каралішчавічы*

*20 снежня*

У «Народную асвету». 11–12.00 — у выдавецтва (Разанаў — літоўцы). З Броўкавым томам! Вершы ў «ЛіМ», «Вожык». Вершы Турбіной (Міхлееў). Лыжачку, шчотачку.

*21 снежня*

На Мінск. Выдавецтва. «ЛіМ», «Вожык», «Беларусь». Элькіну. «Бярозка».

* * *

Сцежкай стромкай ішоў,
Адыходжу крутою,
Вечарамі крычу анямела ў імгу.
Стаў я люта сябе ненавідзець за тое,
Што забыцца цябе не магу.

*1976*

*22 снежня*

Мінск. [Выд-ва] «Народная асвета». Радыё (вітанне рэспублікам). Да Карласа [Шэрмана] (Насовіч[1]). «БелСЭ».

[1] Магчыма, маецца на ўвазе І. Насовіча. Насовіч Іван Іванавіч (1788–1877), беларускі мовазнавец-лексікограф, фальклярыст, этнограф, складальнік «Словаря бѣлорусскаго нарѣчія» (1870; факсімільнае выданне: Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мінск: «БелСЭ». 1983).

*23 снежня*

Для «Зорькі» (інтэрв'ю). Разанаву — Шожыніса[1]. Дадому. Ласю — спортштанцы. У выдавецтва — «Прынамсі» (гутарка з рымі [?]). Звон Бураўкіну.

*24 снежня*

У «Маладосць» (у Генадзя [Бураўкіна] паркераўскую ручку ўзяць. Падарунак). У «Зорьку». У выдавецтва. У лес. Перадрук-праўка гумару.

*** [Без даты:] Калі Віталь Вольскі[2] ехаў у Ташкент, запытаўся ў Янкі Купалы: што перадаць Якубу Коласу. Янка Купала адказаў: «Скажы, што ён вялікі дурань». (У Каралішчавічах В. Вольскі казаў: «Крапіва — рука на горле ў Броўкі».)

*25 снежня*

Звон у Мінск. Падагнаць «Прынамсі».

*26 снежня*

Венгры. Змест «Прынамсі». Зайца на дарогу.

*27 снежня*

«Прынамсі» Міхайлоўская. Адмірал [Вялюгін]. Дзядусь [Свірка] («ЛіМ»). Навагоднія паштоўкі.

* * *

Адыдуць дробныя мітрэнгі,
Замоўкнуць зайздрасці ваўкі,
Хай песні чулага Пятрэнкі[3]
Плывуць, як «Ручнікі», ў вякі.

*[1976 ці 1977]*

*28 снежня*

!

У выдавецтва. У «ЛіМ». У «Полымя» (літоўцы). У Салаўя (венграў).

!

---

[1] Шожыніс І., літоўскі паэт.

[2] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[3] Пятрэнка Мікалай Макаравіч (1919–1997), беларускі дзеяч самадзейнага мастацтва, кампазітар, педагог. Заслужаны настаўнік БССР (1966). Аўтар адной з найбольш папулярных песень «Ручнікі» на словы В. Вярбы.

* * *

(Ryne)

Ані ведаю, ці кахаю цябе я,
Ведаю, што без цябе не магу.
Без цябе я гібею,
Праз усе суравеі
Да цябе — без надзеі — бягу![1]

*1976*

*29 снежня*
Змест зборніка для Украіны. Салаўю — Грынчэнку[2].
Звон у Мінск.

*30 снежня*
Ігару Лучанку.
Ласю — канькі.

*31 снежня*
ВААП[3] — анатацыю «Што было б тады б, калі б…»[4]. 29-37-58.
Кузьмін[5] 29-34-66.

---

[1] Гл.: «Давяраю і жніўню, і маю…» (1976–21.01.81) // Маўчанне перуна. С. 131; Аль-бомнае ([2005]) // Руны перуновы. Мінск, 2006. С. 310.
[2] Грынчанка Барыс Дзмітрыевіч (1863–1910), украінскі паэт, перакладчык, этнограф, лексіколаг, грамадскі і палітычны дзеяч.
[3] ВААП — (Всесоюзное) Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.
[4] Барадулін Р. Што было б тады, калі б? Мінск, 1977.
[5] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003), у 1971–1986 гг. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

## 1977

*1 студзеня*[1]

1) [На першай старонцы аўтограф:] «Мілы Рыгор! Жыві не «дзень за днём», а «стагоддзе за стагоддзем». *Ул. Караткевіч.*

«Я был добрейшим телёнком, глядевшим на мир звездолёта!» — Яўг. Еўтушэнка.

2) Запрасіць Кісю. Мядзведзя [Пушкарова]. Вечарам да Фамы [Караткевіча].

*2 студзеня*

2) Да Кошкі [Чарняўскай]. Алесю Махначу паслаць «Баладу Брэсцкай крэпасці».

*3 студзеня*

Для «Молоді» [украінскага час.] змест. 12.30 — аэрапорт, Лася ў Гродна. Выдавецтва. Да Калабка [Чарняўскага]. Бубнаву [пазваніць], каб падагнаў пераклады.

*4 студзеня*

10.00 — у Аўтарскія правы. Пазваніць Бубнаву. 14–15.00 — да Якава Абрамавіча [Серпера] (лекі). [Кафэ] «Журавінка».

*5 студзеня*

Да Броўкі (забраць у выдавецтве ягоны балакрон). Круку напомніць — фота. У «Бярозку». Звон Бурсаву (карэктура). Звон Элькіну.

2) У бухгалтэрыю «Полымя».

*6 студзеня*

Паслаць Шкляру [Шклярэўскаму] артыкул, «Полымя» № 12 (76 г.), Бурсаву паслаць карэктуру. З Рэмам [Нікіфаровічам]. На Камароўку.

*7 студзеня*

Рукапіс у [украінскі час.] «Молодь». Лісты і паштоўкі з Калядамі. Да Вялюгіна (кашмар!). 18.00 — клуб СП (новыя вершы).

---

[1] На 1977 г. існуе два аднадзённіка: «Книжка-календарь» і «День за днём» . Запісы 1-га (поўнага) штодзённіка дапоўнены запісамі другога з 1 студзеня па 1 лютага; дадатковыя ці значна адрозныя запісы пазначаюцца лічбамі 1 і 2 суадносна.

*Паўлу Кавалёву*

Маразы ў разгоне,
Са сняжком Каляды.
Вам настрою сёння
Пажадаць я рады.
Райная сатыра
Прыйдзе мудрым словам.
Калядуйце шчыра
За сталом пісьмовым!

*8 студзеня*

Лісты, паштоўкі, бандэролі Хелемскаму, Жолдаку, Горлачу[1], Алейніку. «Звон» [«Блакітны звон Гранады»] — у Адэсу.

Ласю туфлік, плашч.

* * *

Няхай абміне цябе горыч,
Хлусні саладжавай патака.
Табе падуладная, Горлач,
Законнейшай славы граматыка!

*9 студзеня*

9.30 — звон Акімушкіну. Змест вечара прадумаць. На Галоўпаштамт.

*10 студзеня*

Галоўпаштамт. 12.00 — Рэм Нікіфаровіч.

2) У Сашы Костылевай. (Цітоў[2] «Усім смярцям на злосць»).

1) 19.00 — бібліятэка імя Янкі Купалы (вечар, запіс па тэле). [Гас.] «Мінск», 6 паверх [рэстаран]. Карлас [Шэрман]. Саша.

*11 студзеня*

2) Звон на працу.

1) Абутак (рамонт).

14.00 — на радыё. У «Бярозку». Звон Бурсаву.

Забраць барахло з хімчысткі.

---

[1] Горлач Л. (сапр. Каваленка Леанід Нікіфаравіч; н. 1941), украінскі паэт, празаік, грамадскі дзеяч.

[2] Цітоў Уладзіслаў Андрэевіч (1934–1987), рускі пісьменнік (г. Луганск, былы Варашылаўград, УССР). «Всем смертям назло…» (1967), аўтабіяграфічная аповесць былога шахцёра, які згубіў рукі, калі накрыў сабой успламянёны кабель, каб пазбегнуць выбуху. Лаўрэат Усесаюзнай камсамольскай прэміі імя «Маладой гвардыі», Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Г. Шаўчэнкі (1981).

*12 студзеня*

На працу. На тэлестудыю (мантаж вечара, Акімушкін бойкі). Тэлеграму Калачу [Калачынскаму] (д. 17]30, кв. 75). 18.00 — клуб СП. Г. Бураўкін. Амерыканскія ўражанні[1].

2) 36-65-52 Рэм [Нікіфаровіч] (запіс).

*** Карта Злучаных Штатаў, як парэпаная ў трэшчынах пустэльня. Пустэльня парэпаная, як карта Злучаных Штатаў.

*13 студзеня*

11.00 — Радаслаў Андрэевіч Александровіч (Пушкін [у перакладзе А. Александровіча]). Броўку (наконт сустрэчы з Рэмам [Нікіфаровічам]). Някляеву бацьку ў клініку (солі). Шкляру [Шклярэўскаму], Элькіну звон. Да Шрамякова. Каламіец — слоўнік.

2) Ірыне [Сляповіч] (анатацыі).

На Свярдлова (чай).

*Адаму Мальдзісу*

Дарадца, сябра дарагі,
Шаноўнейшы Адаме!
Хай нашай дружбы берагі
Лёд не ўкуе.
А даме,
Што Славаю сябе заве,
Мы пасміхнемся хітра.
Скарб, як падтэкст,
У галаве,
Чыны й пасады — цітры.
Экран гісторыі для ўсіх.
Не густа з гледачамі.
Свет бачым прашчураў сваіх
Цікаўнымі вачамі.
Ты з балтамі славян хаўрусь,
Хай думка не абвяне.
Жыць будзе наша Беларусь,
Пакуль жывуць славяне.

*14 студзеня*

У выдавецтва (Салтука на машынку). У «Бярозку». Звон Бурсаву, Элькіну, Літфонд (пуцёўкі ў лес — Каралішчавічы). 18.30 — клуб (кафэ) СП — вячэра Міхаіла Калачынскага.

---

[1] У 1976 г. Г. Бураўкін удзельнічаў у рабоце XXXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (ЗША).

*Экспромт у застоллі*
*Міхася Калачынскага*

Вырву бараду да кузлачынкі
І да градусаў зраблюся злей,
Раз сягоння любы Калачынскі
Адзначае круглы юбілей.
Пляшкі, як таланты, адкрываем,
І відэльцы ўвішней ад пяра.
Жыць жадаем з чаркай, караваем,
Дату здвоіць і забіць бабра!

*Кафэ СП*

*Галіне Васілеўскай*

Дарагая Галя!
Гадоў ніколі не лічы,
Як хлопцаў тых, што — талакою.
Сляпі Маланкаю ў начы,
Вясней галінкай трапяткою.
Замкнуўшы сум, згубі ключы,
Хай весялосць сяброўкай будзе.
На «Волзе» да Пятра[1] імчы,
Едзь у прабабкі на вярблюдзе.

*Кафэ СП*

*15 студзеня*

Тэлеграму Галі Васілеўскай, ліст [паштоўку] Лайме Winonen[2], Гунару Прыедэ[3] ліст (і кніжку). Да Шрамякова ў майстэрню. Лосіку лапкі ў рамонт.

*16 студзеня*

Да Шрамякова (майстэрня). Да Міхайлоўскай. Калабку [Чарняўскаму] — дзень нараджэння.

Марыя Рыгораўна [Трафімава; сустрэць [ з Ушач!

2) Ліст Льву Гаўрылаву.

---

[1] Любага Пятра Савельевіча (*заўв. Р. Барадуліна).* Васілеўскі Пятро (Пётр Савельевіч; 1922–2002), беларускі празаік, драматург, рэжысёр, сцэнарыст. У 1953–1988 гг. рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм». Муж Г. Васілеўскай.

[2] Вінанен Лайма, латышская перакладчыца.

[3] Прыедэ Гунар (1928–2000), латышскі драматург. Народны пісьменнік ЛатвССР (1988).

*17 студзеня*

Запіс на радыё. (Раніцай) паўстаронкі тэксту (уступу) і вершы. Білет на аўтобус. 17.30 — правесці Марыю Рыгораўну [Трафімаву]. Ілонку на музыку.

2) Рэму [Нікіфаровічу] — старонку (пра Броўку). Радаслаў [Александровіч]. Літфонд. Асіпенку (наконт Дашкевіча).

*18 студзеня*

Звон Шкляру [Шклярэўскаму]. У лес! Пазваніць Спрынчану[1]. Ліст Салтуку. З рамонту ўзяць боты Зайчыку.

2) Міхайлоўскай. Стрыжак. Звон Пімену [Панчанку].

*19 студзеня*

Раніцай Броўку наконт мастака ягонай кнігі «Разам з камісарам». Салтука на машынку. Анталогія беларускай паэзіі на англійскай мове.

2) У Спрынчана [Б.] пераклад. Хомчанка (на радыё для малодшых школьнікаў).

*20 студзеня*

У Мінск (Салтука на машынку). З Вірынеяй Пятроўнай [Жыжэнка] наконт мастака Броўку. Звон Бубнаву, Спрынчану [Б.]. У «Эры» [маг.] купіць лямпачкі для настольніцы. Бухгалтэрыя «Полымя». У лес.

*21 студзеня*

Падагнаць свае вершы з чарнавікоў. Венгры. Звон у Мінск. Дачытаць Фолкнера[2]. Узяць дома латышоў (!). Парадкаваць «Абсяг»[3].

*22 студзеня*

З Васілём [Зуёнкам] змест «Озеро у горизонта»[4]. Правесці Васіля. Блакноты і вершы з Дубултаў. Заяц!

2) 16.00 — перадача — Сіпакоў «Веча [славянскіх балад]»[5].

*23 студзеня*

Перадрукаваць начыстую венграў. Пазваніць у Мінск Артуру Вольскаму. *А што за радасць — зара даець?*

[1] Магчыма, Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт і перакладчык. У 1966–1991 гг. заг. аддзела паэзіі час. «Неман».

[2] Фолкнер Вільям (1897–1962), амерыканскі пісьменнік.

[3] Барадулін Р. Абсяг. Мінск, 1978.

[4] Бородулин Р. Озеро у горизонта. М.: «Художественная литература», 1979. Оформление Б. Заборава.

[5] Сіпакоў Я. Веча славянскіх балад. Мінск, 1973.

2) «Руслан і Людміла» паглядзець[1].

*Што дадатнаму дадаць?*

Ён не пакрыўдзіў муху
І пеўня не зарэзаў,
І пораху не нюхаў,
Не кланяўся жалезу.

Кос не кляпаў,
Затое
Ззаўха кляпаў на друга
І чэрава сытое
Напхаць стараўся туга.

У справе асабістай —
Станоўчы, дабрачынны.
Анёл пароды чыстай —
Адно дадаць магчыма!

*Караліўчавічы*

*24 студзеня*

Яшу [Серперу], Генку [Гарбуку] (наконт паездкі ва Ушачу). Салаўю — венграў! На машынку П. Броўку («Дзень паэзіі»).

Стрыгалёў, Горлач.

2) 14.00 — бухгалтэрыя тэле. Наконт «Руслана і Людмілы».

Правіянт у лес!

*25 студзеня*

Пераклады з Тамары Каламіец «Беларуская падборка». Ліст і паметкі ў змесце Элькіну.

Унесці праўкі ў карэктуру Бурсава[2].

*26 студзеня*

На працу. Здаць карэктуру Бурсава. Салтука — на падлік[3] [памеру рукапісу]. Дахаты. Да Зайца.

«Што было б тады б, калі б» — перадрукаваць!

---

[1] Пераклад А. Александровіча паэмы А. Пушкіна.

[2] Бурсов И. Грамота лет. Минск, 1977.

[3] Салтук А. Працяг. Мінск, 1977.

*27 студзеня*

Падагнаць перадрук «Ці пазяхае бегемот»[1]. Венграў у Мінск. Звон Гамолку[2] і Тацяне Кузьмінічне [Іваніцкай]. («Литературная Россия», Латвія. Юбілей Ķempe[3]).

*28 студзеня*

Пазваніць Гарбуку (наконт паездкі ва Ушачы). Перадрук «Ці пазяхае бегемот?».

*29 студзеня*

«Ці пазяхае бегемот?» (усё да толку). Да толку венграў (Антал Гідаш[4]).

*30 студзеня*

Звон у Мінск! Узяць дома «Мех шэрых, мех белых» [1963], «Экзамен» [1969].

*31 студзеня*

У Мінск. Здаць у набор Салтука. Разлічыцца з машыністкай. 6 паверх [рэстаран гас.] «Мінск». 16.30 — клуб СП (творчы вечар Артура Вольскага).

*1 лютага*

Дадаць пяць эпіграм у «Прынамсі». Занесці Броўку карэктуру. Да Фамы Фаміча [Караткевіча]. Звон Элькіну і Шкляру [Шклярэўскаму], Навуму [Кісліку]! У лес.

2) 9–10.00 — (Артур [Вольскі]) далоў 5 — 6 вершаў[5]. Аўтарскія правы. 14.10 — да Лучанка (кв.104).

*2 лютага*

Здаць Салтука. Заяву Льву Салаўю (Вазнясенскага зборнік[6]). Законнікаву (гасцініца ва Ушачах).

Купіць праяздныя! У Міністэрства культуры. У лес. Каламіец — нізку перакласці.

---

[1] Барадулін Р. Ці пазяхае бегемот? Мінск, 1981.

[2] Гамолка Мікола (Мікалай Іванавіч; 1922–1992), беларускі паэт і празаік. У 1970–1980 гг. літкансультант СП БССР.

[3] Кемпе Мірдза (сапр. Найкоўская; 1907–1974), латышская паэтэса. Народная паэтэса ЛатвССР (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1967).

[4] Гідаш Антал (1899–1980), венгерскі пісьменнік.

[5] Вольскі А. Ізумрудавы горад, дзе ты?.. Мінск, 1977.

[6] Вазнясенскі А. Небам адзіным. Мінск, 1980. Пер. Р. Барадуліна.

*Барысу Казанаву*[1]

Ваўку марскому з Магілёва —
Казанаву Барысу
Жадаю шчыра літулова
І танажа — па рысу!

*Каралішчавічы*

*3 лютага*

Звон у Мінск. У выдавецтва, аўтарскія правы. Бярозкіну даручэнне. Дамоў — машынку і барахло. Ліст Тамары [Каламіец] і Льву Мікалаевічу [Гаўрылаву]. Навуму [Кісліку] (каб пераклаў прысвячэнне мне Пімена [Панчанкі]).

*4 лютага*

На Мінск! *Ілоне палітон* («Дзіцячы свет»), паштовых набораў купіць (Галоўпаштамт) Элькіну! «У падводы»![2] Навуму [Кісліку], Бубнаву з Міхальчуком («Руслан і Людміла»).

16.00 — ад'езд з Яшам [Серперам] на Ушачы! Камароўка — кветкі. Ласю — палітон.

*5 лютага*

*[Ушачы.]* На магільнік. Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. У кнігарню, у раймаг. 19.00 — вечар выпускнікоў. Вячэра.

*6 лютага*

Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. Да Гарбукоў (даведацца наконт прававога боку). Ад'езд на Мінск.

Куляшу [Куляшову] — дзень нараджэння. Васілю [Зуёнку] (рэкамендацыю Салтуку).

*7 лютага*

У выдавецтва (тэкст подпісаў да фота 4-га тома [Броўкі]). 9.00 — да Броўкі. Аэрапорт (каса). На машынку змест Салтука. Дазваніцца Бурсаву. Да Міхайлоўскай (перадрук). На Маскоўскую. У ЦУМ. Звон Адміралу [Вялюгіну].

---

[1] Казанаў Барыс (сапр. Лапіцкі Барыс Міхайлавіч; н. 1938), рускі празаік, сцэнарыст. Прафесійны марак (у 60-х гг.). Да 1982 г. працаваў у прэсе, на Беларускім радыё і тэлебачанні. Жыве ў ЗША.

[2] Гл.: У падводы (25.01.77) // Абсяг. С. 130.

*8 лютага*

Караткевічу (грошы). Дазваніцца да Вялюгіна. Бураўкіну (звон). На радыё (рэкамендацыя В. Лукшу). Да Чыгрынава (СП). 16.0 — Бюро секцыі паэзіі. 20.00 — вечар Макаёнка (Купалаўскі [тэатр]).

*9 лютага*

Да Фамы [Караткевіча] (сазваніцца). 10.00 — Ф. Гурыновіч[1] (вершы прынясе). Падпісаць у друк Ал. Емяльянава. Да Шрамякова (у майстэрню). З Заборавым («Озеро [у горизонта]»).

*10 лютага*

Звон фельдкуратару (Блатун). Дашкевіча (рэцэнзію Вялюгіну). Вершы — Каламіец, Салтуку. 10.00 — Карласу [Шэрману] (Гільен) 39-40-13, 39-40-42. Мастакам — фота Салтука. У «ЛіМ», дазванііцца да Пашкова, Шрамякову. Ліва [Ліваносава] (наконт Лосіка). 14.00 — выезд у *Крупкі* (вечар Калача [Калачынскага]).

*Міхасю Калачынскаму*

Хай ляжа шлях ля самых зор,
Крок стане спорны,
Позірк рупкі,
Папросіцца ў радок Бабёр,
І на Парнас прыступкі —
Крупкі.

*11 лютага*

У Кісі [Журовіча] дзень нараджэння. Ліве [Ліваносавай] здымак (рэнтген Лосіка). Грыгору Крыўдзе[2] — «Анталогію [украінскай паэзіі]», зборнікі. На працы (са зборнікам «Прынамсі»). Звон Петрусю Усцінавічу [Броўку] (калі сустрэча з Рэмам [Нікіфаровічам]?).

*12 лютага*

На Камароўку! Кнігі на Жытоміршчыну. 18.00 — сустрэча ў школе № 26[3]. Звон Зуёнку («Абсяг»).

Як быццам шырэйшыя сталі ілбы,
Цяжэйшыя ўдары ранетаў, антонаў.

---

[1] Гурыновіч Хведар Хведаравіч (н. 1950), беларускі паэт. Працаваў на электратэхнічным заводзе, у рудупраўленні, на рамонтна-механічным заводзе ў Салігорску.

[2] Крыўда Грыгорый Федасеевіч (1923–1997), украінскі паэт, празаік, перакладчык.

[3] У школе № 26 вучылася дачка Ілона.

*13 лютага*

На Камароўку. Шрамякову звон, Лосіку білеты ў кіно. Еўтушэнку — зборнік Нэруды (і іспанскі арыгінал).

*14 лютага*

Да Мальдзіса (353). Падпісаць у друк Астрэйку[1], у набор Салтука. Пераклад Хрусцялеўскага. Рэму, каб [падказаў] Додзіку [Сімановічу] ([напісаць] рэкамендацыю Салтуку). 14.00 — чакаць Шрамякова дома. 17.00 — да Броўкі. Да Лівы [Ліваносавай] (фота).

*15 лютага*

Рэму [Нікіфаровічу] (Додзік [Сімановіч], Паптонеў). Някляеву, Зуёнку, Навуму [Кісліку], Мальдзісу. Да Віктара [Шрамякова] ў майстэрню. Да Навума (Ігар Шклярэўскі). Занесці Ліве [Ліваносавай] здымак Лосіка. Звон у неадказ.

*16 лютага*

На працу! Падпісаць Алеся Емяльянава. [Званіць] Элькіну і Бурсаву, Лукшу, Казіку [Камейшу].

*17 лютага*

Хрусцялеўскага! Ліст Лёню Хаўставу[2] (Ахматаву). Ан. Шаўню (у «Беларусь»). Да Адама [Мальдзіса] (выверыць пераклад). У Літфонд (наконт лесу). На радыё (калі запіс) Вялюгіну, Навуму [Кісліку], ліст Ваню [Бурсаву].

*18 лютага*

На радыё (лірыка, гумар). Да Навума [Кісліка] (адабраць зборнік «Свята пчалы»[3] [для перакладаў на рускую мову]. Прыходзьку — Хрусцялеўскага[4]. Да Чыгрынава (заяву на жыллё). 15.00 — сустрэча з Кісялёвым[5]. 19.00 — сустрэча з работнікамі ЦК.

*19 лютага*

Бярозкіну «Небо твоих очей». Да Навума [Кісліка] (адабраць для «Советского писателя»).

---

[1] Астрэйка А. Зямная Случчына. Мінск, 1977.

[2] Хаўстаў Леанід Іванавіч (1920–1980), рускі паэт, перакладчык.

[3] Бородулин Р. Праздник пчелы. М.: Советский писатель, 1980. Пер. Н. Кислика.

[4] Хрусцялеўскі Т. Па слядах майго дома. Мінск, 1977.

[5] Кісялёў Ціхан Якаўлевіч (1917–1983), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. З 1959 г. старшыня СМ БССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1977).

*20 лютага*

17.00 — ДА (начальнік Дома афіцэраў). Падрыхтаваць латышоў для лесу. Звон Вялюгіну, Сёмуху, Васілю [Зуёнку].

*21 лютага*

Да Зуёнка. Звон Жолдаку. 10.00 — Купалаўскі [тэатр], «Шрамы»[1]. Да Навума [Кісліка] (узяць зборнік). У Літфонд (пуцёўку ў лес). 19.30 — Стрыжак (вячэра). Алей шыпшыны і гастрафарм.

*22 лютага*

«Руслан і Людміла» Міхальчуку. Міхайлоўскай рукапіс. 15.00 — тэлебачанне — запіс. 16.00 — Лечкамісія (Лосік). Вычытаць карэктуру[2] Калача [Калачынскага]. Дадаць 8 вершаў Салтука.

*23 лютага*

Паўлаву (перанесці Навума [Кісліка]). Да Навума. Да Міхайлоўскай (на перадрук).

У лес. 17.30 — «Акуляры» Валя.

*24 лютага*

Перадрук рэшткаў свайго зборніка. Прыкладны змест. Латышы. Міхася Герчыка і Жука[3] прывітаць «Белавежай».

*25 лютага*

На працу. Бураўкіну Салтука («Пачатак дня» і рукапіс). У «Бярозку». Да азербайджанцаў! 15.00 — СП. Прыёмная камісія (Салтук, Пашкоў). Звон Шабану. Салтуку — тэлеграму.

*26 лютага*

Да Шрамякова ў майстэрню. На 16-ты нумар і ў лес! Вычытка «Абсяга».

*27 лютага*

Звон Зуёнку. Змест «Абсяга». Лісты Элькіну і Салтуку. Пераклады з Каламіец.

---

[1] П'еса Я. Шабана.

[2] Калачынскі М. Суквецце: Выбранае. Мінск, 1977.

[3] Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік і перакладчык. У 1974–1977 гг. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура», у 1977–1979 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978).

*28 лютага*

Наконт [піянерлагера] «Арлёнка». Знайсці дома А. Веяна, падборку для [час.] «Звезды Востока», здаць «Абсяг» (рэгістрацыя), дзіцячы [зборнік] ўзяць у лес. Луканскай[1]. Да Бураўкіна (вершы Салтука). Званок Бурсаву. Да Навума [Кісліка].

*1 сакавіка*

«Ці пазяхае бегемот?» Падрыхтаваць пераклады Тамары Каламіец. Ліст Салтуку. Звон Васілю Зуёнку.

*** Гарэлка на дарослага ў літрах на чалавека:

1970 г. — 25, 1975 г. — 37,
1971 г. — 26,5, [1977 г.] — 51 л.
1974 г. — 33.

*2 сакавіка*

Міхайлоўскай — перадрук. Звон на радыё. Адабраць вершы для «Амплітуды смеласці»[2], Бечыку[3], «Мех шэрых, мех белых» — узяць у лес «Латышска-рускі [слоўнік]», свэдэр! Гніламёдаў[4].

*3 сакавіка*

Звон Зуёнку, Віктару [Шрамякову]. Закончыць «Ці пазяхае бегемот?». Передрукаваць пераклады з Тамары Каламіец. Анатацыю «Ці пазяхае…». У Шаха [Шахаўца] даведацца наконт Вінагорава. Падрыхтаваць экзэмпляр Каламіец для радыё.

*Тамара Каламіец*

*Каб на зямлю апаў нанова ліст*

Рыгору Барадуліну

Чытаю так, нібы вучу урок.
О не: так прагна толькі п’юць з крыніцы.

---

[1] Луканская Эмілія Пятроўна, беларуская журналістка, карэспандэнт газ. «Знамя юности» і «Комсомольская правда».

[2] Барадулін Р. Амплітуда смеласці. Мінск, 1983.

[3] Бечык Варлен Леанідавіч (1939–1985), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1972–1981 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Малежа (1987, пасмяротна).

[4] Гніламёдаў Уладзімір Васілевіч (н. 1937), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. З 1976 г. нам. дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, з 1977 г. адначасова заг. аддзела тэорыі літаратуры. Доктар філалагічных навук (1987), член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996).

Крыляе ў сэрца за радком радок,
Каб ва ўкраінскай мове адрадзіцца.

Каб на зямлю апаў нанова ліст,
У набалелым сэрцы пераспелы.
О, гэты сіне-зіхатліва-белы
Палон радка ці братняе зямлі!

Як вынайсці дакладны пераклад
Адзінага, як заклінанне, слова?
Ды ўжо скрозь дождж і колкі снегапад
Услед за ім да стомы йсці гатова…

А ці ўзыду на мужны перавал,
Ці падымуся да твайго сабора?
Але іду! І слова шчыры пал
Падобны трапяткому медазбору.

О Беларусь, твой спеўны гукапад —
Сугучна так! — мая адчула мова.
І мне здаецца, што ў тваіх радках
Я і сама з’яўляюся нанова.

Як светла мне — шукаю і не сплю.
Як думна мне — гукаю і шукаю.
Да сэрца прытуляючы зямлю —
Перакладаю. Крочу. Ўваскрасаю.

*Пераклад Яўгеніі Янішчыц*[1]
[час. «Полымя». Без даты]

*4 сакавіка*

Дубянецкі[2] Міхаіл Фёдаравіч (дзень нараджэння). Да Шрамякова. Русецкаму (што паставіць [у план]). Міхайлоўскую знайсці! Адабраць з «Прынамсі» для «Маладосці», для «Вожыка» (кніжачку).

*5 сакавіка*

На працу. Аўрамчыку (каб перадрукаваў верш). 10–11.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. Звон Чыгірыні [Чыгрынаву] (басейн Лосіку).

---

[1] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. У 1976–1983 гг. літкансультант «Сельскай газеты». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1986).

[2] Дубянецкі Міхаіл Фёдаравіч (1927–1990), беларускі перакладчык. У 1975–1979 гг. адказны сакратар, нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелСЭ». Прысвечаны яму верш гл.: Кнігары (2.11.78) // Вечалле. С. 77.

*6 сакавіка*

!

Вялюгіну звон. У лес!

Лосіку падаруначак.

*7 сакавіка*

Перадрукаваць вершы для «Дніпра» [украінскі час.]. «Юбілейнае бюро даведак» (для «Дня паэзіі-77»). Прывітанне купалаўцам і па тэлефоне Уладамірскім[1].

*Сяргею Дзяргаю*[2]

І — «Крэмень аб крэмень»,
Хай думка світае.
Яна непагасная,
Іскра святая!
І — «Свята ў будзень»,
Хто стомы не знае.
Яна трывалейшая,
Слава пазная!

*Заўсёды — за!*

Н. Г.

Ён за любыя суцяшэнні!
З рукой узнятай спаў бы так,
Каб не крануць і ў сне кішэні,
Каб свой не выпусціць пятак!

*8 сакавіка*

Звон Зуёнку, Чыгірыні [Чыгрынаву].

Пераклады з Андрыса Веяна. Прыкінуць зборнік на здачу (Грахоўскага[3]).

Для Бярозкіна пра Будана [?].

[1] Уладамірскі Барыс Уладзіміравіч (1923–1991), беларускі акцёр. Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Заслужаны артыст БССР (1970). Уладамірскя Галіна Іванаўна, беларуская актрыса, рэжысёр.

[2] Дзяргай Сяргей Сцяпанавіч (1907–1980), беларускі паэт і перакладчык. Аўтар зборнікаў «Крэмень аб крэмень» (1958) і «Свята ў будзень» (1964). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964).

[3] Грахоўскі С. Лірыка. Мінск, 1978.

*9 сакавіка*

9.30 — да Петруся Броўкі. Салаўю — М. Ціханава. 11 гадзін — Валерый Маслюк[1] (у выдавецтве, вершы, ушацкі). 14.00 — на радыё. Каламіец вершы. Валю Лукшу — ягоныя вершы.

*10 сакавіка*

Слова пра хлеб для «Знамя юности». У Мінск. Падпісаць у друк Калача [Калачынскага]. Звон Навуму [Кісліку], Калабку [Чарняўскаму], Бураўкіну. Для «Звезды Востока» [час.] (падборку).

*11 сакавіка*

Веян! Падрыхтаваць падборку для Бураўкіна. Дазваніцца да Тацяны Кузьмінічны [Іваніцкай].

*12 сакавіка*

Пазваніць Лосіку. Лівіу Даміан («Света»).

*13 сакавіка*

Ад'езд у Мінск з лесу! Шрамякову звон. Пятро Кошаль[2]. 16.30 — Бярозкіну і Навуму [Кісліку] звон. Звон Святлейшаму [Броўку].

*14 сакавіка*

11.00 — у Бярозкіна (вершы, «Аист [на крыше]»[3]). Тацяне Кузьмінічне [Іваніцкай] грошы на білет. Да Бураўкіна (падборку). Рамантыкі (вершы Наташа Крэша [?]). 15.00 — [вул.] П. Глебкі, 88, Інстытут удасканалення настаўнікаў. ! Артапед (Ілонку) 22-02-85, Яўген Францавіч.

*15 сакавіка*

10.00 — да Бярозкіна (пераклады). Да Міхайлоўскай. Навуму [Кісліку] (стужку для машынкі).

У «Беларусь» (у Русецкага ўзяць рэшту вершаў).

*16 сакавіка*

Даведацца наконт Пашкова (план-79). Здаць Грахоўскага ў набор. У «Дзень паэзіі-77» — гумар. 16.00 — на тэлестудыю (Чарнушэвіч [Аляксандр], 4 паверх, 1 пакой).

---

[1] Маслюк Валерый Васілевіч (1953–2001), беларускі рэжысёр, драматург, паэт. Студэнт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).
[2] Кошаль Пётр Агеевіч (н. 1946), рускі паэт. Студэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага.
[3] Бородулин Р. Аист на крыше. М., 1966.

*17 сакавіка*

9.00 — Рэму [Нікіфаровічу] да Пастухова. 10.00 — Забораву званіць 36-34-44. 10.00 — [газ.] «Піянер Беларусі» («Кніжкіны імяніны»). 10.30 — Віктару Рабкову[1]. На вуліцу Сталетава (кватэра). Лісты ў Ташкент і Алма-Ату. 23.30 — на Гродна.

*18 сакавіка*

12.00 — Грачанікаву ў «Вясёлку» звон. 15.00 — на тэле (да Чарнушэвіча). 16.00 — секцыя паэзіі. Майскаму[2] 33-49-82 (Ілона, басейн).

*19 сакавіка*

Забораву 36-34-44. Шрамякову звон. Сёмуху (наконт Андрыса Веяна).

*20 сакавіка*

22.31 — на Маскву (10-ты вагон). 6 вечара [кафэ] «Журавінка» (банкетная зала. Хведару [Жычку] — 50).

* * *

У вечнасці возьмем пазычку,
Пазбавіўшы класікаў сноў,
Скланяючы Жычку,
                                        па жычку
Асушым, напоўніўшы зноў!

*Кафэ «Журавінка»*

*21 сакавіка*

*[Масква.]* Да Бурсава, у «Художественную литературу», «Литературную газету» (Залатухіна). 15.00 — у Верчанкі ц/у[3]. 19.00 — вечар у ЦДЛ[4]. 2.05 ночы на Алма-Ату!

*22 сакавіка*

*Алма-Ата!*[5] 11.00 (мясцовы час) — адкрыццё «круглага стала». 3 гадзіны — другая частка (выступленне Я. Еўтушэнкі).

* 1) 56 год, тыражы.

2) Хто перакладаў — Ахматава, Еўтушэнка.

---

[1] Рабкоў В., супрацоўнік Дзяржаўнага Гістарычнага музея.

[2] Майскі Аляксандр Пятровіч, беларускі журналіст.

[3] Ц/у — «цэнныя ўказанні».

[4] Маскоўскі Цэнтральны дом літаратараў.

[5] Гл.: Сакавік (23.03.77, Алма-Ата) // Вечалле. С. 216.

3) Вялікі вялікага прапагандаваў, пра Джамбула[1] ўпершыню з Купалы.

4) П. Нэруда пра Еўтушэнку, Ахмадуліну[2].

5) Паэтаў толькі паэт [перакладзе].

6) І празаікаў таксама варта, каб празаікі [перакладалі].

7) Не ў атрыбутах і слоўцах, а спецыфічным светаўспрыманні.

8) Не так гучыць у перакладах, гэта складана, калі на моўных тонкасцях — занава трэба ўзнаўляць.

9) Луконін у аэрапорце [чытаў] ўрыўкі са «Сцяга брыгады» [Куляшова].

10) Грузія традыцыйна высокая місія паэта — Пастарнак. Забалоцкі[3].

Навошта блізкія мовы? — а для развіцця (Пушкін, Лермантаў). Брусаў[4] [пераклаў] «Зламаныя сосны» [Райніса], было потым шмат [перакладаў] і будзе, але важна, што звярнуў увагу. Калі слаба, што папяроваму каню шаргункі падвешваць.

Варта, каб беларускія кнігі на Украіне [прадаваліся] і наадварот. Польскую магу [купіць], а ўкраінскую — не. Кайсын Куліеў у арыгінале Мухтара Ауэзава[5] [чытае].

Камунікатыўнасць сучаснай мовы бясспрэчна, але для перакладаў трэба сакавітая, пранікнёная мова.

Гётэ ў перакладзе Жукоўскага[6]. Чабану[7]: «Нішто так не старэе, як пераклад». Паэт — паўпрэд. Пушкін прадстаўляў роўнага сабе Міцкевіча[8].

У самалёце з Краснаярска мне чытаў Канст. [?] Ісаакяна. Горкі[9] Купалу [перакладаў]. Райніс. Людзі — зорная памяць вечнасці, Сусвету. Шагінян пераклад. «Ветразь» [Лермантава] 25 перакладаў.

Нацыянальны паэт павінен увесь час так пісаць, каб чытач меў патрэбу чытаць яго, бо вакол мора цікавых кніг. Канкурэнцыя!

---

[1] Джамбул Джабаеў (1846–1945), казахскі паэт-акын. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[2] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі Прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004).

[3] Забалоцкі Мікалай Аляксеевіч (1903–1958), рускі паэт і перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

[4] Брусаў Валерый Якаўлевіч (1873–1924), рускі паэт, празаік, крытык, перакладчык.

[5] Ауэзаў Мухтар Амарханавіч (1897–1961), казахскі пісьменнік, літаратуразнавец, фалькларыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949), Ленінскай прэміі (1959).

[6] Жукоўскі Васілій Андрэевіч (1783–1852), рускі паэт і перакладчык.

[7] Чабану Іон Канстанцінавіч (1927–2001), малдаўскі пісьменнік. Народны пісьменнік МССР (1984).

[8] Гл.: Адаму Міцкевічу (24.08.73, Кактэбель) // Свята пчалы. С. 327.

[9] Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

Паэт спачатку цягне нацыю, а пасля нацыя (зорная памяць) — Пушкін. Абай Кунанбаеў: «Хаця навучыся пасці авечак».

Інстытут народаў Усходу ў Маскве. Добра. А калі б аддзяленне, к прыкладу, у Душанбе? З Разані цяжка фарсі [вучыць].

*Еўтушэнка: «*Раненость болью других народов. Одно свободолюбие поймёт другое. «Удалую грянули на помин души». Сострадание, взаимострадание — корни интернационализма. От армии Спартака[1] до интернациональных бригад в Испании.

Национальные традиции — ветер вечности. Народность не может быть реакционной. И колыбельные, и песни борьбы на разных языках, но дух… Величие нации определяется величием её культуры.

Олжас [Сулейменов[2] пишет] по-русски, но с казахской незаёмной душой. Разница национальных традиций необходима».

Таджик — араб, говорящий на персидском, конный разбойник.

*23 сакавіка*

10.00 (маскоўскі час) — працяг. Выступаць трэба. Збор у Алімжанава[3]. 3.00 (м. ч.) — сустрэча ў ЦК з Кунаевым[4]. 14.30 — Палац спорту — вечар паэзіі.

**Айтматаў*[5]: «Паэт павінен мець свой аценяльніка, а не чытачоў проста».

*Пагасян*[6]: «Любіць лягчэй, чым ведаць».

У прэзідыуме акын зняў пантопель, тоўстыя шкарпэткі, чэша падэшву, спакойна, як дома.

*Іраклій Абашыдзе*[7]: «Не подражать, а продолжать — вот в чём традиция».

---

[1] Спартак (?–71 да н. э.), правадыр буйнейшага паўстання рабоў у Старажытным Рыме (73 ці 74 — 71 да н. э.).

[2] Сулейменаў Алжас Амаравіч (н. 1936), казахскі і рускі паэт.

[3] Алімжанаў Ануар (Ануарбек) Турлубекавіч (1930–1993), казахскі пісьменнік. Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру (1969).

[4] Кунаеў Дзінмухамед Ахмедавіч (1911]12–1993), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН КССР (1952). Герой Сацыялістычнай Працы (1972, 1976). У 1964–1986 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Казахстана.

[5] Айтматаў Чынгіз Тарыкулавіч (1928–2008), кіргізскі і рускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік КіргССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі СССР (1968, 1977, 1983), Дзяржаўнай прэміі КіргССР (1976), Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру, Еўрапейскай літаратурнай прэміі (1993). Герой Кыргызскай Рэспублікі (1997). Гл.: Чынгіз Айтматаў // Дуліна ад Барадуліна С. 152.

[6] Магчыма, Пагасян Арташэс Аляксандравіч, армянскі паэт, перакладчык.

[7] Абашыдзе Іраклій Вісарыёнавіч (1909–1992), грузінскі паэт, грамадскі дзеяч. Акадэмік ГССР (1960). Герой Сацыялістычнай Працы (1979).

Саин Муратбеков[1].

*Чынгіз [Айтматаў*]: «Паэты — уладары жывога імгнення».

З ардой скакаў, адзінае вялікай арды, а ўласнага не асталося[2].

*

Выказнік мудрасці і часу,
Паэзіі ўкраінскай дзейнік,
Будзь з вечнасцю на «ты», Алейнік!
І роўны хіба што Тарасу.
*P. S.*
Мой браце дарагі, Барысе,
Смялей за класіку бярыся.

*[1977]*

*24 сакавіка*

Ахіяру[3] — «Белую вежу» [«Белавежскую»]. Гульрухсор[4], Барысу [Алейніку] — кніжкі. Стадыён «Медэо». Абашыдзе — кніжку. Па горадзе.

*** Ташлы Курбанаў[5] (Туркменія), СП Туркменіі (паслаць вершы).

Кожны ў персанальнай клетцы мозга горада, усе ў дамах высокіх ноччу спяць, як у калумбарыі.

*25 сакавіка*

З Ларыным[6] па горадзе. Чакаць Аяна [Нысаналіна]. 16.20 — па курсу на Мінск! На самалёт правесці Барыса Алейніка.

*26 сакавіка*

Мінск! Панчанку — ці паслаў Алейніку «Крык сойкі». Звон Вялюгіну, Зуёнку, Шрамякову.

*** Чуць дома першы гром і першага шпака[7].

*З ледавікоў сляды вякоў.*

---

[1] Муратбекаў Саін (1935–2007), казахскі празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана.

[2] Гл.: Адзін з арды (22.02.79, Дубулты) // Вечалле. С. 210.

[3] Хакімаў Ахіяр Хасанавіч (1929–2003), башкірскі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Народны пісьменнік Рэспублікі Башкартастан (2001). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1985). Лаўрэат прэміі РСФСР імя М. Горкага.

[4] Гулрухсор (Сафіева Гулрухсор; н. 1947), таджыкская паэтэса, празаік, перакладчык. Народная паэтэса Таджыкістана (1999). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола ТаджССР (1976), Ленінскага камсамола (1978), Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (2003).

[5] Курбанаў Ташлі (н. 1934), туркменскі празаік, паэт.

[6] Магчыма, Ларын Веніямін Іванавіч (Іваноў В.; н. 1920), рускі празаік, публіцыст (г. Алма-Ата).

[7] Гл.: Вытокі (19.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 135.

*27 сакавіка*

Да Ігара Лучанка (104 кв.). 2-гі экз. «Абсяга» зрабіць. Пазваніць Бярозкіну *пра Астрэйку* (!).

Самотна чалавеку на планеце
Сабе падобных шанаваць у свеце,
Ствараць багоў,
падобных на сябе.

*

Кароткае ранне,
Як радасці міг,
І доўгая ноч,
Як жыццё для вар'ята.

*28 сакавіка*

Падпісацца на слоўнік. У СЖ фота і анкеты. Да Лучанка (тэкст Броўкі). Шрамякову звон на працу, да Лёлі[1]. 17.00 — дома быць (Стрыжак). 22.30 — Бурсаву карэктуру [перадаць з поездам].

*29 сакавіка*

У Літву «Полымя». Да Рыгора Саламонавіча [Бырозкіна] на працу. З Шэверавым афармленне. У Фрунзенскі РКПБ (характарыстыку). 17.00 — Маслюк (быць дома). Рэцэнзію Яўсеевай[2] аддаць.

*30 сакавіка*

У Доме кіно (пропуск). Шабану (наконт ікры). 14.00 — Бярозкін у выдавецтве. 20.20 — цягнік № 4, вагон 7 (Паўлаў). Да Міхайлоўскай.

*31 сакавіка*

10.00 — Грахоўскі (у выдавецтве). 14–15.00 — у Фрунзенскі РКПБ. 15.00 — Ілонку ў аэрапорце сустрэць. У Саюз журналістаў (характарыстыку). 13.00 — да Броўкі (узяць том).

*Рыгору Шырму*

Пазналі роднай песні шыр мы,
Калі нарэшце зорка Шырмы
Наш асвятліла небасхіл.

---

[1] Алена Міхайлаўна, жонка П. Броўкі.
[2] Яўсеева Святлана Георгіеўна (н. 1932), руская паэтэса і перакладчыца.

Хай Зорка[1] славы на грудзях
Вам у стагоддзі зорыць шлях!

(Пашаны Зорка на грудзях
У юбілеі зорыць шлях!)

*1 красавіка*

Пазваніць Элькіну, Бурсаву. Майскаму (наконт басейна). 11.00 — да Чарнушэвіча (тэле).

19.45 — ля філармоніі: Лучанок, «Песняры»[2].

*2 красавіка*

Вершы і кніжку Ташлі Курбанаву, кніжку — Даларэс. Звон Вялюгіну, Чыгірыні [Чыгрынаву], Зую [Зуёнку].

3 красавіка

Да Вялюгіна (вершы Броўкі).

Дадрукаваць для «Абсяга».

*4 красавіка*

Звон Хелемскаму. 11.00 — тэле (Чарнушэвіч). 12.00 — Юрасю [Свірку] вершы («ЛіМ»). Сустрэча з Вадзімам[3] («Абсяг»). У «Бярозку». Ласю — тап і гадзіннік.

*5 красавіка*

Рукапіс Вадзіму [Спрынчану], верш Лукшы, для Паўла Місько[4]. 12.00 — да Броўкі («Рэкі»[5], «Смаргонскую акадэмію»). У бухгалтэрыю «Полымя». 18.00 — Валерый [Маслюк] з Казіцкім. 19.00 — вечар гайнаўца [Гілевіча].

---

[1] Р. Р. Шырма атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы.

[2] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль, створаны ў 1969 г. пры Беларускай філармоніі. Мастацкі кіраўнік Мулявін Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976).

[3] Спрынчан Вадзім Браніслававіч (н. 1950), рускі паэт і перакладчык. У 1972–1982 гг. рэдактар рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура»; рэдактар зборніка Р. Барадуліна «Абсяг».

[4] Місько Павел Андрэевіч (1931–2011), беларускі празаік і перакладчык. У 1976–1980 гг. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Гл.: Рэкі маёй зямлі (24.07–2.12.76) // Белая яблыня грому. С. 160.

*6 красавіка*

Колю [Казлову] рукапіс «Абсягу». 19.00 — вул. Апанскага, 29, кабінет 40, 3 паверх. Бандэроль ад Бурсава. У «Мутнае вока». Звон Карласу [Шэрману] і Чыгірыні [Чыгрынаву] наконт Карласа.

*7 красавіка*

Пасля 9-ці Алесь Емяльянаў (дома). На радыё: у Казіка [Камейшы] кніжкі. Запісацца па дзіцячай. Купіць яек для Вялікадня. Перадрукаваць пераклады з Андрыса Веяна.

*8 красавіка*

Карэктуру Бурсава звесці. 14.00 — бухгалтэрыя радыё. 15.00 — [вул.] Апанскага (МУС). З украінскім журналістам. Пашкову знайсці сігнал.

*9 красавіка*

Ліст Вольгачцы[1] ў Вільнюс Маргуну[2].

*10 красавіка*

Пасля 4-х да Лучанка (верш Броўкі для песні).

*11 красавіка*

Мікалаю Раманавічу [Казлову] 2-гі экз. [«Абсягу»]. Да Калабка [Чарняўскага] — на сняданне. З Марціновічам — пытанні. Дазваніцца да Яшы [Серпера]. У «Бярозку» да Васіля [Зуёнка].

*12 красавіка*

9.00 — на суботнік (Дом кнігі). У клініку СП (Ілоне даведку). Чыгірыні [Чыгрынаву] наконт Сёмухі.

18.00 — Валерый Маслюк, Казіцкі.

*13 красавіка*

Сёмуху звон (Веян). 13.30 — школа № 26, 10 «Б» клас. 14.00 — да Броўкі.

*14 красавіка*

На тэле для Літа [Галоўліта] 3 лірычныя вершы. У выдавецтва (карэктура IV тома Броўкі). 16.30 — выступіць у «БелСЭ». 19.00 — да Нікіфаровіча (Найдэн Вылчаў).

---

[1] Гурская Вольга (н. 1955), беларуская паэтэса.

[2] Маргун Аляксей Барысавіч, супрацоўнік аддзела культуры газ. «Советская Литва».

*15 красавіка*

10.00 — да Броўкі (подпісы пад фота, Шах [Шахавец]). 13.00 — пані Зосі (ноты «Свята мам»).

16.00 — на тэле з Казіцкім. 19.00 — Міша Крывёнак[1]. 36-62-42 Вілорый Алякс. Казлоў[2].

*16 красавіка*

Наконт кніжкі Юркі[3] (цвёрдая [абложка], квадратная).

Суботнік.

*17 красавіка*

Да Шрамякова. Куранёву[4] званіць.

*18 красавіка*

Звон Куранёву, Элькіну. Да Зуёнка звон (Салтук). На працу (Коля Казлоў). 15.00 — прэзідыум. Прыём у СП. 19.00 — Палац культуры аўтазавода (вітаць лаўрэатаў).

*19 красавіка*

10.00 — на радыё (май), пакой № 16. У «БелСЭ», у ЦУМ. У выдавецтва (Элькіну, Куранёву — звон).

*20 красавіка*

На працу! Міхайлоўскай звон. 18.00 — канферэнц-зала. 19.00 — Дом літаратара. Вечар лірычнага верша.

36-69-75 Маляўка[5] Мікола.

*21 красавіка*

9.00 — Аўтарскія правы — верш на рускай мове. Элькіну, Куранёву. 13.30 — школа № 70 (Іван Курбека). Міхайлоўскай, Навуму [Кісліку] звон. Тамара Фёдараўна [Залатухіна] 292-218-69. Закончыць санеты Бэлы Ахмадулінай.

---

[1] Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч, аднакласнік. Начальнік Віцебскага абласнога ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку.

[2] Казлоў Вілорый Аляксеевіч (1934–2003), беларускі мастак-пастаноўшчык тэлебачання. У 1961–1982 гг. гал. мастак Беларускай рэспубліканскай студыі тэлебачання. Заслужаны работнік культуры БССР (1982).

[3] Свірка Ю. Памятная вярста. Мінск, 1978.

[4] Куранёў Грыгорый (сапр. Хейфец Грыгорый Самойлавіч; 1921–1985), рускі паэт, перакладчык.

[5] Маляўка Мікола (Мікалай Аляксандравіч; н. 1941), беларускі паэт. У 1976–1980 гг. супрацоўнік час. «Вясёлка».

*22 красавіка*

10.00 — на кінастудыю здаць пераклады санетаў. Звон Вялюгіну. Кіеў. 19.00 — вечар нашага выдавецтва.

*З нагоды нядаўняга юбілею*
*[«Мастацкай літаратуры»]*

Нам пяць!
Ці ж гэта значыць,
Што наш узрост дзіцячы?

Хто ў пяць узняў, агораў
Цагліны збору твораў,
Чуў пачаткоўцаў просьбы
І юбіляраў грозьбы,
Лагодзіў знакамітых
І пакваргальна роўна йшоў
Пры не густых лімітах?!

Ну, хто яшчэ сядлаў у пяць
Пегаса як стаенніка?
Цяжэй, вядома, закілзаць
Капрызнага пісьменніка!

Ад двух, калі не да пяці,
Даваць бы іншым аўтарам —
Старыя кашалі плясці
Назойлівым аматарам!

Пагодзіцца любы, што ў пяць
Не маладая праца
Літаратуру выдаваць,
Каб ёй мастацкай звацца!

Гады не сцішаць наш імпэт!
Не маюць нас улегцы
Свой выдавецкі Камітэт,
Масква і нават Лейпцыг!

Мы не прымусім чытачоў
Чакаць у перапудзе.
І, як гаворыць М. Ткачоў:
«Усё ў парадку будзе!»

Наш стогадовы юбілей
Яшчэ зусім не блізкі,
Але глядзець вышэй, далей
Прывыклі мы з калыскі!

*23 красавіка*

Звон Бураўкіну, Вялюгіну. Адабраць маладых і сваё. 15.00 — Уладзімір Мазго.

*24 красавіка*

Вялюгіну — падборкі маладых. 15.00 — Віктар Стрыжак.

*25 красавіка*

Звон — Вялюгіну, Рэму [Нікіфаровічу]. На працу. 14.45 — Вярхоўны Савет (зала пасяджэнняў). Уручэнне знакаў[1] Пімену [Панчанку] (5 хвілін пра Святлова). Панчанку (каб па тэле).

*26 красавіка*

Міхайлоўскай звон. Купіць Лосіньку чамаданчык. 19.00 — «Мутнае вока» (П. Броўка). Узяць карэктуру Сцепанюка.

*27 красавіка*

На Камароўку. 12.00 — абед з мастакамі. У «Бярозку». Калядэнку[2] звон. Пазваніць Хелемскаму. Як з Казіцкім?

*28 красавіка*

Перадрукаваць «Блізкая далеч Радзімы»[3]. 13.10 — да Вялюгіна. На [вул.] Зм. Бядулі. Пазваніць краўцу.

*29 красавіка*

Звон Пашкову, Зуёнку. У выдавецтва: падпісаць IV том Броўкі. Да Міхайлоўскай. Пазваніць Элькіну. Да Навума [Кісліка]. 19.00 — вечар Першамая ў СП.

*30 красавіка*

Гандлёвы цэнтр «Вільнюс», [маг.] «Несцерка», ГУМ (Лосіку прайгравальнік найсці).

*1 мая*

Запрасіць Кісю [Журовіча]. Дазваніцца да Мядзведзя [Пушкарова]. Віця Бялевуш[4].

---

[1] П. Панчанка двойчы быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

[2] Калядэнка Эрнест, беларускі сцэнарыст.

[3] Верш Р. Барадуліна (Полымя. 1977. № 7).

[4] Бялевуш Віктар Афанасьевіч, сын суседа ва Ушачах.

*2 мая*

Звон Навуму [Кісліку], Васілю [Зуёнку], Пашкову. Дзіма Моркаўка. Рэм Нікіфаровіч (4 радкі — рабочыя рукі).

Маці Вялюгіна Мар’я Васілеўна.

*3 мая*

На працу. У хімчыстку. Рэму [Нікіфаровічу] — 4 радкі (рабочыя рукі). Давесці пермяка[1]. 19.00 — узяць вершы ў Вольгі [Гурскай]. Да майстра — забраць штаны.

*4 мая*

10.00 — да Вялюгіна. 16.00 — на кінастудыю. Мядзведзю [Пушкарову] (басейн Ласю).

Бураўкіну (Пашкевіч[2] — Гурская).

*5 мая*

Дазваніцца да Чыгірыні. 13.00 — да Вялюгіна (вершы свае, Прудніка-ва[3] і Ляльку[4]).

У «Беларусь» (Шаўня). У Дом друку. Дазваніцца да Карласа [Шэрмана].

Бандэроль ад П. Пранузы[5].

*6 мая*

11.00 — на тэле (Чарнушэвіч). На машынку частку Пранузы. Мядзведзь [Пушкароў] (Ілонку ў басейн).

*7 мая*

Да Вялюгіна (траўматалогія). Паўлюка [Пранузу] на машынку падрыхтаваць.

*8 мая*

Літоўцам — «Полымя». 12.00 — Вязынка.

---

[1] Стрыгалёў М. Чырвоныя казармы. Мінск, 1978.

[2] Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (1924–2003), беларускі крытык. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1966).

[3] Пруднікаў Павел Іванавіч (1911–2000), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[4] Лялько Хрысціна Аляксееўна (н. 1956), беларуская пісьменніца. Студэнтка філфака БДУ.

[5] Пранза Паўлюк (Павел Кузьміч; 1918–2007), беларускі настаўнік, паэт, перакладчык. У 1945–1978 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскім педагагічным вучылішчы імя Я. Коласа, у СШ № 3.

*9 мая*

Да Вялюгіна (палата № 7). Ціхановічу[1] (каб выступіў па тэле). Да Юхноўскага.

Падрыхтаваць Сашу Чарнушэвічу (фота, зборнік).

*10 мая*

10.00 — на тэле (Чарнушэвіч). Да Вялюгіна. На машынку Паўлюка [Пранузу]. Да Лукшы, да Казіка [Камейшы]. Стрыжак (на ногі [абутак[2]]). Запіс для кіно (16.00).

*11 мая*

10.00 — Каламіец (гас. «Мінск» — № 632). 14.00 Дом літаратара (тэлезапіс). У «Полымя» (карэктуру Броўкі).

*12 мая*

Раніцай на *Віцебск, Докшыцы. Бярэзінскі запаведнік. Ушачы*, «Прарыў». Мяжа з Полацкам, [гас.] «Дзвіна». Скарыны[3] помнік. Музей баявой славы. Нафтабуд.

*Полацк.* Палац шкловалакна.

*13 мая*

*Віцебск.* Абком. Прыём у Шабашова[4]. Пединстытут. Выступленне. На тэлебачанне.

Гасцініца «Віцебск». Вячэра.

*14 мая*

*Крынкі.* Школа імя Міхася Лынькова.

*15 мая*

Да Рэма [Нікіфаровіча] дазваніцца. Да Вялюгіна. Да Навума [Кісліка].

---

[1] Магчыма, Ціхановіч Валянцін Мікалаевіч (1909–1978, Вільнюс), беларускі графік, адзін з пачынальнікаў анімалістычнага жанру ў беларускай графіцы.

[2] Рыгор Іванавіч любіў раздорваць знаёмым абутак, шапкі, шалікі, пальчаткі (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[3] Помнік-бюст Ф. Скарыне ў Полацку (1975. Скульптары А. Глебаў, І. Глебаў, А. Заспіцкі). Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Біблії на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік. Глебаў Аляксей Канстанцінавіч (1908–1968). Народны мастак БССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна). Глебаў Ігар Мікалаевіч (1923–1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Заспіцкі Андрэй Міхайлавіч (н. 1924). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

[4] Шабашоў Сяргей Міхайлавіч, у 1971–1983 гг. першы сакратар Віцебскага абкама КПБ.

*16 мая*

На працу. З машынкі [забраць] Пранузу. Наконт Олі [Гурскай]. Афармленне ў Колі [Казлова]. Звон Клышку. Здаць «Абсяг» з праўкамі. У цырульню.

*17 мая*

Білеты. У Ладуценкі[1] даведку. Багажны аддзел, 2-гі паверх, таварная кантора. Зінаіда Фёдараўна Алексяёнак. 36-29-70 Ядвіга Усцінаўна. 22.33 — на Маскву.

*18 мая*

*[Масква.]* Гасцініца «Метраполь», 2-гі аддзел. 21.00 — на Ленінградскім вакзале.

* [Паездка ў *Фінляндыю, Швецыю, Данію*.] *З грэкаў у варагі*[2]. Ад'езд. Чытаю Цётку пра Фінляндыю. Йонас [Стрэлкунас] глядзіць, што ёсць, Вільня ўспамінаецца. Кандыдат біялогіі [вяртаецца] дамоў. Будаўнік з Афрыкі вяртаецца.

*19 мая*

*У 6 злезлі суседзі. Прачынаецца Йонас [Стрэлкунас]: Labas rytas = Добрай раніцы. Ačiū už dėmesį[3] (за хмару). Пагранічны слуп. Мурлаты пагранічнік. Мясцінамі валуны, нібы ілбамі хочуць прабіцца з зямлі. Фінская таможня. Даўгалыгая фінка пытае пашпарт (please[4]). Стаіць таксіст у форме.

Аддаю Уладзіміравай Цётку, чытаць пра Фінляндыю. У вакне вялізная лістоўніца. Аж не верыцца, што натуральная. Ва Ушачах каля магазіна [такая расла], дзе за хлебам чарга пасля вайны. У Арэхаўне рэшткі лістоўніцы ля карчмы.

Намалявана на шчацэ *Lada.* Рэклама. Алень. Чыгунка. Рэшткі скал. Акуратныя хаткі, дужа стасуюцца да прыроды. Мужчына нешта высявае з сявалкі, ці ўгнаенне хімічнае. Кустоўнік. Нешта накшталт агрэсту. Хлопец з дзяўчынкай падкормліваюць нечым хімічным. Пулятыя сінтэтычныя ялінкі.

Азёры. Бярозкі і хваінкі выскачылі з вады і, каб адчуць пад нагамі цвёрды грунт, стаяць на скалістым грунце. Дзе лес зрэзаны, нізка-нізка пянькі. Чыста ўсё сабрана.

[1] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач паліклінікі СП БССР.
[2] Гл.: З грэкаў у варагі (1.11.77, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 222.
[3] Ačiū už dėmesį — дзякуй за ўвагу (*літ.*).
[4] Please — калі ласка (*анг.*).

*[г.] Kouvola*. Акуратная станцыя. Лес малады, як сад, роўненька пасаджаны, цвітуць хваінкі.

*[г.] Lachti*. Блочныя дамы ці панэльныя. З густам па колерах. Пад рэльеф, пад лес. Дарожныя рабочыя ў яркіх фартухах, маладыя. Дзяўчына таксама. На ўчастачках шчыруе «Беларусь», чырвоненькі трактарок[1]. Хатка ў беразнячку пад чырвонай страхой, як падбярозавік. Стаянка машын і стаянка веласіпедаў.

*Хельсінкі* 13.30. На франтоне рэклама фірм. У цэнтры пустое месца. Фірма знікла ці абанкроцілася. Nummi Nosturi[2], Nummi Kippi. Яшчэ на пероне. Мужчыны і жанчыны ў пальчатках. Холад. Імжака.

Гасцініца «Алімпія». Утульна. Шчыгульна-эканомны нумар на дваіх.

Вітрына спортмагазіна, фірма «Adidas». Усе трамваі ў рэкламах. Каменныя будынкі [узводзіліся] толькі з дазволу Папы Рымскага.

Смольны. Дзяўчына з марской пены. Змена каравула. Помнік Аляксандру II[3]. Забулдыгу нажом. Малако.

*Крэпасць Свеаборг*. Манумент дружбы. Дзяўчына[4]. 1 мая студэнты спрабавалі зрушыць.

Прэзідэнт дэкрэт[5] [аб] незалежнасці ад Леніна атрымаў і адмяніў «сухі закон»[6].

[У] 1971 годзе [пабудавана] царква ў скале лютэранская, купал з медзі, як кст, галёрка ёсць. Акустыка, тут канцэрты[7]. Два браты Салмінен[8]. Лютэране Боскую Матку прызнаюць толькі як жанчыну.

Будзе 12-гадовая школа, фінская, шведская, англійская, нямецкая мовы [вывучаюцца]. З 7-мі гадоў.

Сібеліусу манумент[9] у выглядзе аргана (1961–1967), са сталі; сама плавіла ў выглядзе кары́ [?], памагаў адзін салдат-інвалід, лепшая зваршчыца Фінляндыі Helena Хілтанен, і маска Сібеліуса. Скультар зрабіў сем зморшчын на лобе — 7 сімфоній.

---

[1] Гл.: Вясна ў Суомі (29.10.77) // Вечалле. С. 228.

[2] Прадпрыемства па вытворчасці будаўнічай тэхнікі.

[3] Помнік Аляксандру II (1894) фінскага скульптара Вальтэра Магнуса Рунеберга (1838–1920).

[4] Скульптурная кампазіцыя «Помнік дружбы народаў» (фінска-савецкай дружбы; 1984 ?) фінскага скульптара Анцці Нуванена (1937–2011).

[5] Фінскі Сенат узначаліў П. Свінхувуд. 6 снежня 1917 г. была прынята Дэкларацыя аб аб'яўленні Фінляндыі незалежнай дзяржавай. 18(31) снежня 1917 г. Савет Народных Камісараў РСФСР прызнаў яе незалежнасць.

[6] «Сухі закон» быў адменены ў 1932 г.

[7] Гл.: Царква ў скале (14.07.77) // Вечалле. С. 224.

[8] Дакладней, Суомалайнен Туома і Туомія, браты-скульптары. Галоўны лютэранскі храм Фінляндыі, пабудаваны ў 1969 г.

[9] Скульптар Э. Хілтунен. Сібеліус Ян (1865–1957), фінскі кампазітар.

У лазні Кекканен[1] разбіў лоб.

Помнік ад матак, жонак і сясцёр. 1918 г. грамадзянская вайна. Помнік ад жанчын мужчынам.

Пачатковая школа 6 класаў.

Лютаранскі магільнік і побач крэматорый, кожны аўторак з комінаў чорны дым валіць.

Гід усяляк абыходзіць слова «рэвалюцыя»; «грамадзянская вайна, барацьба», а каго, з кім, каб толькі не ўжываць слова — «рэвалюцыя».

У рэстаране птушкі спяваюць на магнітафоне.

*Штурхель сынка — Хельсінкі. Па цэльсію — Хельсінкі.*

*20 мая*

*Раніцай з Йонасам [Стрэлкунасам] трохі па вуліцах прайшліся. Магазіны позна адчыняюцца. Рытм халодна-застылы. Замарожаныя мазгі фінаў. Маленькі хлопчык з кудлаценькім пудзелем пераходзіць вуліцу. Сабака ірвецца хутчэй. Машына запыняе ход, каб двое перайшлі спакойна. Негр з фінкай бягуць у спорткасцюмах.

«Kansan Uutiset», газета дзвюх партый — ФКП [Камуністычнай партыі Фінляндыі] і Фінскага дэмакратычнага саюза [Дэмакратычнага саюза народаў Фінляндыі]. Рассыльная газета — кожны дзень падпісчыкам на дом. Тыраж 56–57 тыс. (падпісчыкам), а так — 60 тыс. Падпісчыкі — рабочыя, сяляне, рабочыя фабрык, хто падтрымлівае рух дэмакратычнага саюза. Бывае толькі адзін падпісчык, таму рознабаковай робяць і цікавай. 23 рэдактары на ўсю Фінляндыю і 3 па краіне, 3 фатографы, 16 палос. Дужа шырока [распаўсюджаны] прафсаюзны рух. Пастановы ЦК ФКП і пастанова парламента шырока [асвятляла?] АДН [тэлеграфнае агенцтва ГДР ?] і заходнія краіны. У рэдактара сучасны пінжак у елачку, тоўсты, локці са скуранымі накладкамі. Мінімум 1400 марак [атрымлівае], яшчэ менш моладзь [мае] зарплату. Рэдактар 400 марак, сярэдняя 2000, датацыі з боку арганізацый і парламента. Дзяржава праз парламент. Мала супрацоўнікаў і шмат валу. «Калі на пенсію журналісты?» — «Як і звычайныя людзі. 62 — жанчыны, 65 — мужчыны». Ёсць факультэт журналістыкі.

Маладзёжны піянерскі аркестр выконвае невялікую сатыру-песню. Адчуванне рытму, мікрафончык. Святкуем пагадненне Фінляндыі і СССР. Раніцай +5$^0$, зараз +20$^0$, у Маскве +25$^0$. Цяжка быць савецкім, бо наўкол капіталістычны свет, дзе асноўнае — чыстаган. Бальшыня ў чырвоных кашулях, а маленькія ў зялёненькіх, і на іх — чырвоныя гальштукі асабліва ўрачыста-святочна выдаюць. На тэксты Крылова песні «Дзве бочкі»,

---

[1] Кекканен Урха Калева (1900–1986), прэзідэнт Фінляндыі (1956–1981).

«Шчупак, рак і лебедзь». «У нас толькі прэм’ер-міністр па гадзіне гаворыць, а я не магу». Вятрыста, на вечары Таварыства Фінляндыя — СССР.

Супрацоўнікі газеты, там, дзе часопісы друкуюць. Новы экз. «Спутник», самая большая піянерская арганізацыя, 25–26 тысяч, самая вялікая з капіталістычных краін. Кіруюць імі не толькі камсамольцы, але і старэйшыя, на пенсіі. Каб трапіць у піянеры, мусіць прайсці 3 разы, пасля картку для запаўнення нясе бацькам, дзе напісана мэта, задачы. Як бацькі згодны, то прымаюць у піянеры. Вывучаюць правілы, пасля ў піянеры — з 7-мі, у камсамол — з 14-ці. Чырвоны гальштук і пласцінку. Дораць значок «Ленін-60» і фінскі сцяг.

Таварыства [дружбы] пасля вайны на новых асновах пачало працаваць. Песню кракадзіла Гены[1] [спяваюць]. Дамы запрашаюць, бо мужчыны халодныя па аўторках, толькі жанчыны. Калі мужчыны адмаўляюцца, то павінны купіць даме пальчаткі.

Востраў, човен для перавозкі веруючых у кірху.

*21 мая*

*Раніца. Паслаў паштоўкі, і амаль лёгка стала — грошы няма.

У кожным горадзе Дзявочая сцяжына, якая заканчваецца радзільным домам, назва вуліцы. Святліцы для дзяўчат. Маленькія дзверы, замок і маленькае ваконца з сеткай закрачана. Дом фінскі двух’ярусны. Першы жывёла [размешчана] — яна ж і ацяпляла, а другі — самі.

Tullipuomi — шлагбаум. Была рыса горада. Зараз рэстаран «Шлагбаум». Трэба было пошліну плаціць. Востраў вавёрак. Дом Фінляндыі. Арган з электрапераключальнікам, зала на 118 чалавек. Рэгулюецца вільгаць. У зале падпісвалі пагадненне. На камянях пад сівяркам загарадзь на прыслоне.

3 хвіліны спазнення — гадзіна прагула, больш — дзень. 2 тыдні за свой кошт адпачынак, пасля 3-х такіх «адпачынкаў» — ручкай робяць.

«Хуткая» дужа вішчыць. Паведамленне, што клапоцяцца. Можна 10 год вучыцца ва ўніверсітэце. Працуюць і вучацца. Дужа дарагія падручнікі. 10 балаў [ацэнкі]. 10 — самы вышэйшы. 9–10 —11-я класы платныя тут і за ВНУ праграмы для паступлення.

Магільнік праваслаўны. Пад плотам беспрацоўны спіну грэее пад сцяной. Старыя буржуа, здаецца, што нафталінам [патыхаюць]. П’яніцы [просяць] 15 марак, як і беспрацоўныя [столькі атрымліваюць], іх называюць «амерыканскія турысты».

Фірма па жаданню будуе вялікую гардэробную ці лазню. На месцы кар’ера басейн, каб не засыпаць зямлёй. 6 тыс. кватэр пустых, бо дарагія.

---

[1] «Песня кракадзіла Гены» з расійскага мультфільма «Чабурашка»; словы А. Цімафееўскага, музыка У. Шаінскага.

2-павярховыя домікі, вокны ў сад, бо там прыватны ўчастак. Дробныя майстэрні на электрычнасці, каб паветра [заставалася] чыстае. Фірма можа даць кватэру працоўным, якія яшчэ 15–20 гадоў будуць трэба фірме. Пажылым цяжка атрымаць кватэру.

21 год — павінны жаніцца ці выйсці замуж, а то падатак. Вольны шлюб, каб дзеці былі, падтрымліваецца законам. Дзеці на маці, але бацька павінен утрымліваць. Калі на працягу года не памагаецца, прымуспраца — вы на хлебе і вадзе, а грошы на дзяцей.

Студэнтам стыпендый няма. Лепшым — [на] 2 месяцы паездка на стажыроўку ў Англію, Францыю ці куды яшчэ.

Калі дамы цярпімасці, то і для жанчын [трэба адкрыць]. У сейме гэтым пытаннем [займалася] жанчына, пытанне скасавала жанчына. Dipoli (двойчы многа), студэнцкі рэстаран пад дрэва. політэхнічнага інстытута.

*** Дама з крутымі грудзьмі. Кашуля з матацыклістам. Сапраўды смяртэльна з такіх стром спускацца!

Сваёй даступнасцю вядома
Дачка більдзюгі прасціпома.

*22 мая*

*Тэлефон стаіць. З кнопкай, а пазваніць няма куды. Па тратуары паўзе кароўка-багоўка[1]. Прыгрэла.

Дом-музей Сібеліуса. Была глушэча, уцякаў ад шуму, а зараз усе дарогі цягнуцца. Па жолабу нагрэтая вада [ішла] ў ванну. У ванне (маленькай, малагабарытнай) мачалка, тэрмометр. На вуліцы журавель над студняй. Калі тут жыў, так шмат журналістаў дом не ведаў. «Цішыня гаворыць за сябе», — казаў Сібеліус. Доўга шукаў месца; места, роднае жонкі. Знайшоў гэтае места. Архітэктар пабудаваў дачу, падобную на дачу прэзідэнта, на Залатым беразе. Бярвенне з цэнтральнай Фінляндыі на 2-х платформах [прывезлі]. [Пасяліўся ў] 1904 г. з трыма дочкамі, тут нарадзілася яшчэ двое.

Айна Сібеліус, жонка, нарадзілася на Уладзіміршчыне, з роду Клодтаў[2]. Ёган Юльус Хрысцін [Юліус Ёган Хрысціян Сібеліус], а Жан пісаў яму. Дзядзька — марскі капітан з Францыі. Фано Steinway & Sons Makeis — ад 144 сяброў у 50-годдзе. А наогул у галаве пісаў парцітуру. Мастакі свае карціны [везлі] ў падарунак. Хадзіў праігрываць свой твор да мастакасябра.

Усё з дрэва, падлога, круглыя бэлькі — драўляная сімфонія. Жонка Айна сама вучыла дзяцей, мастак па разьбе (дрэва, сама праектавала мэ-

---

[1] Гл.: Кароўка-багоўка (29.10.77) // Вечалле. С. 240.

[2] Сібеліус Айна, дачка Ярнефельта Аўгуста Аляксандэра, расійскага генерал-лейтэнанта, ваеннага тапографа, губернатара, сенатара; яе маці паходзіла з роду Клодтаў.

блю). Ацяпленне дрыўмі. Любімая карціна «Пахаванне Карла XII». Шмат вянкоў — гэта паднашэнне пасля канцэрта ў дзень 85-годдзя ад фінскага народа прывёз прэзідэнт, ягоны сябра.

Назва мясціны — Ландышавы ўзгорак, шэры колер зімы, белы — летам[1]. Бацька стол з Пулкаўскай абсерваторыі[2] [прывёз], такі ж стол у Рэпіна[3] быў.

На горад Тамперэ прыпадае 180 азёр. На дарозе паліцыя [цікуе], хто вяртаецца з дач дамоў і перавышае хуткасць. 60 % зямлі і лесу ў прыватнікаў. Але і прыватнік не можа ні дрэва ссячы ў сябе без дазволу ляснога ўпраўлення (дзяржаўнага).

Мястэчка Salo 18 тыс. сялян. Радыё і тэлевізары.

Ленін заўважыў, што сочаць, саскочыў на паўстанку і 12 км пешкі ішоў. (Баркас) шхуна, што везці павінен быў Ільіча, пайшоў у Швецыю, а 12-й гадзіне ночы прыйшоў. Бацька з сынам Шэгальмы правялі па лёдзе.

У Глыбокім Беразвечча, Вечалле ва Ушачах.

*23 мая*

*Мемарыяльная дошка Леніна. У Фінляндыі [бываў] 22 разы, у агульным 2,5 гады. Машыніст Валтэр, Ленін як машыніст. Пліта 1907 г., машыніст. «У чужым доме Ленін хаваўся ад цкавання (праследавання) царскага рэжыму».

Наўгародцы жывёлу гналі. Рэстаран «Бычыная дарога». Turku — торг (слав.). З верфі Турку параход «Беларусь».

Замак, за кожнае стагоддзе на 60 см падымаецца зямля[4]. А тут першапачаткова на востраве [стаяў]. З гронкамі (ледзяшы чырвонымі) крыві Хрыстос з дрэва. Калі пасылалі караблі ў плаванне, то ў царкве вешалі макет. Каб [можна было] маліцца за іх вяртанне. Пад столлю з люстрамі вісяць. Каралеўская зала, столі і падлога з фінскай сасны, кондавая [адмысловая] **с**асна. Тут і банкеты былі, Мікіта [Хрушчоў бываў].

Карціна. У труне ляжыць Флемінг. Карл XII бярэ за бараду: «Нарэшце я цябе пераважыў». 1878, Albert Edelfelt[5].

Губернатар Турку — камуніст. Духоўная семінарыя.

Miss Maria спявае ў дзвярах рэстарана. Толькі шматок на сцёгнах і вываленыя грудзі.

---

[1] Гл.: У гасцях у цішыні (07.77) // Вечалле. С. 226.

[2] Пулкаўская абсерваторыя — Галоўная расійская астранамічная абсерваторыя, заснаваная ў 1839 г. паблізу Пецярбурга.

[3] Рэпін Ілья Яфімавіч (1844–1930), рускі жывапісец.

[4] Гл.: Замак у горадзе Турку (24.07.77) // Вечалле. С. 236.

[5] Эдэльфельт Альберт (1854–1905), фінскі жывапісец. Аўтар карціны «Шведскі кароль Карл зневажае труп свайго ворага штатгальтэра Флемінга ў 1537 годзе».

Вечарам лісты трыпутніку [збіралі] для літоўкі з Валдысам[1].
*З ледавікоў сляды вякоў.*

Па ўражаннях я план даю,
І ў адпаведнай скрусе
Мне бачацца ў Фінляндыі
Азёры Беларусі.

*24 мая*

*Выезд. Шафёр усё-ткі замыкае дзверы ўнізе замком. Па дарогах усе на веліках, мама, а за ёй маленькі ў крэсле-клетачцы. Гляджу карту фінскай аэраліній: першым трапляецца на вочы Полацк, як бы наўмысна[2].

Карціна. Стары ў крэсле. Крэсла, над ім акруглыя рагі, як крылы, што становяцца гарбамі, зрэзаны вуглы. Закругляецца час. Шмат сімволікі ў бытавой дэталі, і ўсё рэалістычна.

Крыху лёту, і *Аландскія астравы*. Дагляд. Вялізная лінза і нейкі ўлоўнік з гукам на рэакцыю пэўную. Сцюардэсы, «Бывай, Радзіма», такія прыгожыя, хоць і з прафесійна-стандартнай усмешкай.

*Стакгольм [Швецыя]*. Самалёт падрульвае да своеасаблівага калідора з ванаў, як у старым фотаапараце рукаў, як гармошка. *Стаў голым — Стакгольм.*

Maria перакладчыца. Krona = 17 кап. Падатак прагрэсіўны. 65 [год] — пенсія. Народная (калі нідзе не працаваў) і заслужаная (адносна стажу і зарплаты). Самыя дарагія харчы. 55 % [жывуць] ва ўласных дамах. 52 музеі з 9-ці да 17-ці адчынены. Камерчаскія ўстановы ў асноўным у цэнтры (бо яны ўсё рухаюць), а так на ўскраінах, раскідана.

Паўночная накідка [надбаўка]. Баставаць дорага і тым, і тым. Самы нізкі аклад 27–28 крон у гадзіну, 5 найбольш значных партый. Нацыянальная меншасць саамі, лапары, ёсць фіны, эміграцыя пасля II вайны. Югаславы, венгры, з прыбалтамі 20 тыс. У асноўным варожыя элементы. У апошні час італьянцы ў рэстарнах абслуга, зараз уезд — суровы абавязак, білет назад і грошы. Прытулак в'етнамцам, чылійцам. Каля 100 тыс. непісьменных. 33 % — прамысловасць, 28 % — абслуга (сімпатызёры), 7 % — сельская гаспадарка (і прадае зерне яшчэ), электроніка, дакладныя прыборы, мінімальная затрата сыравіны, максімум высокакваліфікаваных людзей за апошні час, гандаль узрос з СССР у 5 разоў.

150 перыядычных выданняў, 5 тысяч мільянераў, падатак ад 30 % да 80 %. Самы высокі будынак падаткаў, бо самы моцны бастыён антыка-

---

[1] Дарбіньш Валдыс. Прысвечаны яму верш гл.: Ідуць у суботу Хельсінкі (28.07.77) // Вечалле. С. 230.
[2] Гл.: Аер (1.11.77, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 284.

мунізму[1]. Высокая плата жыллё і харчы, мяса да 40 крон 1 кг. Павышаюць цэны, забастоўка, павышаюць зарплату і зноў цэны і г. д. У клініку запіс 60 крон. За ноч у клініцы 600 крон, да 7 тысяч і 100 тысяч крон, у тэатр 120 крон.

Кожны 4-ты снарад па нашай краіне — са шведскай сталі. Нейтралітэт па-шведску. Чыстаган і пад'ём эканомікі за кошт бяды народаў Еўропы. Палітыка за апошні час паправела. Крызіс накшталт 30-х гадоў. 40 % на экспарт. Бастуе радыё і тэлебачанне, з учарашняга дня нецікавыя праграмы, толькі накшталт «Часу». Няма забаўляльных праграм. Свабодная крытыка звышдзяржаў. Каралева павінна неўзабаве нарадзіць.

Па тэлебачанні дэкады любві накшталт 2 гадзін пра дзіцячую прастытуцыю, і на тым канч. Шмат камісій па любой прычыне.

Hotel Portalen. У рэстаране абед. Катлеткі, як фрыкадэлькі, акуратненька абкругленая бульбачка кожная, нібы не гасцям, а баяліся закрануць пагранічную лінію. І раптам — салодкія брусніцы. Армянкі: «Што гэта?» Мне 47 — не трэба. У нас не посная бульба з брусніцамі[2].

Норма сям'я 4 чал., у дзень з'ядае 1400 крон. Рынка няма — пад адкрытым небам можна прадаваць толькі кветкі і зеляніну.

А 3-й гадзіна пік[3]. Штраф з рабочых [неразб. 1] аўтамабілістам. У парку каралёў пазеляненелі каралі ад злосці (Карл XII), бронза зелянее[4]. Абеліск адзіны ў свеце са шкла (пасля вайны можна было і са шкла) — нажыліся. 3,5 [м] ! Называецца клічнік.

Парламент — адзіны будынак з нержавеючай сталі (як манеты). Дзяржаўны банк грашыма не займаецца, толькі выпускае, бо ўсё прыватнае. Пад мастом і наркотыкі ноччу, днём царкоўныя жа песні [спявае] жанчына, хіпі ля шклянога помніка. На электрагітары спявае царкоўныя песні; хто ў магазіне, хто на хаду цалуецца.

Var så god — калі ласка, бог — god[5].

! Няма сцягу [над палацам] — караля няма дома — у камандзіроўцы. Каралю–32 [гады], каралеве–34 (з Заходняй Германіі мільянера дачка).

Хіпі ў мешкавіне і вагончыку, мые шмоткі рабочы.

Тэатр на вадзе, з датацыяй, бо на вадзе не доўга працягнеш. Сінтэтычныя косці для сабак.

Ля пасольстваў жанчыны — грамадзянская гвардыя. Гід: «Англійская царква. Пасля І-й вайны пабудавана, здаецца». Для іх вайна, як далёкае рэха.

---

[1] Гл.: Спецыфічна шведскі дождж (20.10.77) // Тамсама. С. 269.
[2] Гл.: Забыты сняданак ([1977]) // Тамсама. С. 249.
[3] Гл.: Гадзіна пік (26.10.77, Каралішчаічы) // Тамсама. С. 362.
[4] Гл.: Зялёныя каралі (21–22.10.77, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 280.
[5] Гл.: На скрыжаванні ў рай (28.07.77) // Тамсама. С. 274.

! Кожны 4 снарад гітлераўскі са Швецыі, а ў Беларусі — кожны 4-ты [загінуў]. Хай іншыя будуць са смерцю тэт-а-тэт. *Толькі загортвай — кожны чацвёрты.* Шведскі нейтралітэт[1].

Ля будынка сучаснага радыё і тэле няма машын, бо супрацоўнікі бастуюць. Гід: «Усё вакол гандлю, бо шведы матэрыялісты»[2]. Бульвар некалі для верхавой язды, а зараз стаянкі машын.

Забастоўкі арганізаваныя, бо ўсё неабходнае крайняй патрэбы.

Садовыя ўчасткі толькі ад дажджу. За 100 крон у год кусман зямлі. У 1756 годзе бальніца [пабудавана?] на падаткі за більярдную гульню, на штрафы за п’янку і інш. Акадэмія вольнага мастацтва. Пратэстанцкая царква св. Сафіі 18 ст.

Прысутнасць паліцыі раздражняе, таму дапаможная служба, варта — жанчыны: назіраць, што, і, калі трэба — клікаць паліцыю. (Як ва Уладзівастоку: «А дзе яна?» [Міліцыянеры — жанчыны.])

Голы мужчына ёсць на ўсіх вітрынах — рэклама нейкай сумесі яды, «сняданак для ўсяго цела». Пазелянелі каралі, як медныя тазы старыя, бо ніхто не чысціць, начышчае, толькі да бляску начышчаны долар, манета (і мазалямі, і чужымі рукамі), а ў пальчатках бяруць. Адзін бляск.

Месца, дзе клічнік са шкла. Тут жа і хіпі, вечарам наркаманы і п’яніцы. Жанчына сектантка [спявае] псалмы на электрагітары, надпіс: «Калі ласка».

Абрысы высвечанай карты Швецыі. Нагадвае кумпяк, які падвешалі вэндзіць. Каўбасу ці тушку з адсечанымі нагамі.

Наркаманы і кітайцы на вуліцах. Хапіла вясёлая хіпіня́, танцуе на бруку; футарал, у ім пагоркам грошы, гітара.

Гід Марыя паказвае будынак, дзе працавала Калантай[3] (№ 17 дом), і падкрэслівае, што Швецыя першая краіна, якая прызнала СССР, як быццам (з такім тонам кажа), яна адкрыла нашую краіну (Швецыя), — свой мясцовы патрыятызм.

Хто хоча пахудзець, хай едзе турыстам у Фінляндыю, Швецыю — багатыя краіны Скандынавіі.

*25 мая*

*Варта было шырока даваць такую рэкламу. З рэстарана ўлоў ці вылаў — выводзяць вывадкі дэбілаў. І ў туфлях вастраносых, на высокіх абцасах з бародкай рэдкай бедуін.

---

[1] Гл.: Шведскі нейтралітэт (24.10.77, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 247.

[2] Гл.: Над усім дабрабыт! (23.10.77, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 272.

[3] Калантай Аляксандра Міхайлаўна (1872–1952), дзеяч міжнароднага жаночага руху, рэвалюцыянер, расійскі дыпламат, публіцыст. У 1930–1945 гг. пасланнік, затым пасол СССР у Швецыі.

Калі будуецца вялікае што — міжнародны конкурс. Ратуша закончана ў 1923 г., стыль — нацыянальны рамантызм. Раз у 10 год бягучы рамонт. Страха з медзі, ад мора пазелянела. Узяў [неразб.1], і там, дзе ён спыніцца, заснаваць горад. Бергер.

Нобель[1] [вынайшаў] дынаміт для ўзрыву скальнай пароды.

Karl Larsson[2] стварыў шведскі стыль. Швецыя заўсёды глядзела на захад, а ён павярнуў позірк на сябе, на радзіму.

Унутранае памяшканне, страха медная, на зборы за 2 гадзіны сталы састаўляюцца для прыёму. Падлога з адкідаў ад будаўнікоў. Тут [адбываецца] уручэнне Нобелеўскай прэміі, і былыя члены, і іх сем'і за [неразб. 1]. Партрэт апошняга старасты арцелі, што насіла віно на дом. Святы Эрык[3] Стакгольм ад датчан [неразб. 8].

Бернадот[4], маршал Напалеона[5], узяў нявесту Напалеона, з якой быў Напалеон заручоны, стаў каралём Швецыі. Паркет да сённяшняга дня рыпіць, як снег, у зале, дзе можна параіцца, — каб чуць, ці падыходзіць хто падслухоўваць, напэўна. Мэр — бюст. 2 м. На ўсіх мовах вітаў гасцей. Думаў — паліглот, а на самай справе яму пісалі, а ён завучваў.

Крона — карона, манета, люстра, зала з-х крон (люстраў). Пазлацаная зала. Галоўныя віноўнікі нобелеўскіх банкетаў. Эйнарт Хошарт за два гады зрабіў 19 млн кавалкаў мазаікі, з Германіі 96 % золата як доўг, кантрыбуцыя. Мастак сябе зрабіў, ён у судзе апраўдваўся, бо ўсё аформлена не ў традыцыйным шведскім плане. Усярэдзіне — каралеўскае возера Меларэн, у руках [трымае ?] стакгольмскую ратушу, скіпетр. Шведскія вучоныя за 500 год, паэты, дзеячы. Смальта, смальтавая мазаіка. Карл XII, акуратна галовы складзены, а ўкраінцы з вусамі, як янычары, страшныя.

У Швецыі ўсё застрахавана. На спіне ў кожнага таксі рэклама, як рабраком далані б'е. Перасоўная бібліятэка, кнігу [можна] заказаць па тэлефоне, і вам прывязуць.

Музей пад адкрытым небам, Milles[6] (1875–1955), быў вялік для Швецыі, яго адкрылі ў Амерыцы. Купіў сабе жыллё і кожны год вяртаўся дамоў. У вайну жыў тут. Пасля смерці завяшчаў народу, а не дзяржаве. Працаваў у гіпсе і асабліва ў бронзе, пакідаў права другой адліўкі. Танцуючы прывід, грудастая, акруглагрудая. «Выкраданне Еўропы». Гід: «Чалавек ездзіў па свеце з адкрытымі вачмі і поўным кашальком». Фантан жыцця.

---

[1] Нобель Альфрэд Бернхард (1833–1896), шведскі прамысловец, вынаходнік дынаміту (1867). Заснавальнік Нобелеўскіх прэмій.

[2] Ларссан Карл Улаф (1853–1919), шведскі мастак.

[3] Эрык IX (святы; каля 1120–1160), шведскі кароль (1156–1160), апякун Стакгольма.

[4] Бернадот Жан Баціст (1763–1844), маршал Францыі. Удзельнік напалеонаўскіх войн. У 1818–1844 гг. шведскі кароль Карл XIV Юхан, заснавальнік дынастыі Бернадотаў.

[5] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).

[6] Міллес Карл (1875–1955), шведскі скульптар.

За чалавека змагаецца анёл (з гадзіннікам на руцэ)[1] і д'ябал, здаецца, што рагатка ў кішэні). Валасы, як вароняе гняздо. Пегас і чалавек на хмарах здорава глядзяцца[2]. Гід, хлопец, тлумачыць амерыканскай групе, што шмат арыгіналаў [знаходзіцца] у ЗША.

Каралеўская бібліятэка. Гід (новы): «Сабіраем для вечнасці»[3].

У гатэлі. Бедуін, галава акрыта белай накідкай, як велікодны кухан, што толькі дайшоў і яшчэ даходзіць, гарачы.

1594 г., Кніга д'ябла, у Празе, на шкурах, ваенны трафей у 16-гадовай вайне.

У магазіне капронавыя канваліі і капронавыя рамонкі. Птушкі скрозь таксама магнітафонна-дакладныя, а дэбілы паўсюль натуральныя, ва ўсю велічыню і шырыню[4].

Вячэра ў рэстаране, свечкі, як натуральныя. Калышуцца язычкі — лямпачкі. Доўга глядзеў, пакуль адрозніў, што за суседнім сталом — натуральная свечка.

Швецыя, як тушка, якую толькі што на протар інтрыг і на залатым агні смажаць, а ўсіх, што смажыць агонь войнаў — яе не тычыцца.

У метро. Дзве негрыцянкі, у адной у два пальцы губы. Другая ў басаножках. Ногі, як з чорнай паліраванай косці слановай, і толькі пяткі недарэчна белаватыя, нібы падсвечаныя.

*Манархі не падымуць пархі.*

*26 мая*

* Стакгольм. Пры выхадзе з метро, пасярэдзіне дзверы — гуськом калясачкі з дзецьмі.

Музей «Васа» [«Ваза»]; на дне захавалася добра вопратка[5]. Вайсковы, але стрэлу ніводнага не зрабіў. Як бы для музея быў назначаны. Косці каровы, бо халадзільнікаў не было, — [пілі] сырадой.

Наркаману 1000 крон у дзень трэба. **Р**аздаюць дзецям.

Сабор Стакгольма. Кароль у палацы. Мае толькі пяць пакояў. Змена каравула. У паліцэйскага наручнікі. Дзеці просяць паказаць, як [надзяваюць], працягваюць ручаняты.

Распарадак, мікрафон. Як на кіназорках на натуры. Рэдакцыя.

*Уле Петрыні*: «Няма дурных пытанняў, ёсць бязглуздыя адказы. Мая душа адкрыта. Самая буйная газета, 550 тыс. экз., ранішняя ў Сканды-

[1] Гл.: Анёлак з гадзіннікам на руцэ (27.10.77) // Вечалле. С. 268.
[2] Гл.: Пегас і чалавек (23.10.77) // Тамсама. С. 251.
[3] Гл.: Таямнічы чытач (25.08.77) // Тамсама. С. 244.
[4] Гл.: Натуральнае толькі адно (20.10.77) // Тамсама. С. 270.
[5] У 1961 г. паднялі затанулы ваенны карабель 1628 г. (у 1990 г. пад яго быў пабудаваны асобны будынак).

навіі, па падпісцы. Грамадства, якое з розных сістэм асвятляе. Уладальнікі не ўмешваюцца ў змест газеты. Сёняшняя — 64 старонкі. 60% — з анонсаў, а астатняе спорт. 550 тыс. экз. павінны прадаць на працягу 3-х гадзін, бо спортам цікавяцца нават старыя. У мяне адна знаёмая 76 год, і яна ведае ўсіх хакеістаў.

Каля 200 міжнароднікаў у штаце, 10 — на перадавіцах, 10 — на культуры. Карэспандэнтку з Варшавы адклікалі за кепскія паводзіны. Самі хочам пасылаць за мяжу. Два погляды на міжнародную журналістыку. Шведскія журналісты выхаваны ў духу знаходзіць памылкі. Калі асвятляюцца недахопы, то іх можна палепшыць. Мы стараемся крытыкаваць увесь свет.

Баюся на працу браць маладых, хто не мае жыццёвага вопыту. Узяў на працу 3-х вартаўнікоў. 25 % жанчын. Добры журналіст [атрымлівае] 7000 [крон] у месяц, з іх 65 % падаткаў плоціць. Амаль у кожнага машына і дача, мінімум 3 пакоі, можа быць і віла. Пачынае толькі — 4000 крон, пасля вышэй, гарантаваны аклад у месяц, звыш 40 гадзін працуе — ці адпачынак, ці аплата за звышгадзіны. У журналістаў 5 тыдняў адпачынак, а ў звычайных людзей–24 дні. Адпачынак — на парусніках на Канарскіх астравах. 40 % на журналістыку, а рэшта — рэклама.Чалавек, які прымае на сябе напор і грамадства, і дзяржавы, і рэкламы — мы за яго.

Былі дэбаты супраць наркаманіі, пісалі пра лёс асобных наркаманаў. Наркаманія — гэта сімптом нечага».

Па дарозе з рэдакцыі [сустрэўся] «лятучы галандзец» — гаворыць па-руску (вучыў па лістах, перапісцы), шукае дэмакратычную краіну, дзе можна ставіць доследы па псіхааналізу. Адвакат яму сказаў, што ў Албаніі (чокнуты).

Губы перасыхаюць і трэскаюцца ад дыхання Гальфстрыма[1].

Вузкая вулачка ў старым горадзе, пачуццё ўласнага лакця з двух бакоў адчуеш.

Дзеці ў галоўнай кірсе круцяць ўсё, што можна круціць і што круціцца, са святымі сваімі, як са старэйшымі хатнімі.

*27 мая*

*Рыначак, памідоры 4,75, чарэшня 4,5. Па дарозе на ўзлесках валуны з-пад моху. Як нерасталы снег.

Замак. Камяні, як арнамент, а гэта рунічныя пісьмёны. Gripsholms slott[2]. Рускія гарматы чохаўскія[3]. Міфічныя морды, дракон вогнедыхі. Гу-

---

[1] Гл.: Гальфстрым (26.10.77, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 252.

[2] Грыпсхольм — каралеўскі палац (1537). Гл.: Музейная крыўда (23.10.77) // Мудрэц са ступаю. С. 204.

[3] Чохаў Андрэй (?–1629), рускі ліцейшчык, гарматны і звонавы майстар.

стаў Ваза[1] пасадзіў тут сыноў. Сядзеў Ерык IV[2]. Адміністратар сярдзіты на Расію, што «захапіла ў нас Фінляндыю»[3].

Кароль Сігізмунд[4] і бацька ягоны, партрэты. Партрэт Кальвіна[5], нос — кураня, барада — рыбін хвост, шчака — латка кураняці. Кранах[6]. Групавы партрэт пакаёвак каралевы, галовы натуральныя, а самі, як куры, курапаткі, і грэбень пеўня.

Тэатр XVIII ст. Зала. Крэслы — амфітэатрам.

Возера Меларэн вакол замка. Выходзім з замка — лужынка, гусі і турысцкія аўтобусы. Дубы з асцярогай зелянеюць, давяраюць свой убор вясне.

Кароль цяперашні сустрэў немку на Алімпіядзе, каханне з першага погляду. Шведскі нейтралітэт. Не выдаюць злачынцаў. Паветраныя піраты.

Можа пара ваўкоў у гарах засталося, таму ласёў ганяюць у сезон восені паляўнічыя. Арол знік.

*Linköping [г. Лінчопінг*] — Ліпавец наш, возера Ветэрн[7] — другое ў Швецыі па велічыне. Чопа — купляць, чопінг — месца, дзе з’язджаюцца купляць, месца торгу.

Лінчопінг — значыць Ліпавец
Стаіць на ліпавых нагах,
Забыты ліпавы мудрэц,
Дзед у суках, як у даўгах.

Лінчопінг — значыць Ліпавец,
Дзед у суках, як у даўгах.
Ад шуму не ўцячэ мудрэц
На ліпавых сваіх нагах.

Дарога Еўропа — 4. Фігура дзеда з абломкаў знесеных будынін.

Цэнтр усіх рэлігійных сект Швецыі Йончопінг [г. Іёнчопінг].

У гасцініцы ў нумары пахне знаёмай бузой возера, свежай рыбай, нерастам — возера ўрываецца ў вакно. На вуліцах рэдкія крыкі. Машыны і разгульнікі — усе без глушыльнікаў матацыклы. Крычы колькі ўлезе. Джынсавая моладзь Швецыі.

---

[1] Густаў I Ваза (1496–1560), кароль Швецыі (1523–1560).
[2] Дакладней, Эрык XIV, кароль Швецыі (1560–1568).
[3] У выніку расійска-шведскай вайны 1808–1809 гг. тэрыторыя Фінляндыі адышла да Расіі.
[4] Сігізмунд III Ваза (1566–1632), кароль Швецыі (1592–1599).
[5] Кальвін Жан (1509–1564), француз, дзеяч Рэфармацыі, заснавальнік кальвінізму.
[6] Кранах Лукас Старэйшы (1472–1553), нямецкі жывапісец і графік.
[7] Гл.: Вясна ўзяла аблогай замак ([1977] ) // Вечалле. С. 253.

Вольна аблокам перыстым
                    драбязой.
Возера пахне нерастам,
Водарастамі, бузой.

Аблокам перыстым прастор,
Вясна, блакіт не эканом!
І цягне нерастам з азёр
І ўвечарэлым туманом.

Швецыя,
Жвачка жвецца і
Джынсы шаруюцца…[1]

Muck — свабода. У запас пайшлі салдаты. Гэвэлт страшэнны. «Бывайце, дурныя афіцэры!» — адзін з лозунгаў на машыне.

*28 мая*

**Гётэборг.* [Музей.] Gustaf Gederström[2]. Нясуць параненага ці мёртвага Карла XII. Селянін з сынам. За спінай забіты глушэц. Кроў на крыле глушца, кроў на павязцы салдата, што нясе насілкі. Рэмбрант[3] «Рыцар з сокалам». Радэн[4] «Бальзак». Клод Манэ[5]. Ivar Arosenius[6] (1878–1909).

Пікавая дама — дама, якая сустракаецца ў час пік.

Гётэборг. Ёсць лінгвістычнае меркаванне — [назва] ад готаў (горад готаў). *І Ёрык ёрзае. У Гётэборгу сакура цвіце У першароднай цноце[7].*

У кінатэатры фільм «Кабарэ». Перад пачаткам кароткія рэкламы. Наіўна, коратка, але кідка.

*29 мая*

*Аэрапорт Торсланда [Туршланда] ў Гётэборгу, «Сняданак для ўсяго цела» [рэклама], галоўная дэталь закрыта — заклеена напалову. Больш цноты. У аэрапорце кантроль — дэталёвае абмацванне. У самалёце ўперадзе дзеці, і над сядзеннямі шыльдачкі-плакацікі з дзіцячай мордачкай. Лязо ад брытвачкі на ланцужку на шыі ў дзяўчыны[8].

---

[1] Гл.: Па дарозе «Еўропа-4» ([1977] ) // Тамсама. С. 255.
[2] Гедэрстрём Густаў (1845–1933), шведскі мастак.
[3] Рэмбрант Харменс ван Рэйн (1606–1669), галандскі жывапісец, рысавальшчык, афартыст.
[4] Радэн Агюст (1840–1917), французскі скульптар.
[5] Манэ Клод (1840–1926), французскі мастак.
[6] Арасеніус Івар (1878–1909), шведскі мастак.
[7] Гл.: Сакура цвіце (30.10.77) // Вечалле. С. 263.
[8] Гл.: Фінка (25.07.77) // Вечалле. С. 238.

*Капенгаген [Данія]*. Гід Марыя Энгельгард: «Сёння Сёмуха — усе за горадам». Над хаткай буслянка і штучныя бусел з буслíхай і буслянятамі, ды яшчэ аля гумку, дзе ж будуць дзеці жывыя? Хіба капронавыя дзеці.

Горад гандлю, порт гандлю — назва. Хіпі павінны гораду 1,5 млн. Сацыяльны эксперымент. Абшчына хіпі (з паўночных краін) асаблíва. Сцяг ў гонар Сёмухі (нацыянальнае свята).

Помнік загінуўшым маракам — якар. 4 каралеўскія замкі, у адным маці каралевы, у другім сама каралева.

Вада знікае, яны на па́лях, падгніваюць, як і дынастыя, паступова знікаюць. Змена каравула, у чорных шапках, відаць, сінтэтыка. Яны спакойна [стаяць] перад аб'ектывамі. Штодзень адно і тое ж. Болей турысцкі бізнес. Разам з палямі падгнівае. Шапкі мядзведжыя натуральныя. А мядзведзяў штогод меней. Побач з імі фатаграфуюцца дзеці[1].

Багіня Гефьён. Ёй кароль падарыў кавалак зямлі. Яна сыноў ператварала ў быкоў і за ноч выарала востраў. Фігура з фантанам.

Яхта каралевы для агляду астравоў. Русалачка на камені[2], былі галаву спілілі на сувенір. Новая зараз. Асфальт з'едзены соллю, бо зімой раніцай лёд, вечарам — вада.

Музей Торвальдсена[3]. З Андэрсенам[4] у тэатр штовечар [хадзілі], і памёр. Купель — анёл з марской ракаўкай. Аўтапартрэт. Абапіраецца на багіню Надзеі. Жонку і дзяцей не рабіў ніколі, бо не творчая асоба, копіі класікі. (А ў іх «сыночак таты».) Фота — ён стары!

«Хто ты? Імя якое было тваім на Зямлі?» — Рафаэль Альберці[5].

На тры тыдні прадукты закупляюць. Дамскія часопісы і ў вёсцы, і ў горадзе ідуць.

Дацэнтрабежная сіла зямнога шара паскараецца, і трэба шчыльней трымацца за зямлю, бо знясе. Штогод то хутчэй круціць людзей. І не дужа дае магчымасці змяшацца поўнасцю расам і нацыям. *Валок цягнік волакам, не злічыць валок.*

19.25 — у Маскве. Шарамецьева.

Згіньце, недарэкі:
Зваднікі і скнягі,
Не з вараг у грэкі —
З грэкаў у варагі.

---

[1] Гл.: Змена варты (24.10.77, Каралішчавічы) // Тамсама. С. 278.

[2] Скульптура «Русалачка» (1913) дацкага скульптара Эдварда Эрыксана (1876–1959).

[3] Торвальдсен Бертэль (1768 ці 1770–1844), дацкі скульптар.

[4] Андэрсен Ханс Крысціян (1805–1875), дацкі пісьменнік-казачнік.

[5] Альберці Рафаэль (1902–1999), іспанскі паэт. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1965).

[Адрасы: Никоненко Станислав Станиславович (г. Москва). Булимов Владимир Петрович (г. Москва). Кутарга Зоя Георгіеўна (г. Масква).]

*30 мая*

9.45 — Унукава. На Мінск.

* Минск! Самалёт уніз ідзе. Голыя далоні ворыва. Дзе яшчэ няма зеляніны і рэшткі касмылёў лесу, ляскоў.

З вараг у грэкі. З фінкай у сэрцы. Як доўгаігральная пласцінка. Плыўныя аблокі, крыгі, маладыя снегапады…

Выдавецтва. Звон Вялюгіну, Зуёнку. На радыё — Казюленьку [Камейшу]. Броўка (да Арлена Кашкурэвіча[1] наконт кнігі).

*Арлен Кашкурэвіч*

Ён паламаў сталення графікі,
Ён славу беларускай графікі
Ўзнёс да нябёс,
Падняў з кален.
І муза ўдачы, не старэючы,
Свой першы тост за Кашкурэвіча
Узнімае:
— Хай жыве Арлен!

*8 красавіка 1978*

*31 мая*

Бубнаву звон (калі ехаць ва Ушачы). 14.00 — да Лучанка (104 кв.). Куляшову (даведацца наконт «Даляглядаў»). Пазваніць Рэму [Нікіфаровічу].

*1 чэрвеня*

Дамовіцца з Карласам [Шэрманам], калі нарыхтавацца перакл. 13.00 — новы корпус БДУ, пані Зося. З тэхрэдамі давесці да канца «Абсяг».

*2 чэрвеня*

Дадаць 2 вершы ў «Абсяг». Здаць на другую [карэктуру] П. Броўку. Пазваніць у «ЛіМ» наконт падборкі (Юрасю [Свірку]). Зняць пытанні Сёмухі па Андрысу [Веяну].

*3 чэрвеня*

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Народны мастак Беларусі (1991). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Прысвечаны яму верш гл.: Майстра (10.04.78) // Белая яблыня грому. С. 162.

На працу. Забраць кнігі ў Олі [Гурскай] («Пётр Первый»). Паслаць фота ў «Даугаву». З тэхрэдам — канчаткова «Абсяг».

*4 чэрвеня*

На Камароўку. Да Віктара [Шрамякова]. Абутак. Да Арлена Кашкурэвіча (кв. 8, дом 42).

*5 чэрвеня*

Да Навума [Кісліка] (аддаць аловак). Да Вялюгіна (узяць пераклады).

6 чэрвеня

Пазваніць Сіпакову (рукапіс). Сустрэцца з Карласам [Шэрманам] (Гільен). У Вялюгіна забраць рэкамендацыю Карласу. Васіль Кірылавіч Паса́х[1] 2-12-42.

*7 чэрвеня*

Забраць на рабоце Цютчава (у Ольгі [Гурскай]). Забегчы на радыё. Да Вялюгіна. Знайсці фота з Андрысам Веянам.

*8 чэрвеня*

Да Віктара [Шрамякова]. *Лагойск, Плешчаніцы*, [рэстаран] «Партызанскі бор». 19.00 — [рэстаран] «Мінск», да Якуніна на дзень нараджэння.

*9 чэрвеня*

На радыё (аддаць карэктуру «Полымя»). Прыязджае Пранузa. Пытанні па яго зборніку[2]. У аэрапорт, білеты на Ушачу.

*10 чэрвеня*

Ананка. На працу. Сустрэць Бубнава.

*11 чэрвеня*

8.00 — майстар Ананка. 11.15 — на *Ушачу* (аэра). Да Марыі Рыгораўны [Трафімавай]. Да мамы.

*12 чэрвеня*

На Ваўчэнскае, на Вечалле.

*13 чэрвеня*

[1] Пасах В. К., першы сакратар Ушацкага райкама КПБ.

[2] Пранузa П. Трываласць: Выбранае. Мінск, 1978.

8.30 — на Мінск. На працу (звон Шаху [Шахаўцу]). Пашкову (як з падборкай). Шабану (наконт «Святая святых»[1]).

*14 чэрвеня*

Пазваніць Бурсаву. Аддаць на падлік Сіпакова («Вочы ў вочы»[2]). Сазваніцца з Бураўкіным (наконт паездкі з Броўкам на Ушаччыну).

*15 чэрвеня*

Здаць у «Бярозку» Лукшу («Лета круглы год»). Пазваніць у ЦК ВЛКСМ (паездка). У «Маладосці» вычытаць карэктуру.

*16 чэрвеня*

Звон Бурсаву, Куранёву. Узяць карэктуру Салтука. У «Неман» (Бубнаву вершы Н. Татур[3]). З будаўнічых брыгад (куды ехаць).

*17 чэрвеня*

Бубнаву — рускія зборнікі. У выдавецтве (заўвагі па Пранузе зняць).

*18 чэрвеня*

14.00 — Ваня Бурсаў. З Ванем на Крапоткіна, у хімчыстку.

*19 чэрвеня*

Быкаву — дзень нараджэння. Да Навума [Кісліка], перадрук беларускіх арыгіналаў.

*20 чэрвеня*

На працу. 11.00 — Кіслік («Наопрокидь»[4]). 12.00 — Ваня [Бурсаў]. Да Куляша [Куляшова] — «Далягляды» (5 экз.). Пазваніць Бураўкіну (паездка з Броўкам–27-га).

*21 чэрвеня*

9.00 — Стрыжак. Падрыхтаваць для «Советского писателя» «Наопрокидь». 14.00 — Аўтамеханічны тэхнікум, вул. Сацыялістычная, 5, група № 3, аўтобус 46. Паслаць у «Советский писатель» зборнік.

*22 чэрвеня*

---

[1] П’еса І. Друцэ. Друцэ Іон Панцялеевіч (1928), малдаўскі празаік і драматург.

[2] Сіпакоў Я. Вочы ў вочы: Выбранае. Мінск, 1978.

[3] Татур Наталля Мікалаеўна (н. 1949), беларуская паэтэса, журналістка; жыве ў ЗША.

[4] «Наопрокидь» («Нагбом») — першапачатковая назва зборніка вершаў Р. Барадуліна «Праздник пчелы» (М.: «Советский писатель», 1980).

На працу. З тэхрэдамі. На радыё. У «Полымя». Дазваніцца да Хелемскага, Элькіна, Куранёва. Гімн.

*23 чэрвеня*

Дазваніцца да Броўкі (паездка), каб Матукоўскага[1] ўзяць з сабой. 16.00 — клуб СП (настаўнікі). Ласю пашукаць купальнічак.

*24 чэрвеня*

10.30 — радыё, запіс «Паэзія». У выдавецтве [забраць] карэктуру Салтука (з вычыткі). У бухгалтэрыю выдавецтва. Пляскач[2] (наконт «Нашага музея»[3]).

*25 чэрвеня*

9.00 — да Янкі Сіпакова. 13.00 — Лася праводзіць на авія.

*26 чэрвеня*

Лася на самалёт. Передрук «гегемонаў» для «Полымя».

*27 чэрвеня*

Да Вялюгіна! Звон Броўку, Бураўкіну, Пашкову. Да Навума [Кісліка]. 11.00 — у СП (кабінет Танка, наконт гімна[4]. Крапіве I том, каб падпісаў Хелемскаму). 19.30 — [спектакль] «Святая святых».

*28 чэрвеня*

У выдавецтва — падпісаць Алега [Салтука]. Да Шамякіна — ліст у «Советский писатель». Карласу [Шэрману] (Гільен — адабраць) Тацяне Кузьмінічне [Іваніцкай]. Да Пімена Панчанкі (наконт прадмовы).

---

[1] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург. У 1970–1993 гг. заг. Беларускага аддзялення рэдакцыі газ. «Известия».

[2] Пляскач Аляксандр Іванавіч, заг. гаспадаркі выд-ва «Мастацкая літаратура». У яго захоўваліся аўтарскія экземпляры выдадзеных кніг.

[3] Броўка П. Наш музей: Паэма. Мінск, 1977.

[4] Беларускі дзяржаўны гімн (словы М. Клімковіча (1944), музыка Н. Сакалоўскага) быў зацверджаны ў 1955 г. Па ўспамінах Рыгора Іванавіча, з часам наспела неабходнасць унесці ў гімн некаторыя праўкі пры ўдзеле М. Танка, П. Броўкі, калі не памыляюся, А. Куляшова і Р. Барадуліна. Адзін радок быў папраўлены менавіта ім. Рыгор Іванавіч як звычайна падсмейваўся і строіў кепікі, і Пётр Усцінавіч, ад граху падалей, дыпламатычна адаслаў яго: «Ты ідзі, Рыгорка, ідзі, мы ўжо тут неяк самі…» (*пераказ Н. Давыдзенка*). Клімковіч Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899–1954), беларускі паэт, драматург, празаік, лібрэтыст, крытык. Сакалоўскі Нестар Фёдаравіч (1902–1950), бларускі кампазітар, хормайстар, фальклярыст.

*29 чэрвеня*

У выдавецтва. Да Якава Абрамавіча [Серпера]. 15.00 — звон Панчанку, Бураўкіну, Лукшу.

*30 чэрвеня*

Звон Броўку. На працу (здаць Лукшу). 15.00 — Якаву Абрамавічу [Серперу]. Да Зуёнка. Сіпакову «Веча славянскіх балад».

На электрычку.

*1 ліпеня*

10.00 — ад'езд ва *Ушачы* (хата Броўкі). (Броўку — «Наш музей».) *Пуцілкавічы, Малыя Дольцы*, Стракоцкае возера.

*На Стракоцкім возеры. Вечар. Юшка. Ракі. Бураўкін гаворыць: «Стракозы лётаюць». Броўка: «Што стракозы ў небе, вунь на зямлі стракозы!»

*** Дружба паміж прызнаным майстрам і маладзейшым можа быць тады ўзаемашчырай і раўнапраўнай, калі старэйшы прызнае маладзейшага і паважае ў ім майстра.

[Без даты:] Пятрусь Броўка каля свае дачы. Спыняецца мужык:

— Што, дзед, вартуеш?

— Але, але…

— Жывуць жа сволачы!.. Што, дзед, ваяваў за камуністаў, а што атрымаў?

— Я не ваяваў за камуністаў…

— Ну хоць пажыў.

*2 ліпеня*

Магільнік. Да Марушкі [Трафімавай], у хату. З Ушач тэлеграму Лабанку (70 год). Начальніку пошты, Пасаху.

*3 ліпеня*

Прылятае Гарбук (каб Генка [Бураўкін] сустрэў).

«З грэкаў у варагі»[1].

*4 ліпеня*

Вычытаць у анталогіі літоўцаў[2]. Да Арлена Кашкурэвіча (каб заяву Броўку — телефон). Алесю Жолдаку — звон. Падпісаць сігнал Броўкі. Забраць бурсаўскія кнігі [«Грамота лет»].

---

[1] Назва падборкі для «Полымя» і раздзела зборніка «Вечалле».

[2] Літоўская савецкая паэзія: У 2-х т. Мінск, 1977.

*5 ліпеня*

Слова развітання з Е. Лось[1] (12 гадзін у «ЛіМе»). ЦК ЛКСМБ (пакой 57, Ала Мікалаеўна, фота 9х12). ЦК ВЛКСМ 206-12-23 (паездка).

*6 ліпеня*

206-12-23 (Павел Валянцінавіч, ЦК). 12.00 — на тэле чытаць «Пашана»[2]. Цімошаку (тэксты) званіць. На выстаўку Ксаверы Дунікоўскага[3] (Палац мастацтва).

З Алесем Савіцкім у «Бярозку».

*7 ліпеня*

У выдавецтва «Беларусь». Ласю паштоўку. 16.30 — сустрэча, «Бярозка» кафэ. Сазваніцца з Карласам [Шэрман].

Пазваніць Хелемскаму.

*8 ліпеня*

У выдавецтва. Пазваніць у ЦК ВЛКСМ. На радыё. З Міхальчуком — Лукшу. 18.00 — запіс (кіно) у дона Арыеса. У «БелСЭ».

*9 ліпеня*

Зайчыку — кароўку Бурэню [цукеркі]. Забраць абутак. У хімчыстку. Раман Лубкіўскі[4], [пакой гас. №] 567.

Азёр незлічона,
Нібыта
Вясною каралі з блакіту
Нябёсы гублялі па зерню.
Тут славы славянскай вытокі,
Легенды плывуць, як аблокі, —
Туманяць пагляд Паазер'я.

*10 ліпеня*

Пазваніць Бураўкіну. 9.30 — Дом літаратара (на Вязынку). Тамадзіць за бяседным сталом.

---

[1] Гл.: Журыцца лірыка ліпеня... (1977) // Парастак радка, галінка верша. С. 48.

[2] Гл.: Пашана ([1977]) // Абсяг. С. 89.

[3] Дунікоўскі Ксаверый (1875–1964), польскі скульптар і мастак.

[4] Лубкіўскі Раман Мар'янавіч (н. 1941), украінскі паэт, перакладчык, літаратурны дзеяч, дыпламат. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1977). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя П. Г. Тычыны (1979), Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі (1992), прэміі імя В. Незвала (1984, Чэхаславакія), прэміі імя П. Гвездаслава (1988, Славакія), Ars Translatijnis (2008, за перакладчыцкую дзейнасць).

*11 ліпеня*

Фама Чаховіч (фота). Выдавецтва. Карэктуру Сцепанюка. Рэму [Нікіфаровічу], Карласу [Шэрману] — звон. 16.00 — Гурыновіч (у выдавецтве). Да Зуёнка («Бярозка»). Да Лубкіўскага.

Пазавязвала памяць стагоддзяў не ўпотай
Рэк і дрэў караністых вузлоў.
Васількі тваіх воч узыходзяць пяшчотай,
Беларусь — бераг белых буслоў.

*12 ліпеня*

На радыё — запіс (урэзка). У Ленінку. Наконт М. Ціханава. 10.00 — Міхась Стрыгалёў (выдавецтва). Валерыю Маслюку (тэатр). 19.30 — Вольга Гурская, СП.

Забраць карэктуру «Прынамсі».

*Дануце Бічэль-Загнетавай*[1]

Помню зоры калядныя,
Чаратоў патарочча,
Проламкі пераглядваліся,
Ці цямнеліся вочы?
Сцежка з лесу далёкая
Веснаходам глынута.
Што ж так рэха галёкае
Непачута: — Да-ну-та!

*13 ліпеня*

8.00 — ад'езд на Гродзеншчыну. *Зэльва.* Кніжны магазін. *Ваўкавыск. Краснаселле* (вечар сустрэчы), *Шавулічы*[2].

За Ваўкавыск фінская лазня.

*Міхалу Вераціле*[3]

Выдатны ў сціпласці Міхал,
Не буду рассыпаць пахвал.
Хачу я, каб да Верацілы
Дарогу слава караціла!

[1] Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса. У 1962–1982 гг. настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў школах Гродна. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1984). Прысвечаны ёй верш гл.: «А былі мы вольнанаёмнымі...» ([1980]) // Вечалле. С. 187.

[2] Гл.: Шавулічы (13–17.07.77, Выўкавыск) // Вечалле. С. 29.

[3] Вераціла Міхаіл Уладзіміравіч (н. 1937), беларускі краязнавец, мастак, археолаг.

*14 ліпеня*

Кніжкі — сакратару. 9.00 сняданне. Ад’езд на *Бераставіцу*[1]. РК КПБ. Калгас імя Варанянскага (сустрэча з сабой — Вакар![2]). 19.00 — выступленне. Лес. Ягады. Вячэра. Інтэрнат.

*Блакіту*[3]

Няхай пярун свой лоб спрабуе,
Дождж плача над парваным сітам,
Разгонім непагадзь любую,
Бо едзем са сваім Блакітам.

*в. Бераставіца*

[Тры аўтографы Яўгеніі Янішчыц:]

* * *

Што шаптала Вам на вуха
Берастовіцкая муха?

* * *

Шуга паспела, быццам Спас.
Як Новы год, люблю я Вас.
Не, як не Новы — Каляду,
Люблю я Грышу Бараду-
                    ліна.
Мана?
Статыстыкі віна?
Праклён Парнаса?
Мілей за ўсё
          ушацкая мне раса.

* * *

Валя пойдзе на дуэль
З дзецьмі абагулена.
Ты, Данута, не бічэль
Рыгора Барадуліна!!!

---

[1] Гл.: Успамінаючы Вялікую Бераставіцу (5.11.77 — 5.12.78) // Мудрэц са ступаю. С.184.
[2] Вакар Сяргей Міхайлавіч (1928–1998), беларускі скульптар. Аўтар помніка М. Багдановічу і скульптурных партрэтаў Я. Купалы, П. Панчанкі, У. Караткевіча, Р. Барадуліна.
[3] Блакіт Валянцін (сапр. Болтач Валянцін Уладзіміравіч; 1938–2002), беларускі пісьменнік. У 1974–1978 гг. нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Гродзенскага абкама КПБ, у 1978–1987 гг. заг. сектара тэлебачання і радыё ЦК КПБ.

* * *

Як таямніца спасціжэння,
Як у адчаі суцяшэнне,
Як найчысцейшаму служэнне
Была мне, ёсць і будзе Женя!

* * *

Маю віну,
маю правінку
Усе грузілі талакой,
А ты заўважыла травінку,
Што я прынёс у твой пакой…

*15 ліпеня*

На *Гродна.* Абком. Гутарка. Завод кардонных валоў — выступленне. Запіс па тэле на Мінск. Гасцініца. 19.00 — Палац хімікаў (вечар), р-н Беласток.

*16 ліпеня*

Мінск! Па абутак. У хімчыстцы. Дагавор — «Советский композитор».

*Уладзіміру Лучуку*
*(дасылаючы «Суровую вымову»[1])*

Суровую вымову
Аб'явіць мне чытач.
Зямны паклон мой Львову
І Тарасову слову.

*Рыгор, твой друг з Ушач.*

*P. S.*
Што заврацаю глову,
Не крыўдзіся, прабач.

*17 ліпеня*

Да Міхайлоўскай (на машынку артыкул Пімена [Панчанкі]).

*18 ліпеня*

Лане–15 год! Да 10-ці ў Міхайлоўскай (уступ). Разлік з машыністкай. Ланачцы — падарунак. Дагаворы — Ленінград, Кішынёў. 20.00 — Валеры Маслюк (дома).

---

[1] Барадулін Р. Суровая вымова. Мінск, 1976.

*19 ліпеня*

У выдавецтва. Пазваніць Элькіну. У «Бярозку» да Зуёнка. 14.30 — Камітэт па друку (А. А. Барушка[1]), аддзел кадраў. Паперы. Дабіць Бажко![2]

*20 ліпеня*

На працу! Здаць Бажко. Сфатаграфавацца для загранкі. Паперы для паездкі. Дазваніцца ў Каралішчавічы (Кашкурэвіч). Віктар [Шрамякоў] АДА, 36-19-51 (Літфонд).

*21 ліпеня*

На радыё вершы эстонцаў. Сфатаграфавацца (за мяжу). Адаслаць у «Молодь» фота і прадмову П. Панчанкі. У «Бярозку» (знайсці эстонцаў). З Ілонай[3] на Ксаверыя Дунікоўскага.

*22 ліпеня*

У аэрапорт Лану. Забраць Някляева (рукапіс[4]). 14.50 — каланада АН БССР (Стральцоў). 12.00 — запіс на радыё. Хімчыстка. «Падпісаныя выданні» — забраць.

*23 ліпеня*

На Камароўку. Ліст у СП Латвіі, Веяну. Варно — паштоўкі.

*25 ліпеня*

У «Голас Радзімы» пра Панчанку. У СП (забраць А. Твардоўскага). Звон Броўку (прадмова да Ціханава[5]). А. Вялюгіну, Маслюку, Яўменаву[6] (адрасы Пашкову). У кніжны — Пімена [Панчанку].

*26 ліпеня*

! У «Беларусь» — вершы. Характарыстыку (Бачыла). Да Навума [Кісліка] (вершы). Клініка СП (даведка).

---

[1] Барушка Анатоль Фаміч, нам. старшыні Дзяржкамвыда БССР.

[2] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч; 1918–2013), беларускі пісьменнік. перакладчык. У 1977–1978 гг. гал. рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі і нам. начальніка Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР. Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Бажко А. Каласы і скалы: Выбранае. Мінск, 1978.

[3] Гл.: Ілоне (12.04.78) // Белая яблыня грому. С. 167.

[4] Някляеў У. Вынаходцы вятроў. Мінск, 1979. Гл.: Яшчэ болей — скажа. (1979) // Парастак радка, галінка верша. С. 72.

[5] Ціханаў М. Спасціжэнне. Мінск, 1978.

[6] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі пісьменнік. У 1975–1979 гг. заг. кафедры этыкі, эстэтыкі і навуковага атэізму БДУ. Доктар філасофскіх навук (1977), прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

*Уладзіміру Машкову*

Чым выкажу,
Чым вымеру
Машкову
Любоў сваю?
Ці тым, што Уладзіміру
З нябёс сарву падкову
Маладзічко-
вую!

*27 ліпеня*

У выдавецтва. Валянцін Ждановіч (шукае мяне). 11.00 — Маладзёжная [рэдакцыя] тэле (3-ці пад'езд). 15.30 — Ф. Ф. Сачава[1] ([рэстаран гас. «Мінск»] «Сёмае неба»). Пазваніць Касьянавай (тэле).

*28 ліпеня*

32-15-29 Ірына Дзмітрыеўна Крымава[2]. Анатацыю — на Стэфана Паптонева. На радыё — туркменаў. У Камітэт па друку — паперы. Звон Вялюгіну, Пашкову. Знайсці Зуёнка (яго каардынаты). Даведацца Броўку (балакрон).

*29 ліпеня*

Кашкурэвічу (ці тэлефон). Прыезд Салтука з Любай. Звон Кісю [Журовічу], Ізотычу[3], Мядзведзю [Пушкарову]. 20.00 — Вольга Гурская.

*** Ліпеньскі град выскачыў. Вада раўчукамі па асфальце, як праз апошні адліжны снег. Чорна-белая графіка асфальту.

*31 ліпеня*

10.30 — тэле. Казахстан. Перадача. 10.00 — Камітэт па друку (фота для Гук [аддзел кадраў]).

*1 жніўня*

Звон Броўку (балакрон. Арлен [Кашкурэвіч]). У «БелСЭ». Пазваніць Коўтун (наконт рэцэнзіі на А. Вечара[4]). Куксо (зрабіць урэзку). Да Арлена

---

[1] Сачава Феафан Ф., універсітэцкі аднакашнік, настаўнік беларускай мовы з Гомельшчыны.

[2] Крымава І. Дз., рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Ізотаў Анатоль, беларускі музыкант.

[4] Вечар Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; 1905–1985), беларускі паэт, навуковец. У 1970–1985 гг. заг. лабараторыі біяхіміі і малекулярнай біялогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча АН БССР. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1975). Доктар біялагічных навук (1951), прафесар. Член-карэспандэнт (1959), акадэмік АН БССР (1966).

[Кашкурэвіча] дамоў (даведацца). Юрасю [Свірку] звон (наконт Салтука).

* * *

З юначых год Кастусь Куксо
Трымаў усмешку за крысо.
Так пра вясёлы дбаў пасеў,
Што сам ад смеху пакусеў.
У добры час! Смялей, Куксо,
Зацягвай на сябрах ласо!

*2 жніўня*

У выдавецтва — здаць «Прынамсі». 9.30 — чакаць Барыса Заборава. Да Навума [Кісліка] (для Калінінграда). Віншаванне [газ.] «Советской Белоруссии». Адшукаць П. Ткачова[1], Алега Антонавіча [Лойку]. Бухгалтэрыя.

*3 жніўня*

Звон Броўку. Да Навума [Кісліка] (забраць для Калінінграда, для «Дня паэзіі»). У Лечкамісію. Да Бярозкіна і Азгура[2]. Элькінд[3] (білеты).

*4 жніўня*

10.00 — СП (Элькінд. Білеты). Адаслаць у Калінінград. На радыё — армян і «Альманас» [?]. Брылю — тэлеграму (60 год). Да Навума [Кісліка] (капірку, стужку).

*5 жніўня*

У СП (Элькінд. Білеты). На радыё (Казімір [Камейша]). Выдавецтва — падпісаць Броўку ў друк (т. 5).

*6 жніўня*

Закончыць тэксты да альбома В. Ждановіча.

*7 жніўня*

Сустрэць Ваню Бурсава (№ 553). Ад’езд у Гродна.

---

[1] Ткачоў Павел Іванавіч (1930–1998), беларускі пісьменнік і літаратуразнавец. У 1969–1981 гг. заг. кафеды рускай класічнай літаратуры філфака БДУ. Заслужаны работнік Вышэйшай школы БССР (1983). Доктар філалагічных навук (1981), прафесар.

[2] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[3] Элькінд Сямён Саламонавіч, супрацоўнік СП БССР.

*8 жніўня*

*Гродна.* Васіль [Быкаў]. 230025, Парыжскай Камуны, д. 9, кв. 11, тел. 5-45-45. Да Васіля Быкава. Ад'езд з Гродна на Калінінград.

Чарапіца жарам гарыць. *Калінінград.* Гасцініца «Масква». Вячэра ў кафэ. Раве аркестр, як ва Уладзівастоку.

На жарыні чарапіцы бусел малады.

Абротка — аброць (ушацкае). Глядзіць, як конь з-пад аглаблі. Лес бачыць, што поле крадзе.

«Адпусціць тону бронзы для патрэб горада», — І. Сталін (сабе на помнік). Каўказскі хашызм (хашыст)[1].

*9 жніўня*

Знаёмства з горадам. Выступленне на аб'яднанні «Кварц». Выступленне «Атлант НИРО» (дэгустацыя новых рыб. Каеман. Сняданне). Да Собалева[2].

* [Музей.] А імя «прусы» ўзялі, хоць прусаў знішчылі. У дзвярах [малюнак адтуліны] — для пішчалі. Дзіцё з адбітымі нагамі, [скульптура] Маці Германія. Скульптура, маці нахілілася да зямлі рукой. За плячмі маленькі, з вяночкам. Ногі яму адбіла куляй ці асколкам, ручку падрапала, пашкоджана рука і ў маці.

«Кварц». «Атлант НИРО». Музей. Акула-пецька [?], рыба-поўня, рыба-сонца, марскі чорт, акула-ліса, рыба-піла (рыба-цешча). Зрослыя (два) эмбрыёны гарбатага кіта, акула-молат, сківіцы кашалота, ніжнія, як мяліца. ! Блакітны марлін, [неразб. 3].

*10 жніўня*

*Балтыйск* (Пілаў). Музей Балтфлота. БПК «Свирепый» (Большой противолодочный корабль). У Доме афіцэраў Балтыйска вечар.

* На Пілаў. На помніку Космадзям'янскага[3] чатыры README кулькі дзеці паставілі, знакі.

У музеі турэцкі сцяг з карабля «Перваз-Бахры»[4] [малюнак паўмесяца і зорка], як бабаўняная коўдра вылінялая.

У Музеі Балфлота гід паказвае купрэвік [?] эстонца, украінца: «И национальный вопрос решён, и продвижение». Аўтограф на бесказырцы[5].

---

[1] Хаш —каўказская страва.

[2] Собалеў Анатолій Панцялеевіч (Анатолій Сібірак; 1926–1986), рускі празаік (г. Калінінград).

[3] Помнік Герою Савецкага Саюза Аляксандру Анатольевічу Космадзям'янскаму (1925–1945). Родны брат Героя Савецкага Саюза (1942, пасмяротна) З. А. Космадзем'янскай (1923–1941).

[4] У час Крымскай вайны (1853–1856) турэцкі параход «Перваз-Бахры» быў атакаваны расійскім параходам-фрэгатам «Уладзімір», спусціў флаг і капітуляваў.

[5] Гл.: Аўтограф на бесказырцы (24.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 126.

[Матрос па-беларуску гаворыць В. Быкаву:] «Сабе скажыце». Хлопец з Салігорска, дэмабалізуецца восенню.

КСП — кантрольна-следавая паласа. Барануюць, аруць, дождж падае. Чакае зерня. Хіба след апячэ яе. Так і ялавее.

Дом афіцэраў — былое офицерское собрание. ! *Быкаў*: «Думаў, пасля вайны не толькі не пісаць, ані радка пра вайну не прачытаць даваў сабе клятву».

[Адрас:] Гречухин Виталий Григорьевич (г. Балтийск).

*11 жніўня*

Калгас імя Калініна. Бурштынавы камбінат. *Светлагорск* (былы Раўшэн). Выступленне ў гаркоме. Прыём у абкоме партыі. Вечар у клубе маракоў.

*Калгас імя Калініна. Слухаць загналі студэнтаў з будаўнічых атрадаў.

Здабыць звыш плану 40 тон бурштыну! 1 тыс 100 тон у год здабыча бурштыну, 16 кг на км$^3$. Пласты залягання бурштыну 3–5 м. Блакітная зямля, пласт, дзе ўтрымліваецца бурштын. Раней палілі. Бурштыновы камбінат. Светлагорскі гарком партыі, Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Іванавіч Філіпенкаў на цэнтроўцы валоў. Як ён шукаў бацьку свайго. Пераехаў. Ад другой жонкі Васілём сына назваў.

80 % прамысловасць Калініграда. 40 % — рыбная прамысловасць, 10 млн тон рыбы. У абкоме карта свету, абведзены абрысы мацерыкоў малюнкамі рыбы, абведзены раёны лову.

96 % бурштыну радовішчаў. 720 км дамбаў, 0,5 млн км дрэнажу. Дзе дроны, там, відаць з самалёта, зелянейшая лінія.

50 тыс. за мяжой, 2 тыс. на Кубе. Вучылі, паказвалі кубінцам, як есці рыбу, як гатаваць.

Чорна-пярэстая парода кароў. Як пажар распаўсюджваецца па краіне — толькі дай!

Вуліцы, як дзяўчаты бразголкамі, абвешаліся дарожнымі знакамі забароны, паваротаў і г. д. Вадзіцелю туга даводзіцца.

Да каменнага вяселля ад радасці акамянеюць.

*12 жніўня*

Зборы. Сустрэча ў рэдакцыі «Страж Балтики». Ля будучага гатэля і возера. *Каўнас*. Кавярня. Лес. *Гродна*. Ад’езд на Мінск.

*Зялёны тунэль прысад. Як арба. *Буслы, бо злы.* Як павязкі на бярозах ля варот. Медсёстры, яшчэ з вайны. Бярозы, як памінальныя свечкі, таму іх шмат. Магільнік у двары, каб прывязка.

*Як конь уздыблены, Луг туманом уздыблены. Ірзаць — натуральнае — далоў эрзац! Аржаную — шаную. Луг уздымлен туманом, уздыблен табуном.*

Наталенне Літвой, эпіграф са Стралкунаса. *Наталенне Літвой, Быцам лусту духмяную нашча. Луг іржэ, прыпякае кастра таўро*[1].

*13 жніўня*

Мінск! Звон Навуму [Кісліку]. «Юность»!

*14 жніўня*

Да Арлена [Кашкурэвіча] (ад Броўкі). Да Барыса Заборава.

*15 жніўня*

На радыё (запіс верша на Маскву). 15.00 — чакаць неафашыста (павінен прынесці рукапіс). Знайсці.

*16 жніўня*

У выдавецтва (чакаць неафашыста). Аддаць на дублікаты Янку Сіпакова. Да Фамы Фаміча [Караткевіча] на каву.

*17 жніўня*

Звон Броўку (вершы ў «Полымя»). На працу. Аддаць Арлену [Кашкурэвічу] адносіну на тэлефон. Вялюгіну (наконт падборкі ў «Полымя».

*18 жніўня*

Узяць з машынкі дублікаты Сіпачка [Сіпакова]. Звон у «Маладосць» Ждановічу. Забораву — звон. Адказ на анкету «Маладосці» (аддаць Янку Данілавічу [Сіпакову]).

*19 жніўня*

Але — карэктуру «Прынамсі». Наконт ад'езду ў ГДР. (Машкову — каб дастаў.) Сустрэць Ілонку з Ушач. Да Кошкі [Чарняўскай]. Лане — на ножкі.

* * *

«Ну а из общества мужского
Я предпочла бы всем Машкова,
Я б изгибалась, как подкова», —
Томясь, промолвила Нужкова[2].

---

[1] Гл.: Нашчуся Літвой (22.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 88. Верш прысвечаны А. Балтакісу.

[2] Нужкова Галіна Барысаўна, рэдактар рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».

*20 жніўня*

Карміць Ланачку. Падборку для «Полымя».

*21 жніўня*

Да Вялюгіна (здаць вершы). Да Ірыны Заборавай[1] (дзень нараджэння).

*22 жніўня*

Звон — на радыё. Сазваніцца з Броўкам. 10.00 — на тэле, запіс. Латышы. 14.00 — да Броўкі (вершы для «Полымя»). Узяць кніжкі ў Герчыка.

* * *

Хоць водзіць убакі ад стомы,
Хоць ад турбот пасекся чуб,
М. Герчык добра ўсім вядомы
Як самы шчыры кнігалюб.
Ён можа ўсё дастаць старанна,
Апроч уласнага рамана.
Пакуль штурмуюць чытачы,
Пішы наступны,
Не маўчы!
Гатовы прысягнуць паліцы —
І новы твой не запыліцца!

*[1970-я]*

*23 жніўня*

Пімену Панчанку — 60![2] Тэлеграму. Звон Вялюгіну. Артыкул у [газ.] «Голас Радзімы». У Аўтарскія правы (3 вершы і англійскія пераклады, забраць слав. анталогію). Забраць Графа [?].

* * *

Заткала — зайздрослівым раткам!
Слова мае радасць маладая.
Вечна панчанкаўскім жыць радкам.
Доўгіх год іх аўтару жадаю!

*24 жніўня*

Наконт Пятра Кошаля. Вялюгіну — Броўку. Сваё Някляева. У «Трыкатаж». Праяздны купіць.

---

[1] Басава Ірына Барысаўна (н. 1937), журналіст, руская паэтэса; жонка Б. Заборава. Дачка рускага рэпрэсаванага паэта Б. П. Карнілава (1907–1938).
[2] Гл.: Кніга вандраванняў і любові... (1977) // Парастак радка, галінка верша. С. 30.

*З прамовы Івана Шамякіна*

...Патрэбна нам з любоўю палкай
Звярнуцца слёзна ў выканком,
Каб Кулакоўскага з русалкамі
Стаўлялі ў бронзе галяком!

*25 жніўня*

У выдавецтва (бухгалтэрыя, Марцінкевіч[1]). 14.00 — на радыё. Запіс. «Вячэрні цягнік» — Вялюгіну. Выстаўка мастакоў Чарнагорыі (Палац мастацтва). Даручэнне Вялюгіна.

*26 жніўня*

Запіс на радыё (жнівеньскі нумар «Паэзіі»).

Ад’езд малых у Талін.

Забраць рукапіс і на друк. Караткевіч (хірургія, 4 палата, 3 паверх).

*27 жніўня*

Атрымаць пасылку (Стрыжак). Навуму [Кісліку] («Даўкава» [ час. «Даугава»] — прыйшла).

*28 жніўня*

Забараву (наконт Бярозкіна). 14.00 — да Моркаўкі (вяселле).

*29 жніўня*

Падпісаць Сіпакова ў набор. Звон Кірэенку (адкласці сустрэчу). Паслаць Салтуку сігнал. Бярозкіну (звон. Забораў). 18.00 — Някляеў (дома. Паэма).

Звон Алесю Жолдаку.

* * *

На раніцу разы са тры
У гэту восень мжыстую
Вялюгін напінаў шатры
У думках
З масажысткаю.

---

[1] Марцінкевіч Аляксандр Антонавіч, нам. дырэктара па вытворчасці выд-ва «Мастацкая літаратура».

*30 жніўня*

9.00 — Някляеў (паэма ягоная). 14.00 — СП. Пахаванне Зазекі[1]. Дазваніцца Навуму [Кісліку] (наконт «Советского писателя»). Дачытаць Кірэенку.

*31 жніўня*

Сустрэча з Кірэенкам (том, умова). На радыё да Лукшы. Звон Вялюгіну, Някляеву.

*1 верасня*

У ваенунівермаг (для каўнерыкаў, універсальны клей). Дабіваць Нікаласа Гільена[2]. 18.00 — Вольга Гурская.

*2 верасня*

На працу (бухгалтэрыя, зарплата). Ці знайшоўся ўступ Гільена![3] Звон Вялюгіну, Някляю [Някляеву]. 19.30 — «Па кім б’е звон»[4] (АДА).

*3 верасня*

Звон Панчанку. У ЦУМ (Віры [Жыжэнка] шалік). Лосіку боцікі для бульбы. Гільен! (гільяціна).

*4 верасня*

Да Караткевіча.

*5 верасня*

На працу (анатацыя Кірэенкі). 2–3 старонкі ў «ЛіМ» (пра Азербайджан). Вадзіму [Спрынчану] вершы пра Азербайджан, «Пашану», туркменаў. Перадаць шалік Віры [Жыжэнка]. 19.00 — «Мутнае вока», сустрэча.

*6 верасня*

На працу (наконт анатацый). 12.30 — Ан. Грачанікаў (Бурсаў і фота). Наконт зборніка Пашкова[5] (з Паўлавым). Клёве [Кляўко[6]] — анатацыю, загаловак.

---

[1] Зазека Язэп (Іосіф Васілевіч; 1907–1977), беларускі пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук.

[2] Гільен Н. Падарожжа да сябе самога. Мінск, 1978.

[3] Прадмова да зборніка Н. Гільена К. Шэрмана.

[4] Спектакль па раману Э. Хэмінгуэя. Хэмінгуэй Эрнэст Міллер (1899–1961), амерыканскі пісьменнік, журналіст.

[5] Пашкоў Г. Дыстанцыя небяспекі. Мінск, 1979.

[6] Кляўко Г. Падкова над парогам: Выбранае. Мінск, 1979.

*7 верасня*

10.00 — з воінскай часці (сустрэча). Анатацыі на аўтараў здаць і на сябе.

Мальдзісу наконт кнігі Кісялёва[1]. Звон Карласу [Шэрману] (наконт Гільена).

*8 верасня*

У Літфонд (Ваню [Бурсаву] лес 1–3 кастрычніка). 14.00 — на радыё (вершы здаць, бухгалтэрыя). 15.00 — секцыя перакладу (Карлас [Шэрман]). 11.00 — выдавецтва, Пашкоў. Ірына [Ідэльчык]. Пазваніць Нікіфаровічу (запісаць Бальчэўскую!).

**Гаўрук*: «Сёмуха ўдасканальваецца ў беларускай мове. Трэба не эксплуатаваць талент, а ўдасканальваць яго. Правячы сваю ранейшую працу, аўтар развіваецца. Удасканальвае майстрэства. Талент не разаў'ем, калі яго няма, можна ўдасканальваць толькі майстэрства».

*Алесь Яскевіч*[2] Лілі Салавей[3]: «Пасля праслухоўвання фальклорных запісаў не магу слухаць сучаснай музыкі. Бо не адчуваю той сур'ёзнасці».

*Васіль Сёмуха:* «У цяжкія хвіліны «Фаўст» дапамагаў мне ў поўным сэнсе гэтага слова, бо на «Фаўста» можна абаперціся».

* * *

Напрямик мы бором дули,
Оглашала бор сава…
Глядь:
        из чащи Бородулин
Тащит Ваню
                Бур-
                    сова!..

*8 верасня 1977*
*Вал. Тарас*

---

[1] Кісялёў Генадзь Васілевіч (1931–2008), беларускі гісторык, археограф, літаратуразнавец, пісьменнік. З 1971 г. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ. Кандыдат гістарычных навук. Доктар філалагічных навук (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1990).

[2] Яскевіч Алесь (Аляксандр Сямёнавіч; н. 1934), беларускі крытык, літаратуразнавец, бібліст. З 1964 г. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ. Доктар філалагічных навук (1992), прафесар.

[3] Салавей Лія Мацвееўна (н. 1934), беларускі фалькларыст. У 1970–1994 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

*9 верасня*

На працу. У СП узяць камандзіроўку. Звон Васілю [Зуёнку] (каб пачакаў з Бурсавым). Вадзіму [Спрынчану]— вершы пра Арменію. Звон Карласу [Шэрману].

*10 верасня*

Клышку — з «Адысеяй»[1]. 15.25 — на Рыгу (Lüftwafe). Веян 37-28-87, Ера [Стулпан] 32-21-67.

*Анатолю Клышку*

Беларускаму першаперакладчыку Гамера

Для росту неблагая мера:
Ад «Буквара» аж да Гамера.
Калі засеў за «Адысею»,
Дык вымерзлы засеў
Абсее!

*11 верасня*

11.15 — СП *Латвіі. г. Saldus***.** Вечар паэзіі. Vakariņa [вячэра].

*Ля помніка Яна Райніса. Мітынг, кветкі. Выступае балгарын: «Будем пить медленными глотками вино поэзии». Паэтэса з ГДР (Расток), тут жа на латышскую пераклад.

Мама глядзела, ці выпаўніла [карова] бакі (трэба было глядзець, здаецца, злева). Каровы бурыя праз дарогу, як састаў цягніка. Адвык ад статкаў вялікіх. Каровы бурыя ў імжы ці цягніковы састаў. Адвык ад кароў. З нумарамі на баках выпаленымі, як на бойню. Раней кожную па імю ведалі (а буська), а зараз на канвеер.

*12 верасня*

*Jaunlutriņu,* 8-gad skobap [8-гадовая школа ?]. У школе. Музей І. Вацыецiса[2]. Выступленне, Броценскі цэментна-шыферны камбінат.

* Музей Іаакіма Вацэціса. Простая хата. Падлога з шырокай цэглы, млын для кавы, як грамафон з ручкай на спіне. Калаўрот, кудзеля, лучнік. Падушкі дзве толькі на ложку бацькоў. Вялізны таган вісіць і дымаход ўгору. На гарышчы летам маці ткала, усе прычындалы. 6 дзяцей, і ўсіх трэба апрануць. Настаўніца прывяла малых школьнікаў паказаць усе прылады, бо дзеці не ведаюць, як што называецца.

---

[1] Гамер, легендарны старажытнагрэчаскі эпічны паэт, аўтар паэмы «Адысея».

[2] Памылкова, трэба: Вацэціс Іаакім (1873–1938) — савецкі военачальнік. У Грамадзянскую вайну камандзір Латышскай стралковай дывізіі. У 1918–1919 гг. галоўны камандуючы ўзброенымі сіламі рэспублікі.

Выстаўка-фантазія, 2-гі клас: з дзядоў мядзведзь з чырвонай стужкай, з бульбы аблавухі зайчык. 1-шы клас: з цыбулі і ліста капусты — белую лілею. 3-ці клас: з бурака — трактар. 6-ты клас: са стручкоў гароху конік, які, прыклаўшы вушы, сядзіць на хвасце.

Ад кроз
Каля бяроз спачы,
забаляць,
Як выбухі зялёнай роспачы,
Дубы на выцвілых палях.

Nedzveckis. Nedzvecki. Гуды. Пасля паўстання [застаўся] — ёсць меркаванне. Альбо гонячы плыты. Слухаць любіў плытагонаў. Райніс з ім. У бацькі Райніса [быў] вартаўніком. Сам Райніс вытлумачвае, што ўсе песні і казкі беларускія [пачуў] ад яго. Ёсць дадзеныя, што за заступніцтва за беларусаў буржуазны ўрад хацеў [яго] арыштаваць.

*13 верасня*

*Курцішская* 8-годка, рэшткі хутара Рудзіціса[1]. Калгас «Straume» (Nigrande), Эзерэ [сядзіба]. Вечар паэзіі. Фінская лазня. Андрыс Спагус [ці Спагіс] (камень адк.).

*Курцішская 8-годка. Астры ў нечасаных парыках раніцай, як дзяўчаты, што ноч правялі весела і яшчэ ноччу пахнуць, і страхам, і холадам, і зорамі.

У калгасе размова перад абедам: праблема горада — вёскі, сувязі літаратуры, маладзейшага пакалення. Усё з усведамленнем уласнай гаспадаркі. Наогул, у Латвіі, відаць, праблема горада і вёскі практычна рашаецца, і ўжо многа з гэтага зроблена. Транспарт, узровень культуры і кампактнасць, хатнасць усёй рэспублікі. Сацыёлагі і праблематыстыкі цікавяцца чалавекам, заклапочаны і канкрэтна, а не наогул.

Калі ўвесь Саюз ва ўзвешаным стане раствор, то ў Прыбалтыцы ў першай пачынае выкрышталізоўвацца тое, што, відаць, у будучым будзе ў праблеме горад — вёска, а наогул, па-еўрапейскаму шляху. Але цікава тое, што пры большай урбанізацыі, прамысловасці цікавасць да свайго — зямлі, побыту, мовы мацнее.

Райніс: асоба — грамадства — прырода.

Андрыс Спагіс (школа); вапнавы завод; рака Вэнта.

*NB.* Ледніковы перыяд, камяні на месцы помнікаў.

Вінны завод, цэх бражэння, як СП, а з кра[ніка?].

---

[1] Рудзіціс Рыхард (1898–1960), латышскі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

У калгасе падрыхтаваны букеты, якія назвы зборнікаў паўтараюць. У Салдусе былі букеты ў гонар паэтаў. Са старога праса, з пашчы ягонай, дзве юргіні — Ugunsmīlistība, Pērkona māja.

*п. Эзерэ*. «8 мая 1945 г. в Эзере принята безоговорочная капитуляция курляндскай группы немецко-фашистских войск». Мемарыяльная дошка ў доме, дзе была мытніца Літва — Латвія.

У Эзерэ ў школе зноў букеты-фантазіі — «Ave soll», «Гасне мара», «60 год Кастрычніку», «Цётухна Ураджай». Некалі на конях у туман сустракалі паэтаў, зараз (кажа дырэктар завода), як да сябе дадому, бо ведаюць ці ў твар і па творах, ці толькі па творах. Захочаш — заходзь, ты ў кожнай хаце свой.

*** Прыбой з грому выкаваў цішу.

І п’янага хістае дым з уласнай цыгарэты.

*14 верасня*

*Салдусская* СШ. Vindedzie (палітра кветак). Выстаўка ў класе (рус.), у спортзале. Выстаўка ў студыі К. Taube[1]. Музей Розэнталя[2], кераміка. На *Рыгу*!

*Будуць манеры, як трымаць відэльцы і нож, будуць новыя зубы вечныя, але не будзе як адчуць смак хлеба і варанай бульбы.

Настаўніца рускай мовы пытае, чаму няма радкоў для розных дат, выпадкаў (шлюб, дзень нараджэння), а ў латышоў шмат. Адкрываеш…

Выстаўка К. Taube. Дыпломная. «Ліга», «Летняя ноч», «Асведамленне нацыі», «З паганскіх традыцый»; галіны не галіны, змеі не змеі. «Арменіі мы, латышы, не можам намаляваць, бо не можам узяць колер. Мы малюем святло і паветра».

Мастак дрэва. Fridrich Gofman[3]. «Ветраны дзень». Дрэва, вешае мыццё, як вялікія кляновыя лісты, спадаюць і знізу падсвечваюць агульны выгляд. Розэнталь «Мастак у садзе са сваімі мадэлямі».

Выстаўка керамікі — Элза Зарыня[4]. Вялізны гарлач гліняны, і здорава горла трымаецца вяроўкай. Адразу ўзнікае давер да гліны паліванай. Палíва ажывае.

Заўсёды на стале ляжыць па кветачцы. У настаўніцкай, дзе абедалі, у РК на часопісных століках разам з мінералкай і цукеркамі — па ружы зграбнай і прыгожай. За сталом у цэнтры букет з гваздзікоў.

---

[1] Таубе Карліс (1911–1993), латышскі мастак, сцэнограф.

[2] Разентал Яніс (1866–1916), латышскі жывапісец.

[3] Гофман Фрыдрых, латышскі мастак.

[4] Зарыня Элза, латышскі кераміст.

У дарозе. Скайдрытэ Калдуне[1] намазвала мёд з вашчынамі на чорны аржаны хлеб. *NB*. Кнут Скуеніек[2] рэчаньку пытае, чаму яна не поўная.

У Рызе. Лівень. Монта[3], Мара[4], Імант [Зіедоніс], Кнут, я — вялізныя чатыры ахапкі кветак [паклалі] да помніка Райніса. Кнут чытае верш Яна Райніса. Дождж, неон, і ўсё падножжа помніка высвечана кветкамі.

*15 верасня*

Град! 11.00 — СП Латвіі. У выдавецтва «Ліесма» (Сімбард[5]). 13.00 — рэстаран «Рыга». Выстаўка акварэлі з жыцця індзейцаў. Музей гісторыі. Падвал. Чырвоны кардынал.

* Сёння бог не латыш. Пагаворка, бо лівень. У Латгаліі азёры знізу і зверху. Па хрусткаму граду ісці прыемна. Град!

*Іду, як па жарстве, па вераснёўскім градзе.*

Браты па пчолах.

У Салдусе на 1 жыхара 1 загінуўшы.

Курт Фрыдрыхсан[6], выстаўка жывапісу на тэму індзейцаў і тэксты вершаў у духу нацыянальным. «Няўжо ў тым мой грэх, што нарадзіўся я там, дзе нарадзіліся мае бацькі?»

Упаў Іаан Хрысціцель, яго [забралі] ў музей медыцыны пад назвай «Дужа худы хворы». Ледзь угаварылі, што гэта скульптура. Музей Рыгі. Правучаны 2 маладыя злодзеі–2 [неразб. 1]. Рахунак рыжскага ка́та Марціна Гуклевена за выкананую працу, 1554 г. Адсечана галава краўцу (мечам). Гатовы да паслуг кат. Высечан здраднік у супр]ацоўніцтве?] няверна. *Араты — караты. Вякі, на калені — Гранітныя штыкі — гранітнае сумленне.*

У латышоў тыл — раён, як горад ні наступае. Тыл глыбокі і глыбока нацыянальны.

Прыпеўка [дайна]: Дзеля такога глупства не варта класціся на зямлю.

Дзецюку надоечы
Я давала стоячы;
Ці ж для драбязы такой
(На зямлі ляжаць сырой?)
Зябнуць на зямлі сырой?

*Тэлепат і цэлібат. Таленавіты, але не Вітаўт.*

---

[1] Дакладней: Калдупе Скайдрытэ (сапр. Кікутан. 1922), латышская паэтэса, празаік.
[2] Скуеніекс Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык.
[3] Магчыма, Крома Монта (1919–1994), латышская пісьменніца.
[4] Місіня Мара (н. 1949), латышская паэтэса.
[5] Сірмбардзіс (Сімбард) Ян (н. 1937), латышскі паэт.
[6] Фрыдрыхсан Курт (1911–1991), латышскі мастак.

* * *

Шчырасці не стае.
Мамы не стала —
Гады без яе,
Як астрогі.

Дарога нейкая,
цягнік які,
не ведаю, калі і дзе,
прывядзе, прывязе некалі
да мамы,
ахутаны высненымі дымамі.

Мамы даўно няма. Ды я мяняю дарогі, цягнікі, усё спадзяюся, што нейкая дарога, нейкі цягнік да мамы прывязе. Веру… Раней любіў ад’езды, а цяпер — вяртанне, бо цепліцца надзея, што мама сустрэне. *Балючая стрэмка — сустрэне.*

Не хата — храм святы,
Жонка грыміць,
Як арган,
І па сумяшчальніцтву
Чытае казанні,
І ўвечары, і ўранні
Вядзе свае казанні.

*16 верасня*

У бюро (забраць білет). У «Карогс» (Андрыс [Веян]). Да Ераніма [Стулпана]. 13.30 — «Метраполь».

Кнут [Скуеніек], Сірмбардзіс, Андрыс.

*17 верасня*

Мінск! У ЦУМ (для Ілонкі цёпленькае).

Перадрук Нікаласа Гільена.

*18 верасня*

Перадрук Гільена. Зуёнак — звон. Ваня Цярэшкаў [Бурсаў] (для «Бярозкі»).

*19 верасня*

Звон Карласу [Шэрману] (Гільен).

Зайцу — кофту. У «БелСЭ». Звон Бураўкіну. Дазваніцца да Вялюгіна і да Броўкі.

*20 верасня*

Артыкул і верш у «ЛіМ». Звон Броўку (загаловак для бібліятэкі[1]). 19.00 — Ольга [Гурская]. 20.15 — на радыё (Масква).

*21 верасня*

Віры [Жыжэнка] — прывітанне. Броўку звон 99-82-00. 15.00 — Люба Турбіна. Пасля абеду Мацievіч[2] (майстэрня).

*22 верасня*

10.00 — прывітанне Віры [Жыжэнка]. 12.00 — да Генадзя Бураўкіна. 13.00 — чакаць Веру Вярбу. 13.30–14.00 — да Броўкі (кнігі аддаць). 15.00 — да мастака [Мацievіча]. Ілонцы — гадзіннік, туфлі. Дазваніцца да Гніламёдава.

*23 верасня*

Віры Жыжэнка — дзень нараджэння. 12.00 — на тэле. Ліст Валі Лісіцынай [жонцы У. Лісіцына]. 11.30 — Гніламёдаў (артыкул).

*25 верасня*

18.00 — банкет у Віры [Жыжэнка].

* Алег Мацievіч маляваў спартсменаў — пакутваў (зімой), а для аддушыны — поле і пеўня — і радаваўся, як нечаму свайму.

*26 верасня*

Да Алега [Мацievіча] (у майстэрню). У выдавецтва, у крамы. Дазваніцца да Зуёнка.

*27 верасня*

10.00 — тэлезапіс (пра Дзяргая). Да Алега [Мацievіча].

*28 верасня*

Да Алега [Мацievіча]. Бураўкіну «Дотык да юнацтва». Зуёнку ўрэзку і вершы Вані [Бурсава].

*29 верасня*

19.00 — Валеры Маслюк. Да Алега [Мацievіча]. Да Вялюгіна (вычытаць карэктуру 11-га «Полымя»). У выдавецтва Шаху [Шахаўцу] «Грамоту лет» [Бурсава] (на пераклады).

---

[1] Серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі» выд-ва «Мастацкая літаратура». Броўка П. Што сэрца праспявала. Мінск, 1979.

[2] Мацievіч Алег Мікалаевіч (н. 1947), беларускі мастак.

*30 верасня*

Да Алега [Маціевіча]. Вялюгіну (вершы маладых) 15.00 — адкрыты партсход.

*1 кастрычніка*

Да Алега [Маціевіча]. 15.00 — Музей Янкі Купалы (сустрэча). Да Калабка [Чарняўскага].

*2 кастрычніка*

М. Ціханаў, А. Сулейменаў.

*3 кастрычніка*

Рэму [Нікіфаровічу] (наконт Казіцкага). Звон Някляеву (Міша [Герчык]). Якаў Абрамавіч [Серпер]. 14.00 — да дона Карласа [Шэрмана]. Юрасю [Свірку] ў «ЛіМ» Алжаса [Сулейменава] і Аяна [Нысаналіна]. У «Бярозку».

*4 кастрычніка*

Да Валянціна Лукшы (выступленне). 12.00 — Правасуду[1] ў «Работніцу і сялянку» вершы з «Прынамсі». Звон Круку (каб фота Вані [Бурсава] для часопіса).

*5 кастрычніка*

У «ЛіМе» ўзяць рэцэнзію на Герчыка. Забраць на працы «Беларускую баладу»[2]. У Літфонд (Ваню [Бурсаву] пуцёўку). Звон Івану Цярэнцевічу [Бурсаву]. Да Крука (фота Вані).

*6 кастрычніка*

У выдавецтва (забраць рэцэнзію на Мішу [Герчыка], рукапіс Някляева). Звон Законнікаву (кніжку).

*7 кастрычніка*

9.00 — да Рэма [Нікіфаровіча] (наконт Казіцкага). 10.00 — да Валянціна Лукшы (і «БАМ» бурсаўскі). 19.00 — паэтычная пятніца, у выдавецтве мітынг.

*8 кастрычніка*

Для зарубежнага радыё (падборку вершаў).

---

[1] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік. З 1967 г. супрацоўнік час. «Вожык».

[2] Беларуская балада. Мінск, 1978.

*9 кастрычніка*

Да Алега [Маціевіча]. Чакаць Івана Бурсава.

*10 кастрычніка*

9.00 — у выдавецтва. Пераезд[1]. Звон Рэму [Нікіфаровічу] (наконт Казіцкага).

Мэблевы склеп. З машынкі перадрук. Да Карласа Шэрмана (наконт Гільена).

*11 кастрычніка*

У выдавецтва. СП. Літфонд. Чакаць мэблю (кухню). 16.00 — секцыя паэзіі (Законнікаў [прыём у саюз]). Аддаць Шамякіну рэляцыю на Івана Бурсава ([пра] кватэру напомніць).

*12 кастрычніка*

У выдавецтва. 11.00 — запіс на радыё. У мэблевы магазін.

*13 кастрычніка*

З Іванам Васільевічам. 15.00 — запіс (радыё, зарубежнае). Пазваніць Кірэенку (наконт двухтомніка[2]).

*14 кастрычніка*

12.00 — пані Зося (кансерваторыя).

Знайсці водаправодчыка.

*15 кастрычніка*

Суботнік — 9 раніцы (Дом кнігі).

*16 кастрычніка*

На Каралішчавічы!

*17 кастрычніка*

У Мінск. Кірэенку здаць. У СП (адзначыцца на пленуме[3]). Узяць аловак для машынкі. Падушачку для дубляў [дублікатаў].

Звон Зайчыку.

---

[1] Выдавецтва пераязджала ў новы будынак (Дом кнігі) на пр. П. Машэрава, 11 (зараз пр. Незалежнасці).

[2] Кірэенка К. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1978.

[3] Аб'яднаны пленум творчых арганізацый (з удзелам П. М. Машэрава і А. Т. Кузьміна).

*18 кастрычніка*

Да Карласа [Шэрмана] (Гільен). З Вярбой зняць пытанні[1]. У [час.] «Беларусь» гумар. Узяць запас паперы для машынкі, заяву Вані [Бурсава]. Жэню [Янішчыц] на перадрук, люстэрка (брыцца).

*19 кастрычніка*

Перадрукаваць для Бураўкіна верш М. Ціханава (і выправіць), дачытаць «Ясельду»[2] (выбраць для «Полымя»). Звон Вярбе (паэму для Вялюгіна).

*20 кастрычніка*

У Мінск: здаць другі том К. Кірэенкі, «Экзамен» (Віры). М. Ціханава (Прыходзьку). Заяўку Бурсава (Міхальчуку) «Лов и клёв». Жэні [Янішчыц] — зборнік.

*21 кастрычніка*

З Вярбой (зборнік узяць). Узяць з дому (харч, паддзёўку). Знайсці, дзе Лёля [Броўка], узяць чаю. На пошту на Бядулі. Звон Зайчыку.

*22 кастрычніка*

Перакласці Ваню [Бурсава] для «ЛіМа». Дабіць шведаў, па магчымасці.

*23 кастрычніка*

У Мінск з Ванем [Бурсавым] (узяць Верамейчыка[3], звон Шаху [Шахаўцу] і званочкі…) Той!

*24 кастрычніка*

Звон у Мінск. Шведы. Пазваніць Вярбе. Аддаць Вялюгіну глянуць Гільена.

* * *

Рашучасць
Замкі забароны зрывае,
Адчай разгінае прабой.
Разважлівасць знае:

---

[1] Вярба В. Альфа. Мінск, 1978.

[2] Янішчыц Я. Ясельда. Мінск, 1978.

[3] Верамейчык Уладзімір Міхайлавіч (1937–1999), беларускі пісьменнік. У 1966–1999 гг. дырэктар Ветрынскай СШ Рэчыцкага раёна.

Дарога крывая
Смяецца каля прамой…

*25 кастрычніка*

Карласу [Шэрману] — дзень нараджэння. Выдавецтва. Лёля [Броўка]. Бухгалтэрыя. Узяць для Вані [Бурсава] («Вяртаюцца ў студэнты»). Ілонцы купіць прайгравальнік.

*26 кастрычніка*

«З грэкаў у варагі»[1] патроху дабіваць. Прачытаць Міколу Хведаровіча[2] («Бібліятэка [беларускай] паэзіі» 1978).

*27 кастрычніка*

Дачытаць «Ясельду» (перачытаць). Звон Шахаўцу. 19.00 — вечар сустрэчы: калгасы трох рэспублік. Тэле. СП.

*28 кастрычніка*

Перадрук вершаў. 9.30 — да «Бярозкі» (Васіль [Зуёнак] машыну). Аддаць Бураўкіну верш. У Мінск .

*29 кастрычніка*

Перадрук падборкі. Такія-сякія вершы.

*30 кастрычніка*

Дачытаць Хведаровіча, пазваніць яму (33-58-07), няма даты і даведкі.

*31 кастрычніка*

Да Уладзіміра Караткевіча. 15.00 — СП. [Прыёмная] Камісія (Законнікаў, Сёмуха). Вычытаць карэктуру «Прынамсі». З Хведаровічам зняць пытанні.

*1 лістапада*

3.00 — у лесе! «З грэкаў у варагі» — здаць Вялюгіну (перадрукаваць і закончыць). Падрыхтаваць Хведаровіча ў набор.

*2 лістапада*

На пошту (на вул. Бядулі). У выдавецтва, пытанні зняць з тэхрэдамі, з карэктарамі.

---

[1] Назва падборкі і раздзела будучага зборніка, гл.: Вечалле. Мінск, 1980.
[2] Хведаровіч М. Крынічка. Мінск, 1978.

*** Дзве качкі лятуць на ўзроўні 9-га паверха рэдакцыі збору твораў, у збор твораў апошніх галасоў птушыных.

*3 лістапада*

Звон у Мінск. З Мішчанчуком[1] (ягоны зборнік). У бухгалтэрыю. Купіць пуцёўкі ў лес Ілоне з сяброўкай ейнай. 18.00 — сустрэча з паняй Зосяй. 19.00 — 50 год Веры Сцяпанаўне [Паваліхінай]. Прачытаць Я. Хвалея.

*4 лістапада*

! Віншаваць [з днём народзінаў Р. Бабіцкую]. 12.00 — мітынг у выдавецтве. Я. Хвалею аддаць рукапіс (радыё). Звесці карэктуру «Прынамсі». Дом друку (аддаць у «Работніцу і сялянку» Каламіец). Узяць у лес Папковіча. Цукар.

* * *

А напісаць,  
Як выказаць услых.  
А ці пачуе той,  
Каму казалі?  
Ані баіцца слова  
Плётак злых,  
Няўчутае,  
          не патрабуе жалю.

Не верыш словам  
І не верыш мне.  
Адна, што верыла,  
Да іх раўнуе.  
У рэчцы смутку  
Ледзьве не на дне.  
З якім жа словам  
Па яе нырну я?

Я словы для яе  
Аддаў табе.  
Ты не ўзяла іх.  
Не вяртацца ж з імі  
У ледастаў.  
Бярог, але дастаў  
Мароз.  
Хто лёд з заледзянелых здыме?

[1] Мішчанчук Мікола (Мікалай Іванавіч; 1939–2012), беларускі паэт і літаратуразнавец. Член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі (1998), доктар філалагічных навук (1995). У 1967–1996 гг. працаваў у Дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка.

Круці, завея,
Сцежкі караці.
Каб мог па першапутку разабрацца,
Ці словы адагрэць наноў мне,
Ці
Бясслоўнаму падацца
У жабрацтва.

*1977*

*5 лістапада*

Забраць Ілонку з сяброўкай у лес.

*6 лістапада*

Пазваніць Рэму [Нікіфаровічу] (што там у Балгарыі з кнігамі чуваць). Падборку для Юркі Голуба (утрэсці).

*7 лістапада*

Свята! «]Беларускую] Баладу» пачаць чытаць. Заўвагі па «З грэкаў у варагі» вялюгінскія паправіць.

*8 лістапада*

«З вараг у грэкі». Па лесе прагулачку. «]Беларускую] Баладу» гнаць. «Истина — дочь времени» — М. Зошчанка[1].

*9 лістапада*

Звон у СП. Зуёнку. 19.30 — Элькінду 66-80-65. Падрыхтаваць Лукшу «З грэкаў у варагі» (для радыё).

*10 лістапада*

Праца. «]Беларуская] Балада». Звон на радыё. 15.00 — СП. Да Элькінда. 17.00 — вылет у Маскву. Пазваніць Броўку. *Масква.* Да Вані [Бурсава].

*11 лістапада*

10.55 — Унукава. На *Нальчык.* Гасцініца «Расія». Тэатр музкамедыі. 18.00 — вечар. Рэстаран.

*Кайсын [Куліеў]*: «Туга па мудрасці. Дзякуй народу, што падарыў мне мову. Сваю мудрасць, сваю веру...»

Вяроўка добра доўгая, а тост — кароткі.

---

[1] Зошчанка Міхаіл Міхайлавіч (1894–1958), рускі празаік і драматург.

*12 лістапада*

*Чэгем* [раённы цэнтр]. *с. Эль Булунгу*. ДК *Ніжні Чэгем*. Рэстаран «Эльбрус».

* Чэгем. Цясніна Дэзайпер. Хмары, як авечкі ў атарах. Чэгем, як Дэмасфен з каменчыкамі ў роце рамяству вучыцца. Сівыя скроні ў складках гор мовы захаваліся. [Неразб. 1] у гарах сады без хімікатаў і чарвей. Кабардзінцы зімой аблокі пасвяць, а балкарцы іх дояць летам.

Веліч гор у тым, што яны на адным месцы і ні да кога не ходзяць на паклон.

Едзем восенню, зяляніна, вада. Чырвоны барбарыс.

Вяршыні таксама зрываюцца, калі дужа занясецца. Вослік на асялку горных дарог вострыць капыткі.

*13 лістапада*

Ад'езд на *Мінводы*. На Мінск. (Як я быў Кайсынам[1].)

Вадаспад самы большы Кайсын [Куліеў] падарыў Мустаю Карыму. Вадаспады падаюць з гор, некаторыя вырываюцца, нібы горы не маглі стрымаць. Каб ніколі коннік не спешыўся справа!

Рэкі з самалёта дужа звілістыя. Не таму, каб лягчэй ішлі, а каб хто ехаў па іх, паўтарыў усё і пераканаўся, што не лёгка ім было ісці.

[Адрасы:] Кабардзіна-Балкарская АССР, г. Нальчык, Каракетову[2] Юсуфу; г. Сухуми, Кукуладзе[3] Чола Владимирович.

*14 лістапада*

На працу. Да Зуёнка. Карэктуру «Прынамсі» — на радыё. Звон Кірэенку (наконт аб'ёма тамоў). Звон Лукшу.

*** Размова двух рабацяг ў тралейбусе: «Ішоў чмыхнуць да Каленчыка. Сустрэліся Няхайчык і Кузура...» — (нацыянальны склад).

Паэты — галаснікі, замураваныя ў сцены часу[4].

* * *

Любячы, ненавідзець
Ці ненавідзець, любячы?
Ці падавацца на Свіцязь,
Узяўшы білет на Любанічы?

---

[1] Гл.: Як я быў Кайсынам // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 217.

[2] Каракетаў Юсуф, карачаева-балкарскі паэт, літаратуразнавец.

[3] Кукуладзе Чола Уладзіміравіч (н. 1921), грузінскі мастак. Заслужаны мастак ГССР.

[4] Гл.: «Паэтаў — галаснікоў вякоў...» (27.10.85) // Маўчанне перуна. С. 159.

*15 лістапада*

8.00 — на працу. Явачны дзень. Купала «Вадаспад»[1]. Да Лукшы (з абеда). Да тэхрэдаў. Кірэенку — звон. Мікалаю Раманавічу [Казлову] — рэкамендацыю[2].

*16 лістапада*

Падагнаць «З грэкаў у варагі». Звон — Саламевічу[3], Ілоне. Паэма Лукшы. Выбраць вершы Мальчэўскай для Вялюгіна.

*17 лістапада*

У Мінск. Саламевічу. «[Беларуская] Балада». Дадаць балады Паўлава, Пашкова. Узяць для Вялюгіна паэтаў.

18 лістапада

Явачны дзень. Ваню [Бурсаву] ліст — ёсць ён у плане[4]. Узяць у лес Рыгора Рэлеса[5] (для «Дня паэзіі»).

15.00 — адкрыты партыйны сход. Быць. Сустрэча з аўтарамі. Сцепанюк [гас.] «Мінск» (нумар 361).

*19 лістапада*

Падрыхтаваць для Зуёнка (у «Дзень паэзіі») вершы і гумар.

*21 лістапада*

Звон Васілю [Зуёнку]. 15.00 — з Саламевічам сустрэча. Да [Аркадзя] Марціновіча.

*22 лістапада*

10.00 — у Люды[6] [забраць] свае зборнікі. Наконт Кашаля [Кошаля] з Марціновічам. З Вадзімам [Спрынчанам] карэктуру. 19.00 — у «Мутным воку» (цыркачы).

Звон Мальдзісу, Броўку. Заключэнне на Курбеку.

---

[1] Верш Я. Купалы «Над Іматрай».

[2] Казлоў М. Р. быў прыняты ў беларускі Саюз мастакоў у 1981 г.

[3] Саламевіч Янка (Іван Уладзіміравіч; 1938–2012), беларускі вучоны і перакладчык. У 1976–1992 гг. заг. навуковай рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя». Кандыдат філалагічных навук (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[4] Бурсов И. Сказки, полные чудес. Минск, 1979.

[5] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі паэт і празаік. Пісаў на ідыш і рускай мове.

[6] Драко Людміла Рыгораўна (1947–1998), заг. бібліятэкі Дома кнігі Дзяржкамвыдата.

*23 лістапада*

9.00 — Стась Ананка! 10.00 — забраць у Люды [Драко] Броўку. Да Зуёнка (адабраць [вершы для] «Дня паэзіі»). 17.00 — да Броўкі (балакрон). 18.30 — Вольга [Гурская]. Да Кошкі [Чарняўскай].

*24 лістапада*

На працу. Забраць кнігі. «Рускія народныя казкі». Пазваніць Бурсаву (што ён у плане ёсць!).

*25 лістапада*

10–11.00 — Алесь Мазур. Зборнік прачытаць. Прынясе Каробкіна[1] вершы. Дзень нараджэння ў Шаха [Шахаўца]. Дамовіцца з Зуёнкам («Дзень паэзіі»).

*26 лістапада*

Для Зуёнка матэрыялы падабраць. Праводзіць Пятра [Трафімава] на аўтобус (Ушачы). Марыі Рыгораўне [Трафімавай] — [перадаць звычайна што смачнае].

*27 лістапада*

На Маскоўскую, у ГУМ, да Кошкі [Чарняўскай].

*28 лістапада*

Да Якава Абрамавіча [Серпера]. На радыё (запіс). Макалю — зборнік для славакаў. Ліст з вершам — Юрку Голубу.

* * *

Пакуль мурагі абаўе,
Прытоміцца Нёман рухавы.
Прымоўклыя замкі твае —
Гняздоўі арлінае славы.
Скупою красой няўмольна
Бярэш у палон,
Прынямонне.

*[Лістапад]*

*29 лістапада*

На Маскоўскую. Лісты ў Нальчык і ў Гродна (Голубу).

---

[1] Каробкіна Святлана Тарасаўна (н. 1939), беларуская паэтэса. У 1970-х гг. працавала ў беларускім аддзеле «Цэнтральнай кнігарні» г. Мінска.

*30 лістапада*

Звон на працу. Зайсці ў «Бярозку». Да Калабка [Чарняўскага].

*1 снежня*

Дазваніцца да Вялюгіна. Звон Васілю [Зуёнку], Мальдзісу, Някляеву.

*2 снежня*

19.00 — Дзяргаеў вечар, СП. На працу. Здаць Крупенькаў[1] «Дом» (Міхальчуку). 16.30 — Кастусь Жук[2] прыйдзе. Алесь Пісарык[3].

*3 снежня*

На Маскоўскую, абутак. Звон Някляеву, Карласу [Шэрману].

*4 снежня*

Да Карласа [Шэрмана] (узяць Рыльке[4]).

*5 снежня*

10.00 — Яўген Крупенька. Някляеў. 10–11.00 — Яшу [Серперу] звон (лекі). У бухгалтэрыю «Полымя». 18.00 — Лечкамісія, пакой № 17.

*6 снежня*

На працу. Здаць на машынку частку Каробкінай. Звон Якаву Абрамавічу [Серперу]. Мальчэўская прынясе вершы. Бандэроль (Галоўпаштамт). 19.00 — вечар Крапівы.

*7 снежня*

Сустрэча з Рэмам [Нікіфаровічам] (тэле). 10.00 — ад’езд ад СП у Каралішчавічы. 14.30 — сустрэча Пятра [Трафімава] з Ушач 23-м тралейбусам (купіць). Звон Клёве [Кляўко].

*8 снежня*

Ілонку ў Лечкамісію. У «Зорачку», № 25. Звон на радыё (Лукшу). У бухгалтэрыю СП (камандзіроўкі — разлік). Наконт Бурсава ў «Піянер Беларусі».

---

[1] Крупенька Яўген Міхайлавіч (1936–1990), беларускі паэт і перакладчык. У 1970–1990 гг. супрацоўнік газ. «Чырвоная змена». Крупенька Я. Хто нам дом пабудаваў. Мінск, 1978.

[2] Жук Кастусь (Канстанцін Якаўлевіч; н. 1954), беларускі паэт і перакладчык. У 1974–1979 гг. наладчык, электразваршчык на Мінскім трактарным заводзе, студэнт вячэрняга аддзялення філфака БДУ.

[3] Пісарык Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч; н. 1954), беларускі паэт. У 1976–1985 гг. працаваў на Мінскім трактарным заводзе, вучыўся на завочным адзяленні філфака БДУ (1977–1980).

[4] Рыльке Райнер Марыя (1875–1926), аўстрыйскі пісьменнік.

*9 снежня*

На працу. На машынку — Каробкіну. 11.00 — да Якава Абрамавіча [Серпера]. У СП (бухгалтэрыя) — камандзіроўкі. Звон Зуёнку дамоў (наконт «Дня паэзіі»). Звон Броўку.

*10 снежня*

12.00 — да Броўкі (дамоў). 15.00 — чакаць званка Яшы [Серпера] ([маг.] «Біруза»). Яшу — падарунак.

* * *

Сцяпан Гаўрусёў
Ці Стэфан Баторы[1],
Для гісторыі болей
Значыць каторы?
Для мяне Гаўрусёў —
Мугілёўскі[2] малец:
Яго значэння стагоддзі не ўмаляць!

*Сцяпан Гаўрусёў*

Рыгору Барадуліну

Адпушчаныя дні
Ўстаюць на поўны вымах.
Відаць, з твае радні
Ўсё ж нехта быў алхімік.

Над попелам вайны
Ты прычашчаўся справе,
І далечы відны
У залатой аправе.

Крыніца-азярцо
Спагады не шкадуе.
Купаліцца слаўцо
І шчодра калядуе.

Перад агнём стаім,
Вятрамі сэрцы студзім.
Ты ўсё рабіў сваім,
Каб засталося людзям!

---

[1] Стэфан Баторый (1533–1586), дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, трансільванскі князь (1571–1586), вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы (1576–1586).
[2] Па словах Р. Барадуліна, С. Гаўрусёў даводзіў, што вымаўляць «Мугілёў» значна лягчэй (*заўв. Н. Давыдзенка*).

*11 снежня*

Для Лукшы пераклады. Паправіць пераклады Зюка [Скурко] для «Звязды».

*12 снежня*

Вершы Бурсава і фота ў «Піянер Беларусі», «Зорьку», «Звязду». На працу (Галоўліт). Звон Бурсаву ў Маскву. Звон Залатухінай.

*13 снежня*

На машынку — Каробкіну. 15.00 — звон Любе Турбіной, пуцёўку ў Літфондзе. Лужаніну і Гніламёдаву, Шабану (наконт Папы [Шахаўца]).

*14 снежня*

Прагіну[1] — фота Броўкі. Урэзку і вершы (3 фота). У «Знамя юности» Бурсава, у «ЛіМ» — вершы Бурсава. Запіс на радыё пра Бурсава.

*15 снежня*

Ілонцы — урача! На працу (у машбюро). Рэму [Нікіфаровічу] «З грэкаў у варагі». Русецкаму — вершы. У хімчыстку. 15.00 — секцыя дзіцячая (14.00 — звон Лукшу). У аптэкі.

*16 снежня*

Бярозкіну пазваніць (Дудар[2]). 19.00 — Інстытут культуры. Выступленне.

*17 снежня*

15.00 — тэлезапіс. 11.20 — выступленне ў ін'язе. 12.20 — пахаванне мамы Караткевіча (Надзеі Васілеўны[3]).

*18 снежня*

7-мы том Броўкі. Папковіча[4] на машынку.19.00 — філармонія.

*19 снежня*

Прыезд Бурсава! У выдавецтва (машынбюро). Забраць падарунак ад Лёні Горлача. У Літфонд, да Івана Чыгрынава. Звон у «Звязду».

---

[1] Прагін Леанід Якаўлевіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Дудар Алесь (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч; 1904–1937), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык. Рэпрэсаваны.

[3] Караткевіч (урodж. Грынкевіч) Надзея Васілеўна (1893–1977).

[4] Папковіч У. На досвітку. Мінск, 1978.

*20 снежня*

На працу. У паліклініку СП. 2 вершы для Кіргізіі (дзіцячых), фота і звесткі. Звон Ваню Бурсаву ([гас.] «Беларусь», 29-25-94).

*21 снежня*

У выдавецтва дзве кніжкі (Каробкіна, Папковіч). Да Броўкі — 7-мы том, фота, дагавор. Ананка. Куксо. Залатухінай звон. Навуму [Кісліку], каб прадыктаваў вершы.

*Ледзяніца*

*

Світанне ледзьве ўдніцца,
Адлягуць халады,
Зазвоніць ледзяніца
На веснія лады.

*

Зімні золак ледзьве ўдніцца,
Памякчэюць халады,
Маладая ледзяніца
Зазвініць на ўсе лады.

*1977*

*22 снежня*

На працу. Фота Броўкі — аддаць. 14.00 — Надзея Фёдараўна (зубы). Тэлеграму ў Віцебск Папковічу. У хімчыстку. Звон Валахановічу[1].

*23 снежня*

Праца. Бухгалтэрыя. Звон Вялюгіну (наконт бухгалтэрыі). Папярэдзіць гасцей Бурсава. Запіс тэле (Святлана Клімковіч[2]). Да Надзеі Фёдараўны 18.15.

*24 снежня*

У Бурсава — вячэра, кафэ СП–18.00. У «Абутак» — Зайчыку.

---

[1] Валахановіч Анатоль Іосіфавіч (н. 1939), беларускі гісторык, журналіст, пісьменнік, краязнавец і культуролаг. У 1975–1996 гг. супрацоўнік, заг. рэдакцыяй выд-ва «Навука і тэхніка» НАНБ.

[2] Клімковіч Святлана Міхайлаўна (н. 1935), беларуская пісьменніца, драматург. У 1977–1990 гг. адказны рэдактар бюлетэня Беларускага тэатральнага аб’яднання «Тэатральны».

*25 снежня*

Дастаць «Белавежскай». Навуму [Кісліку] і Та́расу — цяляціны. Звон Тамары Фёдараўне [Залатухінай].

*26 снежня*

Меддаведку — у СП. Чарняўскаму — песню. Талковы слоўнік падпісаць для Залатухінай. ! 14.00 — *паліграфкамбінат* (Надзея Фёдараўна). Даручэнні заверыць.

*27 снежня*

«Чайкай» — у *Рыгу*! Званкі хлопцам.

*28 снежня*

*[Дубулты*[1].] ! Да ўрача. Дазваніцца да Мінска. Даць тэлеграму. У Рыгу (купіць Лане падарунак). Дарожныя прыгоды.

*** Каб пасля жоўтай і чорнай чумы белы чалавек не стаў белымі плямамі на карце чалавецтва![2]

*29 снежня*

Дзмітрыю Мацвеевічу — «Белую вежу» [«Белавежскую»], да дырэктара, у магазіны. Лісты ў розныя бакі. Звон у Мінск. Пачаць працу.

*Пімену Панчанку*

У мора для радасці многа нагод —
Яно не бывае прэсненькім.
Хай Балтыка незлічона год
Сваім ганарыцца хрэснікам!

*Дубулты*

*Уладзіміру Някляеву*

Паважаю Някляева
І яго акаляева,
Рыфмаваныя выбрыкі
Аж да эквi-
верлібрыкі!

---

[1] Дом творчасці ў Дубултах.
[2] Гл.: «Свой дабрабытны спакой паляпваем...» (2.03.79, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 166.

*Анатолю Шаўню*

Невыпадкова «вышыня»
З табой рыфмуецца трывала.
Вышэй, далей сягай, Шаўня,
Мчы без прывала і правала.

* * *

Ад радасці нап’ёмся ў дым,
Шамякіну напішам оду,
Кірэенку перададзім
У дар мангольскаму народу!
Сябры, цудоўны наш саюз…

*30 снежня*

Звон Навуму [Кісліку] наконт назвы.
Звон у Мінск.
Дазваніцца да Стулпана і да Веяна.

*Ераніму Стулпану*

Мы зямлю сваю каранім,
Кожны мовай сваёй неўміручай.
Будзь нязломны, дружбак Еранім,
Зеляней над жыццёвай кручай.
Хай хваробы, як злы ананім,
Падпаўзаюць гадзюкай сіпучай,
Не згінайся, дружбак Еранім,
Будзь латгальцам заўжды, Еранім,
Зеляней над жыццёвай кручай.

*Дубулты*

*Барысу Алейніку*

Вандроўнік, вятроўнік,
Ані келейнік,
Качэўнік застолляў,
Ані ялейнік.
Вораг застояў,
Ані хмялейнік.
Жыве год за сто хай
Барыс Алейнік!

*P. S.*
Мой дружа,
Вітанне прымі ад Рыгора,
Што дужае выпіць
Балтыйскае мора!

*Аяну Нысаналіну*

Великим зодчим изваян
И наречён поэтом
Востока верный сын Аян,
«Нет!» — всем сказал запретам!
Он признаёт один запрет —
Стихам фальшивым режет: «Нет!»

*31 снежня*
[к/ф] «Аголеная маха»–19.00. Сустрэча Новага года!
* «Как колыбели, колеблемы колокола» — С. Кірсанаў[1].

[1] Кірсанаў Сямён Ісакавіч (1906–1972), рускі паэт і перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

## 1978

*1 студзеня*[1], *нядзеля*

Новы, 1978! Праводзіць Паваляева[2] і Крохіна[3]. [к/ф] «Дарагая Луіза»–20.00. «Генрых»![4]

[На першай старонцы «Кніжкі-календара» аўтограф Е. Стулпана.]

*2 студзеня, панядзелак*

«Генрых». Аусма.

*** Лес у нямецкай мове: Wald — звычайны, Forst — удасканала дагледжаны. У старажытнагерманскіх сагах шматлікія феі Holzweibchen — увасабленне жыццёвай сілы дрэва, памірае разам з дрэвам. Падчас ўяўляюцца дабрачыннымі геніямі, што дапамагаюць людзям у гаспадарцы.

*3 студзеня, аўторак*

«Генрых». Еўтушэнка. Зіедоніс. Стулпан 32-21-67.

*4 студзеня, серада*

Паслаць Лучанку «Папараць-кветка»[5]. Білеты на арган. На пошту. Звон Зайцу.

*5 студзеня, чацвер*

«Генрых». Дачытаць Ояра Вацыецiса.

---

[1] Запісы з 1 па 14 студзеня (змешчаныя ў канцы «Кніжкі-календара» на 1977 г.) прадубляваны аўтарам у распачатай «Кніжцы-календары» на 1978 г. Запісы зведзены ў адзін тэкст.

[2] Паваляеў Валерый Дзмітрыевіч (1940–1996), рускі празаік.

[3] Крохін Вадзім Міхайлавіч (н. 1943), фотарэпарцёр «Литературной газеты». Старшыня Саюза фотамастакоў.

[4] Пераклад Р. Барадуліна п’есы У. Шэкспіра «Генрых IV». Пад назваю «Марныя намаганні кахання» пастаўлена ў ТЮГе ў 2006 г. Рэжысёр М. Шайко, музыка У. Кандрусевіча. Шайко Мікалай Міхайлавіч (н. 1938), рускі рэжысёр. У 1972–1973 гг. гал. рэжысёр ТЮГа. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (1999). Кандрусевіч Уладзімір Пятровіч (н.1949), беларускі кампазітар.

[5] У нататніку захаваўся чарнавы накід верша «Папараць-кветка» ( «А ноч на Купалле...» Для Лучанка. *4.01.78, Дубулты*).

*6 студзеня, пятніца*

11.00 — звон Ераніму [Стулпану] (калі сустрэцца). Звон у Мінск. У магазін — паперу, блакноты, мыла. У Мінск звон.

*7 студзеня, субота*

Рыга. Сустрэць Зайчыка. Перакласці Еўтушэнку для «Даляглядаў».

*8 студзеня, нядзеля*

*Jūrmala*. Музей у Дубултах. У Рыгу. 16.00 — Домскі сабор[1], арган.

*9 студзеня, панядзелак*

У Рыгу. Праводзіць Зайчыка. Ад'езд. Звон на радыё.

*10 студзеня, аўторак*

З радыё! У Рыгу. Патроху ўсім [падарункі], Лосіку.

*11 студзеня, серада*

Сігналы з Мінска! У клініку. Звон у Мінск. Венгры.

Ласма і Жан Грыва[2].

*12 студзеня, чацвер*

Закончыць «Генрыха». Каралю канец. Кіно «Самы шчаслівы дзень».

*13 студзеня, пятніца*

Ліст (рэкамендацыя) Васілю Жуковічу. Пасля 3-х чакаць Ераніма [Стулпана].

*14 студзеня, субота*

Звон. На пошту — пасылку. Зайчыкам і Ласяткам. Закончыць верш Барысу Мельнікаву[3].

*15 студзеня, нядзеля*

На пошту. Паездка ў *Талсы* (кактусы на 9-ці схілах). Dziļkalni — Глыбокія горы.

---

[1] Гл.: Домскі сабор на прыёме ў нябёс (25.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 96.

[2] Грыва Жан (сапр. Жаніс Фолманіс; 1910–1982), латышскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры ЛатвССР (1960).

[3] Магчыма, Мельнікаў Барыс Сямёнавіч, якому [?] прысвечаны верш; гл.: Сіневір (14.01.79, Дубулты) // Вечалле. С. 131. Захоўваецца пазнейшая візітка на гэтае імя — «прыватны прадпрымальнік» (Мінск, вул. Кісялёва, 13).

*16 студзеня, панядзелак*

У Рыгу, узяць білеты на Мінск. Звон Ераніму [Стулпану]. 20.00 — [к/ф] «Карупцыя ў Палацы правасуддзя».

*Адаму Мальдзісу*

Каб радасць уся была твая
У новых гадах наступных,
Адаме,
Жадае Латвія,
Я, сябра твой даўні,
І Стулпан.

І Мірдза[1],
І я,
І Стулпан.

*17 студзеня, аўторак*

Узмор'е. Звон у Мінск. 15.00 — Еранім [Стулпан].

*18 студзеня, серада*

Пошта. Званкі ў Мінск. Майстэрня Валянціны Зэйлэ[2]. 20.00 — Домскі сабор (арган). «Rubins». Козлік.

*19 студзеня, чацвер*

Стулпан (зборнік дзеткам). Фатаграфаванне з Вітрам. «Краявід пасля бітвы».

*20 студзеня, пятніца*

Імант Зіедоніс (падборка). Еранім [Стулпан]. Да Аляксандра Грома[3] (аладкі на патэльні) на дачу.

*21 студзеня, субота*

На пошту — пасылку. 14.28 — на Мінск «Чайкай».

*22 студзеня, нядзеля*

Разабраць чамадан і рукапісы. Звон Вялюгіну, Зуёнку.

*23 студзеня, панядзелак*

На працу. Звон Зуёнку.

---

[1] М. Абала.

[2] Зэйле Валянціна Антонаўна (н. 1937), латышскі скульптар.

[3] Гром Аляксандр, латышскі перакладчык.

*24 студзеня, аўторак*

10.00 — нарада ў выдавецтве.

*25 студзеня, серада*

На працу. Бухгалтэрыя. Апёнка[1] Толіка [сустрэць] 15.00. 17.00 — выступленне ў кнігарні.

*26 студзеня, чацвер*

Падагнаць Еўтушэнку для Сёмухі. Звон Клёве [Кляўко].

*27 студзеня, пятніца*

Тракт і запіс на тэле.

*28 студзеня, субота*

Па гаспадарцы. Ераніму [Стулпану] часопіс. Валя Пепелка[2].

*29 студзеня, нядзеля*

«Танец жывата», «Каханая, спі...»[3] дабіць.

*30 студзеня, панядзелак*

На працу. Звон Ваню [Бурсаву]. Да Броўкі. Звон Рэму [Нікіфаровучу] (наконт Ояра [Вацыецiса]).

*31 студзеня, аўторак*

Вершы Ояра [Вацыецiса] Рэму [Нікіфаровічу], Клёве [Кляўко], Нядляеву [на пераклад]. 16.30–17.00 — Кастусь Жук.

*1 лютага, серада*

9.00 — Стрыжак. 10.00 — Дзень якасці. На тэле (Рэму [Нікіфаровічу], пашпарт), на радыё Карласа [Шэрмана].

*2 лютага, чацвер*

Чарняўскаму — Стулпана [на пераклад]. 12.00 — праца, Куксо, Сёмуха. 14.00 — выступленне з Рэмам [Нікіфаровічам]. 19.00 — выступленне.

*3 лютага, пятніца*

Здаць Рэму [Нікіфаровічу] латышоў. 15.00 — бібліятэка «Юнацтва». 18.00 — вечар у СП (пераклады).

---

[1] Апёнак Анатоль, зямляк, сусед.
[2] Кватарантка Барадуліных ва Ушачах.
[3] Вершы Я. Еўтушэнкі.

*4 лютага, субота*

11.45 — АДА. Бібліятэка. Да Вялюгіна (узяць Луконіна). Куляшоў памёр.

*5 лютага, нядзеля*

9.50 — Палац піянераў (Святлана Якаўлеўна), гурток скульптуры.

*6 лютага, панядзелак*

Да Вялюгіна — пытанні «З грэкаў у варагі». 17.00 — Дашкевіч (уступ). 18.00 — Вольга Гурская.

*7 лютага, аўторак*

На працу. На радыё. 10.00 — пахаванне Аркадзя Куляшова[1]. Ераніму [Стулпану] дзіцячыя кніжкі. Ояра [Вацыеціса] і Віктара [Ліўземніека] ў «Дзень паэзіі».

*8 лютага, серада*

На працу. Забраць том Броўкі. «[Беларуская] Балада».

*9 лютага, чацвер*

33-49-91 Лідзе Брыль[2]. 19–20.00 — да Тáраса. Юрасю [Свірку]— вершы ў «ЛіМ», загаловак С. Блатуну.

*10 лютага, пятніца*

Пераклады Лукшу (наконт плана і яго вершаў у «Дзень паэзіі»).

*11 лютага, субота*

10.00 — «Падпісныя выданні». Твардоўскі. 17.00 — 622 палата, 6 паверх.

*12 лютага, нядзеля*

29-22-59 Стрыгалёў [гас., №] 539.

*13 лютага, панядзелак*

На працу. Да Вялюгіна. Да Броўкі (тамы і дагавор).

---

[1] Гл.: Памяці Аркадзя Куляшова (6.02.78) // Амплітуда смеласці. С. 68.

[2] Карамазава (Брыль) Лідзія Мікалаеўна (н. 1937), аднакурсніца. У 1974–1992 гг. стыльрэдактар час. «Полымя».

*14 лютага, аўторак*

Звон Бурсаву. «[Беларускую] Баладу» здаць. Дазваніцца да Вені Арлова[1].

*15 лютага, серада*

Панамарову (Заю ўрача). Да Навума [Кісліка] (перадаць Бубнава).

*16 лютага, чацвер*

10–12.00 — кіношнікі (Веня [Арлоў]). Калачу [Калачынскаму] верш памяці Куляшова. 16.00 — секцыя паэзіі (Някляеў, Бубнаў, Стрыгалёў). 19.00 — Дашкевіч.

*17 лютага, пятніца*

Дамашэвіч[2] — 50 год. 10.00 — кіношнікі, Веня [Арлоў]. Звон Броўку. Ілоне туфелькі. Жарты ў кнігарні. 11.00 — Дашкевіч (урэзку).

*18 лютага, субота*

Бурсаву, Каламіец — «Жарты».

*19 лютага, нядзеля*

Расклейку «Белай яблыні грому». Фота для «Дня паэзіі», вершы маладых, Салтука.

*20 лютага, панядзелак*

На працу (6 том [Броўкі]). Забраць кнігі ў Плескача. 14.00 — СП (аргмомант). 19.00 — вечар Шушкевіча[3] С.

Сівер счах,
І злыдзень стах.
Сто гадоў Вам,
Любы Стах!

*21 лютага, аўторак*

Звон Вялюгіну, Зуёнку. Да А. Вялюгіна дамоў.

Дарагая Наталі,
Нас гарэлкай наталі,

---

[1] Арлоў Веніямін Аляксандравіч, беларускі тэлерэжысёр.

[2] Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч (1928–2014), беларускі пісьменнік. У 1978–1988 гг. заг. аддзела прозы час. «Маладосць».

[3] Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Быў рэпрэсаваны.

А то, ўзяўшы хатулі,
Ў старцы пойдзем па зямлі.

***Анатоль Вялюгін (Алкаголь Рэстаранавіч Сталінюгін).

*22 лютага, серада*

У «Беларусь» верш «Памяці Аркадзя Куляшова». 15.00 — сустрэча са Стрыгалёвым у выдавецтве.

*23 лютага, чацвер*

На працу. Да Пімена Панчанкі.

Для «Знаменкі» [«Знамя юности»] — артыкульчык[1]. 66-68-90 [Артур] Вольскі.

*24 лютага, пятніца*

10.00 — Някляеў у мяне. 12.00 — «Маладосць» (Валя [Ждановіч]). На працу — пачаставаць хлопцаў. Гніламёдаву.

*25 лютага, субота*

Дома сядзець і расклейваць «Белую яблыню грому».

*26 лютага, нядзеля*

Галя Міклашэўская (наконт аспірантуры даведацца ў Карласа [Шэрмана]). Ірына Заборава [Басава]. «Озеро у горизонта» фармат $^{1}/_{64}$, 10 тысяч, 4 листа.

*27 лютага, панядзелак*

9–10.00 — Ірына [Басава] 64-07-56. Званок Броўку наконт Ірыны.

*28 лютага, аўторак*

Здаць VI том Броўкі. Дубашынскі[2]. 15.00 — Рэм [Нікіфаровіч]. 16.00 — прафтэхвучылішча.

Узяць пераклады Еўтушэнкі правіць.

*1 сакавіка, серада*

10.00 — Дзень якасці. Звон Клёве [Кляўко], Някляеву. 14.00 — да Лужаніна.

---

[1] Бородулин Р. Время героев: Слово к молодым // Знамя юности. 1 сак. 1978.

[2] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі акцёр. Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).

*2 сакавіка, чацвер*

На працу. Выбраць вершы маладых для «Дня паэзіі». Да Заборава — на чай. 19.00 — кафэ Дома літаратара (банкет Алеся Бачылы).

*3 сакавіка, пятніца*

Звон Элькіну. У школе № 78 (урок). На працу — тэхрэды. 19.00 — вечар Алеся Бачылы.

*4 сакавіка, субота*

Зуёнку (Някляеў). Забораву наконт «Озера у горизонта».

*Міхалу Дубянецкаму (да дня нараджэння)*

Бываў праездам на Парнасе,
Ды ў тогу я не апранаўся —
Зручней паддзёўка ў кожным часе,
Перакана괈ны ў тым, прынамсі.
*P. S.*
І сыну Хведара Міхалу
Прыношу ўдзячнейшую хва́лу!

*5 сакавіка, нядзеля*

Правіць пераклад «Генрыха», звон Вялюгіну.

У «Дзень паэзіі» — Гурыновіча, Салтука, Пехцерава[1], Стрыжака.

*6 сакавіка, панядзелак*

Прывітанне [Міколу] Ткачову. 11.00 — Бажко. Звон Куксо. Звон Забораву. Цімошак. 17.00 — Вольга Гурская. Пімену (Някляеў).

*Міколу Ткачову*

У дзень 60-годдзя
На восьмае сакавіка
Была прыпасці дата рада.
Таму як у кіраўніка
Не падымаецца рука
Ў Вас на суровыя загады.
У дні вайны
І ў мірны час
Вы даказалі годна, чынна,
Што паважае Вас Парнас,
Што слова цвёрдае у Вас,
Характар мужнага мужчыны.

---

[1] Пехцераў Іван Ягоравіч (1938–2013), беларускі паэт, жураліст. Лаўрэат прэміі імя А. Пысіна.

Ваш пал юначы не астыў,
У працы з Вамі апантанасць,
Развага, мудрасць і парыў.
Дзе Вы — там добры калектыў,
Дзе Вы — там план і згуртаванасць.
Вас абмінуць заўваг грамы,
Асветлены вясновай датай.
Вам да 100-годдзя шлях прамы —
Аж прысягнуць гатовы мы
Усёй трынадцатай зарплатай.
Вы — вораг пустамоўных фраз,
Таму паслухайце не хмура —
У шчырасці дакладны сказ:
Шануе, паважае Вас
«Мастацкая літаратура»!

*7 сакавіка, аўторак*

10.30 — Куксо (пароды). 13.00 — віншаванне М. Ткачова. У СП. Забораву (друкарня).

*8 сакавіка, серада*

Павіншаваць М. Ткачова (фотатэлеграма).

*9 сакавіка, чацвер*

У Гарсавет. Звон Броўку.

«Генрыха» — машыністцы. 17.00 — бяседа ў Ткачова. Звон Лукшу.

Здаць у набор «Яна і я»[1], Гільена.

*10 сакавіка, пятніца*

Вадзіму [Спрынчану] — гумар у «Дзень паэзіі». Звон Броўку (занесці кніжкі і прадмову Навума [Кісліка]). Забораву (друкарня).

*11 сакавіка, субота*

«Генрых». Лужанін. «Белая яблыня грому». Стрыжак.

12 сакавіка, нядзеля

14.00 — запіс на тэле пра Валасевіча[2].

Астроўскага, 14. Стрэльнікаў Уладзімір Захаравіч, 23-75-82.

[1] Паэма Я. Купалы.

[2] Валасевіч Эдуард Станіслававіч (1918–1997), беларускі паэт, байкапісец.

*Эдуарду Валасевічу*

Віншую, дарагі маэстра!
Жадаю згод і літпагод,
І, колькі градусаў у «Экстры»,
Яшчэ жывіце столькі год!

*13 сакавіка, панядзелак*

Мядзведзь [Пушкароў], Кіся [Журовіч]. 14.00 — прыёмная Гарсавета. Лукашэвіч.

*Івану Бурсаву*

Знаходзіць казка адрас сама,
Свой шлях цярэбячы да чытача,
Ад Андэрсена
да Івана Бурсава,
У сэнсе
Іван Цярэнцевіча.
А выпускніцы і перашакурсніцы
Да лірыкі хіляць яго, спакусніцы.

*Міхасю Стральцову*
*(падпісваючы «Прынамсі»)*

Нас аніхто не ўтопча ў гразь,
Зямныя,
мы баімся бруду!
Мой верны, даўні друг Міхась,
Калі ўсміхнешся — рады буду!

*14 сакавіка, аўторак*

На працу. Дачытаць Лужаніна[1]. Блэз Сандрар[2].

*15 сакавіка, серада*

Дачытаць Каруся Каганца[3]. Закончыць расклейку.

*16 сакавіка, чацвер*

Звон Клёве [Кляўко], малому. Забраць на працы «Прынамсі». 14.00 — да Лужаніна.

---

[1] Лужанін М. Галасы над выраем. Мінск, 1980.
[2] Сандрар Блэз (сапр. Заўзер Фрэдэрык Луі; 1887–1961), французскі пісьменнік.
[3] Каганец Карусь (сапр. Кастравіцкі Казімір Рафаіл Карлавіч; 1868–1918), беларускі празаік, паэт, драматург, мастак, грамадскі дзеяч. Каганец К. Творы. Мінск, 1979.

*Рэму Аляксандравічу Ткачуку*
*(падпісваючы «Прынамсі»)*

Кажу я кожнаму радку:
«Будзь на чыку!
Каб Ткачуку
Не сапсаваць настрою,
Як добраю пароюю
Не рассмяшыш, прынамсі, хоць,
Мой гумар,
Спаць не перашкодзь!

*1978*

*17 сакавіка, пятніца*

Ленінградцаў[1] у Салаўя. Шрамякову — звон. 10.00 — на радыё (гумар, верш). Звон Бурсаву, Элькіну. 19.00 — Броўку. Церахава[2].

18 сакавіка, субота

11.00 — да Броўкі. 20–21.00 — Александровічу[3] 26-83-05.

*20 сакавіка, панядзелак*

10.00 — Сцяпан Александровіч. Да Лукшы — вершы (запрос з Навапалацкага гарана). Плескачу — грошы (кнігі).

*21 сакавіка, аўторак*

Звон Фаме [Караткевічу]. 19.00 — здача «Сівой легенды»[4].

*Уладзімір Караткевіч*

І не на вадзе,
І, вядома, не віламі
Ён піша, ўлюбёнец Пегаса,
Даўно,
Зямлю ахінаючы
Белымі крыламі,

---

[1] Прызнанне: Вершы паэтаў Ленінграда. Мінск, 1979.

[2] Церахава Ала, руская паэтэса.

[3] Александровіч Сцяпан Хусейнавіч (1921–1986), беларускі літаратуразнавец і крытык. У 1974–1986 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар.

[4] Опера па п’есе У. Караткевіча. Музыка Дз. Смольскага, лібрэта У. Караткевіча. Смольскі Дзмітрый Браніслававіч (н. 1937), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1986). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). Народны артыст БССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

Без цугляў Пегаса
Пускае ў кіно.
Увогуле, болей Пегаса пасе
На лузе з травой,
Што завецца эсе.
І опера славу для творцы
Спявае.
Хоць сам не стары,
А Легенда Сівая!

*[1978]*

*22 сакавіка, серада*

Перадрукаваць Еўтушэнку. 10.00 — Данута Бічэль (на працы). 17.00 — Музей Янкі Купалы.

*23 сакавіка, чацвер*

У «Бярозку», у «Беларусь». 36-00-73 Сямён Саламонавіч [Элькінд]. На працу. Занесці рукапіс «Яблыні» [«Белай яблыні грому»]. Алейніку ў Кіеў (звон).

*24 сакавіка, пятніца*

13.00 — 93-45-76 Кіеў. Алейнік. На юбілей Пранузы. 14.30 — Александровіч Сцяпан.

*25 сакавіка, субота*

Закончыць Каганца. Падарунак Алесю Жолдаку. Зборы ў дарогу. 0.46 — на Кіеў, цягнік № 76.

*** У начным цягніку. Здаецца, колы хочуць уцячы з-пад вагона і ніяк не могуць. *Ранетадром*[1].

*26 сакавіка, нядзеля*

*Кіеў*! Гатэль «Славутич». Звон Тамары [Каламіец]. На метро да Хрышчатыка. Cógito, ergo sunt = Я працую — значыцца, існую[2].

Станіслаў Зінчук[3], дом. 53-76-93 — «У майго народа не было апосталаў. Я згодзен ім быць». Хата-музей Т. Р. Шаўчэнкі. У раздзявалцы ў авоськах буханкі хлеба.

[1] Гл.: «Розум вар'яцее...» (20.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 101.
[2] Дакладней, Cogito, ergo sum = Я мыслю, значыцца, існую (Дэкарт).
[3] Зінчук Станіслаў Сяргеевіч (1939–2010), украінскі паэт, публіцыст, перакладчык.

*27 сакавіка, панядзелак*

11.30 — метро «Хрышчатык», [час.] «Молодь». СП Украіны. Залатыя вароты[1]. Вы́дыбецкі манастыр[2]. Алейнік 24-72-88. Песні.

* Выдыбецкі манастыр. Выдыбай, Божа! Звоны Дняпра. Скіфскія бабы. «Хай люлька салодка курыцца».

Змалювали очі, змалювали брові,
Тай не змалювали тихої розмови[3].

*28 сакавіка, аўторак*

Кірылаўская царква[4] (Урубель[5]). СП Украіны (білеты на Маскву). Звон у Мінск.

*Барысу Алейніку*

Не знаю, колькі божых рыс,
А запарожскіх маеш многа.
І дужы талент твой, Барыс.
Дальбог жа, ад самога Бога!

*Мікалаю Саму*

А муза нездарма
Сама
З Дняпра выцягвала
Сама,
Каб ані думала
Натхненне
Пра штучнае
Асемяненне!

* Кірылаўская царква, анёл, які вядзе юнага Іаана ў пустэльню. Фрэска з XII ст. З XII стагоддзя вядзе.

*29 сакавіка, серада*

У СП . Забраць білеты. У букіністычны. 24-98-01 — Жолдак. 79-46-55 — Горлач. 25-15-87 — Тамара [Каламіец].

---

[1] Залатыя вароты — помнік станаўлення эпохі Кіеўскай Русі, адзін з самых старажытных узораў архітэктуры і фартыфікацыйнай тэхнікі. Пабудаваны пры кіеўскім князі Яраславе Мудрым у 1164 г.

[2] Дакладней, Выдубецкі манастыр XI–XVIII стст.

[3] Украінская народная песня «Летіла зозуля...».

[4] Кірылаўская царква XII ст., перабудавана ў XVIII ст.; роспісы XII, XVII, XIX стст.

[5] Урубель Міхаіл Аляксандравіч (1856–1910), рускі мастак і скульптар. Аўтар роспісаў Кірылаўскай царквы (1884–1889).

Апошнія сплываюць крыгі —
Чарнавікі зімовых саг.

*Леаніду Горлачу*

Пазнаеш плот па гарлачу,
Усмешку — па спакусах,
Святло сяброў — па Горлачу,
Па Тарасовых вусах!
*P. S.*
Як запарожскі беларус,
Мачы ў віне развагі вус,
Шаноўны дружа Лёне,
У радасці ў палоне!

*Бабій яр*[1]

… бразгае,
Уся зямля магіла брацкая.
Мы ступаем па касцях.

*30 сакавіка, чацвер*

*Масква*! Алесю Іванавічу [Жолдаку] — 60 год. «Цэнтральная» гасцініца. Інстытут на Дабралюбава. 14.00 — камісія па латышскай літаратуры.

А ў Кіеве, напэўна, горача,
Кіпяць … , як літгурткі,
І вусы Леаніда Горлача
Шукаюць засень,
Як гуркі.

*Яшчэ жывы*

Час падаць —
Вышэй ні ўзпаўсці, ні ўзысці,
З пасаднага неба хапаючы зоры.
Спяшаецца выдаць хаця б пры жыцці
Свае даўно пасмяротныя творы.

*Масква*

****Сюжэт.* Перад смерцю нябожчык склаў спіс, каго запрасіць на хаўтуры (з характарыстыкай). А можа, калі на круглы юбілей спіс складаў, заадно прыкінуў і на хаўтуры?

---

[1] Бабій яр — роў на ўскраіне Кіева, месца масавага знішчэння яўрэйскага насельніцтва і ваеннапалонных нямецка-фашыцкімі акупантамі ў 1941–1943 гг.

*Перакладзіна*

Перакладчык — дзядзька не скупы.
Як гавораць, аўтар перакладзены.
Значыць, укапаныя слупы,
Не хапае толькі перакладзіны.

Перакладчыкі — узнаўляльнікі, рэстаўратары. Нанава [выбудоўваюць] замак ці старую сялянскую хату. Залежыць ад матэрыялу, з якога ўзнаўляюць. *Няхай яе пранцы гэтакай працы!*

*31 сакавіка, пятніца*

У цэнтр. [Гас.] «Расія». У СП. [Гас.] «Метраполь» (білеты). Звон Бурсаву.

[Малюнкі Ілоны: Кіеў. *26.III.78*. Масква. *30.III.78.* Гасцініца «Расія». Рэстаран. *31.III.78*.]

*Фёдар Яфімаў*

Сам, было, лірычныя грахі меў,
Ды ўзяла крытычная бруя.
Супраць «я» лірычнага Яфімаў,
Хоць пачатак прозвішча на «я».

*1978*

*1 красавіка, субота*

Па Крамлі. 149-68-24 Броўка. Звон Бурсаву.

*Звон, які ні разу не званіў. Гармата, якая нібы стрэліла пры апрабаванні на заводзе. Голас звана ніжэй голаса мора.

*2 красавіка, нядзеля*

[№] 45, 157, 567, 505 да метро «Кіеўская» — [станцыя] «Пятра Аляксеева». Да Бурсава.

*Памяняць загаловак кнігі лірыкі Івана Цярэнцевіча «Помня о любви»[1].

Паненка сцяжынка,
Цётка шаша.
Таварыш бальшак,
Грамадзянка чыгунка.
Так… да пункта[2].

---

[1] Бурсов И. Помня о любви. Мінск, 1980.
[2] Гл.: «Паненка сцяжынка…» ([04.78]) // Амплітуда смеласці. С. 87.

*3 красавіка, панядзелак*

15.00 — прыймовая камісія. Бурсаву — Пімена па-руску. Да Быкава. Карчагіну[1] — гумар.

*4 красавіка, аўторак*

На працу. Падпісаць Броўку. Звон Кірэенку (карэктура).

*** Мінск. Тралейбус. Сівая-сівая з густымі валасамі штоміг папраўляе чорную хустку (а вочы маладыя), стары (а вочы маладыя) расказвае пра сад, агрэст, пра нявестку, і язык саромеецца дзяснаў, як некалі юнаком саромеўся ён слоў, відаць, прызнання. Старая ўспамінае старую вуліцу, паводку, добра было не йсці ў школу.

На Камароўцы цётка прадае цыбулю: «Яна ж усю зіму на печы, вы́дыміла».

*5 красавіка, серада*

Да Ан. Грачанікава.

*6 красавіка, чацвер*

11.00 — запіс на радыё пра Стрыжака, трошкі пра сябе. 13.00.

*8 красавіка, субота*

Адаслаць лісты і кніжкі. Забраць на пошце Скарыну.

*9 красавік, нядзеля*

Жак Віктар Герасімавіч 24-53-17.

*10 красавіка, панядзелак*

Праца. У СП (да Чыгрынава і да Шамякіна), да Мікалая Дзмітравіча [Ладуценкі].

*** У СП фотавыстаўка «Яны змагаліся за Радзіму». Амаль ні на кім не сядзіць форма. Быкаў у сціплай форме — відаць, што араў поле вайны. У час вайны не дужа хацелася ў салдацкую форму. А цяпер бы для выставак і збораў твораў хоць пазыч фота ў вайсковай форме. Маўляў, і мы ваявалі. Бо ва ўспамінах рэстараны Масквы ў асноўным фігуруюць. Дый шмат афіцыянтак вывезлі ў Мінск.

*11 красавіка, аўторак*

У «ЛіМ» пра «Маладосць». 10.00 — М. Стрыгалёў. 11.00 — на радыё запіс.

---

[1] Карчагін Валянцін Аляксандравіч (1927–1995), рускі перакладчык.

*12 красавіка, серада*

19.30 — вечар Юрыя Семянякі (філармонія).

* * *

Фартуна — злая фурыя —
І тая цэніць Юрыя,
Майстра Семяняку.
Ён верны таленту свайму,
А ўсе зайздроснікі яму
Няхай насыпляць маку.

*13 красавіка, чацвер*

14.00 — паніхіда, пахаванне Антона Пятровіча Бялевіча[1].

*** Я сам, як пясочны гадзіннік. Пасля апошняя пясчынка роднай зямлі высыплецца, настане мая ноч.

*14 красавіка, пятніца*

19.00 — Дом кіно.

*** У аўтобусе цыганка з цыганяткам па-цыганску сварыцца, з кандуктарам па-руску. Яўна выражаныя рысы прамаці Індыі. Уздоўж пальца вянчальнага вытатуіравана *Ваня.*

Галавацяп — кат, які адсякае галовы; пралеска — пралаза, што ўсюды пралезе.

*15 красавіка, субота*

Паптонеў. Выстаўка старадаўніх гадзіннікаў.

*16 красавіка, нядзеля*

Алег Маціевіч. Раманчыкава Галя 26-15-26.

Білет на Маскву–27.

*17 красавіка, панядзелак*

Муштаеў[2] прыязджае. Да Валодзі Караткевіча.

*18 красавіка, аўторак*

Юбілей «Маладосці»[3].

---

[1] Гл.: Вечны вырай (16.04.78) // Вечалле. С. 161.

[2] Муштаеў Уладзімір Паўлавіч (н.1934), рускі пісьменнік. Супрацоўнік Цэнтральнага тэлебачання (г. Масква).

[3] Час. «Маладосць» заснаваны ў красавіку 1953 г. Гл.: Чвэртка веку (1978) // Парастак радка, галінка верша. С. 57.

*19 красавіка, серада*

У «Бярозку». На радыё.

*20 красавіка, чацвер*

У «Маладосць» аддаць вершы.

*21 красавіка, пятніца*

Олі Рэмавай[1]–17 год.

*22 красавіка, субота*

8.00 — суботнік. Стрыгалёў.

*23 красавіка, нядзеля*

11.00 — Някляеў, Рэм [Нікіфаровіч].

117311, Масква, Ламаносаўскі праспект, 15, кв. 3. Сакалоў Уладзімір Мікалаевіч.

24 красавіка, панядзелак

Зуёнку — звон, фота Броўкі (з Бранеўскім). Рэкамендацыя К. Шавелю[2].

*25 красавіка, аўторак*

Бярозкіну — Лось на рэцэнзію аднесці. 19.00 — вечар літоўскай паэзіі.

*26 красавіка, серада*

Здаць Стрыгалёва[3]. 10.00 — Скарынкін. Адʼезд у Каралішчавічы. Да Фамы [Караткевіча] (Пятроўшчына).

[Малюнак і аўтограф У. Караткевіча: «Так вось я і хварэю, дарагія мае. Пашкадуйце беднага за яго сабачае жыццё. Уладзімір з казарменна-бальнічным лёсам. *Пятроўшчына, 9 клініка. 26 красавіка 78 г.».* Гл.: Барадулін Р. Здубавецьця. Мінск: «Паліфакт», 1996. С. 147.]

*Уладзімір Караткевіч*

У гневе — леў,
У працы — бог,
Вёў бой з хлуснёй прыязнатварай,

---

[1] Нікіфаровіч Вольга, дачка В. Нікіфаровіча.

[2] Шавель Кастусь (Канстанцін Міхайлавіч; 1912–1987), беларускі паэт. З 1956 г. працаваў бухгалтарам у калгасе імя Ільіча Уздзенскага раёна.

[3] Стрыгалёў М. Чырвоныя казармы. Мінск, 1978.

Аперыць Караткевіч змог
Гісторыю крылатай марай.
Вышэй лунае з году ў год
Відушчай думкі вольны лёт.

*[1978]*

*27 красавіка, чацвер*

Тэлеграму Васільеву Флору, Ул. Сакалову.

17.40 — на Ушачы!

*28 красавіка, пятніца*

*[Ушачы.]* Абрэзаць сад, падмесці гарод.

*29 красавіка, субота*

Пафарбаваць загародку на магільніку.

*30 красавіка, нядзеля*

На магільнік з Марыяй Рыгораўнай [Трафімавай]. Пецькава Ніна Пахомаўна[1].

Ва Ушачах: у Веры [Смолікавай] (пярсцёнак) Валі. Серада з 17-ці да 19-ці, субота, нядзеля з 11-ці да 14-2і, з 17-ці да 19-ці.

*** Артыст чытае вершы па радыё, замест *блакадныя* Ушачы — *блакітныя.* Ад блакады да блакіту нялёгкі быў шлях.

Блакада. Камісар з медсястрой. Паранены, яго трэба несці.

— Ідзі застрэль.

Вайскоўцы:

— Ну, калі ласка, мы панясем.

— Не магу.

— Тады прыстрэль камісара…

*1 мая, панядзелак*

Да Веры Валінай [Смолікавай].

*** П'янаму выбілі шкельцы ў акулярах. Надзене, паглядзіць, нічога не бачыць. «Хто мне акуляры памяняў?!»

*2 мая, аўторак*

Дома[2]. Зборы. На пошту (наконт тэлефона).

---

[1] Лушчык Н. П. (з г. Дзісны), знаёмая П. Трафімава.

[2] Гл.: Вяртанне на кругі свае (1.05.78, Ушачы) // Белая яблыня грому. С. 164.

*3 мая, серада*

5.00 — ад’езд у Мінск. Звон на працу.

*4 мая, чацвер*

На працу. Звон у «Маладосць» Ждановічу.

*5 мая, пятніца*

Да Клёвы [Кляўко]. Зняць пытанні з Лужаніным. Сіпакоў (пытанні па зборніку).

*6 мая, субота*

9.00 — хлопец з Гомеля. 10.00 — Сіпакоў. 13.40 — на Адэсу Валю. На працу. Татуру эпіграф да Міцкевіча.

* [На першай старонцы нататніка: «Дарагому Зайчыку для запісаў у Куяльніку[1] (праз К!). *5.V.78. R[ygor]».*

Я ехала в Куя[2],
В Куяльник ехала
Я раннею весною.
Лишь тёмный образ твой
И больше ни Куя,
Лишь светлый образ твой
В дороге был со мною!

*7 мая, нядзеля*

Да Шрамякова. Званок Шклярэўскаму. Купіць гузікі ў плашчык.

Глебаў Яўген Алякс. 34-45-22. Шкляра [Шклярэўскі] 33-07-86.

*8 мая, панядзелак*

Паштоўкі. Міры[3] тэлеграму. 12.00 — чакаць званка Шклярэўскага. Да Караткевіча. 19.00 — [к/ф] «Службовы раман».

* * *

Не звык даядаць
        нічыіх кусанікаў
І славу й жыццё
        пачынаеш, як бохан.
Хай двор тваёй славы,
        Генадзь С. Аўсяннікаў,

---

[1] Санаторый на беразе Куяльніцкага лімана паблізу Адэсы (Украіна).
[2] Можна спяваць: «Летела я в Куя...», у залежнасці ад транспарту (*заўв. Р. Барадуліна)*.
[3] Салавей Міра Захараўна (Залманаўна), зямлячка; жонка Я. Серпера.

Умеру зласліўцамі
 будзе аббрахан.

*1978*

[Малюнак і аўтограф У. Караткевіча: «Рыгор прасіў намаляваць казла. *У. К. 8 мая 78*». «У прысутнасці…» Малюнак і аўтограф Г. Аўсянікава: «Рыгор паэт і сябар мой. Ды сам і жарты з барадой». Гл.: Барадулін Р. Здубавецьця. Малюнак і аўтограф Ілоны: «Экран па мордзе бегае, — па выразу таткі, таму што мы на 3-м радзе».]

*9 мая, аўторак*

Звон Бурсаву, Броўку. Бандэроль у Баранавічы. Прачытаць кінасцэнарый. Звон Зуёнку.

*Валянціну Тарасу*

Зазнаў не па гадах
Ты жах і смак атакі,
Таму і ў літлясах
Ваўкі табе не ў знакі.

*Тамары Каламіец*

Будучай бабулі Томе
Вершы шлю ў танклявым томе.

*[1978]*

*10 мая, серада*

Ганчароў[1] М. ([Энцыклапедыя] «Народы свету»). Мікалай Дзмітрыевіч [Ладуценка] — Някляеў. Мастакам — абед! Вечар Вазнясенскага.

*11 мая, чацвер*

10.00 — да Пімена [Панчанкі]. 14 .00 — Лечкамісія, Ілонку рэнтген 20-ты кабінет, а ў 15.00 — прафесару. Праводзіць Вазнясенскага.

*12 мая, пятніца*

Праца. 10.00 — Скарынкін. 11.00 — Рыгор Хацкевіч[2]. У «Полымя».

*13 мая, субота*

Да Алега Маціевіча. Адправіць кніжкі. У кнігарню, чай цэлебны.

[1] Ганчароў Мікола (Мікалай Іванавіч; 1934–1991), беларускі графік, мастацтвазнавец, пісьменнік. З 1963 г. гал. мастак Дзяржкамвыдата Беларусі.
[2] Хацкевіч Рыгор Мікітавіч (1911–1979), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

*14 мая, нядзеля*

Дыпціх вяртання. Парадкоўнікі для Альгімантаса [Балтакіса]. Звон Сцяпану Александровічу. Цвяткоў[1] 64-17-61, пакой 515, 29-22-53. [Масква] 292-23-10— Броўка (гасцініца).

*15 мая, панядзелак*

На працу. Хімчыстка. 15.00 — запіс на тэлестудыі. 17.00 — да Броўкі.

* * *

Не трызніў ласым кусам,
У імя д'ябла,
Бога
Ні сам,
Ні пад прымусам
Не сведчыў ні на кога.

А мой прыспешаць вечар —
Са згодай не зміруся.
Жыццём сваім пасведчу
Любоў да Беларусі!

*Тралейбус пад дажджом*

* Дзякую Петрусю Усцінавічу за нешта і гавару:

— Дайце паціснуць Вашую лапу. — Тут жа папраўляюся: — Руку. Даруйце за фамільярнасць.

— А дзяўчаты (асабліва калі дагодзіш) [кажуць] — лапушка мая.

*16 мая, аўторак*

8.00 — да Пятра Усцінавіча [Броўкі]. На працу. Да Зуёнка. Звон у ЦК 29-34-61. Карткі, тэхрэды. Гніламёдаву — звон.

*17 мая, серада*

9.00 — Гніламёдаў — хвосцік да прадмовы. 11.00 — Някляеў, Емяльянаў. 15.00 — выступленне Ю. Гаўрука.

*18 мая, чацвер*

10.00 — чакаць званка Цвяткова. На працу.

11.00 — Броўка (Кіслік).

---

[1] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. З 1963 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

*20 мая, субота*

Запіс на тэле 14.30.

*21 мая, нядзеля*

Адэса. Санаторый «Куяльнік», корп. 2, кв. 615. 29-34-61 Людміла Аляксандраўна.

*23 мая, аўторак*

14.00 — журфак (Галачка) [Раманчыкава?].

*24 мая, серада*

«Чайкай» на Вільнюс.

*26 мая, пятніца*

*Каўнас.* [Аўтограф верша «Коли Коваль Ковалисі…» з подпісам: «З вуст гуцульского народу — *Іван Драч. 26.05.1978. 12.00. Каўнас*» .]

Званы вызваньваюць песню (мелодыю) на словы Саламеі Нерыс[1]. Помнік кніганошу, сейбіту. Помнік С. Нерыс. Вершы яе з часоў вайны чытае Нарэйка[2].

Альбінас Жукаўскас хоча праверыць, ці такія ж цвёрдыя грудкі ў дзяўчат, як у 1934 годзе недзе пад…

*27 мая, субота*

* Тры прыступкі ад хаты Саламеі Нерыс (не рис), з іх у жыццё, з іх у бяссмерце і вечнасць. Яблыня яшчэ цвіце, пад якой любіла сядзець і марыць. Толькі асколкі Балтыкі ў вачах дзяўчатак, якія чытаюць вершы. У немінучасць і ў — неўміручасць.

*28 мая, нядзеля*

Радзіма Саламеі Нерыс[3]. *Вілкавішкіс*, на конях.

**Вільнюс.* Вечар паэзіі ў кафедральным саборы. Гараць свечкі. Аня ў чорнай вадалазцы як касцёл, як цёзка яе ў саборы.

Нельзя организовать непосредственность, а посредственность сама организуется.

---

[1] Нерыс Саламея (сапр. Бачынскайтэ-Бучэнэ; 1904–1945), літоўская паэтэса. Народная паэтэса ЛітССР (1954, пасмяротна). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, пасмяротна).

[2] Нарэйка Віргіліюс-Кястуціс Леано (н. 1935), літоўскі оперны спявак. Заслужаны артыст ЛітССР (1964). Народны артыст ЛітССР (1967). Народны артыст СССР (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1960, 1970), Нацыянальнай прэміі Літвы ў галіне культуры і мастацтва (2010).

[3] Гл.: Тры прыступкі (19.08.78, Ялта) // Вечалле. С. 102.

***Палігоны — пролежні на баках зямлі. Натуральна-бытавое разлажэнне. Спажыванне зла на душу насельніцтва.

Над прыціхлай ад жаху
зямлёй узышоў
Хіжы месяц,
крывавы, як Сталін.

*29 мая, панядзелак*

Аэрапорт. На Мінск! Звон на працу.

*30 мая, аўторак*

На працу. Зняць пытанні з тэхрэдамі па Каганцу і Кірэенку. 19.00 — вечар Бураўкіна.

*Генадзь Бураўкін*

Ён рэдагуе «Маладосць» —
Яшчэ запас запалу ёсць.
Дае нагрузку ўсім вякам,
Пяць кніг — пяці мацерыкам.
І ёсць у класіцы паправўка на
Заўжды наўрымснага Бураўкіна.

*[1978]*

*31 мая, серада*

На машынку маладых. 17.50 — з Адэсы самалёт, Валя [сустрэць].

*1 чэрвеня, чацвер*

З Вялюгіным наконт падборкі. Сустрэча з Грачанікавым. Знайсці Жака. 19.30 — «Сымон-музыка»[1] Віцебскага тэатра.

*2 чэрвеня, пятніца*

З Грачанікавым (аддаць рукапіс). Звон Александровічу. 18.00 — 40 год Яшу [Серперу].

*3 чэрвеня, субота*

Да Яшы [Серпера] дамоў. На Камароўку.

*** У тэлефоннай будцы адчыненай: «Да яе сёння любоўнік прыехаў з турмы».

---

[1] Спектакль па паэме Я. Коласа.

*4 чэрвеня, нядзеля*

Прывесці ў парадак паперы. Да Басалыг[1] (наконт Броўкі).

*5 чэрвеня, панядзелак*

10.00 — да Алега [Мацievіча]. Да Навума [Кісліка] (наконт ліста). Бурсаў! (уладкаваць).

*** У антыкварным магазіне. Напалеон на кані–3500 рублёў. Дама, стукаючы па капыту: «Відаць, чыстая медзь, таму так дорога».

Фалас-патрон. Срочно требуется банный лист!

*6 чэрвеня, аўторак*

Вячаслаў Дашкевіч. 11.30 — праца. Бярозкін. 15.00 — прэзідыум СП БССР. Тэлеграмы ў Маскву.

*7 чэрвеня, серада*

Да Бурсава ([пакой №] 516 [гас.] «Мінск»). У СП (Танку заяву). Звон Глебаву. Тэлеграма Караткевічу.

*** Босыя, як апосталы з ўрубелеўскай[2] вячэры.

*8 чэрвеня, чацвер*

9.15 — СП. Семінар «Новае ў сучаснай школе». 10.00 — у СП (білеты). 15.00 — да Яўгена Глебава.

*9 чэрвеня, пятніца*

Да Бурсава. На працу. На радыё.

*10 чэрвеня, субота*

Перадрук для радыё дзіцячых вершаў, казкі Бурсава. Звон Навуму [Кісліку].

*Сабе самому*

Няхай здаецца блізкай мэта
І шлях выводзіць на прасцень,
Дзень пачынай,
Нібыта гэта —
Твой першы і апошні дзень.

Не абыходзіцца без пошлін
Жыццё — цяжкая сенажаць.

[1] Басалыга Міхаіл Самуілавіч (н. 1942), беларускі графік, рабіў афармленне кніг П. Броўкі.
[2] Маецца на ўвазе рускі мастак М. Урубель.

Дзень першы можа стаць апошнім,
І дзень апошні — першым стаць.

*11 чэрвеня, нядзеля*

Да Вані [Бурсава] (11.00). Падрыхтаваць для калектыўнага зборніка. Звон Яшу [Серперу].

«Начлег у вёсцы Сінегах»[1] (К. Чорны). «І маладосць і сталасць»[2] (П. Броўка). 99-73-91 [санаторый] «Аксакаўшчына».

*12 чэрвеня, панядзелак*

Клініка. Да М. Ганчарова. 14.00 — звон Броўку дамоў.

*13 чэрвеня, аўторак*

Смольскі 36-67-83. Навуму [Кісліку] занесці Бальмонта[3] і Катлярова[4].

*14 чэрвеня, серада*

У СП. Пленум. Да Навума [Кісліка].

*15 чэрвеня, чацвер*

8.45 — 2-я клініка з Ілонкай. 13.00 — да Броўкі.

*** «Чаму кошка духамі пахне?» Ілона: «Яна таксама дама».

*16 чэрвеня, пятніца*

На працу. З машынкі калектыўны зборнік.

*18 чэрвеня, нядзеля*

Ад'езд на Маскву з Ванем [Бурсавым]. Гатэль «Бухарэст».

*19 чэрвеня, панядзелак*

*[Масква.]* Бюро прапаганды. Бегавая, 17. Кулач Мікалай Мікалаевіч 39-73-76. Сажалка.

Вячэра. Аэрапорт.

*20 чэрвеня, аўторак*

*Іжэўск. [Удмурція.]* З канца 12 в. удмурт — чалавек з племя уд. 1,5 млн чалавек. 70 нацыянальнасцей і народнасцей Саюза. Удзел у паўстан-

---

[1] Апавяданне К. Чорнага.

[2] Броўка П. І маладосць і сталасць. Мінск, 1980.

[3] Бальмонт Канстанцін Дзмітрыевіч (1867–1942), рускі паэт, празаік, перакладчык.

[4] Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч (н. 1938), рускі паэт і перакладчык. З 1966 г. карэспандэнт, адказны сакратар светлагорскай раённай газ. «Агні камунізму».

ні Разіна[1], Пугачова[2]. Сажалка — 14 км, 3–4 км — лёгкія нашага горада. Камбара — «город грязи и псов» (С.-Шчадрын[3]). Іжмаш — буйнейшы завод краіны, завод цяжкіх папераробчых машын.

1775 г., першая навуковая удмуртская граматыка. «Воткинское море держит прочно в любую погоду» (Нахімаў[4]).

Кюндынгер[5], настаўнік музыкі Чайкоўскага[6] (як Даўгань). Гучыць аркатрына ў хаце Чайкоўскага, гучыць катрынка. «Натхненне — такая госця, якая не любіць наведваць лянотных», — П. І. Чайкоўскі.

На вечары даярка выступае: «Упершыню ў такой колькасці на нашай зямлі столькі пісьменнікаў».

За суткі — дывізію з ног да галавы [апранула] і ўзбраенне [падрыхтавала] Удмурція. [Телефон:] Рыгор Апанасавіч Капусцін.

* * *

Разгубленасці не таю,
Як позіркам і жэстам
Хоць трошкі выказаць сваю
Захопленасць Іжэўскам.

*23 чэрвеня, пятніца*

* * *

Ані шукаў хадоў і лазаў,
У згодзе з Кодэксам жыву,
Ды ўрэшце з самалёта ў Глазаў
Упаў як снег на галаву.
Ад краю бульбы і «БелАЗаў»,
Дзе партызанскі дух не знік,
Прымі паклон, шаноўны Глазаў,
Нязломны воін, будаўнік.

Сустрэлі самай поўнай чашай,
Ды час дамоў, да родных стрэх.

---

[1] Разін Сцяпан Цімафеевіч (каля 1630–1671), правадыр расійскай Сялянскай вайны 1670–1671 гг.

[2] Пугачоў Емяльян Іванавіч (1740 2і 1742–1775), правадыр расійскай Сялянскай вайны 1773–1775 гг.

[3] Салтыкоў-Шчадрын Міхаіл Яўграфавіч (сапр. Салтыкоў; 1826–1889), рускі пісьменнік-сатырык.

[4] Нахімаў Павел Сцяпанавіч (1802–1855), рускі флатаводзец, адмірал.

[5] Кюндынгер Рудольф Васільевіч (1832–1913), рускі піяніст, кампазітар, педагог.

[6] Чайкоўскі Пётр Ільіч (1840–1893), рускі кампазітар.

Бо страшна,
Што ад ласкі вашай
Растану, як вясновы снег.

*Глазаў*

*24 чэрвеня, субота*

* *г. Глазаў* (85 тыс. насельніцтва). Рака Чапцá. Кожная другая сям'я свой траспарт — ці машына, ці матацыкл.

Оммез син — вока крыніцы, син-урт — син — глаз, глаз — урт.

На хіммашы лозунг: «Слава советским писателям, верно служащим делу коммунизма!» «Семянам трэба даць мяккую пасцель і цвёрдую коўдру». Калгас «Понінскі».

*Вуллі лёткамі, талеркі лёткія. Вылязай з-пад коўдры, падавайся ў Кодры.*

Ансамбль «Італмас». Як у сне пастух, уся паездка, як сон пастуха.

* * *

Очень тянет — это честно! —
В белорусские края.
Я горжусь отвагой Бреста,
Боль Хатыни — боль моя.

*О. Любовиков*[1]

Пішыце дасье, з іх потым можна зрабіць мемуары.

*Зуд* мудрости. Для пародыі:

*

Хай звездары
Усіх эпох
Глядзяць упарта ў неба.
Сваіх сабакі ішчуць блох —
Чужыя ім не трэба!

*

Назад цячы не могуць рэкі,
Вечназялёны ліст не вяне.
І шашлыкі, і чабурэкі, —
Яны, вядома, не славяне!

---

[1] Любавікоў Авідзій Міхайлавіч (1924–1995), рускі паэт, празаік, журналіст (г. Кіраў). Заслужаны работнік культуры Расіі.

Вядома, не будуць верыць, калі я вам на поўным сур'ёзе расказваць пачну, як быў я аднойчы Кайсынам Куліевым.

«Я забываю женщин и пен[ис], когда шагаю».

*

Из современных литбогов
Мне мил товарищ Тельпугов[1].
Союз наш, как отель богов,
И в нём иконой Тельпугов.

*

И сегодня, как когда-то,
Зарабатывая гелт,
Молодые русопяты
Снова подняли гевелт[2].

[Адрас:] УдмАССР, г. Глазов, Мусихин Анатолий Иванович, мэр Глазова; г. Москва, Курзенков[3] Сергей Георгиевич.

*Уладзіміру Круку*

Як ёсць на літпатэльні тлук,
Дык рыфмай суму суп прышкварыш.
Няхай жыве Валодзя Крук,
Сусед і даўні мой таварыш!

*25 чэрвеня, нядзеля*

Тэлеграмы Петрусю Броўку. Шкляру [Шклярэўскаму] — 40 год.
Мінск–30, К. Маркса, д. 30, кв. [4]; 22-27-50. Пятрусь Броўка.
107207 [Масква], Байкальская, 23, кв. 39. Т. 462-22-56 [Шклярэўскі].

*26 чэрвеня, панядзелак*

На працу. Калектыўны зборнік. Бухгалтэрыя. Да Караткевіча. Звон Броўку.

*27 чэрвеня, аўторак*

У СП (Элькінд). У «БелСЭ». Да Навума [Кісліка]. Да Шэрмана. Зайцу — на руку.

---

[1] Цельпугоў Віктар Пятровіч (1917–1999), рускі празаік, крытык.

[2] Гелт — грошы, гевалт — шум, крык (гевелт — скажонае з ідыш).

[3] Курзенкоў Сяргей Георгіевіч (1911–1981), расійскі лётчык-знішчальнік. Пісьменнік. Герой Савецкага Саюза (1943).

*28 чэрвеня, серада*

11.30 — Някляеў. 13.00 — Кляўко (выдавецтва). Грачанікаў. 22.30 — на Маскву!

*29 чэрвеня, чацвер*

*Масква.* Да Вані [Бурсава]. У СП. Шчадрына. *Растоў Вялікі, Яраслаўль.*

*30 чэрвеня, пятніца*

Лака-фарбавы завод. Вечар у палацы.

* *Яраслаўль.* Абком. 100 % вытворчасці дызелей, 90 % дарожных каткоў, $^1/_3$ друкарскага абсталявання, $^1/_5$ шын. Прадукцыя [ідзе] ў 80 краін свету. Насельніцтва 1 млн 400 тыс. — з іх 1 200 000 гарадское. Машынабудаўніцтва — Яраслаўскі маторны (БелАЗ), авіяцыйныя рухавікі на Рыбінскім маторабудаўнічым заводзе, для міжкантынентальных і для ТУ-104. Буйнейшы ў Еўропе шынны завод, 2 нафтаперапрацоўчых завода, 2 лакафарбавых завода. На заводзе [пачалі вырабляць] першы ў свеце сінтэтычны каўчук.

Першы сыр у 1870 годзе. Спаконная сыраробчая прамысловасць. У Углічы НТІ сыраробства, $^1/_3$ частка малака на сыр перапрацоўваецца. Мукамольная прамысловасць; волакам зерне і мукой пасля [забяспечвалі] ўсю Поўнач, у тым ліку і Піцер.

У Растове кава-цыкорны камбінат. Цыкорый [карысны] для печані, нерваў, сэрца. Цэлыя саўгасы будуць па вырошчванню цыкорыя. Транссібірская магістраль і паўночная дарога (грузазварот перавышае ФРГ, Англію, Італію). Многа адходнікаў (у Піцер, Маскву), абслуга. Да апошняга часу ў рэстаране «Масква» дзядзя Вася цікавіўся: «Як працвітае Яраслаўская вобласць?»

2300 рэчак, 80 азёр (Пераяслаўль, Неро (не Ростов). Калі з Чарнігаўскай вобласці (спаборнічаюць) прыязджалі, старшыня калгаса ўвесну [пытаўся]: «А што ж вы нам палі не паказалі?» Ёсць вёскі з адной хаты, з двух-трох. Узорную малочную зону [стварылі], першы падземны малакаправод. Раманаўская авечкагадоўля (раманаўская авечка), самы лепшы кажух з раманаўскіх авечак. 2,5 фунта — Калініну пашылі футра на ўвесь рост — яно важыла. Барысаглебскі комплекс 5 тыс. авечкаматак. Што не прыгоднае на племя, ідзе на мяса (быдлапром). Комплекснае развіццё гаспадаркі, выпуск прадукцыі са знакам якасці звыш 26 % ад агульнага.

206 яраслаўцаў удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза. 10 ВНУ. Універсітэт у 1970 г., у прэзідыуме адзін з абласных кіраўнікоў па інерцыі разгладжвае бровы.

Яраслаўль — горад без ускраін, адкуль бы ні паехаў, новыя кварталы. Рыбінск — сталіца бурлакоў у даўнейшыя часы, стаў самым сучасным горадам. Храм Ільы Прарока, сценапіс за 3 летнія месяцы. Шышкін [бываў] ў Белавежскай пушчы (1892 г.).

Завод лакафарбаў з 1890 і з 1958 гадоў, сярэдні ўзрост 37 год, жанчына — з 45-ці гадоў на пенсію, мужчына — з 50-ці. Пра шматтыражку: «Ёсць тут у нас некалькі самабытных паэтаў».

[Адрасы:] Ашхабад. Атамурад Атабаев[1], из-во «Туркменистан», редактор; УССР, Черкассы (обл.) Союз писателей. Светличный[2] Констанцин Кириллович.

*1 ліпеня, субота*

Свята паэзіі ў *Карабісе*[3]. Прыём. Звон Ваню [Бурсаву].

* *Абакумцава.* Царква. Служба. Магіла маці Някрасава. Музей. Музычная [школа]. Карабіха. Цікавы аўтограф Гаўрылы, які віншуе Някрасава з Вялікаднем, прыводзіць радкі, прысвечаныя яму ж.

*Вачыстая, спаконная, іконная*. [Возера] Неро раней называлі Цінным морам. *NB.* Глушэц пасля першай песні нічога не чуе — так і паэт. Азёры Ушаччыны, як жураўліны клін у шлях тугі, у вырай. Усходні рынак Яраслаўля.

*2 ліпеня, нядзеля*

*Растоў*. Растоўскі крэмль. Звоніца. Звон самы вялікі Сысой (32 тоны). Кожны звон на кожную ноту. Званы апошні раз званілі ў 20-х гадах і для фільма «Вайна і мір». *Растоўскія званы. Маўчаць яны, пакуль валюта звоніць.* На плёнцы [неразб.1] званы. Тры колеры: голубец, цёмна-вішнёвы, охра. Царква Спас на сенях.

Разгонныя пернікі гасцям, калі заседзеліся. Ярыла [малюнак сонца] на форме перніка. Ідалаў пазней замянілі драўлянымі фігуркамі святых. Богамацер у маленні XV ст. Хрысціянскі місіянер. Нябесны прэзідыум (усе святыя) — палітбюро.

Святы Хрыстафор, ахавальнік касманаўтаў.

*3 ліпеня, панядзелак*

60 год Бярозкіну! На працу. Карэктуры.

Ленінскі пр-кт, 48, кв. 35. [Бярозкін[4]].

---

[1] Атабаеў Атамурад (н. 1948), туркменскі паэт. Народны пісьменнік Туркменістана.

[2] Святлічны Канстанцін Кірылавіч (1922–2001), украінскі празаік.

[3] Радзіма М. Някрасава. Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877]78), рускі паэт.

[4] Гл.: Рыгор Бярозкін // Дуліна ад Барадуліна. С. 118.

*4 ліпеня, аўторак*

Карэктуру К. Кірэенку. Да Святлейшага [Броўкі]. Заяву на творчую камандзіроўку.

*5 ліпеня, серада*

У «Полымя» — верш Н. Гільена.

*6 ліпеня, чацвер*

На працу. Звон Бурсаву. Ілонцы на ножкі.

*7 ліпеня, пятніца*

10.00 — ЦК КПБ. Зала паседжанняў. З Зайцам абед, у «Зорачку» з Ілонкай.

* ЦК КПБ. Сувязь з арміяй, подзвіг пры вызваленні. Коратка пра асобных людзей. Без гучнасці. Форма розная: расказ, дыялог, гістарычная даведка. Удзельнікі Грамадзянскай вайны, партызаны, падпольшчыкі, мірныя жыхары, што загінулі ад рук акупантаў. Аб'ём 20 улікова-выдавецкіх лістоў. Усё дакладна, тры відавочцы, прозвішча, імя, імя па бацьку, даты па новым стылі.

Зямля, нібы абочына.
Неба пазірае устурбочана
З пасівелымі скронямі
Млечнага Шляху.

*8 ліпеня, субота*

Дабіваць Паптонева.

*10 ліпеня, панядзелак*

На працу. Звон Чыгірыні [Чыгрынаву]. Кафэ «Мутнае вока». 14.00 — з Драчом «Мінск». З Сарокай у Жэні.

*** Каля БелВДНГ — «гэта дрэва пасадзіў Баграмян[1], гэтае той...», а хто пасадзіў у 37-м?

У магазіне ў Мінску маці дачушцы: «Згарні валасы з вачэй».

«Ці пачырванеюць памідоры?» — «Калі матам лаяцца штодня...»

*11 ліпеня, аўторак*

10.00 — аэрапорт. Праводзіны Тамары [Каламіец] і Івана [Драча] ў Кіеў. У СП (Рабкоў). Е.

---

[1] Баграмян Іван Хрыстафоравіч (1897–1982), савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза (1955). Герой Савецкага Саюза (1944, 1977).

*12 ліпеня, серада*

Першы том, карэктура Кірэенкі. Звон Бурсаву. Карэктура ў «Маладосці». На радыё вершы і пераклады.

*13 ліпеня, чацвер*

Падганяць Паптонева. Дазваніцца да Бурсава (Паўлаў рукапіс выслаў). БПІ, аўтатрактарны факультэт [выступленне].

*14 ліпеня, пятніца*

Радыё. 11.00 — з К. Кірэенкам II том карэктуры. У Галоўліт!

*15 ліпеня, субота*

Звон Пімену [Панчанку] дамоў. Звон Рэму Нікіфаравічу. Знайсці вершы Тамары [Каламіец] пра Беларусь.

*16 ліпеня, нядзеля*

Пасляць [Але] Марчанка кніжку, Атабаеву — вершы пра Туркменію. 64-12-93 Сцяпан Давідавіч Цярэшчанка.

* * *

[N.]

Я трызню вуснамі Вашымі,
А ў думках кажу:
*Тваімі*.
Два слова, развагай узважаныя,
Як розныя тыя два імі.

Адно імя ад урока —
Ад злога людскога вока,
Другое нямее ласкава —
Назвацца не мае права.

Ды хоць ад прагнення гуў бы,
Як звон,
Ці зайшоўся ад болю,
Твае і Вашыя губы
Мне ты не прашэпчуць ніколі.

І толькі адвагі тае,
І толькі развагі стае,
Каб Вашыя губы
Заклёнам ад згубы
У думках назваць твае.

*17 ліпеня, панядзелак*

П. А. Місько[1] — Прохарава[2]. У «Маладосць» вершы паэтаў пра Беларусь. 11.30–13.30–23-65-13 (Шрамякоў).

*18 ліпеня, аўторак*

На працу. Звон на радыё. Пра млыны. 75 год Пароменскаму[3].

*Уладзіміру Аляксандравічу Пароменскаму*
*ў дзень 75-годдзя*

Поўнага — і ў жыцці, і ў піцці,
Хай заўжды будуць хлеб і закраса,
І пасля дваццаці пяці
На дзяўчат пазірайце ласа.

*15 ліпеня*

*19 ліпеня, серада*

Зрабіць «Палескія прафесіі»[4].

*20 ліпеня, чацвер*

9.00 — ад СП. На *Мазыр*. Гасцініца. НПЗ. Вечар.

*21 ліпеня, пятніца*

Узроў із Мазыра. На бульбу да паэткі. На Мінск. Лісічкі[5]. My młodzi, nam bimber ne zaszkodzi…[6]

Яўген Верабей[7], «Красуе жыта», 29-35-92 «Маладосць».

* Не старога веку жанчына на праспекце ад магазіна прадае ласункі: «Клюква з парэчкай». Мяне, вядома, падкуплівае апошняе слова, і я купляю пакуначак у цэлафане. На ўпакоўцы ўсё па-руску (у Бабруйску роблена) і далей: «Дражэ парэчка».

*24 ліпеня, панядзелак*

На працу. Да Глебава. Звон Бурсаву. Звон Цвяткову.

---

[1] Місько Павел Андрэевіч (1931–2011), беларускі празаік, драматург, перакладчык. У 1972–1979 гг. заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».
[2] Магчыма, Прохараў Анатоль Васілевіч, беларускі пісьменнік (г. Орша).
[3] Пароменскі У. А., інспектар па кадрах выд-ва «Мастацкая літаратура».
[4] Гл.: Палескія прафесіі (19.07.78) // Вечалле. С. 108. Верш прысвечаны У. Верамейчыку.
[5] Гл.: «Лета бабіна…» (23.07.78) // Вечалле. С. 164.
[6] Мы маладыя, самагонка нам не зашкодзіць (*пол*.).
[7] Верабей Яўген (сапр. Міклашэўскі Яўген Васілевіч; н. 1936), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1978–1981 гг. ст. рэдактар аддзела прозы час. «Маладосць».

*Юрый Цвяткоў*

Няўмольны самазвал культуры
Не скуліць у кювет вякоў
Палоцен, што стварае Юрый,
Лірычны маг кіна-Цвяткоў.

*9 ліпеня*

*25 ліпеня, аўторак*

На працу. Для «Знамя юности» колькі слоў. 18.00 — запіс музыкі (рада).

*26 ліпеня, серада*

Кніжкі ў «Советский писатель», у «Маладосць», у «Бярозку». Паптонеў!

*28 ліпеня, пятніца*

10.00 — 412 на Галко. 12.00 — у майстэрні Князя [Краўчанкі].

*29 ліпеня, субота*

Паптонеў. Рынак. Хімчыстка. Пральня.

*30 ліпеня, нядзеля*

Паптонеў. Да Князя [Краўчанкі].
[Москва, ул.] Воровского, 52, Верченко.

*31 ліпеня, панядзелак*

Праца. «Падпісныя выданні», забраць том Дзіцячай [энцыклапедыі]. Да Бараноўскага 23-32-01.

*1 жніўня, аўторак*

Праца. Саламевіч. «Балады» падпісаць. Броўку кніжкі, звон.

*2 жніўня, серада*

На працу. *Смольскі.* Звон Бураўкіну. Наконт кніжак Броўкі.

*3 жніўня, чацвер*

На працу. Звон Ан. Шаўню. 14.00 — да Броўкі дамоў (калі ва Ушачы, пытаў Пасах). З Рэмам [Нікіфаровічам] пачытаць Паптонева.

*4 жніўня, пятніца*

Праца. Забраць афармленне Заборава. Да Алега [Мацievіча], да Шаўні.

*5 жніўня, субота*

Паптонеў. Паслаць кніжкі, лісты. Звон Ан. Шаўню.

*6 жніўня, нядзеля*

Паптонеў. 17.00 — да Вялюгіна і Панчанкі ў лес (афармленне кнігі). «Вместе с комиссаром»[1], [выд-ва] «Детская литература», Людміла Сцяпанаўна Грамовіч 23-62-55.

*7 жніўня, панядзелак*

Праца. Нумарацыя Пімена [Панчанкі]. Звон Рэму [Нікіфаровічу], Зюку [Скурко]. 14.00 — да Петруся Усцінавіча [Броўкі]. Звон Зуёнку. Вейняровіч, кніжны магазін № 45.

*8 жніўня, аўторак*

Праца. Кнігарня (№ 45), забраць «Вместе с комиссаром» [Броўкі]. Звон Вейняровічу. 18.45 — Броўку звон.

*9 жніўня, серада*

8.00 — звон Вейняровічу на радыё. Элькінду, Гублеру[2].

*10 жніўня, чацвер*

10.00 — Броўку на працу. Звон у Маскву. 14.00 Батанічны сад (запіс для кіно). 19.30 — СП. Вечар з метрабудаўнікамі.

*11 жніўня, пятніца*

6.25 — на Ялту Ілонка, Валя. На працу. Па білет назад.

*** *Жыхарка Ялты — ялаўка. Гвалту — Ялту. За Ялтай заядлай пад нос сабе гудзі. Бач, горы ў бігудзі вясёлых вінаграднікаў.*

Хочаш гвалту,
Калгатні,
Дома пяткам жару мала, —
Едзь у Ялту,
Адпачні,
Будзе ўцехі да адвалу.

Ялаўка
А ці ялцянка,
Быццам іншапланецянка.
Маеш грошы — пагудзі,

---

[1] Бровко П. Вместе с комиссаром. М., 1978.
[2] Гублер Навум Якаўлевіч (н. 1933), беларускі пісьменнік. Жыве ў ЗША.

Ды не дужа на абгонах,
Тут і горы ў бігудзі
Вінаграднікаў зялёных.

*12 жніўня, субота*

Звон Рэму [Нікіфаровічу]. Ілоне падарунак. 17.00 — з Рэмам [Нікіфаровічам чытаць] Паптонева.

*13 жніўня, нядзеля*

10.00 — да Алега Мацієвіча. У «Падпісныя выданні» [атрымаць том энцыклапедыі] «Народы і краіны свету». 17.00 — Рэм [Нікіфаровіч].

«На пятніцу ці рана, ці ў абед...». «Асоба мастака». «Мне да ўсяго сягоння [справа]...»[1] П. Броўка пра літаратуру і мастацтва Беларусі перад 60-годдзем [Ленінскага камсамола]. Сведка.

У Льва Антонавіча [Салаўя] наконт Навума [Кісліка]. Звон Броўку.

*14 жніўня, панядзелак*

На працу. У [маг.] «Светач» — «Вайна жалезных канцлераў»[2]. 12.40 — на *Сімферопаль.*

15 жніўня, аўторак

*[Ялта.]* Уладкавацца. Аглядзецца! Да дырэктара. Білет на Херсон. [Неразб. 1.]

*16 жніўня, серада*

Каса аэрафлота (нам. дырэктара).

*17 жніўня, чацвер*

Каса аэрафлота. На рынак.

*** Бібліятэкарка ў Доме творчасці:

— У мяне ад гэтай актрысы алергія.

— А калі яна заканчвае музіцыраваць?

— Разам са мной, як заканчваецца мой час.

Заг. магазіна ніяк не мог адчыніць дзверы ад сябе, бо звык усё на сябе — сабе.

Хоць гузак ён наб'е,
Ды на ўласным ілбе,

---

[1] Верш П. Броўкі.

[2] Раман В. Пікуля «Бітва жалезных канцлераў». Пікуль Валянцін Савіч (1928–1990), рускі пісьменнік. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі СССР (1988).

А з натурай даўно не хітруе.
Цяжка дзверы яму
Адчыніць ад сябе,
Да сябе ўсё цягнуць
Мае звычку старую.

*18 жніўня, пятніца*

На пляж з быдлам разам. Лось і Зай у вальеры.

*** Ілонка: «Негры, як зярняты маку на планеце».

Ілоне кажу: «Прыгожая ты ў мяне, толькі розуму не дужа». — «У самога, ведаў, было мала, і мне пашкадаваў аддаць (рэшту аддаў)».

Крычаць сланечнікі Ван-Гога[1]
Ад крыку круглымі ратамі.

*Балада дзікага вінаграду*

Ён тут глыбока пусціў карані,
Яшчэ, як кажуць,
за польскім часам, —
Паўночны пасынак хмельнай радні,
Што не прысягаў чашам.[2]

*19 жніўня, субота*

Атрымаць сваю пасылку з Мінска.

*** У ДТ у Ялце конкурс вершаў пра кошку, не пада́ў на конкурс:

Ехал кот на кошке,
Будто понарошке,
Будто понарошке,
Отрывая ножки.

*

І слухаць радыё карысна:
Там песняй радуе Карызна[3],
Наш беларускі Дарызо.

*20 жніўня, нядзеля*

Пачаць перакладаць Андрэя [Вазнясенскага].

---

[1] Ван-Гог Вінсент (1853–1890), галандскі мастак.

[2] Гл.: Балада дзікага вінаграду (24–25.12.78, Дубулты) // Вечалле. Мінск, 1980. С. 71.

[3] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. У 1967–1980 гг. рэдактар, ст. рэдактар, заг. аддзела беларускай музыкі Рэспубліканскага радыё. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996), Літаратурнай прэміі «Залаты купідон» (2007).

У Ірыны [Басавай] дзень нараджэння. Алупка, Прыморскі завулак, 3-а, тел. 7-21-77. Ірына Басава.

*** Гарады прыпамінаў з непаўторным насельніцтвам.

На вяршыні духу і на глыбіню душы.

*21 жніўня, панядзелак*

12.30 — аўтакаса, білет.

*23 жніўня, серада*

*Добра, што ёсць!*

Гэта добра, што ёсць
Еўтушэнка ў саюзе, —
Ён як громаадвод
літнападаў і звад.
І радка не пачаў
словам кайным
«баюся»,
Не ўзнімаў прававерных
на святы газават.

Сам ён — аўтар
скандальнага ўласнага міфа,
А душа хоча збегчы
ад гайні тлуматы.
Кожны прышчык маскоўскі,
калялітаратурная фіфа
Ганарліва падкрэсліць:
«З Еўтухом мы на «ты»».

З ім на «ты» маюць права
толькі Час і Расія, —
Ён іх вочы і горла,
гонар іх і адчай.
Асцярога ў закутках
кволы піск парасіла.
Апантанасць хвастае
па ружовых лычах.

Летапісцы —
як лепей тапіцца —
дарадцы —
Не шкадуюць паперы
ані локцяў сваіх.

Ім дапасці б паспець.
Будуць рады старацца —
І дасье ва ўспаміны
пераробяць уміг.

*26 жніўня, субота*
Уладзіць Эдуарда Ярашэвіча[1] на начлег.

*27 жніўня, нядзеля*
Развітацца з Ярашэвічам.

*28 жніўня, панядзелак*
Звон Ваню [Бурсаву] ў Маскву (грошы тэлеграфам).

*29 жніўня, аўторак*
На Галоўпаштамт атрымаць.

*30 жніўня, серада*
Артпляж.

*Варлену Бечыку*

Заўсёды трапна, без асечак
У крытыцы страляе Бечык.
Трымае порах ён сухім
На
Стрэл,
Што хутчэй бліжэй да гімна,
Бяздымны порах той,
Але на
Бяздарнасць маюцца ў Варлена
Карцеч ваўчыная, гранкулі,
Каб стрэл пачулі
І адчулі.

* * *

Абразе адбаліцца,
Па славе сум даятрае.
Салют вам, футбалісты —
Нашчадкі гладыятараў.

[1] Ярашэвіч Эдуард Сігізмундавіч (1937–1986), беларускі пісьменнік.

*31 жніўня, чацвер*

Біля театральних деячів
Я штанці морально замочів.

Рынак. Пошук скрынак.

*1 верасня, пятніца*
На рынак. Адаслаць цыбулі ў Мінск. Ліст Чыгрынаву.

* * *

Неба касманаўтам, нам — зямля.
А на грэшнай, малагабарытнай
Толькі не хапае месца для
Аднаго мяне, каб хоць упрытай,
Шэпчучы нагодзе: выручай,
Адчуваць яе рукі адчай.

*Ялта*

*4 верасня, панядзелак*
Ляту над Херсонам. Шукаю, дзе высокія дрэвы і курган. Зелянеюць сады. Травы, па ідзеі, павінны быць скошаны. Кургана не відаць. Думаю, наколькі вышэй думкамі і зрокавымі вобразамі лёталі Пушкін, Купала, Шаўчэнка, ездзячы на тройках, валах, чым мы зараз са звышгукавых, кукурузнікаў бачым.

Херсонская вобласць па велічыне 5–6-я. Без Херсонскай вобласці няма ўкраінскага мільярда. Ад Херсанеса. Украінскі корань *корсань.*Тэкстыльны камбінат, 16 тыс. жанчын [працуе]. 70 % не замужам. 800 — маці-адзіночкі. Галоўны паказчык — хлеб. Вывесці вобласць да 400 млн тон. Ёсць рыс. Вінаградарства. Херсоншчына славіцца кавунамі, пад назвай «мелітопальскі». Выведзены тут у Вайсковай слабадзе, а сплаўлялі ў Мелітопаль.

Пачалі пераглядаць так званыя перспектыўныя і неперспектыўныя сёлы. 18 тысяч 900 цэнтнераў зерня з братам Віктарам намалаціла 20-гадовая Таццяна Стрыжак. Сёлета 21 тысячу цэнтнераў намалаціла. 2 мая нарадзіла і праз два месяцы села на камбайн. Сабірала хлеб са сваім сынам Андрэем.

Дм. Патарсан пра паездку ў Амерыку. Пытаю, як ведае мову. «Пісаць вершы не магу, а гавару адносна добра. Не ведаючы мовы, няма чаго ехаць у Амерыку, бо гавораць адначасова разам чалавек 50, кожны нешта сваё. Як лес гаворыць, кожнае дрэва. Стрыечную бабку [шукаў]. У Афры-

цы вачмі сустракаўся з Мабуту[1]. Шукаю сваю кроў. Недзе на Антыльскіх астравах».

*5 верасня, аўторак*

*Херсон.* Завод напаўправаднікоў. У сталоўцы 50 капеек абед. Лічыць пылінкі ў кубаметры паветра. Калі добры рабочы, праз 6–7 год кватэру атрымае. Апошняя субота «чорная» — рабочая. 7.20 пачатак і ў 16 роўна заканчваецца працоўны дзень. «Чорная» субота апошняя ў тыдні, набягаюць мінуты. Рабочы 45 % прэміі і штомесяц, а іншым — 50 %. За сцяг яшчэ, за класнае месца з фондаў матэрыяльнага заахвочвання.

Калгас імя Кірава, сяло *Чарнабаеўка*. Старшыня Герой Сацыялістычнай Працы — Маторны Дзмітрый Канстанцінавіч (у касмічны век даводзіцца быць маторным, бо зоркі на грудзі не падаюць). Верш свой чытаў. Напэўна, Братану тут папаўняць СП (аддзяленне Херсона). На вечары спяваў «Белоруссия — молодость моя».

[Аўтограф верша «Пастух» Анатолія Брагіна[2], з прыпіскай:] «Рыгору Бародуліну. На всё лучшее. *А. Брагин*».

*6 верасня, серада*

*Асканія-Нова*. Чаплынскі раён. Чаплынка ў 17 [ст.] на чумацкім шляху. Зерне-мяса-малочная прамысловасць. Дамы для перасяленцаў і механізатараў. 500 сямей наладзілі наваселле. Інстытут з 1930 года. 4 дактары навук, 65 кандыдатаў, селекцыя і развядзенне авечак. Асканійская парода авечак. Украінска-беларуская парода, стэпавая парода свіней. Галоўным інстытутам па ўсіх чырвоных пародах жывёлы.

Запаведнік [утвораны] 1 красавіка 1919 года. Скрыжаванне хатніх [жывёл] з дзікімі. 11 тысяч га стэпу ў натуральным выглядзе, адзіная [тэрыторыя] ў Еўропе. 15 тысяч авечак, 10 тыс. свіней, 6,5 тыс. буйнарагатай жывёлы, мільён пудоў хлеба дзяржаве. Куланы — адшэльнікі, бізоны — адшэльнікі, важакі адбілі ад статка.

Паўлін прыйшоў з працы, а жонка расфуфыраная. «А я павінен такісці?» І шум падняўся. «Забірай тады ты, а я так застануся, і засталася шэрай».

Скіфскія бабы. Акамянелі, бо няма мужчын ці чакаюць скіфаў[3].

Едзем. Стэпавы курган. Палівачная машына, як страказа, дрыжыць дажджавымі крыламі. Таполі на фоне курганоў, як арган зялёны. Даж-

---

[1] Мабуту Сесе Сека (да 1972 г. Мабуту Жазеф Дэзірэ; 1930–1997). Пасля дзяржаўнага перавароту ў 1965 г. стаў прэзідэнтам Дэмакратычнай Рэспублікі Конга і ўсталяваў у краіне жорсткі дыктатарскі рэжым.

[2] Брагін Анатолій Іванавіч (1935–2006), рускі паэт.

[3] Гл.: Скіфскія бабы (19.02.79, Дубулты) // Вечалле. С. 113.

джавалкі стракозамі на ўзлёце. І чайкі белымі варонамі ідуць услед за баразной, за плугам, а побач гракі асабліва чорныя[1].

*7 верасня, чацвер*

*г. Скадоўск.* Раніца ў гасцініцы, без вешалак, шклянак, буфет без гарачай вады, сподачкаў, талерак, відэльцаў.

РКП[2], 40 тысяч [насельніцтва] раён. 20 — у самім горадзе. Проста перад гасцініцай нарыхтоўваюць пясок і прадаюць за 1 р. 25 кап. тона. Замест таго каб зрабіць нармальную зону адпачынку.

Рыбалавецкі калгас ловіць камку́ — траву для набіўкі матрасаў.

100 тысяч авечак. 1100 зарэгістраваных стрэльбаў і адзін заяц.

Саўгас, сяло *Краснае.* Скадоўскі раён, с. Краснае, Краснянская СШ. Паслаць кнігі. Сяло Антонаўка. Саўгас-тэхнікум.

Ленч: «Среди моих знакомых собак я знаю отличных зубоскалов». Пытанне Булату Акуджаве: «Як вы шукаеце матэрыял для сваіх вершаў?» — «Матэрыялу не шукаю, ён у мяне вось тут (у сэрцы). Пра тое, што мяне хвалюе».

Запіска Г. Горыну[3] (пасля таго, як прачытаў вясёлае апавяданне). «Я толькі прачытаў вясёлае апавяданне (засмяяўся і запнуўся); ну, калі вы лічыце, што я тое чытаў нешта жалобнае, то прачытаю яшчэ. Мы так стаміліся, што не разумею. Тым болей што я сам не разумею, што кажу».

Застолле ў селгастэхнікуме. Тосты. Булат Акуджава: «Я ведаю, што ў вас клопатаў і праблем шмат. П’ю, каб у вас праблем было болей, бо як скончацца праблемы, скончыцца і жыццё».

[Аўтограф верша-пародыі «***Я славянин!» на Льва Кондырава[4].]

* * *

Я славянин!
В глазах сверкают искры.
Я славянин!
Клокочет горло в визге.
Я славянин,
Сомнений в этом нет.
Я русский!
Гений!
Кондырев!

---

[1] Гл.: Званы кавуноў (21.02.79, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 32. Верш прысвечаны М. Братану.

[2] РКП — раённы камітэт партыі.

[3] Горын Грыгорый Ізраілевіч (сапр. Офштэйн; 1940–2000), рускі пісьменнік-сатырык, драматург, сцэнарыст.

[4] Кондыраў Леў Мікалаевіч (1910–2002), рускі паэт-песеннік.

Поэт.
Я тёзка самого Толстого.
И от народа это не таю.
Творю я нечто из пустого.
В порожнее рифмую…
Издаю…

*[Подпіс нечытэльны]*

*8 верасня, пятніца*

[*г.*] *Голая Прыстань*. 58 тысяч насельніцтва, 41 [тыс.] — сельскага, да 16 [тыс.] — гарадскога. 15 саўгасаў, 5 калгасаў, 1 рыбкалгас. Займаюцца аблясеннем, а мы — аблысеннем зямлі. Тут арашэнне, а ў нас — меліярацыя. Каб не выйшла, што давядзецца па вопыт ехаць, як аблясіць і як арасіць былое балота.

Раён — радзіма 28-мі Герояў вайны і працы. Некалькі двойчы: Брага, Жолабаў-касманаўт[1].

Спачатку казацкі Голы Перавоз (прычал) [назвалі, [потым] Голая Прыстань. Нічога не было. Тэлефаністка [вызывае]: «Я Голая, я Голая…» Дайце адзін білет на распранутую…

Са сваіх участкаў раннюю гародніну [вязуць] на рынак. Раней супрац. [?], а цяпер на месцы купляець дзяржава.

*с. Гладкаўка* Голапрыстанскага раёна. СШ № 1. [Паслаць] кнігі. Вуліца 18 км, дзве школы.

Прыся́жная акацыя, мачтавая акацыя. Прысяжны Міхаіл Паўлавіч — Герой Сацыялістычнай Працы.

Акрам-бей[2] пад чарачкай: «Ты, як пшаніца…»

[Адрасы:] Херсонская вобл., г. Голая Прыстань, вул. К. Маркса, 96–16. Анатолю Рыгоравічу Ліпе (Ліпа); Баранец Аляксандр Васілевіч, рэдактар «Заповіти Леніна»; г. Голая Пристань, ул. Набережная, 48. Тиль Николай Яковлевич; Херсон, вул. 295 Стралковая дывізія, д. 7, кв. 105. Анатоль, Людміла, Яраслаў (сын, 7 год) Кічынскія; г. Херсон, вул. Горкага, 5, СПУ; г. Херсон, Бялінскага, 24, кв. 15. Цітрон Аляксандр Абрамавіч.

*9 верасня, субота*

Херсон. Школа № 31. Педінстытут імя Н. К. Крупскай. Булат Акуджава спявае, чытае вершы, адказвае на пытанні. З настаўнікаў [лічыць Аку-

---

[1] Жолабаў Віталій Міхайлавіч (н. 1937), лётчык-касманаўт СССР (1976). Герой Савецкага Саюза (1976). Украінскі палітык.

[2] Айліслі Акрам (сапр. Наібаў-Айліслі Акрам Наджаф аглы; н. 1937), азербайджанскі празаік і драматург.

джава] у прозе — Гофман[1], Талстой, Пушкін. У паэзіі — Пушкін, Пастарнак, крыху Забалоцкі.

Шукруло[2] — навела пра веер. Як вораг народа сядзеў.

Напалеон называў прадчуванне «вачыма душы».

*12 верасня, аўторак*

10–11.00 — гасцініца «Мінск», Галіна Уладзіміраўна[3] 29-22-72 ([пакой] 552).

*17 верасня, нядзеля*

Стрыжонак Мікола Барысавіч, дачка Наташа. Кніжкі падпісаць.

*18 верасня, панядзелак*

На працу. 13.30 — да Пятра Усцінавіча [Броўкі].

*19 верасня, аўторак*

У «Бярозку». Звон Аўрамчыку, Круку.

*20 верасня, серада*

У клініку пазваніць. 19.00 — на вялюгінскі фільм.

*21 верасня, чацвер*

Да Ан. Шаўні. 19.00 — вечар кіно Вялюгіна.

*25 верасня, панядзелак*

На працу. У «Маладосць» — фота забраць.

*26 верасня, аўторак*

На працу — зборнік Лось. Звон Бурсаву, Навуму [Кісліку].

*27 верасня, серада*

10.00 — Цвяткоў.

*28 верасня, чацвер*

17.50 — партшкола — выступіць.

---

[1] Гофман (Хофман) Эрнст Тэадор Амадэй (1776–1822), нямецкі пісьменнік, кампазітар, мастак.

[2] Шукрулло (сапр. Юсупаў Шукрулло; н. 1921), узбекскі паэт. Народны паэт УзбССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Узбекістана імя А. Наваі (1991).

[3] Грыбоўская Г. У., супрацоўніца «Литературнай газеты».

*29 верасня, пятніца*
16.00 — Міністэрства культуры. Шаўчук Мікалай Панцеляймонавіч.

*2 кастрычніка, панядзелак*
На працу. Звон у Маскву. Білеты ў Кіеў. Броўку (Кіслік).

*3 кастрычніка, аўторак*
На працу. Дублікаты Лось. Да Броўкі (дамоў).

4 кастрычніка, серада
Здаць І том Лось, зрабіць другі[1]. Звон Бурсаву. Да Броўкі.

*5 кастрычніка, чацвер*
Звон Навуму [Кісліку], звон Броўку. На дублікаты — Броўку. У лес.

*** У Каралішчавічах адпачывае бабка. Звоніць, нібы баючыся, дамоў дачцы (баючыся апарата). На блытанай мове, з добрым усходнім вымаўленнем. І раптам пагаворка: у чорта спіна сцёрта, а ў нашага брата не пачата.

*6 кастрычніка, пятніца*
Звон у Мінск (Валі, Кляўко). Перадрук з блакнотаў.

Рэйс 8721, 6 кастрычніка 10.30.

*7 кастрычніка, субота*
Прыезд Вані [Бурсава]. Растармажэнне.

*9 кастрычніка, панядзелак*
У Мінск. На працу, на радыё. Звон Зуёнку, Грачанікаву. Узяць: «Паэты Ленінграда», блакноты, цукар, нож. Пячэнне — Ваню [Бурсаву].

*10 кастрычніка, аўторак*
9.00 — ад’езд з тэле, у лес, (да Яшы [Серпера]).

*11 кастрычніка, серада*
У Мінск (вершы для «Молодой гвардии»).

*12 кастрычніка, чацвер*
16.00 — выстаўка Латвіі. [Газ.] «Рабочая смена» (2,5 с.). 23-15-35, Абутковая, 72.

---

[1] Лось Е. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1979.

*13 кастрычніка, пятніца*
10.00 — радыё (запіс). 12.00 — у дырэктара.

*17 кастрычніка, аўторак*
На працу! Здаць на дублікаты. Да Броўкі.

*19 кастрычніка, чацвер*
У Мінск. У Бараўляны. У лес — назад.

*20 кастрычніка, пятніца*
Пра Андрэя [Вазнясенскага]!
Аддаць на машынку рукапіс. Аддаць Някляеву вершы.

*21 кастрычніка, субота*
Перакласці казку Вані [Бурсава].

*23 кастрычніка, панядзелак*
У Мінск. Выдавецтва. Шапку, безрукаўку.

*24 кастрычніка, аўторак*
Мінск. Выдавецтва «Беларусь». Звон у СП. Лес. Вершы — Вялюгіну.

*25 кастрычніка, серада*
Пераклады Андрэя [Вазнясенскага]. Някляеву — артыкул.

*26 кастрычніка, чацвер*
Пераклады. Звон у Мінск. Вечарам з Ванем [Бурсавым] у Мінск; у майстра штаны. Узяць руска-беларускі слоўнік.

*27 кастрычніка, пятніца*
Праца. Да Валі ў «БелСЭ», у «Беларусь». Дамоў. У «БелСЭ». У — лес!

*28 кастрычніка, субота*
Вычытаць рукапіс для «Молодой гвардии». 6.00 — у Мінск.

*29 кастрычніка, нядзеля*
6.00 — у Маскву Ваню [Бурсава] праводзіць. Свае вершы аддрукаваць.
[Аўт.] № 35, 51. 3 пад., л[іфт]., 5 пав. Карбышава, 11.

*30 кастрычніка, панядзелак*
Дабіць рукапіс Чэрні. Верамейчык, звон Смольскаму.

*31 кастрычніка, аўторак*

[Гас.] «Юбілейная», № 408. Верамейчык, Смольскі, Грачанікаў, Кляўко, Броўка.

*1 лістапада, серада*

На машынку гумар Чэрні. Да Броўкі (Шах [Шахавец]).

*2 лістапада, чацвер*

На працу (Прагін — фота Броўкі), зарплата. Звон (уступ Бурсаву).

*3 лістапада, пятніца*

Звон Ваню [Бурсаву]. Верш Броўку, Зуёнку, Ваню, на радыё. 10.00 — чакаць званка Броўкі. Узяць урэзку ў Жэні [Янішчыц]. Рэкамендацыю Шавелю.

*Аляксандру Капусціну*[1]

Хоць будзе памылка дапушчана,
Прашу прабачэння ў граматыкі,
Бо на Аляксандра Капусціна
Дакладнае рыфмы няма такі.
Няхай Аляксандру Пятровічу
Здаровіцца і настроіцца,
Бадзёрыцца і не стоміцца
І ў выдавецтвах шматтоміцца!

*4 лістапада, субота*

Харкоў 25-62-33. Кавалёву — тэлеграму.

*6 лістапада, панядзелак*

*Няўжо была гэтая ранняя восень? Клён з першай прозалаццю. Дняпро ў самым шырокім сваім варыянце. Воды, як у першы дзень пасля стварэння свету. Цудоўны Дняпро праз вашую завушніцу. І хочацца працягнуць Дняпро праз вашую завушніцу, як блакітную хустачку[2].

*9 лістапада, чацвер*

У Мінск. Тэлеграму Андрэю [Вазнясенскаму]. На радыё, у Міністэрства культуры.

---

[1] Капусцін Аляксандр Пятровіч (1924–1996), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1974–1980 гг. нам. галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва».

[2] Гл.: Дняпро праз Вашу завушніцу... (6.11.78, Каралішчавічы) // Вечалле. С. 112. Верш прысвечаны А. Цюцюннік. Цюцюннік Ала Мікалаеўна (н. 1949), украінская паэтэса.

*11 лістапада, субота*

* * *

Сухое дрэва паскрыпвае,
Як шыбеніца,
Як пратэз.
*Post skriptum:*
Лес,
Ні на што не зважаючы,
Расце як пратэст.

*14 лістапада, аўторак*
14.00 — «Мутнае вока». Шабан.

*17 лістапада, пятніца*
80 год Мікалаю Іванавічу Аляксееву[1]. Мінск, 34, Фрунзе, 5. СП.

*20 лістапада, панядзелак*
Жэні [Янішчыц] дзень нараджэння.

*24 лістапада, пятніца*
Чэмбарову звон[2] — Хаям[3], 34-30-23. Віншаванне Шаха [Шахаўца[4]].

*25 лістапада, субота*
Звон Смольскаму. 16.00 — да Броўкі. 18.30 — Утораў[5] Б. П. 66-45-45.
*** [Паметы-«тлумачэнні» да куплетаў[6].]

---

[1] Аляксееў Мікалай Іванавіч (1898–1985), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

[2] Чамбарысаў Валерый Яўгеньевіч, знаўца іранскіх моваў.

[3] Амар Хаям Гіясаддзін (каля 1048 — пасля 1122), персідскі і таджыкскі паэт, матэматык, філосаф. Амар Хаям. Рубаі. Мінск, 1989. Пер. Р. Барадуліна; уклад. і даслоўнікі В. Чамбарысава.

[4] Гл.: Уладзімер Шахавец // Дуліна ад Барадуліна. С. 12.

[5] Утораў (Втораў) Барыс Пятровіч (1932–2006), рускі і беларускі рэжысёр. У 1977–1981 і 1984 гг. рэжысёр-пастаноўшчык Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра.

[6] Да новай рэдакцыі спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Ажаніцца не журыцца», створанага паводле вадэвіляў «Міхалка» Братоў Далецкіх і «Мікітаў лапаць» М. Чарота. Іваноўскі Вацлаў Леанардавіч (псеўд. Браты Далецкія; 1880–1943), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар тэхнічных навук. Чарот Міхась (сапр. Кудзелька Міхаіл Сямёнавіч; 1896–1937), беларускі паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны. Гл.: Усмешкі-перасмешкі (1979) // Амплітуда смеласці. С. 171.

1) Куплеты Язэпа: Атрымлівае тэлеграму, пяе. Прыедзе жаніх, пакладу ўсе сілы, каб не адштурхнуць. Ёсць сувязі, блат, і куплю зяцька. Як ветрык па лужах, каб для Адэлькі мужа, я яго прасуну. 2–3 слупкі. 2) Куплеты Юлькі: Пусціце мяне ў Мінск, пусціце Дуньку ў Еўропу. Там кавалеры, там афіцэры. Пад нэпманаўскія і шмоткі. Учарнелыя ад страсці, ад чарніла і ад страсці. 3) Дуэт Юлькі і Міхалкі: Паедзем разам у Мінск. Мы паедзем, мы памчымся. Пакіньце, я вас не разумею. Думае, што бярэ прыслугай. Яна яго расцвяліла. Па 2 куплеты. 4) Куплеты Міхалкі, Юлькі і Мікіты: Мікіта лезе цалавацца. «Я не такая, пакіньце мяне, мне трэба ў сад», — а Мікіта, назіраючы, сказаць: «Што дурыш галаву?» — «Не твая справа, ідзі ў вёску да сваёй Зоські». 5) Раманс Адэлі: Яна яго забаўляе. Любоўны, а выражаны ўльтрасучаснымі сродкамі. Тарывердзіеў[1] і прага кахання. Імёны і Караткевіч. 6) Песня Міхалкі: Кантрастная песня. Калі даведваецца, што яму трэба жаніцца. Людзі жэняцца, драматычная, і асабістая, і грамадская тэма. Трэба рэфрэн на кожнага. 7) Куплеты. Скандал: Трыо — Міхалка, Язэп, Адэля. Язэп: «У мяне пракурор, у газету, засаджу ў турму. Знаёмы пракурор». Міхалка: «Я газет не чытаю. Вас не баюся». Адэля: «Татка, пакіньце, за вахлака не хачу». Адна народная песня лірычная. Калі Язэп корміць абедам. Наладжвае рэстаран. Прыводзіць хор (з прыслугі). Чыстай пародыяй на «Песняроў», накшталт «Белый аист летит…»

1) Народная вясёлая, жартаўлівая песня, дзе скачуць, весяляцца. Частушкі, жартушкі. Чыста народная. 2) Другая песня на заручынах Зоські і Саўкі («Як заручалі, тады казалі…»). 3) Куплеты Саўкі: «Эх, гэтыя старыя нас не разумеюць, а самі чорт ведае што рабілі». Канкрэтна, як любілі, як кахалі, непасрэдны зварот да гледачоў. 4) Куплеты. Паклёп: Дар'я: «Таму шапну, таму намёк, таму ляпну, і ты ў мяне паскачаш». 5) Паклёп: «З суседзямі лепей жыць у міры. Ён цябе аблаіў, а ты папрасі прабачэння. Ён на гармоні, а ты падушку на вушы, а ты маўчы, бо іначай паклёп (падкоп)». 6) Куплеты — скандал Грыпіны і Дар'і. Нос у свой гарод не саваць, чужой свінні не дам, я лужына (ах ты недалужана). 7) Куплет Зоські і Саўкі. Народная песня.

*27 лістапада, панядзелак*

19.00 — вечар Чарнабаева[2].

*** Здзіўляюся, як ён помніць столькі слоў? Мала таго што ён заўсёды быў гатоў. Ён днём і ноччу гарыць! Ідучы адзін аднаму насустрач, яны стваралі спектакль (з рэжысёрам).

---

[1] Тарывердзіеў Мікаэл Лявонавіч (1931–1996), расійскі кампазітар. Народны артыст РСФСР (1986). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1977), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977).

[2] Чарнабаеў Віктар Максімавіч (н. 1930), беларускі спявак. Народны артыст БССР (1964). З 1958 г. саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

Вечар Чарнабаева. Вядучая: «Верш Курачкіна[1] ў перакладзе Беранжэ[2]. «Тарас на Парнасе»[3] па матывах Якуба Коласа. Два вобразы ў чарвяку».

*28 лістапада, аўторак*

10.00 — Ставер[4] на працы (рукапіс). 11.00 — Міхаіл Казіцкі.

*29 лістапада, серада*

14.00 — журфак (Маякоўскага, 15. Вераніка Козел).

*2 снежня, субота*

12.00 — журфак, аўдыторыя 1, ІІІ курс. Маякоўскага, 15.

*3 снежня, нядзеля*

Пасланць Хелемскаму кнігі Аркадзя Куляшова, Ваню [Бурсаву] — ІІ том «Слоўніка».

*4 снежня, панядзелак*

На працу. У «Полымя». Карэктура.

*5 снежня, аўторак*

Праца.

*6 снежня, серада*

Праца. «Мутнае вока» 11.00 — звон Клышку (артыкул для «Дня паэзіі»).

*Леанід Дайнека[5]*

Хоць з юных год для Леаніда
Зарыфмавалася планіда,
Не вынес вершаў моцнай дозы —
І грукаецца ў дзверы прозы.

---

[1] Курачкін Васілій Сцяпанавіч (1831–1875), рускі паэт, журналіст; перакладчык паэзіі П.-Ж. Беранжэ.

[2] Беранжэ П'ер Жан (1780–1857), французскі паэт.

[3] «Тарас на Парнасе», беларуская сатырычна-бурлескная паэма К. Вераніцына (1855). Вераніцын Канстанцін Васілевіч (1834–1904), удзельнік літаратурнага жыцця на Беларусі ў сярэдзіне ХІХ ст.

[4] Ставер Алесь (Аляксандр Сяргеевіч; 1929–1995), беларускі пісьменнік. У 1975–1984 гг. карэспандэнт-арганізатар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

[5] Дайнека Леанід Марцінавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1972–1989 гг. адказны сакратар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

Ён цягавіты, не ляны,
Ды ў прозе смаляць перуны,
Усё ў лірычным перапудзе:
Сюжэт, маланкі, аўтар, людзі…

*1978*

*Георгій Юрчанка*[1]

І зноў за рукаў Георгія
Нясмела пародыя торгае:
— Як гумар цябе уходае,
Зрабі на сябе пародыю.
Не толькі ў чужыя гароды я —
З пароды я гэткай, пародыя!

*7 снежня, чацвер*

Праца. Заўвагі тэхрэдаў. Друкарня [«Звязда»] 66-24-09, Багдановіч. Карэктарская [друкарні «Звязда»] 66-34-12.

*Генадзь Пашкоў*

Усё цікава для Пашкова —
Скрозь мусіць быць абавязкова:
У «Полымі», у Каракумах,
На камсамольскім з'ездзе ў думах.
Такой актыўнасці віна дзе?
«Кляновік»[2] клёпкі рве Генадзю!

*8 снежня, пятніца*

Праца — здаць Бібіцкага[3].
16.00 — Юры Цвяткоў — [кіна]студыя.

*9 снежня, субота*

19.00 — Політэхнічны інстытут.

*10 снежня, нядзеля*

10.00 — да Алега [Маціевіча] на Пензенскую.

---

[1] Юрчанка Георгій Фёдаравіч (н. 1928), беларускі паэт-эпіграміст, крытык, нарысіст, лексіколаг, збіральнік фальклору. У 1962–1988 гг. заг. рэдакцыі літаратуры, мовы і мастацтва, затым рэдакцыі філалогіі выд-ва «Навука і тэхніка».

[2] Пашкоў Г. Кляновік. Мінск, 1975.

[3] Бібіцкі Алесь (Аляксандр Іванавіч; 1931–2006), беларускі паэт; настаўнік. З 1952 г. дырэктар СШ на Палессі.

*11 снежня, панядзелак*

У «Полымя».

*12 снежня, аўторак*

33-27-32 [Пётр] Васілеўскі. 18.00 — на Кірэенку.

* *Пімен Панчанка*. На банкеце ў СП К. Кірэенкі прамоўца адзін жадае абрастаць сябрамі.

— Не абрастай сябрамі — прададуць.

Выступае адзін красунчык (новы рэдактар часопіса):

— Чаму так у прыродзе, што ўнутрана прыгожы чалавек знешне амаль пачварнае ўвасабленне. Напрыклад, Расул [Гамзатаў].

(Немцы, бачыце, рус]ішэ] шва]йн]?) Недзе і пра сябе перажывае за сваю далёка не дасканалую вонкавасць. Хоць мне Пімен вельмі сімпатычны і вонкава.

*13 снежня, серада*

Звон Залатухінай.

*14 снежня, чацвер*

Выдавецтва. Ганчароў. Падарункі. 14.00 — Аб'яднаны пленум (СП).

*15 снежня, пятніца*

Князь [Краўчанка]. Украінскае радыё. 15.00 — № 534 ([гас.] «Мінск»), 29-22-54, Анатоль Міхайлавіч. 19.00 — вечар мой у Тэхналагічным інстытуце.

*16 снежня, субота*

15.20 — ля ДК (у воінскай часці выступаць).

*17 снежня, нядзеля*

У змесце: стар. 82 — *Тáраса*, стар. 103 эпіграф, подпіс *Жюль Ренар*[1], стар. 163 — першы радок *Смерть* Кащеева[2].

*18 снежня, панядзелак*

14.30 — рэдкалегія «Полымя». 17.00 — інстытут педагогікі, Абуткова, 16 (выступленне).

*19 снежня, аўторак*

Праца. Ад'езд на Маскву.

---

[1] Рэнар Жуль (1864–1910), французскі пісьменнік.

[2] Праўкі ў карэктуры зб. «Озеро у горизонта».

*20 снежня, серада*

*[Масква.]* Гасцініца «Расія». ЦДЛ — вечар.

* «Песняры» — заклінальнікі мікрафонаў. Мулявін сціскае галаву, і цягнецца цела, шнур шэпча, крычыць, заклінае, а зала замірае.

* * *

Не церпіць Пегас капытоў непадкутых,
Вясёлая кпіна ўсміхаецца скрусе.
Няхай на нурэкскіх плацінах славутых
Паселіцца шумны Парнас Беларусі.
Па прапанове Сяргея Баруздзіна[1]
У шлях выпраўляюся, не марудзячы.

*1978*

*У новай якасці*

Пан лёс глядзіць
Вясёлымі вачыма
На званнямі,
На торбамі абвешаных.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Былі паплечнікамі
З дужымі плячыма,
Паплешнікамі сталі
Па праплешынах…

*21 снежня, чацвер*

*[Масква.]* Звон Элькіну ў «Литературную газету». Звон Бурсаву. Да Бурсава. 17.00 — ад'езд на Рыгу.

*** Ветракі — пасрэднікі паміж небам і зямлёй. Каб не было — іх выдумалі б (для донкіхоцтва).

Па дарозе з Масквы ў Рыгу. У гадах дзядзька, з ім малады рабклас, тут жа закусь. Пляшкі з металу (каб можна было красці спірт з завода). А наогул, увесь вагон турысты. Аднаго частуюць: «У нас спірту многа, грошы шмат, мы ж у камандзіроўку, нам для плана завода дастаць дэталь трэба». Раніцай зноў пахмяляюцца: «За поспех нашай справы».

*На заводзе оптыкі*. Адпускалі паўлітра спірту на колькі месяцаў для праціраннія станкоў. Рабклас: «Навошта праціраць спіртам? Вып'еш, дыхнеш — і праціраў, станок як новы, толькі можа хістануцца».

---

[1] Баруздзін Сяргей Аляксеевіч (1926–1991), рускі пісьменнік. У 1966–1991 гг. гал. рэдактар час. «Дружба народов».

*Сябра*. У цэху стаіць стары паравоз, кіпяціць ваду. П'яны ў дым падыходзіць: «Завязі мяне дамоў, на́ 15 бабак».

Дамоў прыходзіць ледзь жывы й жонцы: «Скінь з мяне Лёшку». Жонка: «Якога Лёшку?» Муж: «А, значыць мянты забралі». Ён колькі вёрст яшчэ болей п'янага сябра на плячах [валок].

*Адпачынак.* Адзін дужа худы, дужа п'яны прыйшоў дамоў, жонкі няма, схаваўся пад канапу. Уночы прыснілася, што яго забіваюць у труне. Прачхнуўся — сапраўды ў труне. Роў на ўвесь пад'езд. Збегліся ўсе суседзі, ледзь выцягнулі.

*22 снежня, пятніца*

*Рыга.* ДТ імя Яна Райніса. Музей Райніса. Звон дамоў.

*** Упіт[1] пра «Жыццё Кліма Самгіна»[2]: «Млын балбатуноў, калі нарэшце гэтыя абібокі пачнуць нешта рабіць?»

*23 снежня, субота*

10.00 — пачатак нарады. Гром Аляксандр 28-98-12. Стулпан 32-21-67 (6 палата).

*** *Раальд Дабравенскі*[3]: «Сучасная латышская паэзія квітнее. Росквіт нагадвае толькі пачатак XX ст. У 1905 годзе дасталося Чырвонай Прэсні і Латвіі. Сучасная халаднаватая, разважлівая, бярэ шмат вонкава ад еўрапейскай паэзіі, на самай справе не халаднаватая. Фіны сказалі: «Латышы такі тэмпераментны народ».

Усе латышскія паэты, апрача Райніса, дзеці сялян. Класік казаў: «Памойму, латышам рыфмаваць не варта, варта звярнуцца да дайны». Ці шмат паэтэс Масквы могуць падаіць карову? І паэты кожны ведае, за што правесці каня ўздоўж баразны.

Перакладаецца шмат, але на ўзроўні сярэдняй паэзіі, гэта ідзе ад багацця. Нават добрыя паэты перакладаюць не тое, што напісана, гучанне. Парадкоўнікі з арыгіналам. Падчас не перакладаецца ні паэт, ні верш, а толькі радок. У нанайцаў 40 назваў снегу.

Ояр Вацыецiс — паэт універсальнага даравання (талент), ён адказвае за ўсё, што ёсць у сучаснай латышскай паэзіі. Многія ягоныя думкі пасяліліся ў іншых. Паэзія ягоная не хоча ўказваць перстом, а хоча сама вучыцца.

---

[1] Упіт Андрэй (1877–1970), латышскі пісьменнік, літаратуразнавец, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік ЛатвССР (1943). Акадэмік АН ЛатвССР (1946). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[2] Раман М. Горкага.

[3] Дабравенскі Раальд Грыгор'евіч (н. 1936), рускі паэт, празаік, перакладчык. Латвійскі журналіст.

У такой паэзіі, як латышская, пераклад — прысуд, які не мае права на скаргу. Ёсць выпадак, калі перакладчык адышоў ад парадкоўніка і наблізіўся да арыгінала. Сярэдніх вершаў у Ояра няма. А ў перакладах іх шмат.

З Аспазіяй[1] у латышскую паэзію прыйшла душа.

Імант Зіедоніс — яго перакладаюць толькі лепшае. Любіць парадокс, перавёртышы, крайнасці. Імант Зіедоніс — самы злы і цвярозы рамантык і самы патрабавальны.

Калі да 40-гадовых дадаецца эпітэт «маладыя», то да тых, хто за імі, нічога зусім не дадаецца.

Тыраж 33 [тыс.] Ояра і 16 [тыс.] — звычайны — непараўнальна вялікія. Дэтэктывы ляжаць на паліцах 2 гады, а паэзія знікае».

*Секцыя паэзіі*

*Сяргей Жураўлёў*[2]: «Хадзячыя міфы часцей, чым самі аўтары. Усе латышскія паэты перакладаюць. Рацыяналістычная дакладнасць мовы перакладаў на рускую мову — Неўскі[3], Раждзественскі[4], Мартынаў[5]. У сярэдзіне 70-х гадоў уздым перакладаў: Азарава[6], Жданава[7], Чаравічнікі[8] (ён і яна). Прагрэс інтанацыйнай выразнасці. У паэзіі інтанацыя — вялікае мастацтва.

Трэба мастацкая завершанасць. Не заўсёды трэба памяншальны суфікс пры перакладзе з латышскай на рускую мову. Трэба ўлавіць сутнасць арыгінала, каб не дапускаць выпадковасці. Трэба не дух арыгінала (гэта адцягнена), а мастацкасць арыгінала. Метад Жукоўскага: у сваім настроі, ключы. Эквівалент філасофскай глыбіні, эстэтычнай дасканаласці. Графічнае аблічча верша, графічны малюнак. Мастацкая адэкватнасць заснавана на філалагічнай падрыхтоўцы, на таленце перакладчыка».

*Ілья Фанякоў*: «Даклад Раальда быў сказаны на мове любві да прадмета размовы. Добры пераклад — дзіва яшчэ больш рэдкае. Як добры верш.

---

[1] Аспазія (сапр. Розенберг Эльза; 1868–1943), латышская паэтэса і драматург. Жонка Я. Райніса.

[2] Жураўлёў Сяргей, рускі перакладчык.

[3] Неўскі В., рускі перакладчык.

[4] Раждзественскі Роберт Іванавіч (1932–1994), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1979).

[5] Мартынаў Леанід Мікалаевіч (1905–1980), рускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі РСФСР імя М. Горкага (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974).

[6] Азарава Людміла (сапр. Ваціеце Людміла Цімафееўна; 1935–2012), руская паэтэса, перакладчыца.

[7] Жданава Лідзія Уладзіміраўна (1938–1995), руская паэтэса, перакладчыца.

[8] Чаравічнік Леанід Канстанцінавіч (1937–2001), рускі паэт, перакладчык. Чаравічнік Ірына Іванаўна (н. 1942), руская перакладчыца.

Для добрага верша ўспышка духа, то для пераклада трэба дзве [успышкі]. Дзіва запланаваць немагчыма.

Пераклады на рускую мову павінны канкурыраваць з лепшымі ўзорамі рускай паэзіі. У перакладчыцкай дзейнасці дылетантызм недапусцім. Не ўяўляю сабе перакладчыкам Ясеніна.

Цяжка было знайсці вершы без прастрэлаў. На грани допустимого, на грани позволительного. Вещные стихи».

*Сямён Бацвіннік*[1]: «Неадпаведнасць моўная, калі ўзнікаюць рэаліі быта, дарагія для латыша, цяжка ў рускай мове знайсці».

*Анатал Імерманіс*[2]: «Нізкая якасць парадкоўнікаў. Вечная спрэчка тых, хто з арыгінала [перакладае] і хто з парадкоўніка. Каханне з першага пагляду, з другога, з трэцяга. Хто ведае арыгінал, упадае ў грэх залішняй дакладнасці».

*Людэнс*[3]: «Знайсці культурныя масты між народамі, узнаўленне (воссоздание) агульных мастоў між народамі».

[Малюнкі І. Фанякова: Сочинил поэму серый кот. Мышке заказали перевод. Но увы! Издательство признало, что далёк он от оригинала. *23.12.78. Дубулты*.]

*24 снежня, нядзеля*

39-48-07 Вера Сцяпанаўна [Паваліхіна]. Праўкі «Озеро у горизонта». 30 стар. — *улице ушачской*; 35 — *«палата минеров»,* ці 2 [верша] дадаць, ці два адкінуць; 90 — *Щара* (3 радзел 1 радок).

*25 снежня, панядзелак*

ЦК КПЛ. 67 % [насельніцтва] у гарадах, $^1/_3$ у Рызе. Праблема трапіць у тэатр. На 1000 чалавек 900 чалавек наведвання тэатраў, канцэртаў. 700 членаў Саюза мастакоў, больш за 200 — СП, дызайн хутка развіваецца.

**Dubulti*. *Сяргей Залыгін*[4]: «Усе, у прынцыпе, пішам пра адно і тое ж. І зараз важна, як сказана. Важна адценак мовы, мышлення. Пры перакладзе 2 рода памылак:

1) пераклад правільны, а фразеалогія — слабае месца, антымастацкасць перакладу;

2) няправільнае словаўжыванне. Перакладчык павінен адчуваць, наколькі слова ўжываецца ў мове, на якую перакладаецца».

---

[1] Бацвіннік Сямён Вульфавіч (1922–2004), рускі паэт, перакладчык; урач (г. Ленінград).

[2] Імерманіс Анатал (Анатоль; 1914–1998), латышскі пісьменнік, сцэнарыст, кінадраматург, журналіст.

[3] Людэнс Вітаўт (1937–2010), латышскі пісьменнік.

[4] Залыгін Сяргей Паўлавіч (1913–2000), рускі пісьменнік. Акадэмік Расійскай АН (1991). Герой Сацыялістычнай Працы (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1968).

Залыгін пра сваю працу: «У слоўніках слоў не шукаю, калі хоць трошкі сумняваюся, слова не ўжываю, бо гэта ўжо будзе цэгла з чужой кладкі. Ёсць практыка ў ААПе[1] даваць на эспертызу».

*Гунар Прыедэ*: «Мы правяраем, як перакладзены нашы п’есы па-эстонску, па рэакцыі залы. Ці адчуваецца падтэкст, бо проста тэкст перакласці лёгка».

*Аўдоніна*: «Дзіцячая літаратура ствараецца толькі пад моцным націскам выдавецтва. У Латвіі выходзіць 7 кніг у дзень. 190 тыс. [тыраж] часопіс для сельскіх гаспадароў і такім тыражом жаночы. «Ciņa» 220 тыс. [тыраж] з 1904 г., маладзёжная газета 180 тыс.

[Прыкладна] палова прамысловасць, $^1/_3$ сельская гаспадарка. $^1/_3$ ураджая загінула. 100 тыс. гараджан працавала на сяле. Мясцінамі азіміну сеялі з самалёта. Дужа зношаны трактары за адзін год.

Прэпарырваць словы. Кожныя 5 руб. — на будаўніцтва, кожны 5-ты чалавек — на будаўніцтве. 190 тыс. хутароў. Краіна ўвогуле будуе на 15 % больш, чым ЗША. Калі ЗША [лічыць] за 100 % прадукцыйнасць, то ў нас: сельская гаспадарка — 30 %, прамысловасць — 50 %, будаўніцтва — 65 %. Нас не задавальняе танальнасць, з якой размаўляе з намі прамысловасць. У 20 раз меней сінтэтычных матэрыялаў, у 100 — алюмінія будаўніцтва атрымлівае ў нас».

*Старшыня рыбалавецкага калгаса:* «Наша рэспубліка даволі мокрая. Рыбак павінен знайсці рыбу і злавіць яе».

Рымская сасна з Сярэднявечча была вядома, сасна, бяроза, елка — лес Латвіі. Прырост у 2–3 разы. Для росту меліярацыя трэба і дарогі трэба. Людзі не хочуць жыць у лесе».

«З ім дужа сумна піць». *Скажу яму — даўгашыяму.*

Visu labu![2] — Цісну лапу! (Idem daę daina! — перакладчыку дайн). Граза ў лес не йдзець (ушацкае). Гроза (украінскае) — пагроза, грозьба.

*Ліпавецкай*
*(надпіс на «Прынамсі»)*

Хай будзе, Ірына Рувімаўна,
У шчырай Вашай душы
Анёльна і хірувімаўна, —
Жадаю я й латышы.
Хай лёгка перакладаецца!
Хай радасці не галадаецца!

*Снежань*

---

[1] ААП — дакладней, УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.
[2] Visu labu — да пабачэння (*лат.*).

[На першай старонцы «Кішэннага календара» аўтограф за подпісам: *Tēvs Jeronims*[1] *1978 g. Dubulti*.]

*26 снежня, аўторак*

Паэты — галаснікі эпох, іх замуроўвалі і ў мерзлату.

*27 снежня, серада*

На Мінск!

*** Да Броўкі заходжу ў самыя маразы. Чытае грузінскіх рамантыкаў. Размова пра «Вечную пляму».

— А пра паліцэйскіх ніхто не напісаў. Наша крытыка маўчыць, а ўсесаюзная заўважыла.

Наконт «золата» раіўся з дырэктарам банка, сказаў, можна. (А то каб не смяяліся з мяне.)

Паказвае «Звязду» пра вынікі прэміі БССР. Матывіроўка, чаму знялі Куляшова. «Колькі ні казаў Шамякіну, нічога».

*Пятрусь Броўка*

Не паддаваўся Броўка скрусе,
Цаніў натхненне і парыў,
Таму і першы ў Беларусі
Энцыклапедыю стварыў.
Глядзім сягоння ўдзячна мы
На Петрусёвыя тамы.

*[1978]*

М. Хведаровіч: «Броўка як уявіць, што холадна ці дзе стаяць у бронзе, — глыбей пад коўдру».

*(А. N.)* Шкада, што рукі не адрастаюць наноў, як у сада галіны. Я адсек бы сваю руку, што падаваў табе некалі, што трымала руку тваю, падонка і стукача.

*28 снежня, чацвер*

На працу. Ледзеневу[2] 1–2 стар. публіцыстыкі святочнай.

*Пімену Панчанку*

Сакратары штогод гайней[3],
Гнінюць сабе, як літламачча.

---

[1] Бацька Ераніма [Стулпана] (*лат.*).

[2] Ледзенеў Віктар Іванавіч (н. 1941), беларускі журналіст, пісьменнік.

[3] Ад слова «гайня» (*заўв. Р. Барадуліна)*.

За Піменам, як і раней,
Гатоў ісці хоць да Ламанша!

*1978*

*29 снежня, пятніца*

Звон на працу. У магазіны — прадукты.

*Паўлу Кавалёву*
*пад Новы год 1978–1979*

Мой род з Кавалеўшчыны,
Ушацкай зямлі.
Дзе гонгам світання гучала даёнка.
Таму даспадобы мне ўсе кавалі
Ад П. Кавалёва
да У. Кавалёнка!
Ды больш дэталёва,
рупліўца літпрыпара,
Люблю Кавалёва я,
сына Нічыпара.

*Янку Сіпакову*

Пегас пазбіў усе падковы,
Змарыўся не па-чалавечы,
Пакуль зганяў для Сіпакова
Сюжэты ўсіх славян на веча.
Шлях зноў ён праскакаць гатоў,
Што як прыглянуцца паэту
Балады ўсіх народаў свету,
Застанецца без капытоў.

*1978*

*30 снежня, субота*

На працу — забраць свой рукапіс.

*** «Не абрастай сябрамі — прададуць», — засцерагаў з упікай Пімен Панчанка.

Нядрэмнае вока крыніцы.

Авечку заўсёды ў ахвяру.

Імёны каханкаў, як затанулыя караблі, з памяці ўсплываюць.

*31 снежня, нядзеля*

*Дзень добры, Новы год!*

Пад Новы год
згадаць старых знаёмых,
Не абмінуўшы ворагаў старых,
Пабыць наноў на стромах, на паромах…

## Змест

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 2. 1970–1978 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 416 с. [24] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7119-89-9.

У другім выпуску «Дзённікаў і запісаў (1970–1978)» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна сабраны рабочыя штодзённікі, запісы шматлікіх паездак па гарадах і вёсках Беларусі, па рэспубліках Савецкага Саюза, а таксама зацемкі аб пабачаным ў падарожжы ў Фінляндыю, Швецыю і Данію.

У кнігу ўвайшлі вершы, якія не друкаваліся ў зборніках паэта, сяброўскія эпіграмы, вершаваныя прысвячэнні і віншаванні.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**
*Выпуск 2. 1970–1978*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, І. Сляповіч*

Падпісана ў друк 14.10.2015. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Cambria. Ул. выд. 33,7 арк.
Ум.-друк. 15,17 арк. Наклад 250 асобнікаў. Зак. 446.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з’яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг.

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by